

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

Серыя распрацавана
ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі

Заснавана ў 1996 годзе

*Серыя I. Мастацкая літаратура*

Аўтар праекта і галоўны рэдактар
*Кастусь Цвірка*



## З НАРОДАМ ДА БОГА

Гэта была вельмі яркая постаць у грамадскім жыцці Беларусі 10–20-х гадоў мінулага стагоддзя. Актыўны дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння Казімір Сваяк (сапр. Кастусь Стэповіч) меў два пакліканні: святарскае і паэтычнае — абодва цесна спалучаліся ў ім, не пярэчачы, а дапаўняючы і ўзмацняючы адно другое. Ноша гэтых двух пакліканняў была вельмі цяжкай, патрабавала самаахвярнасці і штодзённага падзвіжніцтва. Ён працаваў, не шкадуючы сіл: адпраўляў літургію, удзяляў патрэбныя сакраманты парафіянам, шмат пісаў, быў прапаведнікам і асветнікам роднага народа, арганізатарам культурнага жыцця ў парафіях. Да ксяндза-беларуса гарнуліся людзі, чакаючы ад яго духоўнага правадырства, ажыўляльнай ласкі святарскага і паэтычнага Слова. Як святар ён дбаў аб духоўным адраджэнні роднага народа, адстойваў яго права на беларускамоўную літургію і свой беларускі касцёл. Меў тут паплечнікаў-аднадумцаў, сярод якіх найбліжэйшымі былі сябры-святары Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Язэп Германовіч (Вінцук Адважны), Янка Семашкевіч (Янка Быліна), брат Альбін Стэповіч. Але яшчэ болей было непрыхільнікаў, што чынілі розныя перашкоды яго адраджэнскай дзейнасці і выклікалі на гарачую палеміку ў друку.

Як літаратар Казімір Сваяк быў рознабакова адораным: бліскучым паэтам, публіцыстам, драматургам, празаікам, крытыкам, эсэістам. У ім спалучаліся філосаф і гісторык, ён быў асветнікам у шырокім разуменні гэтага слова. У сваёй грамадскай і літаратурнай дзейнасці ён браў за ўзор славутых папярэднікаў — Францыска Скарыну, Францішка Багушэвіча, падкрэсліваў сваю творчую повязь з сучаснікам Янкам Купалам. У 1924 г. у Вільні была выдадзена адзіная прыжыццёвая паэтычная кніга Сваяка «Мая ліра», укладзеная самім аўтарам. Не лічачы яшчэ некаторых асобных выданняў-брашур (нарыс-пропаведзь «Алкаголь», п’еса «Янка Канцавы», пасмяротна выдадзеныя містэрыя «Купалле» і дзённік «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі»), у цэлым літаратурная спадчына Казіміра Сваяка раскідана па перыёдыцы 1910–1920-х гадоў (пераважна газеты «Беларус», «Беларуская крыніца» ды іншыя). Антон Луцкевіч у свой час, пішучы пра творчасць паэта, выказваў спадзяванне, што «ўся літаратурная спадчына па ім будзе руплівa сабрана і аддадзена грамадзянству — у друкаванай форме». Дадзены том можна лічыць запозненым водгукам на гэтае спадзяванне.

Нарадзіўся Казімір Сваяк (Кастусь Стэповіч) 19 лютага 1890 г. на самым ускрайку паўночна-заходняй Беларусі — у вёсцы Барані цяпер Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці, а тады Свянцянскага павета Віленскай губерні. Шматдзетная, дружная і набожная сям’я з

гаспадарлівымі бацькамі, атачэнне прыгожай у сваім першатворным цудзе прыроды з лясамі-барамі вакол Баранёў і Гаруноў, дзе таксама жыла сям'я, зрабілі на будучага паэта-святара незабыўны ўплыў, сфармавалі чуйную да Абсалюту і Хараства душу, якую ён і прывёз пазней у павятовыя Свянцяны, дзе з 1905 г. працягнуў вучобу ў школе. Тут адбылася першая пераацэнка каштоўнасцяў і сутыкненне з выпрабаваннем бязвер'ем — мітуслівае школьнае жыццё сярод «гарачай і безыдэйнай» моладзі на некаторы час пахіснула добрыя зародкі веры, пасеяныя сям'ёй: «Прывёз я ў места душу чыстую, чуткую, узгадаваную на раллі людовай фантазіі і спеўную, пакорную для Таго, каго ўважала за Найвышшага Пана ўсяго свету», а па часе «рэлігію пачаў уважаць я за нешта фальшывае ў жыцці людскім», — прызнаваўся К. Сваяк у дзённіку «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі». Вызначальным ва ўмацаванні духоўнасці для юнага Кастуся стаў 1906 год, калі ён павольна вяртаўся «да пакінутай малітвы». «Помню дзіўны момант, — пісаў ён. — Я прыехаў у Вільню з дарагім сваім айцом. Зайшліся ў катэдру, бацька дзеля Бога, а я сам не ведаю, дзеля чаго: маліцца я не мог. У капліцы адпраўлялася набажэнства. Колькі асоб з твару, як мне паказалася, інтэлігентных кленчыла ў малітве і размышленні. Асаблівая ціш, кантраст вулічнага шуму, панавала ў святыні. Ад абразоў святых біў нейкі спакой няземскі. На алтары павольна таялі, як бы ў слязах балючых, гарачыя свечкі…» Так тонка і па-мастацку вобразна перадае ён стан душэўнай адкрытасці і чакання нейкага незвычайнага цуду прасвятлення. І яно надыходзіць: «Бацька апусціўся на каленкі і пачаў свае малітвы. Сэрца маё забіла трывогай. Прад вачамі стаяла будучыня неразгаданая, тайнічная. Здалося мне, што лёс мой не толькі ад мяне залежны. Агляд Прадвечны Бога мусіць быць над кожным. Чаго Ён ад мяне жадае?.. Ці Ягоная помач мне не патрэбна?.. Я хацеў высокага зразумення і вялікіх учынкаў. Мысль мая, аднак, спакарнела, відзячы сваю слабасць і зменнасць… Я маліўся». Так у пераадоленні спакусы самадастатковасці адбывалася духоўнае ўзрастанне шаснаццацігадовага юнака, які пачаў рыхтаваць сябе да святарскага сану. З восені 1908 г. ён ужо навучэнец Віленскай духоўнай семінарыі.

На зломе 1912–1913 гг., якраз на сярэдзіне навучання, у Кастуся Стэповіча выяўляюцца пачаткі сухотаў, і ён адпраўляецца на сваё першае лячэнне ў Закапанэ. Прыкладна ў гэты ж час ён адчувае ў сабе паэтычны творчы дар, пачынае пісаць і з 1913 г. друкавацца ў віленскай каталіцкай газеце «Biełarus», абраўшы для сябе псеўданім Казімір Сваяк, якім падкрэсліў сваю непарыўную лучнасць, свойскасць з родным беларускім народам, выразнікам настрояў якога меўся стаць. У 1914 г. закончыў семінарыю, а ў 1915 у Пецярбургу атрымаў святарскае пасвячэнне. Святарскую дзейнасць пачаў вікарыем у Камаях Свянцянскага павета, у старажытным, пабудаваным яшчэ ў XVI ст., касцёле з адзнакамі абарончага дойлідства. Але неўзабаве Сваяк перабіраецца ў любімыя з дзяцінства Клюшчаны, дзе на горцы красаваўся асветлены промнямі сонца зграбны драўляны касцёл з дзвюма высока ўзнятымі

вежамі. Менавіта тут шырока разгарнулася грамадская і рэлігійная дзейнасць паэта, скіраваная ў некалькі рэчышчаў.

Першае было звязана з увядзеннем у касцёле набажэнства на беларускай мове, даступнай для простага люду парафіі. У віленскай беларускай газеце «Гоман», выдаванай падчас нямецкай акупацыі братамі Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім, Цёткай, з'явіліся публікацыі пра адбудову уніі — «спрадвечнай веры нашых бацькоў». Яны моцна закранулі сэрца маладога святара, злучыўшы ў адно непарушнае цэлае веравызнанне і нацыянальную ідэю. Паэт пісаў у дзённіку: «Пад гэтым новым павевам і я ў сваім родным касцёле сказаў 21.XI.15 добрую часць казання роднай гаворкай. Ціш была нямая…» Такім чынам трывала акрэсліліся погляды ксяндза К. Стэповіча, які дбаў аб рэлігійным і нацыянальным аб'яднанні беларускага народа, аб абуджэнні нацыянальнай свядомасці і які пазней напісаў спецыяльныя філасофска-публіцыстычныя трактаты, прысвечаныя царкоўнай уніі, якую найперш ён звязваў з беларускасцю касцёла.

Другі кірунак дзейнасці Сваяка ў клюшчанскай парафіі быў асветніцкі, звязаны з арганізацыяй беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў для іх. З 1916 г. дзякуючы яго намаганням былі адчыненыя, паводле дзённікавага запісу, сем школ, якія існавалі некалькі гадоў. Трэці кірунак дзейнасці Сваяка быў культурны: найперш ён арганізаваў касцельны хор, у якім спяваў сам, маючы тонкі слых і прыгожы голас — тэнар, а таксама часта сам жа і дырыжыраваў. Да маладога святара цягнулася моладзь і менавіта з яе асяроддзя стварыўся нелегальны гурток — «Хаўрус сваякоў», рэха славы якога лунае на Астравеччыне і па гэты дзень. Ладзіліся спеўкі хору, літаратурныя вечарыны, рыхтаваліся тэатральна-мастацкія пастаноўкі, для якіх Сваяк напісаў п'есу «Праклённае зелле», пазней названую «Янка Канцавы». Важным сведчаннем культурна-асветніцкай актыўнасці святара Стэповіча ў клюшчанскай парафіі з'яўляецца і тое, што менавіта ў Клюшчанах адбылася першая заходнебеларуская імпрэза з пастаноўкай «Паўлінкі» Янкі Купалы і ўдзелам у ёй, па ўспамінах сучаснікаў, самога аўтара.

Актыўная дзейнасць К. Сваяка па беларусізацыі Касцёла, шырокая культурна-асветная праца выклікалі незадаволенасць духоўных уладаў. У канцы 1916 г. святара перавялі вікарыем у Карыцін на Беласточчыне, дзе былі абсалютна неспрыяльныя ўмовы для яго дзейнасці: чужое асяроддзе, адарванасць ад радзімы, віжаванне. Ён чуўся, па ўласным прызнанні, «у блудным коле», хоць і там знаходзіліся людзі, якія спачувалі беларускай справе і самаахвярнаму ксяндзу-беларусу. «Нашоў тут крыху сэрц, каторыя б'юць у такт з маім, шукаючы Бога», — успамінаў ён у дзённіку. Аднак пастаяннае напружанне выклікала абвастрэнне хваробы. Вясной 1918 г. ён здолеў ізноў вырвацца на лячэнне ў Закапанэ і больш ужо ў Карыцін не вярнуўся. З сакавіка да жніўня 1918 г. быў на лячэнні ў санаторыі, потым жыў некаторы час у гарах і да ліпеня 1919 г. працаваў капланам у кліматычным шпіталі. Акрыяўшы, К. Сваяк паехаў на радзіму, спыніўся ў вёсцы Лапеніца

пад Ваўкавыскам у свайго сябра ксяндза Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага). Удвух яны ізноў разгарнулі паспяховую дзейнасць па беларусізацыі касцёла і адукацыі насельніцтва. Супрацьдзеянне не прымусіла сябе доўга чакаць: была прынята пастанова аб забароне беларускай мовы ў касцёле.

З гэтага часу пачынаецца ўздым творчай, асабліва паэтычнай, актыўнасці К. Сваяка, раскрываецца яго талент палымянага публіцыста і празаіка, глыбокага знаўцы народнага жыцця. Узімку 1919/20 г. ён зноў лячыўся ў Закапанэ, потым ненадоўга затрымаўся ў Падброддзі і ўрэшце паехаў у любыя і дарагія сэрцу Клюшчаны, куды вярнуўся «прад самай інвазіяй бальшавікоў» і «прабыў пераход войск савецкіх і прыбыццё літоўскіх, замяшчаючы ўцёкшага пробашча». Аднак не там ужо было наканавана разгарнуць сваю дзейнасць паэту-святару: у канцы 1920 г. яго прызначаюць пробашчам у Засвір, дзе ён пражыў усё астатняе жыццё, выязджаючы штогод толькі на лячэнне ў Закапанэ.

У засвірскай парафіі яшчэ больш плённа закрасавала літаратурная і асветніцкая дзейнасць Казіміра Сваяка, нягледзячы на пастаянную «апеку» — надзор з боку польскага ўрада (тайныя вобыскі, даносы, плёткі, пастаянна хтосьці шпіёніў за ім, а ў 1922 г. яго нават некаторы час трымалі пад хатнім арыштам, былі таксама канфіскаваныя сшыткі з яго рукапісамі, вернутыя пазней парэзанымі, без многіх старонак). Нягледзячы на перашкоды, святар Стэповіч самаахвярна працаваў дзеля далейшага адраджэння беларускага Касцёла: ён склаў малітоўнік для набажэнства беларусаў-католікаў «Hołas Dušy» («Голас душы»), у якім была пададзена поўная беларуская літургія з малітвамі на кожную патрэбу і спевамі. Ён нязменна паслугоўваўся роднай беларускай мовай падчас набажэнстваў, распаўсюджваў беларускія газеты і кнігі. Так ён працаваў у Засвіры, «развіваючы сваю народную ідэалогію, з трудом ломячы ўсялякія запоры», спачуваючы мясцоваму люду, спакутаванаму ў чарадзе ваенных і рэвалюцыйных падзей: «Русняк тут голы і галодны. Проста жаль глядзець. Цёмны як халява, а не даецца кіраваць: не давярае. Такое меў уражанне дагэтуль. Ахвоты добрай і волі ёсць між людцоў. Толькі што шмат чуў ён ужо баламуцтва палітычнага і зняверыўся. Зрэшты, трэба яго найперш накарміць…». (Тут і далей цытаты з дзённіка паэта.)

Засвірскі час сплываў у касцельных клопатах, поўніўся літаратурнымі справамі (газета «Крыніца» пасля 1920 г. амаль штонумар выходзіла з творамі К. Сваяка), змаганнем з фізічнай немаччу, праходзіў у заўсёдным неспакойным роздуме аб лёсе беларуса ў тагачасным трывожным свеце, у імкненні разабрацца ў стане ўласнай душы і аддацца парываннем высокага творчага духу, знайсці той пакутны шлях ісціны і праўды, што цярэбіцца праз церні штодзённых выпрабаванняў. «Хістаецца дух мой між разбежнасці сцежак бытавання. Як жа я чуўся бязвольным! Творчасць мая так стрымалася, што ледзь спраўляю буднія працы дзеля фізічнага існавання. А жальба духу на ідэал нязбыты, недасягнены ўсіляецца. Няўжо жыццё так і ўплыве на марах ідэалу

без здзяйснення сноў за волю душы народнай, да каторай я жадаў бы прылажыць свае зярняткі? Змаганне з кволасцю, з бяссіллем ідзе ў маю некарысць. Божа, дай мне не пакінуць творчасці духу майго! Пазволь мне — памажы мне быць карысным справе духоўнага адраджэння майго брата занядбанага. А мне будзь міласцівым, бо сам часам не ведаю, што раблю ў хвілі сумніву і мукі. Агні хай распаляцца ў сэрцы маім, каб загарэлася новым парывам натхнення: чыстага, вялікага!» Гэтыя словы як найлепей сведчаць аб вышыні і моцы духу паэта, які праз фізічны боль і душэўныя пакуты складаў усе сілы служэнню справе беларускага адраджэння — служэнню «з народам — для Бога!».

У Засвіры паэта часта наведваў хтосьці з блізкіх людзей: сваякоў альбо дзеячаў нацыянальна-адраджэнскага руху (настаўнікі, сябры па «Хаўрусу сваякоў», брат Альбін, мастак Язэп Драздовіч). Тут з ім жыла маці. Альбін Стэповіч быў блізкі ідэйна свайму брату: відны палітычны дзеяч хрысціянска-дэмакратычнага кірунку, у 1926–1930 гг. — пасол у польскім сейме, публіцыст, які часта друкаваўся ў «Крыніцы», а з 1926 г. стаў яе выдаўцом, кампазітар, музыказнаўца, кіраўнік беларускага хору, аўтар знакамітага ў той час гімна Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры ў Вільні «Дзе чутны мовы нашай гукі». Браты былі аднадумцамі і паплечнікамі ў нацыянальна-адраджэнскай дзейнасці — мова беларусаў, культурнае развіццё, пабудова вольнай і незалежнай бацькаўшчыны былі для іх святой справай, дзеля якой яны не шкадавалі свайго жыцця, змагаючыся з паланізацыяй і русіфікацыяй, усяляк падкрэсліваючы самабытнасць беларускага народа і яго адрознасць ад іншых.

Стан здароўя К. Сваяка тым часам пагаршаўся. Адчуваючы подых смерці, ён усё ж не страчваў надзеі: «Здароўе маё горш: боль у правых грудзях колькі дзён не ўступае. Эх, ты, доля-доля! Аднак: "Contra spem spero!" (Процiў надзеі надзеюся)», — пісаў ён у дзённіку. Узімку 1925/26 г. ужо і Закапанэ не магло выратаваць паэта. У лістах да брата Альбіна і сябра-ксяндза Адама Станкевіча ў Вільню ён прасіў забраць яго з Закапанэ і перавезці на бацькаўшчыну, бо спадзяваўся акрыяць на радзіме. Аднак 6 мая 1926 г. Казіміра Сваяка не стала. Ён памёр у Вільні. 8 мая ў касцёле св. Мікалая Адам Станкевіч адправіў па ім жалобную Імшу. Пахавалі паэта на віленскіх могілках Роса на Літарацкай горцы, недалёка ад Уладзіслава Сыракомлі; пазней, у 1934 г., побач з ім знайшоў вечны спачын і брат Альбін. У 10-я ўгодкі на ахвяраванні беларусаў там быў адкрыты помнік — мемарыяльная мармуровая пліта. Амаль кожны год у даваеннай Вільні адбываліся ўрачыстыя акадэміі ў гонар паэта: чыталіся рэфераты аб яго творчасці, гучалі прысвечаныя яму вершы. У асобе Сваяка бачылі змагара, творцу, прарока, заступніка за пакрыўджанага брата і за цэлы край. У вершах Янкі Быліны, Міхася Машары ды іншых не толькі выказваўся жаль з прычыны заўчаснай смерці любімага ўсімі паэта і святара, але сцвярджалася ідэя неўміручасці яго справы і творчасці.

У лютым–чэрвені 1990 г. у Барані, дзе захавалася родная драўляная хата паэта, беларускай грамадскасцю было ўрачыста адсвяткавана 100-годдзе з дня нараджэння Казіміра Сваяка. У 1995 г. вялікі ўрачысты вечар адбыўся ў сталічным Доме літаратара, а ў лютым 2000 г. — вечарына памяці ў «Беларускай хатцы» ў Мінску. Цікавасць да яго асобы і творчасці ў 1990-я гады звязана з агульнай лібералізацыяй грамадства, адыходам навуковай і грамадскай думкі ад спрошчаных ідэалагічных падыходаў савецкага часу. У гэтае дзесяцігоддзе былі перавыдадзены факсімільна зборнік «Мая ліра» і ў кірылічнай транскрыпцыі дзённік «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі». Таксама з'явіўся шэраг публікацый у перыядычным друку. Так пачалося вяртанне Сваяка-паэта ў беларускую літаратуру, да нас, нашчадкаў, якім яго Слова адкрывае Божую Праўду пра нас саміх і нашу Радзіму, пра душу Беларуса, якая стыне і трывае на гістарычных скразняках і скрыжаваннях. Бо гэтая душа наталяецца Богам: «Ніколі, Божа, Табой я не сыты! Нават і ў пекле Цябе прызываў бы…».

Святарская пакліканасць Казіміра Сваяка абумовіла ў ім той глыбокі хрысціянска-гуманістычны светапогляд, які адбіўся і ў яго паэзіі, і ў філасофска-публіцыстычных працах. Ён — і як святар, і як пясняр — дбаў аб выхаванні высокай духоўнасці ў чалавеку, бо толькі на яе грунце, па яго глыбокім перакананні, можна пабудаваць належным чынам уласнае і грамадскае жыццё, здзейсніць адраджэнне сваёй айчыны. У жыцці Сваяка былі непарыўна злучаны святарства і творчасць. Само жыццё чалавека і свой уласны лёс ён разглядаў у стасунках з вечнасцю, бо іначай губляецца сэнс чалавечага жыцця. «Для мастака і паэта творчасць ёсць яго жыццё, а аб жыцці можна разважаць толькі перад тварам вечнасці. Калі вечнасці няма, то мы як саранча, якая праносіцца і знікае ў паветры, не пакінуўшы пасля сябе нічога, апрача голай зямлі», — гэтая думка вядомага праваслаўнага святара-прапаведніка і філасофа-гуманіста канца ХХ ст. Аляксандра Меня магла быць блізкай Сваяку*.

Перыяд 1910–1920-х гадоў, калі тварыў К. Сваяк, быў, як вядома, досыць складаным і супярэчлівым, асабліва пасля перамогі рэвалюцыі 1917 года. Хрысціянскі гуманізм, які і без таго перажываў паступовы крызіс ва ўмовах шырока разгорнутых сацыялістычных рухаў і навуковага дарвінізму, быў выцеснены на яшчэ большую светапоглядную перыферыю ваяўнічым атэізмам паслярэвалюцыйнай эпохі. Светапоглядную «пустату», або «адсутнасць Бога», запоўнілі «куміры» новай эпохі: рэвалюцыя, пралетарыят, партыя і самае галоўнае паняцце, з імі звязанае, — «дыктатура». Гэта было фундаментальным крушэннем грамадства, калі людзі ХХ ст. пачалі татальнае знішчэнне саміх сябе, калі дзяржавы-монстры здзейснілі генацыд унутры сваіх грамадстваў, калі адну сусветную вайну змяніла другая. Такой была

* Мень, А. Мировая духовная культура. Христианство. Церковь. Лекции и беседы. — М., 1995. — С. 348.

расплата за адыход грамадскай свядомасці ад светапоглядных асноў хрысціянскага гуманізму: «За першай сусветнай вайной надышла другая, якая завяршыла справу. Вялікая культура апынулася ў стане глыбокага крызісу, таму што, з аднаго боку, Бог знік з поля зроку чалавецтва, а з другога, — чалавек — новы бог, развянчаў сам сябе»*. У гэтай гістарычнай драме лёсаў Казімір Сваяк цвёрда стаяў на грунце хрысціянскай веры і хрысціянскага гуманізму. Ён глядзеў у будучыню нацыянальнага і духоўнага адраджэння Беларусі, кіруючыся адзіна магчымым, паводле яго, прынцыпам: «З народам — для Бога!» Гэты хрысціянска-гуманістычны тэзіс быў ягоным уласным палемічным адказам тагачасным сацыялістам, якія абвясцілі іншы прынцып праўдырства ў грамадскай дзейнасці: «Без Бога — для народа!»

Дасканаласць і свабода чалавека, паводле хрысціянскага гуманізму, ёсць не ў бязглуздым самавольстве, але ў следаванні Боскім цнотам і праўдам веры. «Без Мяне не можаце рабіць нічога» (Ян: 15; 5), — гэта адна з ключавых евангельскіх ісцін, якая азначае паўсядзённую сувязь усіх вернікаў-хрысціянаў з Богам-Тварцом. Гэта былі адносіны «бацькоўства» і «ўсынаўлення». У сімвалічных вобразах Хрыстос навучаў сваіх вучняў-апосталаў, што Ён ёсць вінаградная лаза, Бог-Айцец — вінаградар. Яны ж галіны гэтай лазы, што сілкуе іх і жывіць іхнія сокі. Засохлыя галіны, якія страцілі жывую сувязь з «лазой» — Хрыстом, адміраюць, і іх належыць выкідваць (кідаць у агонь). Адчуваннем такой усямернай жыватворчай сувязі з Богам была напоўнена, безумоўна, найперш святарская дзейнасць, а таксама і паэзія Казіміра Сваяка. Ён дзівіцца з хараства і дасканаласці задуманага і створанага Богам свету, славіць яго, захапляючыся найдрабнейшымі праявамі тварэння:

Заўсёды, о Божа, дзіўлюся Табе я…
Ці ў ночы спакойнай, ў зорках неба ясных,
Ці як стогне бура, як шуміць завея,
І у блысках сонца, і ў маланках страшных.

Дзіўны Ты, о Божа, ў кождым кветку польным,
У кождай расцінцы, ручайку прытольным;
Дзіўны ў тварэнні так стройнага свету,
Ты даеш пагоду і прыгожасць лету….

Гэты ранні верш «Гімн да Бога» быў напісаны К. Сваяком яшчэ ў 1913 годзе і ўвайшоў затым у якасці рэлігійнай песні ў «Голас душы». Ён блізкі па стылістыцы да псальмаў, лейтматывам якіх было праслаўленне Бога. Так, яшчэ будучы семінарыстам Сваяк вызначаў свае духоўныя і творчыя прыярытэты. Яго верш напоўнены па-дзіцячы шчырай радасцю і захапленнем, нягледзячы на хваробу, якая ўжо выявілася ў

* Джуссани, Л. Христианство как вызов. — М., 1993. — С. 133.

яго на той час (сухоты). Пазней вершы на біблейскія матывы складуць значную частку яго творчасці, а першы цыкл вершаў зборніка «Мая ліра» (Вільня, 1924) быў цалкам задуманы як прысвячэнне Богу. Вызначальную ідэйна-эстэтычную нагрузку ў гэтым цыкле нясуць верш «Шчасце» і парафразы псальмаў «Песня на псальм 130» і «Песня на псальм 62», а таксама верш малітоўнага характару «Ad te levavi…». Паэтычныя рэфлексіі К. Сваяка на матывы псальмаў уяўляюць з сябе самастойныя распрацоўкі тэмы, вельмі асабістыя, індывідуальныя. Паэт на хвалях рэлігійнай узрушанасці перажывае складаную гаму пачуццяў і дае магчымасць глыбока зазірнуць у таямніцы сваёй душы, якая жыве шуканнямі Бога.

Штодня чалавек сутыкаецца з праблемамі, якія выпрабоўваюць яго дух. У бясконцых «зломах», змарыўшыся ад барацьбы і няўдач, чалавек нярэдка пачынае наракаць на Бога і выказваць сумненні ў Яго існаванні і ласцы. Сваяк паказвае такую спрагнёную і змучаную душу чалавека, што страчвае інтэнцыйную сувязь з Тварцом і бязмерна пакутуе з гэтай прычыны. У безнадзейнасці, адчуваючы сябе «сухой галінай», такая душа ўсё ж прагне наталення і аджыўлення. У «Песні на псальм 62» Сваяк фактычна распрацоўваў у новых асацыятыўных формах матыў Богашукальніцтва. Вось як гучыць пачатак біблейскага тэксту: «Божа! Ты — Бог мой. Цябе я шукаю ад самае раніцы. Цябе душа мая прагне, па Табе тужыць цела ў пустой, сухой і бязводнай зямлі» (Пс.: 63, 2–3). Сваяк надаў гэтаму матыву новую паэтычную аправу:

Ледзь толькі блысне на небе зарніца,
Дух мой, о Божа, на Цябе чакае,
Душа жадае як дождджу травіца
І цела з стогнам да Цябе ўздыхае…

Паэт апісвае шляхі шукання Божага валадарства і ласкі чалавекам, якога ў зямной вандроўцы падсцерагаюць спакусы «блуднай дарогі», але на цярністым шляху выратоўвае яго толькі думка пра «Огляд вечны» і вера «ў духа змёртвыхстанне». У гэтым жа вершы паэт узносіць і маленне за айчыну.

Глыбокае рэлігійнае пачуццё, выказанае паэтам у гэтым вершы, адпавядае светапогляднай сутнасці хрысціянскага гуманізму, які ні ў якой меры не пазбаўляе чалавека ўласнай творчай актыўнасці і ініцыятывы. Але ключавой у хрысціянскім светабачанні ёсць думка аб сатворчасці Бога і чалавека, гэта значыць аб тым, што, прыняўшы Божыя дары духу і ласкі, чалавек робіцца моцным у жыццёвых выпрабаваннях і паспяховым у сваёй грамадскай чыннасці. Хрысціянскі гуманізм, такім чынам, быў таксама і філасофіяй хрысціянскага аптымізму. Калі вярнуцца ізноў да евангельскіх вобразаў вінаграднай лазы і яе галін, то сутнасць гэтага аптымізму Хрыстос выразіў у наступных радках: «Калі будзеце ўва Мне, і словы Мае ў вас будуць, то, чаго хочаце, прасеце, і станецца вам» (Ян: 15; 7). Для Казіміра Сваяка, святара і паэта, у гэтых

словах была жывая, сэрцам успрынятая абсалютная ісціна, якую ён увасабляў у вершаваную форму:

Радасць мне сэрца агнём запаляе,
Што не пазбыўся Тваёй я апекі:
Твой Дух прадвечны мяне атуляе,
Цябе я прагну, Божа мой, навекі.

Калі папярэднія вершы распрацоўвалі стылістыку псальмаў, то верш «Ad te levavi…» з’яўляецца прыкладам малітоўнага верша, у якім зліваюцца рэлігійнае і патрыятычнае пачуццё. Традыцыя малітоўнай паэзіі на Беларусі мае глыбокія карані і звязваецца з творчасцю Кірыла Тураўскага. Паэтычны малітоўны «канон» прадугледжваў асаблівую засяроджанасць верніка пры яго «ўваходжанні» ў малітву, усведамленне сваёй грахоўнай недасканаласці і спадзяванне на Божую міласэрнасць. Затым паэтам выказвалася малітоўная просьба аб заступніцтве за «Твой люд» — беларускі народ, які «поўны нядолі» і якога «чужынец аддаў на пакусу». Гучала таксама спадзяванне на справядлівы Божы гнеў, які абрынецца на «народ варожы». Праз гэты матыў гневу верш Сваяка зблізжаўся з купалаўскім вершам «На біблейныя матывы» (1920), напісаным таксама як парафраз 78-га псальма. У вершы Янкі Купалы асуджаліся «чужынцы-язычнікі», што «апаганілі святы Ерусалім» і зганьбілі святое Боскае імя. Біблейская тэматыка і пафас пераносіліся Купалам на родны край, які для патрыёта таксама ўспрымаўся як «дом святы», што стаўся паняволеным і разрабаваным чужынцамі. «Вылі гнеў Твой на паганцаў, што вечна Цябе знаці не знаюць», — пісаў Купала пра даўнюю заваёву мусульманамі хрысціянскіх святыняў, маючы на ўвазе свой родны край, спакутаваны пад суседскаю апекай. Верш Сваяка «Ad te levavi…», не прывязаны да канкрэтнай біблейскай першакрыніцы, быў яшчэ больш празрыста арыентаваны на нацыянальную рэчаіснасць. Аднак сваім маленнем за родны край і спадзяваннем на пакаранне яго ворагаў ён, безумоўна, быў блізкім і да купалаўскага верша і да пафасу 78-га псальма.

У творчасці Казіміра Сваяка ўражвае яго здольнасць увасабляць у пластычных і мілагучных вершаваных формах адцягненыя біблейскія вобразы і матывы, адаптаваць іх да штодзённых жыццёвых сітуацый, пераглядаць самі гэтыя сітуацыі пад кутом гледжання біблейскіх ідэалаў. У пэўным сэнсе Сваяком тварылася вершаваная гісторыя лёсу беларускага народа ў кантэксце біблейскай гісторыі, а гістарычныя персанажы суадносіліся з біблейскімі. Напрыклад, у вершы «Майму пану» Сваяк стварае інтэрпрэтацыю вядомай прыпавесці аб багачы і Лазары, якая была здаўна папулярнай на Беларусі, паколькі на гэты сюжэт існавала народная духоўная песня. Праз прызму гэтага сюжэта паэт глядзіць на тагачасную заходнебеларускую сацыяльную рэчаіснасць, дзе ўсё яшчэ не зжытай заставалася даўняя антыномія: пагарда «патомка кашталяна» да «ўбогасці беларуса».

У вершы «Вялея сіраты» (1920) Сваяком у стылі касцельных народных песень распрацоўваўся калядны сюжэт з яго галоўнай падзеяй — Божым Нараджэннем. Паэт прачула апявае радасць хрысціян, што пачулі добрую вестку, прынесеную пастушкамі. Радасць каляднай весткі, што ззяе з усіх асветленых вокнаў і блішчыць на снезе, не дасягае толькі адной хаткі, дзе «слёзы лье маладзіца», бо «ў гробе ўсе з яе сэрца, ў гробе бацька і матка: няма з кім у паняверцы падзяліці аплатка». Паэт, прасякнуты любоўю і спагадай да абнядоленых, выказвае шмат цеплыні і спачування той, для каго «Хрыстус не радзіўся». З сапраўды святарскай здольнасцю суцяшаць ён пераконвае гераіню свайго верша ва ўсеабдымнасці святой весткі аб нараджэнні Хрыста, што з'явіўся сведчыць аб Божай любові да чалавека, у якой і для яе, абнядоленай, заключана радасць.

Так, набліжаючы біблейскія падзеі і герояў да ўспрыняцця простых людзей, Сваяк працягваў традыцыі духоўных народных вершаў, якія разбуралі высокі элітарны канон духоўнага вершаскладання яшчэ ў XVIII ст., ствараючы яго бурлескна-парадыйную альтэрнатыву. Аднак у новым часе вершы Сваяка ўжо не захоўвалі ні прынцыпу ананімнасці, ні прынцыпу травестацыі. Бо да гэтага часу беларускі верш прайшоў значную эвалюцыю, захаваўшы, аднак, рысы народнасці і песеннасці. Сваяк ужо не проста імітаваў народнае светаўспрыманне, што прыводзіла некалі да эфектаў парадыйнасці. Ён прытрымліваўся прастаты народнага светаўспрымання, апавядаючы пра рэчы сур'ёзныя, пры гэтым захоўваючы сваё становішча інтэлектуала, святара-духоўніка, які не блюзнерыць, але мовай народа разважае аб найвышэйшых матэрыях, сакралізуючы пры гэтым і саму мову. Так, у вершы «Хрысце…» (1919) паэт у сваім звароце да Збаўцы выкарыстоўвае элементы споведзі і малітвы, дасягаючы вялікай эмацыйнай напружанасці і лірычнай пасіянарнасці. Безумоўна, пры аналізе лірычных твораў прынята адрозніваць аўтара і лірычнага героя, таму такая празрыстая мяжа ёсць паміж асабістым і агульначалавечым, заключаным у радках. Лірычны герой верша не замыкаецца на канкрэтнай асобе святара, хоць шчыльна з ёй звязаны, але ў ім выяўлена агульная сутнасць верніка-хрысціяніна і свядомага беларуса, які вызнае Хрыста як свайго асабістага апекуна і ўсямоцнага заступніка пакрыўджаных народаў. Прычым Хрыстус у дадзеным вершы малюецца не як далёкі і суровы вяршыцель лёсаў, аддзелены ад свету людзей мяжою трансцэндэнтнага, але як блізкі і даступны для зносін, хоць і нябачны, Сын Божы, евангельскі Месія — той самы, калі Ён хадзіў яшчэ разам з апосталамі па зямлі і да Яго мог звярнуцца кожны па дапамогу і ратунак. Менавіта да такога рэальнага жывога Хрыста, якім і вызнае Яго лірычны герой, звернуты заключныя радкі верша, напісанага ў стылі касцельнай песні:

Хрысце-Езу, пасля мукі
Меў жа Ты трыумфу час:

Развяжы ж і нам ўжо рукі
Бо грахі прыдушылі нас…
На дарогу да свабоды
Дай жа нам святы Дар Твой:
Благаслаў усе народы
На збратанне, на спакой.

Як бачна, ад малення за асабістае Сваяк пераходзіў да малітвы за народ, які, сапраўды, на той час знаходзіўся ў эпіцэнтры вялікай гістарычнай куламесы народаў, што толькі нядаўна перажылі замірэнне пасля Першай сусветнай вайны, рэвалюцыйныя пераваროты і зноў абрынуліся ў вір вайны Грамадзянскай.

Высокі ўзор Богаўслаўлення, што адпавядаў танальнасці і пафасу тэкстаў Псалтыра, паэт ствараe ў вершы «З псальмаў Давіда (116 і 150)». Псалтыру — гэтай біблейскай кнізе хвалы, здаўна надавалася асаблівая пашана. Не выпадкова Францыск Скарына пачаў сваю кнігавыдавецкую дзейнасць менавіта з Псалтыра, адзначыўшы ў прадмове: «И что ест, чего в псалмох не найдешь? Нест ли там величества Божия и хвалы Его? Там ест справедливость. Там ест чистота душевная и телесная. Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум доскональый. Там ест милость и друголюбство без льсти; и вси иншии добрые нравы, яко бы со источника, оттоле походять»*. Згаданы верш К. Сваяка ўяўляе сабой урачыстае ўслаўленне Бога, што адпавядала духу псальмаў, па матывах якіх верш быў створаны. Асабліва блізка нагадваў верш Сваяка матыў і стылістыку заключнага 150 псальма: «Альлілуя! Хвалеце Бога ў святыні Яго, хвалеце Яго ў цвярдыні моцы Ягонай; хвалеце Яго за дзеянні моцы Ягонай; хвалеце Яго за вялікасць Ягонае велічы! Хвалеце Яго пад трубны гук, хвалеце Яго на псалтыры і гуслях! Хвалеце Яго з тымпанамі й карагодамі; хвалеце Яго на струнных і жалейках! Хвалеце Яго на цымбалах гучных; хвалеце Яго на цымбалах галосных! Усякае дыханне няхай хваліць Госпада! Альлілуя!» (Пс.: 150; 1–6). К. Сваяк вельмі дакладна перадае настрой і захоўвае асноўныя вобразныя сімвалы біблейскага тэксту:

Хваліце Бога усенькія людзі,
Усе народы ад краю да краю:
Бо аб’явіўся ў міласэрдзя цудзе,
А Яго праўда навекі трывае.
Святыя душы на небе высокім,
І вы з гаротнай і сумнай зямліцы;
Анёлкі Божы у раі далёкім,
І усе сілы ў загвезднай імгліцы.
Яго ўсямоцнасць, Яго светазарнасць,

* Скарына, Ф. Творы. — Мінск : Навука і тэхніка, 1990. — С. 17–18.

Голасам трубным на свет разнясіце;
А справядлівасць, для людцоў спагаднасць,
Пры мнагаструннай ліры апяіце.
Хваліце ж Бога розным хорам-складам,
На бразгуночках, жалейках аргана,
І на цымбалах гарманійным ладам:
Дух кожды, хваль жа па век-вечны Пана.

Як можна пераканацца з параўнання двух тэкстаў, верш К. Сваяка з’яўляецца надзвычай экспрэсіўнай і маляўнічай версіяй 150-га псальма, сапраўды беларускамоўным шэдэўрам яго паэтычнай аўтарскай інтэрпрэтацыі.

Біблейская тэматыка і вобразы былі непасрэднай крыніцай натхнення для Сваяка-паэта. Будучы святаром, ён, безумоўна, выдатна ведаў усю Біблію, але асабліва прыдатнай для яго паэтычных рэфлексій была кніга псальмаў — Псалтыр. Ствараючы парафразы пэўных псальмаў, Сваяк захоўваў іх ключавыя матывы і вобразную сімволіку, але пры гэтым насычаў тэкст лірычнымі рэфлексіямі, адпаведнымі сучасным яму сітуацыйным момантам і ўласным эмацыйным перажываннем. Вершы на біблейскія матывы арганічна працягвалі традыцыю духоўнай паэзіі ў беларускай літаратуры, злучалі яе элітарнае і народнае рэчышчы, а таксама выяўлялі непаўторную харызму творчасці Казіміра Сваяка.

Але бадай паэт засланяў у ім усе астатнія творчыя амплуа. А ён жа быў адмысловым публіцыстам, тонкім крытыкам і бліскучым апавядальнікам, майстрам мастацкай прозы, а таксама таленавітым драматургам. На старонках каталіцкай газеты «Беларус» пасля паэтычнага дэбюту ў 1913 г. з’явіліся некалькі апавяданняў К. Сваяка — «Ганулька» і «Мікодам», у якіх пазначылася майстэрства аўтара дакладнымі штрыхамі перадаць карціны народнага жыцця, стварыць яркія народныя характары. У пазнейшы час на старонках віленскай газеты «Беларуская крыніца» часта з’яўляліся іскрыстыя сваім добрым гумарам апавяданні пра кемлівага «прастачка» Юрку-беларуса або бывалага Янку-ваяку, праз вобразы якіх аўтару ўдавалася перадаць хараство і цэльнасць душы простага чалавека, яго назіральнасць і наіўную мудрасць, не сапсаваную цывілізацыяй і багаццем шчырасць натуры. Праз «народныя» апавяданні К. Сваяка праступала ўся складаная «перадапакаліптычная» тагачасная рэчаіснасць у яе вялікіх і дробных, смешных і трагічных праявах. Проза К. Сваяка ўражвае жанравай дынамікай, багаццем камічных калізій, разнастайнасцю з’яў жыцця, уключаных у кола мастацкага асэнсавання. Яна літаральна іскрыцца майстэрствам жартоўных сцэнак, нераўзыдзеным хараством жывой народнай мовы. К. Сваяк як ніхто бліскуча валодаў таксама жанрам філасофскага апавядання, навэлы-рэфлексіі, у якіх фармуляваў сваё ідэйнае і духоўнае крэда. Ёсць у яго спадчыне нямала народных жартаў, апавяданняў гумарыстычнага зместу. Разам з паэзіяй, публіцыстыкай,

мемуарыстыкай драматургія і проза Сваяка пашыраюць нашы ўяўленні пра яго шматгранную творчую асобу.

У сваёй грамадскай і літаратурнай дзейнасці Казімір Сваяк браў за ўзор славутых папярэднікаў — Францыска Скарыну, Францішка Багушэвіча, падкрэсліваў сваю творчую повязь з сучаснікам Янкам Купалам. Кожнаму з трох волатаў-адраджэнцаў Сваяк прысвяціў вершы, а Багушэвічу і грунтоўны артыкул аб яго творчасці. Аб асобе самога паэта Адам Станкевіч пісаў: «Шуканне і апяванне ў паэзіі сутнасці жыцця агулам і сутнасці беларускага нацыянальнага жыцця — вось галоўная мэта і галоўныя матывы творства К. Сваяка».

І як паэт, і як святар Казімір Сваяк вызнаваў ідэю «безупыннай творчасці духу», якая разумелася ім як «вялікая жыццёвая спраўнасць, каторая б вучыла нас кожнае жыццёвае здарэнне абярнуць на карысць духоўнага развіцця характару». Менавіта такі шлях чалавека да свайго гарманічнага развіцця, хаця поўнай дасканаласці чалавек мець не можа, бо «ёсць яна толькі ў Богу», — вучыў у сваёй духоўнай публіцыстыцы Сваяк. Узорам дасканаласці для чалавека з'яўляецца Езус Хрыстус: «У асобе Хрыстуса маем найстрайнейшы ўзор таго гарманічнага ўкладу ўсіх водрухаў душы і цела, каторыя ўчынілі Яго нашым боскім — Вучыцелем».

У гістарычнай драме лёсаў цэлых народаў паміж дзвюма сусветнымі войнамі першай паловы XX ст. Казімір Сваяк цвёрда стаяў на грунце хрысціянскай веры і хрысціянскага гуманізму — грамадзянскай пазіцыі, паводле якой высокая годнасць чалавека засноўваецца на яго богападобнасці, а «сапраўдная чалавечнасць — розум, свабода, творчасць, любоў — дасягае паўнаты ў Хрысце». З гэтай пазіцыі Сваяк глядзеў у будучыню нацыянальнага і духоўнага адраджэння Беларусі, кіруючыся адзіна магчымым, паводле верніка-хрысціяніна, прынцыпам: «З народам — для Бога!». Гэты хрысціянска-гуманістычны тэзіс быў ягоным уласным палемічным адказам тагачасным сацыялістам, якія адкідалі Бога, абвясціўшы свой, так званы дэмакратычны, прынцып праўдзірства ў грамадскай дзейнасці. Яшчэ перад семінарыяй семнаццацігадовы Кастусь Стэповіч занатаваў у сваім дзённіку: «Пазнаёміўся з адным сацыялістам. Не верыць у Бога… Бедны!..». А затым выказаў свае адносіны да актыўнай дзейнасці такіх бязбожнікаў: «Хочуць у нашай парафіі закладаць гурткі сацыялістычныя. Шкода мо працы і захаду! Каб свае здольнасці і сілы лепш абярнулі на працу “з Народам для Бога”, — а не “без Бога для Народа”. У клюшчанскі перыяд сваёй дзейнасці малады святар і паэт рознасць гэтых пазіцый сфармулюе ў філасофска-тэалагічным рэчышчы: «Гісторыя свету — гэта гісторыя пакоры і пыхі анёлаў і людзей. Пакора называе Бога панам сваім, пыха сябе ставіць на мейсца Бога». Менавіта грахоўным плёнам пыхі бачылася Сваяку апантаная дзейнасць сацыялістаў па так званым справядлівым пераўладкаванні тагачаснага грамадства. Як святара яго гэта непакоіла, таму што пад

вопраткаю справядлівасці і шчасця бачыўся яму шлях да знішчэння і пагібелі, бо не было на тым шляху месца Богу. Шчасце для Сваяка таксама было глыбока хрысціянскім паняццем: «Шчасце, за каторым гнаўся род людскі — гэта Сам Бог… Шчаслівы чалавек, каторы ўмее сказаць: “Бог мой і ўсё маё!”». Уладкаванне народнага жыцця Сваяк звязваў з павелічэннем і пашырэннем веры, якая, прыходзячы праз беларускамоўную літургію, з’яднае раздзелены народ. Крыж усведамляецца знакам збаўлення і надзеі, святла і будучыні. «Русняк зажыве паўнейшым жыццём, калі зглыбіць і пашырыць у сабе веру ў Хрыста ўкрыжаванага, праз каторага сляпым вочы адкрываюцца, нямым голас даецца. Русняк згіне, калі злыдні адбяруць ад яго веру ў Бога і Яго Сына Езуса…» — пісаў Сваяк.

Як паэт і святар Казімір Сваяк балюча перажываў тую гістарычную несправядлівасць, якая прывяла яго народ да заняпаду, да таго, што сыны Беларусі мусілі на працягу стагоддзяў быць «перакіньчыкамі» — служыцелямі іншых культур. Ён верыў у адраджэнне роднага краю, нягледзячы ні на якія выпрабаванні. Для яго ж самога ўжо з ранняй маладосці былі прадвызначаны і выпрабаванні, і пакуты. Так, хворы, у 1914 годзе выехаўшы на лячэнне ў Закапанэ, Сваяк усімі думкамі быў скіраваны да роднага краю, да бацькоў і «сыноў-братоў», якіх лёс сказываў на тую ж долю спашуканцаў шчасця па-за межамі бацькаўшчыны: «Калі ж яны вернуцца? Калі збяруцца і прынясуць з сабой тое, па што пайшлі?.. О, каб жа, шукаючы шчасця, не затрацілі, не згубілі яны скарбу, каторы вынеслі з сабой у свет: роднай мовы сваёй, бацькаўшчыны душы сваёй дарагой…».

Казімір Сваяк быў тым тыпам беларускага святара-адраджэнца, якому балелі і грэх чалавека «штодзённага», і «гістарычныя раны». Ён чуўся не толькі духоўным «лекарам» асобнага чалавека, што шукае свой шлях да Бога, але і цэлай айчыны, якая з цемры нябыту ўваскрасала да існавання ў прасторы і часе. «Маці Беларусь! Цесна ўжо тваім сынам, шукаюць яны новай дарогі, дарогі да лепшага быту. На лепшую долю ты іх благаславі! Вазьмі ад іх закляцце, што будуць заўсёды табе вернымі, што ніколі не пакінуць цябе, што не згубяць свайго сумлення, што не заб’юць у ім свайго Бога, каторы кіруе лёсы народаў», — пісаў паэт, адчуваючы і сябе тым жа «сынам», які мусіць вярнуцца, нягледзячы на супраціў абставінаў, на тое, што лягчэй рухацца «па плыні» — напрыклад, па плыні даўняй, традыцыйнай, польскасці ў айчынным касцёле… Але ж ён дбаў пра Беларусь! Натхнёны прыкладам Францыска Скарыны, што яшчэ ў XVI ст. пераклаў Біблію на родную мову, малады ксёндз-беларус Канстанцін Стэповіч рупіўся ўжо тады, на пачатку XX ст., пра літургію на роднай беларускай мове, сам выгалошваў беларускія казанні. І гэта нягледзячы на нязгоду і праслед, бо ён чуў у гэтым волю і покліч Бога! Ішоў на гэты покліч свядома і самаахвярна, не думаючы пра пакаранне альбо ўзнагароду. Не прыхамаць, не амбіцыі, але менавіта воля Божая паклікалі яго і на стварэнне малітоўніка для беларусаў-каталікоў «Голас душы» (па

звестках Адольфа Клімовіча, было тры выданні малітоўніка: два ў Вільні і адно ў Рыме), дзе ўся літургія і спевы пададзены на роднай беларускай мове. Часткай гэтых тэкстаў карыстаюцца і ў сённяшнім касцельным набажэнстве.

У сваёй паэзіі Казімір Сваяк таксама шукаў увасаблення двух ідэалаў: рэлігійнага і патрыятычнага. Чалавек перад позіркам Бога і чалавек у дадзенай Богам укрыжаванай айчыне — такі, так бы мовіць, «лірычны герой» Сваяковай паэтычнай творчасці. У тыпалагічным плане гэты герой вельмі нагадвае Конрада з трэцяй часткі паэмы «Дзяды» Адама Міцкевіча, які ў «Імправізацыі», як вядома, перажываючы пачуццё роспачы ад бачанага ім гвалту над айчынай, нават кідае выклік Богу, сумняваючыся ў Боскай справядлівасці і Боскім Провідзе. Знепрытомленага ў гэтай бітве духу яго ратуе ксёндз Пётр, відзежа якога сталася ў межах твора струменьчыкам святла да адраджэння. У вершах-разважаннях над лёсам айчыны Сваяка асоба «лірычнага героя», злітая з асобаю паэта-святара, чуецца, вобразна кажучы, то «Конрадам», то «ксяндзом Пятром». Пры гэтым глыбіня пакуты не пераважае глыбіні веры. Пакута перамагаецца верай і лекуецца ёй, бо шлях выратавання — адзіны і ён — у Езусе Хрыстусе, у веры. Гэта было перакананнем святара, і яго Сваяк рэалізоўваў у творчасці як паэт. Заўважым, што і Міцкевіч, уводзячы вобраз ксяндза Пятра, дэклараваў гэтым менавіта шлях веры, які выратуе айчыну. Дзеля гэтага, як нам здаецца, ён і пазначае імя Збаўцы лічбамі «сорак і чатыры». Дзве чацвёркі даюць восем, а гэта, як вядома, лічба паўнаты і дасканаласці. Дасканаласць жа ёсць толькі ў Богу…

Калі гаварыць пра шэраг вобразаў, у якіх Сваяк рэалізуе патрыятычную ідэю, то гэта таксама найчасцей будуць вобразы, звязаныя з рэлігійнай хрысціянскай сімволікай. Напрыклад, у вершы «На гадавіны незалежнай Беларусі» паэт параўноўвае лёс роднага краю з евангельскім укрыжаваннем і змёртвыхустаннем Езуса Хрыста, выкарыстоўваючы адпаведныя вобразы і атрыбуты падзеі: Кальварыя, крыж, суд Пілата, дзяленне вопраткі, воцат, прабітасць цвікамі рук, ног і сэрца, палажэнне мёртвага «цела» ў «цвёрдай скале». Апошняя страфа верша гучыць як малітва аб Вялікадні для Беларусі:

Змілуйся ж, Божа, Ты над ёю,
Не дай у гробе век ляжаці,
Пазволь да жыцця ёй устаці:
У гэты час, на трэці дзень.

Паэтычная творчасць Казіміра Сваяка багатая на розныя формы і спосабы ўвасаблення біблейскіх вобразаў і патрыятычных матываў. Гэта песні на псальмы, вершы-малітвы, вершы-прысвячэнні ксяндзамбеларусам і святарскай справе, вершаваныя гісторыі, заснаваныя на біблейскіх сюжэтах, вершы-прыпавесці, вершы ў прозе на тэмы духоўных разважанняў, вершы-гімны, верш-тэстамэнт ды іншыя.

У пэўным сэнсе можна сцвярджаць, што Сваяком-паэтам тварылася вершаваная гісторыя лёсу беларускага народа ў кантэксце біблейскай гісторыі. Так два пакліканні спалучаліся разам: святар Канстанцін Стэповіч вуснамі паэта Казіміра Сваяка працягваў абвяшчаць Божае Валадарства.

Паэзія і ў цэлым творчасць разумелася К. Сваяком як грамадскае служэнне. Яна паклікана была стаць прадвесцем грамадскіх перамен, духоўнага і этнічнага абуджэння народа, які трэба было ўзвесці на шлях нацыянальнага самавызначэння і свабоды. У такіх варунках мастацкае «я» творцы заўсёды патрабавала акрэсленасці сваіх творчых задач, засведчанасці таго, што яго інтарэсы скіраваны ў рэчышча народнага служэння. Сваяк сфармуляваў падобную творчую задачу для сябе ў вершы «Мест прадмовы», якім адкрываецца яго адзіны прыжыццёвы зборнік «Мая ліра» (1924):

Не пішу я для забавы,
Ні для бліхтру, ані славы,
Ні на смех табе, бязверца, —
Пішу я, бо плача сэрца….

Новае, што нёс у беларускую паэзію К. Сваяк, было звязана з глыбокімі рэлігійнымі матывамі ў яго творчасці, не знанымі датуль у літаратуры новага часу. «У сэрца кожнай культуры — тое, як аднясецца чалавек да найвялікшай таямніцы — да Бога. Розныя культуры — гэта розныя спосабы адказаць на пытанне аб сэнсе чалавечага жыцця. Калі прыбраць гэтае пытанне, культура і маральнасць народа разбураюцца», — сцвярджаў у энцыкліцы «Centessimus Annus» папа Ян Паўла II*. Гэтая неаспрэчная фундаментальная ісціна жывым сэнсам напаўняла творчасць К. Сваяка і напаўняе сённяшняе наша разуменне змены культурных эпох і сучаснага развіцця культуры.

Нацыянальна-адраджэнскі пафас паэзіі К. Сваяка закранаў сутнаснае пытанне культуры, або формы, існавання народа ў свеце, і тут першачарговым аказвалася разуменне неадэкватнасці гістарычных варункаў і Боскай задумы, паводле якой самакаштоўнасць нацыі і глыбіня культурных традыцый аказваліся ўціснутымі ў сферы чужых інтарэсаў. Пазіцыя слабога давала падставы іншым дамінаваць у культурным, гістарычным і рэлігійным жыцці, прычым праз рэлігійную сферу быў найкарацейшы шлях да пераарыентацыі культурных і гістарычных асноў жыцця, за якімі аўтаматычна падлягала перагляду і ідэя дзяржаўнасці. Гэтыя моманты тонка адчуваў К. Сваяк. Таму рэлігійнае і нацыянальнае пытанні ў яго паэзіі выступаюць цесна злучанымі. Галоўнай ідэяй, якую ён развіваў, была ідэя уніі і разуменне геапалітычнай ролі Беларусі як памежнага чынніка паміж усходам з

* 100 лет христианского социального учения. М.,1991. С.40.

яго праваслаўнай традыцыяй і расійскай ментальнай прасторай — і захадам, прадстаўленым каталіцтвам і польскасцю. Абедзве дамінуючыя супольнасці імкнуліся сцвердзіць на беларускіх землях свой беззваротны ўплыў і не былі зацікаўлены ва ўзмацненні і самастойнасці Беларусі. Калі праз дзяржаўныя інстытуцыі гэта магло адбывацца толькі шляхам прымусу і супраціву ў адказ, то пры дапамозе Царквы і Касцёла гэта рабілася досыць нязмушана і лёгка: вернікі прызвычайваліся да «рускай» альбо «польскай» веры і адпаведным чынам самаідэнтыфікавалі сябе. К. Сваяк бачыў небяспечнасць такога становішча для будучыні Беларусі і даў сваё асэнсаванне праблемы уніі, або рэлігійнай еднасці, на Беларусі. У артыкуле «Царква ці Касцёл» (1921) ён пісаў: «Гісторыя мела шчасце ці няшчасце аддаць Беларусь пад уплывы Усходу і Захаду, гэтых двух фармальных працýнікаў у змаганні да цывілізацыі. Вось і светагляд наш рэлігійны мусіў прыняць дзве формы: грэцкую і лацінскую. Першая падпала з часам пад дэструкцыйны ўплыў Расеі, другая — Польшчы. І стуль зрадзілася дзяліцьба душы беларуса на рускую і польскую, дзяліцьба, каторая ў канцы (як бачым) падзяліла і яго цела. І цяпер мы пазналі патрэбу еднасці, калі мус няшчасны адабраў нам яе. І калі патрэбна нам еднасць сацыяльная, то тым больш еднасць рэлігійная, як жывіцелька народнай душы».

Рэлігійнае пытанне К. Сваяк вывучаў вельмі глыбока, абапіраючыся на думкі філосафаў і гістарычныя веды. Так, у згаданым артыкуле ён падкрэсліваў, што справа веры ў беларускім народзе рэч настолькі важная, што здзіўляюць часам лёгкія адносіны да гэтага з боку некаторых дзеячаў. Сваяк перасцерагаў ад лёгкага дылетанцтва ў гэтай справе і рабіў акцэнт на тым, што «рэлігія наагул ёсць адным з найважнейшых твораў народнай душы».

Вылучыўшы галоўнае звяно рэлігійных праблем у Беларусі, К. Сваяк выказваў веру, што духатворчасць народа і «славянскі глыбокі містыцызм» яго створаць нешта вялікае ў Беларусі, якая «цяпер крые магутную здольнасць аб’яднання абодвух абрадаў у адным рэлігійным светаглядзе». Унію Сваяк вывучаў глыбока і дасканала, прысвяціў гэтаму нямала часу яшчэ ў карыцінскі перыяд, падрыхтаваўшы цэлы цыкл спецыяльных матэрыялаў для віленскай «Беларускай крыніцы».

Тытанічная праца К. Сваяка па аднаўленні «духу нашае Бацькаўшчыны» мела зусім канкрэтныя формы: друкаваным словам і набажэнствам па-беларуску, асабістай гутаркай з сялянамі і мастацкай самадзейнасцю «Хаўрусу сваякоў» паэт і святар пашыраў ідэю нацыянальнага адраджэння ў тых мясцінах, дзе яму даводзілася жыць і працаваць. Відавочна, што ідэя нацыянальнага адраджэння была цесна злучана для К. Сваяка з духоўным адраджэннем, у якім ён бачыў перспектыўны шлях новай гістарычнай рэальнасці і жывую крыніцу творчасці, магчымасць развіваць на гэтай глебе новыя мастацкія формы. Прыкладам апошняга была яго ўласная паэтычная творчасць, якую ён часткова выдаў ва ўкладзеным ім самім зборніку «Мая ліра». Аднак засталося шмат вершаў, што не ўвайшлі ў кнігу,

а так і засталіся раскіданымі па віленскай перыёдыцы 1920-х гадоў. Кніга была прадумана пабудавана аўтарам па раздзелах: калі ў друкаваным выглядзе яны мелі нумарацыю 1–2–3–4–5, то ў чарнавіках захаваліся першапачатковыя назвы — 1) Богу; 2) Айчыне; 3) Маёй музе; 4) Настроі; 5) Аповесці. Патрыятычныя вершы займаюць адно з цэнтральных месцаў кнігі.

Бацькаўшчына для паэта — паняцце святое і вечнае. Ён падкрэслівае гэта ў першым жа вершы цыкла, прысвечанага айчыне, «Гімн роднай зямлі»:

Зямліца прошласці ціхой,
Крывавай спісана рукой,
Айчызна — Маці — Беларусь,
Цяжкі лёс Твой.

Паэт аддаў у вершы паклон роднай зямлі і выказаў надзею на «праўду ясную зару», якая засвеціць, каб абвясціць усім, што Беларусь «Гарой, Жыва!» Ён ясна ўсведамляў геапалітычнае становішча Беларусі — паміж Усходам і Захадам, што азначала як духоўна-эстэтычны ўплыў моцных культур, так і палітычную экспансію моцных дзяржаў. Яго палітычным ідэалам, выражаным у паэзіі, была незалежная дзяржаўная Беларусь, дзе адбываецца «сынтэза» вер і культур, і якая адыгрывае міратворчую ўз'яднальную ролю паміж Усходам і Захадам, прадстаўленымі Расіяй і Польшчай. У вершы «Ой, на Русь ды Белу» паэт выказвае сваё разуменне гістарычных і геапалітычных прычын заняпаду беларускага краю. Таксама як і Янка Купала, які стварыў у 1920-я гады трагікамедыю «Тутэйшыя», паставіўшы акцэнт на гістарычнай разарванасці Беларусі паміж Усходам і Захадам, так і К. Сваяк у гэты ж час асэнсоўвае памежны нацыянальны феномен. Ён паказваў дзве супрацьлеглыя сілы, што разрываюць паміж сабой Беларусь, імкнучыся замацаваць тут свой уплыў, а значыць свае формы культуры і ўрэшце дзяржаўнасці. Ён выкрываў драпежныя мэты польскай і расійскай дзяржаў, для якіх Беларусь была толькі крэсамі або паўночна-заходнім краем. І ў той жа час у хрысціянска-гуманістычным духу Сваяк імкнуўся паяднаць і памірыць гэтыя дзве варожыя сілы, для якіх змаганне за Беларусь было звязана з асабістымі амбіцыямі. Ён імкнуўся паяднаць тры славянскія народы, навучыць іх шляхетнай павазе адзін да аднаго і да слабейшага ў гэтым злучве. Такую канцэпцыю славянскага брацтва ён і даў у вышэйназваным вершы. Ён малюе вобраз паняволенай і «пакляванай груганамі» бацькаўшчыны і заклікае свае «мары» і «летуценні» быць настолькі чуйнымі і ўважлівымі, каб пачуць з глыбіняў гістарычнага жыцця «голас з касцей айцоў вашых», які спудзіць «маскоўскіх і ляшых груганоў». У вершы гучыць ідэя уніі, яднання ўсходу і захаду, што ўсведамляецца паэтам як гістарычная і нацыянальная місія Беларусі і выяўляецца ў алегарычнай вобразнай форме «сватаўства»:

Дасць Бог калісь будзе люд народу братам,
А русьняк маскоўцу да лехіткі сватам.

Магутным паэтычным сродкам для выражэння патрыятычных пачуццяў сталі вершы К. Сваяка, прысвечаныя дзеячам беларускай літаратуры і культуры — папярэднікам, а таксама паплечнікам у справе нацыянальнага адраджэння. Гэтыя вершы вызначаюць культурны кантэкст Сваяковай паэтычнай спадчыны, інфармуюць нас аб традыцыях, якія развіваў паэт, і даюць уяўленне аб тым інтэлектуальным полі, на якім ён сам рупліва працаваў. Храналагічна найглыбейшым паводле закранутай традыцыі з'яўляецца верш «Памяці Францішка Скарыны, слаўнага доктара з Полацка» (1925). Верш закранаў практычна ўвесь комплекс адраджэнскіх і духоўных ідэалаў (у іх злучанасці), якія вызнаваў К. Сваяк. Ён падкрэсліваў святасць і боганатхнёнасць учынку Ф. Скарыны, веліч яго асветніцкага подзвігу («Бацькаўшчыны мілай настаўнікам ён быў»!), узвышаў каштоўнасны статус беларускай мовы, асвечанай далучэннем да Боскага Слова ў выніку дзейнасці Скарыны.

Паэт падкрэсліў таксама, што Біблія — гэта «Кніга Мудрасці і Жыцця», асноўная ў чалавечым лёсе, таму ўчынак першадрукара ён трактаваў як богапасланніцтва дзеля ўслаўлення беларускага народа. Сваяк рабіў акцэнт таксама і на сучаснасці, калі зняслаўленасць яшчэ больш паглынула беларускі народ, для якога пажадана было б з'яўленне новых слаўных «дактароў», «хто б Кнігу нам Жыцця аддаў — душам — знямогшым ад чакання». Мелася тут на ўвазе, відаць, Біблія на сучаснай беларускай мове, а таксама практычныя тэксты для набажэнства беларусаў-католікаў, чым уласна і займаўся ў тыя гады Казімір Сваяк. Ім была падрыхтавана і выдадзена ў 1924 г. кніга для набажэнстваў «Голас душы», якая мела некалькі перавыданняў і карысталася шырокім попытам у Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гады і нават падчас нямецкай акупацыі, калі існавалі яшчэ ў некаторай колькасці беларускія школы, дзе выкладалася і хрысціянская навука.

Другім нацыянальным апосталам для К. Сваяка быў Францішак Багушэвіч. Яму ў спадчыне паэта прысвечаны верш «Памяці Ф. Багушэвіча» (1919) і вялікая крытычная праца «Ф. Багушэвіч — пясняр беларускі» (1920), у якой ён глыбока аналізаваў Багушэвічаву творчасць і яе ролю ў адраджэнні Беларусі. Найбольш злучанымі адраджэнскія і рэлігійныя справы выступалі, на думку Сваяка, у вершы Багушэвіча «Хрэсьбіны Мацюка», асноўную думку якога Сваяк тлумачыў як здольнасць простага беларуса, пры ўсёй яго прыгнечанасці, на адвагу, — на тое, каб кінуць выклік царскім паслугачам і не прыняць прымусовага перахрышчвання. Такі вобраз беларуса, здольнага на пратэст, паказаў менавіта Багушэвіч, песня якога, як пісаў К. Сваяк, «мілая сэрцу кожнага беларуса».

К. Сваяк таксама закрануў шмат розных пытанняў у крытычным эсэ аб Багушэвічу: дэмакратызм Багушэвіча, погляд беларуса на пры-

роду і чалавека ў яго творчасці, рэлігійныя аспекты, форма вершаў, асветніцкія ідэалы, а таксама гістарычныя аспекты лёсу беларусаў у сувязі з галоўнымі тэмамі і вобразамі Багушэвічавых твораў. «Складная гісторыя Беларусі — хоць мала хто аб ёй пісаў і мала хто пісаў аб ёй справядліва, — заўважае К. Сваяк. — Складная яна, калі вырабіла такі характар чалавека, тып якога дае нам Багушэвіч у сваіх вершах. Такі ціхі настрой на вока, а колькі схаванай моцы і сілы; такі журлівы, аж да безнадзейнасці, а колькі светлых думак і мудрасці! Будзьце ласкавы, збярыце з паэзіі Багушэвіча ўсе прыказкі і выражэнні простай народнай мудрасці, а не трэба будзе і Саламона. Можна сказаць без звелічэння, што беларус, не маючы асветы і кніжкі, меў яе, аднак, з самога жыцця, якое вучыла яго, як тлумачыць розныя праявы людскога змагання за быт». У паэтычным тэксце К. Сваяк мае магчымасць выказвацца болей эмацыянальна, пакінуўшы ў баку аналітыку. Ён услаўляе песняра-папярэдніка, называе яго першым прадвеснікам нацыянальнага адраджэння.

З верша паўставаў глыбокі дэмакратызм і нават сацыяльны радыкалізм аўтара, які падкрэсліваў сваё служэнне простаму народу і адмяжоўваўся ад панскага саслоўя, якое здрадзіла, на яго думку, адраджэнскай справе і зняславілася сваім ашуканствам простага народа. З цеплынёй малюе ён псіхалагічны вобраз-партрэт «чыстага беларуса». Заканчваўся верш сакраментальнай высновай аб ролі Багушэвіча і яго пазбаўленай «бляску і роскашы» паэзіі ў нацыянальным адраджэнні: «Бо у песні Тваёй годзе блыску й роскашы шукаць — душы чыстай у народзе трэба чысту страву даць!» «Чыстая страва» для «чыстай» народнай душы, г. зн. душы абуджанай да свядомага нацыянальнага і гістарычнага жыцця, звязвалася Сваяком найперш з роднай мовай і «роднай» верай. Пра «страву» для змучанай душы народа разважаў ён і ў папярэднім вершы, прысвечаным Скарыне: «Скарыну Бог паслаў, каб жыва пераклаў і стравай каб падаў замучанай душы народу». Такім чынам, хрысціянская вера, вызнаваная ў першую чаргу на роднай мове, была адным з ідэйных прыярытэтаў і ў святарскім служэнні, і ў паэтычнай творчасці К. Сваяка.

Разважаючы над доляй народа і Беларусі, Сваяк выкарыстоўвае для ключавых ідэй сваіх твораў і вядомыя нацыянальныя сімвалы, якія на той час ужо ўсталяваліся як нацыянальныя ментальныя канцэпты, або трывалыя фармулёўкі — знакі адраджэнскага руху. З нашаніўскага часу такім знакам быў загаловак выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», на рахунку якой — дзесяткі першых беларускіх кніг, што сталіся нацыянальнай класікай і падмуркам айчыннай літаратуры. Назва сімвалізавала годную будучыню беларускага народа і перспектыўнасць шляху яго адраджэння. Ужо адлучаючыся ад канкрэтнай дзейнасці самой выдавецкай суполкі, К. Сваяк скарыстоўвае яе назву ў якасці ідэйнага ключа свайго верша «Загляне сонца…» (1919), дзе ён разважае

аб цёмнай нядолі народа, пазбаўленага свабоды, і аб асветленай сонцам яго вызвалення будучыні. Сваяк з горыччу ўсведамляе, што беларусы спазніліся на свой гістарычны «цягнік», і шукае прычыны гэтага. Ізноў асноўнай прычынай яму бачыцца геапалітычная разарванасць Беларусі, дзяльба яе інтарэсаў паміж «груганом» з усходу і «крукам» з захаду. Вельмі паэтычна малюе Сваяк гістарычны момант прабуджэння народа, звязвае гэта з адвечнымі натурстыхіямі, якія падаюць знакі і прыспешваюць пачэсную народную справу, як быццам нараджэнне новага народнага асілка. У стылёвым абліччы верша «Загляне сонца…» нельга не заўважыць умелага выкарыстання аўтарам прыёму ўнутранай рыфмы, што надае павышаную дынаміку вершу, узмацняе яго мілагучнасць. Гэтаму высокаму майстэрству К. Сваяк вучыўся, відавочна, у Янкі Купалы, творчасць якога добра ведаў, любіў і якога таксама ўважаў за аднаго з нацыянальных апосталаў адраджэння. Янку Купалу ў паэтычнай спадчыне К. Сваяка адрасаваўся верш «Сварога слугі…» (1925). Сваяк падкрэслівае надзвычайную ролю Янкі Купалы ў працягу той справы, якую запаветам пакінуў для беларусаў Мацей Бурачок. Прычым як купалаўскую дамінанту вылучае паганскі дух нацыянальных асноў веры, які таксама прымае і Сваяк, нягледзячы на свой бяспрэчны каталіцызм. У веры беларусаў ён сам будзе вылучаць «уніянізм» у самым шырокім сэнсе, куды ўключаны таксама і элементы паганства, якое сапраўды панавала на Беларусі доўгі час і існавала побач з хрысціянствам. Сваяк вітае прыкметы народнага веравызнання, праяўленыя ў культах паганскіх бостваў, і вітае Купалу за тое, што паэтызаваў сімволіку гэтых культаў, ускрываючы такім чынам глыбіні нацыянальнага менталітэту і нацыянальнай культуры. Таму ў вершы К. Сваяка, прысвечаным Купалу, з’яўляюцца Дажбог, Купала, Пярун, Сварог, Зніч як сімвалы народнага светаўспрыняцця.

Такім чынам, ушаноўваючы Купалу, Сваяк падкрэслівае яго роўнасць між «святароў», якімі ён падразумявае паганскіх багоў, і бостваў Купалы (дарэчы, гэтая міфалагічная істота жаночага роду) персаніфікуе на беларускага песняра — свайго старэйшага калегу, які абраў сабе такі літаратурны псеўданім, звязаны і з яго сімвалічным нараджэннем падчас гэтага народнага свята. Усё тут знакава і ўсё сімвалічна. «А мы, Сварога слугі, чакаем Перуна», — піша Сваяк, ужо маючы на ўвазе тую агульную справу адраджэння, да якой і ён далучыўся. Сварог, бог агню, і менавіта яму слугуюць абодва паэты, на думку Сваяка, чакаючы Перуна як «усясветнага грому над нашаю Айчынай, каб знікла злыбеда». Абсалютны давер і братнюю любоў выказвае паэт да Купалы і з той прычыны, што Купала блізкі да яго сваім дэмакратызмам. Пры гэтым без аніякага штучнага вымушанага пафасу называе Купалу нацыянальным геніем. Магчыма гэта першае прыжыццёвае сцверджанне, якое сталася абсалютнай ісцінай, і гэта тым больш важна падкрэсліць таму, што ў гэты час святкаванне юбілею

творчай дзейнасці Купалы ў Савецкай Беларусі праходзіла пад пільным наглядам кіруючых інстанцый, якія рэгламентавалі святочныя мерапрыемствы: яны не маглі праігнараваць падзею, але не маглі дазволіць ператварэння яе ў вялікае нацыянальнае свята з-за боязі «беларускага нацыяналізму». Тым больш каштоўнымі сваім свабодным выяўленнем пачуццяў і сцвярджэннем пашаны да Купалы як народнага песняра трэба лічыць прысвечаны яму верш К. Сваяка.

З гэтага ж верша бачна, як упэўнена Сваяк карыстаецца формай свабоднага верша, яна падуладная паэту і дазваляе выразіць усе нюансы думкі, якая развіваецца натуральна, мае сваю ўнутраную дынаміку і арганізаваную структуру. У цэлым жа верш «Сварога слугі…» мае форму трыпціха.

Яшчэ адзін красамоўны верш-прысвячэнне ў спадчыне К. Сваяка — «Шляхам творчасці» — быў адрасаваны паэту Янку Быліне (святару і сябру-паплечніку Я. Семашкевічу). Верш вытрыманы ў жартаўлівай іранічнай форме, тут Сваяк скарыстоўвае дастаткова фамільярны тон (бо звяртаўся ж да сябра, а не да мэтра літаратуры), каб падкрэсліць сяброўскія адносіны і нават дазволіць сабе некаторае маралізатарства. Найперш паэт у некалькіх дэталях абыгрывае няпростасць справы адраджэнскага руху, які мае не толькі прыхільнікаў , але і варожых і проста раўнадушных людзей.

Паэт заклікае святароў да шчырай стваральнай працы на ніве асветы і выхавання народа, служэння яму словам праўды, а таксама падкрэслівае важнасць моманту змагання за свае нацыянальныя інтарэсы ў выпадку небяспекі: «Калі ж чужак твае парогі зняважыць будзе мець адвагу, не будзь дзіцем, давай нарогі на меч каваць — і гнаць брадзягу». У гэтым вершы паэт скарыстаў элементы бурлескнапарадыйнага стылю, каб яшчэ больш падкрэсліць блізкасць яго да народнага светаўспрыняцця. Верш напісаны чатырохстопным ямбам, ён блізкі сваім рытміка-інтанацыйным гучаннем да паэм XIX ст. «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Калі ж Сваяк пераходзіць да балючых пытанняў сучаснага яму працэсу адраджэння, ён мяняе рытмічны малюнак верша, падоўжваючы другі і чацвёрты радкі жаночымі клаузуламі, што адразу пазбаўляе страфу парадыйнасці гучання і надае ёй сур'ёзны тон з элементамі дыдактыкі: «Вучы дзяцей ты родным словам, каб бацьку шанаваць умелі, каб не дражнілі чужым зовам сваіх багоў яны ў касцелі». Дарэчы, некалькі дыдактычных фрагментаў з гэтага верша Сваяк пазней скарыстоўваў для асобнага надрукавання, відавочна, у асветніцкіх мэтах: яны гучалі як надзённыя задачы выхавання новага пакалення беларусаў — патрыётаў і вернікаў.

Вернасць ксяндзоў-беларусаў адраджэнскай справе і ахвярнасць у імя яе заўсёды падкрэслівалася Сваяком. Так, у вершы-эпітафіі «На смерць калегі кс. З. Якуцця» (1924) Сваяк паэтычным радком як бы пацвярджаў думку кс. Адама Станкевіча, што «Кс. З. Якуць быў

тыповы ксёндз-беларус… глыбока разумеў важнасць беларускага адраджэння, цаніў яго і прыкладаў да роднай справы ўсе свае сілы». Таксама А. Станкевіч падкрэсліваў, што кс. Якуць быў прыкладам таго, як у святары лучылася «духоўная пастырскасць і беларускасць»*. Для К. Сваяка таксама калега быў прыкладам дастойнага святарскага служэння: «Любіў народ ты, браце, сэрцам цэлым і зразумеў яго бяду духову; вучыў яго, ад горычы збалелы, каб уміраць і жыць заўсёды быў гатовы».

У культурным кантэксце творчасці Сваяка прысутнічае таксама заходнебеларуская газета «Беларуская крыніца» (да 1925 г. яна называлася «Крыніца»). З ёю К. Сваяк цесна супрацоўнічаў і для газеты паэт быў адным з самых паважных і любімых аўтараў. Ролю «Беларускай крыніцы» ў фармаванні духоўна-культурнага поля Беларусі ва ўмовах Другой Рэчы Паспалітай цяжка пераацаніць — гэтая роля супастаўляльная хіба што з роляй газеты «Наша ніва» ў папярэднім культурна-гістарычным часе. Сваяк прысвяціў любімай газеце некалькі вершаў: «Крыніцы» на 1921 год» і «Крыніцы» на 1925 год». У першым ён выказвае сваю любоў да сапраўды народнай газеты, называе яе па-хатняму роднасна «сястрычкай» і бласлаўляе цячы і наталяць сваёй жыватворчай вільгаццю ўбогасць сялянскіх ніў і ашчасліўліваць сялянскі люд, абмінаючы «багатых і іхны рай». У вершы «Крыніцы» на 1925 год» паэт таксама выказваў свае замілаваныя пачуцці з нагоды той вялікай адраджэнскай місіі, якую выконвала газета, і ў малітоўнай форме зычыў ёй мужнасці і цярпення ў змаганні з бядою і нядобразычліўцамі: «Каб табе даў Бог сілы з бядою змагацца, перамогчы нядолю і злыдням не дацца».

Жывучы сярод народа, у беларускай глыбінцы, К. Сваяк звяртаў асаблівую ўвагу на жыццё і быт людзей, ён любіў канкрэтнасць і часта прывязваў свае вершы да пэўнай мясціны ці падзеі ў ёй. Вершы такога плана тым не менш далёкія ад стылю газетнага рэпартажу, у іх струменіць жывое пачуццё аўтара і чуцён яго ўсхваляваны грамадзянскі голас. Традыцыі Багушэвіча і Купалы яўна праглядаюцца там, дзе ён імкнецца ствараць малюнкі жыцця з пазіцый абяздоленага чалавека, свайго земляка-русняка. Так, у вершы «Мястэчка Свір у 1920 г.» паэт паказвае нам аблічча беларуса, пастаўленага на мяжу існавання, але не зняверанага ў чаканні палёгкі жыцця. Вачамі свайго героя К. Сваяк малюе жывыя карціны рэчаіснасці, з жалем адзначаючы заняпад старых традыцый, калі на старадаўнім ахвярным капішчы цяпер луг, на якім пасуцца козы, а п’янства стала адзіным спосабам забыць пра пакуты жыцця, знайсці ў ім прасветліну. Яшчэ адной чаканай «прасветлінай» называе паэт ажыўленыя кірмашы, якіх чакаюць як вялікай падзеі і дзе ёсць нагода «паспаборнічаць» у ашуканстве.

---

* Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя: Жыццярысы, мартыралогія, успаміны. — Мінск; Мюнхен, 1999. — С. 230.

Купалаўская творчая школа асабліва адчувальная і ў вершы К. Сваяка «Званіца ў Жодзішках» (1925), дзе ён наследуе рытмічнаму малюнку паэмы «Курган» і імкнецца выйсці на абсяг велічнай эпічнасці. К. Сваяк адлюстраваў у творы рэальную падзею: забарону ўжываць беларускую мову ў жодзішкаўскім касцёле, што выклікала абурэнне сярод простых прыхаджанаў і ў коле святароў-адраджэнцаў. Паэтычны водгук К. Сваяка быў гнеўнай публіцыстычнай водпаведдзю антыграмадскім паводзінам касцельных уладаў, якія пазбаўлялі беларускі рух жыватворчых крынічных сіл на шляху да адраджэння. Вядома з гістарычных крыніц, што ў Жодзішках адбыўся народны сход, які пацвердзіў волю мясцовых жыхароў да беларусізацыі касцёла, але з гэтай агульнанароднай думкай не палічыліся. Аднак народная справа была вырашана не ў інтарэсах народа, і паэт, як горкі фінал, апісвае зняцце звона і ўвязненне яго, што выклікала вялікае грамадскае абурэнне і ўзрушэнне. Матыў звона, спалучаны з канкрэтыкай рэчаіснасці і з купалаўскай традыцыяй апявання звону як сімвалу нацыянальнага адраджэння, цэнтральны ў вершы і з’яўляецца яго кульмінацыяй.

Звон з званіцы званіў, на ўвесь свет галасіў
Аб нядолі і крыўдзе балючай;
І збудзіў русняка — і збудзіў бедака —
Да жыцця і да працы кіпучай.

Верш Сваяка быў успрыняты як небяспечны і бунтарскі, а нумар «Крыніцы» з ім быў канфіскаваны польскімі ўладамі. Вострыя спрэчкі, што суправаджалі беларускі адраджэнскі рух у Другой Рэчы Паспалітай палымянымі водгукамі праламляліся ў вершах паэта, неслі палемічны пачатак і былі смелым словам пратэсту. Рэдка дзе яшчэ можна сустрэць такі напал пачуцця і энергію змагання, пераплаўленыя ў мастацкія радкі, якія не выглядалі голай аднадзённай публіцыстыкай, але ўспрымаліся як прарочае слова праўды аб народным лёсе і цернях яго гістарычных шляхоў. Па шырыні ўзнятых праблем творы Сваяка супастаўляльныя з творчасцю Купалы, у якога ён, як бачна, і сапраўды плённа і паслядоўна вучыўся.

Водгукам на байкот ксяндзоў у Лапеніцы, дзе вялася шырокая праца па беларусізацыі касцёла і асвеце народа, стаў верш К. Сваяка «Байкатаваным ксяндзам-беларусам», апублікаваны ўжо пасля смерці паэта ў кастрычніку 1926 г. З верша ярка струменіў грамадскі радыкалізм паэта, які мусіў выступіць наперад святара і прапаведаваць не грамадскі мір і згоду, але ваяўнічае жаданне змагацца за справядлівасць. А справядлівасці не было ўжо доўгі час найперш у адносінах да беларускай мовы, з-за чаго народ урэшце ніяк не мог дамагчыся годнага жыцця. Пытанне мовы для Сваяка і яго паплечнікаў было вызначальным, бо ад яго залежала далейшае жыццё і ўзнясенне беларусаў, што прадбачыў яшчэ раней Ф. Багушэвіч. Таму пытанне мовы займала такое вялікае месца ў святарскай, грамадскай і літаратурнай дзейнасці

паэта. Маленне аб роднай мове гучыць у вершы паэта «Пашлі мне, Божа…».

Пытанне беларускай мовы К. Сваяк узнімаў і ў сваім крытычным эсэ «Гутарка аб нашай простай мове» яшчэ ў 1915 годзе. Ён прынцыпова аспрэчваў выраз «простая мова» ў дачыненні да мовы беларускай, лічыў яго не зусім карэктным і сумна іранізаваў, што астатнія мовы, відаць, «чым-кольвек скрывіліся». У гэтай прастаце, або «людовасці»-народнасці, Сваяк параўноўваў родную мову з арамейскай, на якой «былі выказаны боскія навукі Няземскага Вучыцеля» — Хрыста, хоць у тыя часы стварэння новазапаветнай гісторыі найбольш прэстыжнымі былі мовы лацінская і габрэйская. «Багаслаўлю час, у каторы мы аглянуліся і зразумелі пекнасць і хараство мовы роднай, — пісаў Сваяк, — узяліся падняць яе жывую з дамавіны грабовай, даць ёй належнае мейсца і права, не стыдацца яе нідзе і ніколі, увесці яе ў паўсюднае жыццё сваё, пачынаючы ад найменшага (хоць бы лістоў беларускіх), а канчаючы на стварэнні формы, у каторай можна было б перадаваць рэлігійныя мыслі, перажыванні, рэлігійнае жыццё. Мэта вельмі далёкая, але ў правах здаровай логікі, поступу і справядлівасці».

Шукаючы адказ на пытанне, «чаму шмат беларусаў перастала любіць сваю родную мову?», Сваяк даводзіць: «Рэч тутака простая — бо яна стала сімвалам цемнаты і адсталасці». У такой сітуацыі перад Сваяком і яго калегамі-святарамі стаяла вялікая задача, можна сказаць, роўная па сваім тытанізме Скарынавай: Францыск Скарына, выпускаючы ў свет Біблію на старабеларускай мове, паднімаў яе да статусу абраных моў — моў, на якіх гучыць святая літургія, чытаецца святое пісьмо. У гэтым для Скарыны быў таксама папярэдні прыклад — святыя браты Кірыла і Мяфодзій, што такім жа чынам далучылі да шэрагу святых моў стараславянскую. За што былі ў свой час праследаваны, як, дарэчы, і Скарына. Новы этап узвядзення беларускай мовы ў статус літургічнай быў звязаны менавіта з дзейнасцю плеяды беларускіх святароў-адраджэнцаў, сярод якіх такі бліскучы энцыклапедычна адораны талент, як Адам Станкевіч, паэты і пісьменнікі Казімір Сваяк (Кастусь Стэповіч), Язэп Германовіч (Вінцук Адважны), Янка Семашкевіч (Я. Быліна), Андрэй Астрамовіч (А. Зязюля), дзясяткі таленавітых і самаахвярных святароў-прапаведнікаў, духоўных пастыраў (В. Гадлеўскі, Ф. Абрантовіч і іншыя), якія сваім прыкладам і служэннем вучылі беларусаў любіць і паважаць родную мову, а значыць паважаць сябе. Беларуская літургія ў касцёлах на пачатку XX ст. была адной з найвышэйшых праяў выніковасці нацыянальнага адраджэння, аднак, як і ў цэлым гэты рух, справа пасоўвалася адно толькі надзвычайным энтузіязмам асобных людзей, якія, не зважаючы на небяспеку і перашкоды, свята верылі ў справядлівасць сваёй справы і яе блаславёнасць Богам.

Рэлігійная і моўная праблемы ўспрымаліся як цесна злучаныя, а іх злучанасць мела вызначальны нацыятворчы і дзяржаватворчы сэнс. Вядомы расійскі славіст Р. Якабсон пісаў у сувязі з асветніцкай дзейнас-

цю святых братоў Кірыла і Мяфодзія: «Мараўская місія прапаведавала роўныя правы для ўсіх народаў і роўную каштоўнасць іх моў, перш за ўсё патрабуючы прызнання незалежнасці сваёй уласнай нацыі і мовы. Паколькі на сярэдневяковай шкале каштоўнасцей літургія сімвалізавала вяршыню, то і права выконваць царкоўныя службы на роднай мове сімвалізавала права таксама і на ўсе астатнія каштоўнасці»*. Такім чынам, увядзенне літургіі на роднай мове для беларусаў і ў цэлым беларусізацыя касцёла і стварэнне аўтакефальнай праваслаўнай царквы былі вельмі актуальнымі ў комплексе адраджэнскіх задач і бясспрэчна азначалі шлях да адраджэння ўсіх формаў нацыянальнага жыцця, у тым ліку і дзяржаўнасці. Менавіта таму з гэтай тэндэнцыяй так заўзята змагаліся тагачасныя польскія ўлады і царызм.

Але ж з цяжкасцямі справа адраджэння рэлігійнага жыцця на роднай мове пашыралася на Беларусі ў 1910–1930-я гады, дзякуючы нястомнай працы беларускіх святароў-асветнікаў, — яны чыталі беларускія казанні падчас літургіі, складалі беларускія малітоўнікі, выдавалі па-беларуску кнігі Бібліі, рыхтавалі касцельныя спеўнікі і рабілі шмат іншай падобнай працы. Менавіта самаахвярнай дзейнасці сваіх калег ксяндзоў-адраджэнцаў прысвяціў К. Сваяк палымяны і таксама палемічны верш «Ксяндзам-беларусам»:

Сумліваў вязніцу вы кінулі пад ногі,
Калі азваліся з ідэяй да людзей:
— *З народам Богу*! — нет другой дарогі,
Як мыслі ні сушы, як з посту ні мадзей…

Такім чынам, як бачна, Сваяк як паэт-публіцыст і як святар падкрэсліваў найважнейшае значэнне служэння народу ў злучнасці рэлігіі і мовы. Менавіта ў гэтых формах уласнай моўнай і рэлігійнай творчасці, як лічыў паэт, можа развівацца народнае жыццё, у адрозненне ад бяздушнай і бязбожнай «народнай справы» сацыялістаў. Менавіта ў гэтым для Сваяка была вышэйшая мэта, калі служэнне народу звязвалася са служэннем вечнасці, а не аднадзённай карыснай патрэбе. Ізноў для яго аказваліся актуальнымі і сакраментальнымі словы Ф. Багушэвіча «не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі», якімі ён кіраваўся і ў эстэтычным і ў этычным плане. Уцаркоўліванне ж беларускай мовы, калі б яна стала афіцыйнай мовай Царквы і Касцёла, адназначна вырашала б пытанне і з умацаваннем нацыянальнага статусу беларусаў. «Людцы прывыклі клясці толькі долю сваю і грашыць па-беларуску, вось дзіўным здалося, што можна і хваліць Бога гэтай мовай, каторая годная ўзгарды ў вачах паноў усіх гатункаў і падпанкаў, — з сумам заўважаў паэт у дзённіку, калі апісваў, як ён "прамаўляў па-беларуску" ў Лапеніцы ў 1919 г. — Нечаспадзявана

* Якобсон, Р. Работы по поэтике. — М. 1987. — С. 56–57.

добрай душой была выслухана прамова, хоць колькі асоб з мясцовай шляхты спачатку ўсміхнуліся, што “папросту” аб Богу стаў вучыць».

Глыбокая і свядомая адданасць народнай справе К. Сваяка, які высунуў свой галоўны тэзіс «З народам для Бога», і ў адзіны шэраг ставіў праблемы мовы і веры, абумовілі «уніянізм», аб чым мы пісалі вышэй, як цэнтральны матыў яго светапогляду, а таксама праяснялі больш шырока экуменічныя погляды паэта, які нашмат апярэджваў свой час. Будучы каталіцкім духоўным дзеячам, К. Сваяк натуральна прыйшоў да вызнання уніі як адзінай магчымай версіі хрысціянства для Беларусі дзеля захавання яе нацыянальнай самабытнасці і недатыкальнасці. Экуменічныя погляды паэта былі настолькі шырокімі і закраналі такія глыбінныя пласты народнай культуры, што ён уключаў у сваё паняцце «сынтэзы вер» і дахрысціянскі культ. Свой верш-крэда «Веру нярозуму проці…» ён пачынаў з пытання: «Хочаш ты знаць, якую веру сам прызнаю і песняй апяваю…» Такі зварот адразу ж настройваў на тое, што існуе нейкі апанент ці слухач, якому тлумачыцца пазіцыя аўтара. Гэтая пазіцыя была надзвычай смелай для каталіцкага духоўніка, бо яна ізноў жа падкрэслівала глыбокую народнасць яго светапогляду:

Я веру ў нейкае вяліко Аб’яднанне,
Ці як завуць яго з лаціны «Уньёнізм»:
І ў Перуна крывіцкага прызнанне, —
І ў хрысціянскі зноў святы натуралізм…

Паэт растлумачваў, як ён разумее асаблівасці народнага веравызнання і сваю «сынтэзу вер»: «Сварог, Дажбог, Стрыбог — асобы Бога, праявы летам, восенню, зімой». Сваяка як святара нельга папракнуць за «веравызнаўчую ўсёстраўнасць» або бязвер’е. Ён ведаў глыбіні народнага жыцця, традыцыйную культуру беларусаў, і ў той жа час гэта не пярэчыла таму, што ён быў глыбока веруючым хрысціянінам-католікам, пакліканым любіць бліжняга і служыць яму. Экуменічная талерантнасць выводзіла паэта ў перадавыя мысліцелі свайго часу, але, бясспрэчна, спараджала вакол яго імідж ледзь не блюзнерцы і багаборцы, які на самой справе не верыць, хоць служыць святаром. Папрокі ў «няверы» сыходзілі нават ад вельмі паважаных людзей, праўда, далёкіх ад хрысціянска-дэмакратычнага кола.

Так, вядомага заходнебеларускага публіцыста і крытыка Антона Луцкевіча дакаралі ў свой час за тое, што ён нібыта рабіў з Казіміра Сваяка «нейкага бальшавіка-атэіста» і трактаваў яго некаторыя вершы як сведчанні бязвер’я паэта. У абарону паэта ў «Беларускай крыніцы» з’явіўся артыкул «К. Сваяк як паэт рэлігійны», падпісаны псеўданімам Светазар, які належаў таксама вядомаму публіцысту Макару Краўцову. Галоўныя развažанні А. Луцкевіча (А. Навіны) былі засяроджаны вакол верша «Айчыны мілай…», у якім паэт выказваў шмат любові да бацькаўшчыны і трывогі за яе лёс. Бачачы, як драпежныя сілы ця-

рэбяць пакутную беларускую зямлю і беларускі народ, паэт адчуваў сябе няшчасным і бяссільным зрабіць нешта выніковае, каб выратаваць сітуацыю. Яго смутак проста на мяжы з адчаем. Але гэта не было бязвер'ем. Макар Краўцоў, тлумачачы трагедыйны пафас верша, назваў гэта «момантам патрыятычнага адчаю». Апраўдваў Макар Краўцоў і сацыяльны радыкалізм паэта: «Што кс. Сваяк, як сын селяніна, адчуваў "драму працоўных", сацыяльныя кантрасты і панаванне права дужэйшага на свеце, — не падлягае сумневам, але ўсё гэта зусім не пярэчыць прынцыпам рэлігіі, якая згаджаецца на пэўны радыкалізм у справах грамадскіх».

Такім чынам, «момант патрыятычнага адчаю» К. Сваяка не адмаўляў яго глыбокай рэлігійнасці, але сведчыў толькі пра сілу і моц яго паэтычнага пачуцця, а таксама пра рамантычную арыентаванасць яго таленту, блізкую да купалаўскай і міцкевічаўскай. У тым жа вершы «Айчыны мілай…» ён малюе абуджаны і стваральны народны дух, які збудуе ўрэшце «на зломах» айчыну і перадасць свой сімвалічны тэстамэнт сыну, «каб не змалела Айчыны ідэя». Святарскае пакліканне і пасвячэнне К. Сваяка, на нашу думку, ніяк не пярэчылі яго выдатнаму паэтычнаму таленту. Патрыёт у ягонай асобе не пярэчыў святару, а святар не замінаў быць патрыётам, выказваць свае пачуцці і настроі, зведваць трагізм гістарычнага бяздоння Беларусі і марыць аб яе будучыні з вышыні свайго грамадскага ідэалу.

А ідэалам быў Народны Дом як сімвал дзяржаўнасці, будучага годнага існавання краіны. Такая сімволіка нацыянальнай ідэі ў творчасці К. Сваяка якраз цесна лучылася з хрысціянскай традыцыяй. У вершы «Айчыны будаўнічым наёмным» паэт пісаў пра адбудаванне «Народнага Дому», у якім «сам Бог… бярвенні залажыў». Ён палемізаваў горача і гнеўна з тымі, хто гандляваў інтарэсамі Беларусі, называў іх «сынамі прыблудаў», «дзецьмі лгарства», «чмуціцелямі народнай прастаты». Сваім выкрывальным пафасам верш ізноў жа нагадваў палемічныя творы Янкі Купалы (напрыклад, верш «Ворагам беларушчыны»). Сваяк выкрываў падступныя жаданні розных апекуноў Беларусі, якія, прыкрываючыся фразамі аб братэрстве, імкнуліся навязаць тут будоўлю па сваім узоры: «Усход-Заход заспорылі над намі, вучыць бяруцца дом той будаваць…» Сваяк у вершы адстойвае бясспрэчную каштоўнасць суверэннай Беларусі, што з'яўлялася з маральна-этычных пазіцый адзіным справядлівым рашэннем.

Фактычна К. Сваяк сакралізаваў Беларусь як месца народнай сатворчасці духу і арганізацыйна-палітычных высілкаў, якія дадуць магчымасць замацавацца гэтаму духу ў рэальных формах дзяржаўнага будаўніцтва. Бог, як вядома, залажыў на камені сваю Царкву. Менавіта да Царквы, да святога Храма, прыроўніваў Сваяк Беларусь, падкрэсліваючы тым самым святасць справы нацыянальнага адраджэння. Дык як жа можна разрываць у яго асобе паэта і святара,

супрацьпастаўляць святарскаму пакліканню яго бунтарства супраць нацыянальнага заняпаду і жаданне бачыць сваю краіну вольнай, эканамічна і палітычна моцнай, а народ адукаваным і заможным

Патрыятычнае і рэлігійнае служэнне, узаемадзейнічаючы і ўзаемадапаўняючы адно аднаго ў асобе паэта-святара, прымушалі яго шукаць няпростыя адказы на маральна-этычныя пытанні, пагадняць у сабе святарскае і змагарскае пакліканне. Сутнасць асноўнага пытання была ў тым, ці прымаць як дадзенасць нядолю роднага краю, ці змагацца супраць яе. Вось уласна ў гэтым змаганні і абвінавачваўся Сваяк як «парушальнік» Божай запаведзі аб несупраціўленні злу гвалтам. Аб гэтым ён разважаў у вершы «На крыллях…».

На крыллях думкі я ляту стралой
Туды, дзе край мой родны-слёзны
Паглумлены паганаю рукой,
Загнаны, цэлы век трывожны…
Ты, Божа, рассудзі: чаму народ мой бедны
Праз век гніе у цьме, ў няволі беспатольнай,
Скажы — няўжо прыказ Твой запаведны
Пакорным быць падан душы бязвольнай?!

Паэт не прымаў пакорлівага цярпення, заняпаду, што ўрэшце пярэчыла прыродзе існавання свабодных істотаў: і асобнага чалавека і асобнага народа. Цярпенне ў гвалце ёсць адпаведным хрысціянскай пакуце, якую цярпелі Хрыстос і мучанікі. Але ж пасля цярпення было ўваскрасенне. Лёс беларускага народа таксама ўспрымаўся адраджэнцамі ў хрысціянскай інтэрпрэтацыі — у чаканні ўваскрасення. К. Сваяк, вызнаючы хрысціянскую веру ва ўсіх яе новазапаветных пастулатах, у паэтычным тэксце дазваляў сабе разважаць аб святасці справы барацьбы з ворагамі:

Народзе мілы мой! Цяпер ужо не знаю,
Чым маеш ты каваць цяжкую сабе долю:
Дабром за зло плаціць (што ў сэрцы я хаваю),
Ці ворага душыць ў крыві — ў вагні — ў вуголлі…

Гэты верш паэта нагадваў старазапаветны плач Ераміі.

Пры гэтым, як можна заўважыць, сам паэт падкрэсліваў сваю настроенасць на хрысціянскае ўсёдараванне. Паэт пастаянна адкрываў сябе ў дыялогу з Нябёсамі — з Богам. Яго душа была ў вечным пошуку дасканаласці і зведвала хвіліны роспачы ад таго, што дасканаласць немажлівая ў рэчаіснасці, дзе пануюць прыгнёт, гвалт і распуста. З аднаго боку, яго захапляла і ўражвала прыгажосць Богам створанага свету: «І багаслаўлю, Божа, Твае дзівы у формах праявы і ў зменах часу». З другога боку, ён бачыў гаротнае жыццё народа, нацыянальны ўпадак Беларусі. Хоць чуў сябе бяссільным што-небудзь перамяніць

у гэтым суцэльным заняпадзе, але тут жа вышукваў альтэрнатывы — «іскры надзеі» — што ўзнімалі спакутаваную душу, як птушку-фенікса з попелу, поўнілі яе верай у абноўлены беларускі край:

Ідзе вось ясная пара,
Праўду свеціць нам зара,
Айчызна — Маці — Беларусь,
Гарой, Жыва!

Гэтыя ж радкі з верша «Гімн роднай зямлі» ў якасці эпітафіі выбіты і на надмагільным камені Казіміра Сваяка на могілках Роса ў Вільні — як сведчанне неўміручасці і змёртвыхустання Беларусі і яе песняра.

Такім чынам, у паэтычнай творчасці К. Сваяка выразна спалучаліся нацыянальна-патрыятычныя і рэлігійна-філасофскія матывы, што рабіла яго паэзію унікальнай з’явай у беларускай літаратуры 1920-х гадоў, а самога паэта велічнай самаахвярнай постаццю нацыянальнага адраджэння.

*Ірына БАГДАНОВІЧ*



# МАЯ ЛІРА

## I

### МЕСТ ПРАДМОВЫ

Не пішу я для забавы,
Ні для бліхтру[1], ані славы,
Ні на смех табе, бязверца, —
Пішу я, бо плача сэрца.

Сумна страшна думкі рвуцца,
Ў сіню даль, як рой, нясуцца,
Ў ціхі гай, дзе ўсенька чуе, —
На прыгон, дзе брат гаруе.

Злажыць песню ледзь умею,
Ад тых думкаў аж мадзею,
Сэрца мне агнём палае,
Аж загублена сканае.

Прачытай жа маю «Леру»,
Бо я сам сабе не веру,
Ці пісаць мне, ці стрымацца,
Каб на здзек чартом не дацца.

### СОНЦУ ЎЗГОРНАМУ…

Сонцу ўзгорнаму, што свеціць кожнаму,
Месяцу блуднаму, ў загадках труднаму,
Гвездкам нябесным
Байкі пішу.

Душы збалелай, з мук ашалелай,
Духаві цёмнаму, ад веку соннаму,
Цела крывавага
Путы крышу.

Музе пудлівай, сумам шчаслівай,
Ледзь пазнаванай, неадгаданай,
Сэрцу пламеннаму
Песні нясу.

## ПЕСНЯ НА ПСАЛЬМ 130

Не было гордым сэрца маё, Божа,
Не вынасілась пыхай маё вока…
Чом жа нядолю сэрца мне варожа?
Чом зор у сумнівы задаўся глыбока?

Між сільных свету не шукаў апекі,
Былі мне гідкі забавы ягоны…
Чаму ж сягоння я кволы-калекі,
А дух панёсся па зломах шалёны!

Чуўся пакорным ў глыбіні істоты,
Душы не чмуціў фальшываю хвалай…
Сёння не маю да жыцця ахвоты,
Перад ўсямоцнай злыбеды навалай.

Як адарваны ад грудзей дзяціна,
Адкінен дух мой ад Божага ўлоння,
Як ліст пажоўклы, сухая галіна,
Як пазабыта беднага загонне…

Ці безнадзейны, замучаны, збіты
Дух мой устане? Ці зваліцца слабы!
Ніколі, Божа, Табой я не сыты:
Нават і ў пекле цябе прызываў бы…

## ПЕСНЯ НА ПСАЛЬМ 62

Ледзь толькі блысне на небе зарніца,
Дух мой, о Божа, на Цябе чакае,
Душа жадае як дожджу травіца
І цела з стогнам да Цябе ўздыхае.

Ў сухой зямельцы бязводнай і труднай,
Залітай жагай палудняга сонца,
Цябе шукаю ў дарозе блуднай,
Да Твайго ўлоння сумую бясконца.

Шляхам цярністым жыццё агартаю,
Руку цалую Твайго змілавання,
Твой Огляд вечны гімнам апяваю
І веру сёння ў духа змертвыхстанне.

І багаслаўлю, Божа, Твае дзівы
Ў формах праявы і ў зменах часу —
І сваё рукі кволы і лянівы
Ўзнашу у неба за айчыну нашу.

І бедну душу маю ажыўляе
Поўнасць прастораў гвезднага космасу,
Цуднай мелодыі голас мой шукае,
Каб запяяці гімн Творчаму Лёсу.

І не забыці Цябе аніколі:
Ці ў ложы мяккім, ці цвёрдай пасцелі,
Адкрыці мыслей шляхі Тваёй волі
І Тваю помач спазнаці у дзеле.

Радасць мне сэрца агнём запаляе,
Што не пазбыўся Тваёй я апекі:
Твой Дух прадвечны мяне атуляе,
Цябе я прагну, Божа мой, навекі.

## AD TE LEVAVI…[1]

Узнашу я вочы у неба да Бога
І як служэбнік на Яго узіраю:
Ён абароніць мяне ад благога,
Бо міласэрдзя ад Яго чакаю.

О Божа, Божа, спашлі змілаванне
Над Тваім людам, што поўны нядолі,
Бо ўжо ж ён просіць даўно змёртвыхстання.
Каб выйсці з крыўды, з грэху і няволі.

Чужынец люд Твой аддаў на спакусу,
Каб з яго сэрца выгнаць Цябе, Божа.
Хай кроў бязвінных, да грэху прымусы
Пабудзяць гнеў Твой на народ варожы.

Збудзі, о Божа, люд Твой паднявольны
На труд свабодны, на ласку спакою,
Узглянь ягоны лёс цяжкі-мазольны,
На хлеб, мяшаны з горкаю слязою.

Устань, о Божа, — зорам сваёй моцы
Сакруш нячыстых працу рук паганых,
Абагаслаў свой люд бедны рабочы,
Як маці кволых дзетак мілаваных.

## ШЧАСЦЕ

Птушцы да шчасця — вольнасці трэба,
Да шчасця краскі — яснага неба,
Дзіця шчаслівa — на руках маткі,
Бяздольны рвецца — да цёплай хаткі.

Мудрага шчасце — веры шуканне,
Шчасце паэта — шчыра каханне,
Струджаным думкам — трэба спачынку,
Сэрцу збалеламу — вясны ўспамінку.

Для ўсіх жа людцаў, дзе ёсць іх колькі,
Аднаго трэба на свеце толькі —

Без чаго свет наш — блудна дарога:
Усім для шчасця патрэба Бога.

## «НЕ ПАМЁР: НАРАДЗІЎСЯ»

...*Я* знаў яго. Быў у цвеце лет: жывога, бойкага, жвавага настрою. Быў прыгожы. Мог гладка гутарыць, меў здаровы гумар, быў мілага характару. Часта любіў ездзіць паляваннем: як птушка вольная гойдаў тады па полі і лесе. Любіў прыроду і знаў яе хараство. Адзінотай не гардзіў — каб углыбляціся цэлай істотай у творы містраў мыслі і слова. Умеў журыцца і рвацца да шчасця надземнага, бесканцовага, чыстага як Сам Дух ёсць чысты: шчасця амаль няўхватнага.

* * *

Пасля кінаўся ў вір свету, каб даці выхад сабранай сіле. Свет благі збэсціў чыстую душу яго, спутаў лётную мысль яго: абвеяў сваёй сумлівасцяй і пустатой, убранай на колер мастацтва і навукі. Называў сябе мудрым, хаця не быў ім на дне свайго сумлення. Пісаў правы Самому Стварцы, хоць не спазнаў не толькі глыбіні права ўсясвету, але і бяздоння сваёй нічогасці. Калі згубіў спакой душы, стараўся падаць у сумнівасць сам быт Духу. І раздвоіўся ў ім дух з душою і забіў ён Бога ў сумленні — на самым дне існасці сваёй.

* * *

А за ім ішла малітва: тут на зямельцы і ў прасторах горных свету надпрыроднага. Сэрца яго рвалася яшчэ да Ідэалу. Хацеў быць карысным для Супольнасці-Грамадзянства. Спасаб на гэта: навука, праца. Так працаваў безупынна, коштам нават фізічных сіл, каб толькі здабыць сабе славу, пакінуць памяць трывалую, заўсёдную. І стаў чалавекам вядомым, выбіўся спаміж раўні сваёй. Відзеў, як цэлы натоўп людзей ідзе пад яго загадам, і радаваўся. Раз толькі чапіла яго няміла неяк думка вялікага песняра: «Мысліш быць неўмірушчым праз учынак дзельны? А хочаш ці не хочаш: будзеш бессмяртэльны».

Але не страпянуўся, не прачнуўся дух ягоны. Думка счэзла, як зарнічка пералётная, як апошняя касулька вячэрняга сонца.

* * *

Сумна дрэўцу — буйнаму і моцнаму на вока, — калі мае ў сэрцы сваім чарвяка, які нязначна яго надгрызае і даводзіць звольна аж да смерці. Цяжка чалавеку, калі мае ён у грудзях сваіх зачаткі хваробныя — жывучкі смяротныя крэпкі, здаровы склад арганізму вядуць да раскладу. Дрэнна чалавеку з целам затрутым, горай — калі душа мадзее ад журбы і сумніваў, найгорш, калі лучыцца першае і другое разам… Ён быў хворы падвойна. Разгон надмерны, каб здабыць навуку і славу, прывёў яго да кволасці фізічнай. Таемная чэсць для бяздушнага матэрыялізму зрадзіла нядуг горшы: выстудзіла і зусім зніштожыла жыццё рэлігійнае, заводзячы ў душы канцовую безнадзейнасць. Як ранены звер, кідаўся тады дух ягоны, шукаючы патолі. Але крыніца жывой вады высахла, а новай знайсці не меў ён ужо сілы.

* * *

Уміраў маладым… Заяснеў у жыцці гэтым на хвіліну — як метэор — каб згаснуць на вечнасць. Яго чало белае мела адцень бязмерна сумны. Хворны румянец на твары, як пурпура заходняга сонца, быў знакам глыбокага цярпення: а можа, гэта быў сарамлівы стыд тэй зманнасці, за якой гнаўся дагэтуль. Бліскучыя палам вочы, каторыя млосна звярнуў на дарагія сэрцу істоты, поўныя былі слёзаў і нямога жалю. Маўчаў доўга… Аж вось з сілай небывалай застагнаў голасна: «Бога мне!..»

* * *

На ўзгорку магільным сумна шумяць дрэўцы, кідаючы фантастычныя цені на капцы з крыжамі. Цішыню парушае толькі гульба ветру, які, зрываючыся часам сільней, варушыць былінку, траву і падымае сухія лісточкі. Ціш, таемная, неадгадная, наводзіць на кожнага дрыготу. Селянішча жыўшых… Тысячы, мільёны… Жылі, любілі, шукалі праўды, хараства, шчасця… Няўжо кончылася ўсё толькі жменяй попелу? Няўжо ж бытаванне валадара зямлі так марнае і бязмэтнае?.. Месяц спакойна спаглядае навакол зімным вокам сваім. Ціхі пагляд кідае ён у кожны куточак, да кожнай зацені: як бы сваім слабым святлом хоча раз’ясніць-адкрыць тайніцу быту. На магільнай каменнай пліце відаць напіс: «Не памёр: нарадзіўся».

## АРГАНЫ ЖАЛЯЦЦА…

…Тоны арганаў слёзы наводзяць на зрэнкі мае. Льюцца жальбы — як тыя воды вясновай парой…

Сынок мой родны, адзіночак мой! Табе іншая музыка іграе: свіст куляў, гром гармат, лязг шабляў, трэск карабінаў, стогн раненых… Божа ж мой, ратуй маю пацеху! Ён згіне ў гэным пекле. Во і арганы загаласілі, як бы гаруюць па кім…

Слёзы мае, слёзы, адыдзіце ад мяне. Не зможаце выліць вы тэй жальбы, што набалела на сэрцы. Не вернецца сын мой — адзіночак, не ўстане з магілы, сябрамі прыціснены: чуе маё сэрца. Злучыцца дух ягоны з братавым, той мяне асіраціў нядаўна, пакінуў адным на свеце: ах, чуе нядобрае маё сэрца. Мальвіся мая, Мальвіся! Пачуй ты ў сваёй дамавіне грабовай той енк, што рве мне грудзі безнадзейна!.. Чаго вы стогнеце, арганы? Мальвіся вас не чуе: яна ад вясны ўжо ў Бога… Яна пытаецца Божухну, дарагонькая, чаму адабраў Ён жыццё маладому Янку? Умалі Яго, каб не браў да сябе апошняга сыночка, каб міналі яго кулі смерцяносныя, пошасці страшэнныя, голад і холад балючы…

Божанька! Як тут многа святла, дым кадзільны наводзіць дзіўныя мары. Чаму сонца, крадучыся з вакна, крывавіць усё — і гэтыя звоі дымоў, і абразы, і алтар, і ахвяры? Кроў, усюды кроў — і слёзы мае з крывёй… Арганы жаляцца і хліпочуць… Няўжо гэта жальба да Бога? Чаму, чаму гэтак упакорыў нас, Божа? Чаму мы ўсе так нешчаслівы? Чаму так усе нас губяць, а і мы самі губім сябе? Няўжо грэх наш так вялікі, што патрэба аж гэткай пакуты? А мо Ты і Сам згубы нашай шукаеш? Ці ж вечна панаваць у нас будзе людская завісць і злоснасць? Калі ж адвядзеш ты ад нас благое вока чужака? Ці ж мы будзем вечна пасынкамі ў людзей благіх? Божа, Ты не маеш літасці над грэшным нашым народам, а за тое не маеш, што мы грэху свайго не пазналі… Вазьмі і сына майго на ахвяру! Божа, не дазволь мне блюзніць!..

Кончыцца Бяскроўная Ахвяра. Ксёндз чытае апошнія малітвы. Арганы вядуць урачыстую гармонію: казаў бы зашумела пушча ад ветру, загаварыў бор, гоніць вецер удалечыню ўсенька… Асушы ж Ты, Божа, слёзы мае; прымі іх як малітву, бо інакшай я не знаю…

Барані «ад мору, голаду, вайны і пошасці».

## З КНІГІ ВЫСШЫХ АСЯГНЕНЬ ДУХОВЫХ

Свечкі на алтары ледзь лыпаюць. Адпраўляецца вячорная малітва Радаўніцы Маёвай. Пах кветкаў і кадзіла. Шэпты жальбы і пакуты. За вокнамі містычны говар тапалёў і бяроз. Паўцень спавівае касцельную наву[1]. Хрыстус з крыжа сумным зорам спаглядае на пакору людскога грэху: дарэмна — здаецца — агарнуць сіліцца свет акрываўленымі рукамі.

«Божа, сямейку пабожных багаславі».

У глыбокай нішы пры алтары Пацяшэння спавядаюцца… Старцы — дзецюкі — дзевы — дзеці. Затоплены ўсе ў немай кантэмпляцыі. Думаюць над загадкай свайго быту, а мо толькі стараюцца думаць. Слухаюць голасу сумлення, вынаходзяць памылкі розуму, і слабасць волі, і капрызы зманнага ўчуцця. Зор стрывожаны заглыбіўся ў тайніцы адвечныя, ледзь адчутыя сэрцам збалелым, ледзь даступныя кволай волі людской.

«Божа, будзь мне, грэшнаму, міласцівым».

Спавядаюся. — Не помні, о Божа, майго грэху думкамі споўненага, намерам дакананага: вінен — вінен — вінен. Не помні, Божа, грэху словам споўненага, чынам дакананага: вінен — вінен — вінен. Не помні, Божа, зла дапушчанага, дабра недакананага: вінен — вінен — вінен.

«Разграшы, Ойчанька, калі можаш».

Адышоў апошні. З-за філяра сунецца яшчэ адна постаць: ціха-звольна, як мара. Кволасць дзіўная вее ад яе. «Хто ты? Чаму нічога не кажаш?» — «Грэх мой ты ведаеш». — «Ты даўно спавядалася?» — «Я спавядаюся вечна: грэх мой ты ведаеш». — «Чаго ж ты ад мяне жадаеш?» — «Нічога мне не трэба: грэх мой ты ведаеш». — «Хрыстэ-Езу, скажы ж мне, хто ты?» — «Я душа твая, ты стварыў мяне: ты дух творчы, — грэх мой табе вядомы».

«Божа, зжалься над душой пакутнай чалавека».

Сцень нікне, развейваецца. Зор толькі палае здалёку: пунктам светляным занікае ўдалячынь. Шопат і жальба сціхаюць у святыні. Ледзь чутны апошнія тоны хорнай гармоніі. Тайнічна мігоча лямпачка прад алтаром Жывога. На сцяне адбіваюцца неспакойныя цені-мары. Між імі віджу фігуру нахіленага маладзёна з тварам у далонях. Хрыстус пахіляе над ім акрываўленыя рукі, разгартае яго кудры, цалуе яго аблічча.

«Божа, справядлівы загады Твае».

## З КНІГІ МУДРАСЦІ

Сэрца дурнога — збітое начынне:
Ніколі не ўдзержыць разумнага слова:
Павер лепей тайну нямое скаціне,
Бо слухаць цябе хутчэй будзе гатова.

Паслухай! Жыццё тваё, мілы мой браце,
Як лёт той пташыны, што ў ветры гуляе:
Паветра зышлося і як угадаці —
Дзе лёт быў, пашто і куды ён знікае.

Хай будзе рука твая быстра ў даванні,
Не будзь уважлівы ў чужыя насмешкі,
Умей мужаваці у мудрых сабранні,
А праўду кажы без ніякай абмежкі.

Бо слова тваё — цябе асуджае,
Аблічча і ход твой — здраджае тайніцу,
І думкі благія сам Бог пакарае,
А словы гідкія — ведзьмы багавіцы.

Не дайся на чары змянлівай жанчыны,
Будзь верны у змове, у намерах чысты,
Не здрадзь аніколі сваёй ты дзяўчыны,
Будзь бойкі ў забаве, ў трудзе мазалісты.

І Богу маліся, а сэрцам адкрытым,
Не будзь ты пакусай сабе, ні другому,
Хай дух у малітве будзе працавітым,
Тайніцаў сумлення не здрадзь анікому.

А мо цябе хваляць, будзь вось асцярожны,
Бо гэта прабуюць падатнасці волі;
Хай дух твой не дрэмле у зманнасцях розных.
Не будзь асавелым нідзе і ніколі.

## II

### ГІМН РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Зямліца прошласці ціхой,
Крывавай спісана рукой,
Айчына — Маці — Беларусь,
Цяжкі лёс Твой.

Паклон с трудом Тваёй дружбе,
Паклон за волю барацьбе,
Айчына — Маці — Беларусь,
Паклон Табе.

Жалосна плача песнь Твая
І Бога моліць, слёзная,
Айчына — Маці — Беларусь,
Ты родная.

Ідзе вось ясная пара,
Праўду свеціць нам зара,
Айчына — Маці — Беларусь,
Гарой, Жыва!

### НА ГАДАВІНЫ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

І Вялікі дзень. Казаў бы Хрыстус
Сваёй дзень смерці непавіннай
Злучае ў звязак тайны — дзіўны:
На гэты год, на гэты дзень.

Кальварыю прайшла Русь Бела,
Крыжамі значана усюды,
Магіл без ліку — жэртв прыблудаў:
У гэты год, у гэты дзень…

А іншай песні не пачуеш,
Як толькі стогн, жальбу, скрыготы:
Палын расце, цвітуць асоты:
У гэты год, у гэты дзень.

Ўсе наругаліся даволі,
Судом Пілата пакаралі,
Адзеж дзялілі, воцт давалі:
У гэты год, у гэты дзень.

Прад вокам свету крыжавалі
Вучоныя і фарысеі,
І кніжнікі, і садуцэі:
У гэты год, у гэты дзень.

І страж паставілі цяжкую:
«Не ўстане з мёртвых аніколі.
Верыла ў Бога… Яго воля
Не ў гэты час, не ў гэты дзень».

Не верылі, што душу мае,
Над целам здзекі учынілі,
У цвёрдай скале палажылі:
У гэты год, у гэты дзень.

Прабілі сэрца, рукі ногі,
Між неразумных палічылі,
Абрабавалі, абяднілі:
У гэты год, у гэты дзень.

Змілуйся ж, Божа, ты над ёю,
Не дай у гробе век ляжаці,
Пазволь да жыцця ёй устаці:
У гэты час, на трэці дзень.

## АЙЧЫНЫ МІЛАЙ…

Айчыны мілай зор на сабе чую,
Куды ні пайду з самлелай душою;
Айчыны слёзнай праклёны лічу я:
Ратунку кліча — «Ратуйце з разбою!»

І над Айчынай, і над сабой плачу,
Што памагчы ёй — я хворы, бяссільны;
Што словы горкі надарма я трачу:
З душ нашых вее холад замагільны.

Зор мой дарэмна шукае выбаўцы,
Не віджу сільных між браці паганай, —
І не чакаю з рук Божага Даўцы
Ужо збаўлення з долі апляванай.

І толькі ў самым бяздонні няверы
Іскра надзеі ў попеле тлее:
Іскра надзеі, што рана без меры
Долі народнай душы разагрэе.

Іскра бязвольна пажарышчам стане,
Аж твар схаваюць нябесныя зоры,
І дух народны адважна паўстане:
Раўняці будзе даліны і горы.

Будаваць будзе на зломах Айчыну
Рукой магутнай з агнём Праметэя,
А сам як згіне, дасць тэстамэнт сыну,
Каб не змалела Айчыны ідэя…

## БОЖА, ЗЖАЛЬСЯ…

Пушча дзе шуміць журліва,
Галлём хоча свет абняці,
Дзе народ глядзіць пужліва
І дзе плача мая маці —
Там нясуся думкай сумнай
З вачмі, злітымі слязамі,
З музай ціхай, з лірай струннай:
«Божа, зжалься Ты над намі!»…

Бор дзе сіні здаль віднее,
Дзе ўзгоркі, яры, нівы,
Дзе мой брат з бяды марнее,
Хоць цвярозы, нелянівы —
Туды нясуць мяне думкі,
Там край родны. Там мы самі
Бярэм лёс у свае рукі.
«Божа, зжалься Ты над намі!»…

З музай вёску ужо бачу,
Ліру трыумфальна строю,

Божа мой, чаго ж я плачу,
Чом не маю супакою?
Муза шэпча мне тужліва:
«Бачыш, шчэ чужынцы з вамі,
Вы не браліся рупліва»…
«Божа, зжалься Ты над намі!»…

«Вы не браліся рупліва
Долю-волю будаваці,
Вы цярпелі ўсё маўкліва,
Толькі ўмелі праклінаці —
Гартам дух ваш змацаваўся,
Але сваркі ўсё між вамі,
І сусед вам не удаўся!»…
«Божа, зжалься Ты над намі!»…

## ЗАГЛЯНЕ СОНЦА…

Загляне сонца ў наша ваконца[1],
Хатку асвеціць праменьмі —
Па цёмнай ночы ажывіць вочы
Боскім да працы натхненнем.

Позна мы ўсталі і шмат праспалі,
Гойдалі злыдні нам долю —
Пяялі песні нам напрадвесні,
Песню патолі ў няволі.

Заход смяяўся — каб ён даждаўся,
У лапцёх што з труду мы спалі —
Усход нас мучыў цяжка — балюча:
Хацеў, каб з душой мы прапалі.

Абы балота, будзе ліхота:
Дзёрлі нас нянькі начніцы —
Аж да жывога — мо з волі Бога —
Кроў аж зрасіла зямліцу.

Аж застагнала зямля у падвалах,
Неба пакрыў бляск агняны —
З болю зямліцы, з крыві крыніцы
Брат наш збудзіўся русняны.

Асвеціць сонца яго ваконца,
Злуду мар сонных развее —
І выйдзе з плугам ён саматугам,
Родненьку ніву засее.

Груган з Усходу, а крук з Заходу
Дарма там жыру шукае —
Бо зерне спорна, у волю прасторна,
Хутка пад неба ўзрастае.

## ОЙ, НА РУСЬ ДЫ БЕЛУ…

Ой, на Русь ды Белу груганы ляцелі,
Неба засланілі — на зломах паселі;
Зорам неспакойным кругом спаглядалі:
Там косці бялелі, як пена на хвалі…
Як пена на хвалі па ўзгорках косці —
Ой прайшлі зямельку, крывавыя госці!
Скалыхнула бура бяздоннае мора,
Прычыніла людцам страшэннае гора.
Аддыхнула бура, сонца паказала,
А трупа кляваці груганоў паслала…
Паселі на зломах няпрошаны госці;
Дзяўбалі трывожна беларускі косці.
Зашумелі пушчы, застагналі нівы
Ад тэй груганoвай-пякельнай спажывы…
А во страпянуўся род той груганoвы!
Быў здалёку чутны гоман нейкі новы.
Дзівам здзівавалісь няпрошаны госці,
Бо з зямлі паўсталі беларускі косці…
Ой вы летуценні, ой мае ж вы мары!..
Каб усталі косці — непатрэбны чары:
Слязой палівайце вы родную ніву,
Трудом церабіце вы бор гутарлівы,
Аж пачуйце голас з касцей айцоў вашых —
Груганоў ён спудзіць маскоўскіх і ляшых…
Дасць Бог калісь будзе люд народу братам,
А русняк маскоўцу да лехіткі сватам!..

## О, КРАЙ МОЙ РОДНЫ!..

О, край мой родны! Куды я ні гляну,
Дзе лёс мой дзіўны мяне ні закіне,
Што-колеч думкай сваёй ні закрану:
Са мной ты ўсюды у кожнай гадзіне.

Мо гэта маці так зачаравала
Сваёю песняй над ложам дзяціны,
А мо зязюля так накукавала,
А мо чар гэта мілае дзяўчыны…

*

Я знаў дзяўчынку з вёскі неўдалёчкі:
Яна мне казкі любіла казаці,
А мела слёзьмі залітыя вочкі,
Вочкі, што трэба небу прыраўняці.

Умёрла з гора: з голаду вайною,
І так жа сумна прад сконам глядзела,
Як застывала мёртвай цішынёю,
Што маё сэрца жалем скамянела.

Над самым ранам, як будзіцца сонца,
Яна ўздыхнула глыбока-таёмна,
І, азірнуўшы слабы свет з аконца,
«Жаль мне зямліцы», — сказала прытомна.

І на падушку слязінка упала,
Касулька сонца тварок асвяціла:
Так безнадзейна Мальвіся канала,
Сонца ж на грудках крыжык залаціла!

А слова жальбы скалыхнула грудзі
Чарам магутным, болем і трывогай:
І расхадзіліся, плачучы, людзі,
Шэпчучы скаргу нямую да Бога.

*

Адзін раз бурай жыцця скалачоны,
У безнадзеі на лепшыя змены,

Быў я пры смерці, палам знемажоны
Я зваў пагібель голасам пламенным.

Тады здалося мне, як бы наяве,
Прыйшла Мальвіся ў беленькай хустцы,
З пальцам на вуснах, у сумнай паставе,
Крыжык на грудках на чырвонай стужцы.

Так праз хвіліну нада мной стаяла,
Жаласным вокам агарнула ложа,
Мяне ж жудоснасць тады агартала,
Голасам зычным крыкнуў я: «О Божа!»

Мальвіся ціха сціснула мне голаў,
Чало мне з плачам раз пацалавала:
«Хоць безнадзейны, хоць бедны, хоць кволы,
Так, як народ наш, — ціхутка казала. —

Не траць надзеі нідзе і ніколі.
Працуй, чым можаш, каб зменшыць бяздолле,
Бо я дазнала, што ў нашай злой долі
Скрыта дарога на лёс і прыволле…»

На крыж мне сумна яна паказала,
Слёзка зрасіла ёй твар мармуровы,
І, як аблочак, павольна знікала,
Мяне абняўшы чарам таей мовы.

*

Ад таго часу краіна нядолі,
Што Беларускай на свеце завецца:
Краіна гора, без долі, без волі —
У маіх думках заўсёды снуецца.

## ГЭЙ, БУДУЙЦЕ!

Няма праўды як схаваці —
Ўсё пайшло цяпер інакш:
Пан пакінуў гультаваці,
А між намі меней плакс.

Даўней толькі наракалі,
Толькі чухалі галоў —
Ныне плакаць перасталі,
Усё вернуць стрымгалоў.

Нават добрыя будынкі
Пачалі ўжо руйнаваць:
«Годзе, — кажуць, — нам спачынку,
Трэба ўсё наноў складаць».

Добра людцы! Абы смела,
Толькі помніце адно:
Хто будуе няўмела,
З працы будзе мець драннё.

Разважай жа перш чым зробіш,
Адлічы — рахунак здай —
А чаго не утаропіш,
Разумнейшага спытай.

Здабыць трэба перш зямельку,
Бо краіна — матка ўсім:
Хлябок родзіць і кудзельку
Дзецям родным, не чужым.

Што у нас зямлі не стала,
То не дзіва, ані цуд:
Чужыня нам панавала,
Дзёрла скуру, як той бруд.

Вось зямельку іншым ладам
Дзяліць трэба, чым даўней:
Хто нам павуком ці гадам,
Пойдзе прэч раней-пазней.

Глянь кругом, браток мой родны,
Падзіві наш родны край:
Ён багаты, ён прасторны —
Яму труд ты свой аддай!

Ты рамансаў не вучыся,
Ані штук вялікіх зноў,
Адно толькі налажыся
Пазнаць добра варагоў,

Каб не даці ім заесці
Свайго духу і свой труд,
І твой край не даць абсесці —
Зробіш гэта: будзе цуд.

Будзеш мець зямелькі доваль,
Школы зробяцца з двароў:
І авечкай і каровай
Зможаш панскіх шляхтуноў.

Ты артай[1] — табе навука
Мусіць йнакшая служыць,
Бо найбольшая тут штука
Прымусіць зямлю радзіць.

А ўжо после знаць аб свеце,
Дзе і што і да чаго:
Зваяваў каго хто ў леце,
Ці ў зіму здавіў яго,

Ці Уранам гвездка звецца,
Ці Нептун, ці йшчэ там як,
Чый з Адама род вядзецца,
А хто малпы быў сваяк.

Гэй, будуйце ж, мае людцы,
Жыццё новае наўкруг,
Нават сонкі хай прачнуцца, —
Хто не вораг — будзе друг.

## НА КРЫЛЛЯХ…

На крыллях думкі я ляту стралой
Туды, дзе край мой родны-слёзны
Паглумлены паганаю рукой,
Загнаны, цэлы век трывожны…

Ты, Божа, рассудзі: чаму народ мой бедны
Праз век гніе у цьме, ў няволі беспатольнай,
Скажы — няўжо прыказ Твой запаведны
Пакорным быць падан душы бязвольнай?!

Бо еслі так, народ згніе ў пакоры,
Чужынцу дасць і матку і дачку;
А сам бядак, нанет прыбіты — хворы
Жыццё закончыць на чужым шнурку…

Ах, тым праклён я шчыры пасылаю,
Хто войнамі жыве, прыгнётам і нажывай,
Праклён і тым, паклоны хто складае
Асільству — і блуду — і роскашы лянівай.

Украсці я хацеў вось гэту тайну з неба:
Чаму нядобраму шырока свет — дарога,
Чаму цярпліваму нямаш у хаце хлеба,
Чаму на свеце больш і больш благога.

Народзе мілы мой! Цяпер ужо не знаю,
Чым маеш ты каваць цяжкую сабе долю:
Дабром за зло плаціць (што ў сэрцы я хаваю),
Ці ворага душыць ў крыві — ў агні — ў вуголлі…

Ламаюся я сам, тваёю крыўдай збіты,
А сэрца мне крывёй зліваецца ад болю,
Што вечна ты ціхі, як Богам пазабыты,
Як здань пакутная, шукаеш сабе волі.

## ПАШЛІ МНЕ, БОЖА…

Пашлі мне, Божа, пару такую,
Калі пачнём мы імшу святую
За край наш родны адпраўляць;
Бо вельмі цяжка, што мова наша —
Розуму й сэрца нашага паша
Не ўмее Бога выслаўляць.

Пашлі мне, Божа, пару такую,
Калі зямельку, слязьмі злітую,
Пачнём мы лепей шанаваць;
Бо вельмі сумна, як нам чужынцы
Даюць не жартам свае гасцінцы,
Каб над бяздольным панаваць.

Не дай жа, Божа, прыждацi часу,
Калі б народ мой не знаў папасу:
Другіх пачаў бы біць;
Бо вельмі пекна, што русняк бедны
Не глянуў крыва на гон суседны,
Крыві не смеў пусціць…

## ЧАРАЧКУ АДНУ…

Чарачку адну,
Каб забыці родную
Сваю старану,

Не глядзеці, як брат родны
Душу прадае,
Пазабыўшы шлях свабодны
І песні свае.

Чарачку адну,
Каб забыці родную
Сваю старану,

Прагавіту каб пракляці
Чужынца руку,
Зеллем розум счараваці
Яму — павуку.

Чарачку адну,
Каб забыці родную
Сваю старану,

Перад Богам каб упасці,
Яго умаліць —
Або вечна запрапасці,
Бо душа баліць.

Чарачку адну,
Каб забыці родную
Сваю старану.

## ЧАРЫ АЙЧЫНЫ

З душой хворай, целам збітым,
Сыт нядолі-здзеку,
Морам горычы залітым,
Быў ў маладым веку.

Грудзі ўпалі, стан схіліўся,
Вусны, як з паперы:
Пакідаць ўжо свет маніўся
У мане бязверы…

А цяпер я ўжо здаровы,
Жыву-прыпяваю;
Шчэбет птушак, шум дубровы
Гэты цуд спраўляе.

Гэй ты, родная старонка,
Гэй, краёчак мілы,
Хваліць буду цябе звонка
Да самай магілы!

Ты цярпенне душы гоіш
І знямогу цела,
Жыццё творыш, песні роіш,
Вучыш жыць умела.

Я знямог, здаўна скаваны
Злой бядой і здзекам, —
Цяпер гартны, змацаваны
Красы тваёй лекам…

Калі ж хто цябе не любіць,
Край мой родны, мілы,
Хай душу сваю загубіць,
Растраціўшы сілы.

III

## МАЁЙ МУЗЕ

Хто ты з слёзнымі вачамі,
Бедная дзяўчына,
З чыстым тварам, чуткім сэрцам,
Вусны як маліна?..

Ці з імглы саткана ранняй,
З святла зоркаў ясных,
З шуму дрэў сваяцкай пушчы,
З агнішч непагаслых?..

А мо з думкаў недасяжных,
Ды з жалю нямога, —
А мо скарга, а мо жальба
Да Бога самога?

Першы раз з табой спаткаўся
Пастушком у полі:
Ты тады шапнула сумна
Аб маёй аб долі.

Другі раз, калі у школку
Маці выпраўляла
І ражанчыкам з касцёла
Пабагаслаўляла.

Пры арбе раз трэці бачыў
Я твой вобраз мілы,
Той парой, калі змадзеў я,
Выбіўшыся з сілы.

Раз чацвёрты, як народу
Гаварыў аб Богу
І паказваў з верай пэўнай
Лепшы шлях-дарогу.

А раз пяты і апошні,
Як самлеў ад труду,

Палам змучаны агнёвым,
Прасіў неба цуду.

Цяпер дарма прызываю
Горкімі слязамі:
Баліць сэрца, нет патолі,
Сумен цэлмі днямі.

Але ж голас яе чую,
Шопат гэткі мілы:
«Ты убачыш мяне двойчы
Над дзярном магілы.

Калі люд твой стане цвёрда
Ў хаце гаспадарыць,
Калі сам варожу сілу
Па хрыбце ударыць.

Як збудуе кладку-помаст
Між пасваркаў веры
І дабром, свабодай, знаннем
Заслывець без меры…»

## ЭРАС[1] І ПСІХЕЯ[2]

Я хацеў бы глянуць ў твае вочы,
Там тайніцу душы адчытаць,
І ў трывожнай жыццёвай паўночы,
Я хацеў бы ў іх праўды шукаць.

Разгарнуць твае чорныя косы,
Цалаваць а паўночнай цішы,
На твар вызваць слязістыя росы,
Аддзяліці твой дух ад душы.

След іроніі з вусначкі сцерці,
Заглыбіцца да язні на дно, —
Для заблуднага свету умерці
І стварыці вяселле адно.

Не таі, не віляй — а прызнайся,
Што таёмна ты любіш мяне, —

А ці я… Ты мяне не пытайся:
Прада мной ты наяве і ў сне.

Дай душу мне тваю — больш не трэба,
Творчы дух ты народу аддай,
І так жыйма абое для неба,
І сваім ты мяне называй.

## РУСАЛКА

Сонейка гасне, цені валакуцца,
Снуюць па узбярэжжы азёрным мрацы,
Русалкі прынадна здалёку смяюцца, —
Ну й дзівы ж бываюць у нас паначы.

А цёпла, а парна: пайшоў бы купацца,
Хоць страшна русалак, вадзяніц, і мокш…
Так цудна, так пекна: ці ж можна стрымацца, —
Хто дзеўкі баіцца, куды ж такі гож!

Нурком я кідаюсь у возера тоні,
Плыву па жвірочку, па жоўценькім дне,
А дух замірае… Ужо, можа, гоні…
Даволі!.. Нясі ж ты, вадзіца, мяне!

Ах, лёгка ўздыхнуці… Раскрыйцеся вочы,
Нябескі Дажбожа! А гэта ж хто там
Касу расплятае, стан мые дзявочы?..
Ці зданне, ці што: не згадаю я сам.

Хоць з жахам у сэрцы плыву я ціхонька
Да з’явы вось беленькай-пекненькай той;
Яна ж, расчасаўшы касулі чарненькі,
Абмыла свой тварык крынічнай вадой…

Пусцілася плыць у маю, у старонку, —
Нурка ізноў даў я адразу на дно,
І думаў, што… пойдзе яна наўдагонку,
Затопіць мяне ў глыбіні ўсё адно.

Наверх ізноў выплыў, бо духу не стала.
О дзівы! Русалка блізенька пры мне:

Туды і сюды ўсё плывала-плывала,
Казаў бы, й не бачыла быццам мяне.

Аж я адгукнуўся: «Русалачка-душка!
Паглянь жа хоць раз, калі ласка, сюды:
Не будзь так пужлівай, вадзіцы дачушка,
З табою міленька паплыву хоць куды…»

Не слухае!.. Дарма!.. На бераг спяшае,
Ах, што ж там?.. Адзенне яе!
Ёй сорамна нешта, вось за куст уцякае,
Кашульку ўміг на сябе ўздзяе.

У хвілінку гатова, на мяне ледзь зірнула,
Неспакойна глянула са двойчы кругом:
«Ты шалудзька, хлапец!» — смеючыся, ўсклікнула
І пайшла, пеючы «Даліною-лугом…»

## ПЕСНЯ ДЗЯЎЧАЦІ

Там у зацішным таёмным бары,
Між соснаў зацені шуміць ручаінка;
У хвойным каб песні пяяць гушчары,
Там часта прыходзіць прыгожа дзяўчынка.

Дзяўчо пяе песні нядолі народа,
Забітага горам і крыўдай балючай:
У песню ўлівае міласць і згоду
І што набалела на мыслі кіпучай.

А песня дзяўчаці так сумна-жалосна,
Што бор на жальбу ўжо не раз задрыжэў,
Канюх страпянуўся, заплакала сосна,
Пугач дзесь захлопаў і ўдаль паляцеў.

І водгалас ходзіць між лесу галінаў,
Як тое дзяўчо сваю песню пяе,
А вецер — прыблуда ад гор і далінаў, —
Нясець на свет цэлы запевы яе.

Люблю я той бор, тую песню дзяўчаці,
Люблю я лавіць таей песні матывы,

А тое дзяўчо — ох, ніяк тут сказаці:
Хай гэта даскажа сам бор гутарлівы.

## ПЕСНЯ

Свеціць зорка ясна-цудна на свет Божы ўвесь,
У пасвеце тоне вёска, горы, сад і лес;
Жыва ночка агарнула сонны цэлы край,
Салавейка адазваўся, быў на свеце май.

На ваенцы Янка біўся, лёс яго там гнаў,
Слёзы ліў па роднай вёсцы, аж ад кулі паў;
Дарма зорка асветляе надмагільны крыж,
Янка спіць сном даўгавечным — така воля звыш.

Узышоў месяц ясны-поўны, дрэмле сонны свет,
Каму ж гэта яснай ночай супакою нет?
Заламаўшы белы рукі, мара йдзе праз гай,
Ціха шэпчуць вусны белы: «Янку мне аддай!..»

## САМСОН[1] І ДАЛІЛА[2]

Быў муж, Самсонам яго звалі.
Асілак знаны ўроды непамернай.
І добры быў. Усюды яго зналі
Так з сілы, як і з волі немізэрнай.

Ён ворагаў лажыў арліным сваім зорам,
Ён адкрываў благія іх задумы;
Змагаціся гатоў быў з сушай ён і з морам,
Пакорны львы яму і дымныя самумы[3].

Было й дзяўчо між філістынаў люду
Далілай звана, з пышнымі касамі,
Фігурай стройнай, зорам моў бы з цуду,
Не змучаным ніколі горкімі слязамі.

З варожага народа Самсона палюбіла,
Асілка стройнасцяй сваёй ачаравала.

Самсон упаў. Дзяўчына стыд згубіла,
Ўсю сілу мужа зрадай адабрала…

У святыні да слупоў Самсона прывязалі
І весялілі песняй сытыя гадзіны…
А ён малітву мовіў… Выхвалялі
Паганцы нявернасць тэй дзяўчыны.

Самсон збіраў ў малітве свае сілы,
Слупы абняўшы. Зор яго быў скрыты:
«Егова! — зашаптаў. — Не помні грэх Далілы!»
Затрос слупы. Храм злёг. Там і Самсон забіты.

Даліла йзноў з варожага народа
Асілка новага да смерці палюбіла:
І не прайшло цалюсенькага году,
Як трэцяга асілка з ног зваліла…

## ЯК МРЭЦ…

Было гэта ў ночы ціхой і таёмнай…
У знямозе і месяц ледзь плыў.
Ледзь гвездкі мігцелі ў высі неаб'ёмнай.
І людзі уціхлі, і бор цёмны сніў.

Стаяў поўны суму адзін я у полі,
Агнёвае поўны жальбы —
А дух мой хістаўся з глыбокага болю,
А цела самлела з арбы.

Аж ноч зашаптала тады ў уміленні:
«Чаму ж ты заўсёды адзін?
Дзе друг твой нядолі, дзе прошласці цені,
Спамін дзе вясёлых гадзін?»

І бачыў я з'яву у гэту хвілінку,
У святлянай імгле плыла ў свет:
Панёс яе вецер, як з дрэўца галінку,
Аж хмарка скрывавіла след…

«Ты музай была мне і сонца касуляй,
Гарыць што зарнічным святлом;

І кветкай была мне: вясновай саснуляй
Ніколі не звялай, і божым агнём».

А месяц глядзеў мне спакойна у вочы,
Спакойна і зімна — як мрэц —
А дух зашаптаў мне таёмнай тэй ночы,
Што журбы маёй не канец.

Сціскаецца сэрца балюча-трывожна,
Сябе сам чуццём я калю,
А хоць і укленчыў на месяц набожна,
Не ведаў, каго я малю.

Сташ ты ў вачах маіх зоранькай яснай,
Палаючы, зор твой лаўлю,
Змуцілася думка… Малюся напрасна,
Цябе ненавіджу й люблю.

## НЕ ЧАРУЙ

Не чаруй мяне ты зорам,
Не чаруй красой;
Не чаруй сваім ты горам,
Не чаруй слязой.

Не чаруй ядвабнай коскай,
Ні вусноў агнём…
Не чаруй усмешкай боскай,
Ні святым жыццём.

Не чаруй дзявочым станам,
Не чаруй грудзьмі…
Каб не быў я пакараным
Богам і людзьмі.

## СЭРЦА

То сціснецца, то б'ецца жыва,
То мукай забаліць агнёвай,

Калі мой лёс паддасць агніва
Маёй нядолінцы жыццёвай.

Хістаюся галінкай ў лузе,
І хмарай ганюся па свеце…
Спрацівіць лёсаві — нарузе[1]
Нет сіл ні ўзімку, ні у леце.

Неміласэрны кон руйнуе,
Што будаваў ў бяссоннай ночы,
Калі ж хто стогн мой і пачуе,
Аж стыдна мне, як лжэ ён у вочы.

Я сніў аб шчасці часта-многа,
Людзям сябе аддаць маніўся,
Аж у канцы сказаў да Бога:
«Пашто я, бедны, нарадзіўся?»

Маліўся праўданькі — спрадвеку
Бядой замучанаму люду…
Ах, гора з сэрцам чалавеку,
Бо дарма ён чакае цуду…

Пакляўся, што стаяць на стражы
Я буду чыстаты сумлення…
Быць стражам там, дзе поўна сажы?
Ці вернецца сяўбы насенне?

Няма ўжо светленькай часіны
Ў жыцці маім так вельмі кволым:
Чакаць мне трэба тэй хвіліны,
Калі сыду ў магілу голым…

О сэрца, сэрца — успакойся,
Чаго так б’ешся, як у клетцы?
Людзей стыдайся, Бога бойся…
Яно ж крывава рвецца-б’ецца.

Каго ж ў нядолі йшчэ шукаеш?
Няўжо з табой хто плакаць будзе?
Замры ўжо лепей, што йшчэ маеш
Купаціся ў жыццёвым брудзе…

IV

## СПАВІЎ МНЕ СЭРЦА ЖАЛЬ…

Спавіў мне сэрца жаль
На восень жоўтую,
Зор заглыбіўся ў даль
Жальбой гаротную:

Жаль па цудоўным сне,
Жаль па маёй вясне.

Спавіў мне сэрца жаль
У зімку белую
І не забіў амаль
Душу збалелую:

Па светлых летка днях,
Па цудных ночы снах.

Спавіў мне сэрца жаль
Чароўнаю вясной,
Чырвоны, як караль,
Спламеніўся дух мой:

Па восені ўздыхаў
І жаласцю згараў.

Спавіў мне сэрца жаль
У летнюю пару,
Між райскіх жыта хваль
Пачуў я, што умру:

І плачу вось, нямы,
За зоркамі зімы.

## ВЕЦЕР ШАЛЕЕ

Вецер шалее, мяцеліцу гоне,
Гоне віхрамі, як гурбамі хваль;
Месяц крывавы глянуў праз аконне,
У сэрцы збудзіў мне шматжудасны жаль.

Нудна й жалосна і надта ж маркотна
Галосіць душа, што я лёс запрадаў:
Заплакаў бы горка, стагнаў бы гаротна,
Каб Бог мне з слязою вясёласць аддаў.

І высахлым зорам гляджу я у хмары —
Шалее віхор і ледзь зоркі мігцяць —
І думкі нясуцца, і тоўпяцца мары,
І сэрца гарыць, і ўсе нервы дрыжаць.

Ах, што так расходаліся сілы нямравыя[1],
Думайце гэні людскога уняць!
Прэч вы, начніцы духі каравыя,
Ў цёмнай матэрыі вам прападаць.

Духам я вольны, хоць сэрца так ные,
Хоць цела так цісне, як гад да зямлі, —
Хай стогне бура, хай злая моц вые!..
Куды ж вы, о думкі, мяне завялі?!

## НА ВОСЕНЬ

Пажоўклы ліст, канаючае сонца,
Імгла, туман, плюхота, бездарожжа;
У сэрцы сум і журлівасць бясконца, —
Дай волі мне, дай свету мне, о Божа!

Палохлівасць з зацені начніцай выглядае,
І думкі хмарамі спакой мне адбіраюць:
Пара смяротных журб… Вось дзева маладая
Зайшла ў засвет, вось дзецюка хаваюць.

За душачку яе адмоўлю я пацёркі…
Жалосная была абаіх доля бедных:

Любіліся навек, а цешыліся толькі
Тым шчасцейкам дзён тры — ў жыцці іх апаследных.

Сканала цудная ў абоймах небаракі.
Такі ўжо лёс: зайздросна шчасце небу…
Галосіць звон, жальбы пяюць спявакі,
А ён — ён ведае, што свет пакінуць трэба.

«Што Бог злучыў, то злучана навекі.
Ці ж варта жыць, схаваўшы сваю мілу?
Не астануся тут нямы я і калекі,
Няма жыцця: за ёй пайду ў магілу».

*

Задушкі[1] йдуць, самлела ўжо прырода,
Абмыў ўжо дождж васенну дамавіну,
Стрыбог[2] узяў у рукі ўсё ад Рода[3],
А Мокша[4] атрасла апошнюю галіну.

Чакае ўсё, калі Дажбог[5] ўладарны
Задзержыць рэкі ў сковы лядаваты,
Калі Пятро у небе гаспадарны[6]
Для бедных душ зачыніць Божы хаты.

Спачыне й смерць у зімку у марозну,
Заціхне звер, заглухне ў лесе птушка,
У цемру воўк завые так трывожна,
Як бы сканала дзе ягоная дачушка.

На голас той Сварог[7] пашле прадвесне
І першым Перуном[8] разваліць моц Стрыбога:
Скрушэе лёд, зямлі пялёнка счэзне,
І ўсё жывое зноў пагорнецца да Бога.

На гробе маладых Алеся і Аліны
Рунее траўка й красачкі ўзрастаюць,
А душы іх ў таёмныя краіны —
Краіны сноў моў птушачкі лунаюць.

*

А на Дзяды[9] я заўтра вазьму воску,
У капліцу ў цвентары ў ночы зачынюся
І крыжам тройчы я да Матуленькі Боскай
З мальбой і каяннем пакорным упрашуся:

«Пашлі Ты мне, о Збаўцы Маці-Дзева,
Спакой душы з каханнем ў чуткім сэрцы;
Дазволь спазнаць, Княгіня Каралева,
Як жыці мне, мне сумнаму няверцы…

Калі ж прад часам я ад журбы сканаю,
Дай ведаць мне прычыну цяжкай долі,
А тайніцу Тваю у сэрцы я схаваю,
Не скажу тым, не плакаў хто ніколі».

## ТАЙНІЦУ ДУХУ

Тайніцу духу вазьму я да гробу…
Тхненне магілы я чую заўсёды:
У зорах неба, раскошах натуры
Думкі аб смерці плывуць моў бы воды —
Кінуць мне трэба красу і аздобу
Гэтага свету… Ах, сняцца хаўтуры.

Мілыя вёсанкі, гаёчкі ў полі,
Маці прыбраная Русьбела святая, —
Усенька кінуць мне трэба з трывогай,
Што слімянем мне душу аплятае.
Шкада мне беднага брата нядолі:
Крыж і пакута яго дарога.

О мілы Божа, душы маёй мэта,
За Табой смагну, смагну як шалёны,
Цябе шукаў я усюды — заўсёды,
Чарамі ласкі Тваёй урачоны,
Не раз губіўся мо блудна камета,
Што ў шлях нязнаны плыве вечны годы.

Дазволь, о Божа, меці мне надзею,
Дазволь быць верным свайму Ідэалу,

Ты памажы мне ўстаці да ўчыну,
Бо сам іду я бязмерна памалу —
І у бязволлі шукання мадзею
І без ратунку ад суму я гіну…

## ДУША МАЯ

Душа мая ў краі фантазіі гуляе,
У гвезднай імгле па аблоках плывае,
Сто сонц аглядае у светлай празрочы,
Раскошнаю ласкай чаруе мне вочы.

Матыль пышнакрылы купаецца ў зорах,
З праменняў сатканых, купаецца ў морах
З вадою цудоўнай. У неба ўзлятае
Арлом светавідам — і ў пекла спадае.

І добра мне ў цуднай фантазіі ўлудзе[1],
Сам дух мой спакойны шчасця вынаходам:
Не гадае ці ў гэтым узорным шматцудзе
Не прагляне іронія ціхім мімаходам.

Пульс жывога ўсясвету, творчы шопат чую,
Падзіўляю разсновы формы незгаданы,
Над завесістай скалай у горах начую
Белых зданяў ігрою гіпнатызаваны.

Свет чароўны-цудоўны мяне ўзяў ў абоймы,
Напаіўшы адвечнай журбой ідэалу,
Твораў дзіўных усюды віджу цэлы плоймы
І чую над сабою ўсябыту навалу.

## МЕСЯЦ БЛЕДЫ

Месяц бледы азарыў Божую зямельку.
Ціш нямая залегла горы, лес і вёскі.
Ціхі і сад мой.

Я выйду прыслухацца шопату тайніц. Прылажу вуха маё да грудзей яе раскошных. Я цалаваці буду яе горкія слёзы: слёзы маёй роднай зямелькі.

На небе свецяць зоры Божыя. Белыя хмаркі ледзь плывуць па тоні бяздоннай кругасвету. Ледзь шапочуць пад акном маім кволыя лісткі бярозы.

Адзену я чорную вопратку маю. Схаваюся ў глыб майго саду. Буду сачыць зорку долі маёй: лічыць момант яе ўпаду з кругазору. Лавіць буду пошапты тайніц ночы.

Чакаці буду з’явы, што адкрые злуду[1] майго бытавання. Слухаць буду трывожнага біцця свайго сэрца — сэрца адзінокага чалавека.

## СОНЦА СВЯЦІЛА

Сонца свяціла раскошна. Лес аддыхаў. Хмаркі тварылі дзівы. Людзі раўнялі збалелыя ад працы рукі. Возера ледзь стагнала ціхім уздыханнем сваіх хваль, — малілася небу:

Божа мой! а я не магу заплакаць.

*

Усплыў месяц поўны-чысты. Вокам мудрага аглядае ён з’явы зямелькі і ўсміхаецца зважна. Неба анямела ў ціхой кантэмпляцыі. Лес заснуў ад задумы. Людцы снілі аб шчасці:

Божа мой! а я не магу заплакаць.

*

Закруціла віхрам-ветрам кругом. Завыла прырода ад болю. З неба ўдарылі перуны. Лес загудзеў вялізарна. Скавытала зямелька. Людцы запалілі свечкі і пазавешвалі вокны. Усе казалі, што прыйшоў час Божага з’яўлення:

Божа мой!
Залі мяне слязамі
Магутнай веры.

## ЧАМУ МНЕ МАРКОТНА

Чаму мне маркотна, на плач забірае,
Кругом хоць жыццё і свабода й вяселле?
Ідзе год за годам, і поўдзень мінае,
На сумны нядуг мой няма ужо зелля.

З малых лет я біўся з нядоляй ды горам,
Пагляд мой ў юнацтве быў сумны, хоць чысты,
Цяпер сам не знаю, якім я напорам
Прабуду свой шлях так ліхі і цярністы.

Зварушылась многа у даўнай будове,
Памножылі лета й навука сумнівы;
Стаю я прад гробам усё нагатове,
Загаслі душы маёй зоркі агнівы.

Не ведаю сам, што сталася такога
З душой маёй сумнай, трывожнай даволі, —
Скаваў хто узлёт яе чысты да Бога,
Ўпісаў быццам страшнае слова «ніколі»!

Ці сам я нядобрага духу прызнаннем
Прыгасіў агонь той ласкавы аж з неба,
Гарэў што — здаецца — глыбокім каханнем:
Людцом каб падаці і «неба і хлеба».

Дзе ж праўду мне дзець: ўсё канчаецца скора,
Мадзее і вера, і агонь, і любоў,
Зліваецца з пыхай святая пакора,
На ўсіх ідэалах няма ўжо багоў.

І кажуць, што злуда жыццё тут на свеце,
Што сном ледзь прыметным у коле ўсябыту,
І чысца пачатак займае на мэце,
І ў пекла ўкідае душу прагавіту.

Прабую маліціся сэрцам збалелым,
Прад зорам сваім бачу мукі Айчыны,
Дзе брат азірае вакам ашалелым
Руіну, разбой — і пытае прычыны.

Малюся да Бога, хоць ён тут бяссільны.
Бо волю ўсім даў… свабоду шануе…

Смяецца ўсё пекла, ўвесь свет замагільны,
Як цёмная сіла над намі пануе.

Ці варта змагацца з нядоляй крывавай?
Ці варта вялічыць лік жэртваў зямлі?
Ці ж свет пераробім рукою нямравай?
Ці тым там не лепей, што ў гробе згнілі?

Адзін быў заўсёды, было мне нявольна
Пазнаці любові ціхога дзяўчаці:
Так мусіў мой розум трудзіцца мазольна,
Каб сэрцу балючаму волі не даці.

Згубіў я здароўе, і волю, і мэту,
Адно асталося: спачыць у магіле…
І плач забірае на праўданьку гэту,
Што гіну я сумны, без пары, ў веку сіле.

*

Схавайцесь, слёзы! Вы мне непатрэбны,
Льецца гарчэйшых до ў свеце шырокім,
Пацехаў не хочу: яны мне ганебны —
Хоць дух мой і слабы, не быў касавокім.

З духамі гавору, іх рады шукаю:
Загробнага свету гадаю тайніцы, —
Сціскаецца сэрца — чаму, сам не знаю —
Лятаюць трывожныя думкі-начніцы.

Ах, веру мне дайце, што будзе калісьці
Трыумф чалавека над духамі благімі,
Што после пары так сляпой ненавісці
На светлы парог аб’яднання ўзышлі мы…

Чаму ж мне маркотна, хоць сонейка свеціць,
Прырода раскошна навокал пульсуе,
Куды ж мне падзецца, дух мой куды меціць,
Чаму маё сэрца балюча так чуе?

## ХМАРЫ-ХМАРАНЬКІ

Хмары-хмаранькі, мае любанькі,
Леціцё вы гдзесь, як галубанькі.
Закрываеце даль ад вачэй маіх,
Разбуджаеце жаль да сноў маладых.
Леты мілыя, неаглядныя,
Не паверне вас сіла жадная!
Шчасця Бог не даў на мой мужні век:
Тайнай сіле здаў на нядуг мой лек
Дарма б'юся я, як той язь аб лёд:
Воля высшая дае дзіўны ход.
Я не наракаў, горкіх слёз не ліў,
Хаця хмарны вал сонца мне закрыў.
Веру, хмаранькі, што так трэба мне:
Свет-дарожанькі не адны, ах не…
Спачывайце ж вы там у моры дзесь,
Склад мой векавы — не загіне ўвесь…
Хмары-хмарачкі, з мора вашы род —
Душы-душачкі, з неба ваш народ.

## МНЕ СУМНА…

Мне сумна, што на свеце дарма
    Льецца кроў,
Мне сумна, што ідзе намарна
    Спагад, любоў.
І сумна, калі хто смяецца,
    Здаецца мне:
Дзе смех, там крыўда задаецца,
    Там сум на дне.
Як пуста маладосць гуляе,
    То ж плачу я:
Затым, што сіла маладая
    Ідзе назра.
Як бачу хараство харомаў,
    Жудосна мне,
Бо з іх тэй штукі, тых заломаў,
    Крывёй пахне.
Адну пацеху ў свеце маю,

Адкуль буду,
Калі зямельку урабляю,
З плугом іду.
І хоць мне цяжка і гаротна,
Спакою нет,
Але ў душы ўжо не маркотна:
Я кармлю свет.

## ЛІЮЦЦА ПЕСНІ

Ліюцца нашы песні
Гарою-далінай:
Як рэкі напрадвесні
Ўдаль рвуцца грамадой…
Ліюцца нашы слёзы,
А сэрца шчэміць боль:
Гэй-гэй! Гэй-гэй!
Гэй песні аж з нашых поль!

Як небам сінім хмары
Лятуць праз родны край;
Як думкі і як мары
У жаўталісты гай…
Балючая малітва
І сэрца чысты сон:
Гэй-гэй! Гэй-гэй!
Гэй з песняй прад музы трон!

## ТЭСТАМЭНТ

Калі мой дух пазве Бог за магілы,
Калі змагаціся не стане мне ўжо сілы,
Калі цяжкі дзірван залягне нада мной, —
Зямліца родная, ты будзь тады гарой!..

Апошнюю малітву да Бога я нясу,
Слязамі горкімі я сэрца парушу,
Каб Божы голас мне пачуці над сабой, —
Зямліца родная, о будзь жа ты гарой!

Славян абрад маніўся я прыняць,
І роднай моваю Дажбога праслаўляць…
А мо сябры мае пайдуць калі за мной, —
Зямліца родная, ты будзь тады гарой!

Свае я творы даю дзеля «культуры»,
Клюшчанам шлю паклон. Там натуру
Беларуса я палюбіў і там са мной
Зямліца родная была разок гарой…

Майно маё, прашу, жыдкам прадайце,
А з грошай доўг даўнейшы мой аддайце,
І еслі хто заплача нада мной, —
Зямліца родная, ты будзь тады гарой!

Маю адзеж вятрыце да ахвоты,
Для дэзінфекцыі, бо змёр я на сухоты,
І сумна мне было ў нядузе тым парой, —
Зямліца родная, ты будзь жа, будзь гарой!

Айцы, браты, а такжа вы, сястрыцы,
Так не бядуйце йзноў, бо добра мне ў зямліцы,
Прашу ж, каб не было дзярно чужое нада мной,
Зямліца родная, ах будзь жа ты гарой!

Я ворагаў не меў, калі ж хто быў мне зімны,
Няхай растае ўжо як лёд, бо быў бы дзіўны,
Што злуе йшчэ падчас, калі ўжо над сабой
Пачуў, што «Беларусь пайшла такі гарой!».

Прыяцелям сваім адно я слова скажу,
Ім мэту родную ад сэрца я пакажу:
Калі радзіўся ты шчасліваю парой,
Працуй, каб «Беларусь йшла наўсцяж гарой!».

А тым, што як вужак асліняць нас ядліва,
То жартам панскім, то замовай агідлівай,
Скажу, што будзе час, калі, прытоптаны нагой,
Вы скажаце: «Вось Беларусь пайшла, аднак, гарой!»

V

## КАВЭРНЯ

Святліца места з прэтэнзіяй шыку,
Пыскі паночкаў з мінай трыумфацкай,
У куце музыка… Шмат гулу і гіку,
Ахвота быць ў модзе псеўдаэлеганцкай.

Панічы змарнаваны цягнуцца ляніва,
Каб паказаці новыя лякеркі.
Парфум пудра скрывае пахі смурадлівы,
Прад ганкам взнік кляне за «паперкі».

Бліхтр, фасон і аблуда паказалі зубы,
На целе брудным яснее горс[1] чысты,
Пыха, заразумеласць шчэраць конскі губы,
Акуляры хаваюць вока ананісты.

Прэзентуюць мужчыны ясны… камізэлькі,
Голас і гоман расплывае рэхам,
Прыслужнікі ўсё новы разносяць бутэлькі,
З сваім цынічна дуркавым усмехам.

У атмасферы чувацца рух змыслаў шалёных,
Дзе-нідзе суне піяцкая морда,
Пад сталамі працуюць лыдкі[2] «заручоных»,
Сарваны голас вые «sursum corda!».

Якіясь вусны фарбамі смяюцца,
Чыесь вочы варожаць роскаш за заплату,
Якісь «ён» са «сваёю» за нешта злуюцца,
Якісь шпіц праектуе танец дуркаваты.

Так бавіцца кавэрня… Гадзіна мінае…
Прад шыбамі галодны кляне усіх гнойна,
Дым гусцее… Шарота салон спавівае,
Сонна йграе музыка *tempo* «заўпакойна».

## ДЗЯЎЧЫНКА І ГУЛЬБА

Плыве ручаінка
Стужачкай зялёнай, —
Гуляе дзяўчынка
Ў хустачцы чырвонай.

Плыве даліночкай
Водная дарожка, —
Плача маці з дочкай:
Паслізнулась ножка.

Паплыла, як стужка,
Рэчка ўдалячыну, —
Гойдае дачушку
Слёзная дзяўчына.

З рэчкі страх з’явіўся,
Стогне ў моры маўка, —
Дзяцюк ажаніўся,
Дзяўчо ўжо русалка.

## РАДЫ
## (З ЭДЫ[1])

Хвалі гожасць дзянёчка,
Як кончыцца прыгожа;
Хвалі пекнасць дзяўчынкі,
Як замужам нябожа.

Меч толькі прабаваны
Тваёй пахвалы годны;
Лёд — калі яго пройдзеш
І чуеш грунт свабодны.

Не вер салодкім слоўцам
Кабеткі або панны;
Не вер змейцы, што дрэмле,
Не вер свету, бо зманны.

Сцеражыся віляння
Сваёй жоначкі вернай;

Не вер ў сілу багацтва,
Не вер хітрасці беднай.

Дзе увойдзеш — пільнуйся,
Ці ёсць выхад бяспечны:
Не згадаеш, скуль выйдзе
Вораг — лёс твой спрадвечны.

## БРАТУ НАСТАЎНІКУ

Ці у долі, ці ў нядолі,
Не гаруй, брат, аніколі:
Даў Бог хлеба, дасць і неба,
Дасць усенька, чаго трэба.

Не сумуй, хоць льюцца слёзы,
Будзь і смелы, і цвярозы;
Вер, што беларус устане,
Згіне хітрых панаванне.

Духам глянь кругом-наўкола:
Закрасуе наша школа;
Роднай мовай, родным чынам
Аджыве наш бедачына.

## ШТО ЗАНАДТА — НЕЗДАРОВА

*(Па Нямцэвічу[1])*

Занадта адпачыўку — душы аслабленне,
Занадта суматохі — духу вар'яценне.
Занадта абароту — другім кошт вялікі,
Занадта супакою — свінскія навыкі.
Шмат кахання занадта розум ачмучае,
А занадта лякарстваў смертухну ссылае.
Занадта хто субтэльны: хоча ашукаці,
Хто занадта суровы: тыранам трэ зваці.
Праз меру хто ашчадны, той лакомцам будзе,
Хто занадта адважны, хвальком завуць людзі.
Зашмат каму багацтва — калода у ногі,

Зашмат чэсці хто мае — нявольнік убогі.
Занадта раскошы — ціхенька у гроб заганяе,
Хто занадта разумны, кепствамі канчае.
Занадта многа веры — згубная дакука,
Занадта многа сэрца — сабе й людзям мука.
Занадта абяцання — радосна дурному,
Занадта сабірання — прыдасца другому.
Занадта мнагамоўны — сакрэту не мае,
Занадта жартаўлівы — лепшых высміхае.
Зашмат многа павагі — гордасці знак шосты,
Калі ты надта добры — скажуць, што запросты,
Надта каму паддацца — то сябе паніжыць,
Занадта далікатны усім чыста збрыдзіць.

## ВОСЬ ЯК

*(Прыпеўкі)*

А у цёмным лесе
Дзед бабулю весе,
За рукі — за ногі,
Смяюцца ўсе богі.

А у полі чыстым,
Ў жыце залацістым,
Дзеўка штось гадае,
Ў прыпал паглядае.

А ў лузе за рэчкай,
Пасвіў Стась авечкі,
Франка памагала,
Пакуль жонкай стала.

На паповай ніве
Бот вісеў на іве,
А бабы шапталі,
Цуды ўспаміналі.

А ў гаі зялёным,
Сонцам залачоным,
Дзяцюк дзеўку соча,
А яна рагоча.

Смяецеся людзі,
Што вяселле будзе
Цыбука ды з люлькай,
Цыпрука з Ганулькай.

## ШЛЯХАМ ЦЯРНІСТЫМ…

*Пасвячаю N. N.*

Шляхам цярністым, набітым камення,
Між жудаснай, цяжкай пары,
Пусціўся ты, брат, на дарогу цярпення,
Шпурнуўшы трывогу згары…

А смешныя людзі — праўдзівыя хамы —
Як толькі пачулі, што ты
Пайшоў ў падарож, каб дайсці тае брамы,
Агонь дзе запален святы,

Скрыгочуць зубамі, крыўляюць сумленне
І хочуць ўсім даказаць,
Што ў іхных руках супачыла збаўленне,
Што дарма прыволля шукаць.

Чаму ж бо не ясныя нашыя думкі,
Шчэ трэба мо іх паўтараць:
Мы Белу-Русь будзім з нядолі і мукі,
Бо годзе ўжо лёс праклінаць.

Хто можа — чым можа будуе Айчыну,
Душу ажывіў ўжо сам Бог,
А мы, у трудах і ў мальбе без спачыну,
Ёй цела збуджаем з знямог.

Заеліся злобай на гэту работу,
Зварушан бо іхны спакой:
Вякамі свяцілі яны ўжо суботу,
Хоць слёзы ліліся ракой.

Панкі і ксянжочкі і ўсе, хто «вучоны»!
Вы праўду усе панялі!
Алтары свяцілі, паддзержалі троны!
З народам жа вы не былі!!!

Народ быў асобна, тварыў сваю сілу,
Культуры не меў, а тварыў;
А вы мімаволі капалі магілу,
Бо дух ваш з раскошы ўжо гніў.

Цяпер, калі голас народа раздаўся,
А просты і ясны як дзень,
Так вы схамянулісь і дух ваш спужаўся,
Як быццам ад сну целяпень.

Вы ведайце добра, чаго нам патрэба.
Нам трэба зямлю мець сваёй,
Мы хочам папросту дастацца да неба,
А не міма панскіх дзвярэй.

Не цяміце гэта, прасцей яшчэ скажу:
Не верым мы вашай брахні,
Што нам спагадайце… Ішчэ штось пакажу:
Вы Бога ўжо акпілі.

Бо Хрыстус казаў жа ўсім людзям вольным
Слугамі быць мест панаваць:
А вы панавалі — а нам беспатольным
Нельга было й лёс праклінаць.

Тамаш святы піша, што збытак ад стравы,
Ад рэчы канечнай ў жыцці,
Ісці мае бедным, а йначай крывавы
Зладзея назоў трэ нясці.

І хто ж гэта споўніў — смяецеся людзі —
Хоць мо — й хрысціяне былі,
Аднак жа казалі: «Па смерці што ж будзе?»
І самі для бруха жылі.

А Хрыстус ўзяў вітку на гордыя плечы,
І так, як калісьці жыдоў,
Прагнаў із святыні натоўп той авечы,
Што крыўдзіць заўсёды гатоў.

Культуру стварылі з навукай глыбокай
Дурманіць каб розум людзей,
Каб плутацца думкай ад працы далёкай,
Каб смешыць старых і дзяцей.

Вучыліся многа — куды ж нам зраўняцца —
Дазналі, што ў свеце на дне,
Забыліся ж ўрэшце у сэрца спытацца,
Ці ёсцека Бог там, ці не?

Бо еслі бы Бог там здабыў селянішча,
Жылі бы іначай зусім,
Жыццё гэта труд — не гульба, не ігрышча—
І Хрыстус казаў гэта ўсім.

Так вось дзе навука: народ наш убогі,
Пазбаўлены свету і долі адзін,
Аднак ухаваў шмат з Хрыстовай дарогі,
І верны Яму быў, як сын.

Вучоныя ж свету, надутыя вельмі,
Сваім пустадумствам ліхім
Гулялі «задушкі» — як гэныя шэльмы,
Што знюхаліс з духам благім.

Народ мой ты бедны, падзякуй ты Богу,
Што можаш цяпер паказаць
Сабраную сілу на тую дарогу,
Дзе можна свабоду спазнаць.

Хто сын твой — сын вёскі — няхай хутчэй ўстане.
Пратрэ свае вочы на дзень,
Ідзе, бо пара — пара змертвыхстання —
«Паложан тапор на карэнь».

У хаце тваёй запладзіліся гніды,
Што могуць твой лёс пабрудзіць:
Пазбыцца ты мусіш вось гэнай агіды,
Бо хоча трудом тваім жыць.

Адважна ж, мой браце, ты праўду ад Бога
Нясі ў свет шырокі на край,
А хоць і цярніста твая шлях-дарога,
Яна завядзе аж у рай!

## МУРАШКА І ГАЛУБКА

Увалілася неяк ў крыніцу,
Што брала з-пад зямлі вадзіцу,
З работы ідучы, мурашка.
Напрасна яна там ратуецца,
Пакінуўшы цяжкую ношу:
Жыцця ёй канчалася ласка.
Пад гэты час бела галубка
Аподаль на хвойцы сядзела:
Ігліца маленька на помач
Мурашцы з гэтай хвойкі зляцела;
Мурашка, абняўшы хмызінку,
З крынічкі тэй выплыць здалела…
Адзін паляўнічы нядобры
Намеціў раз стрэл неабмыльны
Галубку зняць з хвойкі іглістай.
Тады міжы траўкі расістай
Ішла на работу мурашка:
Ціхенька к стральцу падцікала,
Укусам яго страпянула:
Стрэл выйшаў няцэльны,
Галубка ў высі патанула,
За помач мурашцы падзячна.

## БАБЕ І ЧОРТ З ДАРОГІ ЎСТУПАЕ

Хоць і хітры чорт рагаты,
З трудом дасца ашукаць,
А ўсё ж, ўлезшы ў тарапаты, —
Ідзі бабку папытаць.

Бо хоць жонка і дурніца,
Дзесяць цяжка ёй злічыць,
З кожным любіць пасварыцца,
Але чорт прад ёй дрыжыць.

Вось паслухай, браце, сказкі —
(Было гэта ўжо даўно) —
Без дакладу, без прыкраскі,
А не верыш — ўсё раўно…

Раз дзядок гарох пасеяў,
Пры гаёчку у сам раз,
Зерне чыста перш развеяў,
Каб радзіла ў Божы час.

На жаль, толькі пры рабоце
«Спаможь, Божа!» не пачуў,
А і сам ў сваёй ліхоце
Нат да Бога не ўздыхнуў.

Так вось гарох не ўдаўся,
Рэдкі, як бабулі вус,
Падрос крышку, йзноў падаўся,
Кляне дзед і «лёс» і «мус».

Раз ідзе ён да пасеву —
Відзіць, што гарох прапаў,
Глянуў ўправа, зірнуў ўлева:
«Каб ця, — кажа, — чорт забраў!

Хай цябе ён і гадуе
І збірае у свой час:
Калі зерне Бог марнуе,
Чорт няхай бярэ папас!»

У злосці дзедка забрахаўся,
Каго ўспомніў, усіх кляў:
За кустом жа чорт смяяўся,
Рад, што дзед гарох аддаў.

Штось за тыдзень, а мо й болей,
Ля гароху дзед хадзіў,
Ужо без злосці, рад даволі,
Бо гарох такі зрадзіў.

Пагусцеў, зазелянеўшы,
Пекна угару падрос;
Дзед, стручок маленькі з’еўшы,
З дзіва галавой патрос.

Толькі зірк — аж чорт рагаты
З-за куста прад ім шмыгнуў.
«Чый гарох жарэш, мардаты?» —
Дзеду так ён усклікнуў.

Дзеду тут аж мокра стала,
Так спалохаўся бядак,
Нешта ў сэрцы засмактала,
Бо прыпомніў, што і як.

А чорт смехам заліваўся:
«Помніш, — кажа, — як той раз
На ўвесь свет ты праклінаўся,
Даў гарох мне на папас?»

Мужык пальцам у лоб стукнуў:
«То ж не дар, калі папас,
Мала, што там ў злосці гукнуў.
А хто ж быў тады пры нас?»

Чорт ад злосці аж дрыгоча:
«Усё пекла сведкай мне!
Мой гарох!..» А дзед мармоча:
«Спытаць жонку: даць ці не?

Ну, няхай! — так моліць чорта, —
Калі твой гарох — бяры!
Мая хатанька абдзёрта,
Усе дзяруць — і ты дзяры!

Але заўтра я йзноў буду,
Каб табе йшчэ што сказаць:
Пажалееш мо майго труду,
Не захочаш ў труну гнаць!»

Аж не вытрываў чарціна,
Жаль яго нават хапіў:
«Бедняку кожны наруга —
Ніхто па ім слёз не ліў…»

І чорт быстра абцёр вочы,
Бо дзве капнулі слязы:
«Бедны-бедны люд рабочы,
Хоць ты ў пекла убяжы!..»

А назаўтра чорт з’явіўся
Перш яшчэ, як чалавек:
За сук куста учапіўся
І так гойдаўся, як кеп.

Чалавек стручок гароху
Зноў радосна смакаваў
І, смакуючы патроху,
Так ўсё чорту талкаваў:

«З бабай радзіўся я двойчы,
Ў заклад хочам мы ісці
Вось з табою, бацька воўчы,
Каб шмат цябе не клясці.

Збіраць гарох мы прыедзем
А такім — бачыш — быдлём,
Што ты відзеў калісь — недзе,
А не ведаеш, як завём».

Чорт далоні заціраае,
Рад пабачыць такі твор:
Ён з пачатку свету знае
Кожны выплад, кожны ўзор.

«Ну, калі я не згадаю,
На чым тут прыедзеш ты,
Так гарох мой прападае,
Сведкай будзе Юр святы».

Ледзь блiснула зараніца,
Чорт на бусле ўжо прыджгаў:
Глядзіць, што за небыліца,
Што дзядок наш абжаргаў.

«Ну кажы, на чым я еду?» —
Чалавек гавор зачаў.

«Ну й быдлё ж: ні знай, ні ведай!
Дзе ж ты, брат, яго дастаў?»

Чорт не можа прыгадаці,
Дзе ён відзеў такі твор:
Хацеў толькі ўсё сказаці,
Ці не з бабы ўзяты ўзор?

Аж затупаў чорт нагамі,
Рогам дрэўца павярнуў,
Пёрся горамі-даламі,
Аж у пекле адпачнуў.

А дзед з бабай аж рагочуць,
Што ўдалася штука ім!
Але болей не захочуць
Пазнавацца з духам злым.

## ПАДАРОЖНЫ І ЯГО ВОРАГ

*(Аповесць евангелічная)*

З вялікага места ішоў падарожны —
Нядобрыя людзі яго абступілі,
Адзежу ўсю здзёрлі, да смерці прыбілі,
Астаўся адзін ён, нядужы-трывожны.

Яго міма колькі праходняў прайшлося —
Ніводзін не бачыў спагадлівым вокам
Таго нешчасліўца. Ён відзеў здалёку
Іх зімныя сэрцы… Мярці асталося!..

А быў яго вораг адзін. Той убачыў
Ахвяру зладзейства людскога крываву;
Занёс да заезду і плату назначыў
За зёлкі, дагляд, за пастой і за страву.

Вясёлы, шчаслівы пайшоў ён дамоўкі,
Падзячную песню анёлы зайгралі,
Жалейкі, стакроткі схілілі галоўкі,
Патольныя словы улёсна шапталі…

Так кожны чын добры душу ажыўляе
Таёмным вяселлем, нябеснай патоллю:
І зоркі нам свецяць, і лес нам іграе,
Бо меней на свеце нядолі і болю.

## ГРЭШНАЯ

*(Аповесць евангелічная)*

Дзень цудны быў майскі,
Як быццам то райскі, —
Прырода ў знямозе маўчала…

Зямелька спачыла,
І спала, і сніла,
Усенька на сонцы драмала.

А толькі Дух Божы,
І дзельны, і гожы,
Тварыў без спачынку тайніцы,
Жытцо красавала,
Пах зёлка давала,
Вадзіца бурліла ў крыніцы.

У дзень гэты Бог-Збаўца
Прысеў на мураўцы,
Ля самай крынічнай вадзіцы:
Сваім апастолам,
Ціхім, як анёлам,
Тлумачыў засвету тайніцы.

«Спакой вам нясу Я…
Хто мечам ваюе,
Ад меча загінуць ён мусе;
Спакой і свабоду —
І вам, і народу,
Што гіне ў няволі, ў прымусе.

Не будзьце трывожны,
Ваш шлях просты-збожны:
Дабром паканайце благога;
Другіх не судзіце,
На крыўду маўчыце, —
Пачуйце ў душы сваёй Бога.

Яго гаспадарства,
Яго валадарства,
Паказуйце свету бязверцы:
Яно ж не ў багацтве,
Не ў сіле, не ў зманстве,
Яно у вас самых — у сэрцы…»

Тым часам здалёку
У пыльным аблоку,
Паспешны паход паказаўся, —
Мужы і кабеты.

Увесь натоўп гэты,
Да Збаўцы святога спяшаўся.

У гэтай грамадзе,
У хітрым нарадзе
Йшло шмат на кніжках вучоных:
Вялі блудну дзеву…
Былі поўны гневу…
Злавілі іх грэхам злучоных.

У Законе спачатку
Стаіць, што дзяўчатка —
Распусце і грэху аддана —
Павінна каменнем,
Гразёй і паленнем,
На лютую смерць пакарана.

Прад Боскім Мастачым,
З трывогай і плачам,
Яна на каленкі упала, —
А ўся цяжба гэта,
І муж, і кабета,
Яе прад Хрыстом аскаржала.

Вучоныя з кніжкі
Чыталі запіскі…
А Хрыстус ўглядаўся ў крыніцу,
А после схlаніўся,
Ніжэй пахіліўся, —
Пісаў на жвірочку тайніцу.

Як шопат травіцы,
Як говар крыніцы,
Да іх Ён азваўся ў натхненні.
«Хто грэху не мае,
Хай першы кідае
На грэшную дзеву каменні…»

І далей ў жвірочку
Пісаў па радочку,
А кніжнікі пільна чыталі:
Грахі іх там ставіў,
А Праўданьку славіў,
Яны ж, прачытаўшы, ўцякалі.

Адна асталася,
Слязьмі залілася,
Ён вокам паглянуў глыбокім.
«Адна ты, бядота,
Адна ты, сірота,
Адна ты на свеце шырокім…

Устань з паніжэння,
Ідзі на цярпенне,
А больш не грашы… аніколі…»
Яна ціха ўстала:
«О Раббі!» — шаптала…
А сэрца самлела ад болю.

# ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

## ПЕСНЯ ВЯЧОРНАЯ

Дзякую, Божа, за дзень пражыты,
Дзякую, Божа, за кожну гадзіну,
Душы здароўе і за цела сілу,
Дзякуй за кожну хлеба акрушыну.

Жыццё дзянёчкам ужо скарацілась…
Ці грэхам новым ізноў я нядлужны,
Ці маё сэрца хоць крыху змянілась,
Ці Тваёй волі, ці чужой паслушна?

Калі у грэху, выбачай, о Пане,
Прымі Ты жаль мой з паправай гатовай;
Святая ласка, Тваё змілаванне,
Жыцця нанова хай будзе асновай.

*16.08.1913*

## ПРАД БОГАМ

Я глінай мяккай ў руках Тваіх, Божа…
Дух мой асобны нічога не можа,
Хоць з Тваёй ласкі і ў Тваёй сіле
Я несмяртэльны нават і ў магіле.
Я падарожны з высокай краіны,
Шукаю шчасця і кожнай часіны мыслю:
«Крый Божа злуднае мары, —
Жыцця ў раскошы без бед і ахвяры..
Аднэй пацехі прашу Цябе, Пане,
Дай зразуменне і ўмілаванне

Праўды, што выйшаў з рук Тваіх я вольны
Выбраць няшчасце ці рай упатольны.

*20.08.1913*

## ВОСЕНЬ

Прыціх птушачы спеў у лесе,
На дрэвах жоўты ліст з’явіўся:
У сэрцы смутак нарадзіўся…
Падходзіць восень, ўжо па леце…

Сонца скупей прамені сее,
З ніў звозяць ў гумны збожжа людзі:
Ах, смутку поўны мае грудзі,
І дух мой ад журбы мадзее.

Ужо зялені мала віджу,
І неба часта хмары носіць,
А нехта тут пры мне галосіць —
«Чаму жыцця я ненавіджу?»

Лета так скоранька сканала,
Не скора йзноў сюды вярнецца:
І мне ўжо сумнаму здаецца,
Як бы душа мая прыстала…

А сонца і ўвосень часта свеціць.
І зіхацяць у ночку гвездкі:
Пакіну лепей думкі гэткі,
То й радасць вока мо прымеціць.

*25.08.1913*

## ГІМН ДА БОГА

Заўсёды, о Божа, дзіўлюся Табе я…
Ці ў ночы спакойнай, ў зорках неба ясных,
Ці як стогне бура, як шуміць завея,
І ў блысках сонца, і ў маланках страшных.

Дзіўны Ты, о Божа, ў кождым кветку польным,
У кождай расцінцы, ручайку прытольным;
Дзіўны ў тварэнні так стройнага свету,
Ты даеш прыгожасць і пагоду лету.

Дзіўлюся Табе я ў душы маёй, Божа,
Дзе скарбы закрыты ад злоснага вока,
Жыццё дзе асобна, а Ты яго, Божа,
Ажыўляеш ласкава — таёмна-глыбока.

Найболей дзіўлюся Табе я, Прадвечны,
Што Ты у натуры сваёй Бесканечны:
Хоць усё загіне, свет пачнецца новы,
Ты Вечнатрывалы … вечны Твае Словы.

*17.09.1913*

## СУМЛІВАМУ

Надарма ты лёсу ці долі шукаеш,
Калі Бога ў сэрцы і душы не маеш.

*19.09.1913*

## УДАР, ЗВОН!..

Удар, каб пачулі ўсе з роднай зямлі
І каб уцямілі, што спяць у забыцці,
Каб спешна ўсталі, маўляў аджылі,
Да светлай каб долі ісці пачалі.
Гудзі, звон!..

Хай згучны твае і радосны разлівы
Углыбяцца ў сэрца і ў душы людзей,
Няхай там зварушаць заспаныя сілы,
Што рухнуць да праўды, моў дзіця да грудзей.
Дрыжы, звон!..

А няважна будзіць, о звон мой магучны,
Балючага гора, няшчасця й нядолі,
Згані над народам ты хаос той тучны,

Што цемру наводзіць на духі без волі.
Будзі, звон!..

На радасць для духу, на праствор[1] і прыволле,
На вольнасць жаданую, шчасце душы,
Свет Божы нязнаны, спакой, упатолле,
Жыццё светазарнае ў райскай цішы!..

*[1913]*

## ДА ДЗІЦЯЦІ

Твой смех, шалуцька, мяне смешыць,
Хоць я журыцца прагадаўся:
Во мама цябе песціць, цешыць —
Ты на грудзях яе схаваўся…

Убачыш, брацітка, часіну…
Тады ў магіле маці будзе —
Папесціш ты й сваю дзяціну,
Цябе што зменіць і… забудзе.

*5.07.1914*

## БРАТУ

Прыхілены горам ці сумнай трывогай,
Не гніся ты назем: гарніся да Бога,
І вока сваё аж да зор паднасі.

Бо хто не шукае ні ў чым высшай волі,
Той праўданькі Божай не ўбача ніколі —
За гэткага слепня ты Бога прасі.

Каб часта і проста мы ў неба глядзелі,
Нядоля і гора між намі б зрадзелі:
Над людскім заскемтвам, браток, галасі!..

*11.07.1914*

## ДА СЯСТРЫ МАЁЙ РАЗАЛЬКІ

О мая Разалька, міленькая кралька,
Ты пэўна не з гэтага свету:
Твая стройнасць з неба, як лілii ў цвету,
Як сонца цябе дзівяць людзі…
Галованька стройна, у кветанькі збройна,
Стан гібкі пад ветрам мо траўка,
Твой поступ як лані ля свежай мураўкі,
Страйнейшай дзяўчаці не будзе…
Ты пышна стрыналька, мая ж ты дзяўчалька!
Я знаю, аднак, высшу стройнасць:
Нявіннасць дзявочу, святэй душы вольнасць,
Што нігды не звяніць, мо ў цудзе…
Мне сумна, Разалька, незапамінайка,
Бо прыйдзе і зімка марозна:
Твая стройнасць знікне… галоўка трывожна
Спадзець на засохлыя грудзі…

*6.10.1914*

## САБЕ

Як возерная краска сагнута над вадой,
У светлай тоні веры я часта мысль купаю:
Ах, буйная яна… але з бядой
Змагаціся духовай сілы мала маю.

Мне суха ў сэрцы, здаецца, мысль здрамнула,
Дух мой прыстаў у лёце пад нябёсы —
І гора мне, бо свежасць прамінула
Тых мар, што быту саладзіла лёсы.

*24.03.1916*

## ТРЫВОЖНАМУ

Не рань свайго сэрца: не бойся нікога,
Усё прамінае — усё, апроч Бога.

*[1916]*

## СУМНАМУ

Праз слёзы, мой браце, смяіся,
Хоць сэрца так плача ў нядолі,
Крый стогны прад светам, крый болі
І ціха да Бога маліся…

*[1916]*

## ХРЫСЦЕ…

Хрысце, відзіш маё сэрца
Маёй тайніцы душы:
Табе жалюсь у паняверцы,
Мае слёзы асушы.
Выракаюся я грэху,
Шчыра плачу за блуды,
Прышлі ж урэшце мне пацеху
За нядолю, за труды.
Даеш гора мне з патрэбы,
Не забыў каб цноты я;
Бо у шчасці не здалеў бы
Паважаць красу жыцця…
Але ж крыж уеўся ў плечы,
Ланцугі у рук, у ног:
Ворагі паднялі мечы,
Каб паўстаці я не мог.
Хрысце — Езу, пасля мукі
Меў жа Ты трыумфу час:
Развяжы ж і нам ўжо рукі,
Бо грахі прыдушылі нас…
На дарогу да свабоды
Дай жа нам святы Дар Твой:
Благаслаў усе народы
На збратанне, на спакой.

*1918*

## ЛЮБЯЦЬ ЛЮДЗІ

Любяць людзі хваліць прэдкаў,
Радню з герба вывадзіці —
Не хацелі б сваіх дзеткаў
Мужыкамі учыніці…

Поўна бруду ў іх кароне,
А быдлё ў смешным гербе;
Здымі шапку лепш вароне,
Як шляхетку пану Шчэрбе.

Шчэрба хваліць свайго дзеда,
Быццам бітны быў дзяціна:
Гожа біў свайго суседа…
Не адна яго дзяўчына…

Жартуй, браце, з крэпкіх бітняў,
Што кроў людску пралівалі —
Дзяды нашы такіх злыдняў
Лордамі называлі.

Еслі ж маеш моцну сілу,
Чуеш, што гару зваліў бы:
Вось успомні на магілу —
Мо і смерць ты асіліў бы?!.

Жартуй, браце, з моцы Шчэрбы,
Шукай больш навукі-цноты,
Ганьбу кінь на войны-гербы,
Набірай на труд ахвоты.

*1918*

## НА НОВЫ 1919 ГОД

Адным волю, другім долю
Прынёс гэты Новы Год —
Ты ж, мой браце, аніколі
Не пачуў: «Здароў народ!»

Па кусочку цябе рвалі,
То на Захад, то на Ўсход;

З тваіх слёзцаў наругалі —
Кожны плутаў: «То ж наш род!»

Беларус, гарой жа жыва!
Уставай, прыйшоў бо час —
Еслі ж спозніш сваё жніва,
Пракляне патомак нас!

*31.12 1918*

## ПАМЯЦІ Ф. БАГУШЭВІЧА

Чэсць Табе, пясняр народны,
Што ад сну нас адарваў,
Што нас пхнуў на шлях свабодны,
Першы нас людзьмі назваў.

Беларус твае матывы
Запяяў па ўсёй зямлі…
Счэзлі нашыя сумнівы,
Сваю веру мы знайшлі.

Верым, што ў нядоўгім часе
Ападуць з рук ланцугі —
А аб тым святым папасе
Пяяў ты нам — не другі.

Ты ж прасіў, каб праўду ўрэшце
На зямельку Бог спаслаў,
А мы чуем ужо весці,
Што час гэты дзесь настаў.

З Тваёй песні мы пазналі,
Хто нам вораг, а хто брат —
Мы ўжо з пана падсміхалі,
Бо пазналі, што ён гад!

Ў тваіх песнях, як у люстры,
Стаіць чысты беларус,
Хоць і сумны, але шустры:
Скача, падкруціўшы вус!..

Даю чэсць табе паклонам,
Што так пекна ты умеў

Заіграць прад музы тронам,
Хоць і строіцца не смеў.

Бо у песні Тваёй годзе
Блыску й роскашы шукаць —
Душы чыстай у народзе
Трэба чысту страву даць!

*1919*

## ХАЎРУСУ СВАЯКОЎ У КЛЮШЧАНАХ

Гадкі са тры дзяржаўся ты удала,
Старонцы роднай ўсё стараючы(сь) служыць:
Як мог і як умеў: не быстра, ані вяла —
Змагаўся русняка з прасоння разбудзіць.

Так думцы вось тваёй хай багаславіць Бог,
Каб буйна узрасла для Бацькаўшчыны роднай;
А помні, брат Сваяк: наперад без трывог
Ідзі ўсё дальш і дальш па пуціне свабоднай.

А еслі ж пуціна калючкамі наб'ецца, —
Не бойся болькі ты, абы ісці ледзь мог;
Бо пэўна нас калісь нямала сабярэцца:
Сапхнём тады карчы з усіх сваіх дарог.

*1919*

## З ІАІЛЯ ПРАРОКА[1]

Атразвейце, п'яныя, і плачце, а галасіце ўсе, што пілі віно салодкае: бо адойміцца ад вусн вашых.

*

Паганец узышоў на зямлю маю, моцны і нялічаны, з зубамі як львы, а з жыркасцей як іх шчанюкі. Спустошыў вінніцу і фігоўніцу маю, агаліў дрэўцы, беленькія сукі кідаючы. Загібла ахвяра Богу, заплакалі ахвярнікі Госпада. Спустошан край, слязьмі аблілася зямліца: няма хлеба, ані вінніц, алівы.

Засмуціліся сялянцы, трывожна паглядаючы на папар і на гумны — прапала жніво…

*

Таго часу як вярну з няволі Ерусалім: сабяру ўсе народы і павяду іх на даліну Ёзафат[2]. І разбяру там справу іх над людам, які рассыпалі між чужынцамі, кінулі благі лёс на яго, малойцаў ставячы на служкі, а дзевы прадаючы за віно, каб апівацыся. Слухай Тыр і Сыдон[3] і ўсе ўзбярэжжы краю Ізраэль… Серабро маё і золата раскралі, што было прыгожага, знайшлося ў салонах вашых! Сыноў Ерузалем прадалі паганцам, каб меці іх далёка ад старонкі іхняй. Вось я збуджу іх у тым месцы, дзе вы іх на спачын палажылі, а злосць вашу абвярну на галовы вашы. Перакувайце плугі вашы на мечы і пікі. Няхай і слабы кажа: «Я асілак!» Зрывайцеся ўсе кругом, збірайцеся на даліну Ёзафат: там звяне сіла ваша, бо я судзіць буду народы…

*1919*

## ТРЫ РАЗЫ

Тры разы клеілася Польшча,
Тры разы такжа упадала —
Бо тры народы адна горшча
Вузлом шляхотным заплятала.
Судзіў Бог гэтаму народу
Вялікую на мэту долю…
Саслаў вось вольнасці пагоду,
Як буслам, без пародаў болю.
Але Сармат даўно ўжо біўся,
Даўно касіў сваёй крывуляй —
Зато й на Русь ён так зваліўся
Мо бура над ціхой саснуляй.
І тры рэспублікі людовы
Ізноў жа клеяцца ў адну —
Дай Божа, каб да тэй будовы
Не падлажыў бы хто агню!
Бо чым тут і склеіць тры народы
Дагэтуль трудна паказаць —

Усім нам хочацца свабоды,
Ды аднаму толькі панаваць.

*1919*

## Я ВІДЗЕЎ

Я відзеў, як вецер бярозку зламаў,
Карэнне парваў і галлё пакруціў —
А лісце не звяла і свежым было,
Аж покуль за горы святло не зайшло.

Я відзеў, як сарэнку[1] зраніў стралец,
Звалілася сумна — прыйшоў ёй канец,
Бароціся з смерцяй не стала ёй сіл —
Ах, цяжка ступаці у цемру магіл…
Матыльчыка бачыў ад болю як млеў,
Крыльцо перабітае сонейкам грэў —
Бо крышку пажыці на думцы было,
Аж пакуль за горы святло не зайшло.

У кожнага ў свеце ёсць сонца сваё,
І лёгка жывецца, як свеціць яно —
А сонца не стане, той годзе ўжо жыць,
І лепей на векі ў зямельцы спачыць.

Пакінула здрадна дзяўчына мяне,
І цяжка на свеце без сонейка мне —
Аднака ж я смерці сабе не заву
І з сэрцам разбітым жыву дый жыву.

*1919*

## ШЛЯХАМ ТВОРЧАСЦІ

*Пасвячаю Янку Быліне*[1]

Смяяўся Рэўка[2] з нас калісьці,
Што крывулі з нас як адзін:
Па ім ўжо сохнуць лаўраў лісці,
Прадаў і ліру яго сын.

Сымонка «смык» панёс ў магілу,
А «дудку» недзе пахаваў,
Аж у нашых часах (мо праз сілу)
Яе Быліна дзесь дастаў.

Зайграў жа чутка і адважна
На кожны голас, кожны тон:
То упатольна, то сярмяжна,
То фортэ-пьяна, то як звон.

Наш брат русняк цікавы лішне,
Ён скарбы сочыць ўжо даўно,
А Быліна на гэта свісне
І кажа: скарб той, брат, … …!

Бярыся ты да працы шчыра
І помні, што табе твой пан
Палеткі, пэўна, не пашыра,
Каб ты і здох… але ты сам…

Так вось, бяры тапор у рукі
Заглохшы лес каб церабіць,
І тады толькі, пасля мукі,
Пачнеш ты чалавекам жыць.

Калі ж чужак твае парогі
Зняважыць будзе мець адвагу,
Не будзь дзіцем, давай нарогі
На меч каваць — і гнаць брадзягу.

Вучы дзяцей ты родным словам,
Каб бацьку шанаваць умелі,
Каб не дражнілі чужым зовам
Сваіх багоў яны ў касцелі.

Не пазычалі каб аж з Вільні
Назоў «нямецкае культуры»,
Вучыліс працаваці пільне,
Не спатурацць благой натуры.

Культуру той на свеце мае,
Хто праўду рэжа ў вочы смела,
Хто сэрцам брату спагадае,
І памагае ўсім умела.

Калі ж хто слоў гаворыць многа,
А ў сэрцы вужака гадуе,
Так сын ён чорта, а не Бога,
Няхай у …… ён цалуе.

***1919***

## ТРОХ ВУЧОНЫХ

### *Вучоны першы*

З сяла ён выйшаў, з роднай нівы,
Разбітай вузка на палеткі,
І браў цяпло з таго ж агніва,
Скуль горнуць і нядолі дзеткі…

І вось — ён панскія навукі
Глытаў ў бядзе і паняверцы…
Ах, змыў тады сялянскі рукі
І выстудзіў сялянска сэрца.

Сялянцаў Бог зраўняў з панамі,
І духа зоркага ім даў —
А хоць адзеты лахманамі,
Русняк душы йшчэ не прадаў.

То ж сумна й горка невыслоўна,
Калі хто з нас, хаўруснік вёскі,
За здраду Бацькаўшчыны роўнай
Заве на голас, гневы Боскі.

А так зрабіў вучоны гэты:
Адрокся ён і хаты, нівы,
І мовы роднай!.. Бадай леты
Твае памножылі сумнівы!

Каб у канцы ты праканаўся,
Калі табой нядоля кіне,
Што той, хто маці выракаўся —
Як подлы вырадак загіне…

## *Вучоны другі*

З сяла ён выйшаў, з роднай вёскі
Не знаў у хаціне бядоты,
Не быў і смутным ані трошкі —
І вось… здабыў цяпер сухоты.

Шаснасты год як меў у школе,
Умеў на хлеб ён зарабіці —
Айцец сказаў: «Ну, мой саколе!
Не маю ўжо за што вучыці».

Дурным сябром тады гатовіў
За плату школьныя задачы —
Пазнаў, што голад…Ён прамовіў
І раіў кінуць лёс сабачы.

Аднак не кінуў — рад вучыўся,
Начой не маючы спакою,
Аж у канцы свайго дабіўся:
Ужо мог стацца людзіною.

Але ж во сумна, мае дзеткі:
Ён кашляць стаў цяпер начамі,
Хапаючысь за грудны клеткі,
З бліскучымі, як вугль, вачамі…

Цябе жалею, мой ты браце,
Бо ты не знаў жыцця дарогі:
Што смачны хлеб у роднай хаце,
Што слізкі жыццевы парогі…

## *Вучоны трэці*

Ах, сумна-сумна, мае дзеткі:
Шчаслівы вы, бо малалеткі —
Як станеце людзьмі, глядзіце —
Нігды — ніколі не маніце…

Ён быў набожным тут у хаце,
Насіў аж шмат тады шкаплераў…
Ну і вычытаў — ці чуеш, браце, —
Што Бог мана… вось з тых папераў.

Пакуль чытаў ён кніжку Божу
У ручайках, лясох, азёрах —
Усю прыроду ён прыгожу
Любіў у цудных Бога творах.

Зманіў цяпер. Парадак новы
У галаве яго зраіўся:
Наш Бог — ён кажа — Прадвяковы
З натуры вечнай нарадзіўся…

Царквы-касцёла ён не хоча,
І з веры нашае блазнуе,
З пакоры нашае рагоча,
Пагарду ў сэрцы да нас чуе.

А шкода-шкода, што так скора
Забіў у сэрцы веру ў Бога…
Калісь пазнае, што пакора —
Да свету лепшага дарога.

Але не тая, што нам кажа
Прад сільным свету плечы гнуці:
Пакора добрая пакажа,
Што Бога ў сэрцы трэба чуці.

А ў ручайках, лясох, азёрах
Паклон даваці мілы Богу —
Купаці вока ў светлых зорах
І прэч кідаць з душы трывогу.

*1919*

## ВЯЛЕЯ СІРАТЫ

Браты! Будзьма гатовы
Прыняць шчасце пакорна…
Пастушкі чуюць мову:
«Бог радзіўся сягоння».
Час святы пачынае
Усход вячорнай зарніцы —
Род людскі прывітае
Збаўцу цэлай зямліцы.
У сям’і хрысціяна

На усім Божым свеце,
Выслаўляй Бога-Пана
І старыя і дзеці.
Паміж дзетанькаў матка,
Друг, чужы і свой родны,
Бяруць частку аплатка:
Слёзцаў вочы іх поўны.
Усюды радасць ссылае
Калядная вялея
Святло з вокнаў зіяе,
На снягу прамянее…

*

А ў адным у аконку
Сумны вогнік мігціцца,
Апусціўшы галоўку,
Слёзы лье маладзіца.
Цяжка ёй на чужыне
Міжы свету благога,
Ляціць у гэтай часіне
Сваёй думкай да Бога.
Ў гробе ўсе з яе сэрца,
Ў гробе бацька і матка:
Няма з кім у паняверца
Падзяліці аплатка.
Між чужынцаў сіроце
Дзе ж душу весяліці?
Адзіноце — бядоце

З кім жа слёзы дзяліці?
Кожны радасці поўны,
Ад нядолі адбіўся.
А яе лёс няроўны:
Хрыстус ёй не радзіўся.

*

Матку сэрцам збалелым
Заве з цемні грабовай,
Яе сэрцам самлелым

Просіць гэткай размовай:
Мяне гоняць тут лёсы,
Я жыву у спякоце,
Пакінь, маці, нябёсы —
Прытулі у пяшчоце!...
Ой, сіротка-дзіцятка!
Адна ты гэтай ночы.
Голас твой чуе матка,
Над табой Божы вочы,
Дзіця-Хрыстус блізютка,
Неўдалёчку дух маткі,
І анёльчык-малютка
Нясе з неба аплаткі.
Зрабі ж вочка вясёлым,
З намі прыйдзе надзея:
Бо з Хрыстусам, з анёлам
Твая будзе вялея.

***1920***

## З ПСАЛЬМАЎ ДАВІДА
(116 і 150)

Хваліце Бога усенькія людзі,
Усе народы ад краю да краю:
Бо аб'явіўся ў міласэрдзя цудзе,
А яго праўда навекі трывае.
Святыя душы на небе высокім,
І вы з гаротнай і сумнай зямліцы;
Анёлкі Божы у раі далёкім,
І усе сілы ў загвезднай імгліцы.
Яго ўсямоцнасць, Яго светазарнасць,
Голасам трубным на свет разнясіце;
А справядлівасць, для людцоў спагаднасць
Пры мнагаструннай ліры апяіце.
Хваліце ж Бога розным хорам-складам,
На бразгуночках, жалейках аргана,
І на цымбалах гарманійным ладам:
Дух кожды, хваль жа па век вечны Пана.

***1920***

## З ПСАЛЬМАЎ ДАВІДА
## (129)

З бяздоння жальбы, з глыбіні пакоры,
У цемры сумніваў, ў безнадзейным горы
Цябе ўзываю, Божа справядлівы,
Пачуй жа голас і будзь міласцівы.

Бо еслі будзеш на грэх уважаці
І праўды сэрца людскога пытаці,
Не устаіцца ніводна стварэнне —
Кожны шукае ў Цябе ачышчэння,

І дзеля права, дзеля Тваёй волі,
Шукаў Цябе я ў крыўдах і злой долі:
Зрання да ночы душа мая чакала,
На Тваё слова надзею складала.

Дзе ж міласэрдзе і гдзе выбаўленне
З грэху, з нядолі, ці з паневалення?
Адно у Бога, свету Правадаўцы,
Адно ў Хрыстусе, Спасе нашым, Збаўцы.

*1920*

## М-КА СВІР У 1920 г.

Удоўж возера цягнуся,
Нічым быць не манюся —
Здаўна ўжо маўчу;
Чакаю толькі долі,
Каб хоць падняцца з голі,
Бо жыць і я хачу…

Капец у нас луг слаўны,
Дзе жэртвы старадаўны
Свяцілі гэты кут;
Цяпер пасуцца козы,
А п’яны і цвярозы
Шукаюць сонца тут.

Кругом так цёмна-гідка,
Народ, як той Мікітка,

З валамі ў землю ўрос;
Згубіў прамення сонца,
Засумаваў бясконца:
«Цяжкі даў Бог нам лёс».

І толькі на кірмашы
Жывуць тут людцы нашы —
Брат брата рад зманіць,
Гарэлкі выпіць крошку,
Каб так хоць панямножку
Цяпла й святла здабыць.

*1920*

## ГІМН ДЗЕВЫ МАРЫІ

Велічае горача душа мая Бога,
І дух мой узносіць Ягоная хвала:
Спадабаў бо пакору Ён сэрца ціхога,
А чэсць мая будзе праз векі трывала.

Учыніў мне вялікай Святы над святымі,
Для ўсіх міласэрны, хто страх прад Ім мае,
І моц Ён надаў мне рукамі сваімі,
А пышных і гордых упроч праганяе.

Скрышыў Ён асілкаў ў каронах рагатых,
Пакорных і нізкіх падвысіў ласкава,
З пустымі рукамі пусціў Ён багатых,
А бедным дабро даў і вечную славу.

Прыняў Ізраэля слугой сваім верным,
Сваё міласэрдзе спагадна напомніў:
А многа ўчыніў Ён бацьком нашым бедным,
Бо вось Абрагама аб’ятніцы споўніў.

*1921*

## «КРЫНІЦЫ»[1] НА 1921 г.

Плыві, Крынічка,
Плыві, сястрычка,
        Між родных ніў;
Плыві прыгожа
Між руні-збожжа,
Спадзейся жніў.

Плыві, Крынічка,
Плыві, сястрычка,
        Між гор-далін;
Яроў-камення,
Хмызін-палення,
Дзе «Гора Сын».

Плыві, Крынічка,
Плыві, сястрычка,
        Плыві праз гай;
Між нізкіх хатаў…
Пакінь багатых
І іхны рай.

Плыві, Крынічка,
Плыві, сястрычка,
        Да ясных зор;
Рві путы нашы,
Дай цёмным пашы:
Людскі гавор.

*1921*

## ДУХ І ДУША

Німа мне вясёлых гадзін,
Нядоля у сэрцы ў душы:
Адзін я заўсёды адзін,
Як камень у леснай глушы.
Пайшоў я дарогай благой,
Мне сумна і песня звініць
І бору прапаў той спакой,
Што мог мне пацеху уліць…

«Пашто наракаці на долю,
Зышоўшы раз з простай дарогі:
Наплакацца трэба даволі
І з неба шукаці патолі.
Пашто разрываць тую рану,
Агніць яе жальбы уколам:
Глядзець лепей ў прышласць я стану
Абапал з дум светлых анёлам».

Німа мне вясёлых гадзін,
Арол я з падцятым крылом.
Адзін я заўсёды адзін,
Хоць разам з анёлам ідзём.

*1921*

## ПЕСНЯ АБ СВ. ЯСАФАЦЕ[1]

О Ясафаце, святы Патроне,
  Ты Бога умалі,
На нашым родным, на загоне,
Па цяжкім горы, па прыгоне,
  Каб краскі зацвілі.

Такія краскі, што гадуе
  У сэрцы Божы Дух,
І пах тых краскаў хто пачуе,
Красу лісточкаў падзівуе,
  Той Божы брат і друг.

Святы Ясафат тыя краскі
  Засеяў у душы,
І стаўся годным з Божай ласкі
Зачаць вясці быт вельмі цяжкі
  Ў кляшторнай, у цішы.

А краскі буйна узрасталі:
  Ахвярнасць і любоў,
А ворагі яго не спалі,
А злыя сілы паўставалі,
  Аж палілася кроў.

Ясафат быў у моцы веку
І траціў многа сіл.
Каб даці веру чалавеку,
Падняці лазара-калеку,
Паменшыць лік магіл.

Яднаў пасвараных цярпліва
Малітвай і трудом:
Лучыў народ у адно агніва,
Ішоў, як гаспадар на жніва,
Змагаціся з блудом.

Прасіў у Бога аб'яднання
У веры ўвесь народ.
Каб не было ужо стагнання,
На злую долю наракання,
На зманны свету ход.

Няхай бы сам у свае рукі
Лёс ўзяў бы чалавек,
Шляхом адвагі і навукі,
Аднае веры, без прынукі,
Пачаў бы новы век,

А воран злосны ладзіў здраду:
Дзяліць і панаваць!
Хацеў, каб кожнага абраду
Дзяліліся людзі, так, без ладу —
І Бога акпіваць.

І многа Богу душ гатовіў
Апостал-уніят,
Не аднаго слаўцом намовіў,
Таго ж малітвай прыняволіў,
Яму быў кожны рад.

І вось так кветкі красавалі
Ахвярнасці, трудоў,
А ворагі аж скрыгаталі
І здраду ўжо прыгатавалі,
Каб разлілася кроў.

Святы Ясафат у Віцебск ехаў
Яднаць і там братоў,

Не меў ўжо там душы пацехаў:
Для хворых душ не стала лекаў,
    І палілася кроў.

Апостал уньі быў замучан
    Варожаю рукой,
І наругаўся люд ачмучан,
І царскай ласкай збаламучан,
    Над кветкай, над святой.

Гады ішлі, а з імі людзі
    Сыходзілі з зямлі,
Цярпелі мы, балелі грудзі,
Казалі: «Еднасці не будзе
    На нашай, на рэі».

Аж краскі тэй засевы цудны
    Зазелянелі йзноў;
На ніве роднай, хоць так труднай,
Хоць зневажонай рукой бруднай
    Абходзіць ўжо любоў.

О Ясафаце, святы Патроне,
    Ты Бога умалі,
На нашым родным, на загоне,
Па цяжкім горы, па прыгоне,
    Каб кветкі зацвілі.

*1921*

## NUNC DIMITTIS[1]

Пусці, о Божа, з зямелькі гаротнай
Служку спакою, служку Тваёй волі,
Дось мне пакуты, мізэрнай-маркотнай,
І ласк пацехі нябеснай патолі.

Відзела вока усенька на свеце —
Ад злой аблуды да шчырай экстазы,
Хітрай пакоры з пыхаю на мэце,
Пекла бяздонне і боскія оазы,

Што прыгатовіў Твой Огляд ўсямоцны
І што разрушыў слуга Арымана,
І збудаваў што воляй адзіночны
Дух чалавечы, і што дух шатана.

Святло блíснула прад маёй душою,
Як зорка неба, цуду аб'яўленне;
Досыць мне будня, жыць хачу з Табою,
Пусці, о Божа, душы дай збаўленне.

*1922*

## НА СМЕРЦЬ КАЛЕГІ КС. З. ЯКУЦЯ[1]

О, браце мой у долі і нядолі!
Паверыў я, што лёг ты у магілу,
Бо ж сумна так стагнаў твой дух ад болі,
Што твой народ згубіў айчыну мілу…
Так верыў ты, што час свабоды прыйдзе,
Дух Божы ўвыш народ з працьмы падойме,
Нячыстага аддасць навек агідзе,
Нас зорам дабраты адвечнае абойме —
Любіў народ ты, Браце, сэрцам цэлым
І зразумеў яго бяду духову;
Вучыў яго, ад горычы збалелы,
Каб уміраць і жыць заўсёды быў гатовы.

Ты адышоў, згарэўшы як ахвяра,
За наш народ, — за вечную ідэю
Яго душы: пражыці не як мара
На свеце бед, а *мець надзею*
*Здабыць той зніч* з грудзей самога Бога,
Што шчасце дасць жывому чалавеку…
Ах, цяжкая туды, браток, дарога, —
Хоць значана нам Божанькай спрадвеку.

Агонь ты нёс і светачам быў зорным,
Гарэў пламенна цэлаю істотай, —
Прад Богам быў і кволы і пакорны,
Людзям служыў з анёльскаю ахвотай.
О, будзь шчаслівы!.. бо ты жывеш… я веру,
Хоць пад дзярном галоўка супачыла…

І я сабе магілу ўжо адмеру,
Ах, бо мяне знямога асіліла.

*1924*

## ШУМІЦЬ ВЕЦЕР

Шуміць вецер легкакрылы
Па зрунелым полі,
Не варожа ўжо магілы
Беларускай долі;
Толькі стогнам як пакутным
Часам завывае,
Што ў народзе, верай чутным,
Дух аслабявае.

Грызе брата акалелы
Пан, бязверца модны,
І ўрадовец ашалелы
Душыць край няродны:
Стогне вецер, бура вые
Над нашым загонам,
Як брат родны слёзы крые,
Славіць Польшч праклёнам.

Плача вецер, досць хліпоча
Над роднаю нівай,
Пекла ўсё да слёз рагоча
Над доляй гняўлівай:
Як грызуцца браты нашы
За пустыя словы
І з «брахнёю» як Юдашы
Прадаць край гатовы.

І увосень, і узімку,
Вясною і ў леце,
І ў дарозе, і на рынку,
У месці і павеце
Адно слова вецер гоне,
А край наш не чуе:
— Беларускае загонне
Хамства апануе —

Хіба ж устанем усе сільны
Воляю народа,
Згуртаваны у рад шчыльны
У імя свабоды —
І ганебны нашы сваркі
Ворагам пакінем:
Дзеля вольнай гаспадаркі
Нават рады згінем…

Шуміць вецер, павявае
На постаць рунёву,
Думкай яснай умыкае
У будучынь вяснову:
Дзе ты — наш гаротны браце —
Верай заяснееш, —
А ты, брудны ваўкалаце,
Душой загавееш…

*1924*

## ПЕСНЯ

Чым ты, дзяўчынка, мяне асіліла,
Чым маё сэрца ціха заняла,
Чым векавечна душу уквяліла,
Чым супакой мне яе адняла?..

Ведаю-знаю, а сказаць не ўмею,
Ні прад сабою, ні перад людзьмі, —
І толькі добра адно разумею,
Што: ані ласкай, ні сваймі грудзьмі,
Ні боскім зорам, пышнаю касою,
Ані чароўнай вусначкаў ігрой,
Ні песняй цуднай, ані дабратою,
Ані цалункаў пламенных гульбой.

Чым жа ты, дзева, мяне асіліла,
Чаму ў нядолю й сябе аддала:
Любвой раскошнай мяне надзяліла
І сваё сэрца журбой заняла!..

*

Думаю-знаю, хоць ледзь аглядаю —
Тайніцу сэрца хто ж знае з людзей:
Як у бяссонні усцяж успамінаю,
Што нам *адвечнасць* маці ўсіх надзей.

Я веру маю, што з табой навекі
Рвуся да сонца любові святэй —
І спадзяюся, што ёсць цудны лекі
На сум адвечны ў любові тэй:
А любасць тая не з гэтага свету
І ў смерці пэўнай не канец яе, —
Шопат дубровы і пах райскі цвету
Аб тэй любові тайнічнай пяе…

Дзеванька — Люба! З табой у прыгоды
Гэтага свету любоўна ідзём:
Дзевай пакіну цябе назаўсёды,
Бо мяне любіш, — так шчасце знайдзём.

***1924***

## АЙЧЫНЫ БУДАЎНІЧЫМ НАЁМНЫМ

Не вам, не вам, ахвярнікі няволі,
Айчыны слёзнае фундамент закладаць,
Не вам, паклоннікі бясплоднай голі,
Душы народнае шлях-волю дыктаваць!

Запашнікі чужога гаспадарства,
Што вы дасцё галоднай людзіне?
Не вам… сыны прыблудаў, дзеці лгарства —
Даць праўду нам, што бачым мы у сне.

Не вам, труціцелі душ прагных Бога,
Не вам, чмуціцелі народнай прастаты,
Не вам, бажнічнікі багоў дзе многа,
А духу нет — *паліць агонь святы.*

Не вам, не вам, раскольнікі-бязверцы,
Душы народнае скарбніцу раскрываць!

Агіднікі! Вы — прыгажства блюзнерцы —
Хацелі б вочы нам навекі завязаць.

І рукі вон! І прэч вы нам з дарогі,
З чужынцам хто народа лёс дзяліў:
Народны Дом не водле вашай змогі —
*Сам Бог у ім бярвенне залажыў.*

Усход-Заход заспорылі над намі,
Вучыць бяруцца Дом той будаваць:
Завуць нас ветліва, ледзь толькі не братамі,
Сваім дабром гатовы частаваць…

Не вам, не вам — пахвальцы капіталу,
Слугі сучаснага — паверыць наш народ:
Хто творыць Дзень для Шчасця ідэалу,
З тым беларус адважна йдзе ў чарод.

Не сёння-заўтра родзіцца дух новы
На вуталлёх старога Зніч-агню;
*Душу хто мае*, будзь тады гатовы
Спаткаці свет, паклон аддаці Дню!

*1924*

## КСЯНДЗАМ-БЕЛАРУСАМ

Сумліваў вязніцу вы кінулі пад ногі,
Калі азваліся з ідэяй да людзей:
— З народам Богу! — нет другой дарогі,
Як мыслі ні сушы, як з посту ні мадзей…

І да народа вы пайшлі сцяжынай простай,
І адчынілі душ аржавыя замкі,
І не ўхіліліся прад непасільнай ношай,
Калі напалі вас дзярлівыя ваўкі.

З надзеяй-вераю у будучынь адважна
Нясеце ж сцяг — залог *свабоды для душы,*
І ўстане зосну ўся гаротна брацьсярмяжна,
І лепей будзе жыць у нашай свет-глушы.

*

Адважным будзь, бо ты, слуга Хрыстовы,
Не знаеш над сабой аніякіх паноў,
І чуткі будзь, як лірнік Давідовы,
Душа народная — то ліра… досыць слоў!

І сам сябе ты не забудзь ніколі,
Бо на табе народны зор спачыў;
Працуй — вучыся! Цвёрдае будзь волі,
Каб цёмны дух цябе не асачыў.

Загадку быту лёгка ты развяжаш,
Калі сябе на жэртву аддаеш,
Для добрых сэрц аб гэтым цудна скажаш,
Бо сам Хрыста на дзеле прызнаеш.

*1924*

## МАЙМУ ПАНУ

О не забуду я тваіх вачэй, паночку,
якімі ты аднойчы азірнуў
мне — беларуса…
Прадзеды тває, бацькі тває, сыночкі
мучылі прыгонам родненькіх маіх.
Я знаю казкі:
крывёю набалелы грудзі расказывалі іх —
як вы даўней гулялі агідліва
з падкоўкамі
на нашае душы
і адчураліся даўно яе збалелай —
самі сыты
накормам небыцця…
Вярніцеся! Калі магчыма гэта,
на шлях з’яднання
з народнаю душой.
А не! — то міжы намі
агіда — ненавісць —
вайна і неспакой
капае вечны дол…

*

О не забуду я, панок ты мой міленькі,
як ты глянуў
на лапцікі мае.
Ты з вышыні «культуры» і багацтва
на ўбогасць
беларуса.
І як здумеўся ты, што гордаму
патомку кашталяна
я не падаў рукі…
Чаму?
Бо ты багач —
я Лазар:
брат твой маладзейшы,
як пішацца ў Пісьме.

*1924*

## ГІМН СВАРЛІВЫМ ДЗЕЯЧАМ

Радуйся бясплодная рытва
Пад гул ашалелай гульбы,
Узнясіся аж к пеклу малітва,
Сатканая з гукаў кляцьбы:
Плююць «дзеячы» сабе ў вочы,
Святкуючы дзень наш рабочы!

Радуйся і польская ніва,
Бо ты павялічыш мяжу;
Твой сын, панскі сын, галасліва
Рашчыніць крываву дзяжу:
На сварках завіднай каналлі
Бацькі твае шмат пачыналі!

Радуйся і расейская пуга
З мізэрнае гідкай грызні,
Дзяржала ты ўсіх калісь туга —
Ізноў свой ты хлеў адчыні:
Бо шмат спалюбіла тваё
Здаўна бічаванне хам’ё!

Ах, плюйце — паночкі — адважна
Адзін вы другому у твар! —
Пакажыце «ім» неадказна,
Што ўсім вам патрэбны ўладар:
Каб моцна вам пыск ён сціснуў,
Каб вас ён на розум папхнуў.

І вось так аскаржыўшысь свету
Пакуты адвернеце шлях, —
Даўненька — бо скула наспела,
Няхай разліецца — аж страх!
Здароў мо народ адпачне,
Зварот к аб'яднанню зачне.

*1924*

## КВЕТКІ

Усцешылі мяне кветкі,
Рассыпаўшысь праз ваконне,
Ручкі маёй малалеткі
Рассыпалі гэтыя кветкі:
І вось радасць, вось бяссонне!

Жывуць кветкі, кветкі вянуць…
Сэрца шчэміць так бязвольна —
Доль на кветкі толькі глянуць,
Усенькі змыслы папрыстануць:
Сэрца б'ецца беспрытольна.

Тваіх кветак пах, міленька,
Мяне дзівам абвявае;
Дай мне кветку, даражэнька,
І скажы ўсё-усенька:
Каму сэрца спагадае?..

*1924*

## МУЗА

Муза, дзяўчынка мая,
Не пакідай мяне ты:
У жальбе ўтоплюся я,
Родныя зглумяць браты…

Песняй гаротнай зальюся,
Боллю ад сэрца глухой —
Пушчы-Бару замалюся
І да Ка-Ляды святой.
Месца шукаючы, дзе ты,
Я ў падарожжы замру:
Новаю формай адзеты,
Зор твой адвечны злаўлю.

Муза, мая чараўніца,
Шчасце й няшчасце маё;
Муза, мая багавіца,
Адкрый ты мне імя сваё.
Хтоколеч аддаў табе далю,
Згарае праявы агнём, —
Пачуўшы ўдалечы прыволле,
Ён трудзіцца прышласці днём.

Шлях твой у небе на зорах,
На Божым улонні жыццё;
Дух твой у стройнасці творах,
Мэта… няўжо небыццё?!

Прабыту адвечнае мыслі
Снуешся ты цуд-тканіной:
З цябе песні ўсенькія выйшлі
Паэзіі — чарам святой.

О муза, ты Богу маліся,
Каб быў я празору рукой,
Ты ў думкі мае прыбярыся
І стань ты маёю душой.
Чароўныя Радаўніц песні
Я музе маёй запяю;
Пакіну сумлівасці плесні,
Багіню навек палюблю.

Муза, дзяўчынка мая,
Не пакідай мяне ты:
У жальбе ўтоплюся я,
Родныя зглумяць браты.

***1924***

## «КРЫНІЦЫ» НА 1925 ГОД

З Новым Годам, «Крынічка»,
Цябе я здароўлю,
За труды дзель Народу
Малітву я моўлю:

Каб табе даў Бог сілы
З бядою змагацца,
Перамогчы нядолю
І злыдням не дацца.

Бяда-гора Народу
Усцяж узрастае,
Знахароў і прыблудаў
Яму прыбывае —

Ты «Крынічка» вадзіца
З жыватворным лекам
Рассылай між Народу:
Хай жыве век-векам!

І чароўнае зелле
Дай на ўсе падачкі…
А не слухай, што брэшуць
На цябе сабачкі.

***1924***

## ПЕСНЯ НА КАЛЯДЫ

Пастушкі гулялі,
Каляду ігралі:
Бог нам аб'явіўся,
Хрыстус нарадзіўся —
Каляда-Каляда, гэй.

Не ў пышных харомах,
Ані ў панскіх домах:
У маленькай хаце
Яго туліць маці —
Каляда-Каляда, гэй.

Трэба несці дары,
Трэба даць ахвяры:
Як мы і Ён кволы,
Хоць кругом анёлы —
Каляда-Каляда, гэй.

Гукнём нашу песню,
Як бы напрадвесні:
Хрыстус свет адменіць,
Голаў злу прышчэміць —
Каляда-Каляда, гэй.

Чэсць Табе, Марыя,
Чыстая лілія:
Цябе Божай Маці
Будзем называці —
Каляда-Каляда, гэй.

І Язэпу слава
Няхай бы паўстала:
Бо ў яго ж прынятку
Марыя з Дзіцяткам —
Каляда-Каляда, гэй.

А волікам тутка,
Што стаяць ціхутка,
І гэтай асліцы
Прынясём травіцы —
Каляда-Каляда, гэй.

Хвалім вельмі Бога,
Бо нам дарагога
Спаслаў Сына з неба,
Каб душы даць хлеба —
Каляда-Каляда, гэй.

Браточкі, гукніце,
На ўвесь свет пяіце,
Што Бог чалавеку
Спагадаў ад веку —
Каляда-Каляда, гэй.

*1924*

## СТАНЕ НАС ДОВАЛЬ!..

*Пасвячаю ўсім
перакіншчыкам...*

Кажуць нас мала… Няпраўда, паночкі!
Стане нас доваль, каб жыці як след;
Вам кроў каб шляхоцку сапсуці, браточкі, —
І вашу забаву затруціць нанет.
До нас мільёнаў, каб даць вам абіркі,
Народны прачысціць каб свой арганізм.
Нявольнікаў прагны?.. на мяса вы жыркі?
Карміце ж крывёю вы свой эгаізм!
А хоць мы і бедны і кволы й галодны,
Усім чыста пакрыўдзіў жалезны ваш бог, —
Усё ж мы і багаты: бо пан ваш свабодны
Заснуці без нашага брата не мог!
Спакушаны шчасцем і доляй сляпою,
Ён цела народнае наша раздзёр;
Залез у душу, — зблюзніў Трысвятое,
Аж сам для Любові Прадвечнай замёр…
Так стане нас доваль! Мы досыць багаты,
Каб вам ажырэлае сэрца спыніць:
Даруем абіркі і ўсіх рэнегатаў,
Каб свой арганізм ачысціць.

*1925*

## ПАМЯЦІ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ, СЛАЎНАГА ДОКТАРА З ПОЛАЦКА

У Чэскай Празе друкаваў
Прадвечнай Веды кнігу
наш Скарына. І тайніцу падаў
Пісьма святога Простаму Народу.
Бацькаўшчыны мілай
Настаўнікам ён быў;
Так ведаў, як пачаць яе узгадаванне.
Вось Біблію усеньку пераклаў
Ён мовай мілагучнай:
Няхай сярмяжны брат
чытае, што казаў
прадвечнымі славамі
Сам з неба Бог.
Не «Кнігу Смерці» Бог пісаў,
а — «Кнігу Мудрасці й Жыцця». —
Жыў той Народ, што прачытаў яе
захопленай душой.
Скарыну Бог паслаў,
каб жыва пераклаў
і стравай каб падаў
замучанай душы народа
Святога Духа Радасць.
Ён споўніў дзела.
І славай загрымела Яго Іменне
між вучаных і простых. —
— Вось лет чатырыста,
як Кнігі Скарыны
пабачылі сусвет. Прайшлі як сонца
між вякоў, сагрэўшы душы.
Цяпер…
    Пашлі нам дактароў,
О Божа, слаўных:
хто б Кнігу нам Жыцця
аддаў —
            душам — знямогшым ад чакання!

*1925*

## ДЗВЕ «КУЛЬТУРЫ»

Раз’еліся і п’яна разваліліс̧ь,
Маўляў, *старушкі дзве* на хрэсьбінах дзяцей;
Ах, колькі ж даць дабра усім яны маніліс̧ь!
І колькі да душы прад светам нахваліліс̧ь!
А смерць — ішла — ціхенька — ўсё — бліжэй…

Зямельку родную апанавалі ведзьмы,
І чарамі *ачмуцілі* душы народнай склад:
Пад іх ахронаю не загібелі ледзь мы,
Пад іх апекаю душу баяліс̧ь мецьмы, —
Аж вось з культуры іх гнілля разлёгся чад.

І дзеці зноў акрывіцкага абраду
Засумавалі сум русальчыных багоў:
І хоць перад сабой убачылі ўжо зраду,
*Жалезных божств* бліскучую прынаду, —
А кожны за алтар змагацца ўжо гатоў.

Дык хай загіне жудная цямнява,
Што закрывала перад намі небасклон,
Няхай паўстане ўжо магутная *Ўсяслава*[1],
Славянскіх ніў ражайная Дзяржава, —
Каб бог вайны найшоў бы пэўны скон!

***1925***

## ВЕСНАВЫ САНЕТ
*(паводле Шэкспіра)*

Вясною светлай, у месяцы краскаў,
Быў я далёка ад цябе загнаны…
Сварог агнёвы, для зямелькі ласкаў,
Вёў дзіўны гулі, ад вяселля п’яны;

А птушкі йгралі. — Але ад спеваў,
Ад кветкі майскай так зманнага паху,
Ад шуму рэчкі, ад ветру павеваў —
Быў я далёкі, поўны жальбы й жаху.

Белая шата княгіні лілеі,
Ані пурпура ражанага цвету,
Ні далікатнасць кволай архідэі —

Не цешыць шчасцем журлівага вока,
Бо без цябе я згубіў сваю мэту,
Блізкі мне краскі — Ты, кветка, далёка!

*1925*

## НА КУПАЛЛЕ

Вясна зышла, Сварога валадання
Дажбогу ў рукі аддаецца зноў.
Закрасавалі нівы. Краскаў уздыханне
Нясуць лугі, чакаючы касцоў.

І дзень для ночы ўступае месца,
Яна расце: зніжае ён свой ход;
Пара даспеласці і паўнаты чуецца,
Святаркі з вёскі строяць харавод.

А ўночы моладзь красачкаў шукае
І пры агні спраўляе свой абрад:
Там не адзін дзяўчыну умыкае,
Ёй сэрца аддае: Дажбог на гэта рад.

А іншы так пайшоў за папараці краскай,
Шукаючы з журбы няведама чаго:
І краскі не знайшоў — і дзевы ўзгордзіў ласкай —
А песні пры агні замучылі яго.

«Іду-бягу! У рэчцы утаплюся,
Аддамся лепш русалкам на слугу, —
Бо ты мяне пакінула, Дзівуся,
А жыць адзін дальбог я не магу».

*1925*

## РУСАЛЬНАЯ НЯДЗЕЛЯ

Раскошна на свеце Русальнай нядзелі[1] —
У зелені нівы, у красках лугі.
Шчабеча салоўка ў гаі свае трэлі —
Лілейка заснула ў праменнай пасцелі,
Казаў бы без гора-тугі…

А раніца — раніца! Божанька мілы!
Нашто гэткі цуд Ты стварыў?!
Вазьмі лепш зарніцы; а свежасці сілы
Не дай майму сэрцу, не лі ў мае жылы, —
Каб свет Твой мяне не згубіў!

Вось сонца апоўдні, а людцы радосна
Ў святыні хвалебны канчаюць напеў;
Там шчасця жыцця выліваецца млосна
І жальба пакуты сплывае раскошна:
«Забудзь, Божа, страшны свой гнеў!»

І вечар як слаўны, як моладзь гуляе!
Аж старшым бурліць прыастыўшая кроў, —
З вод выйшлі вадзянкі. Русалка купае
Чароўныя грудкі і так запявае:
«Хадзі! Дам атруту: любоў!»

— Не пойду на песні, не пойду на чары,
Хоць сэрца баліць мне не ведай чаму,
А ў думках нясуцца русалчыны мары:
Дажбогу складаюць нявінны ахвяры, —
Яму — Аднаму — Аднаму!

*1925*

## ЗВАНІЦА Ў ЖОДЗІШКАХ[1]

На Вяллі берагу, у зялёным кругу
Клёнаў, ліп і бяроз мнагалетніх
Стаіць Божы Касцёл, чысты-бел як анёл, —
Селянішча народных дум светлых.
Хвала Богу там йшла, аж крапчэла душа,
Разлягалась жывое там слова;
Песня райскай вясны, маўляў майскія сны,

Там цвіла — і жыла наша мова
Аж злы дух зайздраваў, што Бог міласць спаслаў
Беларускаму беднаму люду:
Вось спакусу наслаў, усё пекла падняў,
Каб не даці жыцця дзецям труду.
І наслалі паслоў — «міласцівых» айцоў —
Рассудзіць, хто чакае збаўлення
У вясне маладой, а хто хоча з нудой
Валачыся ў шляхоцкім зацьменні.
Пад званіцу на сход бяжыць шчыры народ
Паказаць сваю вольную волю:
Камісар там стаіць, вокам крыва глядзіць,
Што народ бярэ лепшую долю.
Гіне слава паноў, народ выбраць гатоў —
Аб чым сэрца даўненька стагнала:
Свой радзімы загон, сваю мову — Закон,
Каб душа ў ласку Божу ўзрастала.
Благі веча выход… Хоць цягні кулямёт —
Неспакойны прыслужнікі пана:
Разагнаць трэба люд, каб напрасны быў труд,
Каб асталась душа закавана!
А народ наш шуміць, навальніцай гудзіць:
Будзе воля, свабода і доля!
Хай грымяць перуны, хай хоць трэснуць паны,
А душа такі знайдзе прыволле!..
Звон з званіцы званіў, на ўвесь свет галасіў
Аб нядолі і крыўдзе балючай;
І збудзіў русняка — і збудзіў бедака —
Да жыцця і да працы кіпучай.
Нездавольны паны. Абкружылі яны
Колам цесным сталёвым званіцу;
І знялі яны звон — ненавісны бо ён!
Павязлі аж у Вільню ў вязніцу.
Ад вакон да вакон гоне вестка як звон,
Што жыве наш сярмяжнік-калека,
Хоць груганавы рой — Божа! Божа Ты мой!
Сочыць ўсюды і ўсцяж чалавека.
Пан камандуе ім, гэтым роем благім, —
Як рабак точыць дух селяніна,
Точыць цела і дух з чартом разам удвух,
Аж ударыць паўночы гадзіна…
Пад крык пеўняў і соў дух нячысты паноў

Западзецца у цемру сляпую:
Залаты сонца свет, ласкі Божай прывет,
Апраменіць сям'ю трудавую.
Явай станецца сон… Аб чым весціў наш звон
І што дух наш у муках прарочыў,
Тое дзень прынясе — і па слёзнай расе
Выйдзе ў людзі сялянец рабочы.

*1925*

## НЯЎЖО УМРУ…

Няўжо умру! Няўжо мяне дагнала
Яна — любоўніца магіл?
Сачыла з лет малых і жудасна стагнала,
Калі мне звыш ссылаў Бог з неба сіл…
Пацешся ж ты!.. Хоць не! — Ты толькі мрыя:
Цябе няма, ты выдумка сляпых;
Як жыў — жыць буду. — Залатыя
Сны-з'явы сніць буду аб святых.
Святых цудоўных вод крыніцах,
Якіх душа мая усмягшы каштавала, —
Не! Смерці нет… а толькі у граніцах
Жыцця тайніцай меней стала.

*1925*

## НА РАДАЎНІЦЫ

Радуйся дух кожны ў прастворах,
Ў высі неаб'ёмнага быту,
У светаў нялічаных морах,
З зямлі аж да неба зеніту.

*

Вясной аддыхае зямліца,
Чувацца раскошы натхненне,
Дрыжыць і рунее травіца,
Гарыць раджбы Божай пламенне.

Шчабеча вясёлая птушка,
Матыльчык на сонцы гуляе,
Цвяток раскрывае пупышка,
Пчалінка там мёду шукае.

Палямі — лугамі — даламі
Аб Юр'і нясуцца напевы;
Дажбог надзяляе дарамі,
Чувацъ яго ласкі павевы.

Ратай вышаў ў поле вясёлы,
Пад жаўранка трэлі святыя,
Усмехам вітаюць анёлы
Ягоны труды веснавыя.

Ліецца пот тварам збалелым,
Слабеюць мазольныя рукі;
Ён думкай аб зерні даспелым
Зганяе і болі і мукі.

*

Сварог — гаспадар валадарны —
Сварожыца[1] з неба ссылае;
А той бачыць свет такі гарны —
З дзяўчынкай вяселле спраўляе.

Бярэ сватам Рода старога,
За сваццю Макош чараўніцу,
Бярэ шлюб у Бога самога,
Змяняе дзяўчо ў багавіцу.

Якраз на Купалле, на Яна,
У ночкі шчаслівай часіны,
Гуляючы з любай да рана,
Ўмыкае з сабою дзяўчыну.

Не кліч яе дарма, татуля,
Пакінь, маці, так галасіці,
Твая адзінотка Ганула
Жыццём будзе чысценькім жыці.

Сварожыца жонкай сталася
І неба злучыла з зямліцай,

У сонца касах расплылася
І стала навек багавіцай.

*1925*

## СВАРОГА СЛУГІ…

*Пасвячаю Янку Купалу*
*ў 25-летнія ўгодкі яго*
*літаратурнай дзеяльнасці*

Няма ўжо князёў і —
        дзякаваць Дажбогу —
паноў гібее валадарства.
А крывічоў абраду святары
агонь Зніча параскладалі
        йзноў.

І між тых святароў
Купала сам дарогу
к святыні паказаў:
явіўся Ён на радасць
        Беларусі,

каб словам Перуна
збудзіць душу сялян,
заспаную з трудоў.
Збудзілася яна —
        і дух Народа
распрамянеў магутнай сілай.
І воляю багоў
наноў
ідзець святое Адраджэнне.

Але і цемрыня —
і зводны дух суседа —
і ўладны эгаізм
пярэчаць нам дарогу:
агідствам і нудой
і пекла грамадой.
А мы, Сварога слугі,
чакаем Перуна:
мо Духа Сын Ён будзе, —

тады Сын грому
агонь распаліць з неба…
А божы электрон
дасць усясветны гром
над нашаю Айчынай:
каб знікла злыбеда:
нягодных грамада, —
да нас каб мог
вярнуцца Бог.

Купалу я вітаю.
З Заходу на Усход
руку даю:
сярмяжную правіцу брата,
вёскі сына,
надзейнага ў трудзе
і жудаснага ў песні.
Вітаю і малю,
каб геній Твой
свяціў бы найдаўжэй
ажыўленай душы
Народа.

***1925***

## ВЕРУ НЯРОЗУМУ ПРОЦІ…

*(Credo, quia non est absurdum[1])*

Хочаш ты знаць, якую веру
Сам прызнаю і песняй апяваю?..
Скажу няшмат, бо знаць тут трэба меру,
Апроч таго, не ўсё кажу, што знаю. —

Я веру ў нейкае вяліко Аб’яднанне
Ці, як завуць яго з лаціны, «Уньёнізм»:
І ў Перуна крывіцкага прызнанне, —
І ў хрысціянскі зноў святы натуралізм.

Тут догма і абрад, а нават міф славянскі,
Без грэцкіх, ці якіх, багатых шмат багоў;
Сінтэза вер, а культ стары сялянскі:
Бог праяўленняў — вось адвечны зоў.

Сварог, Дажбог, Стрыбог — асобы Бога.
Праявы летам, восенню, зімой;
А святаў іх не так каб вельмі многа:
Па трыдні святкаваць змен сонечных парой.

Купалле ўлетку свяціцца Сварогу,
Гарачыня тады — купацісяпара, —
Так халадком агні палаюць Богу,
Ахвярніцы ж пяюць, аж з'явіцца зара.

А на Дзяды Стрыбогу ўступае
Багацтвы ўсе свае ласкавы ўсім Дажбог:
Нябожчыкаў тады сярмяжнік прызывае,
Каб гэты свет ды з тым дзяліцца мог.

Як сонца ўвыш пашло (зімой), а свята Ладу,
Народ абходзіць зноў святую Каляду, —
Святар яго усенькага абраду
Заве з нябёс анёльску чараду.

І радасць свету: сонца нарадзілась,
Штодзень святлей, аж пахудзела ноч, —
Аж во і грамада пяюшкаў паявілась,
Стрыбог далоў, —ідзі, ідзі ўжо прэч!

«А Хрыстус дзе?» — пытаеш ты з усмешкай,
Бо не відацца дзе ягона месца тут —
— Не будзе, не! — Сын Божы нам замешкай,
Бо толькі Ён вядзе у Абсалют.

Бо толькі Ён і праўда і дарога,
Жыцця бяду і смерць Ён зваяваў;
І толькі Ён пазнаў Самога Бога —
І свету від Ягоны паказаў.

Але… няма Яго ў зямліцы,
Дзе Перуна чакае ўсё народ, —
Як прыйдзе Ён: расчыняцца святніцы,
Святлейшага жыцця пачнецца Новы Год.

*1925*

## НА ДЗЯДЫ

І восень залягла — бо перамог
У вечнай зыбаце святла асновы —
Суровы Старац, Пан зімы — Стрыбог.
І запануе, аж прамень вясновы
І Радаўніцы спеў спашлюць старэчы сон;
Тады ўжо на Дзяды ізноў прачнецца ён.

*

Дай вечны супакой, о Божа Міласцівы,
Усім, хто палажыў душу за ідэал, —
Дай вечны супачын! У цемрах неруплівы
Хай будзе іхны сон, як скончыўся іх шал;
Але ў святле — хай ажывуць яны,
І тварацъ новы шлях, і твараць новы сны.

*

Прыйдзі, о Мілая, на трызну ты са мной —
Гадаць ў святніцы ў містычнай цемнаце:
Хто валадзее нашаю душой,
Ці будзем мы шчаслівы ў нашай прастаце,
Калі той свет і гэты свет — Урон,
Зліліся ў адно як векавечны сон.

*

З табою я, а дух мой адзіночны,
Хоць пры табе і думкай і душой.
Сягоння час святы, сягоння час урочны:
На могілках святло і духаў цэлы рой,
Ці бачыць іхны зоў, ледзь чутны рэха звон:
Не сон жыццё, не сон! — а толькі доўгі скон…

*

Ах, варажбітка ты! Ну-ну, паваражы…
Каслак кудзелі, а ў ім сэрца кажана,
Прызывы, заклінанні, — і накрыж два нажы…
І голас твой: не будзе тут мана!
Агу-гу-гу! Пачуўся жах з вакон…
І — шах!, абраз зваліўся! — Чары то ці сон.

*

І з’ява вось: вясковая дзяўчына
Ў кароне з васількоў, над ёй павук страшэнны;
І жудна неяк… Во згасла й лучына —
І сіняе святло кідае блыск агненны;
Павук заблутаўся каля сваіх красён,
А дзева — анёл! — «Мара ты ці сон?»

*

«Не мара, ані сон… Я дух тваёй айчыны,
Сказаць прыйшла табе пацехі слова:
Ужо пад зруб заложаны тры міны,
Пад зруб варожы… трэцяя гатова. —
А ты не пажалей трутнёвых тых бярвён…
«Ах гэта сон! Ах, гэта толькі сон!»

*

«Не сон, не сон!… Яшчэ мяне ты слухай,
Бо словы тры сказаць мне толькі льга:
Ты і твая — аднога дзеці духу —
Так шчасце вашых душ — абодвух вас мага;
А светы ўсе — адно, хоць розны іх закон:
Вось я для вас прывід, а для мяне вы — сон!

*

І цёмна стала… Ў дзверы нехта стукнуў,
А ў вокнах застагнаў палохлівы віхор,

І пад зямлёй труной нябожчык груknуў,
За алтаром заблыснуў нейчы зор…
«Ідзём, о Мілая! Магутны твой заклён».
«Дай Божа сон! Дай Божа грэшным сон!»

***1925***

## НА ЖАЛЕЙЦЫ

Ой нашто ж мне дзеткі,
Ой нашто ж мне жонка,
Калі я на свеце,
Моў бы жаваронка.

Людзям дайце хлеба,
Людзям дайце солі:
А мне ж толькі дайце
Свабоды і волі.

Чалавеку сумна
Без шчасця, без раю:
А я ж думкай вольнай
Душу пацяшаю.

Зваюю я лёс свой,
Нацешуся з волі, —
Хоць мая жалейка
Плача мімаволі.

Жалейка-жалейка,
Сястрыца ты родна, —

Чаму ж, чаму ты галосіш,
Як мне так свабодна.

***1925***

## ЯК ПЕРАСТАНУ…

Як перастану быць паэтам,
(У боскай волі ўсё гэта),

Вазьму й пайду за сіне мора,
Не відзець каб людскога гора.

Кусок зямелькі там адмеру,
Яе там доваль — моцна веру;
Пасля сабе дамок збудую
І дружку коніка ўзгадую.

Тады паеду я далёка,
Ці не спаткаю мілай вока:
«Хадзі — скажу — мяне палюбіш,
Бо чалавека жонкай будзеш».

У гвездну ночку, без хмарынкі,
Прыедзем да сваёй хатынкі, —
І Бог тады нас багаславіць,
А Дамавы вяселле справіць.

І буду жыць тады з дзяўчынай
З паважнай гаспадарскай мінай —
І да багацтва дабівацца,
Каб незалежным называцца.

А не — так растлумачу мілай:
Багацтва, віш, нам не пад сілу;
Абы пражыць ў здаровым целе, —
Што людзі баюць — пустамелле.

А после можа стацца з намі,
Што раптам зробімся бацькамі;
Бо можа хлопчык паявіцца,
Або дзяўчынка нарадзіцца.

Тады пачнецца ўжо другое,
Бо госцю трэба сёе-тое,
Каб чалавекам мог бы стацца,
А гэтае трудна — трэба знацца.

Яко Бог кажа, будзем жыці, —
Кароўкі, волікі жывіці,
Гародчык з морхвай, бурачкамі,
Ды сад з пчалінымі вуллямі.

А после… трэба пастарэці,
І сілу возьмуць тады дзеці,

Пачуць прыйдзецца мо навіну:
«Гатуйся, тата, ў дамавіну…»

Ну што ж? Пара, пара, дзяўчынка,
Бач, чалавек тут як пылінка, —
І жыў як бы не жыў на свеце:
Прысніў казаў бы сон ў налецце.

І вось нас разам пахавалі,
Паплакалі, пабедавалі, —
І Богу дар за нас зլажылі,
Каб душы нашы супачылі.

*1925*

## НА НОВЫ 1926 ГОД

У вечных цемрах апынуўся
Стары, бядовы, прошлы год —
І ўмомант новы нарадзіўся:
Тайніцай нам яго прыход, —
Мы дзелім час сваймі гадамі,
Як дзецi быстру плынь-ваду,
А час не йдзе!..То мы з трудамі
Ляцім у бытаў чараду.
Паважны перад Новым Годам
З жаданнямі святкуем дзень,
І не адны: з усім народам
Мы Бога молім: «Лёс адмень!»
Цябе вітаю, Новы Годзе,
Не чаркай і не пірагом, —
Нясі нас к вольнасці-свабодзе
І дай пагібель варагом.
Цябе вітаю ўсей душой,
Так прагнай будучых падзей:
Будзь шчаснай ты адмен ступнёй
І выпаўненнем сноў-надзей.

*1926*

## МУЗЕ МАЁЙ

Музе маёй Чараўніцы
Музе Дзявойцы сваей
Музе маёй Радаўніцы
Зорцы маёй Весяліцы,
Другне[1] жыццёвых надзей:
Новыя песні жалючы
З жаласці дзён я спяваў.
Крыючы слёзы пякучы —

Ў зорныя светы ідучы —
Бога на помач я зваў.
«Даў бы Ён крошачку свету,
Болей святла і цяпла!
Даў бы ж Ён ясную мэту,
Сілай сваёй прыадзету,
Нашаму брату з сяла!»

Музе — святой Берагіні —
Яве Русальнай зямлі —
Музе кажу і багіні:
«Хай наша процьма загіне,
Божы каб след мы сцямлі…
Прад Ім Ты за нас заступіся —
За ўсіх мучаніцтва дзяцей,
Над людам пакуты маліся:
«Ах, Дзень Адраджэння з’явіся
У свеце крывавых падзей!»

*1926*

## ПРЫЙДЗІ, ХРЫСЦЕ

Прыйдзі Хрысце, о Божа мой,
У наш край,
Багаславі святой рукой
І моц нам дай.
Чакалі мы маркотныя
Вады жывой,
Пыталі мы, гаротныя:
«Дзе шлях ёсць Твой?»

Няма Цябе, о Хрыст святы,
Між нашых ніў:
Сусед благі зглуміў… а Ты
Галоў схіліў.
Святыні дзе, Хрысце, Твае —
Святых Тваіх:
Загінула даўнейшае —
Не маем іх.
Святар-чужак жалезную
Руку падняў:
Святыню нам належную
Сілком заняў.
Расселіся, раз’еліся
Нябёс купцы,
У пёрыны адзеліся,
Маўляў глушцы.
Народны жаль, народны боль
Не кране іх:
Вядуць на здзек, вядуць на боль
Сляпых, крывых.
Прыйдзі, Хрысце, нам веру дай —
Моц Божую:
Няхай пачуе родны край
Душу сваю.

*1926*

## ЗНАЙСЦІ СЭНС РАДАСЦІ…

Знайсці *сэнс* радасці і суму жыццёвага —
вось задача.
Прыхіліцца ў старану *аптымізму* —
вось шлях.
Стварыць *сінтэзу* жыцця свайго, народа, людства —
вось Ідэал!

## БАЙКАТАВАНЫМ КСЯНДЗАМ-БЕЛАРУСАМ

Вам польскія айцы байкот свой аб’явілі —
Я чуў, што нат рукі не хочуць падаваць,
Што людскую душу яны у манаполь хапілі,
І толькі іх рука патрапіць нас збаўляць!…

Эх, дзеці мы! Абы з чаго сумуем
Замест ламаць запоны на шляху;
Замест смяяцца — мы гаруем —
Казаў бы як прычасны іхнаму граху.

Байкотам на байкот! Няма тут што хістацца,
Калі агонь яны распачалі:
Ты перш рукі не дай… Кінь, браце, цалавацца
З людзьмі, што пыхай абраслі.

Пакуль народ правіцай спрацаванай
Успамагае наш цяжкі, мазольны труд, —
Спакойны мы. Не будзе змарнаванай
Сяўба. Напоўніцца гаруд.

*1926*

## ЗУБР У БЕЛАРУСІ

Вялікі бык. Астаўся нейкім цудам
Ён ад вайны ў загонах Беларусі;
Жыве сабе з арыстакрацкім брудам,
І лесавік яму з паклонам служыць мусе.
«Звод на яго! Пашто быкоў пладзіці?!» —
Так кажа нам шмат хто з палешукоў:
«Пашто дабро запрацаванае глуміці?
І дзе карысць для вёскі жыхароў?»
Тлумачыць пан: «Мужычы вашы думкі, —
Труцень і зубр патрэбны на развод;
А будзе год калісьці такі глумкі,
Дык трутняў і зуброў сам выгубіць народ».

*1926*

## ЧАРКУ ДАЙ, БРАЦЕ…
*(Апавяданне вершам)*

### 1. Вясна

Чарку дай, браце, — гэты раз нап’юся,
Каб пазабыці ўспамін ядавіты…
Хочаш ты ведаць? Расказаць баюся,
Як быў я ласкі калісь прагавіты
Боскай на небе, на зямлі — дзяўчыны.
Смяешся, браце?.. Ох, пазнай прычыны.

Я быў студэнтам. Рад вырваўся з вёскі
На свет шырокі з журбою пазнанне.
Змогшы сумлевы, пазнаў агонь боскі,
Што дух мой кінуў ў вечнае змаганне
З крыўдай нявольнай, з горкаю бядою,
З мерзлай аблудай, доляй праклятою.

З мудрасці ўсенькай «пяць слоў» навучыўся.
Змест іх — пагляд мой увесь замыкалі, —
Аб гэтых «словах» пісаць я маніўся
Мудрую Кнігу… Там бы вы чыталі
Першае слова аб «Ім», аб Спрадвечным,
Ў праяве быту свайго бесканечным.

Другое слова «Людствам» называю.
Трэцяе «Язняй»: сам сябе пісаці
Я там маніўся… Ах, прыпамінаю
Ход мае думкі: думаў называці
Сябе ды з ёю — «чалавекам цэлым»:
Ў Любасць-Ідэю верыў сэрцам смелым.

Слова чацвёрта звалася «Народам».
У гэтым слове хацеў я азначыць,
Што дзікім мечам ці граніцай-зводам
Душы народнай нельга перайначыць.
Пятае слова «Вечнасць» рысавала, —
Над шчасцем быту людскога гадала.

Вясною ранняй аддзел Кнігі першы
З душы пламеннай крывёй быў пісаны:
Кожнае слоўца і усенькі вершы

Начой бяссоннай былі размышляны…
Краска вясною сніць усцяж аб сонцы,
Але — й за краскі… плацяцца чырвонцы!

## 2. Лета

Чарку дай, браце… Не туды я еду…
Розум мой кволы цяпер страпянуўся
Цяжкім ўспамінам. — Агарнуў я веду
Тады умела, а дух мой прачхнуўся
І воляй дужай здабываў адразу
Правы сусвету — правы без адказу.

Розум мой біўся з думкаю адною,
Што сэрца неяк наўзгад дыктавала:
Ці жыці трэба навек сіратою
Адным на свеце, ці каб дапаўнела
Лёс мой жыццёвы любая дзяўчына,
Спрадвечнай «язні» маёй палавіна.

Як я ўлюбіўся — сам добра не знаю!
Толькі не меў я адгэтуль спакою, —
І днём і ночай над тым размышляю,
Хто яна, дзе, за каторай гарою…
Раз яе відзеў на адным гулянні
І цяпер думаў толькі аб спатканні.

Лёс пашчаслівіў, пазнаў яе блізка,
Скора здружыўся і мог згаварыцца.
Слоўца па слоўцу, пагнаў нас вятрыска,
І пачалі мы шмат шчыра любіцца, —
І душы нашы адну песню зналі,
А сэрцы нашы сонцам аддыхалі.

Відзеліся часта, жыці было трудна
Ў доўгай разлуцы. Кончыўшы заняткі,
Йшлі мы, дзе сонца нам свяціла цудна
І дзе збіраліся з ваколіц дзяўчаткі
Краскі зрываці, як калі купаці
Ножкі і грудкі і — песні пяяці.

Заходы сонца нас тады дзівілі;
Рыбку дзяўчатам лавіць памагалі,

У цёмнай ночы зоркі мы малілі,
З дрэўцам і траўкай аб шчасці шапталі;
Месяц дзівіўся нашаму бадзянню
І багаславіў шчыраму каханню.

Аб чым найболей тады гаварылі?
Ўсё з мае Кнігі: «Бог» — «Шчасце Людское»,
«Любоў» і «Вечнасць» у вадно злучылі,
«Народу» месца далі немалое;
Было нам добра жыць ў ціхой улудзе,
А то й запраўды ў незгаданым цудзе.

Як першы зоркі свой твар уяўлялі,
Мы йшлі да рэчкі; дзівы аглядалі,
Ракі лавілі, бучы застаўлялі,
Як дзеці, смешна ў вадзіцы гулялі —
І раскладалі агеньчык маленькі,
Рыбку варылі і пяклі апенькі.

І так мы лета правялі шчасліва.
Матка прырода была нам апека.
Ніводна думка прыземна тужліва
Не трула сэрца «нас двух» — *чалавека*:
Любоў спрадвечна «нас двух» заручыла,
Ночка і месяц навек пажаніла.

### 3. Восень

Вецер быў востры, вязлая дарога.
Неба балотны расцягала хмары.
Пуста наўкола, ні духу жывога.
Поле, гнілы крыж. Ля дарогі чары
Якіясь піша чыйсь след на балоце,
Ні звера, ні птушкі не чуваць ў чароце.

Еду дамоўкі, трэ дакончыць дзела
Не пустамеллем, а жывым парадкам.
Дома работа усенька наспела:
Парадак ў хаце ёсць шчасця задаткам.
Кончыў навуку, гаспадарыць трэба
І сваёй мілай прыхіліцці «неба».

Ўсё прыгатую, і можна на зімку
З ёю прыехаць дзяліці лёс долі.
Дом во ўжо новы, тут з маёй дзяўчынкай
Буду я жыці; хай знае даволі,
Што яе бытам розум мой трывожу:
Шчасце ўдзяржаці да смерці варожу…

Дарогай струджан, заснуў як забіты
Сном скамянелым, аж мне цяжка стала.
Была ўжо поўнач… Раптам потам зліты
Віджу я з’яву: «яна» *умірала*!..
Над ложам ейным мужчына схіліўся,
У грудзі дзявоцкі, як вужак, упіўся…

Я разбудзіўся і спалохлым зорам
Ўкруг азірнуўся. Ночка прасвятлела,
І месяц чысты свяціў ясакорам,
Што страж дзяржалі ля хаты самлелай
Сном спрацаваным. Як ў люстры дзяўчына,
Адбіўся ў лужы ў двары пад калінай…

Жах сэрца сціснуў мне. Не сну я баюся,
Але якогась прачуцця дзіўнога:
Штось з «ёю» будзе… Сон жа той здаваўся
Дзіўны мне надта і з боку другога, —
Дзе твар я відзеў гэтага мужчыны,
Што гадам упіўся да маёй дзяўчыны?!

Ён мне знаёмы, але скуль не знаю.
Брунет высокі, два зубы зламаны,
Пахне памадай… не прыпамінаю…
На дзве паловы волас расчасаны,
На грудзёх знак якісьціка носе —
Знаёмы мне ён, ці, можа, здалося?

О восень, восень — смерці уяўленне,
Восень пажоўклай прыроды грабніца,
Восень паэта ў засвет летуценне,
Восень запеваў вятраных тайніца…
Колькі ты свежых магіл адчыняеш,
Колькі ты слёзаў горкіх разліваеш!..

Сумам мне сэрца яна уквяліла
Ад тэй во ночы, калі ледзь жывая

Люба здалася… Ах, нейкая сіла
Ёсць дзесь над намі, што асцерагае…
Я мушу ехаць назад неўспадзейна,
Бо затужуся дома безнадзейна.

4. Зіма

Вагон. Праз вокны, як у дзіўнай раме,
Бягуць парадкам лес і мёртва ніва.
Сонца знячэўку нехаця загляне,
І, азірнуўшы падарожных крыва
За іх някемства, вочы закрывае
Хмарай-хусцінай або ў лес збягае.

Сонны іх твары, гаворка ляніва,
І бразг калёсаў нейкі такі жудкі,
І погляд часта відаць палахлівы,
І сон іх нейкі так трывожна чуткі;
Прэцца машына неяк перунліва,
То парай чмыхне-свісне агідліва.

Сталі. Праз вочы змучаны з прасоння
Бачу я нейку новую фігуру:
Прысеў на лаўцы, глянуў праз ваконне,
Ўсіх азірае, папяросу кура…
І раптам чую сваё я іменне,
На жах няясны і разам здзіўленне:

«Сяброчку-братка! Не пазнаў, дальбог жа…
Не помніш школы у Гайскім павеце?
Ах, як век гэты змены ў твары множа,
Як смешна зманна на гэтым тут свеце…»
І дай так далей прошласць ўспамінаці,
Адно хваліці, другое ругаці.

Быў, — кажа, — ў войску… Вясёла жылося,
Хоць было цяжка, як жылі «у полі».
Цяпер нічога больш не асталося,
Як ажаніцца, бо гуляць даволі…
«Цяпер з дзяўчынкай трэба развітацца,
Ўзяць сабе жонку і за дзела брацца».

«А дзе ж дзяўчына?» — нясмела пытаю.
«Э, доўга баяць. Жыў з ёю дзяцінна…
Еду успомніць — сама узывае…
Ты прыйдзеш заўтра у раннай гадзіне
Нагаварыцца, ўспомніці старое,
Ты нешта церпіш! Цябе супакою».

Так гаманіў мой знаёмы ваяка,
А мне здалося, што я не надарма
З ім ў вагоне спаткаўся аднака:
Лёс нам здарае вельмі гаспадарна…
Позна вярнуўся, лёг адразу спаці
З думкаю заўтра мілу павідаці.

Сон быў спакойны, як райскай нядзелі.
Сніў, што з ёй разам краскі мы зрывалі,
Што каля рэчкі удваіх сядзелі,
Што кветкі разам у ваду кідалі,
Што адна толькі патанула кветка
І штось сказала накшталт: «Малалетка!»

Зямелька зрана акрылася снежкам,
Як гаспадыня зімачку спаткала
Напоўгасцінна, а напоў з усмешкам
І ўжо пакоі, дзе жыць, паказала.
Устаў я, можа, крышачку зарана,
Але што ж зробіш з душой разыгранай!

Думаю: Люба йшчэ ўстаць не захоча,
Сон ёй трывожыць гэты раз не буду, —
Йду да ваякі, хай мне пабалбоча
Аб нашым прошлым: адгоне прыблуду
Журбу сваёю насмешкай з жанчыны,
Казаў бы «грэхам яна ёсць мужчыны».

Сяброк мой шустры увайшоў ціхенька.
Быў ўжо адзеты, пробаваў гітары.
«Эх, меў ў руках я ўжо яе даўненька,
Але — пст![1] Ціха, — там у мяне «чары»!
Крышку замнога дзяўчыначка піла,
І чарка хітра з ног яе зваліла».

Сказаўшы гэта, прачыніў ён дзверы…
На сафе мяккай ляжала дзяўчына!

Грудзі адкрыты, твар як бы з паперы
Бледы і гідкі (і не без прычыны).
Над целам сонным сяброк мой схіліўся,
Цалункам прагным ёй у грудзі ўпіўся…

Зусім не помню, што са мной зрабілась…
Як беспрытомны, я глядзеў праз дзверы…
Яна! Так! Люба!.. Нават прабудзілась
І вочы ейны сумныя без меры…
Стралою рынуў адтуль я вонкі,
За думкай страшнай пабег наўдагонкі.

Хапіў рэвальвер і ляцеў да рэкі,
Дзе ў сне мы кветкі сёння пакідалі.
Рэчка замерзла. А маёй уцекі
Тутка, здаецца, груганы чакалі:
З лесу ўзнялася іх грамада цэла
І крыкам злосным ў неба загрымела.

Як труп у тое я месца зваліўся,
Дзе мы калісьці агонь раскладалі, —
Біў сабе грудзі і слязьмі заліўся…
Раптам рэвальвер адкінуў найдалей,
Бо смех шалёны хапіў з тэй прычыны:
Што «шлях з жанчынай ёсць грэхам мужчыны».

Цяпер не знаю, дзе яна, што з ёю:
Пашто крывавіць рану свайго сэрца?
Часам здаецца, што яна маёю
Навекі будзе, хоць бы ў паняверцы.
Так кажа сэрца, а розум рагоча…
Чарку дай, браце! Нап’юся ахвоча.

*1926*

## ЦВІЦЕ КРАСКА І ВЯНЕ
*Імпрэсіі*

З о р. — Я не відзеў ніколі яе вачэй, хоць штодзень углядаўся, дзівуючы чыстыя рысу твары яе. Не знаў і глыбіні душы яе, мінаючы з жахам тайніцу чужога сумлення. Раз, аднак, нябачна для яе, пагляд мой супачыў на зоры яе, ясным, бы веснавая раніца. Нейкая лёгкая, але дакорная дрыгата прабегла па целе маім: бляск зору яе меў адцен безнадзейнай журбы і разам безгранічнай, поўнай здзеку, іроніі — маскаванай пустатой дзявочай. Я пабаяўся думаць аб яе загадцы: таемнасць людскога духу страшная ў сваёй развязцы... Праз думку маю праляцела маланкай трагедыя адвечнай ідэі, закаванай у запоры матэрыі. Чаруе нас гэтая ідэя, а праява яе ў будні — забівае нас... Так мне здавалася.

* * *

Ц а л у н а к. — Свяціў месяц блудны на небасхіле. Мутна лыпалі зоркі. Паветра пульсавала знямогай ночы. Салавейка цудную песню канчаў мілай сваёй... Я расказваў ёй аб зорах і небе, аб журбе шукання чагось адвечна вялізарнага, неаб’ёмлівага — дзе б можна было запоўніць усе свае найтайнейшыя парывы душы. Прызналася мне, што думае часта аб гэтым і — разумее... Гэта была яе першая мана перада мной, а мой першы самаабман. Дух шукае і ведае мэту сваю — ведае, куды ідзе; але і перад ім скрыты сцежкі простыя: відзім зманную форму, а толькі дагадацца можам зместу: знаем праявы матэрыі, а дзе кончыцца яе зманнасць, не ведаем. Душы нашы спаткаліся ў бесканечным быце форм ідэальных; сімвалам гэтага спаткання быў першы цалунак — заручыны новай творчасці… Так я думаў. А яна? Яна засмяялася ледзь значна і — засумавала... А сэрца маё сціснулася прачуццём нейкага болю... Цудная, светлая ноч! Колькі ж ты крыла ў гэным чыстым, нясмелым цалунку зачаткаў любові гарачай, а мо і нянавісці закрытай... Не згадаеш! Ах, як вечна няможна здаволіць духу чалавека, паставіўшы яму якую-небудзь граніцу... І смуціцца пэўна Бог над кожнай душой, што шукае шчасця-вясельля... Так мне здавалася.

* * *

П ч о л к а. — Ледзь заметны крапіў дожджык. Струджаны падарожай, мы селі пад галлём магутнага дуба. Яго развесістыя галіны баранілі нас ад дажджу — слёзцаў нябесных. Сцямнела. Сон агарнуў людцоў, прыбітых рукой штодзённага гора. Любоў мая! Ты ў гэты вечар зладжыла першую песню пекнаце ночы, салодкаму сну-летуценню, чароўнай зманнасці ўсяго жывога ў прыродзе. Хоць плакала — вядома чаму — неба, маўчалі птушкі, — нат совы не адазваліся, каб прарочыць благое... І што ж магло сапраўды быць благое ў песні на чэсць вечнай адмены святла і цемкі, вечнага абнаўлення ў штораз іншых праявах быту! Далёкі быў сёння ад мяне сум і безнадзейнасць, — пасля шлюбу з ёй зорам, каторы цалаваў горача. Ах, дзе ж еднасць душ нашых? Ці ж меў я душу яе, знаў скрытыя ад мяне думы; ці ведаў, чаго яна сказаць мне не можа... І чаму на вуснах яе я чую, віджу іронію! Ад сябе ж не магу адагнаць цяжкой рэфлексіі: «Пашто ты ціха ўсміхаешся, мілая? Што ведаеш ты, чаго я не магу дадумацца. Маніш ты мяне ў чым-колеч ці смяешся над уладай любові, якая разгараецца полымем у цэлай істоце маёй. Хочаш мо сказаць, што няма, — няма любові на свеце... Маўчыш загадкава». — Чую звон пчалы, зычны звон заплутанай дзесь, казаў бы, у валоссе, пчалы… Дарма стараюся зняць яе: не кусае, дзе ж яна? Няміла адчуваю злосны зык яе. — Не прызнаюся я любай аб гэтым дробным прыпадку са мной. І як прызнацца, калі назаўтра дзве краскі закрасавалі на месцы нашага чыстага шлюбу; і — як жа прызнацца, калі звон гэны казаў мне адкрыта: «У салодкіх чарах любові скрываецца жыгаллё пакуты, а мёд найшчырэйшага кахання запраўлены атрутай нявернасці або блуднасці няшчырай і скрытага раз’яднання»... Так мне здаецца дагэтуль.

* * *

Л ю б о ў. «Любоў — цяжэнне да сябе натур сімпатычных», аж пакуль знаходзяць сябе: або ў бесканечным — тады цуд; або ў бязвольнай матэрыі — тады нянавісць. Дух злучае на вечнасць, у правах матэрыі заўсёды раздзел, расплыўная роднасць: дух вечны, матэрыя — зманнасць. Любоў — гэта найвышэйшая роскаш і шчасце або найстрашнейшая жаласць і боль, усё — або роўна нічога: Бог — або сатана. Любоў быць можа міласцю, калі ёсць суцэльнай, без цені самалюбства. «Прывязнасць» праяўляецца варункава, каб узамен узяць такжа. Любоў-Міласць

заўсёды шчасліваю, — прывязнасць шчасця не творыць, бо ёсць кантрактам узаемнасці. «Слова» палюбоўнік-палюбоўніца гідкае, бо азначае, што ўлюбёнцы палюбілі толькі саміх сябе ў другіх. Любоў-Міласць — гэта бесканечная творчасць духу, які ўзаемна дапаўняецца ў мужчыне і жанчыне, будуючы шлях аж да граніц адвечнага бытавання... Так мне, здаецца, — хай Бог мой разгоніць сумнівы мае!

* * *

З д а в а л а с я  м н е, — што ёсць тры віды любові ў нашым свеце: ідэйная, матчыная і — прастытуцыйная. Толькі першая сапраўды творчая. Мэта другой: абноўленыя пакаленні. Мэта трэцяй: заработак. Магчыма, што любоў ідэйная скрывае мэту ў самой сабе. Няўхватнасць гэтай мэты родзіць сум і трагедыю сэрца, каторае ледзь не заўсёды мусіць разбіцца на зломах будзёншчыны. Маючы падклад змысловы, любоў нат ідэйная носіць у сабе зарод смерці. Любоў вечнага, неўміраючага здаволіць толькі можа дух чалавечы: Міласць-харытас. Можа, каханне толькі сімвал гэткай правечнай Міласці. Як бляск зарніцы прабіваецца ў ім ідэя адвечнай злучнасці ў Абсалюце...

Але — як топчацца яна ў блудных цемрах заводнасці, грубай ярнасці, бруднай нявернасці. Вось дзеля чаго канец найшчырэйшага кахання, ідэйнай любові, бывае часта безнадзейна трагічным, а шчасця так цяжка шукаць на беднай зямліцы.

* * *

Б о ж а. — «Падымі мяне, Божа, яшчэ гэты раз адзін падымі мяне.

Хай за справай Тваёй тыя дні мінулыя, у каторых не было Цябе, запомнены будуць.

Гэту адну хвілінку расснуй шырока на ўлонні сваім і пазволь святлу Твайму расплыцца над ёй.

Пайшоў я за голасам, што злудзіў мяне, да мэты не завёўшы.

Ныне пазволь мне сесці ціхенька ў падножжа Твайго і прыслухацца слову, што глыбока западзе ў душу маю.

Не хавай зору свайго ад цёмных тайніц майго сэрца; кінь на яго ласкава праменьмі сваімі, каб разгарэлася агнём любові Тваёй».

***1926***

## КАЗАЎ ФІЛОСАФ ДА ПАЭТЫ…

Казаў філосаф да паэты:
«Што можаце чаўпсьці аб быце,
не адрозніваючы быту ад нябыту».
Адказаў яму паэт:
«Га, трудна нам паняць адзін другога:
Вы чытаеце праўду быту
на лісце жоўтым,
а мы на зялёным».

*[1925–1926]*

## ЗАПРАЎДЫ КАЖУ ВАМ…

«Запраўды кажу вам,
што шчасце дае любоў.
Дзе няма шчасця,
там пануе яўная
або скрытая нянавісць».

*[1925–1926]*

* * *

Багаслаў, Божа, святую хвілінку,
Калі я духам да неба узнашуся,
І як тапельнік хапаю хмызінку,
На бераг выйсці у Цябе прашуся.

А бурны хвалі заліваюць вочы,
А цяжасць цела на дно падаецца,
Збіраю сілы да жыцця ахвочы,
А дух насільства нада мной смяецца.

Хай стогне бура, хай рагочуць злыдні,
Жывым не дамся лядовай купелі:
Плыць буду духам, не два і не тры дні,
Да вызвалення русальнай нядзелі.

*[1925–1926]*

## КРАПІВА

Дзяўчыначка Любка, з каторай люблюся,
Каторай шлю краскі падзіву
І дзеля каторай ў сумнівах гублюся, —
Прыслала мне сёння… крапіву!

Дастаў бы ёй сонца у кветну хацінку,
Засеяў бы краскамі ніву,
Між імі Лілейку паставіў дзяўчынку, —
Палоў бы з асоту… крапіву!

Дзяўчынка смяецца — ей смешна здаецца —
Хоць строіцца ў мінку стыдліву;
Кінь, Кветка, хіхоткі, — бо сэрца мне рвецца,
Што ў ім ты гадуеш… крапіву!

*[1925–1926]*

## ЦІ ТО НЕ ДЗІВА

Ці то не дзіва, што ў зярнятку кволым
Цаленька расціна ў завязку крыецца:
І ці то не дзіва, што ў розуме голым
Заўсёды няпраўда і пыха снуецца.

І ці ж то не дзіва, што ў помпе багацтва
Гняздо смактуны-павукі залажылі,
Што ў вопранках з шоўку злягае рабацтва,
Раскошы хваробы французскі спладзілі.

І ці ж то не дзіва, што кепства на свеце
Ў берэты і тогі вучоных абулась,
І ці ж то не дзіва, што цнотамі смеце,
Аблуда, і гніль, і гнайно апранулась.

І ці ж то не дзіва, што мудрыя свету
Навуку для бавы і смеху майструюць,
І ці ж то не дзіва, як «працу» іх гэту
На вечныя часы на кніжках друкуюць.

І ці ж то не дзіва, што свету Выбаўца
Быў просты, ледзь знаны, пакорны, убогі;

У гутарцы хатняй, як нашы сялянцы,
Вучыў усіх чыста ў сумленні трывогі.

«Будзь чысты, ціхенькі, спагадны ўсім чыста,
І багаслаўлёны, хто плач свой скрывае,
Хто церпіць за праўду, за веру, за Хрыста,
Хто з труду дзень цэлы спакою не мае».

Дзівіцеся ж людцы, што ў «простым» народзе,
Ў прыгоне і працы пакутнай ад веку
Гарыць яшчэ іскра аб вечнай свабодзе
І роўнасці-брацтве ў трудзе чалавека!

*[1925–1926]*

## ЗАБАЛЕЛІ ІЗНОЎ…

Забалелі ізноў мае грудзі
Журбай творчай жыцця і агню:
Адышла смерць-зіма, — і не будзе
Пагражаць маёй радасці дню.

Бо маліўся ж, маліўся я Богу
Дачакаці вясновай пары,
Кінуць згубных сумніваў бярлогу,
Схваляваўцца адблескам зары.

Ох ты зоранька майскага неба,
Чараўніца начлежнай сям'і, —
Прамянём тваім цешыцца глеба,
А святлом душа роднай зямлі.

Засвяці, зорка, йзноў, як свяціла
Ты калісь мне шматкветнай вясной,
Як рунела кругом краса-сіла
І як Муза йшла поруч са мной…

*

Чую звон дзесь з далёкай званіцы, —
Чаму сэрца ён мне скалыхнуў?

Што сказаць гэтым зыкам маніцца?
Што у думцы маёй я мінуў?

Думку мысль працавіта спіхае:
«Няўжо радасці родзіць труна,
Няўжо зорка жыццю спагадае,
Няўжо свеціць гаротным яна?»

*1926*

## АБ МАІХ КРЫТЫКАХ

З прыладамі хірурга ласкава падышлі
І палажылі дослед на душы маёй —
Чаго не відзеў сам, Вы хутка там знайшлі,
Што бачыў сам, сказалі да людзей.

Падзячны я, бо праўду шмат люблю
І ў век кароткі мой хацеў яе адкрыць;
А толькі вось, на жаль, яе няўзнар глумлю —
Аб гэтым Суліма[1] сказаў як мае быць.

А Светазар[2] — надзеяй абдарыў
Выдатны талент мой, каб меў бы радасць я;
Затое «ех»[3], — што толькі я тварыў, —
Пытаннем дараваў, — расці душа мая!

Але прыйшла пара. Нядужасць адабрала
Сумлівае пяро ды з слабае рукі…
Мне жаль вясны (такая не бывала!)
І — крытыкаў… і жаль жыцця — ракі.

*1926*



# АПАВЯДАННІ

## ГАНУЛЬКА
*(Апавяданне Пётры)*

Прыехала мая Ганулька на «гакацыю» (ёсць там у месце нейкае свята — гакацыя). Сама стройная, гібкая. На галаве капялюш з птушкай. На плячах доўгая ратонда, ці як яна там завецца. А спадніца, куды ж — спераду сцягнена вузка, а ззаду цягнецца аграмадным хвастом. Гаварыць па-нашаму Ганулька не хоча, не цалуе бацькоў у рукі, паняй казаў бы вялікай стала.

Пайшлі мы раз неяк да сена. Аж тут дождж надходзіць. Кажу я тады Ганулі:

— Памажы ж ты нам грабіць, Ганулька!

— Бог змочыць, Бог і высушыць, — адказала Ганулька, збіраючы нейкія кветкі.

Назаўтра (быў пёнтак) устала матка ранютка і каля печы завіхаецца.

— Мама, спячы бліноў! — адазвалася Ганулька з ложка.

— Сягоння ж пост, дачушка, — здзівілася маці.

— Гэта ў вас толькі пост! — сказала гнеўная Гануля, хаваючы галоўку пад коўдру.

Прыйшла нядзеля. Людзі з лёгкім сэрцам, вясёла ідуць у касцёл, каб там пахваліць і выслаўляць Бога. Ганулька убіралася дзве гадзіны і выстраілася як цацка.

— Можа ж, табе, дзіцятка, ксёнжачку даць? — спытала нясмела маці.

— Не трэба, мама, маю я ў галаве ксёнжку...

Пышна выйшла з хаты Ганулька і як пава пашумела ў мястэчка. Дзівіліся людзі, як змянілася Пётры дачка: глядзіць іначай і валасы іначай чэша і ход іншы і ўбёр. А іншыя так падсміхалі, кажучы, што на паню захварэла, а ў душы глупай бабай асталася.

Развіталася ўрэшце з намі Ганулька і пад восень выехала ізноў у горад.

Прайшла скоранька зімка, і вясна яе змяніла. Сонца вясёленька бліснула маёвае. З’явіліся жучкі розныя, птушачкі незлічоныя, выраслі траўкі, зазелянелі дрэўкі. Аджыло ўсё на полі і ў лесе. Здаецца, прыйшла ўжо і гэтая гакацыя. Захацелася нам падзяліцца гэтым харастаом з нашай Ганулькай. Але яе нешта не чуваць, не відаць. Зачалі мы бедаваць з маткай. «Дзе ж наша Ганулька? Чаму ж яна і вестачкі не дасць аб сабе?»

Вот ужо і Аспажа Блізка, Маткі Боскай Лятонцай. Ганулькі няма і няма. Яшчэ болей мы пасмутнелі. Прыбліжылася і восень. Пайшлі дажджы, балота, гразь. Сядзім мы раз і бядуем, аж раптам у падворы забрахаў сабака і пад хату пад’ехала чыясьці драбіна. Калі я глядзь — з ваза злязае жыд з вакзала, а за ім нейкая кабета. Прыгледзеўся і пазнаў я сваю Ганулю. Божа мой! Як жа яна змянілася! Сама худая. Ані капелюша з птушкай, ані доўгай ратонды, ані спадніцы з хвастом!

Затое ж на руках у яе — дзіцятка… «Збадзялася мая Ганулька!» — з смуткам у сэрцы падумаў я...

*1914*

## МІКОДАМ

Мікодам быў бедны гаспадар з вёскі Мядзведзіцы. Выгляд яго такі, які мае многа вясковых гаротнікаў. Галава немалая, трохі прыгорблены стан, высокія, худыя ногі. Вочы трохі слязлівыя, хоць глыбокія і спакойныя, як тая крынічка ў лесе. Нос ані замалы, або доўгі, ані завялікі: якраз у меру. Невялікая бародка і рэдка калі гладжаны вус колерам сваім прыпаміналі сухмядзіну. Твар ужо трохі зараны (хоць Мікодам не быў стары) і там-сям сівы валасок на галаве значылі, што ён нямала пражыў і пазнаў, што значыць гора.

Зямлі меў Мікодам штосьці з пяток дзесяцін. Сенажаці на колькі вазоў благонькага сена. Але найгорш, што Мікодам не меў шчасця ў сям’і. Ажаніўся малады. Жонка пакінула яму трое малых, а сама пайшла да Бога. Скора за ёй пайшло да неба двое меншых дзяцей. Асталася адна дачушка, Анелька мілая, як кветка на вясну з вокам ясным, як паходнае неба.

Мікодам па смерці жонкі неяк не ажаніўся. Памалу падрасла Анелька і стала памагаць тату гаспадараваць. Асаблівым ня-

шчасцем для Мікодама было тое, што ён любіў выпіць. Не быў ён п’яніцам, што і душу гатоў прапіць, не. Але рубель не завёўся б у кішэні Мікодама, хоць бы ён меў і болей зямлі, не ўмеў бо ці не хацеў, можа, адчапіцца ад хеўры вясковай, што сходзілася часта на карты або на чарку гарэлкі да Ёселя.

Анелька надта любіла бацьку і часта думала, як адвесці яго ад благой прывычкі. Не ведала інакшай рады, як толькі маліцца да Маткі Божай і прасіць Яе помачы.

Тым часам прыйшло на вёску Мядзведзіцы — сам не ведаю — шчасце ці няшчасце. За радай пробашча і некалькіх гаспадароў з вёскі і воласці пастаноўлена было вясковую зямлю пабіць на хутары. На Мікодама напаў страх. Што будзе, як дадуць яму 5 ці 6 дзесяцін абы-якой зямлі на старане? Што станецца з яго кароўкай, калі няможна будзе ганяць яе на пашу? Ці ён будзе мець сілы мацавацца з горам хоць бы так, як цяпер. Дзе падзенецца з сваёй Анелькай, як трэба будзе пераносіць будынкі? Скуль возьме грошы завесці гаспадарку на новай сялібе, асабняком?.. Не памаглі тут нічога намовы Анелькі, каторая цешыла бацьку, што «на засценку (як казала) будзе лепей, бо ніхто ў вочы не ўлезе, ніхто шкоды не зробіць, што ўся зямля будзе пад вокам, што карову яна лепей выкарміць у хляве або ў гародзе, чым ганяючы дзень цэлы па голым полі і сухім лесе». Мікодам быў злы на ўсіх, а асабліва на гаспадароў, што лёгка згадзіліся выхадзіць на асабнякі.

Было гэта ў суботу пад вясну. Вечарам у Ёселя за вёскай сабралася неяк болей, як штодзень, гаспадароў і моладзі. Гралі ў карты, смяяліся, курылі папяросы і люлькі, плявалі горыч ад табакі на самую сярэдзіну хаты, гаманілі аб усім, а найболей аб тым, як на восень будуць пераходзіць на асабнякі. Многа было нездаволеных, а паміж іх першым быў Мікодам.

— Што ім прыйшло ў галаву? — казаў ён. — Дзякаваць Богу, пражылі тут нашы бацькі і дзяды, мелі хлеба і да хлеба, тут зламжылі свае косці, а вось здумалася Мацею збудзіць нязгоду: збунтаваў вёску і можа згубіць. Яму, валочніку, нічога: мае грош, мо яшчэ падкупіць каморніка!..

— Праўда! Найгорай то нам, найбяднейшым! — кіўнуў яму галавой Марцін і дакончыў кілішак водкі.

— Што бедаваць? — адазваўся адзін з маладзёжы. — Ашукаць ані падкупіць не дадзім, бо самі будзем усё рабіць. А як паробім дзялянкі, будзем цягнуць лёсы. З быдлам на засценку можна даць раду. Удзержым менш скаціны, але затое лепшую. А на перанос будынкаў і на пастаўленне новых паможа ўрад…

— У цябе, Янук, усё так лёгка і складна, — пачаў ізноў Мікодам… Але раптам глянуў у вакно і астанавіўся. Ад вёскі было нейкае святло. Мікодам хапіў шапку і маўчком скочыў праз дзверы. За ім гурмам пасыпаліся ўсе вясковыя, чуючы, што сталася няшчасце.

За парогам у вочы кінулася страшэнная рэч: гумно Марціна на канцы вёскі стаяла ў полымі. Здалёку данасіліся змешаныя крыкі мужчын і кабет. Усе кінуліся на ратунак. Гумно кругом ужо занялося і гарэла з такой сілай, што не было спосабу да яго дабіцца. Мужчыны абкладалі мокрымі дымкамі страху на хляве, каторы ўжо колькі раз займаўся. Другія вынасілі без ладу і парадку ўсё з хаты і кідалі на вуліцу.

Кабеты некаторыя ім памагалі, дружна лёталі, страціўшы галаву і не ведаючы, за што хапіцца. Гумно згарэла чуць не да паленца. Ратаваць не было чым, бо сяляне не мелі ані пажарных крукоў, ані помпаў. Шчасце, што не дапусцілі агню да хлява, каторы быў блізка хаты Мікодама. Згарэла б тады ўся вёска, бо хата ад хаты была зусім блізка.

Агонь дзяржаўся чуць не ўсю ноч і не даў заснуць спакойным сялянам. Не абышлося без няшчасных выпадкаў. Пад Януком зламалася драбіна: ён зваліўся на зямлю і звіхнуў сабе левую нагу. Анелька Мікодамова, памагаючы цягаць абгарэлыя бэлькі, была сільна збіта галавешкай, што рынулася ёй на самаю галоўку. Пажар, як паказалася, зрабілі малыя хлопцы, што ўкралі люльку ад старога пастара і пабеглі да гумна курыць мох. У Мядзведзіцах курылі ад малога да старога.

Штосьці за тры дні пасля пажару сядзеў Мікодам пры ложку сваёй хворай Анелькі. Сумна яму было і цяжка.

Дзякаваць Богу, хата яго асталася нячэплена агнём. Але яго наймілейшая Анелька, яго скарб, — ляжала без памяці. Без парадку разляглісь на падушцы яе расплеценыя косы; яе збялелы тварык і сухія вочкі былі так жалосны, што айцу цяжка зашчымела сэрца. «Божа ж мой, Божа! — думаў ён, гледзячы на яе літосна. — За што ж Ты мяне пакараў! Узяў Ты ад мяне ўжо тры душы! Пакінь на пацеху маёй старасці хоць гэту адну!..»

Анелька тым часам пачала нешта шаптаць, пасля неспакойна кідацца на ложку, як бы адганяючы ад сябе нейкаю мару. Раптам пачала крычаць: «Адыдзіся ад таты, адыдзіся!» — як бы бараніла Мікодама. Затым яна успакоілася, адкрыла вочы прытомна, злажыла рукі, як да малітвы, і доўга маўчала. Урэшце звярнулася да бацькі:

— Тата, тата! Ты болей не будзеш піць… Бо я прасіла Матку Боскую… Абяцай мне… Я буду здаровая.

— Не буду, не буду! — застагнаў бацька. — Усё зраблю! Толькі не ўмірай мне, дачушка!!!

Анелька ўсміхнулася. Неспакойная ізноў пачала глядзець дзесьці ўдалечыню. «Ратуйце, ратуйце!» — зашаптала, як бы ўспомніўшы пажар, і, сказаўшы колькі раз — «Янка», — пачала млець. Бацька пырскаў яе твар зімнай вадой і плакаў. Уночы Анелька папрасіла піць і моцна заснула. На другі дзень ёй было лепей.

* * *

У колькі гадоў па гэтых выпадках ехаў я на родную старонку. Здзівіўся моцна, відзячы, што даўнейшых Мядзведзіцаў не было і следу.

З вялікай вёскі асталася толькі адна хата-хутар. Кругом відзеў я фальварачкі асабнякоў з добра ўжо падрослымі садочкамі. Прыпомніўшы сабе даўняга знаёмага Мікодама, пастанавіў я адведаць яго. Хутар Мікодама стаяў неўдалечку ад дарогі. Акружаў яго невялічкі малады садзік. Пад'ехаўшы бліжэй, увідзеў я ў гэным садзіку колькі штук рамавых вулёў з пчоламі. Пад вокнамі ў гародчыку цвілі юргіня, гваздзікі і астры. Ціхі ветрык разнасіў запах ружы і язміну. Хата Мікодама была новая. Хлявы і гуменка толькі былі, відаць, перанесены яшчэ з вёскі. У падворы спаткаў мяне мужчына, у каторым пазнаў я з немалой радасцю Янку.

— Пахвалёны! Як маешся, Янук! Не прыпамінаеш ужо мяне? Ці ж не ты тут гаспадар?

— А я. Скуль жа Бог нясе? Хадзі ў хату. Анелька і стары будуць рады…

У сенцах чыста. Падзелены яны сцяной з дошак. «Там за сцяной наша маленькая кухня», — паясніў мне Янка з лёгкім смешкам на вуснах. Увайшлі ў хату, падзеленую такжа папалам. Выбегла найперш двое дзецянят, чыста вымытых і адзетых у цёплыя дамовыя світкі. У кабецціне Янкавай я зразу пазнаў вясёлую і жвавую Анельку. Але труды змянілі яе і прыгнулі даўнейшую жвавасць і хараство. Мікодам быў ужо зусім сівы, але цвёрды і здароў.

Пайшлі ўспамінкі і апавяданні. Я дзівіўся, што так стройна пастроіліся яны на новай сялібе, што ўсюды такі лад, што і коніка

маюць харошага, і кароўку — нічога, што ў хаце харашо і каля хаты, што не жаляцца на бяду.

— Дзякаваць Богу! — адказаў мне стары Мікодам. — Перш баяліся выхадзіць, праўда. Але як здарыўся пажар — ніхто не быў праціўны. Без малой бо макуленкі не пайшла з агнём уся вёска. Як выйшлі з вёскі, цяжка было, а найгорш з будынкамі. Ралля дасталася срэдняя. Параілі сеяць лубін, сарадэлю[1]: звольна зямля паправілася і лепей радзіла. Янук яшчэ на вёсцы ажаніўся з маёй Анелькай. Зарабілі трохі грошы, нанялі работнікаў, узялі помач ад ўрада і пачалі строіць новы дамок. Не абышлося без доўгу, але зара выплацім. Скаціна даўжэй стаіць у хляве — больш ёсць гною. Сенажатку летась асушылі і падбаранавалі. Сёлета вырасла стройная травіца. Ніхто нам шкоды не робіць, цяпер кожэн сам сабе пан. Але найважней тое, што Анелька адвучыла мяне ад гарэлкі. Выйшла яна з хваробы толькі дзякуючы Матцы Божай і той ахвяры, што я тады зрабіў. Каб не гэтая праклятая гара, меў бы я больш грошы і скарэй стаў бы на ногі. Анелька таксама забараніла Януку. Яна такая бой-баба цяпер, зусім не падобная да другіх. Глядзі, як усюды чыста і харашо! Гэта яе рука. Кінулі піць, кінулі аглядацца на дрэнны прыклад людзей, пачалі працаваць шчыра і з Богам, — шчасце прыйшло само. Мы небагатыя, але спакойныя і шчаслівыя. А дасць Бог гэтым дзеткам (тут ён абняў сваіх унукаў) будзе яшчэ лепей…

Так гаварылі мы пры пачастунку чуць не да вечара. Выехаў я з хутара Мікодама ўжо на заход сонца. Садок, дом і ўся сяліба была абліта ліловым на ўзмежку з чырвоным бляскам.

Жыта ўжо пачынала каласіцца. Вецер чуць калыхаў маленькія яго калёскі і ганяў, бавячыся, залатыя хвалі, як па возеры. За лясок хавалася сонца. Фальварачкі асабнякоў з садочкамі выглядалі як выспы. У паветры павеяла вячорная светласць. З касцёла — за колькі вёрст — данасіўся гудкі звон.

З-за кругазору відаць была толькі частка сонца. Вось і схавалася… Я аддаваўся сваім мыслям. У вушах маіх звінелі словы Мікодама: кінулі піць, аглядацца на людзей, пачалі працаваць шчыра і з Богам. Шчасце прыйшло само…

Каб жа хутчэй засвітала яно над нашай зямелькай.

*1914*

# ЯК ЯНЫ ГАМАНІЛІ

З грукатам, свістам, шыпеннем — казаў бы той змей у казцы — падышоў цягнік пад станцыю. Паўстала суматоха-натоўп: адны высядаюць, другія ўсядаюць. Цвёрдай нагой іду я ў вагон, бо-ткі білет здабыў, хоць так цяжка было дасупіцца. Дзякуй Богу, вось і месца, а і боль галавы крышку ўняўся. У таварыства чыстае трапіў: самыя паны і афіцэры. У суседнім аддзеле голасна гаманілі жыды. Вось, думаю, паеду шчасліва, бо між людцоў культурных засеў.

Вагон для некурцоў. Ну, і гэта добра, бо проста цярпець не магу тытуню: звялічвае ён боль галавы і вочы грызе да слёз. Крануліся з месца. Узнялася гутарка. Пан грубы і тлусты звярнуўся ўлёсліва да пані (такжа здаравеннай кабеты), ці дазволіць закурыць. Тая прызволіла. Пан зацягнуўся. За ім пайшлі іншыя, як бы наругаючыся пастановам новай дзяржавы «для непалячых». Ад дыму смуродлівага я чуў, як пульс пачаў сільней біць у віскох маіх. «Чаму ж, — думаю я, — звычка курыць так робіць людзей самалюбнымі? Трэба спытаць іх. Але ж, праўда, я мужык: яшчэ высмеюць». Я зажурыўся і думаў пад стукатню калёс вагонаў. Думкі мае ляцелі, як хмаркі, і быстра змянялі адна другую. Вось-вось заблішчаць між імі нейкія парывы на падобнасць іскраў, што ляталі агнёвымі пацеркамі за вакном, — нейкі бунт… а па хвілінцы ўзноў спакой і цяжкі боль у душы.

Я зачаў слухаць гутарку падарожных паноў. Адзін з Беларусі, другі з Украіны, трэці такжа «крэсовец». Нараканне на ўрад, на жыдоў, на непагоду і хлопаў, толькі без праклёнаў — не так, як у нашай прастаце. Але не толькі аб гэтым гаварылі. Узяліся зараз і за Беларусь. Адзін кажа, што тут «народ паўдзікі», бо нат не ведае, хто ён.

— Былі, — кажа (так перадражніваў панок людцоў), — у нас маскалі, былі немцы і палякі, а цяпер — немаведама адкуль — беларусы пруць. Ну і да чаго ж гэта!

— Народ гэта мяккі, — адазваўся другі, — даволі будзе трыццаці лет, каб завесці між імі чыстую Польшчу.

— Але што б'юцца з бальшавікамі, дык, можна сказаць, найлепей, — прыдаў ваенны. — Я, — кажа, — не знаю лепшага войска, як тутэйшыя з брыгады беларуска-літоўскай.

«Дзікі — мяккі — б'юшчы, — думаў я. — Вось так загадка!..»

А машына рвалася наперад у нязнаную цёмную далечыню, сыпячы іскрамі, бухаючы парай. У лясканні калёс па шынах, у

бразгу і грукаце здаваліся мне нейкія стогны-пагрозы. З суседняга аддзела данасілася безупыннае гергетанне жыдоў.

Пайшла гутарка і аб зямлі. Адзін даказваў, што надзел зямлёй сялян будзе з крыўдай для паноў і зруйнуе дзяржаву. Другі рахаваў, якія аграмадныя інтарэсы рабіць можна цяпер на лесе, прадаючы яго як апал для гарадоў. Трэці аб карах на мужыкоў за парубку панскага лесу. У маёй разбалелай галаве мігам праляталі ўрываныя сказы: «Мужык не патрапіць выкарыстаць даравانага яму поля». «Лес не будзе да панства прыналежаць». «Пры каланізацыі двароў я справаджу хлопаў з Польшчы». «Беларус спакойны чалавек».

«Так, спакойны, — падумаў я, — але ўсё ж думае-варожыць: «ці цяпер паноў спытацца, пачакаўшы»»». А тым часам у другім аддзеле жыдкі жывей і галасней гаманілі.

Знадворку сыпаліся снапамі іскры, дрыжэлі вокны вагона, свістаў трывожна гудок паравоза, а гутарка плыла ўсё далей і далей. Пайшло і аб «прылучэнні», аб «плебісцыце».

— Што за плебісцыт? — заявіў адзін. — Нам патрэбна моцная граніца: Дзвіна–Бярэзіна, вось плебісцыт!

Другі сказаў, што гэта, аднак, залежыць і ад таго, што скажуць там, у Парыжы.

— А голас усяго народа?

— Га!.. Гэта ж голас дзікай сляпой масы. Яна пастановіць, што згары ўложана.

«Вазьмі ж ты, — падумаў я, — і пашто ж тады пытаюць? Бедны дзікун, ён і не знаў, што голас яго — гэта толькі згары накіненае патакванне. Ці ж не лепей было б табе маўчаць і цяпер, як маўчаў (праклінаючы) вякамі».

Сумна мне бясконца, без патолі. Не жаль мне, што гэтыя паны так гавораць: як не горшыя ад іншых — чуюць моц сваю. А жаль мне на самога сябе, што я не магу сабрацца з думкамі і з сілай заявіць: «Паны, за што вы на нас уз’еліся? Чаму вы думаеце толькі аб сваёй карысці? Куды вы нас ведзяце?!»

І як бы на адказ маім думкам грукацелі колы па шынах няроўных. Бліснула чырвоная лятарня станцыі. Паказаліся людзі сонныя, чорныя, страшныя. Жыды заварушыліся першыя. На шырокай дошцы красаваў надпіс агнявымі літарамі: «Пагібель».

Ну, вось і дзякуй Богу. Я прыехаў.

*1919*

## ШТО ЯНКА-ВАЯКА КАЗАЎ

— Што чуваць?

— Эт, нічога. Вось Янка з вайны вярнуўся. Пазнаў, кажа, увесь свет. Дзе ён ні быў, хай Бог бароніць. Француз, кажа, найразумнейшы. Там нат малыя дзеткі па-французску балбочуць, а багаты аж страх: нават старыя бабы ў капелюшох ходзяць. Ангельцы так найбольш памаўчаць любяць, а калі што гутараць — усё вусны складаюць, усё роўна як бы плюнуць маніліся. Італьцы — народ гарачы, чорны, як цыганы. Зусім стыду не маюць, а ні ўстаіць на месцы, як бы рабакі меў. Туркі — народ бабскі, бабы іх сапсулі, бо маюць па дзве і больш… нават самі спадніцы носяць, хоць вусы людскія маюць… Грэкі — хітруны. Грэк і жыда зманіць, а махляр — не дай ты Божа!.. Чэх — таксама спрытны. Кажуць, што, як Калумб прыехаў у Амерыку, спаткалі яго чэхі і кажуць: «Мы сэм тады»… Славянец — чысты і бойкі, толькі гаворыць быццам бобу аб'еўся. Немцы — старыя лгуны. Народ разумны, толькі горды, як люцыпар, а мест сэрца носіць у грудзях гной. Палякі — паны вялікія. У іх так яшчэ ў калысцы ў портачках ходзяць. Украінцы — нічога людзі, толькі смешныя… хахлы, а як хто не верыць, што яны ўкраінцы, так проста ў зубы б'юць. Літвіны — нішто сабе. Але як зазлуе, то не даруе. Расейцы — гэта малы народ да вялікіх інтарэсаў…

— Ну а мы, што Янка аб нас кажа?

— А чорт яго ведае — не пытаўся.

*1919*

## АРТАЙ

Сню… Кругом яшчэ цемра залягала. Нішто не муціла цішы веснавой раніцы. Усход бялеў і ружавеўся, гаслі зоркі; ажывалі луг, поле і лес. А ён сніў… Прад ім шырокае, далёкае поле. Як мурашкі, кратаюцца каля работы людзі. На межах забаўляюцца дзеці. І ён хацеў бы ўзяцца за плуг свой, але чуе, што яго там прымуць, як найміта… Ён хацеў бы даканаць нешта важнае, вялікае… А тут ары панскае без надзеі на будучыню. Іншыя маюць сямейку, дамок, гародчык, гумянцо і многа яшчэ чаго, а ён… «І не п'ю, і не лайдачу, толькі ціхенька плачу…»

Касулькі сонца заламіліся на абразе Божае Маці. Устаў артай чым хутчэй і паў на каленкі. «Матухна! Нашто ж я радзіўся,

калі ўсё жыццё сваё мушу быць наймітам, мушу на другіх працаваць сваёй даланёй мазалістай? Матухна-Божухна! Чаму я бяздольны і чаму я не ўмею, не знаю, як долю здабываць?.. Ты мне дапамажы, ты маю цёмнаю галоўку асвяці!.. Дзяўчыну пакахаў я, жаніцца не магу, бо шчасця не дам ёй, ані бядоце яе дапамагу. У свет ісці — жаль роднага кута: баюся тужлівасці, бо яна заесць мяне. Тут долі не здабуду, у свеце мне яе не дадуць; жыць, каб есці, працаваць, каб не ўмерці, ці варта?! Ах, Матачка беднага Хрыстуса! Калі ты бедная была ўвесь свой век, скажы, чым цешыла душу сваю? Няўжо ж толькі і жыла сваім Боскім Дзіцяткам? Калі так, дык навучы ж і мяне! Дай мне веру і надзею! Бо кіну-рыну ўсё і збадзяюся, а нат сабака па мне не завые!..»

Выйшаў з плугам. Сонца ўжо паднялося шмат. Ціхі ветрык уносіў пару з раллі, ціха шапталі маладыя траўкі. Ажыўлялася кроў артая маладога і будзілася ў ім сіла. Шырока раздымаліся ягоныя грудзі, набіраючы свежых паветаў… Гнаў баразну за баразной, гнаў проста, складна, пэўнай рукой — што і пісар так не патрапіў бы па паперы выводзіць гэных знакаў мыслі, як артай умеў улажыць у зямельку сваю душу простую, вясковую, гаспадарскую — хоць і ў целе бяздольным. І конік знаў яго і ведаў, як хадзіць патрэба. І жаваранкі густой сямейкай зляталіся над ягонай галавой, каб пяяць сваю песню. «Чаго ж яны так расспяваліся? — думаў. — Жывуць, каб есці і пладзіцца, а песню радасці заводзяць. Чым жа гэта жыццё, што і ў горы родзіць такую песню?!» Зашчымела яму нешта ў сэрцы, калі задумаўся аб гэтай загадцы жыцця, а па хвіліне, як на адказ жаўранку, запяяў ён зычным голасам: «Ой, валы ж мае, ды ўсё палавыя, чаму ж вы не арэце? Ой, леты ж мае, ды ўсё маладыя, чаму дарма гінеце?»

Прыйшла і мілая і есці прынесла. А ён быў сумны. Трывожна паглядала на яго Ганна. Ён жа быў сягоння маўклівы і з мілым слоўцам да яе не спяшаўся.

— Што з табой сягоння, мой міленькі? — спытала.

Ён глянуў на яе зорам арліным і з моцай выгаварыў:

— Ганна, мілая, слухай, што скажу! Помні — не будзеш ты маёй, пакуль не заару я свайго ўласнага загона. А калі ты чакаць мяне не будзеш, няхай будзе пракляты той час, калі я свет убачыў!

*1919*

# ШТО ЮРКА Ў ТЭАТРЫ БАЧЫЎ

Прыехаў я ў Вільню ўжо вечарком і валю проста з вакзала да знаёмага жыдка, каб пераначаваць, а заўтра чуць свет пайсці ў Кальварыю. Аж вось знячэўку ўвага мая затрымалася прад нейкім пышна асветленым домам, на браме якога выпісана было пекнымі і вялікімі літарамі слова: «Ілюзія». «Што ж гэта? — думаў я. — Пэўна, імя якое дзявочае або бабскае, — гэта Ілюзія». Пад тую пару пацягнуў мяне за рукаво нейкі стойка пры дзвярох і адазваўся:

— Зайдзі, дзядзька! Дзівы ўбачыш!

— А што ж тут паказваюць? — пытаю.

А ён з ухмылкай кажа:

— Усенька, дзядзька: і перад, і зад, і што хочаш!

— Што ж ты кпіш з мяне, старога, тычка? — абурыўся я. — Скажы лепей, што гэта — Ілюзія?

— Гэта, дзядзька, тое самае, што «чмут» — зайдзі, пабачыш! Вундзе можна і білет купіць!

Я падышоў да ваконца, прад якім сядзела паненка ў акулярах, і папрасіў білет.

— А які? — запыталася яна.

— Такі, — кажу, — каб можна было б усё бачыць.

— У зале ці на галерэі? — пытае яна ізноў.

— На якой халерыі? — падзівіўся я. — Лепей ужо на зале.

А яна давай рагатаць, што я нешта не так сказаў, а я ж ёй на тое:

— Моладасць — дурнасць, паненачка, — кажу. — А колькі каштуе?

— Рубля, — кажа тая смяхотка, — нумар 66.

Узяў я білет і ўвайшоў у тую залу. З трудом знайшоў свой нумар і рассеўся, а тут з усіх бакоў выглядаюць стройныя галовы мяшчанства і пазіраюць на мяне, як на дзіва. Некаторыя нават прыстаўлялі да вачэй асаблівыя акуляры, каб убачыць лепей. «Ну ж і дзівяцца малпы, што чалавека ўбачылі!» — падумаў я, але, мусіць, на голас, бо нехта за мной засмяяўся, а пані, што перада мной сядзела з малой дзяўчынкай, адвярнулася і, на маю агіду, узлажыла на нос тыя модныя акуляры, каб акуратней угледзецца. Зара ж пані стала гаварыць нешта да дзяўчынкі, мусіць, па-французску, бо малая, як званочак, выгаварыла пекна: «ля, ле, лён, тралён», а старшая ківала ёй галавой і колькі раз паўтарала: «сра, сра, сра»...

Ну і смешныя ж штукі паказвалі паном, няхай іх! Перш-наперш былі спевы. Адчыніліся дзверы — пакойчык харошы — і

тыц: увайшла бордзенька паненка ў кароценькай сукенцы з голымі грудкамі і цененькімі лыткамі. Усе замоўклі з падзіву, а дзе-хто нават прылажыў шкло да вачэй. «Мусіць, хочуць добра ўбачыць», — падумаў я, а за мной нехта ізноў засмяяўся. Паненка раптам (як цялушка на вясну) давай пяяць. Пяяла-пяяла (што — я не разабраў), а нехта ёй падыгрываў, — аж і скончыла. Тады ўсе, як на каманду, давай біць у далоні, аж я спалохаўся. «Пэўна тут такі абычай», — мысліў я і сам пачаў біць. Між варон папаў, «парх-парх закракаў», прыпомнілася мне наша прыказка. А паненка пекна ўсміхнулася, крутнула задам і выйшла.

Пяяла яна яшчэ двойчы, на ўсе галасы, але ўжо праз шкло на яе не ўглядаліся, бо відзелі. Але вось потым так штука пачалася — чыстая камедыя. Паказвалі, як да жонкі аднаго пана хадзіў палюбоўнік. Ну і спрытна ж яны абхадзілі мужыка (бадай іх пакруціла!), аж у канцы пакрыўджаны муж неяк трафункова знайшоў палюбоўніка пад лаўкай. А то быў смех! Усе білі ў далоні (нават тая дзяўчынка, што па-французску гаварыла), біў і я, але чаго і сам не ведаў. Урэшце выйшла і новая штука з песнямі. Адзін прыбраны як бы па-вясковаму паніч паказваў у песні дзяўчыне (падобнай да тэй голай паненкі), як ён моцна яе любіць. Палажыўшы руку на сэрцы пяяў ёй: «Гліна мая, Гліна!» (Першы раз чуў я такое імя, страйней было б ужо тая Ілюзія). Як ён скончыў, зачала і яна пяяць, паказуючы, што і яна яго любіць. У канцы ледзь яны ўжо не пажаніліся, аж вось выйшла наяў, што бацькі не хочуць выдаць дзяўчаці замуж, бо малады быў просты сын вясковы. Гісторыя кончылася сумна, хоць ты плач, і я думаў, што ўжо ніхто пляскаць не будзе, але куды ж там: заклякалі, як бы хмара буслоў зляцелася. Клякала і тая дзяўчынка і ўзноў зачала тралёніць. А старая ёй, ківаючы галавой, паўтарала: «Фні, фні, фні». Зачалі расхадзіцца. Быў канец гульні. Пры выхадзе пацягнуў мяне за рукаво ўзноў той стойка і спытаў:

— Ну, відзеў Ілюзію?

— Не Ілюзія, кажу, а Гліна!

— Добра паны забаўляюцца? — пытаў ён ізноў.

— А чытаў ты «Панскае ігрышча?» — адказаў я яму пытальнікам і проста паплёўся шукаць начлегу.

Няведама чаму на памяць узбег мне той верш Бурачка:

А шклы тыя для туману,  
Праз іх глядзіш, як у дым:  
Жыд сумысле даў іх пану,  
Каб зрабіць яго сляпым...[1]

*1919*

# ВЯЧОРНАЯ ГУТАРКА

— …Не кладзіся, дзіцятка, без пацераў, бо дрэнны сон прысніцца. Укленч — во так — на ложачку, а цяпер змоў: «Ойчэ наш». Я тут прысяду, а ты раскажаш, дзе быў праз дзень. А ціхенька, бо відзіш Нюся спіць ужо, а тата вось-вось з двара вернецца…

— Як я ўстаў зрання, так зара і пабег да дзяцей. А мама тады вярнула мяне і накарміла. А смачная каша была, толькі нешта хрумсцела ў зубах як каменьчыкі. А той Данюк б’ецца і на вуліцы; як мяне ўбачыў, зара назваў «Мурзай» і смяяўся, што я ў кашуліне, а ён ужо ў портках. Я ад яго ўцёк, а ён спаткаў Гэльку Грыгоранку і набіў яе. А пасля Гэлька знайшла мяне, і мы пайшлі пад паркан глядзець, што на панскім дварэ. А вокны былі завешаны: мусіць ад салі сонца… Мама, хто гэта ткаў панічу такое адзенне гладкае?

— Маё дзіця, гэта жыды ім такое адзенне робяць. Але адзенне гэта нічога, вось трэба старацца, каб душа была гладкая і чыстая… Хрыстус у простай кашульцы па зямельцы хадзіў.

— А гэты панічок заўважыў нас, як праз шчыліны глядзелі, і паказаў маме. І во яны ішлі ў нашу старану, а мы хацелі ўцякаць, але пані нас пазвала. Мы тады не ведалі, што рабіць, бо пані нешта да нас гаварыла. А я паглядзеў на Гэльку, як яна стаяла з пальцам у зубах, і кашулька яе шырока расчынілася на грудзях. Тады пані хацела ёй зашпіліць, але не было гузіка, а паніч смяяўся… Тады прыляцеў да нас панскі сабака Лорд і торкнуў Гэльку сваім носам у самы грудзі, а я ўдарыў яго па вушах, а паніч піхнуў мяне нагой, а пані нешта на яго пасварылася… Мама, чаму паны так сабак любяць? Бо Данюк як дзе ўбачыць Лорда, зара на яго каменем, а паніч так цалуе — я відзеў раз.

— Ціха, дзіцятка, Бог-Езус добрых дзеткаў цалаваў і туліў да сэрца! А Данюк нядобры, што кідае каменем, бо і сабаку баліць. І то няпраўда, што жыд, пан і сабака — вера адзінака! Спі ўжо, дзіця!..

— Мама, а я ці буду багатым?

— Будзеш, дзіця, будзеш: толькі слухай мамы і навучыся быць да ўсяго добрага здатным, бо нам цяжка грош зарабіць…

— А пасля так Гэлька пацягнула мяне за рукаво і шапнула: «Ты добры, Стафусь, і адважны, бо сабакі не баішся!», але і яна Лорда не баіцца, толькі найгорш палохаецца, як убачыць паніча… Мама, а мяне Данюк Мурзай называе!

— А бо ты пэўна нямыўшыся выходзіш. Помні заўтра памыціся. Ну спі ўжо, спі — няхай анёльчык сцеражэ сну твайго!..

*1919*

## ШТО ЮРКА Ў ГАЗЕЦЕ ВЫЧЫТАЎ

…Паслаў я сынка свайго ў Ваўкавыск газы купіць, а ён замест газы дастаў дзесьці ў жыдка газету з Вільні «Дзённік Віленскі». «Нямашака, — кажа, — газы» — «Ну хоць іх трасца: чытай пры лучыне — што там паны выдумалі, час маючы». Зачаў жа ён мне чытаць навінкі, а перш-наперш ліст нейкага ксяндза Мікуцкага, каторага пакрыўдзіў рэдактар якойсь «Крыніцы», таксама ксёндз.

— Бачце, — заўважыў я, — то і ксяндзы рэжуцца ў газетах.

— А яны ж не людзі? — гыркнуў мой сын і чытаў так: — «Jestem dla wszystkich… O dobro ludzi, dbam… Jeździła delegacуја, by mię zostawić».

— Ну так гэта ж вельмі добра. Пашто ж пісаць аб гэтым? Такжа і кожны ксёндз робіць.

— Але! Глядзі, тата, што далей будзе! — кажа сын. — Гэты ксёндз пытаўся, ці хочуць людцы казанняў беларускіх? Людзі казалі, што не.

— Ведама, — кажу, — пашто ж? Не трэ было нат і пытацца. Мы да ксяндзоў не адважымся гаварыць па-беларуску, а як жа да Бога асмеліцца? Хай Бог сцеражэ!

— Надта! — адрэзаў сын. — Там не трэба ніякай мовы, бо ўсе і так ведаюць, што да чаго.

— Сынок, — пытаю я, — а што ж гэта значыць «пупіль», аб каторым газета піша? Ці гэта ўсё роўна, што баба пры хрэсьбінах, бо ж мы бабу завём «пупінкай?»

— Не, тата, гэта, мусіць, усё роўна, што дзядзька ў салдатаў; толькі што гэты вучыць, як каля алтара абхадзіцца.

«Ну і пашто, — думаю сабе, — трэба было гэта пісаць у газетах? Другі немаведама што падумае».

— «Развівайце сабе культуру беларускую, — раіць той ксёндз, — але не чапайце касцёла»…

«Пэўна, — думаю, — бо ў Беларусі касцёл і культура не ідуць разам, як мужык з жонкай».

— Чытай далей, — кажу я да сына, — бо цяжка сцяміць, што тут накерзана. Шкада, што не папросту.

— Далей і чытаць не хачу, бо пішацца, што мова наша — гэта «гвара».

— А што гэта «гвара»? То ж як бы нешта зварана?

— Не, тата: калі язык хто свой выкручвае да мовы чужацкай, — так гэта тая «гвара» — па-нашаму «гаворка». Пэўна, гэты ксёндз сказаць хацеў, што мы перакручваем мову расейскую або польскую; але забыўся напісаць, чыю мову калечым; тым часам гэта важна ведаць, каб пазнаць, хто мы: асобны народ ці служкі нашых суседзяў.

— Ну, а далей, што пішуць у газеце?

— «Я палякам ёсць і Польшчу люблю», — кажа гэты ксёндз. Але паслухай, тата, што далей: «Люд беларускі прывязаны да…»

— Як то прывязаны, — пытаю, — чым?

— Не, тата, ксёндз гэны сказаць хоча, што беларусы асобны народ і большая частка іх праваслаўныя, аднак жа любяць Польшчу, бо яна выгнала бальшавікоў: відаць, што Польшча і Беларусь нашу палюбіла.

— Ну, а які ж гэта рапарт напісаў да біскупа гэты пісака? — пытаю.

— Ён, тата, просіць, каб рэдактар «Крыніцы» не пісаў аб нядолі Беларусі, каб не дамагаўся для мужыка справядлівасці.

— Эт, — кажу я, — калі так, дык кепскі ён чалавек, гэны ксёндз Мікуцкі, ці як там яго завуць… Кінь, сынок, чытаць… Годзе!..

***1919***

## ШТО ЮРКА СНІЎ

— Хоць мо і грэх сны расказваць, але дальбо не вытрымаю...

Здаецца мне (казаў бы наяве), што прычакаў я канца свету. Як мухі мёрлі скрозь людзі, хоць і так не шмат іх было, бо прад канцом свету людцы прыйшлі на думку, быццам-то жаніцца зусім не варта. Вось адны мёрлі ад голаду, бо войны ўсцяж ішлі, другія ад сухотаў, бо суш была сем гадоў запарам, а іншыя дык ад роскашы, бо ўсяго па горла мелі. І калі ўжо нядолі быў верх найвышэйшы, вось гукнула па ўсёй зямельцы, што мэсыяш

жыдоўскі прыйшоў і з войскам сваім ідзе ўсюды, а непакорных у жалезную печ садзіць.

У нашым мястэчку чакалі з’яўлення яго ўсе да аднаго. Найперш вырушыў на спатканне сам магістрат з вучыцялямі і дзяцьмі, з вянкамі і музыкай. Пасля ўжо ішлі дзяўчаты, убраныя ў белыя сукенкі, як фіранкі правідныя. Пасля ішлі духоўныя ўсіх абрадаў і парадкаў, а ўсе, што-колькі шагоў, паклоны білі, кажучы: «Чэсць таму, хто ідзе». Пасталі ўсе на рынку кругом алтара, збудаванага з квецяў, і чакалі таго мэсыяша. Затрубілі трубы, загудзелі гуды, зазванілі званы, і паказаўся вялікі парад войска. Наўперад везлі вялізарную печ, ад віду каторай аж мурашкі па скуры ўсе пачулі. За пячой ішлі музыканты ў шэрых куртках, а за імі стральцы ў зялёных портках. Пасля на конях стаенных ехала брыгада, а сярод ёй сам «ён». Прыйшлі ўсе прад алтар на рынку, і пачалося набажэнства ў чорных арнатах. Колькі разоў званкі званілі, стральцы палілі ў паветра, а іншыя так хапалі за шаблі. Натоўп людзей дрыжэў і з трывогай паглядаў на жалезную печ, з каторай бухаў дым парай. Аж вось выступіў адзін духаўнік у белым амафоры, а чорнай комжы і пачаў хваліць «яго самога».

— Што ён збаўца чаканы, што ён веры абаронца, што ён мілы ўсім ад сэрца аж да самай душы. Аж страх слухаць было, як лгаў той слуга божы. А «ён» стаяў у масцы і не паказваў ліца свайго. Усім хацелася ўбачыць повід ягоны, каб вычытаць або ласкі для сябе, або прыгавор смерці...

Аж зайгралі арганы, затрубілі трубы, зазванілі званы, загудзелі гуды: «ён» меўся адкрыць аблічча сваё. Мяне ад страху потам зліло — я абамлеў і... прачнуўся, не дасніў. «Сон неява — Богу слава»,— вышаптаў я, жагнаючыся.

*1919*

## ШТО ЮРКА НА ВЕЧЫ БАЧЫЎ І ШТО КАЗАЎ

…Ну, ці не смех! Вазьмі ж ты: мне, старому Юрку, казалі праўду длубаць! Але пастойце, зачну з канца. Цяпер пайшла мода на выбары, вось і нам казалі выбіраць некуды. Ну што ж: выбіраць так выбіраць. Бач, і бабы і мужчыны маюць карту падаць, каго хочуць — так будзе справядлівей. Дзеля мяне гэта ўсё роўна, няхай сабе і бабы; толькі штука, каго выбраць. Найлепей умеюць маніць паны, найляпей крычаць жыды, а нашага брата так загукаюць, што, каб адчапіцца — піша, каго папала.

У нашай парафіі пастанавілі зрабіць веча, каб нарадзіцца аб выбарах.. Прыехала шмат на дзень гэты такіх, што ўмеюць падмовіць, а нават (так баюць) ачмуціць і падкупіць. Было тут трох паноў (чыстай шляхты), некулькі жыдкоў (таксама чыстых), адна духоўная асоба, а найбольш людзей простых: мужчын, кабет, а нават дзяўчат. Найстаршы пан запытаўся, каго хацелі б за праваднічага, і радзіў выбраць другога маладога пана або пробашча. Без вялікай спрэчкі выбралі яго, старога, каб даглядаў парадку сходу. Прамовіў той панок маладзейшы і паказваў, як то дружна трэба стаяць адзін каля другога, каб не дацца супольнаму ворагу. І пачаў вылічаць нашых ворагаў. Налічыў шмат: і нікілістаў, і фінансістаў, і афіцылістаў, і кхалерыкалаў і чорт ведае яшчэ якіх налічаў, аж у канцы заявіў, што, на яго думку, так трэба выбраць паслом якога разумнага і вучонага чалавека — не простага, каб усім мог бы дагадзіць.

Толькі ён скончыў, аж зачаў жыдок у акулярах тлумачыць, што гэныя «істы» то найлепшыя прыяцелі рабочага чалавека, а ворагам яго — гэта ўсялякі пан, што як п’яўка жыве крываваю працай беднага брата селяніна… а пасля так узваліўся ён і на духоўныя асобы, якія быццам то таксама выдзіраюць апошні грош з рук бядоты, каб мець сабе на ўтрыманне круглага бруха — і на карты па дварох панскіх…

— Ну але ж і сыпіць! — шапнуў я да сына.

— Звычайны брахун! — згрызліва адказаў сын і далей слухаў.

А той жыдок дай жа прамаўляць да сялянцаў, як яны ўсімі пакрыўджаны, як зямлі ёсць поўна на Беларусі, а беларусы з голаду мруць, або ў парабкі да чужынцаў ідуць, як панічы па дварах дзяўчат крыўдзяць, а паны з ксяндзамі ў адну дудку граюць, беднаму хаўтуроў справіць не хочуць, хоць ты апошнюю карову прадай…

— Ну і рэжа! — шапнуў я ўзноў.

— Будзь гатоў, тата! Пойдзеш праўду казаць і ты! — падказаў мне сын.

«Вот табе і на! — падумаў я. — Найшоў мудрагеля».

Узышоў і другі жыдок (пэўне таго таварыш) і давай гаварыць аб тым, што трэба зрабіць. Зямлю адабраць ад паноў і даць тым, хто на ёй працуе, фабрыкі ўзяць, вёскі скасаваць, а парабіць хутары, на месцы двароў школы гаспадарскія паставіць, духоўнікаў выгнаць, а мест касцёлаў тэатры будаваць…

— Ну гэта ўжо праз меру! — сказаў я голасна.

А той у раз’ярэнні крычаў:

— Далоў, багачы! Гарой працоўны люд!

Аж праваднічы зачаў званіць, каб яго супакоіць.

— Чысты бальшавік! — сказаў нехта, а іншыя так смяяліся.

Толькі той змоўк, аж новы прамоўца дай хваліць адваката Майзерскага з Буды.

— Вот так чалавек! І мілы, і ўлёслівы, і даступны; а бедных любіць, гатоў кожнаму памагчы; а разумны — ён будзе бараніць нашага брата, яго выбірайце!..

— Ідзі, тата! — кажа мне сын. — То ж ні адзін гаспадар яшчэ не прамаўляў.

Я набраўся адвагі і падумаўшы сабе: «не святыя ж гаршкалепы» — так зачаў сваю гутарку:

— Няма што сказаць! («Так чаго ж лезеш?» — спытаў жыдок). Адным словам, удача з вас, шаноўныя прамоўцы! Дзякаваць толькі за рады. Зямлі нам трэба, гэта кожнаму ведама. Замест палацаў — школы гаспадарскія, і гэта праўда. Далоў пузачоў! Няхай сабе. Але вось, што замест касцёлаў тэатры, так годзе! Быў я ў тэатры ў Вільні і бачыў кепства, на якое глядзіць праз модныя акуляры мяшчанства. «Панскае ігрышча» — вот і ўсё! Касцёлы нашы, а зямля пры касцёле належыць да ўсёй парафіі. Нічога тут касаваць не трэба. Калі жыдкі хочуць рабінаў прагнаць, то могуць сабе, а калі свае малельні на тэатры замяніць хочуць, то і тутка мы напроціў нічога не маем. Аднак што царква, то не тэатр, а што забава, то не малітва. Мы, сяляне, найлепш ведаем, ці нам ксяндзы і папы патрэбны, ці не, і колькі ім плаціць, і за што. А іншыя ад гэтай справы — прэч!

— Брава, брава! — усклікнуў пробашч на гэты словы. А за ім нехта свіснуў. Я ж гаварыў далей:

— Не свішчы там, браце, бо пасвішчаш Агаце! І зямлі нам трэба, і волі, і навукі — але што да справы нашай веры, гэта наш здабытак, наша багацце, і хто паважыцца нам веры ўняць, хай помніць: народу на малпы не пераробіць. Бязбожнасць гэта вздумка не вясковая: пойдзе туды, скуль прыйшла. А мы жадаем роўнасці для ўсіх, права добрага для нас, сялянства, а найбольш зямелькі для работы. Маем у краі (як баюць) столькі зямлі, што хопіць для ўсіх, хто рабіць на ёй хоча! Паноў кажуць у Польшчы ўжо скасавалі, так і ў нас можна, а гультаёў, што па дварох дзяўчат крыўдзяць, трэба вылажыць: я чуў, што так зрабілі на Украіне. Людцы! Я вам скажу, каго выбраць. Выбірайце разумнага і адважнага нашага брата селяніна, але такога, што не здрадзіць свайго народу і веру нашу абароніць. Адваката

няхай выбіраюць мяшкане: мы выбіраем мужыка, якога ніхто не змане, не перакупіць.

Гарой сялянскі люд!...

*1919*

## ЯК ПАНІЧЫ ЗНАХАРА ЗМАНІЛІ

Двух панічоў змовіліся знахара зманіць. Адзін прыкінуўся хворым, а другі пайшоў дзеля апекі… Здзівіўся знахар, іх убачыўшы:

— Што гэта прыводзе панічоў да маёй хаціны ўбогай? — убачыўшы іх, запытаўся знахар.

— А вось хворага прывёў! — паказуе яму апякун.

— А што яму? — пытае стары.

— А вось дзівы, — кажа паніч, — проста небывалая хвароба: смак згубіў і заўсёды лжэ…

Стары ўхмыліўся, паківаў галавой і кажа:

— Маю на гэта раду, ужо не аднаго вылечыў — дам толькі лякарства.

Рады панічы, што жарт ім удаецца, што будуць мець чым пахваліцца. А стары хітрун тым часам нешта памяшаў, пакруціў, абнёс каля калёс і падаў хвораму, наказуючы, што годзе двойчы глынуць, і смак знойдзецца. Выйшлі панічы і дай жа рагатаць, што дурня зманілі. Але карцела іх, якое даў ім знахар лякарства. Развярцелі паперкі, аж там шэрыя дзве галачкі, свежыя яшчэ і мяккія. Хворы ўкусіў і зачаў пляваць, паглядаючы, што другі робіць. А той панюхаў і швіргнуў ад сябе з праклёнам.

Што там было — нетведама. Даволі, што абодва панічы хапілі палены і ляцелі назад да знахара, як шалёныя ад гневу. Той, убачыўшы іх, запёрся і пытае, чаго так навастрыліся. А яны да яго:

— Ах ты такі, ах ты гэтакі, а чым жа ты нас, лодар, абдзяліў!

— А чым жа? — пытае знахар.

— А то ж смярдзючым! — крычыць хворы паніч.

— Ну, так чаго ж трэба, — адказуе знахар. — Цяпер і праўду кажаш, і смак знайшоў — а па тое ж вы да мяне прыходзілі!..

*1919*

## НЕБЫВАЛЫ

Бяда небываламу! Вот хоць бы наш Яхім. Жыў адлюдна і не ведаў, як людзі пчолы гадуюць. Здарылася раз, што ён быў у пчаляра і гэту дзіўную жывёлку пабачыў. Пчолы гэта яшчэ не дзіва: от муха, але мёд — рэч смачная. Захацелася вось і Яхіму завесці некаштоўную жывёлу. Сусед відзіць, што да чаго. «Рэч простая, — кажа, — вазьмі ў скрыначку штук дзесятак гэтых мух, зрабі стаяк ці калоду, а ўжо яны будуць ведаць, як мёд рабіць».

Гаспадар упусціў сам каплю мёду ў скрыначку, набраў пчол і даў таму іх як гасцінец. Наш Яхім адважна ўлажыў скрыначку ў кішэнь і паехаў дахаты. Тым часам пчолы найшлі дзірачку ў скрынцы і пачалі так неміласэрна кусаць свайго новага валадара, што той выракся ў канцы і портак, а да мёду страціў назаўсёды смак.

*1919*

## ПАДАРОЖЖЫ ЮРКІ БЕЛАРУСА

### Да Кальварыі

…Казаў той, падыходжу я да акна ў вагоне, аж відаць і Вільня. Сэрца маё і зашчымела і закраталася. Ці паверыце — першы раз у Вільні буду! Выходжу я за другімі, як баран за стадам, казаў той, і пытаюся ў кандуктара, як да Кальварыі патрапіць. Ён паказаў пальцамі, каб я ішоў за людзьмі. Іду я гэта найперш нейкімі лёхамі, маўляў, палацамі нашага пана, пасля нейкімі станцыямі і станаўлюся ў канцы на вуліцы. Стаў я там і не ведаю, што рабіць. Каля мяне ішлі розныя асобы: у капелюшах, у шапках, камізэльках і белых кашулях, у ботах ваксаваных і вострых камашах; грубыя паны і ценкія белыя, як папер, казаў той, паненкі; жыды і жыдоўкі, а дзе-нідзе і наш брат цягнуў што на плячах. Галава мне закруцілася, аж раптам я пачуў нечую руку ў правай кішэні. Пакуль я схапіўся, нейкі жэўжык уцякаў ужо з кавалкам каўбасы, што дала мне ў дарогу жонка, і пагражаў яшчэ мне здалёку як бы рэвальверам. Каля мяне сабралася кучка людзей, адны падсміхалі, а нейкі начальнік з шашкай хацеў дагнаць гэнага шалудзьку і лаяўся зусім падобна як у вёсцы. Крыкнуўшы ў канцы «жулік», ён пакінуў яго і, падышоўшы, пытае, куды мне.

— Да Кальварыі, — кажу.

— А маеш знаёмых?

Тады я адпомніў, што ёсць тут недзе з нашай вёскі шавец, каторы для семінарыі клерыкаў боты шые. Яго я і стаў дапытвацца. Прыйшоўшы ўжо пад вечар да знаёмага шаўца, я найшоў яго бабу лаючы. Але, ведама, людзі мястовыя: пры чужым зара і перасталі, хоць жонка была ўжо гатова надта многа, казаў той, адказаць. Знаёмы мой узрадаваўся, мяне пазнаўшы, і пачаставаў зара кілішкам гарэлкі, а гэта пасля дзённай суматохі паказалася мне лепей мёду, казаў той. Гаварылі мы, гаварылі і змовіліся разам пярвей па касцёлах, а пасля да Кальварыі ісці. Пастанавілі мы назаўтра пайсці вось найперш да клерыцкага касцёла. Там мне хацелася ўбачыць сына Мацея, што вучыўся за ксяндза і здаў ужо сем экзаменаў.

Ранютка, казаў той, мы ўжо і ў касцёле. Чакаем пільна, аж я знецярпліўся (ведама, стары) і спытаў ціхенька вусатага чалавека ў белай кашулі: ці скора будуць?

— Враз! — адказаў той.

Аж чую, б’ець шэсць і дзесьці тройчы звоняць. Каля алтара з’явіўся, казаў той, адзін. Здавалася мне, што то Мацеевы сын; гляджу — ідзе другі такі самы за ім; а пасля як пасыпаліся адзін за другім, так я зразу і збунтаваўся, лічачы. А шкада, бо ж я абяцаў бабе даведацца, колькі ёсць клерыкаў на лік. Як ужо ўсе сядзелі, зазваніў званок і ксёндз убраны падышоў да алтара, мусіць, на імшу. Тады клерыкі пачалі пяяць ценкімі галасамі. Пасля, калі ксёндз сказаў нешта як бы «Домінус вас блізка» — пачалі пяяць груба. Пасля ж паднялі вышэй, а як змучыліся, ізноў груба пяялі. А я тэй парой думаў: «Бедныя панічы, так рана трэба ўстаць, а не еўшы, вось і цяжка так». Тым часам клерыкі зачалі строіцца ў пары і падыходзіць да алтара. «Камунікавацца будуць, мусіць», — падумаў я. Паў тады, казаў той, на каленкі і пачаў маліцца…

На імшы святой не ўдалося мне ўбачыць сына Мацея. Тады знаёмы мой падмовіў мяне пайсці разам да семінарыі. Паказаў ён мне камашы клерыцкія з лакіраванымі насамі і гумалясткай:

— Якраз, нераўнуючы, — кажу я, — як у нашага паніча.

— Дурны ты, — кажа знаёмы, — то ж у іншых да алтара прыступіць не вольна.

Павёў ён неякімісь доўгімі «калідорамі», аж задзержаўся пры дзвярох, за якімі я пачуў нейкае вялікае памешанне галасоў.

— Ці тут моляцца? — спытаў я.

— Не, обяд едзон, — адказаў мой знаёмы.

«Ага, — падумаў я, — то і едучы, казаў той, Бога хваляць». Завёў ён тады мяне ў нейкі малы пакой з скляным аконцам у дзвярох і адрысаванымі двума кольцамі (забыўся спытаць пашто), з аднэй шафкай і нейкай скрыняй на крывых нагах.

— Тут пачакаем, — кажа ціхім голасам.

Чакаем трохі, аж уходзіць адзін паніч з крамай і раскладае яе на стале. Урэшце ўляцеў адзін, казаў той, клерык і засеў зараз за гэну скрыню на крывых нагах і давай пальцамі перабіраць па клавішні. І так зачала тая скрыня цымбаліць стройна, што хоць ты ідзі, казаў той, лявоніху. Тым часам набралася іх поўна. Адзін так зачаў, казаў той, курыць. Я думаў, што гэта які старшы. Аж гляджу: і другі, і трэці. Асмеліўся вось тады я запытацца ў аднаго:

— Ці то, казаў той, старшыя тыя, што кураць?

Ён засмяяўся і кажа:

— Гэта абстыненты, дзядзька!

Думаю сабе: «Віш, нешта па лаціне, яны тут, пэўна, найбольш па лаціне і гавораць». Тымчасове, казаў той, адзін клерык адчыніў шафу і пачаў прадаваць адным мыла, другім паперу, трэцім нейкія скрыначкі з адмаляванай паненкай. Усе плацілі грошы і ўцякалі некуды хутка. Тады ад майго знаёмага ўзяў клерык камашы і сказаў, што «добрыя, тылько трохен за повільне».

Пад той час усе клерыкі пачалі курыць і аб чым моцна спрачацца. Паўстала нават немалая суматоха, а мне ад дыму і гулу пачала балець галава, а ў вачах скакаць зайчыкі. Мой знаёмы датуліўся да мяне, потым і мы выйшлі.

Назаўтра выпадала нядзеля. Схадзіўшы разам з знаёмым да касцёла баніфратэрскага і напіўшыся там вадзіцы з студзёнкі Маткі Божай, пайшлі мы да катэдры. Казаў мне знаёмы, што там можна будзе ўбачыць сына Мацея. Ідзём гэта мы, аж калі зірк: ідуць клерыкі радком, казаў бы, істужкай. Сталі мы пры жалезнай брамцы. «Ну, — думнаю сабе, — буду лічыць і пільнаваць сына Мацея». Наперадзе ішлі ўсе, гледзячы ў зямлю, так што трудна было б пазнаць. Ужо налічыў дванаццаць пар, аж глядзь — ён… не, не ён… ён… І сам не ведаю, ён ці не ён. Глянуў на мяне і пайшоў… І другі паглядзеў, і трэці. А я збунтаваўся, лічачы пары, і не даведаўся, колькі клерыкаў на лік. Назадзе ішлі як бы, казаў той, старшыя і адважнейшыя. Глядзелі на ўсе бакі і нат смяяліся, гаворачы.

— То дыяканы, — шапнуў мне знаёмы. — Яны пяюць вангелію, рукі злажыўшы.

Думаю сабе: «Іш, і ён ужо ломіцца па лаціне. Куды мне, мужыку, з вамі гарбату піць». Пайшлі мы тады да касцёла. Найперш убачыў я вялікія і грубыя слупы і поўна людзей. Праваднік мой шапнуў мне:

— Цісніся за мной!

І так пацiснуліся мы да крат, дзе сядзелі клерыкі, пеючы нешта па лаціне. Пасля ўсталі, перажагналіся і зноў селі. Я пачаў шукаць вачыма сына Мацея і не мог знайсці. Але вось зазванілі зважна тры разы і каля алтара паказаўся клерык з свечкай у руках. Я цэлы аж затросся, пазнаўшы ў ім сына Мацея. А за ім — другі падобны, пасля двух без свечак, а ў канцы двух ксяндзоў вялі пад рукі старшага.

— То дыяканы вядуць цэлебранта, — шаптаў мне знаёмы…

Пачалася імша, інакшая, чым у нас. Клерыкі каля алтара хадзілі, круціліся, адзін дыякан пушчаў дым з абодвух бакоў, музыка іграла, а тыя, што былі бліжэй да мяне, — уставалі, садзіліся, кленчылі: а ўсё ў вялікім парадку і ладзе. Пекна было, адным словам, клерыкі зусім на людзей не глядзелі: або чыталі, або складалі набожна рукі на каленкі. Толькі адзін, што пры канцы сядзеў, часам глядзеў на мяне. Але як я на яго пагляджу, так зара адверне вочы ў другі бок. А пасля пачулася навука. Ксёндз казаў на памяць, паказваў рукамі і ані разу не збунтаваўся. Наканец крычаў надта на людзей, але я не паняў, за што, бо ўсё на клерыкаў углядаўся. Той, што на мяне часта паглядаў, надта, відаць, быў спрацаваны, бо колькі раз клеіў павекі і кіраваўся да сну. Але болей то не спала. Па набажэнстве выйшлі мы на вуліцу і сталі зноў на тым самым месцы, бо я канечне хацеў злічыць клерыкаў. Але яны так чагосьці спяшаліся, ідучы без парадку, што я патрапіў налічыць толькі пар трыццаць. Мой знаёмы, бачачы маё гора, параіў зайсці ізноў у семінарыю. Пайшлі мы яшчэ на гару Замковую, скуль відаць уся Вільня, як на далані, а пасля да семінарыі. Увайшоўшы, убачылі мы, што кругом сядзяць клерыкі. Адны, мусіць, з бацькамі, маткамі, а некаторыя і так, казаў той, з сёстрамі. Адны гаварылі надта ціха, другія мацней; іншыя ўсміхаліся, а іншыя, гаворачы, усё ўглядаліся кругом, маўляў, каго чакаючы. Знаёмы мой папрасіў нейкага пана ў жоўтых гузіках, каб даў знаць сыну Мацею, што мы яго чакаем. Чакалі-чакалі, аж нарэшце прыйшоў. Аглянуўся звольна кругом і, відаць, пазнаў мяне, бо кіўнуў мне прыветна галавой. Я хацеў пацалаваць яму ў руку, але не даў. Быў вельмі худзенькі, закашляў і плюнуў у хусцінку. Мы селі, пачалі гутарыць. Здалося

мне (адпусці, Божа, грэх), што Марцісь як бы стыдаўся, што я папросту гавару. Бліскаўся вачыма, быў нейкі неспакойны, казаў кланяцца бацьком і адхадзіў. Калі ж я ізноў хацеў пацалаваць у руку, надта пачырванеў. Мы яшчэ даўжэй крыху пасядзелі, каб паглядзець на клерыкаў. Тым часам увайшоў, казаў той, іх старшы. Пазнаў я яго па тым, што быў найгрубшы і меў капялюш. Усе ўсталі, як праходзіў, і знялі шапкі. Я хацеў і яму пацалаваць у руку, але мой знаёмы не пусціў. Як перайшоў, то ўсе гаварылі ціха, а пасля ізноў моцна. Я чуў, як недалёчка адзін клерык казаў да сястры:

— Венц в недзеле конечне.

Мыслю сабе: «Пэўна, якіх кніжак патрабуе».

А другі з другога боку так кажа:

— Венц мама юж мне посыла сподні?

Мыслю сабе: «Пэўна, казаў той, споднягa адзення патрабуе». А якаясь паня з левай стараны так казала клерыку:

— А можэ, мало пеньцьдзесёнт рублі?

— Венц прошэн шэсьцьдзесёнт.

Думаю: «Гэты, пэўна, з паноў будзе». Як выходзілі мы, пытаю я майго чалавека, што гэта значыць тое «венц», каторае так часта клерыкі гавораць, мо і гэта па лаціне?

— Не, — кажа ён, — гэтым словам трэба пачынаць і канчаць разумную мову. Але што ж там у вас на вёсцы знаюць!

І мой знаёмы пачаў тут ганіць вёску. А мне неяк узбегла на памяць прыказка: «Прычапі карове хвост, калі ў яе свой ёсць…»

Абышоўшы святыя кальварыйскія дарожкі, адазваўся да мяне так мой знаёмы:

— Пойдзем у Веркі, пакажу там табе палац даўнейшых князёў.

— Добра, — кажу, — пойдзем.

Мой знаёмы паказаў мне на раку і кажа:

— Глядзі, як тут хораша ўсюды.

Глянуў я на ваду, пасля на другі бок, угару, у дол на лес, ізноў на ваду:

— А праўда, нішто!

А тым часам думаю: «Хараша так, як і ўсюды». Ішлі мы проста, брукаванай каменьчыкамі дарогай і ўвайшлі ў лес. Пасля скруцілі ўправа і, збіўшыся на гару, трапілі ў нейкі двор.

— Вунь там палац князёў даўнейшых, — паказаў мне знаёмы.

Абышлі мы кругом дома і мой знаёмы папрасіў нейкага чалавека, што выйшаў, палац нам паказаць.

— А во глядзіце! — кажа той. — Усярэдзіну няможна, бо паны прыехалі з-за граніцы.

— А як жа, — пытаю, — казаў той — годнасць вашых паноў?

Ён змераў мяне ад галавы да ног нядобрым зорам і, буркнуўшы: «Гіршоўскія», зачыніў прад намі дзверы. Не было што рабіць. Пайшлі мы далей у лес. Выбралі месца зацішнае і пачалі адпачываць. Сядзім мы, сядзім, калі я глядзь: клерыкі ідуць. Думаў, што здань, і штурхнуў знаёмага пад бок:

— Клерыкі — відзіш?

— Ага, пэўна, на спацыр прыйшлі.

Тым часам тыя падышлі бліжэй і пачалі садзіцца кругом. Іх было няшмат. Мы трохі падаліся за куст: што яны будуць рабіць. Падышоў якісьціка чалавек з вялікімі пакункамі і зачаў іх разбіраць. Я відзеў, як падаваў ён: бутэлькі, хлеб масла і нейкія круглыя скрынкі.

Тут пачуў я раптам сліну на барадзе, бо яшчэ ад рана па споведзі ў Кальварыі не еўшы быў. І застыдаўся я прад самым сабой. А клерыкі перажагналіся, знялі шапкі і пачалі есці. Некаторыя сядзелі, некаторыя ляжалі на локцях, а іншыя так на брухах. Мой знаёмы шаптаў мне тым часам:

— Тутака найболей дыяканаў. Яны здалі экзамены і зара сядуць на калекцыі: так выйшлі крышку пабадзяцца і пад’есці.

— А якія ж гэта ў іх бутэлькі? — пытаю.

— Гэта віно, — кажа ён.

Думаю сабе: «Ага, то простай гарэлкі, казаў той, панічы піць не хочуць, а віна з маслам ужываюць прад сваімі калекцыямі».

— Гэты іх старшы, што спераду, — паказваў далей мой знаёмы, — то ён пільнуе, каб часам хто не зблудзіў, а таго, што ім бутэлькі падае, яны празываюць «Асцэта». Што гэта значыць па лаціне — невядома. Але паміж сабой то яны празываюцца «баўтрукамі».

Пад’еўшы і напіўшыся, клерыкі ўсталі і пачалі раду між сабой. Затым сталі ўкруг і давай кідацца нечым круглым проці сябе. Хто злавіў, біў таго, што стаяў пасярэдзіне, а хто не злавіў, той стаяў на месцы. Той, што быў пасярэдзіне, не хацеў, каб яго білі. Скакаў ён, казаў той, на ўсе бакі, прысядаў, падымаў ногі; але як хто ўмеў, то такі ўцэліў. Майму знаёмаму тэй парой узбегла на памяць, што ён яшчэ не скончыў заказаных камашаў. Мы ўжо хацелі адхадзіць. Але ўбачылі, што і клерыкі строяцца ўрад і пачынаюць ісці. Так вось мы пайшлі за імі.

Ішлі мы, ішлі мы, аж і прыйшлі на бераг, дзе стаяў вадзяны паравік. На яго яны і пачалі садзіцца.

— Пойдзем і мы! — кажа знаёмы.

Пайшлі, селі і зачалі глядзець. Клерыкі разлажыліся ўвакол і пачалі жартаваць. Паравік свіснуў так страшэнна, што аж я падскочыў, і мы паплылі. Пакінулі хутка Трынопаль і ехалі міма зялёных надвілейскіх берагоў. Некаторыя глядзелі ў той бок і хвалілі пекнату. Грамадка іх сабралася пасярэдзіне і запяялі. Перш нешта па лаціне, а пасля ж як далі: «Камар лазню тапіў», так я ледзь усядзеў. «От, моц божая, — думаю сабе, — то ж і вясковых песняў не забыліся». Пад’ехаўшы далей, відзім мы — аж салдаты купаюцца. Клерыкі зара перасталі пяяць, бо, відаць, не маглі гэтага скандалу перанесці. Калі праязджалі міма касцёла, знялі шапкі і жагналіся. «Пана Езуса вітаюць», — думаю сабе. Як ужо прыехалі, я хацеў з іх старшым развітацца, але мой знаёмы не пусціў.

Адпачыўшы ў знаёмага і падмацаваўшыся кілішкам гарэлкі, пацалаваў я яго бабу ў руку, а яго самога ў шчаку і сказаў, што пайду ўжо на вакзал. Напіўшыся вадзіцы ў студзёнцы Маці Божай баніфратэрскай, дапытаўся я да Вострай Брамы. Там паў на каленкі па самай сярэдзіне вуліцы і зачаў прасіць Матачку Божую, каб спусціла Духа святога на клерыкаў і трымала іх у сваёй апецы. Ледзь я гэта Маці Божай сказаў, калі зірк: праз браму ідуць клерыкі ў радочак. Мыслю сабе: «Відзіш, Агляд Божы нада мной! І зноў спатканне. Пэўна, з спацыру».

Тым часам яны, зняўшы шапкі, затрымаліся, адвярнуліся, паглядзелі пільна на абраз і зноў пачалі ісці. Я стаў пры пярэдняй пары, бо канечна хацеў даведацца, колькі ёсць клерыкаў на лік. Зачаў вось памалюсеньку лічыць, ледзь не датуляючыся да кожнай пары. Налічыў так пяцьдзесят пар. На паравіку было адзінаццаць пар, значыць разам шэсцьдзесят адна пара, не лічачы старшых. Відзеў тут і сына Мацея ў праходзе. Так здалося, як бы кіўнуў мне прыхільна галавой. «Няхай, — думаю сабе, — будзе гэта паклон для дзядзькі і цёткі, бо пэўна будуць пытацца…»

От на канец я ізноў у вагоне. Сеў і думаю аб клерыках, слухаючы, як машына дудніць па рэйках. Аж знячэўку чую, што нехта ў другой каморцы чыста да людзей па-польску кажа. Іду я паглядзець, аж сядзіць малады ксёндз. Думаю сабе: «Мо і клерык, калі такі малады». Асмеліўся вось я тады яго спытаць:

— Ці,васпан, казаў той, клерык ці ксёндз?

— Клерык, — кажа ён.

Думаю: «Чыстае шчасце, на кожным шагу клерыкі». Прысеў я тады да яго і пачаў гутарыць. Даведаўся, што едзе ён да бацькоў на адпачынак, бо не зусім здаровы: ад вялікай навукі, казаў той, галава баліць. Я расказаў яму ад пачатку да канца аб сваім падарожжы і аб клерыках. Ён слухаў пільна і патакваў. Спытаў яшчэ, які одпуст мець буду за свае труды ў Пана Бога. Тады ён мне вытлумачыў, што ёсць одпуст білеўшовы, потым цэлы, а потым пачасці, потым па гадох, пасля па посце і ў канцы сорак дзён. Я зразумеў, што блізу таго ўсе адпусты мець буду. У канцы запытаўся ён мяне, колькі маю дзяцей.

— Дванаццаць, — кажу, — было, але палавіна адмерла.

Нараіў тады ён мне, каб аднаго сына на ксяндза пакіраваць. А я думаў сабе: «Дай Божа, Маці Божая! Як прыеду дамоў, загадаю Вінцуку, каб чытаў пільна жываты святых, а бабе маліцца на гэту інтэнцыю прыкажу… Жыць па-панску і адным цягам усё Бога славіць, гэта, казаў той, не ў нашай прастаце».

І зачаў я думаць, скуль грошы на Вінцука выгараваць.

## Вакацыя

…А бадай яго гэтага клерыка! Які з яго цяпер хват зрабіўся, як пабыў у семінарыі. Ну, і падсмяяўся з мяне, старога! Але ж трэба пачынаць ад канца. Ёсць, бачыце, у нас у вёсцы двух клерыкаў — сын Мацея і мой Вінцусь. Марцісь ужо будзе сёлета ксяндзом, а мой сын першы год яшчэ. Абодва вось цяпер на вакацыі, казаў той. Вінцусь па прывычцы памагае мне ў рабоце, а Марцісь найбольш з кніжкай усюды бадзяецца. Ах, меў жа я бяды, пакуль сына ў семінарыю падаў. Само прыгатаванне ў студэнта жыда каля сотні каштавала. Каб не Марціся помач, нічога не было б. Але воля Боская. Найгорш, што да навукі цяжкі паказаўся, але што да набожнасці, то першы. На яго так сказаў той студэнт:

— Ты хоць не скора на ксяндза выйдзеш, але затое святым памрэш.

Дай жа Божанька! А сын Мацея такі шустры стаў, што ані пазнаць. Як сказаў што,так як сякерай адцяў. Сягоння пайшлі мы з Вінцусём пад возера сена вярнуць. Зрабіўшы работу, мы прыселі на берагу, каб крыху адпачыць, бо было надта цёпла. Аж глядзь: ідзе Марцісь з ручнікам купацца. Увідзеўшы нас, ён кінуў ручнік і кажа:

— Гэй, дзядзька, скажы, Ваша мне, кім лепей быць — біскупам ці гасударам?

— Біскупам, — кажу я.

— А чаму? — пытае.

— Ведама, — кажу, — што біскуп, то не гасудар.

— Добра рассудзіў, — кажа ён. — Дай жа Божа каб Ваш Вінцук выйшаў на біскупа…

І сам у смех. Вінцусь давай гневацца, а ён рагоча, аж заліваецца. Аж я не вытрымаў і пытаю:

— Скажыце мне ляпей, чаму так многа клерыкаў выганяюць з семінарыі?

— Хто іх выганяе? — зачаў тады ён. — Яны самі ўцякаюць. Або тыя сёстры выводзяць, каторых калісьці відзеў дзядзька ў семінарыі, або самі не хочуць.

І стаў ён тут паказваць, як аднаго клерыка выгналі за тое, што ён яйкі пёк, другога, што рагача стаў; а трэцяга, што засмяяўся на размышленні, як лектар прачытаў, каб вочы свае дзяржаць «на водзе» замест «на водзах» («na wodzie» «na wodzach»).

— Часам гоняць прэч дурняў, — расказваў далей Марцісь, — бо такіх адусюль гоняць, не толькі з семінарыі.

Сказаўшы гэта, ён злосна кінуў камень у ваду і кажа:

— Дзядзька, не паверыш, што і з тых, што астаюцца, ёсць зашмат галавешкаў (так і кажа), бо яны і дзясятай часці не ведаюць таго, што да іх належыць.

— А як жа, казаў той, іх прафесары вучаць, калі так? — пытаю.

— З пустога ў парожнае не нальеш, — адказаў Марцісь і плюнуў на самае возера, аж я спалохаўся. — Ведаеце, дзядзька, — кажа ізноў Марцісь, — чым чалавек болей вучыцца, тым менш умее.

— Якім жа гэта парадкам, казаў той? — пытаю.

А ён зара ў другое.

— А вот паслухай. Чаму гэта, дзядзька, усё кажаш «казаў той»?

— От, налажыўся, і ўсё.

— А хочаш, дзядзька, я гэту моду адлажу ад вашэці.

— Ну, — кажу, — будзь ласкаў.

— Пазволь мне тады, як скажаш «казаў той», ушчыпнуць дзядзьку ў самы нос.

— А бадайце! Жаль, што згадзіўся, але хай ужо будзе так.

Вінцусь тады дай адмаўляць:

— Не слухай ляпей, тата, бо выйдзе бяда.

Марцісь тым часам змачыў пальцы ў вадзе і хваліць:

— Але ж сёння вада, як параная! Давайце купацца! Раздзявайся, дзядзька.

— Калі ж мне, — кажу, — з клерыкамі неяк сорамна, *казаў той*.

Гэтых слоў толькі і чакаў Марцісь, сціснуў у два пальцы мой нос і павёў у два бакі так, што аж мне слёзы пакаціліся. А ён дай яшчэ прыгаворваць:

— От табе, казаў той, з клерыкамі сорамна! А не кажы больш «казаў той».

От і большая навука, а ўсё роўна не ведаеш, чаму я так зрабіў! Не было як гневацца…

— Не пачуеш болей, — кажу, — ад мяне гэтага слова.

А ён ужо раздзеўся тым часам і жагнаў ваду, аб выгнаць, мусіць, адтуль нячыстую сілу… А бадайце!

Было гэта ў нядзелю. Ранютка (баба яшчэ гатавала цеста на бліны), прыбягае Марцісь. Вінцусь быў у ложку ў каморы. Мігам там знайшоўся Марцісь і зразу падняў яго на ногі.

— Ідзём, — кажа, — да касцёла. Спавядацца трэба, што так доўга гнІеш у ложку. Дзядзька! Кінь сёння бліны. Выспаведайся і камунікуй, каб ужо болей не гаварыць гэтага «казаў той».

Хоць — не хоць, а не было як адказацца. Пайшлі мы да касцёла. Пробашч быў ужо ў спавядніцы і крычаў на бабу. Марцісь бачыць, што нікога з другога боку нямашака, бух на каленкі і неўзабаве ўжо спавядаецца. «А то з гарачай вады», — думаю сабе. Даўно ж быў такі пужлівы. Іш, як навука людзей пераняе. Вінцусь прытуліўся да краткаў і шаптаўся даўжэй. «Ну і чым, — думаю сабе, — мог зграшыць». Пачаў я вось і свае грахі прыпамінаць і нічога прыпомніць не мог. Узбегла толькі на памяць тая камедыя з Марцісём пры возеры. Узяла нат спакуса да смеху, але стрымаўся. Думаю сабе: «Так і скажу — ніякай абразы Боскай не прыпомню». Толькі я адышоў ад споведзі, глядзь: клерыкі кленчаць у пары да Камуніі — так, як я гэта бачыў калісьці ў семінарыі. Так мне лёгка зрабілася чагосьць і так радасна, што гэту хвілінку павек забыць не змагу. Па набажэнстве клерыкі ўзялі мяне да плябаніі і там далі гарбату. Хоць яе і не ўмею я піць, я рад быў, што вось і я, крывы Юрка, разам з ксяндзамі засядаю.

— Дзядзька, — кажа Марцісь, — прыглядайся добра, які тут парадак, а на вечар пойдзем у двор. Скажаш нам после, кім ляпей быць: ксяндзом ці панам.

Узяў мяне пад руку і павёў па пакоях. У гэтым, дзе пілі гарбату, нічога не было. Але ў другім так поўна ўсялякай драбязы. На сценах абразы і такія і гэткія, лямпа на стале ў квятах, падлога васкаваная, дзве клеткі з птушкамі жоўтымі і яшчэ шмат чаго. Марцісь падвёў мяне да складанага століка, што стаяў у куце і кажа:

— Ведаеце, дзядзька, што на гэтым століку іграюць?

— Як жа, — пытаю, — тут могуць іграць, калі няма клавішні?

— Гэта нічога, — кажа ён, — але гэты інструмент служыць найлепей на фэсты.

— Слухай, тата, — яго перарваў Вінцусь, — гэта столік да картаў.

— А няўжо ж да чаго іншага! — адазваўся Марцісь і падвёў мяне пад абраз. — Відзіш, дзядзька: во мора, а во суш; мора гэта вялікая вада, а суш гэта суш, — а там, воддаль, русалкі купаюцца.

— Якія русалкі? — пытаю.

— А гэта такія цяляты, — кажа ён.

— Слухай, тата, яго! — абурыўся Вінцусь.

А Марцісь падвёў мяне да стала і раскрыў кніжку, дзе было многа фатаграфіяў. Паказаў мне біскупа, многа ксяндзоў, а ў канцы пачаў адкрываць паненкі.

— Ці пазнаеш, — пытае, — дзядзька, гэты паненкі?

— А скуль жа яны?

— А гэта ж тыя сёстры, што дзядзька бачыў у семінарыі.

Думаю сабе: «Мусіць, бацька пробашча больш меў дачок, чым сыноў».

— А чаму ж іх так тут многа? — не вытрымаў я.

— Бо што парафія, то не семінарыя, — смяяўся Марцісь, а мяне нешта кальнула пад сэрца. Падвёў мяне так да фартэпіяна, узяў кніжку ў рукі і, прачытаўшы тытул, падаў мне: — Чытай, дзядзька!

Я пераслібізаваў: «Наука о стосунках плцёвых».

— Да чаго гэта? — пытаю.

Марцісь скрывіўся.

— Папросту гэта значыць: пісаў пісака, хто прачытае, будзе сабака.

— Так нашто ж іх купляць?

Ухмыльнуўся Марцісь і пасадзіў мяне раптам пры фартэпіяна, просячы, каб іграў. Калі ж я паказаў яму свае пальцы, так узяў жмут нотаў і зачаў чытаць:

— Цыганскі вальс, марш мазурыкаў, польска шляхтай слыне.

Урэшце кінуў усё і мы выйшлі ў гарод. Сеўшы на лаўцы, пачалі гутарку аб тым, каму лепей жыць на свеце. Тым часам зазванілі на нешпары і мы пайшлі да касцёла.

Пад вечар мы рушылі да двара блізка мястэчка. Вёў нас сам пробашч. Я хацеў быў ісці дамоў, але Марцісь так прыстаў, што не мог адказацца.

— Паны, — кажа, — будуць у карты іграць, а мы тым часам пагутарым. Пабачыш, дзядзька, як паны жывуць.

Прыйшлі ў самую пару. Паноў тут было поўна. У касцёле я відзеў толькі нейкую старую паню, а тут і маладых панічоў і паненак: мо з дзясятак на лік. Пробашчу рук не цалуюць: паненкі толькі прысядаюць, як сарокі. Марцісь узяў мяне пад руку, так што падаючы руку яму, і мяне не міналі, хоць старшыя паны толькі кончыкамі пальцаў прытуляліся да маёй грубой далоні. Павялі нас да пакояў, пачалі гаварыць зара аб тым, якая пагода на дварэ, пасля аб тым-сім, закурылі пахучым дымам і пайшлі гуляць у карты ў другі пакой.

— Будуць іграць на тым інструменце, што дзядзька аглядаў у пробашча, — засмяяўся сціха Марцісь.

Асталася толькі маладзёж. Здавалася мне, што я тут быў як тычка ў плаце. А Марцісь тым часам зачаў жартаваць і расказваць такія забаўныя гісторыі, што паненкі смяяліся да слёз, а я дзівіўся, скуль ён браў такую вясёласць. Адна прысела да фартэпіяна і зачала нешта іграць, а так стройна, што слухай проста бясконца. Перастала. Паны запляскалі ў далоні. Шапнуў:

— Іграла аб тым, што любіцца трэба.

Пачалі зара аб гэтым спрачацца, але я мала мог зразумець, да чаго яны кіруюцца. Паненка адна рызыкоўная прыстала да клерыкаў з пытаннем, чаму яны так вочы спускаюць. А Марцісь неяк задумана адрэзаў:

— Тады толькі спушчаюць, як няма на што глядзець.

Тое дзяўчо нечага пачырванела. Тут ні з сяго ні з таго пытае мяне адзін паніч:

— Скуль, дзядзька, ведаеш, што ёсць Бог?

Я спалохаўся і кажу:

— Я, казаў той (Марцісь паглядзеў на мяне сурова), веру, што Бог ёсць. — І каб сарваць гаворку, прыдаў: — А паніч верыць, што яго няма?

Тут пачалася спрэчка. Адны казалі, што Бога можна пазнаць розумам, другія, што толькі прачуць можна. Адны прызнавалі

Бога, а другія зусім пярэчылі: няма, і канец. Марцісь раптам звярнуўся да гэных, што проці паўставалі, і сказаў:

— Дзіўны народ! Раз вы хваліцеся, што нам даіцё веру нам, людзям невучоным, другі раз хваліцеся, яе адбіраючы. А тут і там вы выступаеце, як насіцелі культуры. Няма ў вас ані сталасць, ані праўды. Пава вы французская!

Тады ўжо пачалася праўдзівая сварка. Паненкі, бачачы гэта, шмыгнулі ў гарод, а за імі скора вынесліся і панічы, усё яшчэ спорачы па дарозе. Марцісь падвёў мяне да акна і кажа, паказуючы на маладую кампанію:

— Згадай, дзядзька, чаму гэтыя знахары не ходзяць да касцёла?

— А Бог іх ведае, — кажу.

— А ці ж не ведаеш прыказкі, што багатаму чорт дзеці калыша. Ім не хочацца Бога, дык і робяць так, каб Яго не было. — Хапіў мяне за рукаво і гукнуў: — Ідзём у вёску!..

## Прыміцыя[1]

…Сённека ў нас свята. Першая Імша Марцісёва. Іду раніцай пехатой з Вінцусём да касцёла, аж даганяе нас Марцісь.

— Пачакай, дзядзька! — крычыць ён здалёку. — Вось відзіш, дзядзька, сёння мой шлюб. Як думаеш, ці вялікае маё шчасце?

— А Божа ж мой, — кажу я, — ці ж можа быць большае за гэта!

— А ведаеш, дзядзька, мне сумна, што Бог дарыць такое шчасце дарма слабому чалавеку. Я не заслужыў.

І ён сільна па гэтых словах зажурыўся..

У касцёле было хораша. Настрой такі ўрачысты, здаецца, як бы неба знізілася да зямелькі і як бы адбываюцца тайнічныя між імі абрады, поўныя цуднае стройнасці. Пачаў прамоўца навукі. Аб радасці, супакоі сумлення, заданнях чалавека, праводніцтве да неба, слабасці людской. Зычыў маладому ксяндзу адважна крыж несці, які бярэ цяпер на свае плечы, выступаючы працаўніком на ніве Божай. А твар Марцісі ў дзень гэты праяснеў, хоць у вачох ягоных адбівалася нейкая дзіўная знямога і сумнасць. Пачалося багаслаўленне. Усе падыходзілі. Панічы толькі ўцякалі паспешна, аж Вінцусь забарматаў нешта на іх. Моцна сціснуў мне голаў Марцісь і шапнуў:

— Будзь мужным, дзядзька!

Сэрца мне чагось сціснулася трывожна.

Быў вечар. Маладзёж вясковая навучылася шмат вершаў і песняў, каб імі выразіць для Марціся сваё спагаданне і падзяку за тое, што ён яе не цураецца, хоць выйшаў «у людзі». Быў пачастунак, на каторым Марцісь так прамовіў да моладзі:

— Гэй, браты мілыя! Будзьце ласкавы не паказаць узгарды да гэтых дароў Божых. Ешце і піце на маё і сваё здароўе. Сёння свята і маё, і вашае. Бог мяне вывеў на новую жыцця дарогу, але з вамі мне цяжка разлучацца. Хоць здалёку ад вас, я ж усё з вамі буду, а праца мая з думкай аб вас будзе, каб здабываць у Бога праўду і справядлівасць. Памяць мая з вамі будзе: люблю вас за душу простую, што не знае блуду гордасці. Я ваш: ідзём рука ў руку, здабываючы лепшыя дарогі жыцця, напраўляючы тое, што ўжо папсавалася. Працай і знаннем здабывайма сабе лепшую долю.

Пасля адказаў яму іменнем вясковых Вінцусь і кончыў словамі прыказкі:

— Узяўся, братка, за гуж — не кажы, што не дуж.

Пайшлі затым вершы, спевы і танцы.

Вінцусь вярнуўся позна. Быў нейкі задуманы — нямоўны. Калі я зачаў гутарку аб радасці дня, ён махнуў рукой.

— Марцісь дачакаў шчасця, але ці падобнае спаткае мяне, Бог адзін ведае.

Мяне аж кальнула прачуццё благое:

— Што ты кажаш, Вінцусь, скуль жа гэты думкі? Няхай Бог бароніць!

— Відзіш, тата, — зачаў ён ізноў, — Марцісь хлопец, што хоць куды. Не пазволіць нікому дмухаць у кашу; здатны і да навукі і да ўсяго; а сёння казаў на прыміцыі: сумна мне. Гэная сумнасць нічога добрага не варожыць… Крыж, крыж і яшчэ раз крыж. Марцісь яго панясе стойка і данясе аж на Кальварыю, але я… баюся.

Вінцусь гэта так сказаў, што слёзы паказаліся на вачох маіх. «Прапаў я, — думаю сабе. — От, нашто пашлі мае заходы, думкі, труды». Мяне абняло холадам пры мыслі, што ўсё намарна. Пасля ж кінула ў пал. У неспакоі вялікім глянуў я на Вінцуся: ён сядзеў, абапёршыся на локцях і сціснуўшы голаў. Тады я глянуў увысь і вокам спаткаўся з святым зорам Хрыстуса ўкрыжаванага. Спакойна і неяк спагадна глядзеў Ён на мяне і сына і ўліваў тайнічную надзею сэрцу збалеламу.

— Вінцусь, Вінцусь! Ці ведаеш ты, што дзеецца цяпер у сэрцы твайго бацькі? — адазваўся я.

Вінцусь паказаў тады на крыж і адказаў:

— Воля Яго.

— Так прашу цябе, сыночак, не рабі нічога сваім адумам. Няхай Яго воля станецца.

— У тым жа і цэлая рэч, каб адгадаць яе, калі яна ёсць нада мной! — кончыў Вінцусь зменeным голасам.

Я не спаў усю ноч. Снілася да раніцы: то маё падарожжа да Кальварыі, то катэдра, то клерыкаў рад дворныя панічы ў споры з Марцісём, урэшце прыміцыя. Абразы што віля мяняліся, а ў канцы заўсёды станавіўся мой Вінцусь, цэлая надзея маёй сям'і: Вінцусь з гэным страшным словам — «баюся». «Няўжо ён сам уцячэ з семінарыі? — думаў я не то праз сон, не то наяве. — Няўжо не паслухае голасу бацькоў, сёстраў? А мо прафесары сумляваюцца ў ім? Ах, Божанька, ратуй яго і мяне! Адвярні гэта ліха дзе на сухі бор…» І сніцца мне дзіўны сон. Іду я лесам. Сонца так страшна парыць. Суш вялізарная. Слізка пад нагамі. Аж у лесе глухое азярко. Купаецца там Марцісь і плавае, плавае. Глядзь: і Вінцусь плыве. Відаць, цяжка яму, бо ледзь наўперад падаецца. А мяне такі страх зняў, быццам ён утоне, што я аж крыкнуў і прачнуўся… Паў на каленкі і пачаў Бога прасіць літасці над маёй нядоляй. Потым ужо супакоіўся і заснуў. Назаўтра трэ было адвезці Вінцуся на чыгунку. Як на бяду выпаў дождж. Вінцусь цэлую дарогу быў маўклівым і сумным. Я не ўспеў зачаць гутаркі, бо гэнае «баюся» як змора стаяла мне ў вачох. Дождж не пераставаў. Жаласна неяк цягнулася мая кабыліца па лужах вады, воз як сумысля ўвальваўся з калюгі ў калюгавіну, з памяці маёй ані на мінутку не сходзіла тое страшэннае «баюся». І тут я ўспомніў слова Марціся: «будзь мужным». Сэнс яго станавіўся мне зразумелым.

— Аб чым вы, Вінцусь, гаварылі ўчора позна з Марцісём? — спытаў я ўрэшце.

— Аб тым, як цяжка жыць на свеце чалавеку, — коратка адказаў ён і змоўк, не маючы, відаць, ахвоты дзяліцца са мною думкамі. Сціснуў я моцна лейцы, даў па кабыле, націснуў шапку і так маўчком прывёз сына да станцыі… Вінцусь горача развітаўся і, сказаўшы толькі: «Не бядуйце — усё будзе добра», адаслаў мяне дамоўкі.

— Не бядуй, дзядзька, па сыну, — звярнуўся да мяне Марцісь, калі я вярнуўся дахаты. — Бог не апусціць вас! Сённяшняя Імша мая за вас была. Дасць Бог, усё будзе добра.

Пытаю я:

— Ксянжочак даражэнькі, скажы, калі ласка, што ён сабе думае? Няўжо ён сам думае семінарыю пакінуць?

— Учора гэта ён гатоў быў зрабіць.

Сказаўшы гэта, Марцісь узяў мяне за руку:

— Ведаеце, — кажа, — якую непасільную працу ўскладае на сябе такі чалавек, што хоча Бога гадаваць у сумленнях людскіх? Калі так трудна сябе ўзгадаваць да жыцця Божага, як жа можам брацца другіх папраўляць? Вінцусь баіцца. І я баюся, бо ведаю ўжо, што кожны ксёндз носіць трагедыю ў душы. Чытай, дзядзька, па вачох. Але не кожна праўда мае і вочы. Трагедыя — лёс людскі. Трагедыя ўсё на свеце. Я таксама буду нешчаслівым, але яшчэ гэта толькі прачуваю… Не ведаеш, дзядзька, што трагедыя? Гэта канечнасць плаціць за кожную хвілінку шчасця страшэннымі ахвярамі… Здайся на Бога. Будзь гатоў на ўсё, але помні: ніколі не пажалееш, што сыну даў навуку, бо нішто так не падымае ўвысь сэрца людское, як добрая навукі. Так ці іначай, а з Вінцуся будзе чалавек.

Аб усім гэтым я нічагусенькі не сказаў бабе, бо яна біла б галавой аб сцяну — ведама, баба. Але сёння дык не ўцерпеў. Вялікае маё было здзіўленне, калі яна нат слязамі не залілася:

— Што Бог, — кажа, — дасць, тое будзе.

Ось і ізноў еду ў Вільню. Прызывае мяне туды знячэўку Вінцусь: ён цяжка хворы. У тэй круглай святліцы, дзе калісьці я аглядаў клерыкаў з сёстрамі, сказаў мне той самы начальнік у бліскучых гузіках, што сын мой ужо паправіўся і адпачывае цяпер у семінарскім шпіталі. Трэба было чакаць доўга пазвалення старшых. Дастаўшы яго, павёў мяне праваднік калідорам, каторым калісьці ішоў я з сваім знаёмым; пасля выйшлі мы ў нейкія вулкі, у закамаркі, а стуль трафілі ў светлы пакойчык з ложкамі. Прайшоўшы дзверы, я ўбачыў грамаду клерыкаў. Адзін сядзеў над кніжкай, а два аб нечым надта спрачаліся, а адзін так курыў, казаў той, папяросу. З пасцелі падняўся да мяне прыбледшы Вінцусь. Перапрасіў таварышаў, яны выйшлі, і так загаварыў да мяне:

— Тата, будзь спакойны. Я здароў, не ўмру. Тата мог дадумацца, чаму я злёг. Мяне спаткаў цяжкі лёс. Трэба пакінуць семінарыю.

Заварушылася ўсё на гэта слова ў мяне пад вачыма. Слёзы неяк самі пацяклі з вачэй. Але Вінцусь узяў мяне за руку і кажа:

— Тата! Пакінь сумаваці! Я дакажу, што патраплю быць за труды татавы падзячным.

І ён тут схіліўся, каб пацалаваць мяне ў руку. Я пачаў шукаць рады, каб астацца. Але ён махнуў рукой:

— Не трэба змяняць волі Божай. Памяць тупая і спрыт малы да навукі… Зрэшты я пастанову прафесараў прыняў неадменна.

— Што ж цяпер будзе? — спытаў я, разводзячы рукамі.

Ён крутнуў адважна галавой:

— Дараблюся! — кажа. — Еду ў Амерыку. Як дастану грошы, куплю зямлю.

— Бог табе хай паможа, — прамовіў я. — Маеш розум, Вінцусь. А коштаў на цябе паложаных я жалець ані думаю.

Пацалаваліся мы з сынам, і я, не аглядаючыся, папхнуўся на вакзал. Забыўся нат адведаць свайго знаёмага шаўца, бо ў галаве маёй шумела, як у млыне. У Вострай Браме я апомніўся. Паў на каленкі ля самай сярэдзіны вуліцы і багаславіў Бога за ўсё. І так я размаліўся да Маці Божай, што нат меў ахвоту вярнуцца да касцёла боніфратэрскага, каб напіцца вадзіцы з студзенькі святой. Баяўся толькі, каб не зблудзіць і не спазніцца на машыну.

* * *

Божанька мілы! Сёння я дастаў ліст з Амерыкі ад Вінцуся. «Дарагія тата і мама! Можа, не паверыце, але гэта, што пішу, — чыстая праўда. Я стаўся купцом. Сабраўшы крыху грошы на фабрыцы, я прылучыўся да гандлёвай кампаніі і патроху мне павялося сабраць маленькі капітальчык, каторы ўжо магу ўлажыць у зямельку. Лішне мне апісваць свае заняцце. Скажу толькі, што страшная туга з’ядае мяне па роднай староньцы. Усенька тут іначай. І разумней, і святлей, і карысней, аднак нешта цягне дамоўкі. Пакінуў я там сваё сэрца, і пара ўжо вярнуцца. Найдалей яшчэ адзін гадок цярпення, а пасля, як ластаўка, да мамы. Там мо нават звію сабе гняздзечка, калі пазволіць Бог. Лёс мяне крышачку дасведчыў, але гэта прыдалося. Будзьце ж цярплівы і чакайце. Не забывайце, памаліцеся за мяне. Здаровы будзьце. Паклоны сябром. Вінцусь»…

## Падарожжа да Марціся

Ізноў я еду ў вагоне ў старану Вільні. Але аб ёй не думаю. Думка мая ляціць у старану Міронавіч, дзе чакаюць мяне Марцісь і мой сын Вінцусь, прыехаўшы нядаўна з Амерыкі. У той жа парафіі, дзе працуе Марцісь як вікарый, купіў мой Вінцусь хутарок. «Прыязджай, дзядзька!» — вось цэлы тэлеграм. Еду чым хутчэй… Няма часу заехацца нат да Вільні… Месца цуднае. Дарога бітая. Збоку лагі, гаі, узгоркі. Адно-другое азярко бліснула між зелені: ось вочка маладзіцы. А касцёл! Божа мілы! Не наглядзецца! Тоне ў гушчы бяроз і клёнаў, такі відны, светлы, чысты — аж душа радуецца. Дом ксяндзовы сумней выглядае, бо і старэнькі, крывенькі, а дзе-нідзе нават мохам парос. «Стары, — думаю сабе, — тут гаспадар». Уходжу ў ганак, аброслы віназеллем. Спатыкаю нейкую кабеціну з гладкім, тлустым тварам.

— Пахвалёны.

— Навекі! А до кого?

— Да маладога ксяндза, — кажу.

— А чэго? — я глянуў на цікаўную жанчыну і пытаю:

— А хто ж, васпані, будзеш, ці не сястра пробашча?

Яна, не адказуючы, паказала мне на малыя дзверы з другога боку дома і, мыкнуўшы: «Там вікарый», зачыніла мне пад носам дзверы. «Гаспадыня ксяндзова», — падумаў я і абярнуўся, каб ісці, аж тым часам пад ганак пад’ехала фура і вылез з яе грубенькі, прысадзісты ксёндз, у каторым я зара дадумаўся Марцісёвага пробашча.

— Да каго, браце, лезеш? — пачаў ён тонам жартаўлівым.

— Я, — кажу, — хацеў дайсці вікарыя, але тут нейкая бабка скіравала мяне ў другія дзверы.

— А скуль?

— Ды з Барадаўкі.

— А, то не тутэйшы.

— Я прыехаў сумысля адведаць па даўнейшай знаёмасці Марціся.

— Ну калі так, то добра. Але ў кепскі час трапіў: ён хворы ўжо два тыдні з гакам.

Маё сэрца зашчымела благім пачуццём. Пробашч павёў мяне тым часам у ганак і там, распрануўшы, калідорам падвёў пад нейкія дзверы ў куце і пастукаў. Шэпчучы сціха, каб не трывожыць нічым хворага, ён паказаў мне, куды ісці. Увайшоўшы, спаткаўся я вачамі з зорам Марцісёвым. Ляжаў. Як жа ён

змяніўся. З твару счэз румянец здароўя. Прыблед. Вочы толькі свяцілі з-пад доўгіх броваў, а вусны збялеўшы выражалі нешта страшнае. «Няўжо смерць?» — мігнула мне праз галаву. Я з сільнай трывогай падышоў да ложка. Хворы ўсміхнуўся і працягнуў мне руку:

— Як маешся, дзядзька! — прамовіў — Што ж так засумаваўся? Відзіш, крышку хварэю, але гэта нішто. Бог крышачку пакараў. Садзіся!

— Марцісь, Марцісь! — усклікнуў я. — Ад хваробы ніхто не ўцячэць. Але ж так нядобра выглядаеш, што страх мяне агарнуў.

— Эт, што аб гэтым гаманіць! — перарваў ён нецярпліва. — Буду яшчэ здароў. А калі ўмру, такой бяды. Раскажы лепей, дзядзька, што там у вас чуваць. Гэта мне лепей памагчы можа, як аптэчнае лякарства. Вінцусь прыйдзе заўтра, а калі хочаш, пойдзеш да яго нанач. Блізка.

Я зачаў тады расказваць, што ад часу яго ад'езду мала што змянілася. Янка Лахва вярнуўся з дарогі, Адэля Дзядзілянка пайшла замуж за Крывога, Супрон такжа ажаніўся, Барбара ўмёрла, паніч з двара застрэліўся (той, што пытаўся ў мяне тады аб Богу), карчма ў Мядзведзічах згарэла. Марцісь слухаў усяго з небывалай увагай, і радаваўся, і смяяўся, то ізноў сумаваў, аж у канцы загадаў:

— Ну ж, дзядзька, слухай, што ў нас цяпер парабілася!

І пачаў жыва паказваць, як то мужыкі хацелі сабе зямлі прыкупіць. Нараіліся спярша з жыдам, пасля прыйшлі сюды, а ў канцы да пана. Га! Лёгка сказаць купіць, але скуль грошы! Трэба ж стацца — банкрутуе пан і ўступае дворную зямлю хутарамі. Сяляне разам з Вінцусём, толькі што прыехаўшым, робяцца валадзельцамі невялічкіх хутароў з выплатай праз дзесяць гадоў. Тым часам выходзіць смешная штука. На двару яшчэ залягаў нейкі доўг і акт куплі раптам уняважнілі. Сялянцы пастанавілі зямлі не даць і, сабраўшыся ў пана, заявілі, што яе не дадуць ніякім парадкам, бо ўлажылі ўжо столькі працы. Калі пан гневаўся, Вінцусь сказаў яму ў вочы: «Еслі зямлю адберыцё, не пусцім пана жывым». Аж тут уплутаўся ў справу новы панок (мазур нейкі), абяцаючы, што ён заплаціць усе шкоды падвойна, верне плату за зямлю і яшчэ дасць нат гасцінец. Усе сумеліся на такі посул і пайшлі нараіцца. Па доўгіх спрэчках згадзіліся зажадаць яшчэ шмат адступнога, будучы пэўнымі, што той не згодзіцца. Але выйшла дзіва. Ледзь яны паставілі свае варункі, мазур згадзіўся. Мужыкі аж прыселі! Жаль ім было зямлі.

Марцісь (відаць, Вінцусь!), відзячы, што тут крыецца нейкая здрада, заявіў, што ён астаецца пры сваім хутары і не ўступіць яго за нішто. Да яго прылучылася яшчэ колькі гаспадароў.

— І ведаеш, дзядзька, як кончылася? — звярнуўся да мяне Марцісь змененым голасам.

— Пэўна, — кажу, — нашага брата зманілі.

— Не! — з сілай адказаў Марцісь. — Ён сам сябе зманіў. Паказалася после, што хутары былі прададзены танна, вось хітры мазур зрабіў штучку і адкупіў зямлю, прадаючы каланістам з Польшчы. Адбіў ён на сваіх сваяках тыя гасцінцы, дараваныя нашым дурням, і, кажуць, добра зарабіў. Польскія каланісты прыехалі, і паказалася, што шмат лепей знаюць, як павесці дзела. Эх, дурны народ наш: будзе час, калі ён зусім упусціць зямлю сваю за чужыя пернікі!

— А што ж Вінцусь? — пытаю.

— Вінцусь? Ён не ўступіў, і нічога не зрабілі, бо не мелі права…

Закашляўся Марцісь пры гэтых словах, і я ўважаў, што плюнуў крывёй. Нядобрае прачуццё збудзілася мне ў сэрцы. Я развітаўся, пытаючы дарогі да сына. Выходзячы, ізноў спаткаўся я з той самай асобай, што пытала мяне, чаго прыйшоў. Была крышку патульнейшай і спытала, чаму не астаўся на абедзе.

— Дзякую! Я ўжо па абедзе, — мімавольна зманіў, хоць быў і галодны.

Радасці Вінцука канца не было. Жыў яшчэ ў хаце суседа, але будаваўся і работа ішла перуном. Паказваў мне ўвесь свой абход: і луг, і карчаўніцу, і месца на садок, на гумно.

— Восеняй, татка, буду на сваім, а после, — прыдаў ён цішэй, — ажанюся!

— А маеш ужо каго? — спытаў я асцярожна.

— Сястра Марцісёва, а каторая, тата згадаеш.

— Пэўна, Доля, бо яна такая гаспадарная!

— Дагадаўся, тата, а да зімы мо і загуляем.

«Не хочаш, — думаю, — каб людзі балталі аб тваіх намерах».

— Татка, — спытаў ён, — ці добра людзі робяць, наракаючы на свой лёс?

— Ведама, дрэнна, — кажу. — Але прыказка кажа: турмы і торбы не выракайся.

— Ха-ха! — засмяяўся Вінцусь. — Асаблівая праўда: добрая толькі для тых, што чакаюць, пакуль ім толькі сланіна з неба зваліцца, а самі не хочуць каваць сабе долі. Так во і нашы

сялянцы зрабілі. Дзяржаць грошы ад мазура і чакаюць чорт ведае чаго.

Раззлаваўся Вінцусь і адвёў гутарку зара на Марціся.

— Сам крышку вінен, што захварэў. Чалавек не машына: і праца ў меру.

— А што гэта за баба там у іх такая цікаўная? — пытаю.

— Гэта, — кажа, — такая асоба ў плябаніі, што любіць уваткнуць нос не ў сваю місу. Шкада слоў.

Вінцук замоўк і зажурыўся. Я прыглядаўся да яго і сумеўся той зменай, якую толькі цяпер убачыў. Згрубеў, разросся. Вусы запусціў, валасы курчавыя. Быў у сіле веку і здароўя. Бачачы яго сілу і адвагу, я дзякаваў Богу, што вывеў яго на іншую дарогу. «Каб не навука, — думаў, — быў бы парабкам у двары». Назаўтра (была нядзеля) пайшлі мы разам на суму. Людцы памалюсеньку запаўнялі дом Божы. У лаўках пяялі: «Марыя, будзь паздраўлёна», а на хорах арганіст парадкаваў спевакоў. Ударыў званок, і набажэнства пачалося. Люд грымнуў на каленкі і як адзін запяяў: «Ах мой Божа, веру Табе». Пачуўшы родную песню ў касцёле, я нямала здзівіўся. А Вінцусь шапнуў:

— Гэту песню навучыў Марцісь — затое паны ненавідзяць яго.

Я тут глянуў да алтара і здзівіўся. Кругом алтара кленчылі дзеці. Хоць і не выпадае гаварыць у касцёле, я спытаўся сына:

— А дзе ж паны?

— Запытаеш, тата, Марціся, — шапнуў Вінцусь.

Я тады і пачаў маліцца, адпомніўшы, за здароўе Марціся. А после набажэнства зайшлі мы зара да яго. Ляжаў яшчэ сумнейшы, чым учора.

— Ведаеш, Марцісь, — загаварыў Вінцусь, — татка адразу звярнуў увагу на парадак у касцёле. Раскажы яму гэту камедыю з панамі, мо павесялееш.

— Гм! — усміхнуўся Марцісь. — Добрая камедыя! Каштавала яна мне здароўя. Відзіш, дзядзька, — звярнуўся ён да мяне, — паны тутака зусім не верылі ў Бога. Раз пробашч бядуе, што такі благі прыклад двары даюць сялянам сваёй нявераю, і нямаш на гэта рады. «Ёсць, — кажу я, — рада. Пазволь мне, пробашч, я іх усіх навярну». — «Та ж я табе даў волю, — кажа ён, — я ўжо стары, а пры картах няма як гаварыць аб споведзі…» Пробашч думаў, што я буду кланяцца ім ці вучыць іх! Было так. У нядзелю пасля гэтай гутаркі пачаў я вучыць песні касцельныя па-беларуску. Панкі даведаліся аб гэтым ад службы і ў другую нядзелю сядзела ўжо іх двух у лаўках, каб наглядаць за навізной.

Я тады знарок добрую часць навукі сказаў па-беларуску. Паны спалохаліся, і ў трэцюю нядзелю іх ужо было поўная лаўка. Якраз выйшаў пробашч з навукай і дакараў бязверцаў, што забіваюць Бога ў сэрцы сваім. Вось дзеля баязні тэй, каб народ не пайшоў сваёй дарогай, панкі пачалі тады хадзіць акуратней да касцёла: не дзеля малітвы, а дзеля палітыкі. «Нудзіліся» ў лаўках страшэнна, але верна стаялі «на часах» і самі не агледзеліся, як з людзей паступовых абярнуліся ў адсталых кансерватыстаў. Тым часам мая работа ў асведамленні народнай ішла ўперад і яны чулі, што грунт польшчыны ў касцёле не крэпкі. Аж вось раз заклікаюць пробашча да Вільні. Мяне кальнула прачуццё. «Шкада, — сказаў мне сумна пробашч, — што я пазволіў табе наварачаваць шляхту. Набрахалі на нас нешта ў Вільні. Здумалі, што ты змагаешся з польшчынай у касцёле». Пабедавалі мы тады крышку, аж глядзім: ідзе да нас грамада людзей з парафіі. Пашто? Смех сказаць: прыйшлі прасіць, каб скасаваць панскія лаўкі ў касцёле, бо раз, што цяпер усе роўныя, а ізноў паны сваімі смешкамі і крыўляннямі горшаць дзетак. Вінцусь прызнаўся, што тут была і твая работа… Тады пробашч (дай Божа яму найлепшага) зара спісаў акт аб гэтым, гаспадары падпісаліся, дапісаў яшчэ параграф права касцельнага, каму вольна быць у прэсьбітэрыі і… падаў да Вільні з слязамі: няхай жа знаюць недаверкі! На трэці дзень прыйшло пісьмо ад біскупа, што лаўкі можна скасаваць. Тады гнеў панскі абрушыўся на мяне. Што яны там на мяне гаварылі: усё роўна — досыць, што я ў хуткім часе атрымаў прыгану (pryhanu) за аднастароннасць у працы. На другі дзень я захварэў. Відзіш, дзядзька, — кончыў Марцісь, — што такі і ксяндзом не ўсім роўна добра жывецца на свеце. Ад таго часу і мяне ў касцёле няма і паноў не відаць. А людцы пяюць як даўней: «О мой Божа, веру Табе». Еслі паздаравею, трэба мне пэўна будзе развітацца з гэтай парафіяй.

## Падарожжа ад Марціся

Сумны ехаў я ад Марціся да Вільні. У галаве шумела, а ў шуме тым я чуў толькі адно: «Упусцілі з рук сваю зямлю, аддалі чужынцам». Эх, Божа! Чалавек, здаецца, даў бы сабе палец адсячы, каб дзе хоць крошачку зямлі прыдбаць, а гэтыя цымбалы мелі ў люках і ўпусцілі… Ухмыльнуўся я, спомніўшы, як Марцісь пад’ехаў на тых дворных бязверцах. Відаць, зразу, што сын сялянскі! Такі панскай клямкі не пацалуе… А пашто сварыцца і за зямлю, калі яна наша?! Адно толькі цяжка ўцяміць нашаму

простаму розуму, чаму адзін яе мае на цэлыя мілі, а другі на качаргу?.. Ці гэты падзел ад Бога, ці ад людзей, ці мо і ад чорта? Вінцусь хваліўся, што пры добрай навуцы можна было б зносна жыць і на малым кавалку. Эт, такое там і жыццё! Але дзе ж і тая гаспадарская навука? У нас як хто вучыцца, то ўжо хлебаробам на сяле не астанецца. Вінцусь мой нейкім цудам пайшоў сваёй дарогай. Сумнівы мае раслі штораз болей. Аж у Вострай Браме нейкі голас у душы развязаў мае думкі: «Тады будзе толькі лепей, як сялянец сам мужаваць будзе над сваёй доляй…» Прад вачыма маімі раскінулася ўся наша родная старонка з сваім хараством і гідотай, палацамі і курнымі хатамі, чорнай зямелькай і пяскамі сыпучымі, з панам і хамам. І каму ж, думаю сабе, дастанецца гэтыя аграмадныя абшары. Бо паны такі згінуць. Першым знакам гэтага лічу тое, што яны згубілі Бога, затрацілі і душу. А як жа без душы можна доўга жыць? То ж не дзіва, што шмат іх адабралі сабе жыццё, пусцілі б пярвей двор на віно і гумалясткі французскія. Божа ж мой мілы! От будзе зямелькі! Стала б для ўсіх нашых… Няўжо ж Бог не падзеліць яе? То ж прыказка наша спрадвечная вучыць: Бог не гультуе, а свет раўнуе. Калі ж Матачка Божая дасць нам пацеху вольнага-свабоднага труду на сваёй жа роднай зямельцы?.. Сэрца маё расхвалявалася і пяяла гэтыя хвілі гэну песню дзіўную: «Ах, мой Божа, веру Табе». Малітва ўзрадавала мяне, але не ўспакоіла. Галава была поўна думкаў аб Марцісю, Вінцусю і нашай долі. Думкі нясліся, як хмары на небе. Помню, раз падаў я на суд суседа за шкоду. Стаў на судзе і справу прайграў, бо сусед добра спаіў, каго было трэба. Хацеў нат яшчэ, каб я заплаціў яму кошты суду. Аж сам суддзя міргнуў яму: «Ну, гэта ўжо праз пару!» Я плюнуў тады і выйшаў. Аж у суседняй хаце быў сход: гаманілі сяляне аб тым, што лепей мець у вёсцы: манапольку ці вучылішча. Хата была поўна гоману, бо ўсе разам гаварылі без толку. Нічога я паняць не мог пад цяжарам сваёй крыўды. Стаў толькі пад сцяной і, зажмурыўшы вочы, стараўся забыцца аб усім. Кажуць, што пры вялікім вадаспадзе ў Амерыцы Ніягара такі бывае шум вады, што не чуваць тваёй гутаркі. У вялікім натоўпе думкаў я шукаю месца гоману і суматохі. Не чуеш тады так ясна балючай гутаркі думкаў сваіх і забываешся. Вось і цяпер іду я вуліцамі Вільні, у гэтым грохаце, гомане. Іду і думаю: дай жа мне спакой, «Боженька Добры»… І прыпомнілася мне, як калісьці я тут спатыкаў клерыкаў, як з шаўцом па Вільні бадзяўся, як урэшце з маладым ксяндзочкам, катораму галава балела ад глыбокай навукі, сустрэўся. Пасля ізноў Вінцусь клерыкам, вакацыі, прыміцыя

Марціся. Так майначылася мне. Летуцелі мыслі аж да таго часу, калі я першы раз выбраўся ў свет, каб абысці святыя дарожкі Кальварыі. Шмат часу, шмат перамены. Ды і са мной нешта як бы новае выходзіць. Гарэю і вучуся. Падарожжа палюбіў, бо так было б прыемна азірнуць старонку ўсеньку, а пасля і нагрызмоліць крывымі літарамі аб гэтай вандроўцы. Дзякую цяпер табе, Ігнат, што ты калісьці літары мне паказаў. Цяпер я думку сваю ўмею пераліць на паперу, а так яна загінула б. Вось і цяперака прыйшла мне такая: чаму Багушэвіч, апісуючы панскія гульні, кажа: «То не дзіва, толькі стыд». Але гэта не тое: чаму душа — скажыце — простага чалавека іначай неяк абдымае свет Божы сваім поглядам? Чаму ў душах паноў, якіх я знаю, так цеснае месца для нашае сялянскай веры? Хто мыліцца? Ці ж не забаўна, што мы — вяскоўцы — называем іх малпамі, хоць яны тварам меней падобны да гэтых звярат, чым вясковыя, працай забітыя людцы. Ёсць паміж нашым жыццём і іхным нейкая страшэнная пропасць, каторую выкапала, сам не ведаю, ці іх пыха, ці наша пакора. Пакуль гэтая пропасць выраўняецца (хто яе мае раўняць?!), шмат часу ўплыве… Прад маімі вачамі марай прасунуліся тыя панічы з двара, што так высцерагаліся маёй грубай далоні; тыя паны, што не бывалі ў касцёле, аж сяляне песняй сваёй «Ах, мой Божа, веру Табе» — далі спазнаць, што без іх апекі іначай неяк павінен ісці парадак нават у касцёле і… што без іх вельмі добра можна абысціся. Колькі, аднак, праўды сказаў наш Бурачок проста ў вочы: «Шклы тыя для туману, праз іх глядзіш, як у дым, жыд сумысля даў іх пану, каб зрабіць яго сляпым…» Выходзіць, што мы — крывулі — глядзім на свет Божы чысцейшым вокам, не праз туман… Дай жа, Божанька, вяскоўцам нашым больш розуму, каб змагчы злую долю сваю, а яшчэ зажыве наш брат жыццём чалавека. Кажуць, што зямелькі ўсім доваль, толькі няма справядлівасці на свеце — затое і трэба выслужвацца парабкам. Паезджу, калі дасць Бог, пабачу шырэй нашу Беларусь, а пасля пісаць буду, як мага, дзеткам для памяткі… Сумна неяк грукаціць сёння вагон мой. І таварышы майго падарожжа невясёлыя. Мо і іх галовы займае гэта трывожная думка, каб не даць роднай зямелькі чужаку…

## Вяселле

Я пастарэў, каб вы ведалі. Каб прымеў, браточкі, стрымаў бы крышку гэты бег часу: ад летка да зімы, ад зімы да летка… Дарма! Усё ідзе як у гадзіннічку. Вунь колькі лесу нарасло на

лесасеках, а колькі прыбыло новых хацін у ваколіцы, колькі людзей састарэла, вырасла, нарадзілася… Ведаеш, Юрка, што я табе скажу: збірайся рабіць новае падарожжа — не да Кальварыі, не па Беларусі, а… на той свет… Што ж там за цуданькі быць мусяць, калі столькі іх тут на нашай зямельцы! — Але аб чым я гэта? Ага: хацеў сказаць, што пара, Юрка, уступіць ужо табе дарогу маладому пакаленню. Глянь, што за людзі выходзяць з нашых сёл. Колькі жыцця, колькі разгону! А ты ўжо сівееш, гарбееш: нагараваўся — пара адпачнуць. Вось ажані свайго Вінцуся, а пацешся мо апошні час, гледзячы адным вокам на радасць маладых, а другім у сваю дамавіну. Так! З дарогі, старасць, дай ісці свежай сіле. Ізноў жа, не плач з вялікай радасці, бачачы маладых, бо жыццё гэта смеху і слёз мешаніна і той мудрэц, хто смяецца апошні…

Заўтра адбудзецца шлюб. Вінцусь гатоў: гамоніць у святліцы з Марцісём. Маці каля печы завіваецца. А я сяджу ды думаю. Шмат часу, як былі яны тут семінарыстамі: поўны лес быў тады іх песнямі. Эх, благаслаў, Божа, на добры шлях! Мо і добра, што апынуўся ён аж у Амерыцы. Цесна тут нам. У сваёй жа хаце, так абшарнай, цесна. Трэ ісці ў свет. Адны ў маскалі, другія ў ляхі: ён жа мне ўдаўся — астаўся тым, кім маці радзіла… З святліцы данёсся прыцішаны спеў: «Салавейка лугавы, не шчабячы з-пад зары, не жур маёй галавы». — Чаго ж ім журыцца ў такую хвіліну. Эх, успаміны, успаміны; шчаслівы, хто ўспамінае з усмехам.

— Дзядзька, дзядзька! — раздаўся голас Марціся. — Хадзіце! Вось дзіва пакажу.

Я пайшоў да іх.

— Глянь, дзядзька, Вінцусь прад шлюбам плача, як дзяўчына.

Я здзівіўся. Вінцусь з мінай сумнай, прыбітай як бы горам, сядзеў пахілены на крэсле.

— Вось што з яго зрабіла Амерыка, дзядзька. Як пачуе нашу песню, не судзержыць свайго ўчуцця: плача.

— Э, тата мо не ведае, — адазваўся Вінцусь, — што кожная наша песня стогне, як душа на пакуце. Я гэты стогн пачуў толькі тады, калі быў на чужыне і спазнаў, як жывуць свабодныя народы. Ад тэй пары песня наша варушыць сэрца мне да слёз.

І ён зачаў напяваць вясельную ноту, у каторай, праўда, ані крошкі няма вясёласці.

Кукавала зязюля ў садочку, —
Ой рана раненька ў садочку,
Прылёгшы галоўкай к лісточку:
Хто ж маё гняздзечка развіець,
Хто ж мае яечкі пабярэць?

— А помніш, дзядзька, — адазваўся Марцісь, — як калісь, едучы з Кальварыі, клерыкі адазваліся роднай песняй на тым паравіку… Цяпер ведаеш, чаму так трудна родную песню прызабыць… Божа мілы! Калі ж беларус запяе песню патолі на волі?

Туман-туман на даліне,
Шырокі ліст на каліне.
Туман закрыў правідну даль,
Туман збудзілі ў сэрцы жаль.
Пакінь ты жальбу, жаль пакінь,
Загінь, няволя, меч закінь…

Абодва рвалі душу сваёй песняй. Не ведаю чаму, але слёзы каплямі пасыпаліся па майму твару. Знячэўку абярнуўшыся, убачыў я, што пры парозе стаяла маці і такжа плакала.

— Вось і вяселле! — сказаў я моў бы з дакорам.

— Ах, цётанька, — загаварыў Марцісь. — Калі вока набракне слязой, трэба выплакаць, бо журба можа і здаровага заесці…

— Вось праўда! — адазваўся Вінцусь. — Быў я касірам у адным targовым доме ў Амерыцы, дзе шмат сходзілася сыноў Украіны. Добра мне было там і даход ненайгоршы. Але вось украінцы часта збіраліся, каб «пабалакаць» аб сваёй роднай «нэньцы» і паспяваць хорам. Ах, гэтая іх песня!.. Яна не так, як беларуская, што больш галосіць і праклінае, а зрэдку весялее, — яна заўсёды смяецца, але «праз слёзы». Тады я навучыўся цаніць дабро паэзіі працавітага народа. Тады першы раз зашчымела сэрца маё песняй нядолі. І вось згадайце, што я зрабіў? Не вытрываў ад журбы: кінуў той дом. Жуда жалосная з’ядала мяне за родным загонам. Я часта мыліўся ў рахунках: быў сумны і расстроены. Эх, песня хутчэй даходзіць да душы, чым найглыбейшае слова. Чаго мова не даскажа, песня даскажа…

Так гутарылі цэлую ноч, а ў маладой тым часам гулялі «зборную суботку».

*1921*

# ЖАРТЫ

## ШТО ЮРКА БАМБІЗЕ АДКАЗАЎ

Заняў бамбіза ў хлеў са шкоды карову селяніна і аддаў яму толькі пад варункам, што ён прыйдзе ў нядзелю на малебны ў кірху. Селянін прыйшоў у кірху, але зара пасля скіраваўся да касцёла.

— То ж ты ўжо памаліўся, — кажа яму пастар. — Чаго ж там ідзеш?

— Бачыце, — кажа селянін, — я тут быў за карову, а там іду за сябе.

## ПЕРАВЁЎ

Поп у часе лекцыі пытаецца вучня:

— Ану, Зацірка, перавядзі па-беларуску наступны славянскі сказ: «озлоблен бых і смірыхся до зела»…

— У аглоблях бык і павялі да сяла, — адказаў вучань.

## ПРЫЕМНАГА АПЕТЫТУ!

— Даражэнькі зяць, што б ты рабіў, калі б убачыў, што на мяне накінуўся воўк і пачаў бы есці?

— Ну, што б рабіў? Сказаў бы яму… прыемнага апетыту!

## НЕ ПАДАБАЛАСЯ

Панскае дзіця да маткі:

— Мамусю, я не пайду больш да школы.

— Чаму, мой анеле?
— Мамуся мне казала, што я буду хадзіць да першага класа, а там простыя зэдлікі, як у трэцім класе для мужыкоў.

## У СУДЗЕ

Суддзя пытаецца ў сведкі — былога салдата, ці чуў ён, як абвінавачаны лаяў пана.
— А як жа, пане суддзя, чуў, — адказвае той.
— Дык раскажы, як ты чуў.
— Калі стыдаюся, пане суддзя.
— Нічога, кажы, бо гэта абавязкова патрэбна для справы.
— Калі так, дык слухайце, пане суддзя. Ён лаяўся: «ты дурань», пане суддзя, «ты — быдла рагатае», пане суддзя, «ты — с… сын», пане суддзя, ты…
Суддзя:
— До, до, до! Хопіць, больш не трэба.

## У «УТРАКВІСТЫЧНАЙ» (ДЗВЮХМОЎНАЙ) ШКОЛЕ

Настаўнік з «Галілеі»:
— Як бэндзе па-беларуску: когут спева ку-ка-рэку?
Вучань:
— Тугут пяе кукарэку.
Настаўнік:
— Не, дурню. Тугут, гэта — пасол, але як па-вашаму звацъ *когута*, ну, як яго звацъ, курыцынага мужа?

## ЁН — НЕ ЧАЛАВЕК

У часе калядных святаў на балю ў клюбе адна пані, памыліўшыся, падумала на пана, які стаяў пры дзвярох, што гэта лёкай, сказала:
— Чалавек, дайце мне шклянку вады з лёдам!
А пан ёй адказвае:
— Выбачайце, я — не чалавек!

## У ДОКТАРА

— Пане доктар, што мне рабіць? Жонцы штораз усё горай і горай робіцца?

— А як жонцы п’яўкі памаглі?

— Не зусім! Тры п’яўкі ледзь-ледзь з’ела, а больш ніяк з’есці не можа.

*1919–1925*



# ЯНКА КАНЦАВЫ

*Вясковая драма ў 5 дзеях*

АСОБЫ:

Я н к а  К а н ц а в ы — гаспадарскі сын.
М а ц і  яго — ўдава.
К а р у с я — дачка яе, сястра Янкі.
Я з э п к а — малы брацік Янкі.
Ф р а н у к — прыяцель Янкі.
Я з э п — вясковы гаспадар.
Ю р а с ь — яго сын.
Б э р к а — вясковы жыд.
М і х а с і х а — старая бабуля.
Р а з а л ь к а — яе ўнучка.

ДЗЕЯ I

Я н к а — Я з э п к а — і х  м а т к а — К а р у с я — Ф р а н у к.

Звычайная беларуская хатка. Абраз адзін-другі на сцяне. Пры стале Янка з газетай у руках. Далей — Каруся з кудзеляй. На зэдліку маці з прасніцай. Пры ёй малы Язэпка з лемантаром. Маці паказвае яму ціха літары. Пара вячорная.

## З’ява 1

Я н к а (*чытае з газеты*). «Каб пачалі мы болей думаць аб жыцці сваім, пакінулі благія наровы, узяліся шчыра за работу, хутка б сталі на роўныя ногі — асветы і дабрабыту. Найгорш шкодны нам наша адсталасць і гультайства, што баіцца зрабіць сабе прымус на дарозе да лепшай долі»…

Я з э п к а (*голасна*). Бэ-а-ба, бэ-э-бэ, бэ-і-бі, бэ-о-бо.

Я н к а. Цішэй, Язэпка! Не замінай мне! (*Чытае далей.*) «Праўда мы любім новае, кідаем старое. Але часта робім гэта без развагі. Прымаем ахвотна тое, без чаго абышліся б шчасліва; кідаем тое, за што пашлюць нам праклён нашыя ўнукі»…

Я з э п к а (*ізноў*). Эм-а-ма, эм-э-мэ, эм-і-мі…

Я н к а (*гнеўна*). О, шалунька! Бачыце яго? Успакой жа, мамачка, свайго чытальніка!

М а ц і. Ціха, ціха! Нястройна быць назойлівым.

К а р у с я. Э, бо ўжо до гэтага чытання і наракання. Раскажы лепей, мама, як даўней людцы жылі. А ты адкажы, Янка, чаму так людзі наракаюць на лёс свой, калі самі вінаваты.

Я н к а (*задуманы*). Так, так… вінаваты.

М а ц і. Ох, многа змянілася ад часу, як стала я помніць… Дзе дзеліся паны? Дзе тыя людцы забітыя-гаротныя, што не зналі нічагусенькі, ніякай людскасці!..

Я н к а (*цвёрда*). І што ж, мама! Даўней людзі былі бяднейшыя, цямнейшыя; але ж не былі такія, як цяпер, малпы!

М а ц і. Чаму малпы? Што ты, Янка, кажаш?..

Я н к а. А тое, што цяпер нашы жывуць чужым розумам і то розумам хворым. Лішне ўжо пачалі ўзірацца на чужое: і ў адзежы, і ў мове, а грош трудавы марнаваць на кепства. Эт, малпы-крывулі!..

М а ц і. А мо і праўда, Яначка! Даўней людзі былі бедны і забіты, але не чураліся так свайго роднага абычаю, свае мовы, мілай прастаты, а нават адзежы хатняй. Часцей-гусцей чутны былі нашы песні, віданы нашы вопраткі; цяпер родная песня заціхае, чужынец абкрадае бедных людцоў нават з песні…

К а р у с я (*пяе ціха песню, пасля памагае ёй маці, у канцы Янка*). Відзіш, мама: помнім, любім яшчэ нашы песні.

М а ц і. Адна ж ты толькі і пяеш іх з сваёй Разалькай. Іншым дзяўчатам няміла ўжо родная песня.

Я н к а. Гэта яшчэ нішто, мама. Найгорай, што цяпер ледзь не ўсе сябры мае цягнуць з іншай злыбядой заграпічнай і п'янства, закарэлае, хамскае п'янства… Я неяк іначай узгадаваўся: дзякую маме (*цалуе*). Праўда, раз я правініўся, наругаючыся Богу, але мамачка так мяне настрашыла нябожчыкам бацькам, што ад таго разу я ўжо ніколі не забываюся.

К а р у с я. Мамачка, раскажы нам, як гэта наш тата памёр, і чаму мама вечна па ім плача, ўспамінаючы?

М а ц і. Цяжка мне, дзіцятка, аб гэтым гаварыць… Пакараў мяне, можа, Бог за сляпое каханне. Муж-нябожчык яшчэ дзецюком меў цягу да гэнага благога зелля: не раз, бывала, здаралася, што дзе прагуляўся, а то і пабіўся з таварышамі. Але гэты-то чалавек упаў мне горача ў вока, а яшчэ глыбей у сэрца. Прысягнуў мне перад святым крыжам, што па шлюбе ніколі ўжо піць не будзе. І паслухаў, бо смелы быў і не зважаў на тое, што людзі скажуць. Але после… Меў ужо такую дрэнную натуру і застарэлы навык: зацягнуўся ізноў. Павольна стаў і з хаты браць тое-сёе і насіць да Бэркі. Я плакала і прасіла яго. Як быў цвярозы — абяцаў, што болей не будзе, а, сышоўшыся з сябрамі, — піў дужа. (*Папраўляе калаўрот.*)

К а р у с я. Ох, гэтыя сябры!

Я н к а. То ж кажуць: хто з кім задаецца, такі й сам астаецца.

М а ц і. Аж трэба: няшчасце ўдарыла ў нас громам. Малыя вы тады яшчэ, дзеткі, былі. Муж паехаў прадаць збожжа ў мястэчка. Было гэта зімой. Прыйшоў вечар. Стала цямнець, а яго няма. Сядзела я доўга і дарэмна чакала. Было холадна, марозна. На дварэ — светла ад месяца. Мароз трашчаў па плоце. І віджу, што ў падвора ўехалі сані. Я выбегла спатыкаць мужа. Конь спакойна стаяў пры ганку. Гаспадар ляжаў у санёх. Думала, што п’яны. Узяла за руку і… адскочыла з жахам. Рука была, як лёд. Пры святле месяца я ўбачыла, што твар мужа быў, як палатно, белы. Без памяці бегла я да суседзяў… Горкае гора было…

## З’ява 2

Ф р а н у к (*уваходзіць*). Пахвалёны Хрыстус!

У с е. Навекі. Амэн.

Я н к а (*спатыкаючы Франука*). Хадзі, брат, бліжэй. Чакалі. Пагаворым. (*Садзіць між сабой і Карусяй.*)

К а р у с я. Даўно ўжо ў нас быў, Франучок. Пэўна, з якой добрай навіной.

М а ц і. Лёгка згадаць, дзеткі. Сёння ж субота. Пэўна, на вечарыну зваць будзе.

Ф р а н у к. Цётка ўгадала. Будзе-будзе, і яшчэ якая! Прыйшоў намовіць Янку з Карусяй.

Я н к а. Ну, я адразу даю згоду… Толькі… што я там буду рабіць?

Ф р а н у к. Знойдзем, знойдзем што рабіць! Не раздумвайся…

М а ц і (*сумна*). Лепей ты, Яначка, не ідзі, бо хлапцы на цябе даўно ўжо коса глядзяць і нездаволены — як я чула, — што ты неякі іншы, нялюдскі: Бог ведае, да чаго намаўляеш і дразніш іх толькі.

Я н к а. Не, мама. Дазволь мне пайсці. Чую сёння асаблівую ахвоту.

М а ц і. Ну, добра. Але Каруся астанецца, бо адной мне з Язэпкам вельмі нудна.

К а р у с я. Я, мамачка, і не думаю ісці. Нашы гульні цяпер рэдка калі абходзяцца без гарэлкі і крыўды. Пэўна, і сёння так будзе. (*Бярэ ад Маткі калаўрот*.)

Я з э п к а (*праціраючы вочы*). Мама, а я пайду такі!

М а ц і. Табе, дзіцятка, пара ўжо ісці спаць: во і вочкі твае ліпнуць.

Ф р а н у к (*устаючы*). Калі ісці, так ісці! Цётка хоча, каб Каруся асталася: няхай так будзе, хоць чаму ж бы і не пайсці. Ідзем, Янка! Там музыка даўно рэжа.

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ II

Ф р а н у к — Ю р а с ь — Я н к а — Р а з а л ь к а — м о л а д з ь.

Вясковая вечарынка. Музыка. Кругом маладзеж. За сталом старшыя гуляюць у карты. Танцы. Чуваць прыпеўкі. Янка стаіць сумны, злажыўшы рукі накрыж. Глядзіць няўважна на танец.

### З’ява 1

Ф р а н у к (*скончыўшы танец*). Гэй, хлопцы! Годзе! Дайце польценьку!..

Ю р а с ь. Ды што полька! Тут трэба аб чым лепшым падумаць…

Д р у г і   х л о п е ц. Што і думаць!..

Ю р а с ь. З носа па грошу! Давайце, хлопцы, на гарэлку… Байчэй і ахватней пойдзе гульня.

Р а з а л ь к а. Ну, во ізноў гарэлка! Абыдземся! Нашто яна?

Ю р а с ь. Ведама ты, Разалька, курыныя грудзі! (*Смех.*) Не хочаш гарэлкі? Ну, дык давайце на піва!

Я н к а. Хлопцы! Мне здаецца, што найлепей пагуляць цяпер гэту польку, пасля я прачытаю нешта вельмі цікаўнае з газеты, — затым махнём нашу родную мяцеліцу, ну, і ўжо будзе пара…

Д з я ў ч а т ы. Праўда, праўда! Так і зробім.

А д з і н з-з а с т а л а (*з паднятай картай*). Слухайце вы толькі бабаў!

А д з і н з х л а п ц о ў. Во знайшоўся газетнік! Што тут табе — школа ці царква, каб мы твае навукі слухалі?!

Ю р а с ь (*збірае грошы ў шапку і шэпчацца з кожным*). Пайшоў бы лепей спаць з сваёй мудрасцяй!..

Я н к а (*безнадзейна*). Вось вы зразу, хлопцы, і ўселі на мяне. Я ж толькі стаўлю такі праект! Пагулялі б стройна, даведаліся б, што чуваць на свеце — і гэта нам дало б карысці больш, чым гарэлка. Што мы замнога маем грошай ці замала патрэб, каб траціцца на гэнае зелле благое?

Ю р а с ь (*канчыўшы збор*). Га! Што чуваць на свеце? А во што: Бэрка прывёз з места добрага піва і харошай гарэліцы. Дык, каб тут не цацкацца, ідзём хутчэй да яго даведацца што чуваць…

Крыкі: «Гарой, Юрась, гарой!» Смехі. Некаторыя з-за стала сунуліся да дзвярэй за Юрасём.

Ф р а н у к. Пастойце, пастойце! Я маю новы праект!

Г о л а с з-з а д з в я р э й. Бывай здароў з сваім праектам.

Расходзяцца.

Ф р а н у к (*на старану*). Пайду за імі. Хто там іх патрапіць адвесці ад блазноты!.. (*Выходзіць за Разалькай, каторая сумна паглядае на Янку, уздыхаючы.*)

## З’ява 2

Я н к а (*адзін; ходзіць нервова, пасля сядае*). Божа! Во людзі, во людское жыццё!.. Поціцца чалавек гаротна, гаруе на крывавы грош аж да змадзення — а после: прапівае ўсё; лёгкадушна, без дай прычыны. А ў хаце цёмна, няхват найпатрабнейшага; а ў галаве так пуста, няма жывога святла навукі… І гэты чалавек

мае быць грамадзянінам… Што пойме ён, што зразумее!.. І хоча ён быць багатым. (*Смяецца злосна, ходзіць неспакойна.*) А гэты ж чалавек мае душу, душу, мабыць, неўмірушчую, здольную да шчасця вечнага, жыцця неабнятага. Розум яго здолен парушаць шыбкія машыны, мераць бесканечнасць… І ці ж ён не здолен любіць праўду каханнем гарачым? Не можаць жа ён стаць чалавекам вольным, адкрытым на высокую творчасць… Эх, не сілен ён здзяржаць сябе, неўмагату яму барацьба святла з цемрай. (*Садзіцца, успіраецца на локцях, сціскае голаў.*) Божа! Божа! Мне так сумна, так неяк душна! Што мне да іх? Маю многа працы з самім сабой. Можа, лезу не ў сваё. Няхай бы ішлі «следам за дзедам». Хай бы не выглядалі з падворка адсталасці… І скуль у мяне пэўнасць праўды?! (*З сілай.*) Не! Пакінуць іх не магу! Аддацца толькі сабе і сваім было б здрадай Богу і сумленню… Ніколі!.. Але чаму яны мяне не любяць? Асабліва гэты Юрась. Ненавідзіць проста. А мо я і сам вінаваты, мо няздольны? Не! Мусіць гэты адпор толькі да пары. Трэба якога сільнага ўражання на іх; трэба, каб іх страсло, каб страпянула іх сэрцы і душы… Я ж, апроч словаў, нічога больш не знаю, не ўмею… Паправіў, праўда, гаспадарку, гледзячы на разумнейшых і чытаючы пільна, але прыкладам для іх не стаў: пальцам не кранулі адны, а другія зайздруюць… Працу сваю цяжкую заносяць Бэрку на гарэлку і дзіва, што бедныя. Смяюцца з мяне, што чытаю, развіваюся: «На мудрага захварэў!» А я працую з мыслямі гарачымі, думкамі летуцення аб роднай Бацькаўшчыне — і ім гэта хацеў бы перадаць. Не паддаюцца… Ці грунт благі, ці сейбіт няўдалы? (*Думае.*) Але, каб што збудаваць, трэба ахвяры. Будыніна, да каторай я кладу сваю цэглу, мае быць вялікая. Вялізарных, значыцца, трэба і ахвяраў. Можа, і з мяне трэба… Я яе палажыць гатоў! Па мне прыйдуць другія… І адновім нашу Родную — Мілую — Харошую — Скрыўджаную… Такую светлую, высокую… аж да зор паднябесных. (*З летуценнем.*)

Дзе душы бацькоў нашых іскрамі свецяць,
І праўда пануе у згодзе з жыццём;
І дух мой, і сэрца стралой туды мецяць.
Палаць Ідэалу адвечным агнём….

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ III

Я з э п — Я н к а — Ю р а с ь — Б э р к а.

Хата Юрасёвых бацькоў. Позна. У хаце ложак. На ім спіць мужчына — ужо старावаты. Пры сцяне шафа. Услончык. Стол. Лямпа.

### З'ява 1

Я з э п (*чухаецца і пазяхае*). Га, трохі, стары падла, добра той казаў, здрамнуў. Гэта ж ужо і позна. Ляжы тут адзін, стары падла. Баба не вярнулася яшчэ з талакі ад суседа. (*Устае.*) Сын недзе бадзяецца. Пэўне, у Бэркі, падлец. Які бацька, такі і сын — а мо яшчэ і горшы. Любіць гарэлку, а да працы невялікі ахвотнік. Эх, гарэлка, гарэлка! Ухадзіла яна маладога калісьці Янкавага бацьку… Добрага чалавека… Есці, падла, хочацца. (*Ідзе да шафы. Дастае пустую бутэльку.*) Пустая, падла! (*Дастае другую.*) Га, тут чарачка, не больш! (*П'е, смакуючы, моршчыцца, хавае бутэльку, закусвае крышкаю хлеба.*) Але ж няма доўга і яго. Што ж тут рабіць? Спаць не хочацца. (*Сумняваецца. Дастае з-пад пояса люльку, красіць агонь*.) Ісці ці не ісці? (*Варожыць на пальцах.)* Ісці — не ісці; ісці — не ісці. Ну, значыць, трэба ісці. Ён, пэўна, у Бэркі. Праганю дахаты. Найгорш з гэтымі дзяцьмі!.. Ад гарэлкі не адвучыш! (*Выходзіць.*)

### З'ява 2

Хвіліну хата пустуе. Уваходзіць Я н к а.

Я н к а (*адзін*). Нікога няма… Не ў добры час прыйшоў. Трэба чакаць. Позна: павінен зара надысці. Так хацелася б з ім шчыра пагаварыць. Няўжо ён такі задорны, няўжо ніколі са мной не сыдзецца? А шкада Юрася. Хлопцы ідуць за ім, як за правадыром. Не цэніць гэтага. Прыгадаў толькі хадзіць да Бэркі ды зводзіць дзяўчат. Дзіўная натура, а мілая — міма такіх заган, каторых не адробіш. Трудна мне. Заўтра выпадае фэст і кірмаш у мястэчку. Будзе п'янства… А мы ж разам з ім гадаваліся. Меў нейкі іншы склад: уважнейшы і глыбейшы. Вучыцца прабаваў і памяць меў… Дарогі нашы, аднак, разышліся. Я біўся з сваім невуцтвам — ён блутаўся ўсюды, усё чагось шукаючы: мо самога сябе…

Але цяжка мне нешта сягоння. З’ядае жуда нейкая. Сэрца нешта благое прарочыць… І не толькі сягоння… (*Чуваць стук.*) О, ідзе ўжо, мусіць.

Дзверы шырока адчыняюцца, упадае, добра падпіўшы, Ю р а с ь.

## З’ява 3

Я н к а (*у старану*). Нічога не будзе: ён моцна выпіўшы…

Ю р а с ь (*ідзе няроўным шагам і застанаўліваецца, убачыўшы Янку*). А, ты, Янка, тутака! Можа, і з газетай… Ха, ха!

Я н к а (*з сумам*). Юрась, Юрась! Што ты з сабой вырабляеш! Губіш моладасць, браце! Ох!

Ю р а с ь (*слязліва*). Даруй, брацятка, сягоння трохі падпіў. Калі ведаеш, дальбог не магу. На мяне і Разалька сварылася… Які я п’яніца? Яна так кажа, бо мяне не любіць… Затое ад цябе дык месца не мае… А ты, Янка, любіш яе? Ну, скажы праўду, скажы… бо я на цябе зазлуюся!..

Я н к а. Люблю ці не люблю — я аб жонцы не маю часу думаць. Кінь піць, Юрась, дык, можа, знойдзеш ласку ў Разалькі…

Ю р а с ь. «Ён не думае»… «Знойдзеш ласку»… Кепства! Яна за табой прападае… А я згінуў… І то праз цябе: ты тут віной…

Я н к а. Не кажы гэтак, Юрась! Сэрцу ніхто прыказаць не можа…

Ю р а с ь (*глуха*). «Сэрцу ніхто прыказаць не можа»!.. Так ты яе любіш! А, прызнаўся, махляр!

Я н к а. Пакінем лепей, Юрась, Разальку…

Ю р а с ь. Што, пакінем?! (*Моцна і злосна.*) А, злавіўся, махляр!..

Я н к а. Я не махляр, Юрась! Я табе ніколі-ніколі не лгаў. Уцям, браце, што я тут нічагуткі не вінаваты… Паслухай, Юрась: я да цябе маю просьбу!..

Ю р а с ь. Ну, слухаю.

Я н к а. Відзіш, Юрась, заўтра фэст і гульня ў мястэчку. Табе вялікая спакуса, ведаеш. Дык калі ты хочаш быць мілым Разальцы, не глянь заўтра ў чарку.

Ю р а с ь (*гнеўна*). Ідзі ты ад мяне ў балота! Я ніколі ёй мілым не буду! Не хачу я твае намовы ні адмовы… Кінь гарэлку, кінь

гарэлку: адна песня! А бадай цябе гаручка! Ці ж я ўжо апошні п'яніца, што ты мне ўсё толькі аб гарэлцы правіш…

Я н к а (*лагодна*). Во яна адна, Юрась, цябе згубіць можа.

Ю р а с ь. Згубіць? Няхай губіць! (*Моцна.*) А ты ўбірайся прэч!..

Я н к а (*адходзячы*). Апомніся, Юрась!

Ю р а с ь (*мяркуючыся*). Апомніся, апомніся! Дай мне Разальку, дык апомнюся… Не! Відаць, яна мне не суджана… Ён усіліў яе сэрца… Сягоння, спаткаўшы мяне, кажа: «Ты, Юрась, ізноў п'яны!» А я ёй: «Выпіў, — кажу, — на злосць Янку!» Нічога не адказала. Толькі апусціла вочкі… А была ў гэту мінуту такая харошая, як анёл божы. Гледзячы на яе, збрыдзіў я сабе ўсе дзяўчаты… Не, мусіць мне там не месца… Яму яна раўня… Але чаму не я, чым жа ён лепшы?.. (*Задумліва.*) Што ж я зраблю, калі яна яго любіць… Ах, злосць мяне абдымае пры мыслі аб ім… Так, здаецца, даў бы… «Не пі заўтра! Не пі!» От жа нап'юся. І дам табе яшчэ за навукі… Або другіх падмоўлю… дзеруноўскіх хлопцаў… паслухаюць… А каб ты скіс: заўсёды мне прымерам служыць хоча. (*Падыходзіць да шафы, шукаючы гарэлкі.*). Вылахтаў, стары падла! (*Ідзе да стала. Задумваецца. Пасля п'янавата пяе.*)

А у лесе на ляшчыне
Калыхала дзеўка сына;
Калыхала і плакала:
«А чаго ж я, маладзенька, дачакала».

Ах, Разалька, Разалька! Каб ты ведала, як глыбока запала ў маё сэрца… Каб ты ведала!.. І так яно баліць мне бязмерна… Ах, і піць я дзеля таго мушу. (*Апірае галаву на далоні, локцямі на стале. Уздыхае безнадзейна.*) Разалька, Разалька!

## З'ява 4

Уваходзіць Б э р к а і збліжаецца нясмела.

Ю р а с ь (*убачыўшы яго, кажа незадаволена ў старану*). Патрэбны тут, скула!

Б э р к а (*з хітрым уніжэннем*). Вечар добры пану! Ай, пан адзін! Ужо ж бацькі няма ў мяне: пайшоў да бабы. Чаго ж пан Юр так рана ўцёк дахаты? Ну, а што тут рабіў у пана Янка

Канцавы? Спаткаў я яго вельмі гнеўнага на пана. Мусіць, вы яго выправілі?..

Ю р а с ь. Прынёс гарэлкі?!

Б э р к а. Ну, чаму не прынёс?.. Я заўсёды маю з сабой трошкі. Божа барані, хвароба якая ці прыпадак: зара і лякарства. (*Падае Юрасю бутэльку. Той цалуе яе і раптам кідае аб зямлю.*) Праклятая атрута! (*Бутэлька разбіваецца.*)

Б э р к а (*перапуджаны, крычыць*). Ай-вай, што, пан, робіш. Гэта каштуе!

Ю р а с ь. Ідзі прэч, Бэрка, бо я злы!

Б э р к а. Ну, я пайшоў. Каб не злосць, то я сказаў бы яшчэ два словы… Чаму гэта сёння дзяўчаты не прыйшлі з вамі да мяне? Ай-ай! Гэты Янка зара збунтуе ўсю вёску! Спаткаўшы яго, кажу: «Вечар добры пану Яну!» А ён: «Будзь, — кажа, — здароў! Калі не кінеш ашуканства, то выкурым цябе з вёскі!» Ну, каго я ашукаў? Каму я што благое зрабіў? Ай гэты Янка! Гэта ж я чуў, што ён вёску на хутары намаўляе дзяліць. А ўжо хто-ніхто яму патакуе. Асабліва гэта яго любая Разалька.

Ю р а с ь. Разалькі ты не чапай, смала, чуеш?

Б э р к а. Ну, ну! А што ж тады будзе, калі яго паслухаюць? З торбамі тады ісці і мне, і людзям! Ой, дрэнна вы, хлопцы, робіце, што слухаеце яго!

Ю р а с ь. Хто яго слухае ? Не такія мы дурні, як ты думаеш!

Б э р к а. Ну, дык чаму ён вамі камандуе? Чаму вы яго не павучыце, як летась Адася, каторы думаў, што ён разумнейшы за ўсіх?!.

Ю р а с ь. Да пары збан ваду носіць. Павучым яго, калі будзе трэба, павучым і цябе, калі жыць будзеш абманам і лезці не ў сваё…

Б э р к а (*з хітрым смехам*). Ну, я пана Юра ніколі не зманіў ані зманю. Завялікі яго розум, каб даўся зманіць… Ай-вай! Ужо поўнач! Добрай ночы пану!..

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ IV

К а р у с я — Р а з а л ь к а — М і х а с і х а — д з е ц і — Ф р а н у к.

У хаце Янкі. Нядзеля. Каруся па-святочнаму. Разглядае кніжку і абразочкі. Папраўляецца пры люстры.

### З’ява 1

К а р у с я (*адна*). Вось хараша неяк на свеце і ясна, і светла, а разам і сумна чагосьці. Казаў бы, жыццё — то ігра цемры і святла, радасці і журбы, шчасця і нядолі… Але, прыгожа сёння было. Як я люблю вялікія святочныя дні! Як хор пяяў стройна. Здавалася, што дух нашых сялянцаў узнёсся ўзвыш, забываючы сумныя будні. Адчуваецца іншае якоесь жыццё… Змяняюся сама: сільнейшая воля, жывей б’ецца сэрца. (*Глядзіць праз вакно*.) Але ж пара ўжо і маме вярнуцца. Пэўна, Янкі чакае, каб ісці разам. Ён заўсёды мае шмат інтарэсаў. То газетку ўзяць, то пагаманіць з старшымі, то з маладзежай пагутарыць… Толькі ён цяпер такі дзіўны стаў і нямоўны. Разалька глядзіць на яго з трывогай. Але ўжо такая яго натура: тут вясёлы, тут сумны. Асабліва грызецца тады, калі высмейваюць яго добрыя намеры… Не такі мой Франук. Зусім іншы…

Р а з а л ь к а (*за вакном*). Каруся! Франук кланяецца!

К а р у с я. Дзе ж ён? Дзякую, які міленькі!

Р а з а л ь к а. Зара раскажу, а ці міленькі ён, гэта ўжо твая бяда.

К а р у с я (*да сябе*). Ведама, бяда: спаць ад думкаў не магу.

### З’ява 2

Р а з а л ь к а (*уваходзячы*). Хлопцы з дзяўчатамі збіраюцца на вечарыну. Але шмат ужо п’яных. Абрыдлі: я ўцякла.

К а р у с я. А дзе Янка з мамаю?

Р а з а л ь к а. Янка пайшоў з сваімі газетамі да хлапцоў. А Франук маніўся з мамаю тваёй ісці дахаты. Казаў толькі перадаць табе паклон.

К а р у с я. Дзякую! Добры Франук! (*Абымае Разальку*.) Прызнайся, Разалька: які ён табе, гэты… гэты… ну, словам Франук?

Р а з а л ь к а. О, гэтага табе я не скажу. Ведай толькі, што няма ў свеце харашэйшага і лепшага за вашага Янку…

К а р у с я. Калі ты не скажаш, дык я скажу: ён страйнейшы, а наш Янка трохі разумнейшы. Добра?

Р а з а л ь к а. Можам яшчэ спорыць. (*Чуваць стук.*) Але там у сенцах хтосьціка стукаецца. Спаткай ідзі госця!

## З'ява 3

Уваходзіць М і х а с і х а. За ёю некалькі дзяцей. Між імі Я з э п к а.

М і х а с і х а. Дзень добры вам, дзеванькі! Пахвалёны Езус! Слава Хрыставі! Во прывяла вам дзецюкоў. Не даюць старой супакою. Кажы ім усё байкі.

К а р у с я. Садзіся, бабулька, калі ласка, госцяй будзеш.

М і х а с і х а (*сядае, цяжка ўздыхаючы, каля яе дзеці*). Ох, добрая госця! Не такіх вам ужо трэба, дзеванькі. Ох, старасць, старасць… (*Апушчае голаў.*) Сон жыццё… мара злудная. Даўно ж і я такой была, як вы… Не ідзіце, дзеванькі, замуж, не ідзіце! Не дайце кветачцы рана завянуць; прападзе бо вашае хараство, замоўкнуць песні, прыхіліць вас гора да зямелькі…

Р а з а л ь к а. А-ей! Бабулька сёння нешта зразу не тое. Малюе нам страшную будучыну. Дзеткі! Прасіце, маліце бабулю, каб баяла нам байкі.

Д з е ц і. Бабуля, бабуля! Кажы байкі, кажы!

М і х а с і х а. Старая я ўжо і на байкі. Памяць цёмная. Але аб чым жа вам казаць? Ці казала ж я вам калі аб купальскай кветцы?

Д з е ц і. Не, не!

М і х а с і х а. Ну дык паслухайце. Жыў-быў адзін стройны і разумны дзяцюк, Стафусь. І палюбілася яму харошая дзяўчынка на імя Мальвіна. Была яна і прыгожая, і багатая, але не хацела ісці замуж за Стафуся, пакуль не прынясе ён ёй купальскай кветкі.

Я з э п к а. А што гэта, бабуля, купальская кветка?

М і х а с і х а. Чакайце, дзеткі! Пільна вучыцеся, дык шмат после даведаецеся з вучоных кніг аб гэтай кветцы. Ці відзелі вы, дзеткі, квет папараці?

Д з е ц і. Не, не!

Некаторыя за Язэпкам сядаюць на зямлю.

М і х а с і х а. Ну, дык ведайце, што папараць заквітае толькі апоўначы на свята Купалле, у найцямнейшым лесе, найдалей ад людскога вока. І хто гэты кветак знайдзе, той шчасце знайдзе.

Вось гэнае дзяўчо ведала, што шчасце на свеце рэдка, а больш гора і крыўды, — і дзеля таго пасылала Стафуся па краску, каб прад няшчасцем забяспечыць сябе. А ведайце, дзеткі, што гэты квет папараці на Купалле бароняць розныя страхі і духі. Дык трэба было вялікай адвагі Стафуся, каб пайсці ў лес, уночы, шукаць гэнай краскі. (*Ажыўляецца.*) Ішоў ён, ішоў, аж так сцямнела, што хоць вока выкалі. Узбіваўся ён на кусты, калечыў сабе твар, блутаўся ў нейкай траве, дзёр вопратку на хмызнякох — і ўсё ішоў.

Лес зашумеў, загудзеў, як бы вялікія віхры ў ім загулялі і загукалі. Кусты зачалі хіляцца, дрэвы з трэскам ламацца, казаў бы, мелі ўпасці на галаву Стафусю. Яму валасы на галаве сталі і ледзь ён перажагнаўся. Але прыпомніў казкі старых людзей, што калі хто, шукаючы кветкі, спужаецца моцна, то не знайдзе яе ён. Атросся тады ад страху Стафусь і пайшоў далей… І стала так ціха, як у мядзведжым вушку. Праз галіны дрэў заблішчэла нешта яснае. Дагадаўся Стафусь, што гэта, пэўна, кветка купальская. Кінуў ён вокам на зямлю, аж тут віюцца страшэнныя гадзіны… Не страціў, аднак, адвагі — не прысеў, не прыстаў: ішоў смела наўперад. Бачыць ён: ужо святло штораз бліжэй і бліжэй; а страхаў усё штораз болей і болей. Жабы на дзвюх нагах, яшчаркі з рагамі, калодкі дрэва з бычачай галавой, куры на адной ножцы, пеўні з дзюбамі, як труба. Усё гэта круціцца, верціцца і крычыць голасам страшным, паказваючы на Стафуся: «Злавіўся, злавіўся!» Стафусю дух забіла… Затуліў вушы, прыжмурыў вочы і ішоў уперад. І пачуў ён, што ўжо блізка кветка. Вот-вот ужо яна блішчыць і гарыць цуднымі агнямі. Ужо Стафусь нахіліўся, каб яе сарваць… Калі раптам, кінуўшы вокам на старану, убачыў ён крывавую галаву свае Мальвіны. Тут Стафусь не вытрымаў. Як сноп, паваліўся ён і самлеў… Няведама, як доўга ён ляжаў. Толькі як падняўся, відзіць, што ўжо дзень, а ён у лесе адзін. Прыпомніў ён тутака ўсё, і пры мыслі аб Мальвіне кроў застыла ў ягоных жылах. Пусціўся ён ляцець дахаты і, прыбегшы, знайшоў Мальвіну… жывую, здаровую, чакаючы купальскай кветкі. Тут ён і расказаў ёй усё ад пачатку, чаму кветкі не прынёс і чаго спужаўся. Калі Мальвіна даведалася, ад якога страху Стафусь не вытрываў, пазнала, як ён шчыра яе любіў, ну і зара пайшла за яго замуж, думаючы, што калі з ім не будзе шчасця, то, пэўна, яго зусім няма на свеце. На іх вяселлі і я была, віно і мёд піла: па барадзе сцякло, у вуснах не было.

Д з е ц і. Дзякуй бабулі, дзякуй! От жа харошая байка! Ай-я-яй! Яшчэ адну, яшчэ!

М і х а с і х а. Чакайце, чакайце! Дайце ж адпачыць! Прыпомню…

Чуваць скорыя шагі. Убягае Ф р а н у к. Без шапкі, з перавязанай галавой. Зменены. Усе ў хаце падымаюцца з месцаў сваіх ад дзіва і страху.

## З’ява 4

Ф р а н у к (*перапуджаным голасам*). О, Божа! Не пужайцеся!.. І не трацьце галоў! З Янкам няшчасце! Збіты ў мястэчку… ледзь не да смерці… Вязуць без памяці дамоў.

Міхасіха ў нямым жалі складае рукі як да малітвы. Разалька заліваецца слязьмі.

Дзеруноўскія хлапцы збілі яго. Ах, Юрась, Юрась!

К а р у с я (*як бы не разумее*). Франук, Франук! Што ты сказаў? Як жа гэта можа быць!..

Ф р а н у к. Боская і людская воля, а можа, і чартоўская! Забілі!

Р а з а л ь к а (*закрываючы твар*). Сэрца чула маё… О, мілы Янка! Чаму ж вы яго не адбаранілі?!

Ф р а н у к (*паказваючы на голаў*). Во і мне дасталася… Бяжэма спатыкаць!

Усе выбягаюць за Франуком.

М і х а с і х а (*выціраючы вочы, выходзіць за імі*). Боская воля ці чартоўская: страшна, страшна!

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ V

Р а з а л ь к а — М і х а с і х а — Б э р к а — Ю р а с ь.

Хата Міхасіхі: убогая, але чыстая. Прытуліўшыся да акна, сціснуўшы голаў, стаіць сумная Разалька.

### З’ява 1

Р а з а л ь к а (*адна ў знемажэнні*). Не, не вытрымаю! Баліць мне галава, мучыцца сэрца… Ён забіты… ахвярай няведама за што… Ён найхарашэйшы, наймілейшы мне з вока і душы… Чую, што з ім пайшло ў магілу маё шчасце. Матачка Божая, ратуй мяне!.. Я сёння не мела ані сілы, ані адвагі ісці аддаць яму апошні цалунак… Яго ўжо няма, толькі страшны труп… З усяго хараства труп… Завялая краска… Ах, баюся людзей і самой сябе. Людзі абсмяюць любоў маю… Неўмагату ж мне гора такое… Не маю сілы ісці на хаўтуры… Даруй мне, мілы, з таго свету.

Чуваць за акном спевы.

Ідуць ужо, ідуць… Ох, нясуць ягоны труп! (*Слухае песні.*)

### Песня

Пусці, о Божа, з зямелькі гаротнай
Служку спакою, служку Тваёй волі;
До мне пакуты, мізэрнай-маркотнай,
І ласк пацехі нябескай патолі.

Відзела вока ўсенька на свеце:
Ад злой аблуды да шчырай экстазы,
Хітрай пасоры з пыхаю на мэце,
Пекла бяздонне й боскія оазы.

Што прыгатовіў Огляд Усямоцны
І што разрушыў слуга Арымана;
І збудаваў што воляй адзіночны
Дух чалавечы, і што дух шатана.

Святло бліснула прад маёй душою,
Як зорка неба, цуду аб’яўленне:

Даволі будня — жыць хачу з Табою,
Пусці, о Божа, дай душы збаўленне!

(*Задуменна.*) Ах, песня аб раі і Божай справядлівасці… Веру-веру, што не марнуецца нішто на свеце: і дабро, і зло мае свой водгук аж у небе… Янка, Янка, Янка! Куды гэта ўсё змярае? Які канец болю жыццёвага, і ці ж варта жыць, каб гэтакі скон меці? Ты казаў раз, помню: «Смерць — гэта новыя ўродзіны да новага быту»… Якія ж сумныя ўродзіны… Як цяжка мне іх перажыць!

## З’ява 2

М і х а с і х а (*уваходзіць, гаворыць з адчуццём і верай таемнай*). Ты тут, дачушка ? Чаму ж не пайшла на хаўтуры Янкі нешчаслівага?

Р а з а л ь к а (*смутна*). Не называй, ваша, яго нешчаслівым. Ён мо і шчаслівейшы, толькі нам без яго шчасця няма. Прапала яно, як тая Стафусёва кветка купальская. Божа ж мой міленькі, як гэна казка бабулі выйшла на праўданьку вялікую!

М і х а с і х а (*садзіцца, охаючы*). Вось паслухай, Разалька, другую… У тым часе, калі хадзіў па зямлі Бог, у гародзе адным, між розных траваў і зелля, расла стройная краска-кветка. Яна толькі што распусціла расткі, толькі што пачула ў сабе маладую сілу. Вітала радасна ўсход сонца, з роскашай піла яго залатыя касулі. Ад святла і сонца стала яна багатай у хараство і сілу. Углыбілася моцна ў зямельку родную і пусціла дужа многа расткоў. Травы і зелле ёй зайздравалі, абвівалі вокал сваімі брыдамі сплётаў, глушылі яе. Але не маглі ўняць ёй стройнасці і сілы…

Аж поўзаў раз брыдкі вужак між расцінкаў кволых. І стала яму вельмі завідна, што краска ўзрасла ў сілу вялікую і хараство небывалае. Затруціў дзеля гэтага адну крыніцу вужачай слінай сваёй і скусіў у сне благога чалавека, каб паліў ёю гэну краску. І паліў той нядобры чалавек краску, і ссохла яна жаласліва. Пад тую пару ішоў блізка Бог каля затручанай крыніцы і, убачыўшы штучку злога духа, прakляў гэну нячыстую ваду. А людзі, хворыя душой, пачулі да яе смагу і назвалі яе гарэлкай. Калі ж Бог убачыў кветку без жыцця і яе зусім яшчэ кволенькія адросткі, літасціва да іх звярнуўся: «Ажыўляю і багаслаўляю вас, маладыя расткі-лялейкі, і будзьце найстрашнейшым квеццем на зямель-

цы». І згінула тады зелле з гарода. А краску-мучаніцу Бог узяў да сябе на ўлонне святое…

Не плач, Разалька, пэўне, тут боская воля, а не іншая.

## З’ява 3

Б э р к а (*нясмела*). Ны, пахвалёны ў хату! Добры вечар пані Міхасёвай і панне Разальцы!

М і х а с і х а. Бэрка! Ты тут? Рэдкі ты госць у нас: садзіся.

Р а з а л ь к а. Ах, бабулька, я гэтага хітруна баюся. Ён заўсёды ненавідзеў Янку…

Б э р к а (*здалёку*). Ны, Буг мой! Я ненавідзеў?! Гэта няпраўда: я толькі не любіў яго… Ны, я і прыйшоў да пані Міхасіхі толькі прасіць, каб мне даравала, калі што якое. Я выеду ўжо з гэтае вёскі. Такэй бяды не меў нідзе і ніколі. Найгорай заработку ніто… А яшчэ гэта смерць Янкі. Ай-вай! Гэта ж хлапцы-злыдні п’яныя замучылі яго… Ну, а ў мяне ад страху з такэй іх нязбожнасці нейкі шмэльц ззёг на сэрцы… Няхай вас, Міхасіха, і цябе, Разалька, ваш Буг пацешыць… Выбачайце, калі што якое! Ай, які шмэльц на сэрцы!

Выходзіць з рукой на сэрцы. На парозе лоб у лоб збіваецца з Юрасём. Чуваць з аднаго боку: «Ай-вай!» — з другога: «Каб це немач!»

## З’ява 4

Ю р а с ь. Чаго, цётачка, быў тутака гэты махляр? Каб ён сонца не бачыў, колькі праз яго слёз у вёсцы! Гэта ж ён сеяў у нас гэнае зелле-атруту…

Р а з а л ь к а. Не кажы так, Юрась. Хто ж быў найболей дружны з гэтым зеллем, калі неваспан. Жыд яе ніколі вуснамі не чапіў. А Янка ці ж не намаўляў вас да другога зусім… (*Сядзіць, апусціўшы галаву*.)

Ю р а с ь. О, Янка, Янка! Многа я вінен перад ім. Разумны я па пары. Але гэты парх усіх плутаў, каб ён свету не знаў! (*Садзіцца воддаль*.)

М і х а с і х а (*звольна*). Скажы, Юрась: за што дзеруноўскія хлапцы прычапіліся да Янкі?

Ю р а с ь. Цётачка, не магу! Не маю адвагі аб гэтым расказваць. Можа, іншым разам. Скажу толькі, што не адны тут яны ў віне… І Бэрка, і я… а ўсё праз гэту атруту.

М і х а с і х а (*з моцай*). Ой, дзеткі, дзеткі! Старая я: цяжка мне гэту справу ўцяміць. Мусіка, найболей тут вінен гэны злоснік з пекла… Але паслухайце, што я чула ад старшых за сябе. Даўней, як Бог гасціў між людцоў, прывялі раз прад яго Божыя стопы вялікую грэшніцу і хацелі яе каменаваць. Твары ўсіх зіхацелі нядобрым агнём. А дзяўчо пала ў стыдзе і паніжэнні на зямліцу. Тады Бог, звярнуўшыся да людзей, сказаў: «Хто з вас без граху, хай першы ў яе камень кіне». Маўчалі ўсе і звольна разышліся хто куды. Бог звярнуўся тады да грэшнай душы, кажучы: «Ідзі ў супакоі і не грашы болей!» (*Узіраецца ў твар Юрася*.)

Ю р а с ь. Цётухна! Праўданька гэта святая! Хай так і ў нас будзе… Эх, Божа Ты мілы! Дай моц мне ступіць у сляды яго… Разалька! Выбач ты мне, як і ён мне перад смерцяй дараваў… (*Цалуе яе рукі. Міхасіха жагнаецца*.)

З а с л о н а.

# КУПАЛЛЕ

## *Фантазія-містэрыя, снаваная на беларускай міфалогіі*

АСОБЫ:

Д а ж б о г — валадар свету і сонца.
К р а л я  Б е р а г і н я — русалка.
С в а р о ж ы к — волат, сын сонца.
М о к ш а — пані з двара.
С т р ы б о г — пан з усходу.
Р у с а л к і — моладзь.
В о ў, Ч о р т, П е р а п л у т, І л ы — духі Чорнага Бора.
В а л ы н ь — дудар Божы.
Рэч дзеецца на тым і гэтым свеце.

### ДЗЕЯ І

Духі Чорнага Бора пры агнішчы
В о ў, Ч о р т, П е р а п л у т, І л ы, С в а р о ж ы к.

#### З’ява 1

Х о р

З людскіх грахоў мы страву заварым,
Каб Дажбог сам расплутаць не мог,
І вару-атрутай вужачай заправім
І для ежы атруту няверным паставім:
Хай жыве, хай пануе Стрыбог.

В о ў

Пашукаць трэба зелля благога
На ўзгорны ускрылення.

Ч о р т

Душы трэба не зелля: ёй з пакоры вяселля,
А з вяселля трывогі трэба даць да спамогі,
Пасля згіне у вечнай глушы.

П е р а п л у т

Усяго тут патрошку:
Яду з гадзіны крошку,
Зніч-травы дамяшаем,
Яшчуроў-жаб надавім:
На усіх, хто жыве, паглумленне.

Х о р

Глуха-ціха наўкола,
Бор не здрадзіць тайніцы,
Што мы ў гэтай цямніцы
Нагатуем.

І л ы

Гутар лесу шалестам нясецца:
Пэўна весіцца гэны астрожны,
Што бясконца па турмах таўчэцца.

Ч о р т

Або той, што за волю аддаўся,
Каб дзярлі з яго трэцюю скуру,
Наканец у пятлі скалыхаўся…

В о ў

Ха-ха-ха! І нямоцнага муру
Чалом, брат, не разваліш — надарма!
А Сварога свабоды іскрыцца,
Хоць гарыць, праўда, так светазарна,
Людзі кажуць, што ледзь-дзе мігціцца.

П е р а п л у т

Так благое мы сушым і варым,
Даць душам ненавісці, трывог:
Мы для стравы ім будняй паставім,
Каб Дажбог сам расплутаць не мог.

Х о р

Глуха-ціха наўкола,
Бор не здрадзіць тайніцы,
Што мы ў гэтай цямніцы
Нагатуем.

## З’ява 2

С в а р о ж ы к
(*схапіўшы булавешку з агнём*)

Гатуйце, гатуйце! Кажу я вам смела,
Што вашу патраву сажрэце вы самі!
Скажу яшчэ болі: я патраплю умела
Абысці ўжо Стрыбога — і столкі іскрыцаў
Святога агню распаліць на зямліцы,
Што пышным пажарам зруменіцца цела.
Я Кралю Русалку даламі-лясамі
Нясу на прыволле. (*Нікне*.)

Х о р

Ён Кралю Русалку
Нясе на прыволле лясамі-даламі.

В о ў

Ці чулі, браточкі! На ўсход вы зірніце;
Стрыбог ўжо пачуў там яго перахвалку,
Агнём дыша з гневу, скрыгоча зубамі,
Вунь іскрамі сыпле.

Ч о р т

Хутчэй кот з сабакам,
Забыўшы нязгоды, навекі здружыцца,

Як Краля свабодна калісь абручыцца
З Сварожыкам гордым, Валыня адзінакам.

І л ы

Табе немагчыма дабіцца да свету:
Адкрытае ж неба тужліваму цвету.

Ч о р т

Загіне свет, загіне воля!

В о ў

Нам… бо сумнілісь…

П е р а п л у т

Дабром апілісь,
А злом сыцілісь —
Аж Бог даждаўся:
Дух чортам стаўся!

Ч о р т
(*раскідаючы вогнішча*)

Душам трэба не зелля, ім з пакоры вяселля,
А з вяселля трывогі даць трэба,
Каб ледзь што аддыхнулі, йзноу у іл патанулі,
А не даць ім ні хлеба, ні неба.

Х о р

А з вяселля трывогі —
Ох, смяецеся, богі —
А не даць ім ні хлеба, ні неба.

## ДЗЕЯ II

Бераг ракі. Б е р а г і н я  чакае Сварожыка.

### З’ява 1

Б е р а г і н я

Прыйдзі, о мой мілы! Так сумна чакаю
Твайго я з’яўлення. Агнём я палаю
Таемнай любові. Прыйдзі, о мой мілы!
Вунь, зорка на небе ужо засвяціла,
І хмаркі спраўляюць апошнія гулі,
І кветкі-лілейкі даўно ўжо паснулі:
Прыйдзі, мой мілы! Бо сэрцам я чую,
Як пані гатовіць нам бяду немалую.

С в а р о ж ы к  з’яўляецца.

Мой любы, мой мілы! Так сумна чакаю
Твайго я з’яўлення.

С в а р о ж ы к

Агнём я палаю…
О, думкі бяссоннай маёй ты багіня,
Журба неадгадна, Душа — тваё імя,
Табой я жыву, да Цябе уздыхаю,
Ад журбы нязнанай я месца не маю,
Мой дух дзесь панёсся ў фантазій краіне,
Там Кралі шукае, ад жаласці гіне.

А б о е  р а з а м

Усплыві, месяц ясны,
Над зямелькай гаротнай,
Дай святло журбе нашай,
Да жыцця неахвотнай.
Усміхніся, зямелька,
У ціхім задуменні,
Дай нам шчасце спазнаці
У любоўным натхненні.

Сварожык ускладае ёй вяночак.

## З’ява 2

М о к ш а

Нястыдны вашы вочы,
Мужычы вашы сэрцы…
Я выганю прарочы
Твой дух, Сварог! —
Не будзеш ужо меці
Ні Кралі, ні адзежы —
Прэч мне з двара, лайдача!

(*Да Кралі.*)

Цябе ж я у Рубежы
Стрыбогу пасылаю
І жонкай назначаю —
Маліся там гарача!

С в а р о ж ы к  і  К р а л я  Б е р а г і н я
(*кланяюцца ў ногі*)

Яснейшая пані, цябе молім шчыра,
Каб нас не губіла, надзеі не брала:
Табе мы служылі, табе спагадалі,
Не дай нам благому на ласку упыра;
Стрыбогам благое зусіллё спанавала,
Не дай нам загінуць, каб навек праклінalі!

М о к ш а

Мізэрныя нямравы,
Прэч ад мяне ідзіце!

Б е р а г і н я

О пані, будзь ласкава!
Сварог мой любы… слава
Дажбогу… ах пусціце!

М о к ш а

Астанься!.. Прэч, Сварожа!

Б е р а г і н я

Я з ім аж да магілы.

Сварожык

Так помні, о пані, і ты, моцны Божа.

Сварожык і Берагіня

І ты, моцны Божа, што светам кіруеш!

Сварожык

Цябе помсціць, пані, сякера варожа —
А помсту маю ты запозна пачуеш…

(*Адыходзіць з пагрозай.*)

## З'ява 3

Стрыбог

Мне, гордаму цараву сыну,
Пакорна людская ахвяра…
Цябе я, дзяўчо, не пакіну,
Дар Мокшы прымаю… Для цара
Усё вольна тварыці-рабіці…

Мокша

Табе ахвярую дзяўчыну,
Нявіннасць яе пасвячаю
За тое дабро, за скаціну,
Што я ад цябе даўно маю.

(*Адыходзіць*.)

## З'ява 4

Берагіня

Не смей ты мяне, мой паночку,
На момант хацця зачапіці,
Бо я ўжо ў шлюбоўным вяночку
З Сварогам клялася пражыці…

С т р ы б о г

Што чую?! Шчэ раз ведаць хочу —
Ты смееш праціўнай мне быці!

Б е р а г і н я

Люблю я Сварога даўненька,
З твайго пажадання рагочу!

С т р ы б о г

Табой валадзеці-судзіці!

Чуваць гром і пярун. Голас Сварога за сцэнай.

## З’ява 5

С в а р о ж ы к
(*за сцэнай*)

О мілая, цябе я не забуду
І выручу ад злыбеды, злой долі, —
Бо так люблю, што змагу ўсю аблуду
Пякельнага быцця… І дам табе я волю.

(*Хаваецца за камень з стрэльбай.*)

Б е р а г і н я

О пане мой, дамоў пусці мяне ты,
Бо мілы мой даўно мяне чакае,
Пусці мяне! Цябе я ненавіджу
І ўсё багацтва, што ты мне пасуліш.

С т р ы б о г

Дзяўчо! Маёй ты будзеш, як усе прадметы
Майго багацтва. Хай ўздыхае
Твой мілы. Дурненькая, я віджу,
Твая галоўка…

(*Скідае ёй вяночак.*)

Б е р а г і н я

Ты мяне загубіш!

С т р ы б о г

Так! — еслі не палюбіш…

Б е р а г і н я

Цябе я толькі ненавідзець здольна!

С т р ы б о г

А мой прыказ… ім будзь давольна.
(*Хапае яе за касу.*)

Раздаецца стрэл. Стрыбог падае.
Берагіня ўцякае і трапляе ў абоймы Сварожыка.

## ДЗЕЯ III

Бераг ракі. В а л ы н ь з лірай. Ноч. Д а ж б о г паглядае ласкава з хмараў на зямельку. Гуляюць р у с а л к і.

### З’ява 1

Х о р

Дзеванькі-любанькі,
Маліновы губанькі,
Ў зелені купаюцца,
Ў красачках гайдаюцца.

1 р у с а л к а

Хлопчыкаў чакалі,
Вочкі прамывалі,
Косы уплятали,
Сукні паясалі.

2 р у с а л к а

У зялёнай дубраве,
На мяккай мураве
Лубку калыхалі,
Коску расплятaлі.

Х о р

І на рэчнай хвалі
Русалкі гулялі,
Маладых манілі,
Насмерць казыталі.

## З'ява 2

Г о л а с  Б е р а г і н і

О любы мой, ізноў з табой жыву я,

Р а з а м з С в а р о ж ы к а м

З табой ніколі лёс ужо нас не падзеліць.

Х о р а м  з  р у с а л к а м і

Мы разам зноў працуем і гаруем
І вораг наш дзяліць нас не пасмее.

Б е р а г і н я

Як воднай лілейцы ў чароце,
На свеце так тужна сіроце,
Нявольніцай кожны піхае,
Бо, бедненька, сілы не мае.
Шырокі на ўзлёт мах саколі,
Як лёгка русалцы на волі:
Стрыбог не асіліць ніколі,
А Мокша скарана у полі.

Х о р

Зарніца нам пышна бліснула,
Русалка свабоду пачула,

Ад радасці оддых спыніла,
Дажбог спагадае нам міла.

С в а р о ж ы к

Ад многу лет з нядолі бед
Тайком мінавалі мы троны,
Быў гэта час, калі ўсе нас
На сцяг наганялі чырвоны.
Стрыбог упаў, калі бы ўстаў,
Урад свой падзеліць між намі,
А мы павек — няма калек —
Не будзем нядолі сынамі.
Ідзе на свет русальны цвет
Да працы свабоднай на волі,
Ідзе гарой наш прапар той:
«Крывавы на чыстым полі».

Х о р

Міне няволя і аўрэола
Нам свеціць ў жыцці на волі,
Устань з спачыну, бяры дзяўчыну
Гуляці у чыстым полі.

## З’ява 3

Д у х і   Ч о р н а г а   Б о р а

Жальную мы песню заводзім,
Наш спеў ад журбы і глумлення —
Бо мы безнадзейнасць знаходзім,
Дзе рунь, дзе расцвету натхненне.
Мы духі упадку ў няволі,
Зор Божы не нам судзіць трэба,
А тым, хто умее паволі
Дайсці аж русальнага неба.
Пакута па тым, што сумнілісь,
Хоць можна было датрываці —
Ніколі, на жаль, не здабылісь
І можам мы толькі псаваці.
Застрашыць каго у дарозе,
Каб мэты не мог ён дабіцца,

Мы селі на быту парозе,
Ні злом, ні дабром нам сыціцца.
Між бору старога звярамі
Казаў нам Дажбог месца меці,
Дзяліцца пакуты слязамі,
Аж вера паўстане на свеце.

Х о р

Вялій славай Дажбожа, —
Зор наш бляск Твой трывожа
У ім чытаем тайніцу прабыту —
Дзень славы!
Паўставанне ўсясвету —
Вясне радасць, жар лету —
Тваёй ласкай усё аддыхае —
Дзень славы!
І людская зямліца —
Светавіда імгліца —
Тваёй творчасці тхненне пачуе —
Дзень славы!

Паяўляюцца хлопцы і дзяўчаты. Далучаюцца да хору.

Свет людскі і русальны —
Ледзь яшчэ пазнавальны —
Новы шлях для існення адкрые —
Дзень славы.

Гульня таго і гэтага свету.

*Засвір, 13.X.1922*



# АЛКАГОЛЬ

## I

У кожнай парафіі, у кожнай вёсцы спаткаць можна людзей, што цяжка наракаюць на лёс сваіх братоў, каторыя труцяць сабе жыццё ўсялякімі трункамі, каторыя топяць сваю худобу і суменне ў чарцы. Называем мы людзей, адданых п'ятыцэ, — п'яніцамі, лайдакамі. Справядліва, бо піяк-наляговец губіць сваё здароўе, сямейнае жыццё, забівае рэлігійнае пачуццё і паніжае гонар чалавека. Але той толькі можа літавацца над такой бядотай, хто сам зусім ні прыкладае сваёй рукі на помач п'янству. Бо скажыце ж самі! Возьмем вось хоць бы парафію, дзе я жыву. Малая яна, і п'яніц вялікіх знойдзецца тут найбольш дзесятак. Аднак жа манаполька штогод таргуе за гарэлку блізка 4000 рублёў. Значыць, трацяцца і п'юць не толькі лайдаччо, але і тыя, што кажуць: «Мы п'ём у меру, пакрысе». Прэч таго выходзіць, што, агульне, больш ідзе ў манаполь ад людзей п'ючых «пакрысе» і «пры здарэнні», чым ад налаговых п'яніцаў.

І вось гледзячы на ўсё гэта, ласкавы мой чытачу, хацеў бы я намовіць цябе, каб кінуў ты зусім піць, калі п'еш, а прылучыўся да людзей, што завуць сябе абстынентамі, або па-нашаму — цвярозымі, няп'ючымі, і што ваююць усімі сіламі з п'янствам, бо ваяваць з гэнай страшэннай прывычкай трэба вось дзеля чаго.

Перш-наперш чалавек, што кланяецца чарцы, шкодзіць свайму здароўю. Не трэба так лёгка верыць тым расказчыкам, што кажуць, быццам трункі грэюць, даюць сілу, ахвоту і г. д.

Ведаць трэба, што чуць не ўсе трункі маюць у сабе складнік, каторы завецца *алкаголем* або *чыстым спірытусам*. Вось гэты алкаголь і спраўляе ап'яненне і адурэнне; бо ёсць ён *труцізнай*, так, як, напрыклад, аршэнік. Ужыты ў меру у слабейшых трунках (у піве, віне, — дзе яго мала) — ён труціць слаба, але пры

большай выпіўцы, асабліва водкі, дзе яго найбольш, спраўляе ён завароты галавы, зацямненне розуму, торсіі. Гэты то алкаголь павольна, але моцна руйнуе здароўе сваіх любіцеляў.

Еслі аддзяліць чысты алкаголь ад водкі і даць яго курам, то яны ад такога пачастунку паскачуць, паскачуць і падохнуць. Таксама не выжыве сабака, калі вымазаць яго нос некалькі раз алкаголем. Дай водку дамовай жывёле — ані зачэпіць гэтай стравы, бо чуе яе ядавітасць.

А чалавек — пакуль прывыкне толькі да гэтай атруты, непрыемна моршчыцца, пасля ўжо будзе мець да гарэлкі цягу. Можа, спытаецеся, чаму? Маем бо мы такую натуру, што цягне нас да ўжыцця прыемнасці, вясёласці да забыцця сваіх бедаў. А гэта ўсё дае нібы алкаголь-уvадзіцель. Гэта яго прыманка. Але чалавек, разумеючы, што трэба свае злыя хаценні дзяржаць пад сабой, лёгка падбівае гэту неразумную цягу да напіткаў. Бо яна нічым іншым не ёсць, як толькі простай слабасцяй і бракам. Праўда, ёсць людзі, што міма сваёй любові да алкаголю маюць сільнае здароўе і працуюць сумленна. Але такіх мала, і можна ім сказаць з ўсей пэўнасцяй, што, каб яны кінулі піць, былі б яшчэ здаравейшымі і да работы здатнейшымі.

Кажуць, што напіткі ў сцюжу грэюць і дадаюць сілы. Гэта фальш. Дай каню бізуном з дзесяць раз, ён падскочыць, паёрзае, але ад гэтага яму ані сілы, ані цяпла дужа ні прыбудзе. Таксама з нашым целам. Алкаголь, як той бізун, падражніць, падбудзіць нашы нервы і зразу пачуем цяпло, але зараз потым наступае агульная слабасць і ўпадак сіл. Колькі ж людзей, падхмяліўшыся зімой на рынку, прыехалі дамоў зусім змерзлымі. Гарэлка іх зразу трохі сагрэла, але потым хутчэй яшчэ хапіла зімно.

Што алкаголь забірае сілы чалавека, а не дадае, — паказваецца і з таго, што цвярозыя работнікі даўжэй могуць працу сваю рабіць і даўжэй жывуць.

Дактары даўно ўжо пераканаліся, што водка не мае ніякага пасілку і толькі, як гарачка або фебра, запаляе і дражніць чалавека, усё больш і больш аслябляючы яго сілы.

Алкаголь дадае сілы, але нейкай шайтанскай, тады, калі чалавек уп’ецца. Тады найлепшы чалавек можа стацца лотрам. На ўсе грахі, на ўсе маральныя ўпадкі тады ён гатоў. Язык развяжацца і не мае ніякай пашаны да людзей, ані стыду. Найбольш латроўства на свеце робіцца пры п’янстве і пасля. У турмах найбольш людзей, што не знаюць ніякай меры ў напітках. Адзін начальны суддзя ў Англіі сказаў: «Каб можна было народ ангельскі зрабіць цвярозым, можна было б замкнуць чуць не ўсе астрогі». Страшэннае спусташэнне нясе алкаголь у жыцці ма-

ральным людзей, бо мала каторае ўбіўства, мала каторы большы грэх абыдзецца без алкаголю. Чуць не пры кожным нягодным паступку можна адкрыць надужыццё алкагольных напіткаў.

Гэта павінна нам даць многа да размыслу. Чалавек, каторы дбае аб сваёй маральнай дастойнасці, не павінен знацца з напіткамі ані з паклоннікамі алкаголю задавацца, бо «хто з кім задаецца, такім сам стаецца».

Многа спраўляе няшчасця вайна, мор, голад, зараза, — але ўзапраўды алкаголь павінен паміж гэтых плягаў заняць першае мейсца, бо ўсе няшчасці з вайны ці з голаду здараюцца рэдка, а алкаголь няўстанна, заўсягды забірае нам дабрабыт у сям'і і ў грамадзе. Горкая доля той маткі сям'і, дзе муж п'яніца. Бедныя тыя бацькі, што не патрапілі выгадаваць сына на добрага чалавека, — не навучылі яго стараніцца ад алкаголю. «Ты, сынок, быў добры, — пішуць бацькі да свайго ядыначка, — быў нашай пацехай, а цяпер? Гарэлка зруйнавала цябе і нас, сядзіш у астрозе, а твае бацькі чакаюць смерці. О, як жа мы былі б шчаслівымі, каб ты не зазнаў ніколі п'янства і не стаўся ганьбай для сябе і для сваіх бацькоў!»

Каб так хто зрахаваў, колькі праз дзесяць год, напрыклад, прапіла наша губерня ці колькі разам усе беларусы за гэты час пусцілі на п'янства, — за галаву схапіўся б! Агульна ў Расеі прапіваецца на адну толькі водку каля 1000 мільёнаў рублёў у год (мільярд). Сёлета ад першага студзеня да першага ліпеня прапіта 423.745.882 руб. Колькі за гэты грошы можна ўспамагчы бедных, колькі купіць зямлі, колькі залажыць школ і добрых карысных таварыстваў, — няхай аблічыць, хто ўмее. Проч таго, колькі ідзе збожжа на прагонку гарэлкі, колькі марнуецца рабочых сіл і г. д.

Вырахавана, што каб адны фабрычныя работнікі перасталі зусім піць на дваццаць год, то за астаўшыеся грошы можна было б купіць усе фабрыкі, дзе яны працуюць.

У нашай старане страшэнна банкрутуюць, як ведама, двары. Каб добра прыгледзецца да прычыны іх банкруцтва, то аказалася б, што не раз бывае і тутака служба алкаголю або картам, каторыя і даводзяць паноў да руіны.

Як цвярозасць і працавітасць не аднаго беднага даводзяць да дабрабыту, так п'янства і гультайства нават найбагацейшым дае жабрачы кій у рукі.

Значыцца, *хто хоча быць здаровым* на целе, хто хоча даўжэй жыць, карысней для сябе і сваёй сям'і працаваць, — мусіць кінуць піць, мусіць з пагардай стараніцца ад усіх алкагольных напіткаў.

## II

Дык што найважнейша: алкаголь зменшывае або і зусім ніштожыць нашае жыццё духоўнае. Каб гэта сабе ўясніць, павінны мы ведаць, што жыццё рэлігійнае, згоднае з правам нашага сумлення, падтрымліваецца нашай сільнай воляй.

Сільная воля хрысціяніна — гэта найважнейшая падпора яго рэлігіі, яго веры ў загробнае жыццё. А што ж так змагае сілу волі нашай, як алкаголь, як склоннасць неўмяркованая да напіткаў.

Чалавек робіць сабе з алкаголю нейкае божышча і складае яму на ахвяру дабро сваёй сям'і, сваю добрую славу ў людзей і спакой сваёй душы.

Найспакайнейшы, найлепшы чалавек, як толькі пачне заглядаць часта ў чарку, станецца хутка склонным да звадак і нязгод, пазволіць языку плесці ўсялякія брыды, зробіцца злым для хатніх, нямілым для суседаў. А нават чалавек, што пакрысе п'е, дае довад слабай волі, бо часта, баючыся, каб яго не высмеялі, не можа пакінуць піць, хаця і разумее, што і ён падтрымлівае хваробу агульнага п'янства, што заслуга большая зусім не піць; хаця добра ведае, што п'яніцы выходзяць з тых, каторыя перш не надта нізка кланяліся алкаголю, але ўсё ж такі былі яго прыхільнікамі. Можна смела сказаць, што алкаголь адрывае людзей ад жыцця рэлігійнага, як той д'яблюк, бо хто толькі многа п'е, той бывае заўсягды і распусным, зверскім, і гатовым да ўсяго злога. Дарма яму тлумачыць аб жыцці вышэйшым, разумным.

Няшчасная прывычка піць забівае ў ім лепшае пачуццё. І вось такі чалавек павольна губляе паняцце, што мае несмяртэльную душу, што ён назначаны да шчасця ў загробным свеце. Ён прыбліжаецца да гатунку тэй жывёлы, каторая любіць балота і каторую жыды маюць за нячыстую.

Няма дзіва, што ў Святым Пісанні многа ёсць грозьбы для тых, што без меры п'юць, — і падахвочвання, каб былі цвярозымі. «Гора тым, што смагла могуць піць віно!» — кажа прарок Ізаяш (В. 20) «Асцярожны будзьце, каб сэрцы вашы не былі цяжкі абжарствам», — сказаў раз Хрыстус да сваіх вучняў. А святы Павел кажа: «Не ўпівайцеся віном, што мае нечыстату, але будзьце поўны Духу Святога" (Эфэз. 5.18). Святы Аўгустын называе п'янства маткай ўсялякіх праступкаў, замешаннем розуму, утратай нявіннасці, дабравольным звар'яценнем, жыццёвай ганьбай, няславай, паніжэннем душы. А вось яшчэ словы святога Базыля Вялікага: «Чым п'яніца мудрэйшы ад асла? Звер

нават безразумны не п’ець над меру, хаця б яго тысяча людзей прымушала».

Вось тады і паказваецца, што хто хоча мець і розум, і сумленне чыстае, павінен мець алкаголь у найвялікшай пагардзе. Алкаголь, як гангрэна, павольна, але пэўна падточвае нашы добрыя навыкненні і заражае душу ленасцяй і няздольнасцяй да працы духоўнай.

Бо ці бачыў хто, каб п’яніца ды быў праўдзівым каталіком у сваіх паступках, каб усю сваю надзею пакладаў у Богу? Не! Яго пацехай, яго лекамі на ўсе жыццёвыя беды ёсць чарка! Абы выпіць, а болей нічым ён не цікавіцца, нічога не хоча. І так пражывае свой земскі век, не зрабіўшы для нікога нічога добрага, прыгатаваўшы толькі для сябе загубу дачасную і вечную.

## III

З усяго сказанага раней, а яшчэ болей з жыцця штодзённага, што паказвае, якім страшэнным няшчасцем ёсць п’янства, — выходзіць патрэба: *кінуць самім піць гарэлку, піва, віно — і старацца адцягнуць ад гэтых трункаў іншых*. Словам, з’яўляецца сама праз сябе думка змагацца з хваробай п’янства.

Змаганне з алкаголем старо як свет. У старажытнай Грэцыі, у Атэнах, было адным часам права, што смертны прыгавор клала на чалавека, каторага злавілі п’яным. У той жа Грэцыі правадаўца Лікург прыказаў скасаваць усе вінніцы, дзе выраблялася віно. У сёмым веку па Хрыстусе рэфарматар рэлігійны Магамет забараніў зусім піць віно сваім прыхільнікам. Французскія каралі ў розных часах стараліся паменшыць выраб віна. З дзевятага века прахаваўся наказ спаведнікам, каб закладалі саракднеўную пакуту на хлебе і вадзе тым, што, «праціў наказу Збаўцы і Апосталаў, упіваюцца віном або півам».

Адзін паважаны гісторык піша, што ў першых вяках хрысціяне зусім не ўжывалі віна. Рэгулы некаторых законаў хрысціянскіх змушаюць да самай суровай цвярозасці.

А і ў нашых часах расшырылася змаганне з алкаголем, бо п’янства страшэнна распаношылася паміж людзей.

У Амерыцы прэзідэнты Лінкальн і Гарысан былі няп’ючымі.

Сучасны прэзідэнт Вільсан ёсць вялікім апекуном таварystваў амерыканскіх у змаганні з алкаголем. А таварystваў такіх там дужа многа. Ёсць нават такія старонкі ў Амерыцы, дзе ўжо трудна дастаць алкагольных напіткаў.

Вось дзякуючы людзям, што з пагардай кінулі алкаголь і пачалі шырыць цвярозасць, у Амерыцы лічыцца цяпер больш шасці мільёнаў людзей *няп'юшчых* (*абстынентаў*) — і то толькі запісаных да таварыстваў. У Англіі ёсць такіх людзей сем мільёнаў. У Фінляндыі, блізкай нашай суседкі, — забаронена ўжо гнаць гарэлку.

У нашым краі найболей шырыць цвярозасць ковенскае таварыства «Blaivybe» (цвярозасць). Аддзелы гэтага таварыства знаходзяцца і ў Віленскай губерні. Мэта іх — гэта зніштожыць панаванне алкаголю. Спосабы такія: асабістая цвярозасць і прасвета. Каб змагацца з дрэннымі звычаямі і прывычкамі піць на вяселлях, хрэсьбінах, забавах, — яны ўстраіваюць прыстаўленні, дзе высмейваюць п'янства, робяць вечарынкі без трункаў, а на вяселлях і святах сямейных не ставяць жадных напіткаў, апрача квасаў і віна з овашчаў. Проч таго на сабраннях устрайваюць гутаркі аб шкадлівасці алкаголю і здаюць адчоты з працы над выкараненнем п'янства.

Таварыствы проціалкагольныя шырацца быстра і развіваюцца штогод. Дойдуць яны і да нашай старонкі, да нашага народа і дадуць добрую адправу п'янству. Толькі трэба спаткаць гэту работу зычліва. Асабліва не вядзецца справа цвярозасці паміж людзей мерных і зімных. Гэта людзі не здольныя, праўда, да вялікага зла, але і да дабра не вельмі здатныя.

Іх граніца мерната. Яны часам прызнаюць, што не ўсё ў іх дзеецца так, як трэба, але мала маюць адвагі да перамены, бо гэта каштуе іх нямала працы, а яны ўцякаюць ад усякага высілку.

Не здатны яны да жыцця хрысціянскага праўдзівага — г. зн. плоднага ў добрыя паступкі. Не лучацца яны да вайны з алкаголем, бо агульна не спасобны да ніякай лепшай, агульнай працы. Пераканай іх аб карысці цвярозасці, яны з вамі згодзяцца, а ўсё ж, пры здарэнні, будуць папіваць, каб не зрабіць нібы крыўды кампаном. Не годны яны да змагання з алкаголем, бо над імі пануе звычай даўнейшы, а поступу яны баяцца.

Але ты, чытачу, не будзь да іх падобны. Кінь смела алкагольныя напіткі. Пабудзь *абстынентам*, г. зн. цвярозым на пробу год які, дык пасля ўжо ім і астанешся, бо ўбачыш, як многа карысці дае разлука з алкаголем.

Не дайся звесці тым, што кажуць: «Пі, але меру знай!» — бо і п'яніца скажа: «Я сваю меру знаю» і ніколі не прызнаецца да таго, што ён п'яніца. Гэтакім спосабам ніколі п'янства не ўпадзе, бо астануцца піяцкія звычаі, каторыя ўводзяць алкаголь усюды, на кожнае сабранне ці свята. Там толькі алкагалізм упаў, дзе

людзі *зусім* пакінулі напіткі і такім парадкам споўнілі ў цэласці наказ св. Паўла: «Браты, трэзвымі будзьце!»

*1913*

## МАЕ ДУМКІ

### I

### Мыслі на скальным адломе

Я сядзеў на ўбочу гары, на адломе скалы, у адной з найхарашэйшых далін стройных гор Татраў*. Быў вечар. Даліна замыкалася навокал розналітымі звоямі гор усялякіх кшталтаў і фігур. Праменні месяца асвячалі чорныя твары каменных турняў**, каторыя кідалі доўгія цені на шумны ручаёк у ног маіх, — і на разложыстыя воддаль галі***. Дрэвы і кусты на склонах гор спалі, здавалася, у зацішным цені. Усё скланяла да развагі і ціхага размышлення.

І ціш гэта, прарываная толькі булькатам ручая, была нейкай сумнай, хоць мілай.

Было трохі страшна. А страх гэты звялічвалі ўспамінкі аб блудных духах рыцараў, што заснулі мо надоўга паміж зломаў гэтых гор.

Разлёгся крык савы, каторая застагнала дзесьці ўдалечыні — стогнам гулкім і даносным. Я аглядаўся кругом. Збуджаная фантазія строіла скалы ў нейкія кшталты людскія. Вось маё вока астанавілася на цэлым скупленні скал і камення, што выдаліся мне руінамі замка.

Я відзеў разваленыя дамы, пахіленыя хаты, магільныя крыжы, — казаў бы, усё, што жыло тут даўней поўным жыццём, цяпер заснула навекі. Цэлая гісторыя гэтага краю ўзбегла мне на памяць — і смутна мне стала…

Пасля ў харастве гэтай горнай даліны, паміж цудных скал, у сумнай цішы ночнай, — калі думаць аб стройнасці і гармоніі свету Божага — ёсць найвялікшая роскаш, — у такую часіну, стала прад вачыма маімі родная вёска і родны край — Беларусь.

---

* Татры — горы ў Аўстрыі.

** Турня — вострая, спадзістая скала.

*** Галя — сенажаць між гор.

I чаму, дзеля чаго? — Можа, дзеля таго, што родны край, родная хата — даўно ўжо сільна ўрэзаліся ў сэрца маё, а можа, дзеля таго, што я паміж гэтых гор чуюся адзін-адзінюсенькі, выгнаннік з айчыны незгаданым лёсам?..

Вось віджу я мае Гаруны. Дваццаць хат вясковых; усе збіўшыся ў кучу, казаў бы, сагнала іх у месца якаясь багавіца. Лес з трох старон бароніць вёску ад ветру і перуноў. Хаткі нізенькія, цесныя: ведама, як у людзей, што ніколі не зазналі шчаслівай свабоды, праўдзівай волі. На канцы вёскі хатачка паміж бярозак і іншых дрэўцаў у садку… Агеньчык свеціцца праз вокны з маленькімі абалонкамі. Што-то робіць цяпер мая мілая матухна, мой добры тата? Мо гамоняць аб тым, што цяжка жывецца на гэтым свеце, мо бядуюць, што дзеткі разбегліся, пакінулі родную хату, пайшлі ўпрочкі, шукаючы шчасця, прасветы і хлеба…

Калі ж яны вернуцца? Калі збяруцца і прынясуць з сабой тое, па што пайшлі?.. О, каб жа, шукаючы шчасця, не затрацілі, не згубілі яны скарбу, каторы вынеслі з сабой у свет: роднай мовы сваёй, бацькаўшчыны душы сваёй дарагой…

Маці Беларусь! Цесна ўжо тваім сынам, шукаюць яны новай дарогі, дарогі да лепшага быту.

На лепшую долю ты іх благаславі! Вазьмі ад іх закляцце, што будуць заўсёды табе вернымі, што ніколі не пакінуць цябе, што не загубяць свайго сумлення, што не заб'юць у ім свайго Бога, каторы кіруе лёсы народаў.

Цяжкія буры прахадзіла наша адвечная маці — Беларусь. Ламаўся і сыпаўся праз тынк з гэтага будынка, што ставілі ў поце цела свайго нашы бацькі і дзяды. Буры прайшлі — фундамент астаўся нярушаны.

Душа асталася чыстай, хоць многа раз стараліся ўхадзіць яе злыдні і ваўкалакі.

Асталася на дне спакойнай, хоць сумнай, як яе песні і казкі. Але будыніна зарысавалася і трэба яе адбудоўваць. Трэба нават дабудаваць многа новага, каб не зруйнавалі яе новыя буры і віхры…

Будзіцца цяпер яна да лепшага, самавітага жыцця. Дай жа Божа, каб пайшло яно шляхам роўным, згодным, поўным спакойнасці і веры ў сілы свежыя, вялізарныя, а неспажытыя дагэтуль. Аднаўленне ў імя лепшай будучыні — дзела вялікае і святое. Дзеля гэтага кожнаму трэба пасвяціць свае сілы, хто чуецца Беларусі сынам.

І прыйшла мне на думкі моладзь беларуская…

Яна хоча жыць. Яна горнецца да прасветы, да культуры. І часта, ідучы за голасам свайго духу, яна места прасветы находзіць яе шумавіны.

Ці мала нашых вясковых хлапцоў прынеслі з горада такую памыйную культуру, каторай стараюцца заразіць і сваіх таварышаў.

Места самой рэчы — хапілі яе ўлуду. Найгорш, што ў сваім блудзе не могуць увідзець змылкі і трываюць пры ім, як сляпыя.

Многа паміж нас недахватаў. Ці думаем мы аб тым, што, каб стацца чалавекам, здатным да жыцця папраўдзе людскога, трэба гаротна працаваць над сваім характарам, змагчы благія звычкі, умець сябе самога дзяржаць востра?..

А моладзь — гэта будучыня, прышласць.

Чым займаецца наша моладзь у свабодны час? Дзе падзяе грошы, зарobленыя ў дарозе або ўзятыя ад бацькоў? Якія яна песні пяе? Аб чым найбольш думае? Ці ёсцека надзея, што з гэтай моладзі могуць быць людзі з сільнай душой, што патрапяць зламіць перашкоды, каторыя ім паставіць жыццё?..

Нямаш найменшага сумлеўку, што многа ўкрытых сіл дрэмле ў нашай моладзі, — але трэба ўмець іх дабыць. Тут цэлая штука. Зніштожыць п’янства і гультайства — гэта праца фундаментальная, найважнейшая. А да гэтага трэба ўвесці ў жыццё тое, чаго ад нас вымагае рэлігія і праўдзівая навука і здаровы людскі розум.

Не веру, каб іначай можна было запанаваць над сваёй благой натурай, паправіць недахваты ў жыцці і ўступіць на шлях праўдзівага поступу і адраджэння.

І смяяцца горка хочацца з тых, што зычаць дабра для братоў сваіх, а кажуць, што вера не вельмі патрэбная да людскага жыцця і можна без яе абысціся.

Ах, якія ж слепакі тыя, што адбіраюць людзям веру ў Бога, узамен яе даць нічога не могучы! Забіваюць чалавека ўжо не на целе, але на душы, адбіраюць яму, што меў найлепшага на свеце, думаючы, што робяць яму ўслугу. Сапраўды мядзведжая прыслуга! Здаецца мне, што яны путаюць узлёт мыслі і духу людскога ўвысь, да звёзд: да хараства і праўды.

Ці ж не горшыя з іх злыдні, чым тыя, што калечаць чалавека на целе?..

Трэба, каб мы разумелі і любілі ўсё роднае: нашую старонку, нашы вёскі ўбогія, але харошыя, нашы звычаі і абычаі, нашу

вялікую і праўдзівую веру каталіцкую, нашу гісторыю, поўную навукі на будучыню.

Бо ўсё гэта зляжылася на тое, што мы не згінулі марна, што маем многа добрых зачаткаў, што мы можам жыць, калі захочам, нягледзячы на перашкоды і скрыгат зубамі ворагаў, што нічога, апроч сябе, відзець не хочуць…

Відзеў я ў гэты вечар многа. Многа перадумаў і перачуў. І меў нямала радасці і трывог, размышляючы аб лёсе Беларусі…

А ручаёк шумеў. Між сверкаў і кусцікаў касадрэвіны загудзеў ветрык і панёсся ўвысь аж да неба; як бы шэпчучы вячорную малітву.

Звёздкі блішчэлі так мігатліва, а так спакойна, што сэрца рвалася там-там высока, глыбока — да ўсясвету, там, дзе вечная стройнасць, дзе яснае жыццё душ людскіх, што пакінулі гэты свет з верай, надзеяй і міласцяй. Зрабілася мне лёгка; схацелася так сядзець да поўначы, слухаючы тайнічых галасоў прыроды.

Шчаслівыя людзі з верай, што жывуць дзеля высшага, загробнага жыцця. Шчаслівыя, што жыццё сваё апіраюць на праўдах рэлігіі!..

І ізноў стаў я думаць аб Беларусі.

І добра мне было з маімі марамі…

Па якой дарозе пойдзе беларус? — пытаўся я сябе. І ўспомнілася мне, што гэты народ умеў цярпець, нават меў сваіх мучанікаў; што і цяпер вера ў яго жыцці найвялікшая пацеха — аснова яго шчасця; што там, дзе няма яе, пануе найгоршая цемра і зло…

Месяц ужо хаваўся за горы. Пара была ісці дамоў. «Народы, — мыслю я, ідучы, — маюць свой усход і заход. Для Беларусі настаў, мусіць, усход. Дай Божа, каб светлы быў яе дзень і доўгі!..»

І памалюся я шчыра за матку-Беларусь, за яе суседаў і за ўсіх людзей, што шукаюць шчасця і праўды…

## II

## Што такое пакора

Раз сабралася нас некалькі чалавек пры стале і завялі гутарку аб тым, што такое пакора.

— Пакора, — казаў наш мудры доктар, — гэта паніжэнне чалавечай годнасці. Яшчэ разумею я пакору прад Богам. Але

каб чалавек паніжаўся прад сабе роўным, на гэта розум ніколі дазволіць не можа.

— Калі хто паніжаецца прад другім, а не шчыра — гэта не пакора, а службістасць, — заўважыла адна паня.

— Ад службы, напрыклад, — не згаджаўся доктар, — не вымагаюць такой пакоры, паніжэння. Гэтакае забыванне сваёй дастойнасці можна назваць толькі нявольніцтвам. Зрэштай, усе людзі ўважаюць, што пакора нешта нізкае. Чалавек бо не мае прычыны ўніжацца. Пазнанне і ацэна сваіх добрых старон — гэта амбіцыя, дума. Што ж тут благога?

— Чалавек можа паніжацца не толькі прад Богам, але і прад сабе роўным і нізшым нават, калі зразумее, што другі, будучы на яго месцы, быў бы мо і лепшы духам за яго, — казаў ксёндз, слухаючы гэтага спору…

Што ж такое пакора? — думаў я, вярнуўшыся ў свой маленькі пакоік і ходзячы з кута ў кут. — Так, я хачу быць пакорным, бо Той, хто даў нам навуку аб пакоры, быў «ціхі і пакорнага сэрца». Значыць, пакора — адно, а службістасць — другое.

Пакора аснута на праўдзе, а службістасць на фальшу, на паказе таго, чаго няма ў пракананні.

Як хто лашчыцца прад высшым ад сябе і хоча яму прыслужыцца слоўцам салодкім, як махлюе ў вачах бліжняга, — а не чуе таго ў сэрцы, што гаворыць: гэта службістасць, гэта сорам, гэта нявольніцтва. А да пакоры трэба праканання аб сваёй нізкасці. Але як жа пагадзіць такое прakананне з праўдай?

Чалавека Бог стварыў з розумам, што агарнуў увесь свет, што запанаваў над усім.

Якая ж тут можа быць нізкасць? — Нізкасць — грэху. Грэх — гэта прычына паніжэння чалавека. Гэта — сорам кожнага чалавека. Грэх — гэта тое, з чаго чалавек ніколі не будзе досыць пакорным. Толькі чалавек здолен паняць Бога і адчуць права свайго сумлення.

І толькі ён здолен ісці накас[1] гэтаму праву, процїў волі Бога, накас свайму розуму нават. Мала таго, што чалавек павінен упакорыцца прад Богам, каторы даў быт свету і даў жыццё, дух стварэнням, — ён мусіць прызнаць, што не раз бунтаваўся процїў Яго, таптаў Яго права, усім ведамае і зразумелае… Вось скуль плыве прakананне аб сваёй нізкасці. А чаму прад сваім бліжнім, хоць бы і нізшым паводлуг становішча, павінен я быць пакорны?

О, гэта выплывае з таго зразумення, што многа я патраціў здольнасці, многа змарнаваў ласк і памогі, каторыя маглі мяне

зрабіць чалавекам вялікім у Бога, а можа, і ў людзей. Будучы на маім месцы такі, напрыклад, жабрак з-пад касцёла, можа, лепей справіўся б і лепшы быў бы за мяне.

Пакора ёсць праўдай. Не скрывае яна добрых старон, якія маем. Але відзіць, што праўдзівае дабро душы, якое мае, гэта дар Божы, і што нават гэтыя цноты маюць многа недастачы праз укрыты эгаізм, самалюбства і мыслі толькі аб сабе.

Еслі мая цнота здабыта потна, гаротна, — магу я мець згэтуль учуцце патолі, роскаш споўненай павіннасці, думу шляхетную. Гэта ж не спраціўіцца пакоры. А еслі я часта думаю аб тым, каб быць вялікага характару і моцнай волі чалавекам, — гэта добрая амбіцыя і згодзіцца яна з пакорай. Еслі такая амбіцыя лучыцца з пачуццём ужо многа зробленага дзеля гэтай мэты — з пачуццём, што жыццё маё не марнуецца ў адпачынку і гультайстве, тады — гэта пачуццё сваёй годнасці: нічога праціўнага з пакорай. Бо пакора — гэта праўда. Яна праціўніца пыхі. А пыха — гэта фальш.

Глянь на гэтага пана, як ён звысока глядзіць на ўсіх. Думае толькі аб сваёй важнасці і заслугах. А праходзіць праз жыццё, не ўцёршы ніводнай слязы сіраце. Глянь на гэнага вучонага нібы. Думае, што няма яму роўнага па розуме. Аб усім судзіць нямыльна. Прынёс, казаў бы, новыя праўды. А не ўгледзеў, што прад ім многа людзей вучылі тое самае, толькі ў другіх словах, — што за лет некалькі ніхто, можа, аб ім не ўспомніць. А еслі ўспомніць — усміхнецца на яго ўжо застарэлыя навукі і перасуды.

І тут — пыха, махлярства. А відзіш, як гэты маладзён смяецца з усіх, хто іначай думае, чым ён; як лёгка важыць сваё жыццё і душу сваю. Верыць толькі самому сабе і сваёй сапсутасці. Але напрасна стараецца ашукаць сваё сумленне.

Супакою не мае, бо жыве ў фальшу. Датуль будзе хадзіць паабмацку, пакуль не станецца пакорным і не звернецца да Бога.

Уся злосць маральная выплывае, як з крыніцы, з пыхі. І дзеля таго тыя, што праўду любяць, заўсёды скромна думаюць аб сабе і сваіх заслугах. Адзін дужа вучоны муж, каторага кніжкі дагэтуль чытаюць з найвялікшым падзівам для яго мудрасці, сказаў так аб сваёй вучонасці: «Ведаю тое, што нічога не ведаю»…

Пакажыце мне хоць аднаго вялікага чалавека, каторы б мог сказаць: «Усё спазнаў, усё ведаю, усё ўмею». Няма такога. І дзеля таго вялікія вынаходцы, вялікія філосафы, астраномы, дабрачынцы — прызнавалі, што многа яшчэ да пазнання, да навукі, да паправы.

Ніводзін з іх не быў высокага здання аб сабе. Толькі тыя, што ўзапраўды не сталі на высокасці духовай, думалі іначай. Прагледзьце жыццё людзей святых. Яны часта прызнавалі сябе за горшых з найгоршых.

А Хрыстос? Ён, паміма сваёй найвялікшай годнасці Бога-Чалавека, умыў ногі сваім вучням пры Апошняй Вячэры, — каб паказаць, што тыя людзі, каторыя на гэтым свеце прызнаюць сябе за пасledніх, будуць на другім — першымі. І хоць Сам быў Бязгрэшны і Найсвяцейшы, не чураўся ногі мыць грэшнікам. «Каб тое, што я вам учыніў, — і вы рабілі бліжнім вашым».

Ці можна сказаць, што пакора паніжае годнасць людскую? Ніколі. — Падвышае на вышыню, роўную анёлам, — да каторай здатны толькі чалавек, што верыць у дзівы ласкі Божай на зямлі і дзівы дароў боскіх у небе. «Бо хто паніжаецца, падвышаны будзе».

## III
## На дзень Задушны

Калі гудзіць вецер плачлівы, страсаючы з дрэў каплі-слязінкі; калі галосіць віхура, цемрай закрываючы ўсё на свеце; калі стогне зямля ад навальніцы і буры: чуецца тады голас засвету — «Вечны спакой дай ім, о Пане!»…

Сыдзе на нівы цвёрдая груда, сцісне балоты і лужы свежы лядок, ляжа на зямлю белая пасцель, прыкрываючы ўсё мяккай белай адзежай: ціш гэта і хараство ўспомніць табе другі свет, дзе душы памёршых братоў, — «Вечны спакой дай ім, о Пане!»… І прыйдзе пара, калі ўсё навокал аджыве, калі зялёнасць і моц запануе кругом, калі Дух скажа ў прыродзе: «Пачынаю ўсё нанова»: тады ў красе рэзурэкцыі пачуеш гэты словы — «Вачам неразумным здаліся памёршы, а яны ў спакоі» (Кс. Мудр. 3).

* * *

Я добра яго знаў. Быў маім сябрам. Зваўся Вінцусь. Быў шустры, бойкі маладзён, сын багатых бацькоў. Быў чысты, стройны. Любіў ён, любілі яго: быў мілы ўсім. Бога мілаваў, бо чыстата характару заўсёды ідзе ў пары з міласцяй Бога…

Але вырас — і загудзелі над ім спакусы благога свету. Не судзяржаўся. Ідучы па слізкай дарозе легкамыснасці, знайшоўся ў багне распусты і граху. Бога забыўся. Казаў, што Яго няма, не

было і не будзе. Чыстата душы знікла, як пара. Казаў, што нямаш яе нідзе, ні ў кога…

Але во загрымела бура над светам: бура вайны. Вінцусь развітаўся з бацькамі надоўга, надоўга. Ад таты тры словы ён толькі пачуў: «Прыпомні, Вінцусь, Бога!» Ад маці: «Прыпомні, Вінцусь, душу!» Развітаўся і я з сябрам надоўга, надоўга, хоць не на заўсёды…

Вінцусь на вайне… Кругом яго, як чмялі, гудзелі кулі; як сагані, рваліся гарматныя набоі, рассыпаючы кругом смяртэльныя адрыўкі. Грымот гарматны, трэск страляніны мяшаліся з стогнам жалосным людзей, каторым суджана было тут злажыць галоўку або стацца калекай. І ў гэтым бітвяным пекле Вінцусь адмяніўся. Блізкасць смерці парадніла ізноў яго з светам замагільным: найшоў ён Бога і душу сваю…

Ляжаў мой Вінцусь у глыбокім акопе, пахіліўшыся над сваёй стрэльбай і пускаючы кулю за куляй да непрыяцеля. «Мой Божа! — думаў ён. — Колькі ж тут гіне жыцця!.. І дзеля чаго? Можа, дзеля куска зямлі або дзеля здаваленьня гордай пыхі народаў? Як жа мала тутака цэніцца чалавек! Прымі, Божа, ласкава тысячы душ, што ўзлятаюць да Цябе цяперака з гэтага поля! Прымі і мяне, калі трэба тут згінуць для земскага свету! Веру, што ў Цябе толькі, Божа, ёсць поўня справядлівасці і праўды»…

Галосіць вецер на полі, пакрытым свежымі курганамі. Плачуць восенныя хмары, цягнучыся сумна над імі. Зрывае вецер слёзы з бярозкі плакучай і рассыпае па кургане з простым драўляным крыжам… Пад ім спачывае Вінцусь з прабітым наскрозь сэрцам…

Прыйдзе снежная пара. Падымецца высока месяц над белым полем з гурбамі курганоў. Багата пасыпле свае праменні, залiваючы гурбы мірыядамі залатых іскраў. На небе залыпаюць гвездкі. Месяц бачна ўглядацца будзе ўсюды, як бы чаго шукаючы, як бы хочучы разгадаць дзіўную загадку людскога быту. Жаласна паглядзіць ён на курган з крыжам і бярозкай, бязлістай, звядзелай.

А там Вінцусь спачываць будзе сном доўгім, сном вечным — і ніхто, можа, апроч бедных бацькоў, не застогне па ім: «Вечны спакой дай яму, Пане!»…

І прыйдзе вясна. На полі заселянее мураўка. Бярозка ўбярэцца ў далікатныя лісточкі, на кургане вырастуць саснулькі. Сонца засыпле магілу снапамі сваіх жыватворных праменняў. Ветрык загудзіць веснавую песню: «Да жыцця, да шчасця». Прыйдзе

артай з аржавелым плугам да работы. І стане над курганом, залітым сонцам. І пальецца яго шчырая, простая малітва да Бога: «Вечны спакой дай, о Пане, усім, што адышлі ад нас з верай і надзеяй!»…

А ветрык зашуміць між раслінак новую песню: «Вачам неразумным здаліся памёршы, а яны ў спакоі» — у Бога.

*1914*

## ГУТАРКА АБ НАШАЙ «ПРОСТАЙ» МОВЕ

Божа, што калісь народы,
На асобкі падзяліў
І хацеў, каб люд заўсёды
Мовай роднай гаварыў.

Ўзглянь жа на народ бяздольны
Беларускі, што к Табе
Голас ціхі, паднявольны
У пакорнай шле мальбе.

*А. Зязюля*

### I

Колькі разоў думаў я аб тым глыбока, чаму наша мова не займае месца, якое належыцца ёй паводле ліку тых, што ёй гамоняць, — чаму, з другога боку, перастаюць дзе-нідзе любіць яе нашы сялянцы, — чаму яна кідаецца праз усіх, што адзеліся ў чорныя вопраткі?..

Сумны заўсёды выхадзіў адказ: мы самі вінны. Мова наша адналітная, але мы падзяліліся і ідзём, хто куды, забываючыся бацькоўскага звычаю. Мова наша стройная, харошая, але мы перасталі адчуваць гэта хараство, шукаем яго ў чужым народзе. Мова наша гарманічная, хоць «простая», — толькі мы скрывіліся ў душы сваёй, захварэлі на «паноў» і дзеля таго аддалі яе на здзек сваяком і чужынцам.

Благаслаўлю час, у каторым мы агленуліся і зразумелі пекнасць, хараство мовы роднае, узяліся падняць яе жывую з дамавіны грабовай, даць ёй належнае месца і права, не стыдацца яе нідзе і ніколі, увесці яе ў паўсюднае жыццё сваё, пачынаючы ад найменшага (хоць бы лістоў беларускіх), а канчаючы на

стварэнні формы, у каторай можна было б перадаваць рэлігійныя мыслі, перажыванні: рэлігійнае жыццё. Мэта вельмі далёкая, але ў правох здаровай логікі, поступу і справядлівасці.

Чаму наша мова называецца простай, не ведаю. Можа, таму, што ўсе іншыя ў чым-кольвек ужо скрывіліся, а наша асталася нярушанай, цэлай, — як яшчэ дзе-нідзе нашы бары і пушчы дзявічыя. Яна простая, як і натура наша: без хітрасці, без подласці — чыста славянская. Яна простая, як і прырода наша без мораў, без гор, без скал, — спакойная, светлая, чыстая, свойская: русінская, як даўней звалі, беларуская — як завём цяпер — «простая», як хацеў бы я зваць заўсёды. Прыпамінае яна мне тыя часы, калі хадзіў па зямлі Пан Светласці — Хрыстос. У гэных часах была мова ўсясветная, мова паэтаў і філосафаў, мова рымская. Не ведаем, ці Ён калі гаварыў гэнай урадовай мовай. Была другая — мова вучоных і фарысеяў: мова габрэйская. Хрыстос ужываў пэўна яе ў зносінах з гэнымі аблуднікамі, вучонымі жыдоўскімі, — але не з народам. І была трэцяя мова, мова званая арамейскай, простая мова людовая. У гэтай мове былі выказаны боскія навукі Няземскага Вучыцеля: Благаслаўлёны ўбогія з духу, бо іх ёсць Каралеўства Нябеснае…

Дзівіўся я часта з тэй прыемнай адналітнасці мовы «простай», бо ці прыйшлося гаварыць з мінчуком, ці з гродзенцам, ці з надвілейцам, — заўсёды знаць той самы дух языка, тое дзеканне, тое самае ўжыванне *а*, што не любіць у адным слове ані *о*, ані *е*, і прымае іх толькі з акцэнтам (прыціскам). Такое акаванне ёсць чыстай уласнасцяй нашай мовы, і змяншаць яго штучна няможна без шкоды для духу мовы. Нідзе не чуў я ў чыстых словах беларускіх літары *г*. Па гэтай літары адразу пазнаюць у маёй старонцы (над Вяллёй) або літвіна, або расейца. Асаблівасцю, сказаць можна, супольнай нашай мовы ёсць *т*, *з*, кароткае *у*, што вымаўляецца амаль таксама, як *в*, а такжа падвойны, канчатак часоўнікаў у 3 асобе на *ць* і *е* (ідзець — ідзе), што асабліва можна спаткаць у песнях чыста беларускіх. Розніцы гаворак беларускіх пайшлі так з прычыны характару самае мовы, як і з суседства з другімі народамі. Ёсць у нашай мове нейкая, як я назваў бы, гнуткасць (флексійнасць), дзеля каторай тыя самыя словы можна вымаўляць на колькі ладоў, залежна ад акцэнту (транслакацыі літараў *о* і *е*). Для прыкладу словы: покуль і пакуль, пойду — пайду, после — пасля, роскаш — раскош, вельмі — вяльмі, зерне — зярно, лепей — ляпей і да т. п. З прычыны гэтай гнуткасці многа слоў іначай вымаўляе не толькі надвялейская,

мінская або гродзенская гаворка, але нават сумежная парафія. Аднак гэта гнуткасць ані на малую макулінку не перашкаджае адналітнасці мовы, а для паэтаў, што пішуць вершы, гэта праўдзівае дабрадзейства. Важнейшыя розніцы спатыкаюцца ў названні саміх прадметаў і часоўніках. Нп.: чыста беларускія словы: сахары — завуць у нас віламі, улёслівасць — грэшнасць, касулькі — праменні, брызы — каронкі, уцяміць — зразумець, летуцець — майначыць (мечтаць), хутчэй, барзджэй — скарэй, тыкеля — толькі, маўляў — казаў бы і г. д. У апошніх часах шмат слоў бадзяецца між нас пазычаных з другіх моў. Прыносяць нам іх найболей з места нашы беларускія «паны» з ляскай у руках, з папяросай у зубах і з пустотай у чубах.

II

Разгледзім цяпер бліжэй акаванне і акцэнт мовы беларускай. Акаванне — гэта ахвота мовы да частага *а* — меркаваць, кілішак, справядлівасць, пачапка, далато. Кажуць, што гэты часты падскок *а* псуе гармонію (згучнасць) мовы. Я ў гэта не веру. Колькі разоў слухаў я па вёсках роднай мовы, дзе гутараць яшчэ без прыкрасы чужых слоў і зваротаў, і надзівіцца не мог тэй меладыйнасці, якая чуецца ў вымаўленні частага *а* і ў лакаванні акцэнту на *о* і *е*. Гэна а вымаўляцца досі скора. Першае толькі, незалежна ад акцэнту, мае на сабе малы працяг. Часам яно вымаўляецца з малым нахілам да *е*. Паводле мяне пробы нашых пісьменнікаў зменшыць акаванне, устаўляючы *е* або *о* (нп.: бялее мест бялея, грамадзянство мест грамадзянства, цярпенне мест цярпення) — не дойдзе сваёй мэты. Літара е можа толькі зменшыць сілу акавання ў такіх словах як: хіляе, іграе, але, або ў слове, дзе ёсць *о*, як шапочэ, у школе; але не ў такіх, як: жаўцея, слабея, махлюя, у небя і да т. п. Урывак верша А. Зязюлі[1] найлепей дакажа гарманійнасці такога акавання.

Жаўцея ліст на ліпах і бярозах
І ціхі валіцца на сумную зямлю,
Кара чырвеніцца на стройных, ценкіх лозах;
Пчала ўжо мёд згарусціла ў вуллю.
У леся грыб вылазіць з-пад зямліцы
І вабіць повідам лакомых ласуноў;
Гарэхі зносяць ў склад вавёркі і куніцы,
Руплівасць знаць у бедных грызуноў.

Акцэнт у мове беларускай заўсёды прымае літары *о* і э (дамок, пагляд, чало, нічога, гарэлка, мяцеліца, Адверд, па крысе). Прызнаўшы тое, што было сказана аб акаванні, няможна знайсці слова, у каторым было б э або *о* без акцэнту, апроч выпадку вышэйшага, дзе мова аб змяншэнні акавання (іграе, хіляе і да т. п.), хіба гэта слова будзе зложанае або чужаземнае. Прыкладам словы: Светавід, беларус, пералом; рэдакцыя (радакцыя, сказаў бы чалавек «просты»), каляндар, энергія, еўхарыстыя, механік і да т. п. Няма дзіва, што, чытаючы «Беларуса», нашы сялянцы ставяць інстынктам нейкім акцэнт на *о* і э. Літары *о* і э не вельмі любяцца, але годзяцца часамі ў адным слове, толькі э заўсёды ідзе ў канец і ўступае акцэнт для *о*, нп.: Божэ, прозвішчэ, падгорле, сакочэ, слонцэ, аконцэ і г. д. Можна, аднак, сказаць, што тутака ёсць трохі штучнасці, бо беларус у гэтых разах вымаўляў бы словы, верны акаванню: Божа, прозвішча і г. д. З прачытанага відаць, што акаванне вымагае, каб *а* асталося ў канцы такіх слоў, як — піва, крэсла, гультайства, бо літара *о* або э прымае заўсёды акцэнт. Таксама *а* кончыць словы: дзялення, цярпення, летучення — дзеля тых жа прычын. Пярэчнікі *не* і *без* змяншаюць акаванне. Прыкладам словы: не знай, не раз, неахвотны, безмала, без сябра, — але ў словах: не вер, не гэты, не йдзі, не было, бяз ведама, бяз гора — акаванне беражэ свайго права.

На полі лён ужо рвуць і абдзіраюць:
Сямення сыпецца галоўкамі з снапкоў,
А там вязуць, ў машулу іх кідаюць,
Паспех відаць у рупных вазакоў.
Куды ні глянь — пустая шыр віднея,
Аржышча збітая, ды ляннішча тырчыць,
І толькі бульба йшчэ дзе-недзе зялянея
Ды сухадрэў на межах ледзь блішчыць.

*А. Зязюля*

Не цурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі:
Мазоль працавітых значок,
Не заразе цябе ён ніколі.

*Ф. Багушэвіч*

## III

Не вельмі трудна нам зразумець, чаму шмат беларусаў перастала любіць сваю родную мову. Рэч тутака простая — бо яна стала сімвалам цемнаты і адсталасці. І ў гэтым самі мы вінны. Хто з нас выйшаў з хаты вясковай — «у людзі», як кажуць, — хто стаўся мешчанінам або якім вясковым інтэлігентам, зара забываўся «мовы простай». Яна для яго злучана з успамінам, як быў ён сам «просты», хадзіў зімой у кажушку, улетку ў кашуліне і змалку ганяў жывёлу доўгай пугай. А во шчасны лёс вывеў яго чуць не на пана. Дакол яго гукаць «папросту» тыкеля т. з. мужыкі — тут і ўся прычына пагарды і здзеку з свайго роднага, наказ свайму сэрцу, наказ свайму сумленню.

Будзьма пэўнымі, наймілейшыя, — покуль мы гэтага фальшывага стыду не зможам, мова наша не будзе мець ані пашаны, ані права быць роўнай між роўнымі. Згэтуль відаць ясна патрэба не толькі падтрымліваць і развіваць наша пісьменства, чытаць пільна, што добрага па-беларуску друкуецца, але самім пісаць і гаварыць «папросту» дзе толькі змога.

Які б дасканальны ні быў язык, мусіць ён, аднак, пазычаць дужа-многа слоў чужаземных. Польскі язык, нп., хоць высока культурны, налічвае болей дваццаці тысяч слоў «обшчых» — чужых. Мы яшчэ маем такіх слоў нямнога. Але з другога боку мы не ведаем, колькі маем слоў чыста беларускіх, бо дагэтуль не маем патрэбных збораў, а слоўнік Насовіча не атрымаў права нормы. Трэба было б, каб хто з нас сабраў усе на лік словы чыста нашыя, без чужой акрасы.

Што датычыцца старэння новых слоў і формаў, патрэбна тут знаёмства славянскіх языкоў і духу нашай мовы. Аглядацца трэба пільна, каб не пазычаць нічога, пад пакрыўкай новага, ад суседаў, калі ж іначай быць не можа — трэ рахавацца з псіхікай і характарам нашых людцаў. Многа хто не хоча лёгка выбачыць нашым пісьменнікам, што ўвялі ў «Беларуса» словы: Спас (замест Збаўца), Найсвяцейшая (Найсвятшая — святы, святшы), Анёл Стораж (Ан. Страж), святы Галаварэз (?), на хрысце (на крыжы), Святое Пісанне (Свят. Пісьмо) і г. д.

Агулам сказаць трэба, што калі мова наша простая, дык і ейная граматыка і складання мусяць быць простымі. Заходы апошніх часоў, каб стварыць язык з найпростшымі формамі (эсперанта), хай будуць для нас навукай. Лепей падцягнуць пад адно правіла многа, чым дзяліць на выняткі.

Спатыкаю часамі прыпады ў друках беларускіх: ноччу, хмараю. Кожны з нас сказаў бы пэўна — ночай, хмарай, бо ў гэтым

прыпадзе канчаюцца ўсе названні рэчаў і асоб (назоўнікі) у жаноцкім родзе на *-ай*, *-ой* — а некаторыя так і так, пр., ночай, начой (на засадзе гнуткасці, аб каторай было вышэй). Ніколі: туччу, ноччу, хмараю. Вельмі арыгінальныя формы знайсці можна ў Сакольскім павеце Гродз. губ. Ёсць там такія звароты: «дай сечкі каней, валей» — «на чорнум твары» — «гавора да мае душэ» — «хвайке, камарэ». Трэба прызнаць, што формы вельмі арыгінальныя і харошыя, прынамсі далёка страйнейшыя тых, што змысляць некаторыя нашы пісьменнікі. У маёй гаворцы надвялейскай такіх формаў я не нахаджу, хоць у казках і песнях старых людзей найшоў многа чыста беларускага.

Другі прыпад лічбы множнай мае канчатак *-ай*, *-ой*, *-ей*. Літары *о* і *е* тут, як і ўсюды, прымаюць акцэнт. Канчатак на *-ай* ёсць ва ўсіх гаворках, там нават, дзе хацелася б, з прывычкі да другіх славянскіх моваў, пакінуць саму аснову слова: хмура — хмураў, дзеткі — дзеткаў, форма — формаў, прамення — праменняў. Прыпад 1-шы тэй жа лічбы ніякага роду мае *-а*.

Вось каб стараліся мы берагчы сваістасць і чыстату сваёй мовы, хутка сталася б яна нам наймілейшай. Каб развівалі б разумна сваё пісьменства, скора зачалі б шанаваць яго і чужынцы. «Не стыдайся падаць ты мне руку, бо на гэтай руцэ няма сказы», — жаліцца беларус у аднэй з паэзіі Багушэвіча. Тое самае можа сказаць да нас наша родная мова. Няхай моладзь наша яе не цураецца. Хай дзеля яе аддае ўсе свае здольнасці і таленты — не будзе яна тады наракаць на нас і называць горкім словам перакіншчыкаў. У яе ж пісьменстве маладым не павінна быць сказ: горычы жыццёвай і палыну, бруду маральнага і смецця. Найболей павінна быць думкаў светлых, хоць часта вельмі сумных — бо лёс наш гістарычны быў сумны, ды і цяпер такі. Адным словам, няхай паўстае такая літаратура, каторая вядзе чытальніка ўзвыш, да праўды і дабра вечнага, а не такая, што рыне яго на дол нізкасці і марнаты.

Праз адважнасць, маладую энергію, любоў роднага, каханне вышшага, міласць вечнага, — мы дойдзем да сваёй мэты: адраджэння саміх сябе і сваёй мовы ў духу праўды і справядлівасці.

Дык жыві ж ты і красуйся,
Наша Маці Беларусь!
Да краёў чужых раўнуйся,
Ісці к табе дзяцей прымусь![2]

*1915*

# ПРАТЭСТАНТЫ Ў ВАЎКАВЫСКУ

Можна табе, браце, у Беларусі па-польску — чаму ж мне па-беларуску нельга?

*Словы з будняй гутаркі*

У маленькім, скрытым ад вачэй вялікага свету мястэчку, у толькі што адабраным касцёле сталася нядаўна рэч страшэнная: ксёндз асмеліўся сказаць навуку да людцоў у роднай мове. Не было б дзіва, каб у Літве сказаў хто навуку па-літоўску, у Шкоціі па-шкоцку — але дзіва, што ў Беларусі па-беларуску, бо ў нас — бачыце — шмат дзіўнага дзеецца; так вось я дзеля таго, як сведка, мушу аб гэтым здарэнні слоў колькі напісаць.

Касцёл у Лапеніцы (п. Ваўкавыскі) калісьці забраны быў на царкву; людцы, усе даўнейшыя ўніяты, сілай і розгамі прымушаны былі да праваслаўя. Хто знае гісторыю, таму ведама, што абрад славянскі ў ваколіцах Ваўкавыска і Поразава пашыран быў шмат больш як лацінскі яшчэ нават на пачатку прошлага века. Але мачыха-гісторыя, здзекуючыся за нешта-нейкае з Беларусі, раздзяліла рукой Масквы людцоў тутэйшых па веры. Даўней тут усё роўна было, куды ішоў чалавек у нядзелю на імшу: у касцёл ці ў царкву — бо тут і там вера была каталіцкая, толькі абрады іншыя. А цяпер — і смех і грэх. Лацiннікі праваслаўных празываюць «рускімі», праваслаўныя лацінскіх — «польскімі». Паймі ж ты, калі хочаш, дзе тут справа веры, а дзе палітыка.

Бедна пакуль што выглядае наш касцёл, хоць будыніна вялізная як на дзіва ўсёй ваколіцы. Пайдзі ў яго ў нядзелю — убачыш, як вялікая частка з тых, што моляцца, кладзе на сябе крыж усходняга абраду і пабожнасцю здзіўляе чалавека. Гэта беларусы і тварам, і вопраткай, і… нядоляй. Адны прадстаўнікі шляхецкай аколіцы чысцей адзеты і шустрэйшыя — чуваць між іх нават панская гутарка.

І вось між такога божага люду крыху знячэўку раздалося роднае слова з амбону, разбуджаючы розныя думкі. Адразу заслухаліся, спаміж другіх — усмехі, бо ведама — «папросту». Але дух нечага даўно ўжо не чутага павеяў між грамадой. Дух гэты завaладзеў. Было гэта асабліва відаць падчас другой навукі, калі па скончанай прамове разлеглося сімпатычнае і моцнае: «Божа, заплаці».

Але недарма дзядзька казаў, што «калі кранеш балота, то і чэрці будуць». Вось тады — як з балота — адна ці дзве бабы — Бог ведае (бо людзі тутэйшыя не ведаюць) — пруць проста ў Ваўкавыск і там, прад якраз тут быўшым з'ездам духоўных асоб, рапартуе… «папросту казанне ксёндз кажа!»… Тым таго і трэба было. Не ўходзячы глыбей у справу, і нягледзячы на выняткавае палажэнне новазаснаванай парафіі, як выспы між праваслаўных, ані на праўдзівае ўражанне, якое вызвала роднае слоўца між слухачоў, здаючыся толькі на свядоцтва брахуноў — пішуць яны пратэст проці заваджэння беларускай мовы ў касцёле. Ды! Мала таго! З пратэстам гэтым дзярэ адзін у Вільню, каб справу здушыць адразу. І пратэст, як слова апініі, абапёртае яшчэ на бабскай дэнунцыяцыі, — спыніў навукі беларускія…

Людцы, дзе мы жывём!

Беларусы ўжо шмат дзе пачулі родную мову ў святыні. — А тут пратэст.

Беларусы маюць да гэтага найнатуральнейшае ў свеце права. — А тут пратэст.

Беларусы, злучаны роднай мовай у святыні, ідуць па дарозе да еднасці рэлігійнага светагляду. — А тут пратэст, гістарычны пратэст!

Божа мілы! Калі ж беларус запратэстуе сам у адзін голас за свае патаптаныя правы, не словам, а чынам грамадскім, бо слова яго дагэтуль слухаць не хочуць — тым больш, што ён не крыкам дамагаецца, а толькі сумна просіць: моліць, як жабрак на ўтрачаным бацькаўскім загоне. А тым часам яго кругом разрываюць, хто куды. Ідзе змаганне не толькі за зямлю яго, лес і воды, але і за тое, што найдаражэйшае: за яго ж душу… Эх, каб вольна было б і мне пратэставаць, я таксама выпісаў бы пратэст, вось хоць бы гэткі:

Беларус пратэстуе проціў плутання спраў веры з палітыкай, каторая рада ўплыву касцёла ўжываць ad majorem gloriam сільных свету гэтага. Ён, стаўшы на аснове самабытнасці сваёй культуры, дамагаецца і дамагацца будзе спаўнення прыроднага свайго права адносна да ўжывання беларускае мовы ў касцёлах. Ніхто яму не дакажа, што права гэта ён утраціў, бо гэта права натуральнае. Беларус, хоць мо вучоных кніг і не чытаў, а добра ведае, што ў касцёле каталіцкім усе мовы роўныя, ці яны завуцца «простымі» ці крывымі.

Беларус — хоць гэтага і не кажа, але ўсё ж з агідай углядаецца, што касцёл на Беларусі стаецца полем да змагання за ідэалы, каторыя, як чужыя, — могуць пакрыўдзіць сваеродную культуру нашу. На яго вось думку найлепей было б, каб духоўнікі, што

працуюць над душой беларуса, не цураліся нашае мовы і нашага народа. Карысна было б тут звярнуць увагу (каб гэта можна было б), што дзеяльнасць некаторых кіруецца выразна да памяшання рэлігіі і народнасці ў адно паняцце. Народ, калі прыйдзе (а прыйдзе калісь) да свядомасці нацыянальнай, зразумее, што быў ачмучан, і зверне свой жаль з асоб на сам касцёл з крыўдай для веры і праўды.

Беларус хацеў бы прад усім светам выразіць жаль да тых суседзяў, каторыя падзялілі народ беларускі на дзве часці, пасвараныя рэлігіяй. Пашлі, Божа, нам такіх людзей, каторыя патрафілі б ізноў злучыць беларуса ў адной веры, у двух абрадах: славянскім і лацінскім. — У сучасным моманце інстытуцыя касцёла апіраецца выключна на масах сялянскіх, і вось беларус хацеў бы, каб і нашы рэлігійныя верхаводы пахіліліся ў старану дэмакратыі, у старану беднага народа, тым больш што так званыя паны сарвалі ніткі лучнасці з народам праз некарысную для яго сваяцкай культуры ідэалогію. (Але ж мала чаго беларус хацеў бы. — Беларус прызывае (няхай Бог бароніць!), каб сябры нашы не бралі каталіцызм у манаполь народнасці чужанецкай, бо ці ж не мацнейшы ён будзе, калі стане на грунце родным і выразіцца ў формах натуральных, а не пазычаных да часу?..)

Словам, ці ж не патрафіў бы беларус пратэставаць і дамагацца! Але вернемся да пратэсту проці мовы беларускай у касцёле. Вось, браты мілыя, калі дзеля гэтага пратэсту навукі ў касцёле гаварыцца перасталі, прыходзяць да мяне тутэйшыя свядомыя беларусы пытаючы: як будзе з казаннем? «Чакайце!» — кажу. Пытаюць пасля праваслаўныя, ці будзе калі яшчэ? «Чакайце, — кажу, — будзе»… Аж не дачакалі пакуль што, — пратэст перашкодзіў; можна, праўда, гаварыць… Толькі за касцёлам; у школе або на вольным паветры. Дзякуй Богу і за гэта. От усё ж такі можна. Гэтыя колькі дзён пачакаем, бо ж з намі свет яшчэ не кончыцца…

Але вучыцеся, людцы! Пратэст гэны зварушыць няхай не адну думку. Ён паказвае нам зусім ясна, што хоць мы і маем права поўнае да мовы роднай у рэлігійных адносінах, то, аднак, да спаўнення гэтага права не дойдзем так лёгка, бо і тут (як шмат дзе) «права ўступіць мусіць прад сілай». Хто згадае, ці беларусам не прыйдзецца хапіцца тых самых спосабаў, якія ўжываны былі ў іншых, так званых «культурных» старонах, дзе людзі не вельмі прасілі, але сваё самі бралі.

Дык вучыцеся ж, людцы!

*1919*

## БУДЗЬ ПРОСТЫМ

Любі шчыра народ свой, бо гэта права сэрца твайго. Не патрапіш любіць Бога каханнем чыстым, не маючы міласці да бліжняга свайго. Не здалееш палюбіць суцэльнай людскасці, пакуль не ўмееш любіць народа свайго, народа нешчаслівага.

Будзь чалавекам дужым не толькі духам, але і целам, бо ў здаровым целе часцей спаткаць і душу моцную. Не давайся благім і шкодным звычкам, як курэнне, ужыванне алкаголю, ігра ў карты і інш. Будзь заўсёды чыстым — роўна душой і целам. Не дапушчайся ніколі граху. Грэх ёсць сумысным ламаннем правоў Божых і цэлай людскасці, правоў розуму і сумлення. Будзь сільнае волі чалавекам, каб не дацца ніколі злой долі, каб вытрываць на дарозе да Бога. Будзь глыбока рэлігійным: пазнаеш лёгка Праўду, асіліш блуд жыццёвы. Будзь справядлівым у зносінах з усімі людзьмі, лічачы братам кожнага. Май для ўсіх мілую ўлослівасць і спагаднасць, асабліва для бедных і нешчаслівых. Не зніжайся прад сільным свету благога. Вартасць чалавека плыве з яго характару трывалага і душы чыстай. Не давай цаны шляхотнасці зманнай: багацтву, гладкасці, спрыту. Не будзь ніколі пустым і легкадушным. Цані сябе і другіх паводле той вартасці, якую чуеш прад Богам і сваім сумленнем. Будзь чалавекам простым і ніколі не выкрыві свайго характару лгарствам, абманам, крыўдай. Не адступай сваёй думкі, калі пэўны, што яна праўдзівая. Але для мілай згоды ўмей другому ўступіць без горычы і злоснасці, астаўляючы свой суд для сябе. Калі спазнаеш, што ты ў блудзе, умей паказна ўступіць на дарогі Праўды, з падзякай таму, хто табе яе прынёс, хоць бы ён быў горшы за цябе. Сваім старшым будзь паслушным.

*1919*

## МАЛІСЯ І ПРАЦУЙ

Усё на свеце жыве ў руху, энергіі. Бязрухнасць пануе толькі ў ніжэйшых твораў, каторыя не могуць выказаць самавітасці ў сусветнай эвалюцыі да быту дасканалейшага. У адвечных адменах на дарозе да Святла і Праўды праца ёсць тым пробным каменем, каторы дае пазнаць нам здольнасць нашу да будавання вечна трывалай будыніны — так паасобнай, як і грамадскай. Праца гэта безупынная натуга нашага розуму, каторы ўсцяж

творыць што-колечы для Дабра, Стройнасці і Праўды. Праца гэта зорны і прыгожы натуг волі, каторая наказуе паўсюдную энергію цэлай нашай істоце. Праца гэта высокая пад'ёмнасць нашага духу, каторы бесперастанна чэрпае высшую сілу засвету, да трывалай дзеяльнасці фізічнага і духовага нашага складу, на карысць сваю, свайго народа, цэлай людскасці. Такая праца гэта праца ідэйная, творчая.

*1919*

## З НАРОДАМ ДЛЯ БОГА

Да Бога — як да самой канцавой мэты — кіравацца павінна ўсё чыста на свеце. Ён Крыніца Дабра, Стройнасці і Шчасця. Ён пачатак дае жыццю, утрымлівае жыццё; дае крэс яму, іншай формай надзяляючы. Сам свет створаны дзеля хвалы Ягонай, каб адбівалася ў ім Сіла, Моц, Хараство.

Найважнейшай справай жыцця нашага — гэта пазнаць Божую Волю і споўніць яе ўсюды і заўсёды: адбіць на сабе абраз; падобнасць Праўды і Справядлівасці Ягонай: знайсці шчаслівасць для неспакойнага духу нашага.

Найглыбейшай і самай апошняй мэтай народа — гэта зразумець прызыў Божы, зварушыцца зухам смелым на дарогу да разумнага і светлага бытавання; жыццём умелым і працавітым здабыць у людзей пашану, у Бога вартасць дзелу вечнасці таемнай.

*1919*

## Ф. БАГУШЭВІЧ — ПЯСНЯР БЕЛАРУСКІ

### Прадмова

Трудна мне пісаць аб Багушэвічу, не маючы пад рукой ніякага матэрыялу. Бо выключаючы тое, што наагул апісаннем Багушэвіча адмыслова ніхто не займаўся, — я яшчэ апынуўся ў такім палажэнні, што нават не маю пад рукой яго ўласных твораў, як, напрыклад, «Дудкі беларускай», але спрабую нешта аб Багушэвічу напісаць, бо ягоныя вершы крышку трымаюцца ў мяне ў памяці.

## 1. Думка агульная

Аб Багушэвічу так маскалі, як і палякі пісалі мала, бо асоба яго, а лепш яго думка прадстаўляе добрую супярэчнасць іхным палітычным заходам. Выходзячы з асновы непрызнавання пасярэдніх народаў між Расеяй і Польшчай, абедзве стараны не відзелі ані ўкраінцаў, ані тым больш беларусаў. Калі даўней «русіны» адпадалі ад той ці іншай дзяржавы, іх заўсёды частавалі адлучэннем ад сваёй народнай асобнасці. І стуль зрадзілася нямала трагедый у гісторыі — нямала разлілося крыві — а найбольш слёз у паняволеных і той затоенай зусільнасці, якая часта нітавалася страшэнным агнём нянавісці, што на ўсё гатова, каб скінуць толькі агіднае ярмо.

Беларус мусіў прыкрыцца. Пастаўлены прыродай між сільных і арганізаваных суседзяў, ён замкнуўся ў сваім асобным светаглядзе, каторы, як замкнуты, стаўся адсталым. А каго не здаволіў той светагляд сваячыны, той пхнуўся да «культурнікаў» усходу ці захаду і назаўсёды пакідаў сваю духовую бацькаўшчыну. Так зрабілі слаўныя калісь беларускія шляхецкія роды падчас старой Польшчы, так зрабілі «чорнасярмяжнікі» падчас расейшчыны, так зробіць яшчэ не адзін ласун чужых пернікаў. І дзівам можна здзівавацца, якім цудам пратрывала Беларусь: што яна жыве, збудзілася і дамагаецца, каб стаць у радзе з іншымі народамі, якія тварылі свой быт ужо здаўна.

Дык што ўсцерагло беларуса ад западання сябе чужынцам? Не што іншае, як, з аднаго боку, адпорнасць беларускага дэмакратызму прад шляхецтвам і ўрадніцтвам, а з другога — дурната і нядошласць (на наша шчасце) чужацкай палітыкі. І не ведаем, якая доля спаткае маладую Беларусь, адно толькі сказаць можам, што яна долю сваю некалі ўловіць у свае рукі. Мо гэта будзе ўжо запозна, але рэч пэўная, што беларус пойдзе іншым шляхам, іншым ад таго, якім хадзіў дагэтуль, а калі яго і далей будуць частаваць перакінствам: быць можа, што цярплівасць яго кончыцца якой катастрофай, у якой, калі ён як народ мае прападаць, то прападзе, як то кажуць, з гонарам.

## 2. Хто Ф. Багушэвіч і той час, калі ён жыў

Багушэвіч, як і яго паэзія, быў фігурай невызначнай, але для Беларусі мае ён не абы-якую вартасць, і вось гэта я хацеў бы даследзіць. Род Багушэвічаў не мінула тая самая доля, якая так многа захапіла сыноў беларускіх і аддала іх на службу

«культурнага» суседства. Калі б хто спытаў, скуль відаць, што такі А. Міцкевіч не быў беларусам, — адкажуць, што сведкам яго творы. Ну, пекна! Так вось з твораў сваіх Багушэвіч паказваецца нам як чысты беларус, і гэта таго нам досыць, каб паставіць яго між сваімі пісьменнікамі, хоць радня яго мо і не прызнаецца да Беларусі. Хоць паэзія Багушэвіча агулам даволі аб’ектыўная, мала ён паказвае з-за яе свайго твару, выгляду сваёй уласнай душы, аднак у ёй знаходзім некалькі сільных выражэнняў, з якіх ён выглядае як беларус — ідэйны і з мэтай, якой не смелі пазбавіць папярэднія беларускія пісьменнікі. Паэзія Багушэвіча дае нам не толькі абразкі жыцця беларуса і яго гора, — яна займаецца яго старанай духовай і, апіраючыся на даных душы «простага» чалавека, але крэпкага духам, кажа: «Мова твая таксама «людская», як іншая, і ты сам такі чалавек, як другія, — а доля твая можа быць найлепшай, як іншых, бо ты выцерпеў больш, як яны: толькі пільнуйся, бо цябе кругом абсела «нячыстая сіла!»…

Часы Багушэвіча — гэта часы трыумфу тэй сілы. Беларус прымушаны пакінуць сваю веру і запрадаць сваё сумленне веры казённай. Мова ягоная прызнана гаворкай (расейскай) і выкінена з жыцця публічнага: нават з адносін рэлігійных. Аднак беларус у глыбіні свайго духу закладае сільны пратэст, а дзе-нідзе мае нат адвагу кінуць слугам царскім вызаў:

…Каб сто катоў
Дралі мне скуру, пяклі на агню,
Я веры сваёй такі не змяню!..
Эй, бійце ж мацней,
Мацнейшы ад веры вашай Мацей!..

А калі напор з боку царскай палітыкі не перастае — беларус, не хочучы застынуць у расейскім візантызме і шукаючы свайго Дажбога, кідаецца да абраду лацінскага, але і тут апякаецца, бо праз польскі касцёл выстаўляе на паняверку, а калі-нікалі і на згубу сваю родную мову.

А тым часам прэ на яго і іншая сіла — гэта няволя эканамічная. Цісне беларуса пан, хоць не ўрадовец расейскі: цісне яго недахват роднага слова не толькі ў школе, але і ў касцёле; цісне яго падатак, бо ён не мае чым яго заплаціць. І вось нядоля ва ўсёй брыдзе сваёй накінулася на беларуса: няма хлеба, няма асветы, няма волі. Дык гэты тры злыбедзі і зрадзілі песню Ф. Багушэвіча: песню, якая разлягласа па ўсёй Беларусі, песня, наруганая чужынцамі, а так мілая сэрцу кожнага беларуса.

## 3. Ф. Багушэвіч як дэмакрат

Багушэвіч у сваім жыцці штодзённым быў дэмакратам; гэта значыць, што ён не аддзяляўся цэлай процьмай ад сялян-беларусаў, як зрабіла ў шляхта нашая. Як адвакат меў ён частыя зносіны з «простым» чалавекам і гэтым самым мог добра паняць склад яго душы. Любілі Багушэвіча ўсе за даступнасць і гладкасць беларускай гутаркі, у якой ён заўсёды звяртаўся да беларусаў. Пазнаў ён як найлепш крыўду, якая дзеялася на беларускай зямліцы, бараніў нашага брата не толькі словам, але і дзелам.

З небывалай вясёласцяй апісвае ён панскую распусту, каторая за нішто прапускае ўсю сваю маетнасць, «каб «жыдам пайсці ў служкі». Гульні гэтыя Багушэвіч называе «задушкамі», то знача канчаткам панавання, і перасцерагае ён селяніна, каб гэты, мест углядацца на тыя збыткі і завідаваць, лепш мовіў бы пацеры за тых, што сваімі ігрышчамі капаюць сабе пагібель. А пагляд гэты узяў Багушэвіч жыўцом з жыцця і ў яго вершах так і адзываецца тая прыказка: «Гулі-гулі ў лапці абулі». Смяецца Багушэвіч з усёй моцы з таго суду над мужыком, дзе адвакат, «як ката дагары, так ён дзела скруціў». Кпіць з той апекі над скацінай, заведзенай панамі.

…І не спадзяваўся і ў сне не сніў,
Што мая кабыла мае апеку…

А тым часам ён — гаспадар, чалавек — ніякай апекі прад неправідлівасцяй не меў.

Натура Багушэвіча простая, спагадлівая — хоць часта жорсткая ў выражэннях, выглядае з гэтых вершаў. Частуе ён беларуса, казаў бы, крышку — зверху— але повен спагаднасці, улёсцівасці.

«Братцы мілыя, дзеці Зямлі — Маткі маёй! — кажа ён яшчэ ў прадмове да сваёй "Дудкі". — …Я шмат дзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова наша ёсць такая ж людская і панская, як французская, або нямецкая, або і іншая якая…»

Вось тутака Багушэвіч зліваецца ў адно з беларусам. І гэта ён робіць далей.

Не дзіва, што народ уважаў яго «за свайго» і смерць яго вызвала шчыры жаль, адбіваючыся шырокім спачуццём па цэлай Беларусі. Бо з ім сышоў са свету першы пісьменнік-дэмакрат, які меў адвагу заступіцца за беднату і паказаць свету нашу крыўду.

Ён пачынае рад пісьменнікаў, што будуць бараніць таксама паняволенага — мо нават харашэй, — але вось у чым не зраўняюцца з Багушэвічам: не абоймуць цэласці беларускай душы. А ён патрапіў гэта зрабіць, што мы ўбачым у далейшым.

## 4. Пагляд беларуса на прыроду і чалавека ў творах Ф. Багушэвіча

Гістарычныя варункі прымусілі беларуса замкнуцца ў сваім быце і, каб не стацца чужынцам, моцна трымацца сваіх абычаяў. Вось у Беларусі найдаўжэй утрымаліся розныя паказкі, у якіх чалавек тлумачыць з'явы ў прыродзе і ў людскіх адносінах. Першыя паказкі твораць свет духу — другія твораць правы маральныя, якія дыктуюць, што можна рабіць і чаго нельга, што робіць чалавека мудрым і што дае яго на паталу благога. Такое незвычайнае адушаўленне сіл прыроды дало б шмат матэрыялу да твораў так званага рамантызму, калі б у тым часе былі ў нас сапраўдныя рамантысты. З багатай народнай фантазіі чэрпаў шмат хто, але ўсё зачэрпнутае пайшло на аздобу чужых галерый. «Дзяды» Міцкевіча ўзяты з тэй самай крыніцы, што «Хцівец і скарб на св. Яна» або «Ехаў раз ад Кіяны». Дух Міцкевіча ўмеў толькі на творах людовых заснаваць свой светагляд, які скоўваў у адзін ланцуг тры так розныя часткі, як польскую, літоўскую і беларускую. Міцкевіч хоць сам, як кажуць, любіў пяяць беларускія песні, нічога супольнага з Беларуссю не мае, — можа, толькі свайго дзеда-беларуса, калі той, не быў літвінам. Другая рэч з Кандратовічам (Сыракомля). Гэты духам і зместам сваіх песняў быў бы чыстым беларусам, калі б ён ды пісаў па-беларуску. На жаль, мусіў ён «зарабляць» вершамі на пражыццё. А хто ж дзе бачыў, каб было можна зарабіць, пішучы тады па-беларуску, калі такі Неслухоўскі або Марцінкевіч пісалі больш для забавы, хоць і ім маленькі грашак не зашкодзіў бы.

Папрабаваў Кандратовіч пісаць па-беларуску, але перастаў, бо і хто б купляў і чытаў? Але затое ж чэрпаў ён грудзьмі поўнымі з беларускай крыніцы паэзіі. Чуць не ўсе яго «гавенды» — гэта чыста беларускі эпас. Як жа, кажуць, маглі б такія вялікія духі змясціць змест свой у так простай беларускай мове? Але аднак Марцінкевіч, хоць без прыраўнання меншы дух, як Міцкевіч, усё ж такі патрапіў аддаць па-беларуску так добра «Пана Тадэвуша», як было ў Міцкевіча па-польску.

А што беларус не развіў сваёй літаратуры дагэтуль як мае быць, — застрэмай былі немагчымыя абставіны эканамічныя і

палітычныя. Быў ён кутнікам у сваім краі: школы сваёй не меў, урада свайго не меў, а нат і зямля, на якой ён спрадвеку жыве, не была ягонай. І развівай ты, калі ласка, у такіх абставінах мастацтва-літаратуру! Нічога дзіўнага, што вызначныя таленты Беларусі ішлі ў прымакі да Польшчы ці Расеі — і пойдуць нат цяпер, калі жыццёвая цяжкая доля Беларусі не зменіцца. А калі і не пойдуць, дык, не могучы падняць роднай мовы, расплывуцца ў золкай міжнароднасці.

Словам, гаворачы дарэчы, трэба сказаць, што душа беларуса выглядае з твораў Багушэвіча поўная фантазіі, поўная сілы, поўная багацця, якога Багушэвіч толькі дакрануўся і толькі паверхна паказаў свету, а якое чакае на нашых песняроў, філосафаў, вучоных, каб было выкарыстана на аздобу і долю беларуса.

## 5. Рэлігія і яе паняцце ў творах Ф. Багушэвіча

Ф. Багушэвіч аддаў свой талент Беларусі — і чэсць яму за гэта. У ягонай паэзіі погляд на прыроду чыста фантазійны. Духі, начніцы, нябожчыкі — вось што напаўняе свет, а яшчэ асабліва ночай. Дый той свет — гэта ўсё роўна, што і гэты: толькі што для нашага вока звычайна неправідны. «Душа — гэта цела ў целе», — праглядае скрозь яго вершы, дзе ён апісвае той свет. «Быў у чысцы!» — ёсць найпершым яго пацвярджэннем.

Там паны і муруюць й гаруць,
Вымятаюць і свінні пасуць…

Справядлівасць там, аднак, лепшая, бо хто на гэтым свеце жыў крыўдай, там мае толькі мукі, раўназначныя да правіны.

Тут паны гультаявалі — там працуюць, ксяндзы тут любілі грошы — там пруць ім золата ў горла, а толькі наш брат там адпачывае, бо:

…На зямлі адцярпеўшы, наш брат
На той свет, як па масле, пайшоў…

Мусіць, мужык там мае асобнае месца, бо, дзе пакуту адбываюць, яго няма.

Мыліўся б, аднак, хто думаў бы, што беларус не мае праўдзівага паняцця аб Веры Хрысціянскай. Ён яго мае, толькі што Хрысціянства мае свой адпячатак у душы беларуса, дзякуючы старой веры ў духі і начніцы. І як толькі згіне яго «прастата»

ці, проста кажучы, цемната, тады станецца больш разумны і хрысціянскі светагляд беларуса, але тады, трэба сказаць, згіне і гэтая небывалая набожнасць, якая цяпер неадлучна ад беларуса, і можа стацца тое, што і сапраўдная думка Хрыстова пачне пакідаць душу беларуса. А гэтага Багушэвіч дужа баіцца. Места — гняздо бязбожнага і маральнага гнілля; дык і не любіць яго Багушэвіч:

Не люблю я места (па-расейску — горад):
Надта там цяснота і вялікі сморад.

Але любіць ён вёску, дзе моліцца чалавек,

…Каб ніколі я панам не быў,
Не жадаў бы нічога чужога,
Сваё дзела як трэба любіў…

«Не баюся нікаго, толькі Бога аднаго», — кажа беларус хвілінай адвагі, але вось пачуваецца да агульнага ладу на свеце, калі моліцца:

…Каб прад нізшым я носу не драў,
А прад высшым не корчыў спіны,
Я свой грэх каб як трэба спазнаў,
А ў другіх каб не бачыў віны…

Рэлігійны настрой з верай у Бога найлепш Багушэвіч апісаў у вершы «Праўда», дзе чуццё песняра даходзіць да найвышэйшага напяцця.

Прасі ў Бога ласкі — адвярні ты, Божа,
Злую нашу долю на сухія пушчы,
Адвярні на камень ці на бездарожжа,
На вялікі ройстры, на пяскі сыпушчы…
…Не пачуў ён енку, не увідзеў мукі,
Крыж уеўся ў плечы, ланцугі у рукі!..
…Прасіў я суседзяў са мной падзяліцца,
Памагчы крыж несці, як з «Богам не біцца».
Абсмяялі людзі мяне, як дурнога…
Там, казалі, праўда, тут тыкеля сіла!..

Нягледзячы на такую нядолю, на такое апушчэнне ад людзей і Бога, беларус не траціць надзеі, толькі з падвойнай сілай усклікае да Бога:

…Пашлі ж цяпер Духа, ды пашлі без цела,
Каб уся зямелька адну праўду мела!

Вялікае таксама ўражанне па сабе пакідае верш «Свая зямля», дзе апісаны мукі беларуса-ўніята, які нізашто не хоча прадаць сваёй веры і за сваю вытрываласць апынуўся ў Сібіры. Пацехай яго там, апрача Бога, быў вузялок з камком роднай зямліцы, якая служыла яму лекам на ўсе хваробы душы і цела.

## 6. Паэзія і яе форма ў творах Ф. Багушэвіча

Чуццё душы Багушэвіча так глыбока, як глыбокае гора беларуса. Хто ж не знае яго песні аб горы, дзе ён так пяе:

Каб мне голас добры мець,
Каб мне гора куды дзець,
Каб жа гора Бог не даў, —
Я б вясёла заспяваў…

І расказвае далей, колькі ён меў бяды з гэтым горам. Дарма кідаў яго ў мора, паліў у анучы, вывазіў у Амерыку — дарма: гора ўсюды ішло за ім, «як штодня».

Або ўзноў колькі ж чуцця шчырага і простага вось хоць у гэткіх словах Багушэвіча:

Ой цяжка; цяжка!
Не сярмяжка цяжка,
Але з гэтай доляй,
А ўсё штораз болей.

Настрой чуцця душы Багушэвіча наводзіць яго часам на думкі-мары, якія, сказаў бы, як тыя хмаркі, лятуць у бяскрэсе на вырай, пакідаючы па сабе сумную знямогу. Такім ёсць верш «Хмары» — поўны задумы і летуцення.

Аб форме сваёй паэзіі Багушэвіч дбаў мала. Мера вершавання падчас у яго дужа кульгае.

Пачуццё чыстаты формы Багушэвіч мае зусім добрае, аднак не дбае дзе-нідзе аб роўнай меры. Верыць не хочацца, што гэта яго памылка, а не выдаўцоў. Найлепш удаецца яму простая форма песні, так што ён і выдавецтвы свае на гэту мэту прызначае. Вершы ў «Дудцы» здаюцца да жалейкі, а ў «Смыку» да скрыпкі. І памінаючы такую песню, як «Сватаная», якую кожная вёска можа сваёй асобнай нотай запяяці, — дачакаліся сярод

беларусаў сваёй ноты «Песня ў горы» і «Не чурайся». Горш у Багушэвіча ідзе з формай гекзаметру, як верш «У судзе». Там верш ламаецца і крышыцца. Адно толькі сказаць трэба, што ў вершах, дзе знаходзяцца гэтыя пахібы, — уставіць досьць, казаў бы, сумысля апушчанае, адно слоўца, а верш будзе гладкі. Вось гэта і наводзіць на думку, што недастачы формы ў вершах Багушэвіча — гэта віна выдаўцоў. Але, не знаўшы рукапісаў, трудна тут апраўдаць нашага першараднага народнага песняра.

## 7. Мудрасць беларуса ў творах Ф. Багушэвіча

Ф. Багушэвіч, апісваючы нядолю беларуса, не мог не закрануць адной з яе прычын — недахвату асветы. З якой ахвотай ішоў бы беларус да асветы, калі б яна была падана ў роднай мове, рысуе верш «Не чурайся». Абурываецца ён найлепш на тых беларучак, што чураюцца нашай беднаты, нашага мазаля і саромяцца падаць нам рукі — той рукі, на каторай не адна ўжо запяклася крыўда наша. Апісваючы з незвычайнай сілай тое смяццё, у якім сядзіць беларус, адначасна кідае страшныя словы здраднікам нашага народа:

…Ты той пот на сябе узваліў…
…Не дзівіся, панок, як жыву, —
Мне ніхто не памог будаваць.
Хоць лянівым у свеце слыву,
А магу свет карміць-гадаваць.
Ты ж пазнаў, што у ксёнжках стаіць:
А там розуму шмат ад вякоў.
І ўсё можаш па ксёнжках рабіць;
А гдзе ж ксёнжка для нас, мужыкоў?
…Каб умеў кіраваць я пяром, —
Я бы ксёнжку счыркаў, як папар,
І б аб тым, як мы сеем, аром,
І як косім, і жнём Божы дар…

«Мне ніхто не памог будаваць» — страшная праўда! Усе, хто валодаў намі, толькі стараліся выссаць з труду нашага найбольшую карысць, а калі ставілі якую будоўлю для культуры, то мералі на свой капыл і на яго кроілі духоўныя і эканамічныя патрэбы беларуса. І вось дзіва! Найперш ботам на той капыл стаўся наш некалішні правадыр грамадства — беларускі шляхціц, а

пасля на той жа капыл пайшоў мешчанін, а ў канцы прыйшла чарада на селяніна. Але гэты схамянуўся, захінуўся, бачачы, як далёка зайшлі шаўцы душ людскіх, і — як Багушэвіч — кінуў сваім правадырам у вочы здраду, і… пайшоў сваёй дарогай.

Не абышлося тут без турбацыі, бо надта ж вялікія рахункі пакінулі тыя правадыры па сваёй гаспадарцы. Але вось часы змяніліся, і беларус, пакінуўшы тых, што яго чураліся, пачаў тварыць новыя асновы жыцця: новае хараство мыслі, новую жыццёвую дарогу. Тады над ім загаманілі «старыя» пагрозай новай продажы роднага краю або нават небывалага ў гісторыі раздзелу. Беларус ухмыльнуўся сваёй звычкай, замоўк — і ўзноў думае, укладаючы намераную дарогу, а вера яго бароніць ад сумнеўку. «Дарага даіцё за душу маю, але няўжо яна не даражэйшая вашых грошай! Трымайце свае грошы: патрэбны яны вам на гулі!»… Ох, гэтыя гулі: затрымалі яны поступ Беларусі на доўгі час!

Складная гісторыя Беларусі — хоць мала хто аб ёй пісаў і мала хто пісаў аб ёй справядліва. Складная яна, калі вырабіла такі характар чалавека, якога тып дае нам Багушэвіч у сваіх вершах. Такі ціхі настрой на вока, а колькі схаванай моцы і сілы; такі журлівы, аж да безнадзейнасці, а колькі светлых думак і мудрасці. Будзьце ласкавы, збярыце з паэзіі Багушэвіча ўсе прыказкі і выражэнні простай народнай мудрасці, а не трэба будзе і Саламона. Можна сказаць без звелічэння, што беларус, не маючы асветы і кніжкі, меў яе, аднак, з самога жыцця, якое вучыла яго, як тлумачыць розныя праявы людскога змагання за быт. Мае ён адкрытыя вочы, каб дзівіць тое стройнае хараство прыроды, якое, паводле яго думкі, мусіць мець нейкага кіраўніка дзеля ўтрымання парадку між тысячамі тысяч стварэнняў. Парадак маральны ёсць так патрэбны чалавеку, што, ломячы яго, чалавек стаецца духова сляпым. У гэтым, устаноўленым Богам ладзе, — паводле думкі «простага» чалавека — найбольш шкоды робяць «паны», гэта значыць людзі, якіх папсавала багацце. Такі пан глядзіць на свет Божы праз шклы, не простым чыстым зорам. «А шклы тыя для туману: праз іх глядзіш, як у дым, жыд сумысля даў іх пану, каб зрабіць яго сляпым».

Так, Багушэвіч сваімі вершамі паказвае, што мудрага светагляду «простага» чалавека не кранула мачыха злая доля: што ён нават у тэй злой долі навучыўся відзець многа з таго, што «закрыта ад вачэй вучоных».

## 8. Ідэя Багушэвіча і ідэя Шаўчэнкі

Ф. Багушэвіча можна лічыць прыхільнікам самавітасці беларускай культуры і дзяржавы. Бо ён чуць не першы адважна заявіў, што мова наша ані расейская, ані польская гаворка — але зусім самабытная, як кожная іншая. А калі мы зусім самавіты, асобны народ, то належыцца нам права гаспадара на сваёй зямлі: са сваёй мовай, сваім урадам, сваёй Цэрквай (Касцёлам).

Багушэвіча можна прыраўняць да ўкраінскага Шаўчэнкі. Адзін і другі сталі на аснове самабытнасці свайго народа. Шаўчэнка толькі выразіў гэта з большай сілай і талентам. Але затое Багушэвіч не пакінуў псіхалогіі рэлігійнай беларуса, падчас калі Шаўчэнка стануў на аснове бязбожжа і даў падклад матэрыялістычны блізу для ўсяго ўкраінскага духу. Не ведаю, ці такі погляд можа мець падатны грунт у душы народа, — хіба не, бо бязбожнасць родзіць самалюбства і забівае ў душы адказнасць за свае пастýпкі. Народ без веры — гэта выдумка, а гісторыя вучыць, што народы гінуць разам з іх багамі. Забіце ў душы народа Бога — перастане такі народ існаваць. Рымляне, калі заваёўвалі які свежы народ — забіралі ў яго багоў, каб тым хутчэй зліць яго ў адной масе сваёй дзяржавы. Хто патрапіць забіць Бога ў душы чалавека — сапсуць яго малітву і працу, — той псуе фундамент нашага розвітку. На шчасце, беларус быў і ёсць рэлігійным, і Багушэвіч, адбіваючы яго душу ў песнях, не мог яго зрабіць бязверцам. Рэлігія засядае ў найтайнейшай глыбіні духу, і нішто не сарве нашых адносін да Бога. Шаўч. паэт вялікі, але песня ягоная вызывае прыкрае чуццё ў веруючай душы не толькі беларуса. Багушэвіч пясняр просты, а яго песня разнеслася па ўсім нашым краі, а дэкламацыя яго вершаў вызывае слёзы ў сялян: так умеў ён залезці ў душу нашага брата. І можам у працы над беларусам ужываць розных спосабаў, але як выкінем рэлігію, справа прапашчая. Кажуць, што чалавек ёсць з натуры рэлігійным. Мо і праўда, але беларус веры ў Бога навучыўся з жыцця. Калі б не вера ў Бога і ягоны Агляд, трэба яму было даўно ўжо зрабіць самагубства. Ён жыве надзеяй у трыумф справядлівасці — а трыумф справядлівасці бязбожнай смеху варты. І вось яшчэ адно. У сучасным моманце, калі беларус не вытварыць сільнай арганізацыі рэлігійнай (Унія) — то небяспечна ідзе ад суседзяў — лёс ягонай нацыі зусім няпэўны (не кажу прапашчы).

## 9. Багушэвіч і беларускае пісьменства

Мы хочам дайсці да высновы ў гэтых увагах, што Багушэвіч быў тым першарадным пісьменнікам народным, ад каторага пачынаюцца адрodзіны беларускага пісьменства. Кажу адродзіны (не народзіны), бо сваё пісьменства мы ўжо мелі. Але тое пісьменства мела нейкі фальшывы падклад, калі прайшло без следу. Пісьменства тое хаваецца ў гроб разам са сваімі творцамі. А творцамі яго былі акурат тыя людзі, патомкі каторых пайшлі ў прымакі да чужацкай культуры. Была гэта перш-наперш беларуская шляхта, каторая, перастаючы быць беларускай, схавала і тое пісьменства ў архівы. Пісьменства рэлігійнае трымалася яшчэ ў зносінах касцельных, але і на яго прыйшоў чарод, калі цары расейскія скасавалі Унію і мову беларускую пастараліся замяніць расейскай. Вось ляжыць тое старое пісьменства ў архівах і ніхто яго не кратае — хіба мыш або які праз пару цікавы вучоны. Ёсць творы там усякія. Апроч актаў урадавых (да канца в. XVII), грамат княжых і каралеўскіх, ляжыць там і тая літаратура царкоўная: памятка змагання Уніі — сваё існаванне. Ёсць там і літаратура прыгожая, у творах якой пісьменнікі шукаюць хараства.

Тое старое беларускае пісьменства не мела падкладу ў т. з. простым народзе — у яго паглядзе, поўным фантазіі на прыроду, — у яго той простай філасофіі: і за тое згінула. А калі рэвалюцыя французская рухнула са сваімі «правамі» чалавека па Еўропе і прымусіла глядзець крышку інача́й і на вяскоўца, тады вочы пісьменнікаў нашага брата. Але, на жаль, не было ўжо каму тады пісаць па-беларуску: адны пісалі па-расейску, другія па-польску. Чэрпалі тады з нашага люду «пёснкі простаче», паказкі і перараблялі на свой лад, а беларус не звяртаў увагі, што яго скарб паэзіі людовай разбіваюць, прысвойваюць: сваіх пісьменнікаў не меў. Аж некаторым сумленне зварушылася і зачалі пісаць па-беларуску. Былі гэта Баршчэўскі, Неслухоўскі, Марцінкевіч, знаныя нашы пісьменнікі. Браліся яны, аднак, за пяро хутчэй для забавы, як з патрэбы: народ яшчэ спаў, або, лепш сказаць, стагнаў у паншчыне. І вось у канцы выступае Багушэвіч — як пісьменнік ідэі асобнасці беларускага народа, хоць яшчэ ідэі няяснай. Раз'ясняць яе яго наступнікі. Стаў ён на граніцы новай эпохі розвітку нашага пісьменства: яго вершы — гэта тое зерне, з каторага мае вырасці нешта моцнае, трывалае.

Па рэвалюцыі 1905 года з'явілася цэлая грамада песняроў з клікам: «Жыве Беларусь». І жыць яна мусіць, не зважаючы,

што значная частка яе правадыроў даўнейшых выраклася яе, як за тую міску шачэвіцы. Народ ім толькі можа жадаць вясёлых гульняў — як на тым «ігрышчы», дзе ў цымбалы б’ець жыдзішча, і дзе ценкія паненкі, і дзе розум вельмі ценкі…

Якім кірункам пойдзе мысль беларуская, па тым развале старога ладу, які распачала другая расейская рэвалюцыя, — будзем бачыць. Маім дзелам было толькі паказаць, што Багушэвіч напісаў хоць мала, але ўдала.

*1920*

## СЛОЎЦА АБ УНІІ

Свет хрысціянскі, апрача навукі Хрыстусовай, развіваўся пад уплывам дзвюх старадаўніх культур грэцкага і (р)ымскага народаў. Народы Еўропы ў жыцці сваім рэлігійна-грамадзянскім бралі асновы з крыніцы грэцкасці або лацінства, іначай Усходу або Заходу.Тварыліся вось дзве формы рэлігійныя — абрады: форма грэцкая (усходняя) і форма лацінская (заходняя). З народаў славянскіх толькі чэхі, а за імі палякі, адразу падпалі пад уплывы Захаду. Іншыя славяне развівалі свой рэлігійны светагляд пад вызначным уплывам Усходу.

Беларусь паложана ў самай сярэдзіне Еўропы, знайшлася якраз *на граніцы гэтых абодвух уплываў*, вось і на жыцці яе рэлігійным адбіваюцца выразліва абедзве культуры. З Захаду ціснуліся да нас установы з Польшчы, з Усходу з Расеі, якая ўзяла на сябе спадак Візантыйскай імперыі. Дзякуючы гэтым дваякім навевам на Беларусь, народ наш не мог так лёгка ўтварыць адналітнага суцэльнага светагляду рэлігійнага, як іншыя. З аднаго боку ішоў сюды лацінізм, з другога праваслаўе. У абапольным змаганні два гэтыя кірункі раз’ядналі наш народ пад узглядам рэлігійным, пасеялі сваркі. Аж народ, баронячыся прад чужой сілай, вытварыў новы светагляд — супольны каталіцызм — адзін па веры — розны у формах і абрадах. Гэта злучэнне ў адной веры, хоць у розных абрадах,наш русняк назваў Уніяй, або аб’яднаннем рэлігійным. Трэба прыдаць, што над гэтай Уніяй (Спалучэннем) працавалі тако ж і ўкраінцы. Вось такім парадкам Унія стаецца: *Верай Народнай Русінаў*, самой прыродай размешчаных міжы ўплывамі абедзвюх культур: усходняй і заходняй. Так не дзівіцеся ж, людцы, што ў нашых часах, калі пачуўся клік: Незалежная Беларусь — адначасна

ў грудзях рэлігійнага чалавека заварушылася сэрца на думку аб *еднасці рэлігійнай праз Унію*. Ідэал наш гэта: *аб'яднанне* лацінскіх беларусаў з грэцкімі праз адзін светагляд рэлігійны. Адна вера: розныя абрады. Адна душа: розныя формы. Адзін народ беларускі са сваім таемным, славянскім містыцызмам. Пры чым жа тут маскоўшчына або польшчына?..

Канчаючы нашае «слоўца» аб Уніі, паставім вось гэтыя агульныя думкі, як выснаў з усяго сказанага:

1. Унія — гэта Вера Народная русінаў: так беларусаў як украінцаў прыродай самой паложаных між Усходам і Захадам.

2. Ані Польшча, ані Расея не створаць рэлігійнага спалучэння, бо адным і другім яно не на руку. Яго вытварыў русін, баронячыся з аднаго боку ад уплыву Усходу, а з другога ад уплыву з Заходу.

3. Беларусы, творачы светагляд адзін у рэлігійнай навуцы, расходзяцца ў абрадах. Але гэта еднасці іх не парушае, бо яны разумеюць, што і Царква і Касцёл — усё роўна, абы толькі быць па веры «аднаго сэрца і душы».

*1920*

## «ДЗВЕ ДУШЫ»[1] МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

У нашай маладой літаратуры з'явіўся твор, каторы — як першая беларуская повесць — павінен звярнуць бачную ўвагу грамадзянства. Повесць наагул — гэта адбітак псіхалагічны данай групы супольнасці, а часам і цэлага грамадзянства. Знойдзеш у ёй змаганне розных ідэяў у кожнай галіне жыцця людскога. Повесць адбівае жыццё з рэальнай і ідэальнай стараны, намячаючы адзін якісь найдужэйшы кірунак, які і служыць развязкай барацьбы. У апошніх часах повесць давала найчасцей абіркі духовага жыцця інтэлігенцыі розных сфер і на гэтым пункце дайшла да канцавога абсурду і маральнага раскладу. Відаць, нешта ў грамадзе людской папсавалася, калі мастакі людскіх настрояў духу не ўмелі нічога маляваць у повесці апроч брыды жыццёвай і гнойна-маральнага. Смак літаратурны так вырабілі прарокі панскае культуры, што гэтакага гатунку повесць сталася кнігай, найбольш маючай уплыў на ўзгадаванне чалавека. І вось да творчасці стылем повесці прыступілі і нашы пісьменнікі. Ці дадуць яны нешта новае, ці пойдуць толькі следам заходніх папярэднікаў? Народ наш знаходзіцца на ўзбярэжжы дзвюх

цывілізацыяў. Ён лучыць Усход з Захадам: лучыць два абрады (грэцкі і лацінскі) у адзін рэлігійны святагляд; ён спалучае два сацыяльныя строі ў адзін жывы арганізм; ён скідае з занятых сядалішч чужых багоў. Так вось і душа беларуса не раз двоілася — і двоіцца дагэтуль. У хаосе духовага аналізу творыць Максім Гарэцкі свет духу беларускага, які еднасці шукае і знойдзе яе без сумніву.

*1920*

## АДРОДЗІНЫ БЕЛАРУСІ І УНІЯ

Адродзіны месцяць у сабе два элементы: мінулы і новы (той, што мае паўстаць разам з быўшым). Адродзіны знаем матэрыяльныя і духоўныя, мысловыя і маральныя. Тое і другое паўстае на грунце працы, а з працы пакаленняў высноўваецца *культура*. Аднаўленне матэрыяльнае народа ёсць падкладам да яго дабрабыту і яго тэхнічнага розвітку, каторы назавём *цывілізацыяй*. Вось падставовыя адродзіны Беларусі ляжаць перш-наперш у спаўненні вядомых задач эканамічных як: 1) Прапорцыя ў валаданні зямлёй, або, іншымі словамі, — раздрабленне вялізных абшараў зямлі на хутарныя гаспадарствы*. 2) Правод дарог водных і сухапутных для ажыўлення зносін гандлёвых. 3) Утварэнне беларускай урадовасці. 4) Заснаванне школ эканамічных для культуры гаспадарства і промыслу і г. д.

У гэтым кірунку пойдзе разгон руху беларускага, калі ён мае мэтаю росцвіт радзімай старонкі. Направа адносін гаспадарскіх краю — з натуры сваёй хлебаробнага — ёсць першазначнай работай на дарозе да лепшае будучыні.

Але я не аб тым. Гаманіць я маю аб важкім складніку культуры нашай бацькаўшчыны, каторы прыдаў ёй асобны характар у гісторыі і вытварыў шмат руху ідэйнага. Не пройдзе без следу ён і ў сучасным змаганні за будучыню, бо хоць многа што змянілася ў жыцці старонкі, аднак *душа народа* змяніцца не магла.

Я маю на мыслі Унію, або з'яднанне Усходу з Заходам пад узглядам рэлігійнага светагляду. Няма нам часу апісваць прычынаў, што стварылі разлад між народамі грэцкіх і лацінскіх абрадаў. Пакажам толькі, што самай важнай з іх была вось гэта.

---

* Аб тым, хто мае гэтага даканаць, не можа быць мовы: *воля самога грамадзянства.*

Народы ўсходнія падпалі пад кнут візантыйскага абсалютызму, а той абсалютызм не мог знесці нікога над сабой, нават зусім праўнага ў хрысціянстве духоўнага верхаводства папежа. І вось бачым, як, з аднаго боку заходняя Царква (рымская) праз сталецці змагаецца безупынна за сваю незалежнасць у справах веры, а з другога боку, усходняя (грэцкая) кансеквента падпадае ўладзе царскай, губляючы духоўную сваю сілу, а замыкаючыся ў перасаднай службітасці для ўрада, каторы і стаецца сапраўдным яе галавой.

Русіны, аднак — назавём так беларусаў з украінцамі, — былі той злучняй, каторая вязала Усход з Захадам. Можа, таму іх палажэнню геаграфічнаму дзякуючы, асцярожны яны былі пад цэзарапапізмам Усходу, з адной, як і пад псеўдарацыяналізмам Захаду, з другой стараны. І таму відзім, што русін у сваім рэлігійным светаглядзе не паддаецца зразу перамозе Усходу, а з вялікай асцярожнасцю лучыць стройны свой абрад усходні з глыбокім догматам каталіцызму заходняга. Кіеўская Русь, з каторай былі ў частых зносінах беларускія плямёны крывічан, дрыгавічан і радзімічан, прымае хрысціянства з Грэцыі яшчэ ў тым часе, калі царква грэцкая была неразлучнаю з рымскай. Пазней толькі паддаецца яна разладу, хоць пробы ўтрымання еднасці трывалі заўсёды, а ў 1439 годзе на саборы ў Фларэнцыі Унія была зноў навязана і трымалася б, калі б не захопліваючы ўплывы паўстаўшага ў тым часе маскоўскага цэзарызму.

*Цэнтрам змагання за з’яднанне*, наагул кажучы, былі землі *русінаў*, так беларусаў, як украінцаў, а найбольш выдатным фактам таго змагання быў сабор у Бярэсці (1595). Ад таго часу спалучаны рэлігійна наш народ вельмі быстра развіваўся культурна, аж захланнасць польскага шляхецтва, з аднаго боку, а маскоўскі цэнтралізм, з другога, палажылі крэс яго рэлігійнаму і нацыянальнаму розвітку. Развой старога рэлігійнага пісьменства і наагул мастацтва прыпадае на 200 гадоў Уніі (1595–1795), то значыць на час, калі беларус, з’яднаны рэлігійна, яскрава вырозніваўся *не толькі нацыянальна* з захоплюючых яго дзвюх сіл палітычных — Польшчы і Масковіі.

Але, можа, не кожнаму ясна, як і чаму змаганне для ідэі (а спецыяльна для ідэі рэлігійнай) развівае культуру мысловую*. Вось трэба ведаць, што рэлігія — гэта справа жыцця і смерці.

---

* Уважны чытач заўважыць лёгка, што слова «змаганне» бярэцца тут у значэнні спецыяльным і не парушае засады талеранцыі, або паважання пераконань чужых.

Раз бо прызнаўшы існаванне Бога і душы, не можам быць легкадумнымі на тое, як хто дбае аб душу сваю, дзе і як моліцца. Нават тыя, што прызнаюць веру справай прыватнай кожнага чалавека, не могуць спакойна аб тэй справе гаварыць, — як аб кожнай іншай прыватнай справе. Жыццё вечнае, або да магільнай дошкі, жыццё ў злуцы з Богам, або ў вечным з ім разладзе; бытаванне без канца, або вечная ністосць, — справы гэты варушаць мыслі ўсіх людзей: або *за*, або *проціў*. Гэта «за» і «проціў» і будзіць змаганне ідэі, а не чалавека, каторы ў душы сваёй маўляў бы: «Для мяне ўсё роўна — быць ці не быць». *Прызнаўшы Бога як адвечнае дабро, пакорымся Яму як прычыне ўсяго добрага і верым, што Агляд Ягоны кіруе ўсім прыгожа*. Зло бачым у нашай волі свабоднай, а да дрэннага нахілянай ад пачатку свайго існавання. Змагаем тады свае злыя парывы і жывём не столькі на карысць сваю, колькі для бліжняга, шануючы ў ім твор божы. «Аддай цэзарава — цэзару, а боскае — Богу», — кажа Хрыстос, т. з. што грамадскага аддай грамадзе, а сябе — бо ты божы абраз — аддай Богу. Сябе ж іначай Богу аддаць нельга, як укладаючы так абычай свой, каб цэлае жыццё сваё было мілым Богу і людзям. Зразуменне абавязку працы для бліжняга, злом параможанага; тужлівасць за злучэннем з Богам, як мэтай апошняй разумнага жыцця, — вось дзе *істота рэлігіі*, вось *тайніца поступу* цэлай людскасці. А такім парадкам рэлігія асвячае кожну справу чалавека і з натуры сваёй уходзіць да ўсіх твораў яго духу, значачы пячаткай або прыязні для Бога, або нянавісці. Прачытайце першу-лепшую кніжку, а ўбачыце, што аўтар, хоча ці не, а мусіць паказаць свае пачуванні адносна да рэлігіі: «за» або «проціў». Рэлігія, лучачы чалавека з засветам, знаходзіцца натуральна ў кожнай важкай справе людскога бытавання.

Выставам душы кожнага народа ёсць пісьменства — літаратура. Кожны народ багатай культуры мае шмат твораў, так вусных, як запісаных, выражаючых, аб чым ён думаў у глыбіні душы сваёй. Вось калі глянем, памінаючы вусныя творы, на нашу старую Беларусь, — то ўбачым, што яе тагачаснае пісьменства датычыць пераважна спраў веры і ляжыць у працах над утварэннем *еднасці рэлігійнай* беларусаў усходняга і заходняга абраду*. І еднасць такая фактычна прыйшла б, калі б не разбіла яе царская Расея, каторая — падобна да даўнейшай Польшчы —

---

* Да таго старога пісьменства можна також залічыць твор польскага вялікага прамоўцы Скаргі — «Абарона Берасцейскага Сабору», — пісаны па-беларуску.

не прызнавала існавання асобнага духу ў нашым народзе. *Але ідэі высшыя мацней лучаць людзей, чым кайданы пераможцы, а Агляд Прадвечны спраўляе ўрэшце трыумф справядлівасці*. Праз русінаў пала шляхецкая Польшча, праз русінаў разваліласся царская Расея, а на тым развале аджыла і Беларусь да новага жыцця*. Раз'яднаная рэлігійна, зняможаная эканамічнай няволяй, асіленая захоплюючым нацыяналізмам суседзяў, яна яшчэ, можа, «маладая ў жылах». Традыцыя мінулых часоў замерла. Патомкі даўных правадыроў адпалі ад народа, а сам так званы «тутэйшы» не ведае нат, хто ён. Тым часам спаць не пара, бо навекі праспаць можна долю сваю. Вялікі вось цяжар спаў на плечы сыноў беларускай вёскі — тых добрых сыноў і дочкаў, што пайшлі да галавы па розум і не прадалі справы чужынцам, смела заяўляючы прад усім светам права беларуса да вольнага быту. Іншыя славянскія народы даўно ўжо кавалі сабе лепшую долю, мы цяпер толькі асмеліліся ўзяць лёс свой у свае рукі.

Забіў расеец у нас ідэі Уніі, каторая служыла злучняй не толькі рэлігійнай народу, але па часці і сацыяльнай. Але гэта не ўсё яшчэ. Палітыка маскоўская дачакала дзіўнага для сябе жніва. Назвала яна каталікоў беларускіх палякамі — і вось польшчына сталася мовай касцельнай усіх каталікоў на Беларусі**. Народ наш каталіцызм і польскасць стаў браць за адно. Любіў каталіцызм цэлай душой, прывык і да польскасці касцёла, уважаючы мову гэту (хоць яму чужую) за нешта быццам святое а высшае ад яго будняй гутаркі. Па веры ён нат гатоў назваць сябе палякам. «Хто ты?» — пытаюць «шкацця» з павета Сакольскага. «Я каталік-паляк». «Ну а мазуры (тыя, што, як вы кажаце, родзяцца сляпымі) — яны хто?» — «Яны? А чорт іх ведае», — адказуе «тутэйшы» цёмны русняк, і няхай жа вас не задзівіць гэта памешанне. Было яно вызнаўкам таго адпору, які даў беларус лацінскага абраду на захланнасць расейшчыны. Маскаль гвалтам пхаў сваю мову і сваю казёншчыну ў рэлігійныя адносіны беларусам праваслаўным і беларусам каталіцкім. Усе гэтыя парадкі зрадзілі нам вялікую бяду, бо творчасць беларускай мыслі рэлігійнай затрымалася на час доўгі. Але ж будзе ўжо канец тэй мандроўцы беларускай паняволі і з Юга на Поўнач і з

* Роля русінаў (украінцаў і беларусаў) у гэтых двух светавых здарэннях дагэтуль мала брана была на ўвагу.

** Каталіцызм стаўся як бы манаполем польшчыны, і беларусы рымскага абраду пісаліся ў Расеі палякамі.

Заходу на Усход*. Адбыла Беларусь крыж і зайшла аж на Галгофу. Перастануць жа калі-кольвек тузгаць Беларусь як нявольніцу: «Ты мая, ты мая». Пратрэ вочы ўрэшце і сам беларус і пакіне тую сумную, скрытую, безнадзейную раўнадушнасць прыбітай душы. Ажыўлены, пазнае ён сілу маральную каталіцызму — і то без таей сувязі з мовай чужой, але ў злучні таёмнасці сваёй чыстай славянскай натуры з рацыянальным дагматызмам навукі Усясветнай Царквы. І дасць ён нам новае мастацтва беларускай мыслі рэлігійнай. Збанкрутаваў культ сілы, гэта дзіця пратэстантызму, збанкрутаваў культ кветызму, што забіў у гішпаніна патрэбу духоўнай трудавітасці, прапаў культ урада (цараслаўе), — няхай жа зажыве *славянскі уністыцызм*, узяты ў рамы догмы вечнажывучага каталіцызму. А той здаровы містыцызм няхай мае сваё ўяўленне ў *славянскім абрадзе*, каторы вырабіўся мнагалетняй працай аб'яднаных русінаў і выражацьме рэлігію *волі і ўчыну.*

Збратанне рэлігійнае беларусаў — гэта Унія (еднасць) у навуцы веры, хоць у двух абрадах: славянскім і лацінскім**. Ідэя аднэй бацькаўшчыны Беларусі спалучае народ целам, Унія злучае душу народа, — а так будзе ён тым жывым арганізмам, для паўстання каторага калісьці праліў кроў св. Язафат Кунцэвіч (1623). Заўсёды найбольшым жахам у нас прад Уніяй быў страх вынарадаўлення на карысць Польшчы, прычым гэта вынарадаўленне аблудна называна лацінізацыяй. Але, здаецца, тыя часы ўжо мінулі, калі рэлігію ўжывалі для дэнацыяналізацыі. Палякам тут можна шмат закінуць, але маскалём яшчэ больш. Першыя сваю захланнасць сфармулявалі выражэннем: «Natione Polonis, gente Ruthenus» (русін родам з нацыі паляк мае значыць). Другія — зусім знаць не хочуць самабытнасці русіна. Тыя толькі ўводзілі мову сваю да ўніяцкіх цэркваў***, гэтыя скасавалі камплетна Унію, а з расейшчынай наваліліся на лацінскія касцёлы.

---

* Браў беларус пугай па плячах ад татара, літвіна, паляка і расейца. Адтуль пайшлі вось якія выражэнні: 1) Такі чорт як татарын. 2) Каб ты ў Вільні горы капаў. 3) Дам у цэркве за грахі, каб загінулі ляхі. 4) З маскалём дружы — камень за пазухай дзяржы.

** Або рымскім і грэцкім, еслі каму так даспадобы.

*** Нядаўныя часы, калі пісалася шырока-далёка аб тым, як мучанікі-ўніяты «засведчылі сваю прыналежнасць да Польшчы» сваім мучаніцтвам (!). Старыя ксяндзы-ўніяты помняць яшчэ пераслед, які спатыкаў іх за тое, што навучалі ў роднай мове (Галіччына). Сумнае гэта непаразуменне.

Што ж беларус меў рабіць? Адны рынулі ў праслаўе, другія, як вядома, прыліплі да польшчыны, ратуючы сваю каталіцкасць. Зводьна звыкліся людцы з гэтым анармальным станам, хоць — дамо ім чэсць — у змаганні за еднасць далі такжа мучанікаў-уніятаў. Каб жа кроў іх бязвінная-чыстая выслужыла сучасным беларусам святое аб'яднанне! Сумнай гісторыяй навучаны, то цяпер будуць яны мудрымі. Бо прэ на нас таксама сіла нячыстая ўсіх старон. Адны ўважаюць рэлігію за рэч добрую толькі да змацнення ў «людзе» так званага патрыятызму; другія хочуць заступіць яе рознымі падробкамі рэлігіі, як культам гонару, этыкай бесканфесійнай; трэція ўрэшце (найгоршыя) лічаць яе перажыткам. Усе гэты мары выстаўляюць свае агідныя рукі, каб ухапіць і згвалтаваць ідэі Уніі. Апроч таго, з Усходу пасуваецца зблуканы дух даўнейшага цэзарызму — рэлігійная анархія. Няхай жа вольная самабытная Беларусь мацуе свайго духу, лучачы брата праваслаўнага і каталіка ў адзін народ, веры ў Бога адной, Цэрквы Хрыстовай адной — дзе ўсе народы роўны і вольны.

Змаганне за светагляд дае шмат твораў у кожнай галіне жыцця. Новае наша пісьменства агулам убогае, а ўжо спецыяльна рэлігійнае. Маем шляхоцка-народнае пісьменства Баршчэўскага і Марцінкевіча, маем дэмакратычна-ідэйную літаратуру найнавейшых пісьменнікаў, але з творамі рэлігійнай мыслі лепей нам схавацыся. Народ наш, праўду кажучы, мо і не вытварыў ані песні чыста рэлігійнай, ані легенды. Так чужа мова скруціла лёт яго фантазіі! Спевы душы павінны выслаўляцца ў роднай мове, той мове, каторай дзіця шчабеча на каленках сваёй маці. Тады адчуванні нашы найбольш свежы, а ўява жыва. І тут ляжыць прычына, што роднай мовы няможна пазабыці, а гаварыць і пісаць у ёй найлягчэй, бо яна плыве недзе з-пад сэрца. Вось у нас паэзія рэлігійная не існуе і не зродзіцца, пакуль мы не зачнём маліцца па-беларуску*. Змаганне за рэлігійнае аб'яднанне Беларусі дасць цэлу галуж літаратуры, літаратуры, разбіраючай справы вагі найвышэйшай. Можна тут паказаць прыклады з гісторыі народаў, дзе змаганне ідэй рэлігійных дало вялікі ўзрост культуры мысловай. Так, век XII быў сталеццем росцвіту літаратуры польскай пад навевам новых думак (асабліва ў справе веры) з Захаду. Змаганне з пратэстантызмам у сваім

* Паводле наказу Рымскага Апостальскага Сядолішча справа гэта залежыць ад волі народа. «Воля народа — воля Бога», — кажуць. Дамагалася беларушчыны ў касцёле горстка інтэлігенцыі. На жаль, веруючай інтэлігенцыі маем мы менш як жменьку…

часе дужа ажывіла і нашу старонку. Прылучылася сюды яшчэ справа Уніі, і вось тады гэта заснавана было шмат друкарняў на землях Беларусі, бо ажывілася праца мыслі. Праўда, што ў тым часе многа дзеелася і благога праз фанатызм дрэнных людзей. Гэта любяць нашы ворагі класці на алтар каталіцызму. Але ведама ўсім, што праўдзівая вера з сляпым фанатызмам нічога супольнага не мае. Адным словам, хацелася бы мне памагчы збудзіць рух на ніве рэлігійнай Беларусі, бо веру, што ён даў бы яе сынам сваё аблічча і змацаваў бы — праз Унію — сілы душы іх. Ідэя вялікая, светазарная — тым труднейшая да спаўнення, што мала хто яе разумее. Але яна ўсё пераможа. Вось вам словы Хрыста-Бога: «Прыйшоў я па тое на свет, каб пусціць агонь, а чаго ж больш хачу як таго, каб ён загарэўся». Агонь, мілыя, гэта святое аб’яднанне ў любові Хрыстовай, што выпальвае з душы бруд нянавісці і разладу. Яно будзе гарой!

Вельмі цікаўнае з’яўленне, што расейцы ў дзе-якіх сферах хіляцца да каталіцка-лацінскага абраду. Вялікае пытанне, ці каталіцка-славянскі абрад утрымаецца ў Расеі. Рэч — на маю думку — простая: ідэю Уніі развівалі русіны, а не расейцы, і дзеля таго яна там не можа запусціць глыбшага карэння, падчас калі між украінцамі — у часах апошніх — дачакала яна нат значнага маральнага пашырэння. З другога боку, здаецца, што і Польшча не мае вялікай ахвоты прапаганды Уніі, бо перастала ўжо гэта даўнейшая «хлопска вяра» мець *спецыяльную закваску*, каторая была патрэбна палітыцы*. Так гісторыя, як і сучаснае палажэнне вучыць нас глядзець на Унію зусім іншымі вачыма, чым нашы суседзі. Іх сучасная псіхіка прымушае нас паддзяржаць Унію як нацыянальную веру русінаў.

Але хацелі б некаторыя бязверцы асіліць ідэі рэлігіі праз аддзел варожы Цэрквы ад грамадскага жыцця і санкцыю атэізму (бязверства). З вышэй сказанага можам лёгка ацаніць гэту работу і знайсці яе жарало. Добра табе, паночку, і карысне быць безрэлігійным: маеш свабоду. Дазволь жа і нам быць свабоднымі і развязаць справу веры як падабаецца. Рэлігійная супольнасць злучаецца без прымусу, сілай самай ідэі або ласкі святога Духа. Хто не жыве паводле яе наказаў, тым самым знаходзіцца ўжо

* Справу Уніі Польшча даўно ўжо ўпусціла, не прызнаўшы русінаў за палітычна раўнапраўны народ. Так званае *вялікае пасольства Польшчы на Усходзе* хутчэй адносіцца да запасу зямлі як да Уніі. Для гэтай справы цэнтралізм шкодзіць роўна варшаўскі, як маскоўскі. Даказала гісторыя, і яна нас вучыць.

за межамі духовага грамадзянства. І наадварот, хто нават не пішацца ў лічбу гэтай супольнасці, а ёсць чалавекам добрай волі, праўдзівай справядлівасці, тым самым належыць душой да Цэрквы Хрыстовай. Аднак для цвітучага розвітку рэлігіі патрэбна вольная арганізацыя веруючых. А выкідаючы рэлігію з грамадскага жыцця як нешта лішняе, сапраўды адбіраем яму канечную для поступу маральнага *свабоду*. Чалавек — бо істота грамадская і рэлігійная (анімал рэлігіозум) — і рэлігія з жыццём грамадскім павінна ісці ў дружнай пары. Штобольш скажу, кожны добры грамадзянін павінен дужа ўспамагаць справу веры, бо яна ёсць той магутнай сілай, што найтайнейшымі і наймацнейшымі вузламі звязуе грамадзянства ў адно цэлае. Павінен ты, браце, добра цяміць тую малітву Хрыстову на першай літургіі: «Каб усе былі адно», і ніколі не ўпасці ў слабасць, уважаючы, як блага людзі робяць. «Майце надзею, — вучыў Хрыстус. — Я перамог свет» (Еван. св. Яна).

Такім вось чынам дайшлі мы да высновы, то Беларусі патрэба не толькі грамадскай уніі-еднасці, але також Уніі рэлігійнай. Мімаходам скажу, не даказуючы, што рух да Уніі павінен зачацца ад інтэлігенцкай моладзі, бо люд «просты» знае дзве толькі веры: польскую і рускую (праваслаўную). Каталіцызм абраду славянскага або выйшаў ужо яму з памяці, або ён да яго не дарос. Так пачатак згары: кожны культурны беларус мае быць прыхільнікам Уніі, еслі ўжо проста не ўніятам.

З колішняй буйнасці, пабаранай праз агідную палітыку беларускіх апекуноў, асталіся толькі крошкі рэлігійнага жыцця (займаючага нас характару). Традыцыя, аднак, аджывала яшчэ перад вайной — каторая такі аграмадны пераварот на цэлай Беларусі ўчыніла, — аджывала, паміма небывалых перашкод для культуры беларускай. Дзеля доказу маёй мыслі цытую апіс беларускай парафіі Хвашчоўкі з Магілёўшчыны. «Парафія гэта лацінскага абраду, але знаюць яе патомкі і тых беларусаў, што калісьці, з прымусу пакінуўшы Унію, пачувалі агіду да казёншчыны. Які велізарны пад’ём духу чуе падарожны ў распаленай пустыні, калі, зняможаны смагай, убачыць здалёку цень лесу — аазіс!.. Такое ж пачуццё перажываў я, прыязджаючы да Хвашчоўкі. Кругом зніштажэнне, упад рэлігіі, вынарадаўленне. А тут адпачывае чалавек… Як цвітучая ааза між другімі парафіямі выглядае Хвашчоўка. Перанесла ўсе буры і поўная веры гарачай асталася.

Стройны касцёл, найвялікшы на Беларусі, ёсць асяродкам парафіі. Вакол яго расселася дзевяць вёсак каталіцкіх. Кру-

гом гавораць чыстай мовай беларускай. Айцы-езуіты калісьці далажылі вялікай працы, каб беларус не страціў сваёй мовы. Выдалі яны беларускі катэхізм, навучалі па-беларуску, вучылі песняў. І цяпер яшчэ кожны ўмее спяяці: «Ах мой Божа, веру Табе. Ва ўсё веру дзеля Цябе». Глыбокае ўражанне бывае, калі вялізная грамада людцоў запяе гэту песню святам, а пекная мелодыя запаўняе цэметар, святыню і аколіцы. Хвашчоўка так добра перахавала свой беларускі характар, што сялянцы дагэтуль убіраюцца ў строі народны. Люд тутэйшы аказаў дзіўную да веры прывязнасць. Ніякія беды не трафілі перамагчы яго. У суседстве знікаюць парафіі, змяняюцца гаспадары касцёлаў або пусцеюць тыя з недахвату пабожнасці. Палі так Дудаковічы, Бялынічы, Княжычы, а Хвашчоўка існуе ў пабожнасці і паслушнасці боскаму праву. «Цераз нашы трупы да касцёла хіба пойдзеш!» — адказалі хвашчавяне грамадой іспраўніку, калі той прыехаў адбіраць ім святыню. І сягоння яшчэ не зменшылася гэта любоў касцёла. Ідуць туды ахвотна, а не чуваць між імі жыцця распуснага, немаральнага.

Многа пробашчаў вучылі тутка народ па-беларуску і так патрафілі прывязаць да веры людцоў, што гатовы былі для яе ўсё ўчыніці. Вялікія святы-фэсты збіраюць у Хвашчоўку цэлыя грамады беларусаў, нават з месцаў далёкіх — бо далёка разышлася слава Дзевы Марыі Хвашчоўскай (з выдавецтва «Naše kościoły»).

Трэба толькі ад сябе прыдаць, што пры гэтых зборах былі даўней і браты-ўніяты, бо беларусы тады былі — веры і Цэрквы адной, а яшчэ біскуп Ісідор мітрапаліт Кіеўскі і цэлай Русі пасля падарожжа на Фларэнцкі сабор пісаў так да ўніятаў: «Заклінаю вас на Госпада нашага Езуса Хрыста, каб не было між вамі і лацінскімі каталікамі ніякага раздзелу. — Уніяты, каторыя ў краях лацінскіх прабываюць або маюць блізка касцёл лацінскі, няхай бяруць удзел у імшы святой, так як бы ў сваёй святыні; няхай сабе і спавядаюцца ў ксяндзоў лацінскіх і з рук іх цела госпада прымаюць. Таксама і лацiннікі павінны ўчашчаць да цэркваў уніяцкіх, слухаць літургіі святой і з верай неабмыльнай чэсць аддаваць Целу Госпада Ісуса Хрыста, — бо ўсё роўна ці яно кансэкравана свяшчэннікам грэцкага абраду на хлебе квашаным, ці ксяндзом лацінскім на прэсным… Лацiннікі таксама няхай спавядаюцца ў ксяндзоў грэцкага абраду і ад іх прымаюць св. Камунію, бо ўсё роўна, у якім абрадзе прымаюць» (Ateneum).

І хацелася б тут пацешыцца словамі святога Ясафата ў лісце да Льва Сапегі: «Есьмо пэўнымі, што Магучы Бог гэтаму дзелу

(Уніі) багаславіці будзе аж да канчатку і кождую перапону ўсуне, без ніякай шкоды для з'яднання, а нават яшчэ з пацехай духоўнай для з'яднаных». А мітрапаліт Ісідор яшчэ па Фларэнцкім саборы пісаў так да ўніятаў: «Няхай жа так станецца, бо гледзячы на ўпадак святога дзела не адзін сумніўся. Мо і нашаму народу суджана даказаць, што кроў мучанікаў не згіне: будзе яна "сяменнем веруючых"».

*1920*

## УНІЯ НА БЕЛАРУСІ

Расказаная ў частцы другой нашае кніжыцы гісторыя Уніі ў Ваўкавыскім павеце мае характар агульнейшы. Падобныя метады наварачвання спатыкаем усюды, бо ўсюды той жа дух царскі гнаў да казёншчыны ў веры — да цараслаўя. Адбіраючы Унію, Расея наганяе беларусаў у лацінізм, а з ім разам і ў польшчыну: падобна як калісь Польшча, наганяючы ўніятаў у сваю казёншчыну, акурат загнала іх у расейшчыну. Бачым вось, як небяспечна ўводзіць палітыку свецкую ў адносіны рэлігійныя. Не наша рэч судзіць тут палітыку ў гэтай справе старой Расеі ці даўнейшай Польшчы. Адна і другая збанкрутавала, бо адна і другая брала справу веры як срэдства да мэты дзяржаўнай: іначай кажучы, для лягчэйшага паняволення слабога народа. А калі беларус кідаўся ў другі бок, то яму казалі: «Не рад мужык, што яго б'юць, — ён яшчэ ножкамі перабірае». Добра характарызуе той царскі нагон на Унію верш Багушэвіча «Хрысцілі мяне казакі з тутэйшага ды ў палякі». Не дарма кажа беларуская прыказка, што «на беднага камара і шышкі валяцца». Нашу нешчаслівую старонку лёс дзіўна спакушаў, кідаючы сюды-туды. То яна лучыцца з Літвой, то з Польшчай, то з Расеяй, то ізноў Бог ведае з кім: не дзіва, што і дзея яе духу рэлігійнага была вечнай вандроўкай. Дасць мо Бог, што зямелька наша здабудзе сабе самабытнасць, тады творчасць рэлігійная пойдзе шляхам родным, натуральным: простым і праўдзівым. Вучоныя будуць яшчэ спрачацца мо аб «filioque», але народ: ён еднасць здабудзе дарогай прасцейшай.

Перш-наперш трэба нам людзей асведаміць, што праўдзівая вера не дзеліць, а спалучае. Шукайма душ… арганізуйма парафіі. Свяшчэннікаў для Уніі дадуць не толькі тыя духоўныя, што ў абрадзе ўсходнім прызнаюць папежа: успамогуць яе

тако ж лацінскія ксяндзы-беларусы, калі будзе патрэба. Гэта нават было б карысным, бо ў розвітку рэлігійна-абрадавым усцерагло б ад цеснаты і візантынізму, каторы спаралізоўваў абрад славянскі, не дапушчаючы ніякай эвалюцыі (як гэта дзеецца ў абрадзе лацінскім, каторы ўмее прыстасавацца да духу часу). Арганізуйце вось парафіі і дамагайцеся аддання цэркваў уніяцкіх, занятых пад іншы абрад. Адважна, хоць і не вельмі спяшаючыся, каб лішне не запудзіць тых, каму яшчэ ўсё сніцца маскоўскі або варшаўскі пернік. Грошы ў нас няшмат. На паноў не можам лічыць, бо іх няма: служаць яны заграпічнаму Дажбогу. Дай Божа ахвоту, а знойдзецца і грашак, тым вартаўнейшы, бо крывавы: сваім потам зароблены. Трэба пашыраць ідэю Уніі, яднаючы прыхільнікаў, стараючыся вытварыць рэлігійнае пісьменства. Узоры можам браць хоць не ўсе, на Уніі ў Галіччыне ўкраінскай, дзе яна ператрывала ўсё, зваліўшы шмат перапон. Часам здаецца мне, што нашу працу ў гэтай галіне жыцця будзе шмат хто агідзіць. Мо нават будуць старацца здзёрці з Уніі беларускую вопратку, як гэта ўжо было раз на працягу яе гісторыі. Шукайма прычыну гэтага там, адкуль, як з жарала, выплывае цэлая наша нядоля. Гэта простая нянавісць да нашае самабытнай культуры і страх, што вось мы перастанем быць матэрыялам да чужых мэтаў, хоць бы ў справе веры. Але раз сонца паказалася над Бацькаўшчынай, асвеціць кожны куточак: адродзіны ў кожнай галіне жыцця пойдуць дарогай прыроднага розвітку, як вясной. А хоць бы нас спатыкалі няўдачы, то і так мы павінны споўніць свой абавязак, не адракаючыся аднаўляць духу нашае Бацькаўшчыны срэдствамі першай рукі. Кажуць, што калісь на свеце запануе адна мова найпрасцейшая, адзін абрад рэлігійны найпекнейшы. Пакуль, аднак, гэта наступіць, высахне не адно возера і рака. Усё магчыма, хоць нямаведама, хто гэтага даканае і як… І Хрыстос успамінаў аб «адной аўчарні і адным пастару» і прыказаў маліцца, каб «прыйшло валадарства Божае». А мо гэта толькі летуценне містыцызму. Патрэбна была б доўгая эвалюцыя ў збліжэнні ўсіх абрадаў, усіх народаў, усіх культур, асабліва маладых, што цяпер усходзяць і красуюць. А наша маладая культура пачынаецца разам з Уніяй, а і ў прошласці развівалася найбольш пры Уніі. Лацінскіх касцёлаў беларускіх пакуль што няшмат. Але лік іх звялічваецца. Няхай толькі з'явіцца хоць адзін уніяцкі, а будзем бачыць, як народ пачуе еднасць па веры. Мова супольная паможа зблізіцца. Разумее гэта, як чуваць, і айцец папеж у Рыме, а хоць і далёка

нам да яго, аднак жа будзьма пэўнымі, што паможа ён даць разгон справе Уніі.

Агляд Божы дапусціў раздзелу-схізме рассесціся на нашай слёзнай зямельцы, але ўхаваў беларусаў ад супольнага вынарадаўлення, насупроць палітыцы «сільных свету гэтага». Калі ж ныне бліснула свабода для роднага краю, маем права і павіннасць дамагацца ўсюды роднае мовы дзеля Божай хвальбы: без розніцы абрадаў усе, хто сын Беларусі. Ёсць шмат такіх, што здаволены з мовы чужацкай па святынях Божых. Пакіньма іх, калі можна, каб не збудзіць горшага зла: сваркі за мову. Аблуд іх пройдзе сам сабой, як убачаць мастацтва роднае формы і абраду. Мы тым часам тварыйма і мыслі новыя замыкайма ў формы рэлігійнай песні, навукі, музыкі. Як беларусы душой ніколі не дазволім, каб гэта ж душа наша выражалася прад Богам у форме чужацкай, хоць бы нямаведама як «цывілізаванай». Было б гэта, па-нашаму, крыўляннем роднага духу. Творчасць наша рэлігійная не павінна стрымацца. Зачалася яна разам з Уніяй, а кончыцца хіба разам з намі! Поступ Уніі вяжацца з існаваннем самой Беларусі. Еслі лёс Беларусі спачне ў чужых руках, Унія сысці можа на тую дарогу, па каторай яна раз дайшла да пагібелі. Некаторыя зусіллі праваруч і леваруч наводзяць нас на думку, што нашы «культуртрэгеры» маняцца нам накінуць такую Унію, каторая, не маючы карэння ў роднай душы, магла б стаціся прычынай новых змаганьрэлігійнага шавінізму. Няхай Бог бароніць! Мы жадаем Уніі для беларусаў такой, каторая дала б спосаб аб'яднання праваслаўных беларусаў з каталіцкімі ў адной веры, а двух абрадах, а не такой, каторая стварыла б новы раздзел. Словам, па ўніяцкіх цэрквах мы не сцерпім ані расейскай мовы, ані польскай: для беларуса па-беларуску. Смеху было б варта, каб мы, дачакаўшы сякой-такой свабоды роднага краю, завадзілі ў ім чужыя ўзоры на сваю пагібель, — калі маем столькі бяды з заведзенымі даўней. Даволі нам і так цярпення з таго, што шмат лацінскіх беларусаў, а яшчэ больш грэцкіх, звыкліся ўжо з чужацкімі мовамі і не думаюць аб страшнай ненармальнасці такога стану. Нават дзікім народам навуку аб Богу нясуць місіянеры ў іх роднай мове, а першым Апосталам Бог удзяліў цудоўнага дару, што мова іх была зразумелай усім, хоць была гаворана ў адной гутарцы. Мы, творачы асновы рэлігійнага жыцця, не можам даць пачатку дрэннага. А дрэнны быў бы пачатак, еслі б завялі мову чужацкую, бо пазнейшыя пакаленні — прыйшоўшы да нацыянальнай свядомасці — мелі б лішнюю бяду з дакананнем змены… Дай Божа, каб хутчэй

кончылася тое крывавае змаганне за беларуса між культурай польскай і расейскай на нашай «Богам забытай» зямельцы. Дай Божа, каб і наша родная культура стала на давольнай вышыні і магла б самавіта кіраваць усімі праявамі нашага быту. Дай Божа, каб абрад славянскі даў нам новае мастацтва беларускай мыслі рэлігійнай, музыкі і слова. Дай Божа ўрадаві беларускаму звярнуць увагу на глыбокае значэнне Уніі для Беларусі і не даць яе на паталу бязверцам. Дай Божа зацвіцеці Уніі на Украіне. Дай Божа спаўненне слоў малітвы: «Прыйдзі валадарства Тваё, будзь воля Твая як на небе, так на зямлі…»

І скуль жа чэрпаем нашу надзею, наш энтузіязм аб Уніі? З народа — з яго да глыбіні рэлігійнай душы, здатнай да адчування праўды дарогай прасцейшай, чым галаве запутанай у зманныя формулы шкалярства. Адродзіны нацыянальныя Беларусі — як бачым — спачылі ў народзе пераважна сялянскім. Патомкі даўнейшае шляхты і частка мяшчанства для справы гэтай меней-болей засохлі, еслі ўжо проста не скалавацелі[1]. У «простым» народзе пачывала тая энергія, каторая ў нашых часах зацвіла дзелам. Нідзе ўпрочках не шукаем і адродзін рэлігійных. Во, наагул кажучы, людцы нашы служаць фундаментам рэлігіі. Мяшчанства, следам буржуазіі, даўно ўжо перастала быць — як то кажуць — «забабонным». Патомкі даўнейшай шляхты — найчасцей атэісты і рознага калібру няверцы — прыдзержываліся рэлігіі толькі дзеля практычнай патрэбы, прызнаючы, што ў аснове сваёй рэлігія патрэбна толькі «простым»: што з ёй помачы лягчэй утрымаць «stan posiadania»[2]. Тым часам чалавек «просты» верыў так, як вучыў Хрыстос: «Багаслаўлёныя, што церпяць пераслед дзеля справядлівасці». Вось гэты «люд просты» — народ беларускі — і збудзіць Унію: ён або ніхто. Будзе яна вызнавам наступальным яго духу рэлігійнага — духу, каторы ў глыбіні сваёй не зламаўся прад згаршэннем, якое далі вышэйшыя станы; дух, каторы моцны быў у змаганні з цараслаўем; дух, каторага мучаніцтва не апісаў яшчэ ніхто.

* * *

Цяжкі быў лёс Уніі, але няхай гэта вас не дзівіць. Даўней развівалася яна пад сільнай заквасай думкі палітычнай польскай. Вялікі прапагатар Уніі Пётр Скарга сам гэта прызнае: стараецца ён праз Унію з’яднаці русінаў назаўжды для Польшчы. У гісторыі Уніі дзіўна сплятаецца гэта думка палітычная з ідэяй

чыстай рэлігіі: пашырэння валадарства Хрыстоса. Тая думка палітычная прынесла ў канцы мест згоды разлад: узгорду для веры «хлопскае»; а пасля моцную паланізацыю, каторая была найслабейшай стараной Уніі, бо супраціўлялася самой натуры этнічнай русінаў. Палітыка гэта, аднак, па часці дайшла сваёй мэты. На сваіх рубяжох («крэсах») Польшча мае даўнейшых уніятаў, каторыя лічаць сябе найчысцейшымі палякамі (Холмшчына і Падляшша). Не дзіва, што даўнейшая Унія, маючы ў сабе зарод смерці, не магла пасля вытрымаць напору царызму і паддалася загубе: не была абапёрта на прыродным грунце. Шмат беларусаў махнула на ўсё рукой і пайшлі на службу казёншчыны. Іншыя аднак, — калі не пайшлі ў рымскі абрад, — затаіліся і чакалі лепшых часаў і… дачакалі, але ўжо ў пакаленні, дзе традыцыя Уніі аслабела. Гэту традыцыю збудзіці выпала сучасным беларусам. Што палітыка зрадзіла, тое згінула ад палітыкі: «Хто ваюе аружжам, ад аружжа гіне». Ані старая Польшча, ані старая Расея не пазнала праўдзівых момантаў, зложаных у ідэі Уніі, бо тая і другая бралася крышку з бруднымі рукамі да гэтай справы. Адна мела дрэнны намер, будуючы Унію, — другая яшчэ горшы, калі яе крышыла ўдрэбезгі. Унія на Беларусі павінна паўстаці з акту самавітага нашага народа, а не пад загадам чужой волі, каторая пастараецца паставіць яе не на грунт сваяцкі, але ізноў на капыл палітыкі. Беларусы павінны прылажыць цэлае зусілле, каб да такога паняволення не дапусціці. А для завязання першага вузла аб'яднання павінны ў беларускай школе вучыць аднаго катэхізму з літургікай абодвух абрадаў, бо абодва роўныя, і добрыя, і пекныя.

Беларус, прыбіты сумнай доляй, страціць шмат, еслі стрымаецца ад заявы праў сваіх культурна-рэлігійных у тым часе, калі іншыя народы голасна выказваюць усе недахваты ў арганізацыі касцельнай. Некаторыя, на нашу думку, ідуць аж задалёка. Славянцы, прымерам тым, дамагаюцца (як чуваць) у папежа літургіі св. Кірылы і Мяфодзія, чэхі пайшлі яшчэ далей: жадаюць суцэльнага ўнарадаўлення чэшскага касцёла. Куды ж нам! Мы яшчэ мусім даказваць патрэбу роднай мовы ў зносінах рэлігійных… Адсталасць ці недалужнасць?! Вось і цяпер даўнейшыя ўніяцкія цэрквы пайшлі на касцёлы. Ну, няхай тым часам! Але чаго ж там госціць мова чужая?! Як беларусы ўсюды захавалі сваю родную мову і не спольшчыліся, як то, для прыкладу, украінцы на Холмшчыне. У гэтым выпадзе трэ было б дастасавацца да права натуральнага, а не да права дужэйшага. Права ж прыроднае кажа нам шырыць ідэі рэлігійныя ў роднай

мове народа. Здаецца, не трэба і даказваць, што мы тут маем маральную павіннасць адкрываць народу вочы, каб ён не даваўся ізноў «рабіць новы хрост» з «тутэйшага» ды ў чужакі — пры помачы рэлігіі, узятай за срэдства палітыкі казённай. Сумна нам аб тым і думаць, і гаварыць, што на Беларусі рэлігію праз цэлыя векі запрагалі ў каламажку палітыкі, каторая цягнула ў старану Масквы або Варшавы. Дзякуй Богу, што каламажка вывернулася.

Але ведай усё гэта ты, «брат слёзнавокі», і выснавы свае парабі для дабра веры Хрыстовай і такжа сваёй айчыны, дзе мае наступіць аб'яднанне братоў, пасвараных і падзеленых.

Ныне, калі мы ўзяліся да будавання Беларусі з роднага матэрыялу душ русняных, рэлігію нашу мусім ачысціць ад нагнёту сілы чужацкай, што найглыбейшыя ідэалы падбіла пад ярмо сваёй матэрыяльнай карысці. Ці ж не сумна чытаць падручнікі гісторыі Уніі, выданыя з тэндэнцыяй усходніх або заходніх «культурнікаў». Проста гідка. Адны абсміхаюць усё наскае, хоць бы нат святое; другія чаўпуць, як у малігне[3], што ўніяты сваім мучаніцтвам баранілі польшчыну прад захланнасцяй расейшчыны. Так мучаніцтва за веру абярнулі на мучаніцтва за палітыку. Мо гэта і было ў месцах, дзе і з Уніі зрабілася «польска вяра», прымерам, на Падляшшы. Аднак беларус ведае, за што церпіць. «Мы, — кажа, — падаткі плацім, рэкрута даём, але вера — гэта справа нашага сумлення». Праўда, што расейцы ў гэтым адпоры бачылі «польскую інтрыгу» і не раз частавалі «бунтаўшчыкоў» назовам «польскае сабакі». Але гэта памяшанне спраў палітычных з рэлігійнымі выплывала — як ведама — з таго дурнога распарадку, што трэба ўсіх каталікоў лічыць палякамі, а ўніятаў даўнейшых маскалямі. Мы ўжо бачылі, як гэта палітыка помсцілася пад Масквой коштам беларусаў. Указы ішлі сваёй дарогай, а жыццё сваёй. Палітыка ў сваім грунце хацела расшчапіць беларусаў на дзве часткі і затапіць так іх у моры свайго ваюючага нацыяналізму, і то суцэльна, а значыць і з рэлігійным светаглядам. Жыццё ішло іначай, і падчас вайны адна і другая старана прызнала, што, аднак, беларус нешта не тое, што яны думалі… Так. Беларус астанецца беларусам і, думаючы аб яго рэлігійным аднаўленні, апірайма сваю дзеяльнасць на яго натуры самабытнай, а не на той, у якую стараліся і стараюцца адзець яго рахманыя апекуны.

*1920*

# КУТОК АБ УНІІ

Унія — гэта аб’яднанне Усходу з Захадам пад узглядам рэлігійным, іначай кажучы: адна вера ў розных абрадах. Найважнейшай прычынай разладу між грэцкімі і лацінскімі народамі была шведская палітыка, каторая ўжывала справу веры дзеля сваіх заборчых мэтаў. Чым болей свабоды мае рэлігійная супольнасць у справе веры, тым бліжэйшая яна да аб’яднання. Царква рымская (лацінская) была ў гэтым пад першымі варункамі. Мы бачым, як яна з удачай змагалася і змагаецца за сваю незалежнасць у справах веры. Падчас калі Царква грэцкая (славянская) падпадала цэлымі вякамі пад урад царскі, губляючы сваю моц у лішняй службітасці для цароў, каторыя нават асмельваліся браць на сябе духоўнае верхавенства. Але вось русіны (назавём так беларусаў і ўкраінцаў) былі той злучняй, каторая вязала Усход з Захадам у нашай старане. Мы бачым на працягу сваёй гісторыі цікаўнае з’явішча. Русін у сваім рэлігійным светаглядзе неахвотна паддаецца перамозе Усходу ці Захаду, ён лучыць стройны абрад усходні з глыбейшым догматам Захаду. Ён змагаецца за еднасць. Асновай гэтага змагання была старонка, паложаная ў самай сярэдзіне Еўропы — Беларусь, а найбольш выдатным фактам змагання быў сабор беларуска-украінскі ў Берасці 1595 года. Думка Уніі, умацаваная ў Берасці, быстра развівалася, спалучыўшы народ абодвух абрадаў: аж пыха польскага шляхецтва, з аднаго боку, а маскоўскі цэнтралізм, з другога, спынілі яго рэлігійнае, а пачасці і нацыянальнае развіццё. Сталася вялікая бяда. Творчасць мыслі рэлігійнай беларусаў затрымалася на доўгі час.

Але думкі вышэйшыя мацней лучаць людзей, як кайданы пераможцы. Праз русінаў пала шляхецкая Польшча, праз русінаў развалілася царская Расея. На тым развале аджыла і Беларусь да новага жыцця. З сільным разгонам ідзе яна да тварэння роднай культуры, да будавання новага святлейшага жыцця. Рэлігія як адна галіна культуры агульнай не стане назадзе. Беларусы пачуліся братамі без рознасці на абрады. А гэта найпершы шаг да Уніі. Думка адной Бацькаўшчыны-Беларусі злучае народ цэлым! Унія злучае душу народа. Няхай жа вольная, самабытная Беларусь мацуе свой дух, лучачы брата праваслаўнага і каталіка ў адзін народ веры ў Бога адной, Царквы Хрыстовай адной , дзе ўсе роўнымі братамі звацца будуць.

* * *

Якую карысць дасць нам Унія? А вось якую. Возьмем хоць бы нашае новае пісьменства. Маем шляхоцка-нороднае пісьменства Баршчэўскага і Марцінкевіча, маем дэмакратычна-ідэйную літаратуру найнавейшых пісьменнікаў, але з творамі рэлігійнай мыслі лепш нам схавація. Народ наш, праўду кажучы, не мог вытварыць ані песні рэлігійнай, ані легенды, бо чужацкая заборчасць, адбіраючы ад яго родныя формы, скруціла лёт яго фантазіі. У касцёлах і цэрквах Беларусі пануе чужая мова. І за тое народ наш не творыць, але толькі бяздушна паўтарае, бо тварыць можна толькі ў мове, каторай дзіця шчабеча на каленках сваёй маці. У нас паэзія рэлігійная не існуе і не зродзіцца, пакуль мы не пачнём маліціся па-беларуску. Змаганне за рэлігійнае аб'яднанне Беларусі дасць нам цэлую галузіну літаратуры. Тады пратрэ вочы наш брат, пазнаўшы сілу маральную праўдзівае веры. Дасць ён тады новае мастацтва рэлігійнае мыслі, а чужацкая «культура» не будзе ўжо тузаць бедную нявольніцу: «Ты мая! Ты мая!» Беларус тады выявіць свой адвечны здаровы містыцызм, творачы ў славянскім абрадзе рэлігію волі і чыну для дабра чалавека, у жыцці па гэтай і па той старане гробу.

*1921*

## АБ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

Песня — гэта твор духу людскога, у каторым ён, у форме простага меладыйнага верша, замыкае свае думы — журбы — радасці — гора. У песні, як у люстры, адбіваецца жыццё чалавека, з яго звычкамі, настроямі, норавамі. Сумны чалавек — і песня яго сумная; вясёлы — і песня яго радасная. Настрой душы чалавека падае яму адпаведныя песняў матывы. Таксама і цэлы народ. Якім бытам жыве ён, такую і песню складае. Калі жыццё яго цяжкая нядоля, то і песня яго будзе гаротна-сумна. А як жыццё яго плыве — бы тая рэчка — і роўна, і спакойна, то і песня яго пяяць будзе аб шчасці на ўлонні прыроды ў роднай вёсцы, сям'і, аб спакоі, які ўлівае ў душу вольнасць ад бураў і жыццёвае няўзгоды. Кожны народ мае сваю гісторыю; кожны народ мае свае песні, у каторых пакінуў жывы помнік перажытых хвіляў — падчас вельмі трудных. Пакінуў такі помнік і народ беларускі: народ, «забыты людзьмі і Богам», як кажа адзін наш пясняр. Дабыць гэты песні на святло культуры,

падняць на вышыню інтэлігентнага артызму — як у слове, так і ў музыцы — вось пекная задача нашых маладых мастакоў. Ад душы выліваў беларус песні свае, балела яна праз вякі; у слязах крывавых тварыў ён свае песні даўней і творыць цяпер; а хоць цяжка глядзець на тыя абразы, якія творыць дух ягоны, так як цяжка глядзець на пажар у цёмнай ночы — мы зірнём, аднак, хоць здалёку на гэтае пажарышча людскога ўчуцця. — Пачнём ад найбяднейшай песні — *рэлігійнай*. Беларус мае помала песняў рэлігійных… Доўга аб гэтым гаварыць. Ад часу скасавання Уніі на Беларусі і забароны мовы беларускай у касцёле (1839) не чуваць ужо творчасці ў рэлігійнай песні. Жалоба пакрывае гэту галіну жыцця: у царкву лезе расейшчына, у касцёле пануе польшчына. У народзе перахоўваецца яшчэ традыцыя гэтых песняў. Але гэта зблытаныя асколкі даўняга будавання. Адна толькі: «О мой Божа, веру Табе», дайшла да нас у чыстаце свайго настрою. Адна яна і лучыць рэлігійную мінуўшчыну з сучаснасцю. Гэту рэліквію перахавала нам Магілёўшчына (Хвашчоўка). У новым пісьменстве песня рэлігійная не мае пакуль што ніякай (на жаль!) арыгінальнасці: тлумачэнне і наслед чужога…Чыста людовы характар маюць паўрэлігійныя песні пры пахаронах (хаўтурох). Пеючы іх жалобна, плача кабета («галосіць», прычытае) над нябожчыкам, апісуючы яркімі фарбамі гора сваё, успамінаючы мраца добрым словам. Гэты «прычытання» поўны паэзіі, а прыраўнання бываюць проста цудныя. Часта бедная жанчына ў прыпадзе вялікай жалосці сама творыць песню, без угляду на прыняты шаблон. Такая імправізацыя людовая вызывае вельмі сільнае ўчуцце і даводзіць да слёз кожнага. У ёй аб’яўляецца найбольш інтэнсіўны лірызм народны (pałos). Тут скрываецца прычына, дзеля якой нялёгка было духоўным культурыстам выводзіць з хаўтуроў стары абычай прычытання. Выводзіўся ён з глыбіні душы і быў адной з дарагіх формаў праяўлення народнага містыцызму. Гэту форму рэлігійнай лірыкі выцясняе не столькі заведзеная чужацкая песня, колькі мода так званых культурных цэнтраў, дзе абрады хаўтурныя зводзяцца да… крэматорыю. Сумны звычай, аднак, яшчэ прымушае нат «паступовую шляхту» галасіць над нябожчыкам, «каб не гневаліся сваякі». Звычай гэты мае сваё хараство, калі мы на яго глядзім з боку народнага мастацтва. Па песнях *хаўтурных* успомнім так званыя песні *валачобныя*, каторыя пяюць «валачобнікі» на Вялікдзень. Народны элемент у іх сільны, хоць у апошніх часах уступаў ён ужо пад напорам усялякіх больш модных віншаванняў, пазычаных ад больш «цывілізаваных» суседзяў.

Шчасцем нашы этнографы паспелі сабраць шмат матэрыялу з часаў даўніх, не даючы такім парадкам загінуць цікавым прымернікам народнага мастацтва (Раманаў, Федароўскі, Карскі).

Найбагацейшыя мелодыяй і зместам гэта песні бытавыя. Да іх належаць: песні хрэсьбінныя, калыхальныя, юнацкія, вясельныя, песні пры рабоце, песні да танца, на розныя поры году і святы (Каляды — Радаўніцы — Купалле — Дзяды), аб долі і нядолі жаноцкай, песні-байкі і інш. Песні на хрэсьбіны і вяселле маюць характар гульні, часта вельмі распуснага зместу, асвечанага гарэліцай. Так званыя «частушкі» пашыраны ў форме прыпевак скрозь на Беларусі. Маюць часам бяздонную пустату, з гумарам апранутую ў форму хараства. Мелодыі са «зборнай суботкі» да свацці, сватоў, маладой, закосніка, вазілы, музыкі — вырозніваюцца багацтвам музычнай структуры, і будзе вялікая шкода, калі нашы артысты дазволяць ім загінуць або аддадуць на рабунак чужынцам, як гэтага ўжо былі сумныя прымеры. Трэба прыдаць, што хоры вясельныя (найчасцей з дзяўчат) патрафілі дагэтуль прыхаваць чыстату мелодыі, хоць варыянты спаткаеце ўжо ў кожнай ваколіцы.

Песні-*калыханкі* пры калысцы поўны матчынай любасці і неспакою аб долі дзіцяці. Добра перадаў іхныя матывы Багушэвіч:

Люлі, сынок, люлі-люлі,
Усе курачкі паснулі.
Ох паснулі і курчаткі,
Пад скрыдэлкам сваёй маткі…
А ты чаго не спіш, сынку,
Як бы чуў ліху гадзінку…

У песню гэту ўлівае маці ўсю знямогу няспанай ночы дзеля мілага дзіцятка. Юнацкія песні — гэта песні моладзі: любоўныя, танцавыя, ваенныя. Ёсць між імі праўдзівыя перлы, хоць па зместу мараліст найшоў бы ў іх мо зашмат свабоды, якая зусім зразумела ў прастаце быту, блізкага прыроды. Прыпеўкі да танца выражаюць ігру слоў, гульню пабуджанай рухам фантазіі:

Шах-мах таўкачыкі,
Шах-мах дубовыя,
Да работы гатовыя,
Сем лет бадзяліся,
Ў аднэй ступе сабраліся…

Песні любоўныя — у пару, калі «галава ад думак на тры часці лопаецца, а сэрца на дзесяць» — адзначае наагул сільнае ўчуцце; пры гэтым песні дзявочыя найчасцей жаляцца на зменлівасць сэрца мілага. Тужлівасць, неспакой, радасць — вось учуцці, якія выражае гэтага роду песня. Прыродная сарамлівасць маладога сэрца не зрадзіла ў нашай песні народнай грубога эратызму. Ёсць затое ў ёй глыбіня і адчуцце тым большае. Ваяцкіх песняў няшмат, бо традыцыі мілітарнай народ наш (няхай дзякуюць Богу пацыфісты!) не захаваў. Барацьба да самабытнасці ў цяперашнім «самаазначэнні» народаў спарадзіла і на гэтым грунце значны поступ. Найлепшыя ўзоры далі нам нашы слаўныя Купала і Ясакар[1]. Такая песня, як Купалы «З-за далёкай стараны» («Рунь»), просіць-моліць, здаецца, нашых музыкаў, каб апранулі яе ў формы мастацкія, калі яшчэ гэтага не зрабілі.

На кожную пару году мае беларус асобныя песні: на выган жывёлы, які часта сходзіцца з святкаваннем Юр'я (перадхрысціянскага Сварожыца, сына Сонца), пры рабоце ў гародзе і ў полі, садзячы кветкі ў гародчыку (руты, лілеі, ружы, півоні, вяргіні, гваздзікі: «хай людзі ведаюць, што чыстая дзяўчынка тут будзе»). Улетку абходзіцца старадаўняе свята Купалле, замененае ў хрысціянскім календары на Яна. Магчыма, што ў найдаўнейшых часах святкавалася яно ў чэсць Сонца, каторага ад гэтай даты (перасяленне іхняе дня з ночай) пачынае ўбываць. Паказуюць на гэта некаторыя тэксты купальскіх песняў. З часам бог сонца (Сварог) мусіў уступіць месца Вялікаму Прадвесніку новай эры — Яну. Звычай, аднак, і песні на Купалле не маюць нічога супольнага з гэтым святым пакутнікам. Шмат песняў і харошых пяецца пры жніве. Пры гэтым тое, што цяпер пяюць, — гэта толькі ніклая частка даўнейшага. Старыя паказуюць, што: «даўней — бывала — як ішлі дамоўкі па рабоце, так бор разлягаўся ад песняў… А цяпер што?!» Аднак і тое, што цяпер пяецца, мае многа цэннага. Трэба адзначыць, што песні жніўныя маюць характар нейкі бязмерна сумны. Адбіваецца ў іх даўняя непасільная праца жаноцкая, асабліва цяжкая падчас панавання прыгону («паншчыны»).

Тыпам такой песні знаная ўжо з выдавецтва «Не пайду дамоў». Восеняй пяюць пры мніве лёну, а такжа на свята, званае «Дзядамі», — Задушкамі. Свята гэта вяжацца з абходам старадаўняга Багача, якое выпадала пры восенным зраўнанні дня з ночай. Ёсць домысл, што свята гэта было ў чэсць агню (дагэтуль на Палессі агонь завецца «багаццем»). Багача заступіла

свята — Дзевы Прачыстай Народзіны. (Малая Прачыстая — Аспожка.) Аднак змест песняў на гэты час дае нам шмат чаго вельмі цікаўнага аб светаглядзе нашых прадзядоў. Скрыты тутака багаты матэрыял да антрапалогіі, а спецыяльна да славянскай міфалогіі. Ці не варта задумацца над тым, што даўні перадхрысціянскі дух паганізму патрапіў стварыць такую цудную мелодыю, на якую мы падставілі словы: «Святы Божа, святы моцны». А вучоныя даказваюць, што яна ўзята ад крывічоў, якія пялі яе прад сваім Багачом-Знічам…

Але вось знікае багацтва Свету і Сонца. Надыходзіць суровая зіма з сваімі доўгімі вечарамі. Жыццё людское замыкаецца ў святліцах. Мо там і песня заглухне? Не. У доўгія вечары пачуйце песні за прасніцай, а такжа калядныя пры «святых вечарох». Між імі шмат аб нядолі дзявочай і нявесткаў-маладзіц: «Салавейка лугавы, не шчабечы з-пад зары, не жур мае галавы»… «Як я малада ў матулькі была, як вішанка ў садочку цвіла»… «Цяжка жыці, цяжка быці на чужыне маладзіцы». А вось і навейшая: «Ой ляцелі гусі ды з-пад Беларусі, цяжка было жыці бедненькай Карусі. Цяжка будзе жыць ёй, пакуль не сканае, замуцілі гусі ваду на Дунаі…» У песнях калядных не знойдзеце многа падобнага да так званых «пастаральных» песняў, якімі багата асабліва польская народная паэзія. У нас у зімовым перасіленні дня з ночай святкавалі Свята Ладу, а калядных песняў у чэсць Хрыстоса народ наш дагэтуль не мог тварыць, бо, даўшы яму хрысціянства, далі нам нашы «крыжакі» і свае формы, адбіраючы родную мову з святыні. Вось трагізм душы нашай, якой Ягела дараваў кашульку кракаўскую. Адзеўшыся ў гэту кашульку, беларусы заходнія не пераcталі быць «палянцамі», так як усходнія давіліся ў рызах маскоўскіх. Была гэта зіма для творчага духу народнага ў гэтым кірунку. Душа беларуса крывілася ад такой апекі ўсходняй і заходняй веры — чуем мы дагэтуль — тая душа, што мае столькі адчуцця, містыцызму, каторая дала нам такія сумна-трагічныя суплікацыі ў песнях іншых. Ат, што і казаць: польска-руская нянька, што хваліцца на свет цэлы ўзгадаваннем нас да цывілізацыі, скруціла нам народную творчасць рэлігійную…

Далей ідуць песні-казкі. Гэтыя песні аб розных асілках, аб вадзяніках, русалках-берагінях. Мелодыі казачных песняў гінуць. Тыя, што я чуў у сваім дзяцінстве, ужо паспелі знікнуць у маёй ваколіцы. Цудна ўняў фантазію беларуса аб вадзяных сялянцах М. Багдановіч у вершы «Над возерам».

Сонца ціха скацілася з горкі;
Месяц белы снуецца і свеціць,
Аглядае касматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.
Ў іх вадзянкі запуталі косы,
Рвуць і путаюць срэбныя ніці…
Ноч плыве над зямлёй, плачуць росы,
Ноч шапоча вадзянкам: «Усніце».

Зачэпім яшчэ праз хвілінку пытанне аб хамстве песні беларускай. Мелодыя пераважна жаласная — сумная, як і жыццё само. Беларус рэдка меў у сваёй гісторыі часы светлыя. Няволя зраслася з ім, так і песня яго мае помала дум свабодных. Кожны з яго здзекаваўся, як мог. Польшча і Расея тузалі хто да сябе: проста шпіргалі нагамі між Варшавай і Масквой. Не дзіва, што і сам у канцы беларус згубіўся, стаў неадважным, нямоўным, няйменным. Забыўся нават, хто ён. Усё гэта адбіваецца і на творчасці народнай. Песня наша вечна жаліцца на крыўду, а часта-густа пасылае ад сэрца праклён сваім ворагам. Вось што зложыла ўсе тыя мінорныя пералівы, усе шчэмячыя сэрца матывы, усе тыя вызываючыя боль жальбы, якімі пячэ песня беларуса. Калі ў песні сваёй ён цешыцца, не знае ў гэтым меры, — гэта радасць безнадзейная, якая вызывае хутчэй боль і спогад, як уцеху. А як плача, то плача слязьмі горкімі, крывавымі: аж да млосці або кляцьбы. Некаторыя нашы песні вельмі цікаўны сваёй будовай танічнай. (Прымерам: «Салавейка лугавы».) Не дзіва, што чужыя кампазітары з усходу і захаду чэрпалі цэлымі прыгаршчамі з гэтага жарла (не прызнаючыся найчасцей, скуль бралі гэты скарбы). Беларускі мастачы знойдзе ў оперы Манюшкі «Галька» родныя напевы, таксама як у «Дзядах» Міцкевіча дужа многа знойдзе з нашае народнай паэзіі, перанесенай геніяльна на ніву чужацкую. Праўда такі, што ад нас усё болей бралі, як самі давалі.

Успомнім яшчэ пад канец аб песні, што дала нам маладое беларускае пісьменства. Трэба прызнаць, большасць нашых песняроў зразумелі і перанялі дух творчасці народны. У песнях іх таксама найчасцей адбіваецца жальба. Найхарашэйшыя песні спаткаў я ў Купалы, Коласа і Зязюлі. Апошні (кс. Астрамовіч) даў найпрыгажэйшы арыгінальны зачатак песні рэлігійнай. О, каб жа творчасць сваю павёў далей! Што датычыць нашых мастакоўмузыкаў, якія працуюць, збіраючы мелодыі, гарманізуючы, кампануючы новыя, — аб іх магу сказаць няшмат. Вядомы з сваіх

выдавецтваў Грыневіч звяртае ўвагу бачную, як сіла многаабяцаючая. Шмат зборнікаў рукапісных чакаюць лепшага часу. Ужо бел. прэса заінтрыгавала нас шырокімі зборнікамі Тэраўскага, Федароўскага. Дабаўлю сюды яшчэ дзве абяцанкі студэнта-музыкі А. Ст.[2] і ксяндза Я. Б.[3] Чакаем з прытоеным дыханнем! Агляд жа мой канчаю словамі песняра Беларусі (Я. Купалы), каторыя хацеў бы тасаваць не толькі да песні аўтара, але і наагул да песні беларускай:

Песня мая не ўзышла сярод кветак,
Кветак цвітучага вечнага паўдня.
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ёй жыццё пасярод палыння.

Пушча і ночка яе гадавалі,
Няньчылі казкамі далі нямой;
Дождж і расіца вясною купалі,
Снежныя буры тулілі зімой.

*[1915–1921]*

## ПАКОРА І ХАРАКТАР

З пазнання самога сябе чалавек мусіць дайсці да пакоры, г. зн. да разумення сваёй нізкасці духовай, гультаяватасці і залежнасці суцэльнай ад Бога. Чалавек, каторы відзіць пакорна сваю слабасць і ўсцяж стараецца папраўляцца, да гарманічнага выканчэння сябе безупынна ісці, я назваў бы чалавекам найлепшага характару. Працуючы шчыра дзеля сваёй паправы, ён можа нават відзець сілу добрага ў сабе, але на гэтым не затрымліваецца: стараецца зніштожыць у сабе і след благога духу. Пакора бароніць ад найгоршай знямогі характару — бязверства, каторае ёсць затратай пачуцця адказнасці прад Богам. Пакора асцерагае прад самагубствам, навучаючы, што ты не лепшы за другога, а затым мусіш мець выразумеласць для людзей і пашану. Пакора бароніць ад неахвоты і безнадзейнасці, бо дае зразуменне слоў Хрыстоса «Без Мяне нічога не можаце». Дае пазнанне слоў св. Паўла: «Усё магу ў Тым, каторы мяне змацняе». Пакора дае вытрываласць, асцерагаючы прад апушчэннем рук у працы як доказам малой веры ў Агляд Божы: следам таемнай гордасці духу. Пакора сцеражэ ад заразумнасці, гэтай дурной

дачкі пышнасці; ад той і другой характар робіцца зусім няздатны да жыцця: няроўны, сварлівы, адсталы. Пакора ёсць асновай усялякага дабра ў чалавеку, так як пыха — пачаткам усялякага зла і блуду. Характар сапраўды пакорны — вечнатрывалы. Без пакоры не ўстаіць справядлівасць, бо чалавек, што сябе лішне ўзвышае, найчасцей гэта робіць коштам другога. Чалавек устрымлівы, а непакорны не можа мець высшае заслугі: яго ўстрымлівасць кіруецца да ўзвышэння сябе без угляду на мэту высшую, засветную, боскую. Пусты чалавек хваліцца любіць, а пакорны, калі будзе ўчынны і энергічны, мала хто аб гэтым знаць будзе. Ён не шукае славы: яна сама прыйдзе, калі заслужыць. «Ціхая вадзіца заставы разносіць». Вось і да мужнасці трэба мець за паклад пакору. Наагул сказаць трэба, што ідэальны характар мусіць быць дасканальна скончаным, гэта значыць мусіць мець усе ўлады розуму, волі ўчуцця (сэрца) гарманічна развітымі. Чалавек поўнай дасканальнасці мець не можа. Ёсць яна толькі ў Богу. У асобе Хрыстоса маем найстрайнейшы ўзор таго гарманічнага ўкладу ўсіх водрухаў душы і цела, каторыя ўчынілі Яго нашым боскім — Вучыцелем. Каб мець характар сапраўды блізкі да гэтага боскага ўзору, патрэбна: 1. Старацца мець вялікую жыццёвую спраўнасць, каторая вучыла б нас кожнае жыццёвае здарэнне абярнуць на карысць духоўнага развіцця характару. Назавём гэта безупыннай творчасцю духу. 2. Мець вялізную чуласць на тое, што вокал нас дзеецца, каб усё відзець і разумець у святле вечнатрывалай засады, неўміручай Ідэі. Назавём гэта дарам вышэйшага спасцерагання. 3. Навучыцца болей слухаць, як гаварыць; болей рабіць, як малоць языком. Назавём гэта сілай чыну. 4. Хібкаў сваіх і грахоў ніколі сабе не даравацъ. Спавядацца з іх і прад Богам, і прад самім сабой; каяцца і ісці ўсцяж наперад. Назавём гэта істотай набожнасці. 5. Дабіраць сабе лепшае таварыства людзей, але не гардзіць анікім. Мець спагаднасць для кожнага, памятаючы, што і са мной магло б блага быць, каб не ласка Божая і свая асцярожнасць. Назавём гэта спосабам жыцця (тактыкай). 6. Прыглядацца жыццю людзей, каторых завём «вялікімі», «святымі» — асабліва ж углядацца ў божую постаць Хрыстоса. Назавём гэта бачнасцю жыцця людзей слаўных. 7. Дужа многа мысліць і раздумваць над жыццём людскім (і сваім), як над вельмі важнай і глыбокай праявай быту. Назавём гэта развагай над уласным і іншых бытаваннем.

*[1916–1921]*

# СЛЕДАМ ЗА ДЗЕДАМ

Углядаючыся ў жыццё сучаснага касцёла на нашай зямельцы, мы знаходзім вельмі важныя зачаткі значных перамен у недалёкай будучыні. Грамадзянская свядомасць у беларусаў расце буйна, а з ёю жыццё прымае родныя формы ў кожнай галіне культуры. Касцёл не астанецца ад агульнай эвалюцыі народнай, — і вось мы бачым як скрозь па Беларусі касцельнае жыццё павольна страсае з сябе чужацкія наплывы і адзяе родную вопранку. Рэч зусім для нас ясная і зразумелая так з боку нацыянальнага, як і з боку агульнай патрэбы касцёла, каторы дапушчае, а нават загадвае даваць рэлігійную навуку ў народнай мове. Разумеў гэта добра біскуп Роп, калі выдаў наказ, каб беларусам гаварыць навукі па-беларуску. Разумее гэта добра кожны ксёндз, што не цалуе панскай клямкі. Пачынае гэта разумець і наш народ, хоць абаламучаны палітыкай апекуноў, каторым хацелася зніштожыць яго дух, адбіраючы скарбы мовы роднай і забіваючы індывідуальнасць. Расея так пільна старалася, каб не было беларусаў, што ўжывала ўсіх нягодных срэдстваў на тое. Быў час, калі перакупляла польскіх ксяндзоў, што былі на Беларусі, каб пры іх помачы давесці да русіфікацыі. Хто ж не знае гісторыі агіднай «тройкі» Сенчыкоўскага, Тупальскага і Немекшы, каторыя хацелі ўвесці казёншчыну на Беларусі. На шчасце, каталіцкі касцёл мае ў сабе даволі сілы, каб не дацца заходам масонскай палітыкі. Казённым ён у нас не быў і… дасць Бог, не будзе.

Бо вось і ў нашы часы ўлязае ў касцельныя справы казёншчына, але ўжо з другога боку. Варта аб ёй падумаць… Казёншчына ў касцельных адносінах гэта абсалютная залежнасць ад цывільнага ўрада, каторы ўжывае рэлігіі (не прызнаючы яе зусім прынцыпова) як срэдства для замацавання сваёй павагі. Гэта казёншчына прывяла расейскую царкву — як цяпер мы бачым — да камплетнага ўпадку. Каталіцкі Касцёл, як міжнародны і міжпартыйны, змушаны змагацца з казёншчынай, каб не згубіць сваёй незалежнасці ў правах веры. Маем мы вельмі цікаўныя прыклады гэтага змагання на Беларусі, дзе, на жаль, казёншчына так была сільнай, што уніяцкая царква была змушана ёй паддацца на шмат гадоў, а лацінскі касцёл ледзь уратаваўся — як лепей арганізаваны — і то коштам дэнацыяналізацыі беларусаў на карысць Польшчы. Даю вам маленькі абразок з 1856 года, якой дарогай ціснулася казёншчына ў справы веры. Чэрпаю яго з кніжкі гісторыка Масціцкага «Unici» (с.112).

«Палкоўнік жандармеры і Лосеў, едучы з Віцебска ў Дзярновічы ў таварыстве аднаго ўрадоўца, заехаўся да кляштару Дамініканаў у Забелі і абвінавацію старшага кляштару кс. Дзягілеўскага за адрыванне ад веры пануючай шмат людцоў. З вялікім абурэннем гаварыў ён аб звычаі каталіцкім прымаць да споведзі людзей незнаёмых і навучаць народ па-беларуску…» Абразок гэты дае нам дзве важныя праўды: 1. Расея насылала ксяндзам казёншчыну праз сваіх жандараў. 2. Расея касавала ў касцёле беларускі язык… Шмат ужо змянілася ад таго часу, як палкоўнік Лосеў рабіў гэта ад імені расейскага ўрада. Але вось у 1921 годзе ў Дзісенскім павеце дачакаў ён свайго патомка.

Тут ізноў забараняюць у касцёлах казанні па-беларуску, але ўжо… польскія прыставы. Вось вам даслоўны тэкст прыказа: «Староство Дзісеньске. Начэльнік III Рэйону. Д. 9 марца 1921 р. № 110 м. Шарковшчызна. — Да ксяндза парафіі Бородзеніцкей. Упраша сен ксяндза пробашча о ужыване в касцеле тылько польскего ензыка і о іле казане бэндзе одправяць сен на іннам ензыку, ксёндз бэндзе одповедзяльны адміністрацыйне. М.Сташкевіч. Нач. Рэй». Чытаючы гэта, проста чуеш рускі дух царызму, што апрануўся ў вопранку белага арла. У мемарыяле, напісаным адным ксяндзом-беларусам аб адносінах таго ж раённага да духавенства каталіцкага, гаворыцца так: «Мечыслаў Сташкевіч, калісьці царскі ўрадовец, займуючы цяпер становішча раённага, страшна абражае духавенства каталіцкае, асабліва ксяндзоў народнасці беларускай, або каторыя аставаліся па парафіях падчас прыходу бальшавікоў; кажа, што такіх ксяндзоў трэба арыштаваць. Мне, што аставаўся пры бальшавіках на парафіі, колькі разоў у твар такім парадкам убліжыў… Прысылае ён не раз прыказы ў справах чыста касцельных — духоўных, пр. — пробашч «мае мецьць» такую суму, «Мае выглосіць» такое казанне і г. д. Прад Сёмухай прыслаў да мяне парафіяніна Пяткевіча з аколіцы Змітроўшчына з прыказам, каб на фэсце не было казання па-беларуску. Ведаючы, што начальнік раёна не мае права даваць такога распарадку, бо ён не біскуп — казанне меў я па-беларуску. Хаця начальнік, на згаршэння цэлай парафіі, ніколі ў касцёле не бывае тут разам, аднак, даведаўшыся, што будзе казанне па-беларуску, 15 мая г. г. прыбыў пад касцёл, і калі ксёндз пачаў мовіць беларускае казанне, раяновы стаў называць біскупа і ксяндзоў бальшавікамі, халерай і т. п. Гэта дзеелася пры многіх сведках».

Так то ў нашым веку цэніцца свабода касцёла каталіцкага на Беларусі. Такой інгэрэнцыі[1] ў справы веры ўрадаў свецкіх

ад часаў мураўёўскіх мы не чулі. І такі раённы сядзіць сабе спакойна за плячамі Дзісенскага старасты і піша ўсё новыя і новыя прыказы, адзін другога мудрэй. І гэта дзеецца ў часе, калі трактат версальскі ў артыкуле 7 запэўняе свабоду ўсіх народнасцяў у Польшчы, калі і сама Польшча ў арт. 109 і 110 сваёй Канстытуцыі запаручае свабоду роднай культуры для меншасці народнай у Польшчы… О іронія лёсу! І Польшча мае споўніць апостальства рэлігійнае на ўсходзе, маючы такіх дзеячаў «на крэсах»… Хіба апостальства да зямельных абшараў, а не да абшараў шырэйшых: людскога духу! Аж людзі смяюцца і ўжо называюць раяновага не біскупам, але проста «папежам». Расказуюць сабе, як то «пан рэёновы» пасылае «поуфне» прыказы да солтысаў, каб губілі як мага беларускую прэсу, і, відаць, шмат яе тамака баяцца, калі аж сам рэдактар «Земі Віленьскей» быў дэлегаваны пазакладаць вогнішчы для прэсы «Стражы Крэсовей», каб паралізаваць уплывы прэсы беларускай. А не ведае, мусіць, ён, бедны, што гэты ж рэёновы-полонізатор (таксама і афіцэры польскія) гавораць да сялян тутэйшых па-расейску… Раз на плябаніі ў Барадзевічах з’явіліся жандары і дзіка заявілі, што ксёндз ім перашкаджае паланізаваць мясцовую люднасць і еслі ён не перастане беларускіх казанняў, то будзе вывезены… Бедныя палякі! Не ведаюць, што Трыдзенскі сабор прыказуе пробашчу гаварыць навукі ў мове найбольш даступнай верным, што тое самае піша і свежавыданае кананічнае права (1332) і што гэта самае дазволіў рабіць біскуп Роп. Але ў Дзісненскім павеце заводзяцца ўжо іншыя каноны. Так, прымерам, прысылаюцца прыказы збору грошай на мэты патрыятычныя без ведама біскупа, прыказы адпраўляць імшу ўрачыстую на дзень 3 мая. Гэтыя гістарычныя дакументы выслаў начальнік III рэвіру пар №№ 471 і 135. Усё гэта робіцца пад вокам Дзісенскага старасты і пэўна пад яго загадам. Мы відзім з гэтых колькі нарысаў, у што хочуць абярнуць касцёл наш урадоўцы гаспадарства Польскага: у служак «папкоў», плачаных панскаю ласкай.

Паглядзім жа цяпер, ці ёсць такія ксяндзы што ідуць на іх вуду. У Дзісненшчыне заслужвае ў гэтай справе на вечную няславу дэкан з Міёр кс. Асціловіч. З’ехаўшы са свайго міёрскага пасаду ў Барадзенічы, ён агітуе, каб скасаваць казанні па-беларуску. Ужывае да гэтага цэлы сметнік старой эндэцкай брахні, каб збаламуціць народ, каторы ўжо слухае казанні па-беларуску ад 1917 году. Шкада мейсца паўтараць тут яго закіды. Зводзяцца яны ўсе ў той блудны круг, бытта польскасць — гэта эсенцыя каталіцызму, што беларусы не могуць быць добрымі каталікамі.

Ах, якая ж шкода, што біскуп даручыў судзіць гэтаму чалавеку ў Барадзенічах справу, каторая перарасла ягоны кволы розум! Ужывае ён дагэтуль бабскія легіёны, каб папсаваць справу народных навук у Барадзенічах. А так шчыра памагае ў гэтым казне, што еслі бы жыў у часах Сенчыкоўскага, Тупальскага і Немекшы, пэўна быў бы адным з іх гістарычнай тройцы… А мо гэта рэінкарнацыя: мо ў гэтым дэкане жыве дух аднаго з гэтых слаўных казённікаў? Хто ж згадае! На 13 чэрвеня гэты чалавек падобна назначыў сход усіх нездаволеных з парафіі Барадзенскай у Іказ(ж)нь, каб там сабраць подпісы. Паможа яму, быць можа, тамтэйшы пробашч… Ары, браток, ары: абы чорна дагары! — Пайшлі нядаўна кабеты ў Міёры за нейкай справай і, прыйшоўшы, расказалі такія дзівоты. Дэкан паслаў іх беларускія навукі, бо іначай могуць далучыць ізноў нас да Масквы. Набожная наіўнасць ці хітрае правакатарства: хто ж разбярэ!

Следам за расейскім дзедам пайшлі нашы паланізатары і самі мо не спасцерагаюць, як моцныя вузлы лучаць старую расейскую казёншчыну з новай польскай. І тут тое самае кадзіла для высокапастаўленых і тут той самы націск для народнай душы, што будзіцца да лепшага бытавання. Там духоўнікаў абярталі за грошы ў жандараў і тут намагаюцца, каб зрабіць з іх павольнае аружжа ў сваіх руках. Там выдатную ролю ігралі на карысць казёншчыны паны і паўпанкі (Корсак у Віцебшчыне) — тое самае дзеецца і цяпер: прычым паны чуць не пагалоўна паддзержваюць казёншчыну. На шчасце, народ мае свае, яму толькі вядомыя шляхі. Палітыка ідзе сваёй дарогай, а душа народа сваёй. Трудна было забіць душу ў народзе расейцам, хоць задалі ёй крывавыя раны; трудней будзе зрабіць гэта культуртрэгерам з заходу, бо ж не жывём ужо ў часах, калі можна шляхоцкімі лапцямі ездзіць па душы народнай. Следам за дзедам, паночкі, заедзеце туды, куды зайшлі і ўсходнія каршуны. Не ксяндзы-народнікі сеюць бальшавізм. Але вы, гвалтуючы прыроднае права беларусаў да роднай культуры — права, якое ён чуе ўжо ў грудзях сваіх і бараніць будзе так, як і вы самі баранілі сваё, пакуль былі ў няволі.

*1921*

# ПАН ДМУХА

«Дзьмухай, панок, дзьмухай!..»

Адзін пан з «Рэчы Паспалітай» прозвішчам Дмуха распачаў нядаўна цэлую вайну проці беларусаў. Напаўшы з вялікім імпэтам на работу ксяндзоў беларускіх па касцёлах, ён цяпер узяўся да беларускага вучыцельства. Пан гэты даказаць хоча, што па-беларуску хваліць Бога няможна… Няхай жа гэныя доказы служаць яму на здароўе! Ксяндзы-беларусы ведаюць, што робяць, і Рым аб іх рабоце ведае. Не астановяцца, бо ўважаюць сваю справу чыстай і святой. Калі беларушчына ў касцельных адносінах не згаджаецца ані з воляй сталіцы апостальскай, ані з душой народа, то яна сама сабой упадзе, і хай пан Дмуха будзе спакойны. Але калі яна згаджаецца з новым складам грамадска-рэлігійным нашага народа, і Пан Дмуха гэтага не бачыць сумысля, то не беларускія дзеячы, а сам ён «вархол» і да сумлення нашага прамаўляць яму годзе. Пан Дмуха цэлы рух беларускі хрысціць новым аб'явам шавінізму, а «Крыніцу» раўняе з талмудам. Паночку, верце вы, што болей у вашай мозгаўцы ёсць талмудызму, чым думаеце, бо як жа можна ў XX веку горшыцца з таго, што ксяндзы-беларусы паміж свайго народа «w prywatnych rozmowach używają języka: białoruskiego wyłącznie, spowiedzi słuchają po białorusku, dzieci katechizują również, a nawet z ambon próbują»… Дзіва было б, каб рабілі іначай. Маюць за сабой і права прыроднае і права пазітыўнае. Чаму ж з яго ім нельга карыстаць, калі ўсе іншыя добрыя людзі карыстаюць: прымерам, палякі моляцца па-польску, японцы па-японску і так далей. Вы кажаце, што беларусы не народ. Так хто ж яны: расейцы ці палякі? Калі палякі, так чаму ж вы згаджаецеся на мову расейскую ў цэрквах? Калі маскалі, так нашто ж ім па-польску? Гэта ж блуднае кола, з каторага іх ніякая сіла не выдзьмухае. Не, панок. Беларусы будуць мець і ў цэрквах, і ў касцёлах, і ўсюды беларускую мову, — іначай яны не павінны і называцца беларусамі.

Вы нападаеце з вялікай сілай на беларускую школу. Мы ведаем, што нашае школьніцтва яшчэ пачынаецца, бачым яго недахваты і, можа быць, як знойдзецца больш такіх варожых дмухалаў, як пан, так яго і зусім у адным месцы могуць задзьмухаць. Але ж разумная палітыка народ наш падзяліла на часці. Задзьмухаеце ў адным месцы, узрасце ў другім, хіба грунту не будзе; аднак, што грунт школа наша мае, мы гэта лепш ведаем за тых, хто на яе збоку дзьмухае ядам няверы і злосці. Не дэкламуй-

це нам, калі ласка, аб культуры. Беларус пачуў смак яе і з усходу, і з захаду. Ён не хоча ані «вашай» культуры, ані «іх»: а толькі роднай для ўзгадавання сябе да агульналюдской цывілізацыі. Нам не патрэбна культура няволі, ён шукае культуры, якую суляць культуртрэгэры з усіх бакоў. Памажыце нам; калі хочаце, здабыць культуру свабоды: заплацім за гэта, толькі не цаной душы нашай. А культура тая, што нясе нам гумы, лепшую водку і французскія хваробы, — нам не ўсміхаецца. І не асмешыце нас, калі кажаце, што школ беларускіх больш, як дзяцей. Разгледзьцеся добра і смяецеся з свайго сытага гумору, бо сыты галоднаму не спагадае. (Чытай гісторыю вучыцельскай семінарыі ў Барунах.) Вы так пільна лічыце беларусаў і налічаеце іх нават некалькі сотняў… Пацешцеся: маскалі налічалі іх яшчэ меней, бо казалі, што няма ніякіх беларусаў: ёсць толькі спольшчаныя расейцы. Як палітыка польская пойдзе «следам за расейскім дзелам», то лічба беларусаў зусім… выведзецца. Няма чаго так бедаваць, што беларусы з няхвату сваіх падручнікаў школьных памагаюць сабе пакуль што расейскімі або польскімі. Пажывём — нажывём. «Дух ажыўляе, цела мала значыць». Або ж польская школа ў нас толькі па-польску глумзае навуку? Рэч не ў тым, як навучышся, але — што навучыся.

Падзьмухаўшы так на беларускую школу, пан пачынае дзьмухаць на Міністэрства асветы і кажа, што міністэрства, дапускаючы (а нат спамагаючы) беларускім школам, робіць надта вялікую глупоту. Ах, пане Дмуха, вы ведаеце добра, што аж так далёка міністэрства не зайшло і школе беларускай адгэтуль добра не было, не ёсць, але мо дасць Бог — будзе. Бо ж не кожны палітык мае падобны талмудычны розум, як пан Дмуха, каторы мае адвагу публічна гаварыць такія рэчы, што быццам то ў працы беларускай прасветы закваска палітычнага вархольства. Трэба ж знаць меру ва ўсім. Бо, на нашу думку, у вашых стаццях аб беларускай справе больш ёсць гэтага вархольства, як ува ўсіх беларускіх школах разам…

Дзьмухайце, паночак, дзьмухайце. Але асцярожна: ану ж перадзьмухаецеся і, мест памагчы, на балючкі нашага грамадзянства вы надзьмухаеце горшую хваробу: заўзятую да Вас нянавісць беларускага сялянства.

*1921*

# ЦАРКВА ЦІ КАСЦЁЛ

Хочучы сказаць што аб рэлігіі ў Беларусі, трэба сцерагчыся лёгкага дылетанцтва. Бо справа веры ў народзе беларускім так рэч важная, што аж стыдна, як мала цэніцца некаторымі нашымі дзеячамі. Рэч у тым, што рэлігія наагул есць адным з найважнейшых твораў народнай душы. У інтэлігента, асабліва мешчаніна, ёсць і іншыя творы: іграе там вялікую ролю святыня мастацтва, святыня навукі; у простага народа святыня рэлігіі абымае ўсе найлепшыя парывы душы, — больш скажу: святыня рэлігіі заступае яму і мастацтва і навуку. Гісторыя нас вучыць, што сістэмы рэлігійныя маюць уплыў на жыццё больш, чым сістэмы навучныя. Калі назавём універсітэт святыняй навукі, тэатр — святыняй мастацтва, царкву (касцёл) святыняй рэлігіі, то прызнаем вялікую важнасць усіх. Важная святыня розуму (мыслі), важная святыня пачуцця (сэрца), найважнейшая святыня волі (духу). А як паасобны чалавек жыве мысляй — пачуццём — воляй, так і грамадзянства (чалавек сацыяльны) не можа жыць без зборнай волі — пачуцця — мыслі. Яны ж выражаюцца ў навуцы, мастацтве, рэлігіі. Для суцэльнага гарманічнага развіцця чалавека рэлігія між навукай і мастацтвам займае тое самае месца, што воля між розумам і пачуццём. Дзеля гэтай прычыны Напалеон бачыў у Хрысце ідэал нязломнай на ўсе вякі волі.

Такое тлумачэнне рэлігіі дае шмат зразумець сказ гэты: «Рэлігія гэта не прыватная справа: яна дух нашых мысляў і нашых паступкаў» (Fichte). Нам, беларусам, прыступаючы да творчасці рэлігійнай, трэба не толькі быць пэўнымі ў яе значэнні, але і знаць самую яе глыбіню, каб усцерагчыся таго, аб чым кажа наш паэт:

Край мой родны! Ў Божа імя,
Ў чэсць касцёлаў і царквоў
Паміж дзеткамі тваімі
Лягло многа камянёў;
Многа выйшла трасяніны —
Меч, агонь знішчалі край:
З двух бакоў айцы дубінай
Заганялі нас у рай.
Кроў лілася ручаямі,
Здрада чорная расла,
Што папамі і ксяндзамі
Ў сэрца кінута была.

І цяпер над вамі, брацці,
Яшчэ ў сіле той раздор:
І папоўскае закляцце,
І ксяндзоўскі нагавор.

У жыцці інтэлектуальным, як і ў жыцці натуры фізічнай, існуе змаганне за быт. У змаганні розных ідэяў тая перамагае, каторая здатна пры сваёй абстракцыйнасці быць адначасна жыццёвай. «Хрысціянства, — кажа адзін аўтар, — перамагло не столькі дзеля сваёй боскасці, як больш яшчэ дзеля свае людскасці. Дзесяць, а хоць бы дзве мінуты штодня ў таварыстве Хрыстовым — тварам у твар, сэрца пры сэрцы (вучыць яно) — можа з грунту змяніць цэлае наша жыццё» (Dammond). Хрысціянства перамагло сваёй здатнасцю стасаваць высокія ідэі да будняга жыцця. Гэта першая важная для нас праўда. — На Беларусі ішло і ідзе змаганне рэлігійных ідэяў, хоць беларусы даўно ўжо хрысціяне, значыць і прычына да змагання, здаецца, невялікая быць мусіць. І адклад змагання быў натуры не заўсёды рэлігійнай. Але трэба прызнаць, што барацьба ідэі была аграмаднай, пакуль яе не зламаў меч свецкай палітыкі злосных суседзяў. Гісторыя мела шчасце ці няшчасце аддаць Беларусь пад уплывы Усходу і Захаду, гэтых двух фармальных праціўнікаў у змаганні да цывілізацыі. Вось і светагляд наш рэлігійны мусіў прыняць дзве формы: грэцкую і лацінскую. Першая падпала з часам пад дэструкцыйны ўплыў Расеі, другая — Польшчы. І стуль зрадзілася дзяліцьба душы беларуса на рускую і польскую, дзяліцьба, каторая ў канцы (як бачым) падзяліла і яго цела. І цяпер мы пазналі патрэбу еднасці, калі мус няшчасны адабраў нам яе. І калі патрэбна нам еднасць сацыяльная, то тым больш еднасць рэлігійная, як жывіцелька народнай душы. Гора нам, калі мы пры ўзгадаванні народнай псіхікі спіхнём рэлігію да значэння толькі дэвацыйнага культу. Душа народа мусіць быць узапраўды рэлігійнай — злучанай з боскім ідэалам — іначай народ сканае. Затое ж рымляне і вывозілі багоў народных у Рым, каб адабраць веру ў пераможаных, а з ёю загубіць душу народную. Таксама робяць, хоць іншым ладам, і нашыя імперыялісты… Няможна жыць без душы, а душа жыць не можа без Божае ласкі — рэлігіі. Тыя станы грамадзянства, што адкідаюць рэлігію, гібеюць. Дзеля таго ёсць надзея, што і шляхта ў нас згіне, бо ж яна даўно згубіла душу сваю разам з верай народнай. А народ наш захаваў пачуццё рэлігіі беспасярэдняе, простае і затое дужае. Вось я і веру, што народ наш створыць нешта вялікае ў гэтай галіне культуры. Бо ён

жа праходзіць школу Усходу і Захаду, мае мучаніцкую гісторыю свае веры, ён яшчэ не абаламучаны заходнім рацыяналізмам, не скуты ўсходнім візантынізмам: славянскі глыбокі містыцызм робіць нашага руснячка нават на погляд задуманым у якімсь засветным летуценні. Беларусь ужо выдавала людзей з сільным пад'ёмам геніяльнага і здаровага містыцызму. Яна і цяпер крые магутную здольнасць: здольнасць аб'яднання двух абрадаў у адным рэлігійным светаглядзе. Я тут не гавару ні аб расейскім праваслаўі (аджыло свой век!), ані аб польскім каталіцызме, каторы ўступіў у нас на шлях казёншчыны. Я гавару аб Беларускім Уніянізме, каторы знае адну веру ў розных формах і каторы мае сваю гісторыю, поўную навукі для сучаснага пакалення. Беларускі Уніянізм мае быць чыстым хрысціянствам. Яго традыцыя плыве аж ад святой Праксэды Полацкай, каторая знала Усход і Захад хрысціянства. На жаль, гэты Уніянізм перайшоў між Сцылай і Харыбдай палітыкі польска-расейскай і затое мусіў пакрывіцца ў змаганні. А крывізна гэта ўвайшла нават… у падручнікі беларускай гісторыі… Мы, аднак жа, чэрпаем з глыбіні рэлігійнай душы народнай светлы энтузіязм на будучыну; той душы, што здатна адчуць праўду прасцейшай дарогай; душы, не запутанай у зманныя формы шкалярства. Народ наш створыць еднасць рэлігіі Усходу і Захаду. Ён — або ніхто. Будзе яна выспаю натуральнаю яго духу рэлігійнага; духу, каторы ў глыбіні сваёй не зламаўся пад згаршэннем, якое далі вышэйшыя станы; духу, каторы моцны быў у змаганні з цараслаўем і польскаслаўем; духу, каторага *мучаніцтва не апісаў яшчэ ніхто*. Усё цяпер трэба будаваць нанова, тварыць «ex nihilo», бо і жывём жа ў часах, калі ашацаваны ўжо ўсе вартасці, калі над старым светам (а мо і над старой цывілізацыяй) завіслі бурныя «mane, tekel, fares»; калі, як у Апакаліпсісе, здаецца, кажа Дух Божы: «Ecce omnia facio nora» («Вось усенька ствараю нанова»). Павіннасць духовага будаўніцтва ляжыць на *інтэлігенцыі*, не на інтэлігенцыі ў значэнні буднім, але на інтэлігенцыі творчай, свядомай свайго вышэйшага названня. Абавязак наш першы: вырваць душу народа з кіпцяў блуднага ўплыву чужакоў, каторыя выставілі душу народа на гандаль, каторыя забілі яго рэлігійную творчасць, змусілі яго хавацца з сваім светаглядам прад насмешлівым вокам культуртрэгэра з Усходу ці Захаду. Трэба стварыць на Беларусі атмасферу рэлігійнай свабоды, не выкідваць спраў сумлення за парог нашых праграм, бо, аддаўшы гэту справу ў цёмныя рукі, зробім памылку, каторай паследствы не паддаюцца папросту лічбе.

Асновай гэтых маіх разважанняў было даказаць, што: 1) для развязання справы рэлігійнай у Беларусі трэба брацца чыстымі рукамі і інтэлігентнай воляй, бо нельга з ботамі лезці ў тайніцы народнага духу, 2) беларуская інтэлігенцыя няхай не бярэ прыкладу ад некаторых суседзяў, што, недаацаніўшы ўплыву рэлігіі на ўзгадаванне душы народнай, скінулі яе да ролі нейкага дэвацыйнага культу пустых формаў. Формы патрэбны, але яны небяспечны. «Дух творыць, цела мала значыць». Рэлігія ўспамагае трудавітасць нашага духу і такую рэлігію мы мусім мецi, 3) з усіх рэлігійных формаў хрысціянства ў Беларусі вытварыўся рэлігійны Уніянізм двух абрадаў: славянскага і лацінскага. Ад аднаго жыве ў нас толькі мучаніцкая традыцыя, ад другога — лацінства, заквашанае сільна так званай «польскай верай». З двух варожых каламутаў заходняга псеўдарацыяналізму і ўсходняга візантызму паўстаць мае наш родны: Беларускі Уніянізм.

*1921*

## З ГІСТОРЫІ СВІРСКАЙ ПАРАФІІ

Хроніка Свірскага КАСЦЁЛА падае, што ўжо ў 1452 годзе князь Якуб Свірскі збудаваў дзераўляны касцёл, каторы трываў дзвесце гадоў, да часу збудавання новага, мураванага, коштам пробашча Ясінскага і Фабіяна Казелы. Касцёл гэты, перабудаваны з грунту ў нашых ужо часах, датрываў аж дагэтуль. Свір як сталіца даўней князёў Свірскіх, быў слаўным местам не толькі гандлем. У ім канцэнтруе свае войскі Стэфан Баторы, ідучы пад Пскоў. У яго ваколіцах ідзе змаганне за зямлю ў эпоху Рэфармацыі, калі шляхта перакінулася ў кальвінізм. Сведчаць аб гэтых змаганнях працэсы, захаваныя дагэтуль у свірскім касцельным архіве, часцю ў адпісах, часцю толькі як заметкі, пісаныя рукой «плябана свірскага». Народ тутэйшы знаў сільныя змаганні рэлігійныя, якіх падклад быў не столькі для неба, як хутчэй дзеля хлеба будняга («сацыяльны»). Паганізм, устарэўшы, уступіў хрысціянству; наступіла змаганне каталіцызму з праваслаўем, змаганне за Унію, змаганне каталіцызму з лютэранствам. Водгукі гэтых перасіленняў адбіліся аб народ і стварылі традыцыю, якая дайшла да нас досыць зблытаная, але ў многіх разох пацверджаная гісторыяй. Так, абразы Свірскага касцёла (Спас, Мікола) даказваюць сваё ўсходняе паходжанне як стылем, так і

традыцыяй. «Свірскі касцёл, — кажуць людзі, — служыць ужо трэцяй веры». Не ўдалося мне, аднак, знайсці апісаў парадку, у якім пераходзіў ён з абраду ў абрад. «Oryginalnych dokumentów służących kościołowi świrskiemu, w którym i fundusz ziemny zabrano i dokumenta autentyuczne», — піша адзін «плябан» у інвентары з 1841 г. Гэты ж інвентар вылучае такіх калатараў касцёла: князі свірскія Сулістроўскі, Бучынскі, Гунтэр, Храноўскія, Хомінскія, Пашкевіч, Куркоўскі, Нарушэвіч, Дуброўскі і Цэховіч. Шмат, аднак ж, ёсць дакументаў вельмі цэнных. Аб некаторых інвентар толькі ўспамінае: напр., аб «процэдэр» ксяндза Колчынскага (у дакументах беларускіх «князя» Кольчынскага) з панам Стэфанам Боско, падкаморым ашмянскім і «suksesorami jego, dziedzicami majętności Dubrowlany, o zabranie czasu kalwinizmu, kiedy kościół swirski był bez plebana, funduszów temu kościołowi i dóbr tego-ż kościoła». Судзіцца князь «плябан» Колчынскі і з Хрыстотам свірскім, і іншымі ў тэй жа справе. Ёсць некалькі одпісаў судовых рашэнняў па-беларуску, і то як кірыліцай, так і лацініцай. Свір на якісь час перайшоў быў у рукі Радзівілаў, але ненадоўга, бо (так кажа хроніка) «haeroditas (Свір) ad Radziwiłła iterum (узноў) Swirskim słuzyła». Пазней валадзее Свірам пан Гедройц. Да самой плябаніі Свірскай прыналежала шмат вёсак, а само мястэчка мела «цяглых» плябаніі («павінных»). У 1841 годзе Мацей Сялевіч з вёскі Сялевічы дае такія «powinności plebanowi» з 15 маргоў поля: 3 дні прыгону (дзела) для мужчын, 1 — для кабет; «dróg wileńskich» —2; чыншу — 5 злотых і 5 гр., «gwałtów rożnych» — 12. Так званыя баяры прыгону не маюць, але плацяць больш шмат. Нялёгка, значыць, было і баярам, хоць свабодным ад «цягла». Трэба азначыць, што і жыдкі нават свірскія ў лічбе 21 плацілі чыншовага па злотых 20. У 1725 годзе плябан свірскі мае «browar wielki restauracyi potrzebujący z fundamentu» і карчму «nieodal od kościoła przy gościńcu do Ponizia». Павіннасці мяшчан такія: «powinni z placu osiadłego w każdým roku zasłużyć gwałtów 12, to jest sześć do zabrania żyta, a drugie sześć do jarzyny. Podwód do Wilna dwie odprawić, albo w tak daleką drogę gdzieindziej posyłać z listami konno i wozem za mil kilka, ile tego będzie potrzeba jeździć powinni. Do łowienia ryb podčas norestu szczupaków i innej ryby póki nerestować będą przy dworskiej sieci po czterech kolejno według dawnego zwyczaju chodzić mają.

Czynszu po groszy 10 litewskich z morgu płacić powinni. Do wożenia zboża w kopach jeździć mają do młyna. Mieszczanie zaś

na placach przy kościele siedzący po złotych 10 z placu płacić mają od podwod zostając wolnemi».

Наагул з гэтага бачым, што плябан свірскі ў тым часе быў сабе звычайны пан, каторы мае падданых і ўмее з гэтага карыстаць. Тым болей сказаць гэта можна аб яго яснавяльможных суседзях, з каторых важнейшыя былі: ясны пан Хомінскі — маршалак ашмянскі, я. пан Дунін, рэгімэнтар каронны, я. пан Зяновіч, староста ашмянскі (фундатар кляштара ў Засвіры, дзе дагэтуль спачывае), імць пан Гедройц і інш. Павіннасці баяраў гэткія: «Z włoki płacić będą po złotych dwadzieścia. Podwód gdzie będzie potrzeba w każdym roku z włoki po razem ośm jeździć mają. Do żniwa żyta gwałtów ośm, do zebrania jarzyny gwałtów ośm zasługować powinni». Найцяжэшыя павіннасці — гэта сялян «цяглых». «Ciahli poddani (кажа тая ж свірская хроніка) z sadzibnej włoki do roboty w każdym tygodniu mężczyzna po dni ośm, a białogłowa po dni cztery, co uczyni z ćwierci dwa dni, a białogłowie dzień jeden z czym każą, i do jakiej roboty z bydłem czy pieszo. Straż kolejna tygodniowa po dwuch stróżów w plebanii odprawować będą. Podwód do Wilna cztery z włoki lub podobną drogę jeździć mają. Na gwałty do żniwa żyta tak z sadzibnej jak i przyjemnej z włoki po dni ośm. Także i do żniwa jarzyny dni cztery zasłużyć powinni do roku. Czynszu z włoki przyjemnej po złotych dwanaście płacić mają. Połowę miodu bojarowie osadnicy i ciahli poddani dawać bez widza dwornego nie ważyć się podbierać pod utratą wszystkiego miodu i wzięciu sta plag». Ясна, што пры такіх варунках жыццё «плябана свірскага» не плыло так сумна, як у нашых мізэрных часах. Ці ж не было за што справіць прыймы акалічнай шляхты, зайграць у карты, выпіць хоць бы не цераз меру з панам Хомінскім ці якім іншым… Агулам чыншу меў 1009 злотых, арэнды з карчмы і млына 400 зл., з фундушаў 620 зл. Як там жылося гэным «цяглым», трудна сказаць. «Liber Missionum» (кніжка місіі) з таго часу (1689) так піша аб народзе ў ваколіцах Свіра. «З 4600 душ, каторых споведзі мы слухалі, ледзь адзін чалавек знаў аб тайніцах веры… Паміж іншымі забабонамі яны на Каляды ўсе апоўначы кленчаць перад варотамі, пеючы песню, у каторай прызываецца Лада, быўшы адзін з важнейшых багоў старадаўняй літоўскай паганіі, каб усё праз год шчасліва павялося» (№ 6 «Mies. Kapł.»).

Найстаршыя дакументы свірскага архіва датуюцца годам 1490, у каторым князь «Iwan Ranianawič de Swir cum consorte sua Anna legitima nobilis Strumbo nata» даруюць альтарысту Марціну дванаццаць чалавек падданых, — і годам 1472, у каторым князь

«Сенько Раманавіч» фундуе алтар Маткі Божай і даруе касцёлу фальварак «Jodup cum omnibus ad ipsam pertinentibus» (з усім дабыткам). На абодвух дакументах ёсць словы з статута літоўскага (пр. «дзякло»), а між прозвішчамі чыста беларускімі знаходзіцца адно літоўскае (Пачас). Ёсць акт фундацыйны княжны Рэгіны Свірскай з 1675 года, Катарыны Невядомскай з г. 1644, Баўтрамея Ясінскага з 1643. У эпоху рэакцыі каталіцкай у Свіры пануе езуіт Андрэйковіч, каторы пакінуў па сабе доўгі акт продажу фальварка Сангуцева. Вельмі цікаўны акт візітацыі біскупа Анцуты з г. 1725, за часам дэкана Баркоўскага. Касцёл Свірскі знайшоў біскуп у такім ладзе, што ўжывае слоў незвычайных, каб выхваліць усенька. «Спакоіць мыслі, весяліць сэрца, пацяшае вока; асабліва ж пробашчаў суседзяў заахвочвае парадкаваць свае касцёлы дзеля звелічэння касы дома божага і скромнасці жыцця ксяндзовага». Пасля вельмі сціслага агляду біскуп не мог нічога знайсці, што магло б абразіць яго пастырскае сумленне. Далей ідзе паасобнае вылічэнне чыннасці і характару духоўных пры свірскім касцёле. Ксёндз Урбановіч, вікарый (commendarius) вядзе сябе скромна і верны свайму прызванню. Кс. Богуш дастаў прыгону за тое, што «двум паном служыць», будучы парохам гервяцкім і разам альтарыстам свірскім. «Няможна за двума зайцамі ганяцца», — кажа біскуп і пагражае касцельнымі карамі на выпадак неслухмянасці. «Praedium sequestretur et rustici absolvantur ab oboedientia» (Маетнасць адабраць, сялян звольніць ад паслушнасці). Другі альтарыст, кс. Бэатынскі, зусім добры чалавечак: «Пільна ўспамагае свайго пробашча, хоць старычок, і справядліва спадзяецца за труды свае кароны справядлівасці». Біскуп хваліць пробашча за добра ўтрыманы архіў, у каторым знаходзяцца кнігі працэсаў з суседнімі панамі за падданых і за землі. Некалькі «фасцыкулаў» (звязкаў) гэтых працэсаў захаваліся дагэтуль. Між імі ёсць шмат па-беларуску. Напамінае біскуп Анцута пробашчам, каб не накладалі на падданых цяжкіх трудоў, каторыя змушаюць тых уцякаць на чатыры ветры свету («per climata mundi»). Забараняе пад караю суспенсы караць парафіян, асабліва бедных вясковых, адмовай хаваць мрацоў, хрысціць дзяцей, даваць шлюбы. Слова Божае наказуе апавядаць без лішняй прыкрасы, але стылем чыстай і простай праўды; а то дзеля той прычыны, каб самі вучыцелі глыбокімі спекуляцыямі і дабранай фразеалогіяй дарма сябе не трудзілі, а парафіяне каб зразумелі ў мыслях тое, што чуюць вушамі». Спевакі і арганісты маюць быць добрага голасу і знаўцамі беглымі свайго труднага мастацтва. «Любі Бога, — успамінае далей біскуп, — а любімым

будзеш, давай чэсць Яму, а Сам дазнаеш чэсці; бойся, а і сам боязь збудзеш… Добры Бог: Ён не толькі лічыць тое, што робім, але і тое, што маем у намеры. А кожны слуга Ягоны ёсць, казаў бы, пасаг свенчаны, народ святы, люд выбраны, рука божая».

Парафія Свірская ў 1654 г., паводле апісу гэтай візітацыі, лічыць душ 4277. У суседстве жылі такія шляхты: Войстом Суліструоўскіх. Аб Сулістроўскіх — такая нота. «Католікі; жонкі Карала і Мікалая кальвінкі. Вёскі іх па веры збальша русіны» (fidei Ruthenicae). Вёскі пана Ладыслава Комара, суддзі ашмянскага, Гірулічы і Гупля, абедзве абраду грэцкага, Дубраўляны, Нестанішкі і Заблоце, пана Яна «Podbipięty», суддзі полацкага, — вёсак дзесяць мяшаных русінаў ды з каталікамі. Пры Нестанскім касцёле пан Невядомскі мае чатыры вёскі, мяшаныя па веры. Успамінаюцца роды Івашкевічаў, Чыжоў. «Dominus» Вечóр, Маркоўскі, Вышатраўка, Любахонскі, Сабіна, Недрашлянскі. На захад паложаны «Залядзе» пана Комара. Александрыя Чарнецкіх; Камароўшчына вяльможнага пана Козел Дапіферы; Свір пана Гедройца з чатырма вёскамі, мяшанымі па веры.

Адзін князь Свірскі ўспамінаецца ў гэтым годзе (1654) як натарый мінскі. Засвірам валадзее пан Сабіна з чатырма вёскамі чыста каталіцкімі. Ёсць і Закрэўскія на месцы даўнейшых «Свяцкіх» і «Прэждзецкія» ў Шэмятоўшчыне з 3 вёскамі, і Кеўлічы ў Сырмежы, і Здановічы без падданых, і Длужнеўскія, і Služкі ў Чурлёне «з русінамі», і Савіцкія… Проста страх бярэ думаць, як людзі маглі выкарміць пяццю пальцамі столькі паноў! Цікаўная заметка аб князях Свірскіх: «Dominorum Swirski Rafaelis, Gabrielis, Stanislai, Georgii, Joannis, subditi omnium fere sunt Rutheni seu antiquae Latinae fidei ut rocant illi» (Падданыя князёў Свірскіх — русіны, старой лацінскай веры, як кажуць яны.) Праўдападобна князі Свірскія былі ў гэтым часе ўніятамі. «Парафія Свірская, — пішацца далей у тым жа дакуменце, — не мае ніводнага ерэтыка, ніводнага ліхвяра публічнага». Увагі гэтай часць першая выдаецца мне вельмі талерантнай, як на часы ярых спораў рэлігійных. З усёй гэтай шляхоцкай літаніі асталіся дагэтуль толькі Хамінскія, і тыя неяк з’ехалі з даўнейшай славы беларускай шляхты. Прыбылі на места даўнейшых Зяновічаў, пасля Прэждзецкіх і Сулістроўскіх, паны Скірмунты, род па заалогіі мо і беларускі, але ідэйна… ну, такой там бяды. Наогул аб нясталасці нацыянальнай вялікіх паноў шмат можна пісаць, а яшчэ больш навучыцца з гісторыі суседніх славянскіх народаў

(чэхаў). Нашы паны не былі стойкімі і па веры. Мы відзім іх найперш ва ўсходнім абрадзе, пасля ў кальвінізме, а ў канцы ў спольшчаным каталіцызме. У часах апошніх і гэты ўступае ў іх прад бязверствам, масанерыяй і марыявіцтвам (kościołem narodowym). Гэтыя апошнія метамарфозы рэлігійныя шляхты ўжо не жывуць у ваколіцах Свіра, бо і шляхта тут змалела і ледзь дыхае. Зрэшты, мала яе ёсць. «Цяглы» (селянін) цяпер зачынае падымаць сваю заспаную пасля трудоў паншчыны галаву. Аглядае ён кругом небасхіл і бярэцца за працу творчую. Якой дарогай пойдзе, не згадаць ні пану Хамінскаму, ані мне, простаму чалавеку.

*1922*

## БЕЛАРУСАМ ПАТРЭБНЫ КАСЦЁЛ У ВІЛЬНІ

Адной з найбольш балючых крыўд, якую цяжка перанасіць мы змушаны, гэта адсутнасць касцёла для беларусаў у Вільні. Каб дастаць яго ад каталіцкай улады духоўнай, мы дарма стараліся даказаць, што лікам нас даволі, каб мець сваю святыню ў Вільні; дарма пісалі ў газетах, падавалі заявы, дамагаліся дарогай спакойнай, нікому не шкоднай. І ў рэзультаце нас збылі… Той жах прад нейкай алавянай палітыкай, якая завісла над «вольнай» Вільняй, судзяржаў духоўныя ўлады ад здаваленння нашай балючай патрэбы рэлігійнай. І вось мы былі змушаны пайсці ў прымакі да літоўскага, цеснага і закіненага ў глухім куце касцёла св. Мікалая. Там мы перажывалі хвіліны пад'ёмнага рэлігійнага настрою, там свяцілі ўрочныя гадавіны, там пялі журліва-хаўтурную песню памерламу паэту Ядвігіну-Лявіцкаму. Не разумелі нас, ні нашых настрояў… Як нам крывёй аблівалася нашае сэрца, калі мы канчалі набажэнства скаргай да Бога: «Божа — калі ўзглянеш Ты на народ бяздольны», пасля каторай разлягалася іншая жальба: «Пулькім ант Келю»; крыўдзіліся нашы беларускія студэнты, крыўдзілася моладзь школьная. Столькі касцёлаў у Вільні і капліц, а нам… нам трэба туляцца на ласцы братняга нам літоўскага народа. Паказалася вось, што не хочуць лічыцца не толькі з народам «простым» па вёсках: не хочуць лічыцца і з нашай масай сіл інтэлігенцкіх, якія з рэлігіяй не развіталіся. Эх, паздароў Бог такіх каталікоў, як Обсты: іх гэта справа, бо ў іх руках «апінія» цёмнай віленскай дэвоцыі, — а гэта ж таксама сіла ў руках спецыялістаў. І чаго наш біскуп так

баіцца гэных абломкаў з крушні перастарэлага будынка? Ці не верыць у творчасць мыслі рэлігійнай беларуса? Але ж вось тут увесь і грэх. Не вольна марнатравіць ніякай энергіі добрай, а тым больш энергіі натуры духовай! А ў нас? Як жа марнуюцца маладыя сілы, што шукаюць выхаду, а ім замкнёны шлях. Дайце нам выказаць сваю творчасць, дазвольце нам спяваць нашы новыя рэлігійныя песні, дайце нам магчымасць выказаць каталіцкія думкі ў годнай форме. Нам на гэта патрэбна месца прастарнейшае, чым Мікалай святы: там мы не можам сабрацца ўсе, там мы не можам развіць сваёй творчасці, там мы гасцямі, звязанымі сілай ужо самой гасціннасці літвіноў. Не! Нам патрэбны асобны касцёл! Мы пэўны, што будзем яго мець ў будучыні, але нам шмат цяжка і крыўдна чакаць бясконца. На жаль, мала хто нас разумее. У польскай публіцыстыцы адзін толькі Чэслаў Янкоўскі сімпатычна адзываўся аб нашай патрэбе пякучай (пішучы аб Лявіцкім). Мы ведаем, што на біскупа наваліцца цэлая гразь эндэцкая ў выпадку здавалення нашага дамагання. «Nec Hercules contra plures», але цікавасць, што пільнейшае для каталіцызму: тысячы арганізаваных каталікоў беларускіх ці спакой са стараны садыстычнай злосці паноў Обстаў. Прыдалося б аб гэтым падумаць і суфрагану польскаму ў Вільні эксцэленцыі Міхалкевічу. (Аб беларускім суфрагане гаварыць цяпер — страшная ерась!) Так мы чакаем цярпліва, молячыся ў гэтых цяжкіх варунках бяспраўя, каб Бог нам дазволіў запяяць незабавам у сваёй роднай святыні:

Хрысце-Езус, пасля мукі
Май жа Ты трыумфу час,
Развяжы і нам ўжо рукі,
Ворагі зглумілі нас…

*1923*

## У АБАРОНУ «КРЫНІЦЫ»

Абываталь Саладух у сваім аналізе «Крыніцы» ў нейкім запале сцвердзіў, што не належыць увогуле браць гэты перыёдык за выражэнне думак каталіцкай супольнасці беларусаў, што цяпер трэба ўжо лічыць газету мёртвай і ўзяцца за стварэнне новай, якая больш удала выражала б настроі шырокіх каталіцкіх мас.

Што да першага сцверджання, то згодзімся з аўтарам. «Крыніца» ніколі не мела прэтэнзіі лічыцца органам, які спецыяльна займаецца рэлігійным жыццём беларусаў-католікаў і мела заданне шырэйшае і, можа, таму, уласна, была і ёсць папулярнай; пераадольвала цяжкасці беспарадку на працягу сямі (не пяці!) гадоў, адтуль змена яе аблічча і нават яе некаторая нясталасць. Аднак, паміма антыпатыі да яе пэўнага тыпу ксяндзоў і нават біскупаў, ніхто ёй не давядзе, што ў чымсьці адступіла ад прынцыпаў каталіцкіх, якія не раз уздымала, будучы заўсёды органам людзей веруючых.

Наогул, пане Саладух, не варта ўпадаць у крайнасці, прысвойваючы сабе манаполію каталіцкасці, як таксама няслушна пан сваім поглядам хоча нанесці тупы ўдар «Крыніцы», каб нябачна зрабіць адкрыццё, што і сам ён не можа прамаўляць ад імя многіх, што дае сябе адчуць у яго крытыцы «Крыніцы».

Чаму «Крыніца» знізіла свой лёт (калі ўвогуле знізіла) — не мая справа тое тлумачыць. Існуюць прычыны натуры ўнутранай і передусім знешняй. Аднак яе творчасць прайшла, здаецца, толькі пэўную стадыю, а супрацоўнікі (калі канкрэтна маецца на ўвазе ніжэйпадпісаны) у цэлым выдання не апусцілі. Цяжкая ўтварылася атмасфера для творчасці беларускай у нас: душна — вось прычына скурчанасці «Крыніцы» з пэўнага погляду. Аднак лічыць яе памерлай заўчасна — трэба пабачыць, што паставіць на яе месца. Ствараць новае выданне чыста каталіцкае даўно патрэбна, нават і ў «такой» атмасферы — дысацыяцыя мыслі беларускай узрастае, таму патрэбны і новы спосаб выражэння. Але трэба памятаць, што не належыць гасіць агеньчыка, які ўжо даўно гарыць і грэе, хоць паліцца няроўным, часам занадта яскравым святлом. З другога боку трэба даваць пазітыўныя вынікі ўласнай працы ў кірунку шырання каталіцкай ідэалогіі сярод свядомых беларускіх мас.

*1923*

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ РЭАЛІЗМЕ

Дыскусія, распачатая А. Саладухам у «Пшэглёндзе Віл.» на тэму патрэбы беларускага касцёла ў Вільні, павінна знайсці водгук у колах віленскіх беларусаў, асабліва сярод беларускай моладзі, якая ходзіць на набажэнствы да касцёла св. Мікалая. Не будучы непасрэдна абазнаным ва ўнутраных стасунках закранутай справы, нічога згары не прадвызначаю; дадаў бы толькі да артыкула «У імя рэалізму палітычнага» наступныя заўвагі.

1. Чаму дамаганне касцёла беларусамі-католікамі лічыцца недахопам рэалізму ўласна палітычнага: ці ходзіць тут аб палітыцы? Калі так, то сапраўды заўважна трыбуна — касцёл не павінен быць на паслугах палітыкі.

2. Не згадзіўся б са сцверджаннем, што яшчэ не вырабіўся тып каталіка-беларуса. Таго нават *не патрэбна*. Паляк-католік, літвін-католік, швед-католік — усё гэта штучныя фармулёўкі як, напр., «каталіцкая партыя». Дастаткова проста *католік,* які жадае хваліць Бога па-беларуску ва ўласным касцёле, — ён можа быць інтэрнацыяналістам альбо хоць бы якімсь сімпатыкам «гаворкі» беларускай. Мова ж ёсць *толькі* сродкам.

3. Аб патрэбе сапраўднай або ўяўнай касцёла для віленскіх беларусаў няхай скажуць *самі вільняне*-беларусы, асабліва ж навучэнцкая моладзь і *студэнты*, якіх бачым на беларускіх набажэнствах. Ці ж у выпадку паспяховым варта прымаць вымушаную прапанову духоўных уладаў у варунках сучаснага разнузданага шавінізму, хай тое рашаюць самі заявіцелі. У тым рашэнні, відавочна, належала бы як найменей звяртаць увагі на паноў Обстаў і панну Купсьцювну як на элемент цалкам абыякавы да сутнасці той справы.

4. Аргументацыя А. Саладухі выяўляе, з аднаго боку, зычлівасць для католікаў-беларусаў і трактаванне іх культурных патрэб як надзвычай паважных — у нацыяналістычным віленскім псіхозе ёсць гэта голасам па меншай меры сімпатычным — з другога, празмерную асцярожнасць у пасоўванні іх справы наперад. Але ж — болей такіх артыкулаў калі ж … *sapienti* не *sat*[1].

5. Згаджаюся з аўтарам артыкула ў тым, што датычыць патрэбы рэалізму, сцвярджаю нават, што рэалізм увогуле як сістэма быў заўсёды практычнейшым ад ідэалізму і што аўтар дыскутаванага артыкула… мусіў быць, відавочна, на беларускім набажэнстве у касцёле св. Мікалая.

*1923*

## ТРУСЫ ЦІ ВОЛАТЫ
*(Думкі на парозе Новага года)*

Дзіўныя мы, аднак, людзі, крывічы. Ці часам не ад крыўляння нас так празвалі! От, так сабе падумаеш: столькі нас вучылася здаўна, столькі адукавалася ці абразавалася, а ў рэзультаце ўсё ж такі беларускай інтэлігенцыі ў нас мала, як мала… «Што яно?» Няўжо ў *Доме беларускім* адукаваным тым цесна? А мо за хлеб-соль аддаюць яны свае крывіцкія душы на Захад-Усход, як даўней — сумнай памяці — шляхта!..

*

Перабіраю ў памяці беларусаў, што ўжо працавалі на ніве беларускай, што рыхтаваліся да гэтай працы або што ўжо гатовы былі да яе, і прыпамінаю шмат-шмат прозвішч беларусаў усходняга і заходняга абраду і — дзіўлюся — дзе яны… Адны патанулі ў хвалях рэвалюцыі, другіх творчасць змарнела, трэція да душы — сталіся «крыўлянамі», бо аддалі труд свой ніве чужой. А іншыя… *гартаваліся ў нядолі.*

*

Так, на жаль, адплыў у нас тым часам роўны прыплыву, і калі б не жывучыя народныя масы — адплыў кончыўся б распыленнем. Тыя захварэлі на «гэні», кажучы, што не змесціцца ім у хаце беларускай… Волаты ці трусы яны, судзіць не будзем. Другія даліся звязаць сябе путамі культурнай высшасці цывілізаваных і ўзброеных суседзяў: гэта слабавольныя…

*

Некаторыя ж сталіся маладзейнымі абсерватарамі* той вялізарнай натугі, з якое ваюе сучасная беларуская думка за права самабытнасці. Горш — некаторыя знайшліся ў варожым абозе насмешнікаў — наругаў над беларускай крывавай бядой: гэта ўжо подлыя… А колькі жаху і слабаволля ў іншых! Так мала *суцэльных і адважных* людзей, хоць крытыкаў доваль. Хто ж не лечыць сёння рух беларускі?.. О, знахар! Чаму ж сам не

* Абсерватар па лаціне азначае чалавека, каторы да нечага прыглядаецца.

бярэшся за работу! Праца аграмадная, а работнікаў прыбывае так мала…

*

Беларусе, не губі душы сваёй, расцярушваючы дзеяльнасць сваю. Памятай зрабіць у гэтым Годзе Новым што-колеч дзеля адраджэння нашага народа, нашага сярмяжнага брата. Не прадавайся чужынцам, бо нягодна скрывіш душу сваю. Народ сябе адстаіць, бо ён крыніца свежых жыватворных сіл духовых! Толькі жаль, вялікі жаль тых, што «адышлі» — адплылі мо на супакой вечны, згублены творчасці дзеля душы беларускай… Вечны супакой і жаль вечны па іх і жаль збалелага сэрца Маці-Беларусі.

*

Жыве Беларусь! На ніве яе зарунела збажына, закрасавала шмат кветак… Душы вольныя знойдуць там сабе месца да працы святой. Душы несвядомых працярэбяць сабе шлях да святла божага. Душы збалелыя адмогуцца — вылечацца крыніцамі русальнага Купалля… А Дух Божы над ёю — адвечны ў праявах Дабра і Ладу…

***1925***

## З НІВЫ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА

У пару, калі — як здаецца — пачынаецца беларускі рэнесанс-адраджэнне, з затаёным дыханнем чакаем мы мастакоў вялікае ідэалогіі, якія збудзяць заспаную народную творчасць.

Такое велізарнае засілле духу на творчай дарозе да адраджэння выказвае нам у мастацкіх абразох сваіх беларускі маляр-артыст Драздовіч[1]. Не меў я магчымасці абняць цэласці яго духовай творчасці, даволі плоднай і багатай. Але і тое, што бачыў, дало мне столькі задумы, што аж мушу гэтым падзяліцца з тымі, каму дарага кожная новая хваля нашай духовай творчасці.

Драздовіч знае напрамкі найнавейшых малярскіх школ. Бярэ з іх найбольш характэрную для беларусаў: экспрэсіяністычную сімволіку. Пры яе помачы стварае цэлыя кампазіцыі, што абымаюць ледзь не ўсю ідэалогію сучаснай Беларусі. Хто ўгледзіцца ў яго абразу Пагоні, знойдзе там і мэту, і церні, і злыдні мучэння

душы беларускай, — душы адважнай з разгонам Праметэя і з мукай Тантала. У абразе з 1922 года, маляваным, здаецца, пад уражаннем рыжскага трактата, Драздовіч замкнуў сінтэз цэлага сучаснага беларускага гора: гора раздзелу жывога цела на ўсход і захад. Беларус, аднак, жыве. Дух ягоны (геній) над гідрай імперыялізму вызваліўся між пажарышч уласнай будоўлі і ўглядаецца ў сінюю даль здвоеным зорам Усходу і Захаду: у даль, дзе відзіць святыню духу, рэалізацыю вялікай ідэі — Беларускі народны дом. Над святыняй зор Божага агляду спачывае, спагадна ўглядаючыся ў крывавую ніву творчага змагання: зор гэты повен неадгаданай прамудрасці. Абраз у цэласці служыць сінтэзам сучаснае Псіхеі беларускай, панятай у як найглыбейшым ідэйным сэнсе.

Тэхніка выканання абразу выдзержыць крытыку найбольш выбрэднага[2] эстэтыка, а еслі каму і не панятна на першы погляд сімволіка, то вінавата тут, напэўна, не экспрэсія ці імпрэсія маляра — даволі простага ў сваёй інвэнцыі. Сімволіка — рэч цудная, а цуды аглядаць не ўсім можна: патрэба на тое асобага складу душы. Мастак, што творыць вялікія духовыя вартасці пры помачы ігры святла і цені разнафарбных матываў — вось тварэц цуду: цуду, не зразумелага для маладушнага натоўпу, катораму мастачы сказаць можа заўсёды: “Не кідайце перлы для парсюкоў”.

Апроч матываў народных у шырокім сэнсе гэтага слова Драздовіч пераносіцца лёгка і ў сферу агульналюдскага імкнення. Такімі пазнаў я тры абразы: 1) «Зямля», 2) «Вечная Будыніна», 3) «Рэвалюцыя і Эвалюцыя». Першы абраз пераносіць нас у сферу прабыту і найдалейшую канцэпцыю творчасці на зямлі, калі «Дух Божы ўзносіўся над водамі». Сімволіка абразу мае матывы біблейныя, сназаныя на даных сучаснае навукі аб істоце матэрыі і духу. Абраз імкнецца выказаць нейкую ледзь адгаданую трагедыю людскога быту на зямлі. Другі абраз — «Вечная Будыніна» — прадстаўляе антытэзу часу і вечнасці. «Рэвалюцыя і Эвалюцыя» выясняе дарогу, у якой адбываецца развітак культуры. Дзве сілы даюць тут быт рэальны, сімвалізаваны, з аднаго боку, львом, з другога — чалавекам. Сіла льва творыць моцна, але будыніна зарысоўваецца і сфінкс-леў валіцца. Сіла людскога генія — гэта сіла найрэальнейшая: сфінкс з тварам чалавечым перамагае. Ён цвёрда стаіць на крушнях-пажарышчах вяковых і зорам пэўным углядаецца ў ледзь павідную даль-будучыню.

Наагул абразы Драздовіча будзяць паважныя настроі. Артыст — як відаць — шмат пеpажыў, — магчыма, што перайшоў

усю геену шукання ідэалу — і вось прычына, дзеля якой узяў сімвалізм аружжам для захавання паасобных фрагментаў сваёй буйнай філасофіі жыцця. Пашчасліў яму Божа, бо талент гэта немалы: дачакае пэўна належнай ацэны. Драздовіч паміма так глыбокага зместу свайго мастацтва мае капітальную гумарыстыку (творыць тыпы карыкатуральныя). Гумар яго тым дзіўнейшы, што варункі, у якіх жыве артыст, не дастаўляюць вясёлых настрояў. Цяжкое матэрыяльнае палажэнне нашага шматнадзейнага мастачага адбіваецца, аднак, на яго творах: шмат канцэпцыі не даводзіцца да канца або выконваецца надта прымітыўнымі паспешнымі сродкамі. Гэтае цяжкае палажэнне змушае яго да сумнай для мастака залежнасці еслі не ідэйнай, дык прынамсі партыйнай (“Wyzwolenie”). Але чалавек, што творыць у абразох сінтэз беларускай духовай ідэалогіі, не запрадасць ніколі сваёй думкі. Прыпамінаю тут адзін верш Купалы, у каторым ён дзякуе за хлеб-соль паном, што хацелі купіць яго талент. У творчасці артыстычнай няма ніякай сымоніі, бо артыст нікому не падлягае. Драздовіч, калі пойдзе шляхам сваёй жывой творчасці, мае будучыню вялікую. Магчыма, што ён створыць сімвал душы сучаснага адраджэння. Гэта дало б яму права быць адным з геніяльных волатаў, якія паявяцца на векавой беларускай мартыралогіі. Руіны і пажарышчы — частыя матывы ў яго творчасці. Не дзіва. Вайна — гэта банкруцтва старых вартасцей, банкруцтва думкі філасафічнай XIX стагоддзя, а нават банкруцтва ўсёй мяшчанскай псеўдакультуры. Наш артыст-маляр не толькі ўглядаецца ў вялікія моманты ідэйныя беларускай душы: голас яго нясецца з бяздоння атэізму ўзвыш, дамагаючыся з неба павароту запрочанай язні людской. Агульналюдскія ідэі нашага мастачага адчыняюць перад ім шырокі кругазор творчай інвэнцыі. Беларусь чакае ад яго многа і не павінна памыліцца.

*1925*

## «АВАДЗЕНЬ»[1]

Паказаўся даўно чаканы жарт і смех па-беларуску. Вітаю і — дай Божа… добрай сатыры, не «крытыкі», але выразна: здаровай беларускай сатыры, іроніі, сарказму. Напрасна аўтары высіляюцца на прафілістыку, ці капраністыку* «Бацяна» або іншых блазнаў. Некаторыя цяперашнія часопісы гумарыстычныя зусім змарнаваліся, уваліўшыся ў пропасць іроніі над чалавекам — нявольнікам бясстыдства. Узяць у рукі такія «вольнэ жарты» — нейк стыдна. Проста нясе ад іх французскімі хваробамі. Вясёласць беларуса павінна быць здаровая, бо ён яшчэ «просты», не адышоў ад прыроднага жыцця і не сапсаваў крыві сваёй ядам мяшчанскай псеўдакультуры. Даволі перагледзець этнаграфічныя зборнікі (Федароўскі, Нікіфароўскі, Раманаў, Шэйн і інш.), каб пераканацца, які здаровы смех беларуса: гэта проста водгалас яго сужыцця з вяселлем птушак, ігрой сонечных касуль, забавай ветру «дуроніка». Трэба папулярызавацьпашыраць народныя жарты; асабліва калі прыходзіцца праз слёзы цешыць душу сваю, бо… прыйшло паскуднае банкруцтва вялікіх ідэяў у сённяшнім будні. Так вось, дай Божа добрага, «Авадзень»! Смяіся чыстай іроніяй не з чалавека, але з яго карыкатуры: а сучаснае жыццё парабіла з людзей столькі абломкаў, што смех з усёй нашай «вялікай культуры». Вялікай дозы эстэтыкі зычу Табе, калі хапіўся ўжыць Ты гэтакіх лекаў на беларускую меланхолію: тых лекаў, каторыя ў многіх-многіх… смярдзяць. Дык вось смяіся свабодна, «Авадзень»!: і з «іх», і з «нас саміх», і з… маёй крытыкі.

***1925***

## ТВОРЧЫМІ СЛЯДАМІ
*(Культурны нарыс)*

1. Што гэта культура? Пад словам культура разумею я ўвесь набытак разумнай людской працы. Прычым набытак, каторы служыць жыццю раскошнаму, не ўключаю да паняцця культуры, — абымае яго шырэйшае слова «цывілізацыя». Культура наагул гэта здабыткі трудавыя чалавека дзеля стварэння шчаслівага жыцця. Мэтай культуры — дасканальства чалавека, — і то больш,

* Агулам бясстыдныя рэчы.

так сказаць, знутры, а цывілізацыя — звонку. Не можа быць чалавек культурным без высшага складу свайго характару, але цывілізаваным можа, бо цывілізацыя — гэта дзіця трудавітасці людской больш дзеля фізічнага дасканальства, а культура — дзеля духовага. Культура вось у рэзультаце — гэта здабыткі трудавітай творчасці дзеля жыцця разумнага і справядлівага. Можам сказаць пры гэткім паглядзе, асабліва ў нашых часах, што шмат ёсць людзей цывілізаваных, а нямнога людзей сапраўды культурных. Гісторыя нашае Бацькаўшчыны навучыла да слёз смяяцца з усялякіх «культуртрагэраў», якія стараліся і стараюцца надзяліць нашу Айчыну перагноем чыста вонкавай цывілізацыі з яе дабрабытам адных, а крыўдай другіх. «Фармазонства» гэта, больш нічога. Дзе такія «культурнікі» з'яўляюцца, прывозяць зара з сабой тэхніку, а з ёй водку і французскія хваробы. Калі работа культурная не сягае душы чалавека, яна з'яўляецца распустай духу, горшаю за распусту цела. І гэта зусім відавочна па страшэннай еўрапейскай вайне, якая паказала найлепш, чаго варта сучасная аднабокая цывілізацыя.

На тварэнне культуры-цывілізацыі складаюцца цэлыя пакаленні і кожны народ стаіць на іншай ступені развітку, бо ёсць народы маладыя і старыя, больш і менш здольныя. Мерылам культуры можна ўзяць вось што: той народ больш культурны, каторы больш мае людзей, занятых творчым трудом, той меней, каторы мае больш гультаёў, хаця б уважаўся і вельмі цывілізаваным. Разумны труд творыць культуру: там, дзе больш труда і працы, там больш і культуры. І вось гэта адна з прычын, дзеля якой лічу я народ беларускі за больш культурны, чым гэта здаецца яго «культуртрагэрам». Можа, ён менш цывілізаваны з стараны тэхнічнай і не мае тых выгодаў-дабрабыту, што некаторыя часам змешваюць з культурай. Але, на шчасце, культура існуе на свеце не ад часу, як адкрылі электрычнасць і выдумалі аэрапланы, — яна пачалася тады, як чалавек навучыўся творчай працы. Беларусы не маюць авіятыкі і атрутных газаў, але не маюць і дамоў распусты або іншых установаў, каторыя асмешваюць усеньку псеўдакультуру.

2. Што Усход і Захад. Высокага пад'ёму культура еўрапейскіх народаў дачакала пасля пазнання хрысціянства. Свет жа хрысціянскі развіваўся пад уплывам дзвюх выробленых ужо культур старажытных народаў: грэцкага і рымскага. Вось гэта і ёсць на бліжэйшую мэту Усход і Захад, бо Грэцыя лічылася на Усходзе, а Рым на Захадзе. Народы Еўропы ў жыцці сваім палітычна-сацыяльным, а перадусім рэлігійным бралі асновы з

крыніцы грэцкасці або лацінства. У жыцці рэлігійным стварыліся дзве формы-абрады: грэцкі і рымскі. Славяне здаўна падпалі пад уплывы Усходу, толькі чэхі і палякі павярнулі на Захад. Разам з хрысціянствам бралі славяне і палітычную арганізацыю з Усходу. Некаторыя ж знайшліся на граніцы абодвух уплываў. Гэта беларусы, украінцы, харваты і славенцы. На Беларусі, паложанай у самай сярэдзіне Еўропы, адбіваюцца скрозь усю гісторыю павевы культурныя з Усходу і Захаду, так у жыцці рэлігійным, як і палітычна-сацыяльным. З Захаду ціснуліся да нас установы з Польшчы, з Усходу з Расеі, каторая ўзяла на сябе спадак Візантыйскай (грэцкай) Імперыі. Цікаўна найперш, што далі гэтыя ўплывы Беларусі, паложанай на ўзбярэжжы дзвюх вялізарных культурных сіл? (Дзеля гэтага яе палажэння называць можна нашу Бацькаўшчыну Берагіня.)

Возьмем перш-наперш рэлігію, каторая дае найбольш выразлівы характар культуры (поруч з філасофіяй і мастацтвам). Справа рэлігіі на Беларусі адыграла аграмадную ролю, фармуючы індывідуальную душу народа. Дзякуючы розным уплывам душа гэта пазбылася, як здаецца, фанатызму сектанцтва і знаходзіцца на дарозе ўтварэння нейкага прынцыпу дзеля сінтэзу абедзвюх форм рэлігійных: усходняй і заходняй. Асабліва гэта набірае значэння ў нашых часах, калі ідзе змаганне за душу беларуса між канкурэнтамі Усходу і Захаду: Расеяй федэратыўнай і Польшчай цэнтралістычнай. Глянем у мінуўшчыну. Дзякуючы наплыву мыслі рэлігійнай з Усходу і Захаду, на Беларусі не адразу сфармавалася душа народная аднalітнага светагляду. Знаходзіцца яна і дагэтуль на дарозе зглыблення і аб’яднання (Уніянізму). Атэістычная душа (цяпер) Усходняй Беларусі творыць свой сінтэз у сістэме сацыяльнай філасофіі, даведзенай да культу; больш містычная душа Беларусі Заходняй клоніцца да рэлігійнай Уніі.

Даўней — з аднаго боку ішоў да нас лацінізм з яго рацыяналізмам, з другога праваслаўе з яго візантынізмам. У абапольным змаганні дзве гэтыя сілы мусілі раз’яднаць наш народ духова і вытварыць два псіхічныя віды. Але народ беларускі ніколі не перастаў змагацца з захланнай сілай, творачы сінтэз. У гэтым змаганні правалілася шляхта, каторая пераходзіла з абраду ў абрад (ад грэцкага абраду праз пратэстантызм і лацінства аж да сучаснага бязверства), вырадзілася мяшчанская думка, — і толькі ў сялянскай масе нейкім дзіўным спосабам перахавалася ідэя. Сяляне нашы і яе інтэлігенты маюць мучанікаў Уніянізму, хоць мо і вузка калісь панятага. І калі дапраўды фар-

маванне рэлігійнага складу душы нашае народнай мае штосьці арыгінальнага, то гэта будзе не што другое, як Рэлігійнае Аб’яднанне ўсходніх і заходніх абрадаў у адным светаглядзе. У гэтым лепшае наша палажэнне, чым украінцаў, каторыя пакінулі сабе толькі адзін абрад, а раз’яднаціся дагматычна; лепшае, чым харватаў і славенцаў, якія сільней звязаны з лацінствам. Не дзіва, што калі цяпер разлёгся поклік «Незалежная Беларусь» пад зглядам палітычна-сацыяльным, аўтаматычна душы людзей веруючых адгукнуліся і на голас «Рэлігійнае Аб’яднанне» форм розных культаў нашай зямелькі: аб’яднанне грэцкіх беларусаў з лацінскімі ў адным рэлігійным сінтэзе: адна вера — розныя яе ўяўленні. Факт значэння вялізнага, тым большага, што не пойме яго палітычна завідны сусед, каторы нават мае нейкі жах перад гэткай ідэяй…

*1925*



# ДЗЕЯ МАЁЙ МЫСЛІ, СЭРЦА І ВОЛІ

## І. ПАЧАТКІ

Далёка ты, родная старонка, ад мяне…

На крыллях хмарных ляціць мысль мая туды, дзе я ўбачыў свет, дзе айцец мой дарагі, дзе маці мілая, дзе сястрыца родная. Родзяцца во думкі: то светлыя, як вясенняе сонца над роднаю вёскай, то сумныя, як ночка цёмная, слязлівая, восенная…

Прад вачамі стаіць уся прошласць, што мінула як бляскі святла, навекі згаснутага… Не вернецца ніколі… Штодзень, штомомант далучаецца да яе новая хваля і… прападае вечна. Ах, шчаслівы той, што збудаваў сабе стройную, горную мінуўшчыну… Чаму я неспакойны, чаму бязвольны?!.

Дарагі! Сабяры сілы духу… Стаў прад сабой усё, што прайшло… Будуй новае, штораз высшае жыццё!..

* * *

Шуміць цёмны лес навокал Гаруноў, малой вёскі беларускае. Кругом ні жывой душы. Зрэдку толькі адзавецца звяга сабак вясковых, што чуюць ваўкоў. Людцы спяць адны, другія канчаць вячэру. У хаце апошняй, пры самым лесе, мігціць праз акно агеньчык.

Дзеткі акружылі навокал бабулю і слухаюць пільна казкі. Усе ўжо расходзяцца спаць. Ім толькі не да сну, бо якраз байка ідзе аб самым цікаўным! «…Крыся абярнулася ў вадзянку і жыве ў азярку. Штодзень чуе яна голас жалосны з берага — Крыся, Крыся, маладзён плача… Штодзень адзываецца яна з жвіраватага дна — іду-бягу, раса вочкі залівае, жвірок ножкі падбівае…»

Слухалі дзеткі казкі-песні. Аж заміралі з ахвоты даведацца, чым гэта кончылася, аж блішчэлі іх вочы. І ўночы пасля пялі яны ціхутка праз сон: «Крыся — Крыся! — Іду-бягу»…

Шчаслівае дзяцінства! Як жа яно жыва запісалася ў маёй памяці. Няма ўжо тэй бабулі. Змяніла яе новае пакаленне. Забыліся аб ёй чуць не ўсе. Ах, вечны табе спакой, родная! Прыйдзі хоць у сне яшчэ да мяне…

* * *

Помню ноч. Сям'я наша тады была падзелена. Часць жыла ў Гарунох, а часць у глухім засценку Загінца. У засценку жылі старушка, брат і я. Брат пасвіў. Прыгналі раз дамоў. Прыйшла жывёла — брата не было: прапаў недзе. Бабуля не спала і плакала, поўна неспакою. Лес быў кругом вялікі, з балотамі, гушчарамі, хмызнякамі. Вадзілася многа ваўкоў. Штоноч чуваць было іх завыванне; навадзіла яно і адважнаму дрыжачку на плечы… Цёмна. Поўнач. Алеся няма…

> «Найсьвятша Матка да касцёла хадзіла,
> Сваё Дзіцятка за ручку вадзіла», —

мовіла бабуля свае пацеры голасам плачлівым і безнадзейным. Мне было страшна. Утуліўся глыбока, закрыў вочы і вушы і… заснуў здаровым дзіцячым сном. Назаўтра з зарой брат вярнуўся. Начаваў пры агні ў лесе, не баючыся ні ваўкоў, ні благіх людзей…

Незваротны час! Як жа я тады блізкі быў прыроды, як зжыўся з шаптуном-борам, з зялёным гаем, кветным лугам! Быць любіў і пад навальніцай-громам, і пад гарачым сонцам, і на балючым марозе. Якое здароўе біла з майго твару!.. А цяпер!..

* * *

Цэлую ноч гудзела мяцеліца, гонячы сыпкі снег і насыпаючы гурбы. Цяжка дзеткам ісці ў школку, завеена дарога няблізкая, а і мароз шчыпае вушы. Але мы ў поце, з румянымі тварамі бяжым праз насыпы, лезем праз гурбы — смешна неяк і лёгка. Радасная пара! Як доўга помніцца верш, навучаны на памяць! Як доўга стаіць у вачах вучыцель суровы, што мераў злосна ўдары лінейкай «без дай прычыны»! У імгле мінуўшчыны ён здаецца лепшым і болей людскім. Мімавольна забываешся, што ён быў п'яніца горкі і маскаль наравісты… А які вясёлы быў паварот з школы! Далёка слізгаліся па гладзенькім лядку; прыжмурыўшы адно вочка, паказвалі язык дзяўчынкам, чапалі шалудзькавата кожнага сустрэчнага, прызывалі і смяяліся з боўдзілаў і злых

сяброў. Дзе ж было дзець тую жывасць і энергію дзіцячую, што, як ручай, рвалася разліцца? Напрасна хацелі судзяржаць нас старшыя, называючы «распуснікамі». Мы сваё права мелі…

## II. У ПАВЯТОВАЙ ШКОЛЕ Ў СВЯНЦЯНАХ

Гразка было ехаць да павятовага места, дзе меў я зачаць свае навукі па скончанай людовай школцы. Конь ледзь цягнуў воз, у каторым сядзеў пахмурны бацька і я, маўчлівы, задуманы. «От, дарога цяжкая, — адазваўся ўрэшце бацька, — глядзі, каб не пайшлі намарна гэты труды і захады». Я маўчаў. Баязлівы мой характар быў прычынай цяжкіх мысляў, поўных неспакою і прачуцця нявыясненага…

Эх ты, светазарная дарога навукі! Свеціш ты маладой душы, як ясны месяц сярод майскай ночкі. А ўвойдзеш у тваю краіну, адкрываюцца штораз новыя светы, новыя зоры, неразгаданыя, недаступныя! Вось-вось ухваціш адзін праменьчык, нацешышся ім, раз'ясніш цемру быту, аж з'яўляецца другі, трэці… і сілы ападаюць, аж маркоціцца твая істота і малее, разумеючы, што кароткае жыццё Бог даў для пазнання або што пэўна не тут нам угадаць усе тайніцы быту, — трэба адмены цэлай істоты.

Прывёз я ў места душу чыстую, чуткую, узгадаваную на раллі людовай фантазіі і спеўную, пакорную для Таго, каго ўважала за Найвысшага Пана ўсяго свету. Широка развярнулася яна на подмух жыцця школьнага, жывога, гарачага. Усе мыслёвыя інтарэсы маладзежы я скора пераймаў, разумеў і прымаў без глыбейшай крытыкі. Але маладзяж, з каторай праводзіў я час, была з грунту благая, безыдэйная, хоць гарачая. Яна патрапіла вырваць з душы маёй добрыя зароды веры ў жыццё загробнае. Але комплетным[1] бязверцам не быў я ніколі. Светагляд гэны адбіўся ўемна на маральнасці маіх мысляў і намераў. Рэлігію пачаў уважаць я за нешта фальшывае ў жыцці людскім…

Раз была працэсія Божага Цела. Я ўжо канчаў меставую школу. Ішоў з адным жыдком «інтэлігентным» між людзей і відзеў здалёку ксяндза з манстранцыяй[2]. Дзіўная мысль прыйшла мне ў галаву. «Каб гэтых людзей адарвалі б мы да сябе, — адазваўся я да Абрама, — прапалі б перасуды». На маё здзіўленне, патомак Ізраіля нічога не адказаў. Не ведаю, што ён тады думаў. Але здалося мне, што рэлігія мусіць мець нейкую нялюдскую аснову, бо, сказаўшы гэта, я вельмі спахмурнеў: адазвалася нешта нейкае, чаго я не мог ці не ўмеў назваць.

## III. ПРАД СЕМІНАРЫЯЙ
## (1906–1908)

З восені 1906 года я інтарэсуюся рэлігіяй і варочаюся павольна да пакінутай малітвы.

Помню дзіўны момант. Я прыехаў у Вільню з дарагім сваім айцом. Зайшліся ў катэдру, бацька дзеля Бога, а я сам не ведаю, дзеля чаго: маліцца я не мог. У капліцы адпраўлялася набажэнства. Колькі асоб з твару, як мне паказалася, інтэлігентных кленчыла ў малітве і размышленні. Асаблівая ціш, кантраст вулічнага шуму, панавала ў святыні. Ад абразоў святых біў нейкі спакой няземскі. На алтары павольна таялі, як бы ў слязах балючых, гарачыя свечкі…

Бацька апусціўся на каленкі і пачаў свае малітвы. Сэрца маё забіла трывогай. Прад вачамі стаяла будучыня неразгаданая, тайнічная. Здалося мне, што лёс мой не толькі ад мяне залежны. Агляд Прадвечны Бога мусіць быць над кожным. Чаго Ён ад мяне жадае?.. Ці Ягоная помач мне не патрэбна?.. Я хацеў высокага зразумення і вялікіх учынкаў. Мысль мая, аднак, спакарнела, відзячы сваю слабасць і зменнасць… Я маліўся.

*1.VI.1907.* Вялікая працэсія. Спатыкае нейкі ксёндз пры касцёле св. Рафала. Прыраўняў ён сягонняшні трыумфальны ход[3] да выхаду першых хрысціян з катакомбаў рымскіх… «Кожны чалавек пры сумленнай працы можа дабіцца дабрабыту…» Можа, і праўда. Але ці наш гаротнік мала працуе? А што ёсць у яго? — Бядота, цемра, гора…

*7.VI.* Сёння імша на маю інтэнцыю і сяброў маіх па навуцы. Атрымаў 7 рублёў ад бацькі. Няхай Бог заплаціць.

*9.VI.* Пачалася вакацыя. Пані старшая ад штодзённага парадку звольніла. Час школьны праляцеў як маланка. Іду да споведзі.

*13.VI.* Еду да бацькоў. Дождж як з вядра.

*14.VI.* Не маю тым часам чым заняцца. Ад гутаркаў з бабамі бяруць нудоты.

*15.VI.* Пазнаёміўся з адным сацыялістам. Не верыць у Бога… Бедны!..

*19–20.VI.* У бацькоў усё ідзе «па-старому». Займаюся пчаляркай. Бяру лекцыі французскія ў дварэ.

*1.VII.* Быў у касцёле. Адбылася прыміцыя маладога ксяндза (Янкі Семашкевіча).

*14.VII.* Чытаю канферэнцыі рэлігійныя кс. Заленскага.

*15.VII.* Памерла хросная матка. Пяяў разам з сялянамі псалмы Давіда. Людцы пяюць, закусваючы, часам пажартуюць, па-

смяюцца. Хочацца, каб было неяк іначай. Але хто дасць іншую форму паховінаў?..

*16.VII.* Рана павезлі нябожчыцу да касцёла. Я астаўся ў хаце. Праклённае гультайства!

*18.VII.* Мыслю аб споведзі. Адкладаю на пасля.

*29.VII.* Хочуць у нашай парафіі закладаць гурткі сацыялістычныя. Шкада мо працы і захаду! Каб свае здольнасці і сілы лепш абярнулі на працу «з народам для Бога», — а не «без Бога для народа».

*30.VII.* Паслаў «Канферэнцыі» галоўнаму піянеру сацыялізму. Можа, скарыстае.

*1.VIII.* Мала думаю. Благія навычкі ізноў падымаюць галаву.

5.*VIII*. Спаткаўся з школьным сябрам Лявосем. Не страціў веры ў Бога, як большая частка маіх старых прыяцеляў. Цуд ласкі Божай!

*Аспажа.* Дождж такі рэдка калі бывае. Чаго мяне ліха пагнала ў мястэчка? Бога толькі грашыў у касцёле. Эт, каб хутчэй ехаць ізноў у Вільню. Там пры працы навуковай не будуць дакучаць мне благія мыслі. Трывога мяне агарняе.

Займаюся крыху беларушчынай. Куды глянеш, усюды сумная жальба.

*16.VIII.* Жыццё маё дагэтуль плыло спакойна, ціха. Што будзе, як паставіць яно ўсялякія перашкоды, заскемы? Я такі слабы, зменны.

*19.VIII.* Пан Б. даў чытаць Талстога. Дзякую. Можа, і прыдасца.

*20.VIII.* Зманны свет, зманнае людское жыццё! У аднэй хвілі здаровы чалавек — сусед паўтрупам. Што гэта, можа, апаплексія?.. Дарма ратаваў. Заўтра еду ў Вільню.

*22.VIII.* Дарагія Тата і Мама! З ласкі Найвышэйшага прыехаў шчасліва на старую кватэру да добрай пані Ш. Лекцыі пачнуцца ад сягоння. Цалую сардэчна Вашы рукі. Сын.

*21.IX.* Выбраў сабе небяспечную дарогу: уступіць у семінарыю. Баюся, хоць чую руку Божую, што не дарма вырвала мяне з таго балота гнойнага, у каторае пачаў лезці, забіўшы Бога ў сваім сэрцы.

*Пецярбург, 26.VIII да 15 кастрычніка.* Першае ўражанне на Фантанцы — прыкрае-балючае. Выгрузка вугля. Людзі чорныя, брудныя… А тут палацы, помнікі, масты багатыя — дзела рук убогіх… На крыві і касцях стаіць харошы горад! Экзамены

пайшлі добра. За французскую — 5. Быў у Эрмітажы, хадзіў па святынях… Цягне мяне нешта да роднае Вільні…

*Вільня. Канец кастрычніка.* Чытаю «Угодовцы». Хаджу на ражанцовае набажэнства.

*Дзень задушны.* Быў у катэдры. Падчас казання стаяў пры мне нейкі малы чалавечак і смяяўся злосна. Звычайны тып недаверка. Пры словах «Чысцовыя атхланні…» — хахатаў. Толькі неяк крыва і няшчыра, як бы чуў сам цэлую лёгкасць і пустату свайго паступку.

*7 лістапада.* Споведзь сёння. Холад і голад духовы. Не адчуваю патрэбы бліжняга. Самалюб я! «Мыслі вялікія пачатак бяруць з сэрца»… Што будзе з мяне?..

*8 снежня. Непавіннае Пачацце Маці Божай.* Праца навуковая пайшла слаба. Паказваецца, што замнога даў веры сваім здольнасцям. Стараюся. Прыказка «што ўбіў, тое ўехаў» стасуецца добра і да мяне.

*1 студзеня 1908 г.* Прыехаў з Вільні дахаты 22.XII. Снегу поўна ўсюды. Няма куды ісці на лёд. Трэба пакуль што пакінуць мой штодзённік, каб лепей быць гатовым да экзаменаў семінарных. Багаслаў Божа!

*22 ліпеня.* Прыехаў з Вільні кандыдатам да семінарыі духоўнай. Думаю заняцца дзяцьмі вясковымі, каб адчыніць ім вочы на святло Божае. Прачытаў кніжыцу Плятэроўны «На пшэломе». Вельмі-вельмі падабалася. Чытаю Мораўскага «Вечоры над Леманэм». Харошая рэч. Шкада толькі, што не ўсё разумею… мо яшчэ не дарос.

*27 снежня.* Дзіўныя нашы вясковыя гульні. Здаецца мне, што мэта гульняў — гэта добры выпачынак па працы, ну і забаўка. Харошая гэта штука танцы, але небяспечныя яны. Люблю глядзець на вясёлую маладзяж, што скача аж да поту, аж да ўпаду. Люблю стройныя і мэтныя жарты, мілыя вясковыя песні. Але што ж! — Я не маю чаго ісці на вечарніцы да маіх вясковых сяброў. Грашаць там Бога і горшаць людзей. Не ўся моладзь без стыду. Найчасцей двух-трох найдзецца шалудзькаў, і яны перашкодзяць забаўляцца ўсім. Знойдзецца водка, а як яна ёсць, пачынаецца стыдная забава. Не хачу быць сведкам чужых грахоў і блуду. Я хацеў бы на вечарынцы маладосці жывой, вясёлай, але чыстай. Што ж тут адзін зробіш!.. Я размінаюся ўжо з імі.

## IV. У СЕМІНАРЫІ
## (1909–1911)

«Для Бога няма прошласці ані будучыні, ёсць толькі цяпершчына, што цягам сваім абымае тры эпохі часу… Чым жа ёсць час, у каторым мы трываем? Гэта моманты, пералётныя для нас, нерухомыя для Бога… Чым жа ёсць само жыццё чалавека? Гэта хвіліна нязначная ў вечнасці…

* * *

Мы неспакойныя, калі відзім хвіліны гэтай хуткі раздзел на дробныя часткі, з каторых кожную завём годам, ставім вялікую розніцу між жыццём 20, 30, 50, 100 гэтых дробных часткаў, гадоў. Балючая трывога нас агарняе, калі відзім, што ідзе апошняя наша гадзіна, трэба кончыць гэта жыццё, прайсці праз смяротны скон сэрца, што трэба пакінуць зямлю, кінуцца ў лона вечнасці…

* * *

Чалавек… лётны пыл у нязмерных прасторах, пункт на шырокім зямлі абшары, момант у цяглым размеры часу… А колькі ў яго заходаў, каб добра прыладзіцца на гэты кароткі сон жыцця, каб сабраць багацтвы, урады, дастойнасць, каб напіцца кадзіла пахвалаў, што яму так дарага прадаюць другія людзі — попелы, пылінкі, як ён сам…

Бог адзін Вялікі, Бязмерны… Хочучы падвысіць гэты нізкі быт чалавечы, дае яму Сябе Самога, найперш у часе, а пасля ў вечнасці. А чалавек сумняваецца, хіляецца, таргуе: не хоча верыць у зманнасць благога…Страшная слепасць!

* * *

І чаго мне жалець, кідаючы гэта сумнае жыццё? Дастаткаў свету? — Яны не запоўняць пустаты майго сэрца. Значэння ў людзей? — Яно ніколі не здаволіць мяне. А можа, пахвалаў людскіх? — Ах, нічога яны не варты: родзяць жуду і неспакой. Можа, сваякоў ці прыяцеляў сваіх? — Большая частка іх пайшла ўжо да Бога, да вечнасці і чакаюць мяне; тыя, што асталіся, будуць спяшацца за мной; спаткаемся на лоне Бога, дзе лучацца прыяцелі неба і зямлі…

У Бога, у аднаго Бога ёсць усялякае дабро маё, вялікасць мая, хвала мая, шчасце маё, супакой сэрца майго — у часе і ў дзень вечнасці…

О Божая вечнасць! О без заходу сонейка яснае, радасць безупынная, астаноў адпачынны падарожных, дарагая айчына наша! Вітаемо Цябе з гэтай даліны слёзнай! Хутка-скоранька прымі нас да ціхага спачынку свайго, поўнага жыцця, светласці, гармоніі…

*Вільня, 23.XI.1909.* Час, каторы я цяперака пераажываю, — вельмі для мяне важкі. Мае ён прынесці мне крыху дасканальнасці хрысціяніна, каторая, аднак, змяніла б мяне ў іншага чалавека. Бог толькі ведае, як пойдзе мне гэта праца-труд; адно толькі ведаю, што без Яго помачы — нічога не будзе. Адразу хапіўся я паправіць свой стасунак з бліжнімі і даведаўся, што рахунак сумлення штодзённы дужа да гэтага памагае. Зрабіў тое, што прымусіў сябе да большай увагі. Для карысці майго характару перастаў чытаць кніжкі лёгкага зместу. Прачытаю цяпер Буго «Le christianisme et le temps presens», затым Салаўёва «Нравственную философию». Падчас вакацыі займуся белетрыстыкай…

*2.XII.* Як зразумець мне пакору?.. Чалавек створаны на падобнасць Божую, кароль зямлі, так багата абдараваны Богам… праз заслугу Езуса Хрыстуса мае частку боскасці ў сабе… ён гэта відзіць і разумее… Чаму ж ён павінен мысліць аб сабе нізка, як аб апошнім між людзей?

Чаму такі перакон лічыцца цнотай?..

Бог хоча міласці і гонару, хоць іх Яму не трэба, — чаму ж той, хто ў мазалі здабывае сабе Ласку Божую, не можа прагнуць хоць малой макулінкі пашаны? — Калі чалавек у вачах нашых здаецца вялікім, то дзякуючы каму? Без яго волі стварыў яго Бог на падобнасць сваю і падняў да годнасці сына прынятага. Боская міласць надзяліла яго гэнымі дабрадзействамі. Калі ён узнёсся вышэй над сваю нізкую брацць сілай розуму і цноты, гэта «рука Божая падвысіла яго». Ён павінен Табе, Божа, — дзякаваць шчыра і быць пакорным.

*5.XII.* Дзякую Богу за сягонняшнюю споведзь. Няхай мяне сцеражэ Бог: ад самалюбства, ад нечыстоты сэрца і мыслі, ад застою на дарозе да самапаправы. «Чыстае сэрца ствары ў мяне, Божа, а духу простага аднаві ў глыбіні душы маёй».

*12.XII.* Прыеду дамоў клерыкам. Каляды кінуць новае святло на мой характар і памогуць мне пазнаць самога сябе. Буду мець розныя пакусы, аказіі. Ці знойдзецца сіла датрываць у

сваіх добрых пастановах? Божа, будзь Ты маёй сілай у Камуніі Святой!..

*23 студзеня 1910 г.* Істота дасканальнасці Езуса ў тым, што ўсе Яго сілы духовыя і цялесныя ў найлепшай з сабой гармоніі, згоднасці. Хрыстус жыў людска: бываў на пачастунках, плакаў, гневаўся, а ніхто не можа сказаць, што Бог-Чалавек у чымколечы быў замала цнатлівы, меней дасканальны, як хоць бы найбольшы святы. Святыя людзі былі дасканальнымі найчасцей толькі ў адным якім-кольвек кірунку. Хрыстус усім, заўсягды, усюды множыў хвалу Божую: кожнай сваёй мысляй, кожным словам, кожным рухам.

Мне не дайсці *пэўна* да дасканальнасці святых, а тым больш Хрыстусавай… Але буду прасіць Пана майго, хай навучыць, чаго мне перш-наперш патрэба. Тым часам працую з Яго помачай, каб падбіць пад панаванне волі свае выбражэнні, што мяняюцца, як тыя повіды на хмарным небе.

Цяпер час дайсці да гэнай гарманійнай стройнасці характару, да раўнаважнасці сілаў душы маёй…

*31.I.* Хочаш жыць з людзьмі паводле волі Божай — адрачыся свайго самалюбства. Падставай добрага жыцця з бліжнім — гэта ахвярнасць.

Праўдзівая набожнасць плыве з волі пры помачы ўчуцця. Павінны мы паддацца волі Божай у слабасцях натуры нашай, як: няхват памяці, малая здольнасць да навукі, нястройнасць фізічная і да т. п. (з св. Альфонса). Калі хто пры нас сумуе, міласць хрысціянская кладзе на нас павіннасць пацехі і падзелу чужога смутку.

Зайздрасць тады лезе ў душу нашу, калі глядзім на дабро бліжняга з злоснай трывогай, што карысць наша праз гэта меншыцца. Агонь агнём, а гнеў гневам згашаны быць не можа (з св. Яна Хрыз.).

*13.III.* Шукай добрага ў бліжнім тваім. На благое не звяртай увагі.

*20.III.* Пашто думаць аб мінуўшчыне або аб будучыне? Карыстай з тэй ласкі Божае, каторую цяперака маеш. На думкі, што ніколі не збудуцца, шкада часу.

*1 красавіка.* Пакора — гэта тая пустасць, у каторай ставіцца фундамент веры, надзеі і міласці.

*8.V.* Думаў, што чалавек лучыцца з Богам учуццем, выбражэннем. Наіўнасць!.. Калі прызнаюся, што я нішто прад Богам, калі затану ў віры сваёй нізкасці, калі зразумею, што добрыя мае чыны — гэта чыны Божыя, бо з Яго ласкі, — калі воля мая будзе

адналітная з воляй Божай, тады будзе гэна лучнасць, тады буду падобны да Бога-Чалавека Хрыстуса. «Хто чыніць волю Айца Майго, жыве ў Мяне, а Я ў ім».

*25.IX.* Божа мой! Я мала яшчэ люблю Цябе… Сэрца маё не належыць яшчэ зусім да Цябе. Найлепшы Ойча! Запалі ў сэрцы маім міласць Тваю! Калі буду слугой алтара Твайго, хай буду паводле волі Тваёй. Дзева-Маці Божая! Прысягаю прад Табой, што ніколі не вазьму разлукі з Богам. Лепей хай умру!..

Божанька! Дай мне разгадаць, зразумець дарогу, па якой вядзеш свет людскі! Чаму так лёгкім сэрцам дапускаеш Ты на нас вялізарныя беды?.. Няўжо грэх людскі так паганы ў вачах Тваіх?!.

*2.X.* Міласць у небе ёсць цягам далейшым міласці на зямлі, яна ёсць там скончанай у цэлай натуры чалавека: ён усей істотай сваёй любіць Бога.

Нянавісць пякельная ёсць цягам нянавісці земскае. *Вораг Бога на зямлі астаецца ворагам Бога па смерці.*

*30.X.* Не губі духовай радасці, калі ў жыцці спатыкаеш толькі церні. Ідзі ўслед Боскага Мучаніка Хрыстуса.

*22 студзеня 1911 г.* Маю надзею, што мэты, раз пастаўленай, не кіну. Хрыстус варты адзін, каб быць Яму паслушным, ісці за Ім… больш ніхто. Але трэба быць да Яго падобным!.. «Вазьмі крыж свой ды ідзі за Мной!» Будзь чыстым! Сцеражы вока свайго!

*20.II. На смерць Кунцэвіча — сябры.* Мой Мікалайка! Даўно ж гэта было, калі мы ў садзе, змовіўшы пацеры, глядзелі на неба, усыпанае зорамі. Месяц зважны, задуманы, бледны выплываў з-за хмараў. Ён на цябе глянуў вокам трывожным, казаў бы, таіў нешта сумнае; можа, сказаць хацеў, што ты ўжо нядоўга будзеш жыхаром гэтага свету… З паўночы павеяў сівер востры. Мне здалося, што ты задрыжэў на ўсім целе. Ты глянуў у неба вокам бліскучым і, успомніўшы, што яно «поўна хвалы Божай», пачаў мне расказваць аб яго сялянцах…

* * *

Бляск урочлівы сплываў з прастораў на зямлю. Гарод у зелені дрэваў, між мuроў, даўней кляштoрных, быў ціхі і тайнічны. Здалёку толькі калі-нікалі далятаў шум места. Нястройныя нейкія галасы данасіліся да нас — абарваныя, блудныя. Фальшывае якоесь святло заглядала да нас з-за дамоў ночнай Садомы і Гаморы. І з таго хаосу вырываўся і далятаў да маёй душы

стогн якісь глухі, шэпт жалосны, плач дзіцяці ўбогага, — хліп стрыманы душы на малітве, шэпт нікому не знаны, што ў схове ад свету выліваў чуццё свайго болю прад Тварцом усясвету… Далёка недзе гудзела музыка скочная, пякельная, а ад яе ў хвалях паветра круціліся цені разбаўленых буржуяў і куртызан распусных… Мы падышлі да муру касцёла. Праз закратаванае ваконца відаць было малое святло. Яно лыпала і дрыжэла прад алтаром Усямоцнага…

* * *

Чаму ж на добрым твары тваім, мой браце, сумнасць глыбокая палажыла свой одціск? Ці пры аднэй мыслі аб зманнасці шалёнага свету забалела сэрца тваё? Можа, ты прасіў тады Бога жыцця і смерці, каб Ён увольніў цябе ад змагання з ураеннем і фальшам? Можа, думаў, што там у Бога болей зробіш праз сваю малітву, як на гэтай даліне слёз і плачу?..

Богу спадабалася твая ціхая малітва. Ён узяў цябе, як краску маладую, свежую. На тым свеце, відаць, для цябе стасаўнейшае месца. Засеяў зерне характва і праўды і пайшоў прад трон Божы прасіць, каб меў літасць над намі ў нядолі нашай…

* * *

Хоць пакінуў ты мяне, добры таварыш, ведаю, аднак, і чую, што дух твой ёсць пры мне. Бог ужо не дазваляе відзецца нам вачамі цела, але душы нашы знаюцца і цяпер. Прашу цябе, пакінь мне дары душы тваёй: каб я мог Богу верыць, як ты; каб мілым быць усім; каб мець глыбокі характар, як твой — мой наймілейшы!..

* * *

*16.III.* Сёння рэкалекцыі. У горле суха, у душы зімна. Хто дасць мне вырвацца з гэтага стану лянівае мыслі, халоднага пачуцця? Хто выведзе мяне з лабірынту трывожных думкаў, неразумных жаданняў, нясмелых пастановаў?

*17.III.* Бяруся ізноў за рэформу свайго характару… Сцеражыся абмовы, антыпатыі. Смешнае адкрыццё! Я не цярплю тых, у кім віджу свае ўласныя недахваты. Трэба маліцца за тых, каго чым-кольвечы абразіў або каго не люблю. Гляджу на аднаго калегу — ён усім мілы, улёслівы. Колькі ў ім гатовасці

адрачыся свайго права, колькі спрыяйнасці ў кожным руху, у кожным мілым усмешку… Аднак здаецца мне, што мне такі дар быў бы небяспечным. Я палюбіў бы таварыства, візіты, пустасць свету. Мая нясмеласць і «простасць» усцерагла мяне ад многа ўпадаў. Астаецца адно: *быць сабой і старацца характар зрабіць сільным, цвёрдым, да ахвяры скорым.* Трэба мець сэрца адданае міласна цэламу грамадзянству, асабліва бедным і крыўджаным. Такая міласць пакажа, што рабіць. Не буду ніколі скупым самалюбам.

*1.IV. З ліста да брата:* Рух палітычны ці наагул грамадскі мае падклад этычны, дык у такіх перасіленнях, якія мы пераджываем, ці ж можа быць душа чалавека спакойнай? Адраджэнне мовы нашае і то мае сувязь з справамі этыкі, бо ці ж падклад яго не вяжацца з пытаннем: «можна, нельга?» Сацыялізм не можа не ўмешвацца ў справы натуры рэлігійнай, бо этыка і рэлігія — дзве сястры неразлучныя і абедзве ў натуры чалавека. Мы павінны дайсці да высновы, што калі адкінем хрысціянства з руху нашага народнага, то ён, гэты рух, расплывецца ў золкай міжнароднасці і этычнай развязласці. «Не пакідайма мовы роднай, каб не ўмёрлі». Не пакідайма рэлігіі глыбокай нашай, каб не загавець душой…

* * *

*Вясна.* Набліжаецца Вялікдзень. Неўзабавам адпачну на лоне маці-прыроды. Раджу пайсці на асобнасць кожнаму і гутарыць з ёю — скажа многа. З прыродай гаварыць трэба, з былінкай травіцы, з горкамі, з сыр-борам. Святыня, людскімі рукамі пастаўлена, памагае нам маліцца, а праз малітву рабіць дабро людцам. Тым больш павінна гэтага даканаць святыня Бога Жывога — Праўда ў цэлай красе сваёй і аздобе. Глянь на неба, усеянае зоркамі. Кожная — гэта свет асобны . Зямелька наша такая ніклая. А мы, а я… Капелька ў моры. Хто ж пойме велічыню творчасці Божай!

*11.IV.* Здаўна я думку мілую думаў, каб паехаць на Ясную Гару ў Чэнстахову з паклонам Маці Божай. Хацелася мне бліжэй пазнаць законнікаў, каб мець сваё ўласнае зданне аб іх жыцці. Шчаслівы траф. У панядзелак Радаўнічны еду я з таварышам у старану Варшавы.

Усю ноч спаў. На раніцы, глянуўшы ў вакно, убачыў я хаткі-ляпянкі і лагі бязлесныя Польшчы. Нічога цікавага, — падумаў. Пад’ехалі пад Прагу. Касцёл цудны св. Флерыяна, чысты готык,

заманіў нашы вочы. Заходзім, каб пасіліцца духовай стравай і дзівіць пекнасць будоўлі. Па Камуніі святой ідзем у места Варшава, сталіца Польшчы, харошае места. Многа аб ёй можна пісаць. Але мэтай нашага падарожжа яна не была. Звёўшы дзень цэлы на аглядзе старых касцёлаў, помнікаў, палацаў, — мы спяшаем у Чэнстахову.

А 7-й рана былі на месцы. Шырокая палісада вядзе да кляштара. Пакінуўшы рэчы ў фурце, з б’ючым сэрцам, уходзім да капліцы. Трохі цемнавата. Над алтаром, між цэнных вотаў, дарагіх каменняў, ахвяраў даўнейшай пабожнасці відаць абраз Цудоўнае Маці Божай. Пры алтары ішла імша. У ціхасці, пакоры кленчыў я на цвёрдай пасадзе каплічнай. Што мысліў, не ведаю, чаго хацеў, не помню. У немай малітве прабыў я цэлую імшу.

Пазналі колькі законнікаў. Мне падабаліся, але не ўсе. Калега мой астаўся ў Айца Піюса. Я пайшоў ізноў у капліцу. Прачытаў аддзел св. Паўлы. Словы «Мяне ўжо ахвяраваць маюць і час развязкі маёй надыходзіць» — занялі мае думкі.

Я мысліў аб ахвяры, якую магу Богу ахвяраваць. Кожны духоўны каталіцкі мусіць быць ахвярай, бо з волі Хрыстуса складае на алтары ахвяру чыстую, святую.

Назаўтра былі ў споведзі і зблізіліся да еўхарыстыі. Ехалі дамоў мацнейшыя духам, з ахвотай да жыцця і працы.

*27.IV.* Рэкалекцыі прад вышэйшымі свячэннямі. Страшна! Мушу сказаць ужо напэўна, ці будзе з мяне «поп», ці не. Выбіраю патронкай св. Тэрэсу. Яе прашу, каб малілася за мяне.

Быць ксяндзом, ахвярнікам «Бога Жывога» — страшная рэч, але і вялікая. Страшная, бо трэба нагнуць сябе моцна да ахвяры і самаадрачэння. Вялікая, бо ў парадку рэлігійным няма на свеце чалавека большае годнасці за вернага свайму прызову ксяндза. Баюся прыняць свячэнне.

*30.IV.* Вечар. Быў у споведзі. Заўтра спакойна прымаю субдыяканат. Пашто хіляцца і храмаць? Прыпомніўся св. Франціш, кідаючы ляску і плашч, калі пачуў голас Эванэліі, што зваў яго да новага, вышэйшага жыцця. Св. Тэрэса ніколі не сумнявалася, калі ішло аб выбар чаго дасканальшага…

Ад заўтра буду між духоўных…

Св Тэрэса, св. Ёзэф няхай злітуюцца. Калі маю прыняць ксяндзоўства не пазваны, няхай гэны прызоў яны мне ўпросяць. Калі адступлю мо праз здраду Езусу, няхай лепей не дачакаю дня!..

## V. ДЫЯКАНАТ. ПАЧАТКІ ХВАРОБЫ (1912)

*15.V.1912. З ліста да брата.* «Учора вярнуўся з Коўны, з новым стопнем духоўным дыяканату. Не стану апісваць табе, як я змагаўся з сабой, як цярпеў, адважваючыся на гэта. Але разважанні мае прынялі форму пастановы. З рэлігіі калісь я смяяўся, цяпер цаню яе высока. Хістаўся толькі дух мой і сумняваўся, баючыся цяжкіх павіннасцей ксяндзовых, так як я іх сабе прадстаўляю ці дадзержу, ці не буду такім самым, якіх шмат. Думаю, што наколькі свет духовы перавышае свет фізічны, настолькі праца дзеля ідэалаў вечных перавышае звычайнае летуценне за славай і гонарам. Вось баюся сваёй слабасці, хоць вера не пакідае мяне, вера ў сілу надпрыродную Хрыстовую, сілу містыцызму. Ён мяне павядзе, дасць энергію, калі ласкаў быў мяне выбраць…»

*Жнівень.* Сяджу ў хаце не сумны, але і не радасны. Я хворы. Навукі перарваліся. Быць можа, трэба іх зусім пакінуць. Чую ў сабе рабака ў грудзёх, што хоча згрызці здаровы дагэтуль мой арганізм. Тады трэба будзе развітацца з усім — і з думкамі аб будучай працы *з народам для Бога.* З гэтай думкай найцяжэйшая разлука. Божа! Дай мне зразуменне, па якой маю ісці дарозе да валадарства Твайго! Не дапусці, каб калі збіўся на оступ! Я прымаю ўсё ахвотна з рукі Тваёй — цярпенне і смерць нават, абы толькі ісці следам Хрыстусавым, абы збавіць сябе і тых, каго мне паручыш.«Бог мой — усё маё!..»

Аднак цяжка. Нейкі камень лёг на сэрца. Чорная меланхолія, як змора, села пры мне. Нічога рабіць не магу. Мыслю аб жыцці сваім. Шчаслівы, хто з усіх трудоў сваіх выйдзе з трыумфам! Жыццё разарванае, рухлівае страшыць мяне, жыццё адзінокае забівае мяне… Ах, цяжка мне біцца з сваімі думкамі…

*10.VIII.* Мысль мая толькі па зямлі паўзе, убогая і зменлівая. Воля толькі цэлая да Цябе нахілена, о Божа!.. Штодзень прад сном сваім я кажу: «Стану пры смерці, пастараюся быць да яе гатовым!»

Чытаю ўсё, што пападзецца ў рукі. Нічога з гэтага не помню. Важна тое, каб мысль не драмала. О, каб мне навучыцца кіраваць яе, як вясляр лодку на мутных хвалях!..

*12.IX.* Калі часам увосені нікнуць дні дажджлівыя, плачлівыя, а вецер асушыць балоты, сонца блісне ясней і азалоціць лісты дрэў, — тады чуюся неяк жывей і байчэй. Кругом усё малодзіцца,

набірае свежае пекнасці — вабіць вока, забаўляе выабражэнне. У такі дзень выйшаў я на даўжэйшую праходку. Вецер сціх. Сонца ўжо схілілася на захад. Голае поле, прыкрытае толькі аржышчам, пацягненым срэбнымі ніткамі павучыны, раскошна адпачывала, выдаўшы багатую карысць чалавеку з засеваў. Мусіць цяпер спачыць, каб з новымі сіламі даццa на вясну чалавеку ўрабляць сябе ізноў. Ціха шэпчуцца лісты асіны, а шэпт гэты поўны нечага таемнага, неадгаднага… Поўны пачуцця жывой роскашы, хаджу я па палях і межах вясковых. Было мне добра на душы. Здавалася, што пачаў я новае жыццё…

Бедны! Уначы мусіў адпакутаваць гэну прыемнасць. Сон адляцеў, пал нейкі дзіўны і смага звялічыліся…

*8.Х.* Доктар нараіў мне ехаць у іншы клімат — за граніцу. Грошаў трэба многа, а дай Божа, каб не пайшлі на глум. Веру, аднак, што хвароба мая не ёсць на смерць, але на «аказанне хвалы Тваёй, о Божа». Што-кольвек дзееццa, з допусту Твайго дзееццa. Я спакойны.

Прагну, каб Тваё Імя святое, о Божа, знаным было між таго народа, з каторага я выйшаў.

*18.Х.* Дзень за днём сплывае роўна, аднастайна, як тыя каплі дажджу, што спадаюць адна за аднэй з высокасці. Тыя, з кім жыву ў маіх думках, мала мне спагадаюць. Няма з кім падзяліцца думкамі, што выплываюць з-пад сэрца. Адзін я. А да гэтага адзіноцтва трэба прывыкнуць. Асобнасць углыбляе індывідуальныя здольнасці — падымае сілы духу. У цішы чутней даходзіць голас з засвету.

Ах, пара мне ехаць, шукаючы здароўя! Адна Камунія, з верай прынятая, магла б мяне здаровым зрабіць. Але я цуду не жадаю, не хачу. Пашто мне адклон ад агульнага права ў прыродзе? Калі навука людская вылечыць — добра.

Заўтра нядзеля. Збяру сілы духу, падыму ўвыш сэрца жаданне… Спаць пара! Добрае ночы, дух мой збалелы! Душы засвету хай моляцца за цябе! Дух усіх духаў хай павевам сваім прынясе табе спакой і моц новую і сілу.

*23.Х.1912. На імяніны майго пробашча* (Першы мой верш беларускі.)

Ў дзень гэты шчасця і вяселля
Нясу Табе, Ксянжок, зычэння:
Высокага жыцця, святога,
Што мае мэтай Пана Бога.

Жыві ахвярна, міласэрна,
Людзям нясі асвету з неба,
Душой служы ім гойна, верна,
Баліць Табе хай іх патрэба.

Ў загробным жыць я зычу свеце,
У вечным раі, ў вечным леце,
Бога хваліць праз ўсе векі
І не забыць мяне — калекі.

*Задушкі.* Трачу зусім цярплівасць. Пагоды няма. Неяк жудасна-сумна. Еду да Вільні. Можа, не вярнуся з-пад апекі дактароў. Мыслі хмарныя… «Маці, не плач!.. Ойча, стрымай слёзы!..» «Эй, гані, браце, коніка, бо сэрца рвецца ад болю і пачуцця»… Дождж. Слота. Сумная прырода. Чаго ж ёй плакаць? Нідзе ані згуку, ані шопату. Ані жывой душы! Сільны вецер атрасае зімныя каплі з пачарнелых дрэваў. Яны пырскаюць мне ў вочы, лезуць за шыю… І вецер здзекуецца з мяне…

*7.XI.* У Вільні дактары настрашылі. Як найхутчэй ехаць за граніцу! Што будзе з гэтага?.. Эт, усё роўна!

*9.XI.* М-ка Каркожышкі. Збіраюся да выезду ў Закапанае. Чакаю ўрадавага пашпарту. Касцёл тут — будоўля не асаблівая: бяднота і пакора. Маліцца прыемна, слухаць імшы — міла, камунікаваць — наймілей. Што тут рабіць мне? — Глядзець і думаць…

Чую штодзень грамафон, каторы цешыць мяне, што жыццё ёсць поўнае характва, вясёласці, пустаты, дурноцтва, вар'яцтва, камізму, трагізму, павагі, светласці і г. д. Выбірай, што падабаецца. Хочацца часам так шчыра заплакаць, як скрыўджанаму дзіцяці, а часам смяяцца, смяяцца безупынку.

*23.XI. У дарозе за граніцу.* У Варшаве трапіў якраз на паховіны арцыбіскупа. Многа святла і бляску, і шуму. Праязджаючы праз Чэнстахову, шчыра аддаўся апецы Божае Маці.

*24.XI. Кракаў.* Забаўлюся тут нядоўга. Заўтра буду на месцы свайго лячэння.

# VI. У ЗАКАПАНЫМ. ПАЧАТАК ВАЙНЫ. КАНЕЦ ДЫЯКАНАТУ (1912–1915)

*Снежань 1912. Закапанае.* Час сходзе быстра. Сілаў прыбывае. Таварыства тым добрае, што скора зменнае: адны выязджаюць, другія наязджаюць. Тыпы цікаўныя людзей. Поле для абсервацыі характараў добрае.

Зацікавілі мяне законы, каторых у нас не асталося пад гаспадаркай расейскай ані духу. Бліжэй пазнаў я рэгулу законнікаў марыянаў[4], добрай славы ў нас, хоць нешырокай. Гісторыя іх чыстая, канстытуцыі простыя, хоць суровыя. Да іх загарэлася найсільней мая сімпатыя. Чаму? Не ведаю. Можа, гэта па тэй прычыне, што ўжо гэты закон належыць да гісторыі — а рэгула магла б быць дастасаванай і да нашых часоў, каб найшліся такія людзі.

*Май 1913.* Еду дамоўкі з запасам адноўленых сіл. Пакідаю харошы куточак свету, багаты ў пышныя повіды. Не забудуся ніколі даліны Косцеліскай, куды ездзіў у таварыстве двух ксяндзоў. Была цудоўная ноч. Месяц усплываў на неба і штохвіліны хаваў свой твар між блядавых хмаркаў, як воўна. Пры гэтай частай змене святла штораз мяняліся повіды, даючы жыўную страву для выабражэння. Цудны булькат ручайкоў, дзіўныя контуры скальных абрываў, тайнічныя шэпты «смрэкаў» — усё гэта складала абраз, поўны спакою і маястату ночы.

Кракава я не бяруся апісаць. Што ў ім найбольш мяне кранула — гэта дух прошласці, што выглядае да цябе з кожнага месца.

*Жнівень 1913.* Ад даўняга часу чую да цябе, маці Беларусь, асаблівую прывязнасць — і болей чым прывязнасць: надта гэта адчуццё глыбока зарылася ў сэрцы — пэўна, гэта міласць, каханне з сэрца. Люблю я цябе і сільна люблю. Аб’ехаў я нямала ўжо свету, шукаючы красы і праўды, а найбольш бачу тэй і другой у сваім родным краі, у сваёй мілай зямельцы. Стройны горы і даліны ў Татрах, прыемны малюнкі ў зямлі кракаўскай, а ўсё ж цуднейшы наш бор вяльможны, пякнейшыя роўні і гаі нашы: страйнейшыя, бо гавораць проста да душы тваёй, а мова іх пранікае цябе цэлага, лечыць раны сэрца твайго. О, хараство тут неапісанае, бо роднае, простае — як душа русняка. Ты, браце беларусе, выдаешся мне лепшым ад другіх народаў. Ты пакрыўджаны і нешчаслівы, пакінены праз многа сваіх родных сыноў і дочкаў, аддадзены на здзек чужынцаў — і то здаўна — ты бедны, гаротны. І тут пэўна ляжыць прычына, чаму ты так

блізкі сэрцу і душы маёй. Цябе не сказіў фальш, не ляжыць на тваіх плячах крыўда чужая: свая толькі ўрэзалася крывава на іх і хіліць цябе да зямлі. Праўда і шчырасць жыве яшчэ ў душы твaёй — недарма ж называюць цябе «простым», даючы спазнаць, што другія народы здаўна ўжо скрывіліся. Пазнай толькі добра, хто ты, гарніся да прасветы, а станеш сільным: а гэта сіла дасць волю духу твайму, так цяжка загнанаму і пакрыўджанаму…

Не хачу я пакінуць цябе, маці Беларусь, хоць хутка мус скажа ізноў развітацца з табой. Хачу служыць табе, аддаць сябе для дабра душы тваёй. А яна — душа твая — чакае ахвяраў. Патрэбны ахвяры, калі мае прыйсці выбаўленне. Я не пайду шырокім разгонам людскога рахунку. Я хачу толькі служыць тваім духоўным патрэбам, беларусе. А яны аграмадны. Сапраўды сказаць трэба: «Жніво вялізнае, а працаўнікоў мала». Божа, дай мне зразумець і ўпэўніцца, якой жадаеш ад мяне службы. Аддаючыся найбліжэйшым братом маім, я хачу споўніць Волю Тваю, шукаць праўды і несці знойдзеную другім.

*13.VIII.* Сягоння, слухаючы звон наш цудны касцельны, раблю пробу аддаць уражанне вершам. Па-польску пішуць усе. Беларус — сірата: смяюцца з яго мовы. Я люблю бедных, апушчаных… Буду пісаць *па-беларуску.* Мова беларуская ёсць гладкай і згучнай: можа служыць і да паэзіі (але сам сябе я да паэтаў залічыць не важуся). Пастараюся выгладзіць стыль свой беларускі. Згодзіцца ў будучыні.

*20.IX. Да маці над магілкай!* Не гаруй ты, маці, і не забівайся, калі дзіцятка роднае, дарагонькае, як краску без пары звянутую, кладзеш у магілку!.. Ах, праўда — цяжка разлучыцца з каханнем тваім, што грудзямі ўскарміла, слязамі абмыла, сэрцам служыла. Смутак нязмерны шчэміць яго. Але ж ты, маці, — хрысціянка! Дзе вера твая і спадзея жыцця вечнага? Ці ж тут у магілцы пясковай канец усяму? Не, не! Там у свеце вышэйшым, дзе слёзы гінуць, дзе радасць без меры, — убачыш сваё дзіця, калі заслужыць тэй ласкі захочаш. Уцяміш ясна, што дарма забівалася над яго магілкай, здзівішся, што не разумела шчасця, скрытага ў маладой, напачатку, або ў квеце веку, смерці…

*6.XI.* Скуль бярэцца гэта нізкая пагарда да нашай роднай мовы? Ці сапраўды яна не будзе здатнай да выражэння праўды вышэйшага парадку, як гэта было калісьці? Ніколі! Я веру ў духоўную творчасць беларуса. Ён сваю мову агладзіць і лік слоў звялічыць. Ад змены такой веры маёй я буду бараніцца як змога. Сумлівасць і маладушнасць — набок!..

*7.XI.* Вось я не такі хварлівы, як думаў… Я не ўмру яшчэ. Хоць, узяўшы на розум, не ведаю, ці гэта будзе лепей. Мо быў

бы шчаслівейшым на тым свеце. Павіннасць духоўных цяжкая. Слабасць мая аграмадная, лянівасць дужая. Мыслі гэтыя трывожаць мяне… Пакіну іх. Пацеха мая адзіная — гэта Бог. Мэта ясная, а помач ад Яго ласкі — пэўная.

*8.XI.* Не рань свайго трывожнага сэрца: не бойся нікога. Усё прамінае — усё, апроч Бога… Еду ізноў за граніцу.

*Закапанае, 29.XI.1913.* Стан здароўя, паводле слоў доктара, слабы. Але пэўна мыліцца эскулап. Я чую ў сабе дужа многа сілы жыццёвай.

Трохі марозіць. Учора быў снег. Санная дарога пышная. Уночы зоркі іскрацца і паляцца на небе пад музыку ручайкоў горных і шум хвойкаў. «Гасцей» многа незнаёмых. Кожнага псіхалогія цікаўная. Трэба спазнаць.

*2.XII.* Атрымаў ліст ад аднэй пабожнай законніцы. Намаўляе мяне да жыцця законнага. Усё мяне кліча да жыцця ахвярнага і цярплівага. Што ж! — Я на ўсё гатоў. Толькі цяпер я — чэрап разбіты, нікому не варты. Яшчэ не прыйшла гадзіна мая, а мо і зусім не прыйдзе.

*3.XII.* Дзень прайшоў без творчасці духовай: мыслі дрэмяць, сэрца зімнае…

*Жнівень 1914. Разгарэлася вайна вялізарная…* Мой Божа! Гэта рэч так сумная і так праціўная маёй натуры, што лепей аб ёй зусім не пісаць. Мусіць адбыцца якісь пераварот у свеце. А кожны святовы пераварот каштуе мільёны людзей. Як гэта сумна, што чалавек, істота разумная, не можа змагчы найвялікшага зла на свеце — вайны. Бяссільны ён тут, а лепей скажам *подлы.* Жыццё людское ёсць найцаннейшым дарам Божым. Да жыцця як пэўнай формы быту — кіруюцца ўсе творы. Мусім шанаваць жыццё нават малога жучка, бо права да яго згубы мы не маем. Адабраць жыццё чалавеку — гэта праступак, каторы толькі Бог помсціць можа дастойна. Вайна ёсць згуртаваннем усіх праступкаў. Яна ёсць ганьбай чалавечасці. Яна матка ўсялякай нядолі. Няма нічога на свеце так паніжаючага чалавека, як вайна. Роўнай пагібелі, што нясе яна людскасці, не знаходзім у звяроў. Бог дапушчае такое зло на свет, каб зніжыць пыху людскую. Не Бог прычына вайны — злосць людская, завісць і пыха. Што Бог дазволіў, каб кроў лілася — не дзіва. Вольнай волі чалавека Ён не касуе. А між людской злосці і нянавісці патрафіць аказаць сваю найвышэйшую ўладу і справядлівасць…

*5.V.*1915. «Ой цяжка, цяжка: не сярмяжка цяжка, але доля цяжка». Канчаю ўжо час свайго дыяканату трохгадовага, а сумнасць цяжкая залягае трывожнае сэрца маё. Сумнасць тая,

што родзіць цярпенне — глыбокае, крыжавое. Гнаны зманнасцяй свету і людской спадзеі, я думаў найсці пацеху і шчасце ў рэлігіі і аддаўся Богу без раздзелу. Я чуў іскру Божую ў сабе да засеву на ніве людской — праўды Божай. Але баяўся чапіць гэты скарб свой, ведаючы, што калі аддацца ксяндзоўству, то трэба гэта зрабіць усёй істотай сваёй: з крывавай ахвярай самога сябе. Верыў я, што гэта мог бы зрабіць, бо ласка Божая для мяне была падана, гатова. І быў момант, калі я гэта зрабіў, залажыўшы сабе вечны ідэал — праз цярпенне.

Мой Божа, ці я ўстаю цвёрдай ступнёй на выбранай дарозе? Ах, ніколі не адбяры ад мяне гэтай надзеі, бо згіну! Дай мне цярпенне, хоць бы як мора глыбокае, але і сілу дай знесці і вытрываць. *Ласка Твая прымус нада мной учыніла* — не пакідай мяне! Я сын таго народа, што найбольш цярпеў, церпіць і цярпець будзе. Цярпення хачу, але такога, каторае з мяне зрабіла б чалавека стальнога характару. Народ наш вялікі,а лічыцца найменшым. Няхай і я — сын яго — такім буду. Народ наш нешчаслівы, без сучаснасці пэўнай, без будучыні яснай — але глыбокі ў жыцці сваім ціхім, скрытым, спеўным. Няхай і з маім так будзе жыццём: глыбокасць духу, шырокасць сэрца, агонь мовы і песня, песня тайнічная, бязмерна сумная, хоць *вечнай спадзеяй жывая*.

*6.V.* Няма большага суму, як абмануцца ў сіле сваёй. Смутак такі, калі яго не ўмяркуе моц вышэйшая, даходзіць да роспачы. Сумна кончыцца час майго дыяканату, пачынаецца прэсбітэрат маладога ідэалісты. Прызнаюся — чуццё пražытае ў мінуты, калі даведаўся я, што зара буду ксяндзом, было так спакойнае і патольнае, што сапраўды болей яго цаню, чым усё дазнанае ў часах апошніх. Аджыла ў мяне вера ў жывучасць таго голасу, каторы звінеў калісьці ў вушах маіх : «Ідзі за мной!» І болей яшчэ: не чуў я голасу адпору натуральнага, што мяне хватаў і адцягваў ад ідэі Хрыстовага свяшчэнства, манячы да свету, каторы прымаў мяне і прымае дагэтуль з шырокім усціскам. Але дарэмна! — Яму не даўся і не дамся!

*7.V.* Трэці дзень рэкалекцыяў. Божа мой, як малым выдаюся я прад тым, чаго вымагае з мяне наш Касцёл святы. Што ж я праз гэтых колькі дзён зраблю, каб стаць на вышыню свайго пазнання? Духу трэба, духу Божага. Ён у адзін момант здольны перарадзіць чалавека, абы толькі той прыгатаваў раллю чыстую, Божа, Божа! Я гатоў на ўсё, бо змераў цэлую глыбіню сваёй немачы… Бедны я, бедны… Дыяканат мой канчаецца…

# VII. ПЕРШЫЯ ГАДЫ СВЯШЧЭНСТВА. КАМАІ. КЛЮШЧАНЫ (1915)

*6.VII.15.* Ад 31 мая адпраўляю ўжо імшу святую, спавядаю, выступаю на амбоне ў імя Божае. Страшна робіцца пры мыслі аб тым, як далёка мне да праўдзівага ахвярніка Хрыстусавага. Адну маю пацеху толькі. Чую, што Бог ёсць пры так трудных варунках міласці маёй, — што Ён мяне ўспамагае, не бачачы на ўсю брыду майго гультайства духовага. Ці на дарозе поступу бліжэй да Бога зрабіў я хоць шаг уперад? — Не ведаю. Ці назад адышоў? — Не ведаю… Цэлы дзень сыходзіць неяк скоранька і без нуды. Богу дзякую, што я нідзе і ніколі не спазнаў, што гэта «нуда». Мне нудна не было. Каб хацеў, я ўсюды мог бы жыць, развіваючы тыя таленты, якія добры Бог зліў на мяне. Ведаю, што яны ёсць. Бядую, што яны даліся мне на здзек, бо я мала стараюся развіць іх у духу Божым.

*5.VIII.* 3 жніўня прыехаў на свой вікарыят у Камаі. Беларусь шчырая. Нават разгаварыцца іначай трудна. Касцёл падобны да нейкай крэпасці з сярэдніх вякоў. Пробашч чалавек залаты. Пакуль што яшчэ нічога не раблю. Хаджу ў лес, аглядаю месцы, пазнаю людзей. Наагул здаецца, што тут дрэнна не будзе. Працы ёсць. Адна бяда: не маю дзе сваіх кніжкаў падзець. Трохі цесна. Але іначай быць не можа. Трэба прывыкнуць.

Мыслі сумныя не пакінулі мяне. Здаецца мне, што духоўная старана майго жыцця змалела. Мыслю лянíва. Беларушчына жыва мяне інтарэсуе. Баліць мне сэрца, як чую жаргон тых, што хочуць кінуць мову родную на карысць чужой. Але я нікому не кідаюся з сваім поглядам на гэту справу. Магу я мыліцца пад тым узглядам, што беларуская мова заваюе сабе права між народаў, але ніхто мяне не пераканае, што быццам мы гаворым расейскім жаргонам. Гэта праціўна і нашай гісторыі і нашаму бытавому пачуццю.

*4.IX. Яшчэ аб вайне.* Больш году ўжо ліецца кроў цэлай Еўропы. Шырацца голад і пошасці, шалее агонь, рабунак — а канчатку нядолі не відаць. І што зрабілася чалавеку, гордаму з свайго розуму, пышнаму з апанавання прыроды! Ці ж дабру вынаходаў і працы пакаленняў дзеля цывілізацыі суджаны быў такі сумны канец?! О, злосць гібучая, сляпая ты страшэнна! Так заўсёды: што чалавек правай рукой збудуе, левай стараецца звярнуць — і то ў імя лепшае будучыні… Іронія! Казаў бы, за мора слёз крывавых можна купіць сабе шчасце!..

Вайна чапіла ўжо і наш куточак зямлі. З свайго пасаду прыехаў я ў родную старонку ў Клюшчаны на фэст. Тутака мяне і захапілі выпадкі. 30-ты ліпень прайшоў спакойна, хоць у паветры ўжо вісела бура. Цяжкасць нейкая ўсім удзялялася. Я казанне мовіў. Мімаволі кончыў словамі: «З Богам будзем жыць і паміраць!» Вечарам пачаўся хуткі адступ расейскага войска. Відаць былі блізка пажары: знак, што апошнія рады расейцаў неўдалёчку. Праз усю ноч быстры адход кавалерыі. Урэшце зніклі казакі, запаліўшы ў мястэчку адзін дамок і зрабіўшы перапуд. Людзі вынасілі і вывазілі дабро, хаваліся ў лес. Настала ў канцы ціш, цяжкая ціш. Дзе-нідзе пралятталі казакі перуном. Каля гадзіны 2-й прыйшлі першыя нямецкія раз’езды. Амаль без стрэлу была занята ўся парафія. Пад аднэй толькі вёскай згінула колькі чалавек казакоў.

Над Вяллёй бітва. Грымяць гарматы безупынку. Колькі там бяды і гора людцам, той толькі асудзіць можа, каму далося гэта самому перажыць. Калі ж злітуешся, о Божа, і дасі спакой усім, хто вадзіцца, забыўшыся закону Твайго найвысшага?!

*9.X.* Прасунулася шмат войска праз мястэчка і вёскі. Начавалі, бралі, глумілі і самі ўспамагалі, гледзячы на бядоту нашага сялянца. Хто злічыць, колькі перанёс ён на сваіх плячах праз гісторыю свайго быту! Перанясе пэўна і канечныя паследы гэтай вайны. Але слёзы коцяцца, відзячы ўсё, што цярпеў і церпіць беларус-мужык. Жыццё такое ў бязладдзі і нервознасці родзіць дзіўныя настроі духовыя. Адзін тутака дастаў нейкай маніі пабожнасці і прачуцця. Часта вельмі гаварыў аб смерці. Пачаў верыць у свае сонныя візіі, звольна згубіў зусім парадак у сваіх мыслях. Канец яго трагічны. Кінуўся, як звар’яцелы, на аднаго гусара, каторы даў па ім агонь, кладучы трупам на месцы. У апошніх гадзінах прад выпадкам усё маліўся, гаворачы, што «ўжо час ягоны прыйшоў».

*22.XI.* Тутэйшы парафіяльны хор абхадзіў сёння дзень сваёй патронкі, св. Цэцыліі — і адначасна ўгодкі свайго існавання. Хор гэты пяяў на маёй прымціцыі. Мае ён у сабе многа людзей шчыра пабожных і добрых спевакоў. — Люблю я яго і дзеля таго яшчэ, што многа ён каштаваў мне мыслі — і, апроч таго, не чураецца беларускасці.

Перш-наперш была прамова аб жыцці святой Цэцыліі — з адказам на важнае пытанне, чаму св. Цэцылія лічыцца патронкай каталіцкага спеву. «З песняў св. мучаніцы-спявачкі (так мовіў прамоўца) дайшоў да нас адзін глыбокі матыў: «Сэрца маё, о Божа, хай будзе чыстым!» Дае ён нам верны адказ, чаму

св. Цэцылія ёсць патронкай касцельнага спеву. Знаць, святая спявачка мела глыбокае паняцце таго хараства найвышэйшага, што пачатак бярэ ад Творцы стройнага, неаб'ёмлівага свету. Пад загадам таго няземскага хараства вяла яна сваё жыццё — чыстым і ў кожным моманце пекным. Да гэнага няземскага, духовага хараства патрапіла яна накланіць і Валерыя, свайго заручніка. Ясна, што такая высокая і так чыстая міласць мусіла зрадзіць песню, — песню, каторае стройнасць трудна выясніць, гармонію каторай твораць хоры анёлаў. Пяяла святая спявачка, бо яе сэрца рвалася з міласці да Хрыста. І гэта адна прычына, дзеля каторай св. Цэцылія ёсць патронкай святых спеваў.

Апроч таго, каталіцкая песня мае асновай цярпенне-мучаніцтва. Рэлігійная песня — гэта песня жывая ў тым значэнні, што выдае ўчуццё людское вельмі жыццёвым, — у блізкім звязку з жыццём. А мэта нашага жыцця земскага — гэта жыццё вечнае ў небе. А дарога туды цярністая, высланая болем і горам. Прыслухацца варта нашай песні касцельнай «Святы Божа». Колькі ў ёй болю, колькі енку душы прагнай Бога і жыцця вечнага — а прыгорбленай да зямлі цярпеннем і ціхім мучаніцтвам! Песня набожная і цярпенні ў тайнічным, глыбокім з сабой звязку. І тутака скрываецца другая прычына, чаму святая дзева-мучаніца ёсць патронкай касцельных спеваў. Яна пяяла, бо мілавала. Цярпела, а цярпець з міласці — гэта роскаш. Жыццё яе было *песняй Божае міласці і глыбокага цярпення»*...

Пасля гэтакай прамовы разляглося шумнае: «Ad multos annos!» (На доўгія леты). Дай Божа, каб наш хор пяяў доўга-доўга хвальбы Божыя ў нашым касцёле! У канцы быў адчыт «Аб беларускае песні» майго пяра і мыслі маёй. Адчыт пакінуў на ўсіх мілае ўражанне. «Многа ў ім, — казалі, — жальбы і суму: так, як і ў песні нашага русняка».

## VIII. КЛЮШЧАНЫ: ПРАЦА СЯРОД МОЛАДЗІ. ВАЙНА. БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў КАСЦЁЛЕ І Ў ШКОЛЕ (1916)

*Новы 1916 год.* Адбыўся сягоння т. зв. «літаратурны вечар» нашага хору. Усе дэкламацыі павяліся як найлепей. Найвыбітнейшыя песняры Беларусі найшлі тут дастойнае мейсца. Найболей падабаецца ўсім наш стары Багушэвіч. Яго «Праўда» пакінула на ўсіх тварах след глыбокага задумення. «Ой, цяжка, цяжка!» — словы гэты ўзяты з-пад сэрца беларуса. Напрасна заклінае ён нядолю сваю, каб адышла яна «на сухія

пушчы ці на бездарожжа, на пяскі сыпушчы», яна прыліпла да яго збалелай душы і, здаецца, з ім на векі зраслася.

*20.III.1916 г.* Вясна пачынаецца… Дарога псуецца. Пачало ізноў грымець на фронце па даўжэйшым перарыве. У роднай парафіі многа нядолі. Тыфус пануе. Людзі мруць… Сягоння быў у Зялёнцы. Страшэнная хвароба покладам палажыла асоб з дзесятак. Спавядаў асоб 15. Божа, колькі цярпення, колькі бязраднай нядолі. У першай хаце хворы малады мужчына. Просіць, каб яго ратаваў… Чуе, што трэба памерці… Неспакойны. Бытнасць Божую і несмяротнасць сваёй душы так жыва адчувае, што гэтым мог бы звярнуць да Бога хоць бы найбольш фанатычнага бязверца. Бедны, бедны… Пытаюся: «Ці можаш маліцца?» — «Ты, ойча, маліся за мяне»… Іду ў другую хаціну. Пры парозе шырокія нары. Цесна. Колькі сем’яў высяленцаў жывуць тут. Пры нарах кленчыць мужчына з абвязанай галавой. З першага пагляду відаць, што тыфозны. На нарах дзве кабеты. Енчаць безнадзейна… Воддаль два ложкі. На першым мужчына ў страшным пале, на другім маладзіца. Пры ейным ложку — калыска. У куце бедныя, схварэлыя дзеці. Слухаюць матчынай споведзі і, хоць нічога не разумеюць, ведаюць, што трэба… плакаць. Яны плачуць ціха, як сталыя: гора вучыць іх яшчэ ў калысках.

Бедныя, бедныя! Бацькі вашы церпяць сумныя последы вайны, можа, за грахі свае… А вы за што?.. Тайніца з тайніцаў… Ах, пэўна вы церпіце за «вялікіх» гэтага свету — ахвяра нявінная. За гордасць і пыху ад прэзідэнтаў, цароў і міністраў Бог розум адабраў… Яны сталіся забіўцамі мільёнаў… Ці ваша пакута адкупіць іхную віну?..

Можа, як вы сталымі будзеце, звядзіце дазвання разню людзей, што завецца вайной — стыдам і пракляццем людскасці…

Заходжу ў трэцюю хату. Хворае дзяўчо. Развітаецца, пэўна, з жыццём гэтым. Аднаго толькі жадае — збаўлення душы і еднасці з Хрыстусам.

А тым часам сонца, выбіўшыся з-за хмар, усміхаецца да людзей сваім смешкам вясняным. Яно пабудзіць зара да жыцця кожную траўку, кожную ніклую раслінку, развяселіць усю прыроду, напаўняючы чалавека — караля прыроды — сумам і задумай глыбокай… над канечнасцяй цярпення.

*27.III.* Справа беларушчыны зачынае прымаць зусім праўдны характар. Там, дзе складаецца арганізацыя якая-кольвечы, дабывае права для сваёй мовы і звычаю. Як можна дадумацца, зложыцца зволна і касцельнае жыццё з правам для мовы роднай.

«Гоман» Віленскі ясна даводзіць патрэбу адбудовы уніі — «адвечнай веры бацькоў нашых». Багаслаў Божа!.. Пад гэтым новым павевам і я ў сваім родным касцёле сказаў 21.XI.15 добрую часць казання роднай гаворкай. Ціш была нямая… Ад часу, як Край быў заняты сілай нямецкай, пачулі ўсе адразу, што школа зусім мае быць іначай у нас арганізавана. У часе калядным зладзілі мы тут «курсы», каб на скорую руку прыгатаваць вучыцялёў вясковых. Аснавалі 7 школкаў, з каторых 4, маючыя лепшых вучыцялёў, і дагэтуль чынныя. Усюды было дадзена права для роднае мовы. Было пастаноўлена, каб пачатковая навука адбывалася па-беларуску, а старшыя дзеці мелі побач і па-польску. Работа пайшла ахвотна, хоць некаторыя гаспадары спачатку крывіліся на язык «просты»…

Паўсталі такжа проціў мяне і паны. Яны былі нездаволены з майго сяброўства з «простымі». Даказвалі яны народу, што беларушчына — справа шкодная для каталіцкага касцёла, што шырыць умілаванне гэтай «рускай» гаворкі не мае сэнсу, што касцёл тутэйшы быў заўсёды польскім і г. д. Адзін з іх перадаў вестку ў Вільню, што парафія Клюшчаны беларусіцца.

Як відаць, палякі не хочуць прызнаваць беларусу права браць лёс свой у свае рукі.

Літвін пазнае беларуса па яго бацькаўскай мове, паляк кажа, што хто мовіць пацеры ў ягонай мове, той паляк. Гэта нелагічна і нова. Даўнейшая «апінія» судзіла іначай. Звязь з польшчынай відочна рвецца. Дружба з Літвой зацясняецца ўсё мацней. Так і быць мусіць. Заплакаў бы Міцкевіч, каб увідзеў, як «народ», у яго паняцці, дзеліцца…

*13.V.* Трэба пачаць працу болей агульную ў пісьменстве сваім. Замнога займаюся сваімі суб'ектыўнымі перажываннямі… Папробую змусіць да послуху пяро, каб вучыцца і вучыць… Горкі гэта хлеб, як кажуць. Але дзеля горычы ад вялікай ідэі адходзіць нельга. Буду што-кольвек пісаць. Хоць бы адзін чалавек з тварам русняным, чытаючы гэта маё пісанне, скарыстаў і загарэўся міласцяй хараства і Праўды, — была б для мяне нагрода вялікая… мне, што на дарозе кароткай сваёй спаткаў ужо многа асоту і вужакаў.

*12.VI.* Гарой, гарой тутэйшая моладзь! Зладзілася ідэйная першая забава — прадстаўленне. Перашкод прыйшлося зламаць дужа многа. Але ў канцы ўсё ўдалося. На сцэне стала «Праклённае зелле» — жывы драматычны абразок з нашага вясковага жыцця. Забава падчас, калі за вёрст 40 грымяць гарматы! Аднак яна была патрэбай. Дух адпачыў і зажыў хоць на крыху новым

жыццём. Песні родныя зрабілі сімпатычнае ўражанне, хоць энтузіязму не вызвалі.

*30.VII.* Цікаўная сягоння была гутарка. Гурток моладзі на зборы разбіраў пытанне: «Які характар лічыш за найлепшы і чаму?» П. Эск выказаў цесны звязак між добрым характарам чалавека-хрысціяніна і найлепшым характарам Бога-чалавека, Хрыстуса. Святыя наслядоўцы жыцця Яго даюць нам многа навукі і спазнання. Найгорай псуе характар людскі нячыннасць. П. Р. гаварыў аб тым уплыве, які мае на развіццё нашага характару склад фізічны нашае натуры і грамадзянства. П. Альфіч захвальваў пакору, цярплівасць, мужства — найстрайнейшыя аздобнікі характару, ганіў бязрупнасць і парыўчасць. Мыслі аб характары свае перадаў я таварыству меней-болей у гэтакіх словах… «З пазнання самога сябе чалавек мусіць дайсці да пакоры, гэта значыць, да зразумення сваёй слабасці духовай, гультаяватасці і залежнасці суцэльнай ад ласкі Божай. Чалавека, каторы відзіць пакорна слабасць і ўсцяж стараецца папраўляцца, безупынна да гарманійнага выканчэння сябе ісці, назаву чалавекам найлепшага характару.

Пакора бароніць ад найгоршай хваробы характару, ад бязверра, каторае ёсць затратай пачуцця адказнасці прад Богам. Пакора асцерагае прад самалюбствам, навучаючы, што ты не лепшы за другога, а затым мусіш мець выразумеласць для людзей і пашану. Пакора бароніць ад неахвоты і роспачы, бо дае зразуменне слоў Хрыстуса: «Без Мяне нічога не можаце». Дае спазнанне слоў св. Паўла: «Усё магу з Тым, каторы змацняе мяне». Агульна скажам, што характар найлепшы мусіць быць дасканальным, мусіць мець усе ўлады розуму, волі гарманічна развітымі. Чалавек абсалютнай дасканаласці мець не можа. Ёсць яна толькі ў Богу. У Хрыстусе маем найстрайнейшы ўзор характару. Каб мець характар, блізкі да гэтага Боскага ўзору, патрэба: 1) Старацца мець вялікую жыццёвую спраўнасць, каторая вучыла б нас кожны выпадак жыццёвы абярнуць для карысці духоўнага развіцця характару. Назавём гэта безупыннай творчасцяй духу. 2) Мець вялізную чуласць на тое, што вокал нас дзеецца, каб усё відзець і разумець у святле вечнатрывалай асновы несмяротнай ідэі. Назавём гэта дарам вышэйшае празорнасці. 3) Навучыцца болей слухаць, чым гаварыць, болей рабіць, чым малоць языком. 4) Упадкаў сваіх ніколі сабе не дараваць. Спавядацца з іх перад Богам і прад сабой, каяцца і ісці ўсцяж наперад. 5) Дабіраць сабе лепшае таварыства людзей, але не гардзіць анікім: мець літасць нават над злыднем, памятаючы, што і са мной магло б блага быць, каб не ласка Божая і свая асцярожнасць. 6) Прыглядацца

жыццю людзей, каторых завём «вялікімі», «святымі», — асабліва ж углядацца ў Божую постаць Хрыстуса. 7) Дужа многа думаць і разважаць над людскім жыццём як аб вельмі важнай і глыбокай праяве быту…»

## IX. ПАД КЛЁНАМ (КЛЮШЧАНЫ, 21.IX.1916)

Сягоння пайду я пад разложыстае дрэва на могілках бацькоў маіх… Пагода плакучая… Загавару я да душ сялянцаў, што «адышлі згэтуль», і паслухаю голасу прыроды магільнай, і памалюся за душы ўсіх, што цярпелі, і ўзываць буду іхнае апекі над маёй зямліцай…

* * *

Адчыніў я шырокую браму магільніка. Простая палісада дзеліць яго напал. На ўзгорку статуя Маткі Божай з скрыжаванымі рукамі на грудзёх. Дрэў і дрэўцаў галіны прысланяюць рады крыжоў, драўляных, простых. З мокрых пажаўцелых лістоў спадаюць каплі нябеснай расы. Між дрэў найстаршы — клён пасярэдзіне магільніка. Пад ім яшчэ ніхто не ляжыць. Там мейсца для мяне…

Чаму я так люблю места памёршых? Чаму, прыехаўшы дзе на свежае месца, перш-наперш знаёмлюся з нябожчыкамі на магілах? Чаму для мяне голас магільны такі тужліва-сумны і разам блізкі, мілы?.. Вера мая! Табе дзякую за тое, што мяне знаёміш з духамі, — мілейшая мне лучнасць з тымі, што ўжо на тым свеце, як з тымі, што тут жывуць яшчэ ў змаганні, удалечыні ад Бога…

* * *

Вось стану я пад клёнам, дзе мо спачне мая калісь галоўка, азірнуся кругом, заплачу поўнай слязой! Колькі ўжо галіны гэты злічылі жалосных выправадзінаў на гэтай сумнай палісадзе. Колькі тут праз векі разлягалася енку і плачу! А бацька-клён стаяў так заўсягды спакойна, разважна. Толькі дрыжанне галля і шэпт лісця даводзілі, быццам клён чуе і ціха гаворыць малітву за спакой душы людской, што «нарадзілася да новага жыцця»… Колькі тут пакаленняў! А што ж асталося па іх?.. Не варта было б жыць, каб па смерці ўсё кончылася. Але, на шчасце, — сведка

сам Бог, сведка голас людскасці, — чалавек жыве і па смерці ў лепшай частцы сваёй. Лёгшы пад крыжам, толькі пачатак дарогі прабыў: «Хоць і памёр, жыў будзе».

Чаго ж тут плакаць? Няхай галосяць бязверцы! Але яны зімны… Несмяротнасць сваю закладаюць у затраце сваёй язні і ў небыцці.

Як смерць прыгожа лучыць усіх. Якая стройная унія! Адно тут грамадзянства, адна вера, адна міласць! Адзін Бог — адна людскасць. А гэтай людскасці адна міласць Божая, або… адна нянавісць. Так, як і на гэтым свеце. Адзін Касцёл Божы Міласці — і адзін збор шайтанскі нянавісці. Насупроціў… слова Божае: «Fiat lux» — станься святло — і слова Ягонае: «Ecce nova facio omnia» — чыню во ўсё нанова — становяць два бакі аднэй карты бытавання істот разумных.

Гісторыя свету — гэта гісторыя пакоры і пыхі анёлаў і людзей. Пакора называе Бога панам сваім, пыха сябе ставіць на месца Бога. Пакора хваліць Быт, пыха ніштосць. Пакора вывышае, пыха зніжае. Шчасце, за каторым гнаўся род людскі, — гэта *Сам Бог.* Няшчасце, каторае выбраў сабе першы і апошні грэшнік, — гэта разлучнасць з Богам. Шчаслівы чалавек, каторы ўмее сказаць: «Бог мой і ўсё маё!»

Учора згасла адно маладое жыццё. Незадоўга прад смерцяй я спытаў: «Ці не будзеш, дзіця маё, наракаць на Бога, калі забярэ цябе з гэтага свету?» — «Не!», — адказала яно і то так проста, так лёгка, што я вышаптаў: «Анёлам адным той свет павялічан»… Дзяўчо гэта ляжыць тут неўдалёчку. Моліцца мо за мяне… Спаткаемся!.. Будзь багаслаўлёны час, у каторым я звярнуўся да Бога!..

Бач, як азалаціла сонца жоўтыя лісты майго клёна! Касулькі яго ажывілі гэту мясціну памёршых, і здалося мне, што гэты старэнькія крыжы з пабляклай зоркай палатнянай аднавіліся і загаманілі вечнай мовай Жыцця з Божае ласкі. Недарма наш русняк хіліць пакорна галаву прад гэтым знакам збаўлення, недарма значыць ім свае адкрытыя грудзі. Крыж вучыць яго веры Хрыстовай, крыж бароніць яго ад злой долі і распусты.

Чаму ж гэта ўз’еліся так на крыж некаторыя пісакі?.. Русняк жыве, то не замерла вера яго ў цудоўны знак крыжа. Русняк зажыве паўнейшым жыццём, калі зглыбіць і пашырыць у сабе веру ў Хрыста ўкрыжаванага, праз каторага сляпым вочы адкрываюцца, нямым голас даецца. Русняк згіне, калі злыдні адбяруць ад яго веру ў Бога і Яго Сына Езуса…

Мой Божа! Чую я падзячнасць за тое, што мысль мая — маўляў каля вялікага цэнтру, — круціцца каля вечнае ідэі: «Deo servire regnare est» — служба Богу — гэта панаванне… Я хацеў бы знайсці якісь сінтэз жыцця свайго… Але пашто? Які быць можа сінтэз жыцця, каторае толькі гарэла само ў сабе, не выдаючы яснейшага полымя на свет? Які, аднак, сінтэз кожнага жыцця, што вось тут пад крыжам знайшло свой часовы канец?.. Можа б, гэты сінтэз абнялі словы: «Спазнаў, чым ёсць крыж, і праз цярпенні знайшоў Бога». Я ахвотна напісаў бы гэта на пліту грабовую табе, чалавеча.

Вось аж куды заблыталася мысль мая, аж да асновы людскога бытавання. Яна яшчэ неспакойная, але роўная. Хацеў бы, каб была *чыстай і простай.* Хацеў бы, каб на магіле маёй напісалі: Кс. Кастанты Стэповіч. Жыў гадоў Н. Н… Стараўся быць чыстай і простай мыслі.

## X. НА ДРУГІМ ВІКАРЫЯЦЕ — У БЛУДНЫМ КОЛЕ (КАРЫЦІН, 1916–1917)

*Клюшчаны, 2.XI.1916.* Бывай здарова, родная старонка! Глыбокая, моцная сувязь злучыла мяне з табой. Тут я найшоў сілу да жыцця, тут пазнаў ясныя хвіліны супакою; тут найшоў новыя намэты працы хаўруснай, тут спазнаў, як сумна жывецца гаротнаму селяніну ў цемры, грэху і блудзе забітасці… Мой родны куточак! Будзь здароў! Дасць Бог, увідзімся. А калі ў чужыне зімнай застуджу я свае сілы жыццёвыя, ты прымі мяне ізноў, каб найшоў я ў табе добрую крыху патолі… Бывайце заўсёды дужы і здаровы вы ўсе, каго сэрцы біліся ў такт з маім! Капайце ў цвёрдай грудзе сабе дарогу на прыволле і не забывайце, што мэта наша горная: вясёла ідзіце за светлай зарніцай Праўды: «з народам для Бога».

Другі мой вікарыят па Камаях. У Вільні быў колькі гадзін праездам. У колах польскіх — салідарнасць з Варшаваю. Апавешчана «Каралеўства Польскае» незалежным… Якія мы нешчасліўцы, што не можам падобна, як палякі, узяць лёс свой у свае рукі!

У парафіі Карыцін большасць беларусаў гавораць чуць не ўсе па-беларуску. Гутарка мала розніцца і ад нашай надвялейскай. Ідэя маладой Беларусі тутака нязнана; цікаўна, што тутэйшыя «шкаце» ставяць сябе куды вышэй ад суседніх мазуроў за Беразовай. Беларусы ж з-пад Янава і Карыціна кажуць, што яны

нешта лепшае, як запушчанскія «шкаце». Польшча тут палітыку можа весці ўдачна на сваю карысць, бо каталік усё роўна, што і паляк…

З трывогай бяруся за кіраўніцтва цэлай грамады дэвоткаў. Здароўя мала, а работы шмат. *У такой сферы смешна было б падымаць думку аб Беларусі.* Калі знайду якую інтэлігентную душу, пастараюся пазнаёміць яе з справай, каторая ляжыць на сэрцы мне. Веру, што: «Жыве Беларусь!» *Работа мая тым часам чыста касцельная і культурная.* Мо вазьмуся за хор, бо страшэнна запушчаны. А тым часам: «Бог памож!»

*25.XII.* Божа, Божа! Так, здаецца, заплакаў бы ціха і балесна, каб аж страпянуліся ўсе струны душы: можа б, гэта разагнала тую журбу, што з'ядае ізноў мяне. Неадлучна ты ад мяне, ліхая мая сумнасць, бо і я сам сабе нейкую трагедыю страю: складаецца яна мо сама, а мо і я творца яе, а канчатак яе будзе загубай маёй, хоць не суцэльнай… Я не здаволен з самога сябе. Я кожны шаг свой пачынаю ставіць без тэй пэўнасці, каторую дае сіла з Бога: з пакоры і малітвы. Штораз мне сумней, а нямаш душы зроднай: я слабы і не маю каму спавядаць «простую» душу маю…

*2.II.1917.* Сумую, як заўсёды. Прылучылася слабасць з сільнае застуды. Не магу ні гаварыць наголас, ні пяяць. А работы шмат.

Праца над самім сабой мае многа разбіцця — што выводзіць мяне ўжо не раз з роўнасці духоўнай. Баюся, каб не расстроіцца. Як тут удзяржаць і разбудзіць жыццё глыбейшае ў другіх, калі сам павольна на мель асядаю…

Аб'язджаю крыху парафію з калядой: слёзы, больш нішто. Усмеху рэдка спаткаць. Людцы прыбіты нядоляй вайны — а шмат прымірае з голаду.

*20.II.* …Рэдка спаткаць душу з верай жывой, што відзіць ясна тайніцы быту людскога, бо прывыкла мысль затапляць у святле Божай развагі. Вось адзін прыклад. Дзяўчо на ложу смерці, у сухотах. Вочы гараць не толькі полымем з палу: відаць у іх нейкі пробліск засвету і спакой з пэўнасці жыцця вечнага. «Мне не патрэба лекаў ніякіх людскіх, чакала толькі Лекара Боскага. Усё роўна мне жыць ці памерці, нават большая ахвота да смерці, бо ад жыцця тутэйшага нічога не спадзяюся. Умру ахвотна, баюся толькі, ці Хрыстос прыме мяне, грэшніцу».

*13.III.* Улез я ў блуднае кола… Запяяў я «тутэйшым» колькі шчырых песняў беларускіх, сказаў пару казкаў, задэкламаваў «Званара» і даў прачытаць «Пчалінку». Паказваецца, што тут

многа хто мог бы палюбіць Беларусь, а прынамсі яе людовую паэзію — духу глыбейшага яе. Бо відзеў я на гэтых успробах, што «вочкі іх гарэлі». Але тут пачынаецца гэты блудны круг. Сёння мой пробашч пры абедзе знячэўку пытаў: «Хто гэта даў да чытання беларускую кніжыцу, што чытаюць у мястэчку, сабраўшыся вечарам?» Адказаў я, што гэта мая работа. — «Няхай ксёндз не заводзіць тутака ніякай навасці. Прашу не шырыць ані песняў, ані казкаў, ані дэкламацыяў беларускіх!» Я даў сваю згоду (!). Чаму?.. Пробашч пасля выясніў, што — гэтага вымагае касцельная палітыка з Вільні (!). Гэтага хоча касцельны ўрад. Ёсць бо небяспека, што ад умілавання роднай мовы пачне беларус дамагацца нават рэформы ў касцёле. Хай жыццё плыве сваім карытам. Не трэба будзіць духа самабытнасці, бо гэта тым часам небяспечна для еднасці касцёла… Што тут справядліва, а што не?.. Пакінь!.. Пакінь, браце, свае думкі! Ты любіш Беларусь! Міласць твая нешчаслівая. Крыйся ты з ёю. Бойся яе аказаць, бо гэта можа даць урон для нейкай палітыкі, ведзенай у імя праўды (!). Я, мусіць, зблудзіў. Што ж я зраблю, калі люблю так душу беларуса. А віджу яе і пазнаю ў іншым шмат святле, чым другія. Я мушу пакінуць тое, што ўелася ўжо ў маё сэрца!

Ну, буду біцца цяпер з… сваімі думкамі. Мо беларуская муза ізноў будзе са мной. Зачну пісаць.

Каб як вылезці з гэтага блуднага колца, стаўлю сабе такі парадак: 1) Слухаць пробашча ў тым, што датычыць чыста нацыянальнай прапаганды — значыць пакінуць байкі, песні і нават гаворкі аб беларушчыне… Ці я вытрываю?! 2) Трэба зараіцца з другімі сябрамі. 3) Пісаць нанова дзённік, каб было дзе думку пакінуць. Маўчаць і больш думаць.

*17.IV.* Час плыве… Між мной і пробашчам тым часам зносіны нібыта добрыя, але чуецца нешта анармальнае. Маё блуднае кола яшчэ больш сціснулася. Ці ж мне можна вытрываць: ані слоўца нікому?.. Але ж я слова даў не гаварыць аб Беларусі, не вучыць новых песняў, каб не збудзіць руху. А тут мяне пытаюць — што рабіць? Кажу проста: «Мне забаронена гаварыць аб гэтым». Такая гаворка ізноў уводзіць у той круг, каторы завязаўся. А як тут не запяяць роднай песні, калі просяць?! І смех і грэх!.. Аж во найшоў я знячэўку выхад з блуднага кругу. Як хто загамоніць са мной аб «гэтым» — я і пытаю: «Ці ты лічыш сябе беларусам?» Калі: «так» — добра, будзем аб гэтым гаварыць, калі: «не» — дай спакой, мне аб гэтым нявольна з табой талкаваць! — А што, ці ж не добры выхад? І воўк сыты і каза цэлая… Ха, ха!

Сёння маю нос спушчаных на квінту, як кажуць спевакі: пробашч сказаў, што мала спавядаю. А бадай ты скіс (не пробашч, але я): гэта ж ты са спевамі апушчаешся… Але ж гэта не праўда! У сумленні я спакойны. Я не здароў, а спавядаю не менш «яго». Мог бы сказаць «яму», што ад Каляд у Карыціне крывёй плюю. Але «сыты галоднаму не спагадае».

*7.V.* Выпала пяро мне з рук, не магу ўжо прымусіць яго да паслухмянасці. А тут такое адзіноцтва, такая душная атмасфера. Я шукаю, перад кім мог бы выліць крыху тэй пякоты з сэрца — і не знаходжу. Ізноў вярнуўся да дзённіка, але пяро не слухае… паржавела.

Сумна мне, хоць ты вазьмі ляж ды і ўмры. Але як тут уміраць, нічога добрага не зрабіўшы? А мо і не зраблю?.. От біся, чалавеча, як рыба аб лёд! Калісь трапіш у пруруб!…

Баліць мне сэрца за народ, каторага няшчасце не змагу апісаць.

Пячэ нутро маё сум з бяссільнасці сваёй да направы перш сябе, потым бліжніх маіх…

Плача сэрца маё над нядоляй, над упадкам духу тых, што звалі сябе дужымі…

Скалыхнуліся ўсе думкі мае, спуджаныя сумам ліхім і вялікай трывогай.

Я тут у гэтым Карыціне да часу. Добра тут. Мне пэўна будзе шкода пакінуць яго. Найшоў тут крыху сэрцаў, каторыя б'юць у такт з маім, шукаючы Бога. Але на мяне зваліўся цяжар такі, каторы выпраўляе мяне адгэтуль. Дай жа Божа канец гэтай вайне! Ах, Божанька, хутчэй! Бо людцы не вытрываюць і будуць разам з бязверцамі клясці Агляд Твой. Я ж чакаю канца яе, каб папрацаваць яшчэ на ніве Божай і народнай, а тады памерці. Ах, лёгка гэта сказаць! Як жа трэ будзе перажыць гэты момант народзін да вечнасці! Прызнаюся шчыра, я ўміраць баюся. Але трэба. Божанька! Памажы мне споўніць наказы Твае і зразумець волю Тваю святую. Вось, так хацелася б збудаваць нешта нейкае для хвалы Тваёй. Адну душу выратуеш з балота грэху, — колькі ж радасці! А каб жа з такіх душ збудаваць цэлы касцёлак або прынамсі залажыць фундамент… Што ж за шчасце! Колькі ж радасці ў небе!.. Асушы адно вочка з слёзцаў — і так сэрца расце! А каб жа гэтымі слёзцамі паліць «нядолю нашу беларускую» — колькі ж было б святла і патолі?

*18.VI.* Жыццё не ладзіцца. Найгорш з здароўем. Даю я гэтай парафіі праўдзівую кроў сваю. Ужо колькі разоў меў сільны ўплыў крыві з горла. Цікаўна мне, што мой пробашч не верыць,

відаць, у маю хварлівасць і, калі я часам скарачу сваё заняцце, зара бывае чырвоны і надуты.

Нядаўна прыходзіць адна асоба і перасцерагае сакрэтна, каб я сыскаў беларускія кніжыцы, калі каму пазычыў. Ад часу гутаркі з пробашчам я не даваў нікому чытаць ніякай брашуры, апроч вучыцеля, бо ён сябе палічыў беларусам. А тут расшырылася вестка, што я спевакоў частую кніжкай беларускай. Вось што яна мне сказала: «Я чула, што з ксяндза вельмі нездаволены ў плябаніі за шырэнне думкаў беларускіх. Хай ксёндз будзе асцярожны. Яны лічаць нас такімі дурнямі, што нам забараняюць нат чытаць беларускія кніжкі». За гэту перасцярогу я вельмі падзякаваў, насмяяўся і падумаў: — Жыве Беларусь і тут. «Іншыя, — кажа, — ксяндзы давалі чытаць гэтыя кніжыцы, адну, — кажа, — я дагэтуль трымаю»… Значыць, думка аб роднай старонцы так жыва, што сочыцца праз ледзь значныя ходы. *Тут неяк даведаліся, што я беларус, і не адзін прасіў ужо ў мяне «вершыкаў».* Што ж? Трэба на жаданне іх адказаць паводле тэй нормы, «каб воўк быў сыты і каза цэлая». Блудны круг мой развязаўся, а звязваецца для ворагаў Беларусі.

*19.VI.* Сёння я шчыра гаварыў з пробашчам аб маіх адносінах да людзей і да яго самога. Паказалася, што лучыць нас сільная толькі ідэя каталіцызму. Такую пропасць убачыў між сабою а ім, што трудна будзе жыць. Нараіў мне ўступіць. Добра. Я пастанавіў адлучыцца. Дзе толькі падзенуся?! Нездаволены найгорш, што зрадзілася тут думка *аб Беларусі* не без майго ўдзелу.

*3.VII.* Сцены тутака маюць вушы. Парафія ўжо гамоніць аб маім выездзе. А мо прачуваюць? Ну, і сапраўды палажэнне не завіднае. «Хору вучыць няможна». Атрымаўшы такі прыказ, я закінуў работу над ім. Кожнае маё слова, кожны рух нават у касцёле нехта наглядае. Я зусім замкнуўся.

*12.VII.* Справа з хорам вось які прымае кірунак. Я пакінуў працу на жаданне пробашча, каторы ў арганізацыі маёй дагледзеў небяспечнасць раздваення. Адна паненка даказала пробашчу, што я сею думкі беларускага нацыяналізму. Той паверыў без доказаў. Прызнаўся мне такжа, што меў даручэнне ад кс. Любянца наглядаць мае паступкі («mieć oko»). Я згадзіўся кінуць работу.

## XI. СЦЕЖКАЮ СМЕРЦІ (КАРЫЦІН. ДАЛІСТОВА. ЗАКАПАНАЕ. ЛАПЕНІЦА. БЕЛАРУСКІЯ КАЗАННІ І ШКОЛЫ. ЗАКАПАНАЕ. ПАДБРОДДЗЕ. КЛЮШЧАНЫ. БУЙВІДЗЫ. ЗАСВІР. 1917–1919)

*У Карыціне 4.VIII.1917* захварэў я па сільным уплыве крыві і дастаў запаленне лёгачнае апоны. Праляжаў там да вясны 1918 года. Калі немагчыма проста было ўжо прабываць «на кватэры» ў Карыціне, выехаў у Далістова, скуль за месяц паехаў у Закапанае да санаторыя. Там быў ад 13.III да жніўня, пасля жыў у гарняка на Быстрым, а ў канцы капеланам пры шпіталі кліматычным да ліпеня 1919 года. Вярнуўся да Клюшчан, пабываўшы ў кс. Германовіча[5] ў Лапеніцы (пад Ваўкавыскам).

*27.VII.1919. Лапеніца.* Прамаўляў тут па-беларуску. Неспадзявана добрай душой была выслухана прамова, хоць колькі асоб з мясцовай шляхты спачатку ўсміхнуліся, што «папросту» аб Богу стаў вучыць. Людцы прывыклі клясці толькі долю сваю і грашыць па-беларуску, вось дзіўным здалося, што можна і хваліць Бога гэтай мовай, каторая годная ўзгарды ў вачах паноў усіх гатункаў і падпанкаў. Заінтарасаванне збудзілася, аднак, немалое — асабліва (як паказалася пасля) спаміж праваслаўных. Гэтых апошніх можна было б такім парадкам пацягнуць да касцёла і яго навукі, бо польшчыны яны не церпяць.

*3.VIII.* Другое казанне. Спачатку адзін голас (на хорах) нездаваленне. Ніхто ўжо не ўсміхаецца, толькі двух дзецюкоў крышку маніфестацыйна выходзяць з касцёла. Ціш, заінтарасаванне небывалае.

*4.VIII.* Быў дэкан. Не ўспамінае аб казаннях: нічога не ведае. Гутарылі крыху аб беларусах.

*8.VIII.* Прыйшоў ліст ад дэкана. Забараняе навук беларускіх цэлай сваёй «павагай».

*10.VIII.* Адзін шляхціц перасцерагае, каб навукаў беларускіх не ўводзіць.

Казання беларускага сёння не было. Людзі, каторым падабаліся такія навукі, былі нездаволены.

*15.VIII. Зельная.* Людзі спадзяваліся беларускага казання. Нездаваленне было лёгка адчуць. Раманоўскі з Карэвіч бароніць справы і паўстае на «дурняў», што не разумеюць патрэбы ў нас навук беларускіх праз узгляд на праваслаўных. Было сёння ў касцёле шмат і праваслаўных, каторыя спадзяваліся беларускай навукі.

*17.VIII.* Навукі няма. Па набажэнстве справа прыняла шырокія формы. Паказваецца, што ў дэкана былі дзве бабы і адзін шляхцюк, вядомы брахалка. Адначасна адбываўся з'езд ксяндзоў і дэкана (7.VIII). Былі ўведзены аскаржыцелі тыя і расказвалі справу прад форум духоўным. Высновай быў пратэст, падпісаны ксяндзамі проці ўваджэння беларускай мовы ў касцёл. Проціў пробашча кс. Я. Германовіча пачаўся байкот цэлага дэканата. Адзін малады ксёндз, а такжа клерык стаў па старане пробашча. Добры знак. Пробашч сцвярджае, што раздваення ў парафіі папраўдзе няма. Хто згадае: мо праціўнікі беларускіх казанняў звядуцца цалкам. Паказалася, што ёсць крышку тут свядомых беларусаў. Тым часам пробашч паставіў справу такім парадкам, што калі казанні не ўвойдуць — ён адракаецца парафіі.

*22.VIII.* Людзі з Грыневіч ужо другі раз дапытваюцца, ці будзе казанне па-беларуску.

*24.VIII.* Ад рана сход сялян у справе школ. Вось што прыгаварылі: «Дня 24 жніўня 1919 г. мы, грамадзяне з вёсак Грыневічы, Дзямідавічы, Мухайлы, Боркі, Камяніца і Малая Лапеніца, разбіралі ў будынку школьным патрэбу адкрыцця школ. Сход адбыўся пад загадам кс. пробашча Лапеніцкага кс. Я. Германовіча.

Сход пастанавіў: 1) Адкрыць дзве школы ў Мал. Лапеніцы (для хлапцоў і дзяўчат) і адну ў Вялікай Лапеніцы. 2) Навука ў гэтых трох школах павінна адбывацца па-беларуску, з дадатковым прадметам польскім. 3) Сход выбраў спаміж сябе Раду школьную з ніжэй падпісаных асоб: старшынёй кс. Я. Германовіча, сакратаром С. Шчыглінскага, сябрамі Тодара Пякарскага з Грыневіч, Яся Бублея і Петрука Ляхоўскага. 4) Сход даручае Радзе школьнай здабыць грошы на паправу будынкаў школьных, знайсці вучыцялёў-беларусаў і каб чым хутчэй магла пачацца навука. (Подпісаў трыццаць.)

*25.VIII.* Прыйшоў адказ ад біскупа, у каторым, паклікаючыся на цверджанне дэкана, што беларускія казанні быццам шкодзяць касцёлу, забараняе ўводзіць іх. Праваслаўных раіць сабіраць у школе і плябаніі. Вычуваецца з ліста, што біскуп пад уплывам дэкана і апініі пануючай з прыкрасцяй зрабіў гэта.

Зіму 1919/20 года быў ізноў у Закапаным. Вярнуўся я ў маі. Тым часам жыву ў Падброддзі, як «абывацель вольнага паветра». Немаведама, што рабіць. Пайсці на парафію: мала сіл. А блуканне даела да душы. Займаюся шчырэй пісьменствам.

З Падброддзя астаўся мілы ўспамін, але, наколькі помню, ніводзін твор новы не выйшаў у мяне. Перапісваў толькі «Унію на Беларусі» для рэд. «Крыніцы». Частыя раз’езды не дазволілі мне сабрацца з думкай. Чакалі, зрэшты, новага пералому ў жыцці палітычным, новае акупацыі.

Прад самай інвазіяй бальшавікоў перабраўся я з Падброддзя ў Клюшчаны, дзе прабыў пераход войск савецкіх і прыбыццё літоўскіх, замяшчаючы ўцёкшага пробашча. Атрымаўшы назначэнне ў Буйвідзы, я там прабыў да 2.XI.1920 г. як тымчасовы пробашч. Пасля пераехаў у Засвір як пробашч сталы, дзе прабываў, развіваючы сваю народную ідэалогію, з трудом ломячы ўсялякія запоры. Русняк тут голы і галодны. Проста жаль глядзець. Цёмны, як халява, а не даецца кіраваць: не давярае. Такое меў ураханне дагэтуль. Ахвоты добрай і волі ёсць між людцоў. Толькі што шмат чуў ён ужо баламуцтва палітычнага і зняверыўся. Зрэшты, трэба яго найперш накарміць.

*Засвір, 10.III.21.* Напісаў сёння два даволі ўдатныя вершыкі: «Кавэрня» і з «Кніг Мудрасці». Заўважыў, як важна мець прыгатаваны матэрыял. Пасля перарабіць ужо лёгка. Трэба выпісваць мыслі, пісаць нарысы. Рэфлексіі мае ўпрасціліся, бо і жыццё прыняло формы спакайнейшыя. Школа беларуская зліквідавалася, бо не было добрага педагога і канкурэнцыя з’ела. Малая бяда. Цяпер маю больш дзяцей пад сваёй апекай. Людзей тут выдатнейшых не знаходжу. Але грунт да працы ёсць.

*11.III.* Веснавое тхненне ў прыродзе. Нейкая новая сіла ўходзіць у нервы і кроў чалавека. Птушкі ўжо строяць канцэрты.

*12.III.* Маю ў другім тыдні адправіць рэкалекцыі з дзецьмі. О, каб жа і сам аднавіўся душою пры гэтым. Інспірацыя духоўная малее, бо і чытаю мала…

*13 III. Dominica Passionis.* Людцы спавядаюцца і пакутуюць. Тым часам новага нічога. Толькі сава гукае неўдалёчку, палохаючы забабонных людцоў. Ходзяць чуткі аб ваенных аперацыях на літоўскім фронце. Няўжо ізноў будзе новае што?

*16.III.* Большую часць дня спавядаў. Пераглядаю свае матэрыялы, каб што з музай тварыць, але тым часам нічога новага. Гавораць ужо і тут аба мне, як аб беларусе. Нічога не шкодзіць. Бяда толькі, што народ наш не мае найменшае дозы крытыцызму, калі яму суліць Польшча ўсё, не выключаючы і… «Krylewstwa Niebieskiego»…

*24.V.* Май. Салавейка штоноч спаць не дае думкам збуджаным. Цудныя ночы. Раскошныя дні. Толькі сэрца так ные, так

плача, моў бы нестае яму чагось. Я не хачу абнізіць сваіх намэтаў горных. А сэрца так сціскаецца. Хоць ты кінься куды, каб уцячы ад самога сябе!..

*26.V.* Артызм родзіцца з цярпення, а не з угодлівасці сабе. Сонны я і лянівы. Марыя Найсвяцейша, не пакінь мяне! І пашто абніжацца духам. Творчасць мая павінна выяўляцца не ў пустым жыцця кругавароце. Далоў банальнасць! Далоў залежнасць ад перасудаў «таварыства»! Будзь свабодны і не дайся звязацца ніякімі вузламі эгаізму свайго ці чужога. — Езу! Я помню, што цярпенне — маці творчасці.

*30.V.* Ах, гэты май; гэты цудоўныя чары ночы, у каторых можна ўсё зведаць і ўсё… згубіць. Як жа было б шчасліва на зямельцы, каб зніштожыць на ёй эгаістычныя сэрцы! А кожнае шчасцейка так дорага каштуе — каштуе столькі слёз… гора. Няма на свеце трываласці ў нічым. Усе яго вартасці не цэнны. Каб не было б іншага жыцця, не варта было б прыходзіць на даліну цярпення… Пяро мне выпадае з рук ад безгалоўя ў думках. Няма парадку ў ідэях, няма ў розуме, няма ў волі сілы.

Сэрца нешта благое прароча
І з грудзей яно вырвацца хоча.

*20.VI.* Ляжу. Горла сіпіць ужо тыдзень. Адбыў падарожжа ў Вільню і Дзісеншчыну. Змогся. Два разы прамаўляў па-беларуску. Напісаў артыкул «Следам за дзедам».

*5.VII.* Сёння ўночы меў дзіўную рэвізію. Падчас, калі я быў з братам і клерыкам[6] у садзе заняты гутаркай, залез якісь сышчык у кватэру, перабраў і растрос чуць не ўсе кніжкі, параздзіраў канверты, ператрос ложкі, і след па ім застыў. На гэта могуць адважыцца толькі заклятыя ворагі беларусаў.

Арыштавалі кс. Пятроўскага[7]. І мяне перасцерагаюць. Хай вас хутчэй вон нагамі…

*6.VII.* Хістаецца дух мой міжы разбежнасці сцежак бытавання. Як жа я чуўся бязвольным! Творчасць мая так стрымалася, што ледзь спраўляю буднія працы дзеля фізічнага існавання. А жальба духу на ідэал нязбыты, недасягнены ўсіляецца. Няўжо жыццё так і ўплыве на марах ідэалу без здзяйснення сноў за волю душы народнай, да каторай я жадаў бы прылажыць свае зярняткі? Змаганне з кволасцю, з бяссіллем ідзе ў маю некарысць. Божа, дай мне не пакінуць творчасці духу майго! Пазволь мне — памажы мне быць карысным справе духоўнага адраджэння майго брата занядбанага. А мне будзь міласцівым,

бо сам часам не ведаю, што раблю ў хвілі сумніву і мукі. Агні хай распаляцца ў сэрцы_маім, каб загарэлася новым парывам натхнення: чыстага, вялікага! Прызываю вас, духі лепшыя, і лучуся з вамі сардэчна, каб весці жыццё горнае, каб не скупацца ў брыдзе жыццёвай, каб не згінула маё прызванне быць «святлом і соляй». Хрыстэ, жыві ў душы маёй. Ачысці яе, калі яна брудна. Барані мяне ад благога духу няверы!

## XII. АПОШНІЯ ЎСПАМІНЫ (ЗАСВІР. ЗАКАПАНАЕ. 1922–1925)

*19.II.22.* Не сплю. Петухі запяялі. Такая журба есць, што апісаць немагчыма. Хоць ты куды дзенься. Я не маю абсалютна каму верыць. Здраджаюць мяне людзі, каторым, здаецца, аддаў бы ўсё. Смейцеся з мяне ўсе сілы таемныя засвірскага кляштара! Я не пайшоў за воляй іх… Адпакутую напэўна. Каб толькі не абнізіць свайго паслання, у каторае верыць не перастану.

*13.X.23. Закапанае.* Пасля абеду ўзнялася бура. Мяне разбудзіў са сну магутны пярун, каторы ўдарыў дзесь блізка і пагасіў электрычнасць у цэлым курорце. У гарах ляжыць снег. Жыццё плыве даволі манатонна і жудка. Спаткаўся з другам па містыцызму, старым сваім знаёмым з 1913–14 г. Цяпер высока стаіць: генеральны сакратар хадэцыі. Атмасфера законнікаў акружае мяне. Арыгінальны меў сон, у каторым я гіну з рукі ўсходняга свайго нібы брата, між двух праціўных ідэалогіяў (сімвалізаваных у двух містычных кірунках), пакінены нават бацькамі, каторых прашу (як нябожчык) справіць хаўтуры.

*1.XI. Задушкі.* Адзін у гэты год дзень гэты абайду. Іду заўтра на магілку Яна Луцкевіча[8]. Спавядаюся. Што прынясе мне пералом духовы: ці дазволіць мне Бог ісці далей? Трыццаць трэці год крытычны, я мушу быць заўсёды на ўсё прыгатаваны. Стан здароўя не варожа нічога добрага, хоць не ёсць благі вельмі. Маліся — трымайся — вытрывай: вось праграма духовая на далейшы шлях. Працуй, развівайся, гартуйся — помні на словы «Я ўскрашэнне і жыццё: хто верыць у Мяне, хоць бы і памёр — жыць будзе». Які я цудны меў сон на гэту тэму, а які страшны: змаганне двух нябожчыкаў. Брр! Аднак жа такія сны не забываюцца, хоць і тлумачацца лёгка мыслямі папярэднімі. Псіхіка ў сне сімвалізуецца дзіўна: расказваць сны — гэта тое самае, што адкрываць сябе.

*2.XI. Могілкі.* Сумная адзінокая магілка ваякі ідэі беларускай: Яна Луцкевіча. Вечны супакой яму, Божа, дай. Напісы некаторыя дужа пекныя. Вось прыклады: «Poświęcił się i zginął», «Rwał się ku szczytom i padł ich ofiarą», «Boże! Żyłam , boś chciał — umarłam, boś kazał — zbaw mię, bo możesz», «Uleciała do Boga w szóstej wiośnie życia»[9]…

Ці можна будзе калі сказаць аб цэлым свеце фізічным: «радзіўся, жыў, памёр?»…

*14.XI. Засвір.* Радасць і вяселле. Радасць бяссумная, хоць без прычыны. Рад, што зноў да сваіх вярнуўся…

*7.IV.24. Закапанае.* Размысляю. «Жыццё маё — гэта толькі дробны эпізод у існаванні маім. Як лёгка, аднак, паверыць у прэгзістэнцыю. Ці ж Бог паводле Біблії не «ўдыхнуў» у цела духу? Значыць з сябе даў *нешта.* Сапраўды, «з нічога» можа толькі «нічога». І нерэальнасць з'явішчаў матэрыяльных можа быць даказанай. Нават можна паверыць Гегелю, што быт (матэрыяльны) і нябыт ідэнтычны. Жыццё гэта толькі адзін з многіх спосабаў праявы самасвядомасці духу, каторы актам творчым адвечнай Божае любові выяўляе сябе ў форме часу і прасторнасці. Той свет і гэты свет нераздзельны, а свет духу больш пэўны, чым свет эксперыменту нашых змыслаў. Езус няхай жыве ўва мне!

*3.II.24.* Калі верыць снам і прачуццям, то вясна гэта для мяне мае быць крытычнай.

Я здрадзіў музу маю і чую помсту яе: верш не клеіцца, бо натхненне не з'яўляецца. Нат мая адвечная журба пераходзіць у стан толькі сільнай, казаў бы, неўрастэніі. Хай Бог бароніць мяне ад пакрыўлення душы.

*20.II.* Сёння кончыў хроніку касцёла свайго. Справу кантракту на дом пакляшторны пераслаў дэкану і да курыі. Хай робяць, што хочуць. Чуюся нязгорш. Горла толькі нешта здалікатнела.

Муза мая, ты чараўніца! Дзе ты і чаму сёння не адведала мяне: я так чакаў сэрцам пламенным. Замест раскошнага і чыстага свайго пагляду прыслала ты мне духа благога: як мара начніца навеяла на мяне пачуццё прыніжэння і слабасці. О як я люблю цябе, дарагая! І як ласкаю думкамі сваімі красу дзявоцтва твайго вечнага!

*10.II.25.* Сёння быў у мяне вечарам ваявода Рачкевіч. Закрыстыян, каторы пільнаваў прыезду, не дапільнаваў. Позна ўваліўся (каля гадз. 10 веч.) з цэлай світай. Спатканне наагул мела характар дрэнны: раз — крышку неўспадзеўна, а другое — позна. Думаю, што высновы з яго будуць не на плюс. Плюнь шчыра ў

бок іх, толькі шкада, што можа быць не на карысць Засвірскаму касцёлу. Абвёў яго я па ўсіх калідорах і ў святыні.

*22.V.* Сёння знячэўку ўлез да мяне сам міністр Тугут. Страшэнна чалавек халодны: мо так і трэба міністрам. Прыехаў з сваім «Клубам Працы». Хамінскі вельмі мілы і элеганцка паддзяржаў мяне ў маім лішнім клопаце. Пытаўся міністр аб мове беларускай у школе: «Ці склалі дэкларацыі бацькі?» Не выразіў нічога на дзераўляным твары, як бы крыху падпарахнелым. Нічога не сказаў, калі даведаўся, што ў касцёле ўжываецца беларуская мова ў характары «pomocniczej».

*13.VI.* Здароўе маё горш: боль у правых грудзях колькі дзён не ўступае. Эх ты, доля-доля! Аднак: «Contra spem spero» (Проціў надзеі надзеюся).

## ДАДАТАК
## АЎТАБІЯГРАФІЯ КАЗІМІРА СВАЯКА
## (КС. КАСТУСЯ СТЭПОВІЧА)

Радзіўся я ў вёсцы Барані Свянцянскага пав. 19.II.1890 у бацькоў сялян-поўвалочнікаў. Да гадоў 10, г. зн. да сканчэння народнай школы, мусіў прайсці ўсе беды і журбы сялянскага дзіцяці, каторае мае навучыцца цяжкой працы хлебароба. Якісь час жылі мы ў глухім засценку як арандатары, закіненым у глухім лесе. Там прыйшлося мне спаўняць ролю памочніка пастыра Марціна, каторы быў фактычна маім першым «вучыцелем». Варт ён успаміну дзеля таго, што быў тыпам тырана, але меў адну добрую старану: знаў шмат прыказак і вялікі лік прыпевак — ад смешных і нявінных да найраспуснейшых на свеце. Пасля стройных казкаў-песняў маёй бабкі творы народныя, пераказаныя мне Марцінам, шмат пужалі маю дзіцячую ўяву.

Добры тата мой, зарабіўшы на сырах і масле з кароў, што з Марцінам трэба было мне ганяць па райстох, і атрымаўшы запамогу з двара, дзе век свой быў лоўчым, пастанавіў мяне аддаць «у навуку».

У 1905 г. я кончыў меставую школу ў Свянцянах, у годзе першай расейскай рэвалюцыі, калі здарылася важкая пераацэнка грамадскіх вартасцяў. Ідэалам маіх добрых родзічаў было відзець мяне ў духоўным стане. Я пайшоў па лініі жыцця, якая мне здавалася найпрасцейшай і якая была здаўна ў матчыных снах. Дапоўніўшы чацвёрты клас экзаменам у Петраградзе ў

1907 г., я як васемнаццацігадовы маладзік быў ужо ў Семінарыі Духоўнай у Вільні. Год 1906 і 7 пражываў я ў Вільні як аспірант і тады пазнаёміўся з беларускай працай («Наша ніва»).

Праз тры гады семінарскіх студыяў я працаваў не помнячы аб Божым свеце, аж на чацвёртым цяжкі семінарскі сістэм зламаў мяне, я мусіў выехаць у горы, каб ратаваць сваё здароўе. У гэтым часе аддаў я ў рэдакцыю «Беларуса» першыя свае творы («Прад Богам») і пачаў адтуль працу ў розвітку беларускай народнай ідэалогіі.

Прабыў зіму 1912 і 1913 г. у Закапаным і з гэтай прычыны толькі вясной 1913 г. высвяціўся на ксяндза ў Петраградзе з рук біскупа Цепляка.

Першы мой вікарыят быў у Камаях Свянцянскага павета. З месяц па прыездзе туды прыйшла нямецкая акупацыя. Побыт мой аказаўся там лішнім. Я прабываў тады цэлы год у сваёй роднай парафіі Клюшчанах, дзе дружыў з моладдзю, якая рвалася да новага жыцця.

Адтуль назначаны я быў вікарыем у Карыцін (Гродзеншчына) — Карыцін, дзе я зруйнаваў сваё здароўе. Быў там ад палавіны 1916 да вясны 1918 г. Сільны ўплыў крыві з лёгкіх, каторы прадзяржаў мяне 6 месяцаў у ложку, прымусіў мяне ізноў шукаць ратунку ў гарах. Год 1918 і зіму 1919 я правеў у Закапаным. У 1920 годзе, падчас наезду бальшавіцкага, я знаходзіўся ў Клюшчанах, а падчас панавання літоўскага заступаў «уцекінера» пробашча ў Буйвідзах над Вяллёй. Адтуль увосень 1920 г. я назначаны ў Засвір, дзе прабываў да часаў апошніх і дзе маё здароўе ўшчэнт зруйнавалася, паміма выезду ў горы.

Пісаў у Шпіталі Кліматычным.

*Закапанае, 21.XII.1923*

*К. Сваяк*

# ЛІСТЫ

## 1. МАТЭВУШУ СТЭПОВІЧУ[1],
*м. Шайкуны (Свянцяны)*

*13 лютага 1913 г., Закапанэ (?)*

Дарагія бацькі і браты! Быў тут учора ў мяне адзін калега з семінарыі і прывёз трохі навін з краю. Да гэтага часу мелі мы цудоўнае надвор'е. На сонцы было 25 градусаў цяпла. Зараз усчаўся вецер, але сонца грэе. Па начах мароз. Снегу досыць. Што добрага парабляе Альбін[2]? Адну газетку атрымліваю. З радасцю пачытаў бы і другую, але запозна напісаў. Калі пробныя нумары прысылаюць, пастарайся якійсць адзін для мяне. А можа, дадому прыходзіць, дык прышлі. Прывітанне.

## 2. МАТЭВУШУ СТЭПОВІЧУ,
*м. Шайкуны*

*13 красавіка 1913 г., Закапанэ*

Каханым бацькам, братам і ўсім хатнім шлю сардэчныя Велікодныя зычэнні. Бывайце здаровы і вясёлыя заўсёды ў Богу. Праўдападобна, у маі ўжо мяне ўбачыце дома. Надвор'е зноў ёсць досыць пагоднае. Снег тае. Паклоны ўсім, асабліва бабуні.

*Канстанты.*

## 3. МАТЭВУШУ СТЭПОВІЧУ ДЛЯ АЛЬБІНА,
*м. Свянцяны*

*12 мая 1913 г., Закапанэ*

Наймілейшыя! Колькі дзён таму паслаў Вам ліст. Пісаў там досыць падрабязна аб тым, што думаю рабіць. Паўтараць тое самае тут не буду. Лісты ад Вас атрымліваю. Як доўга тут забаўлюся, сам яшчэ не ведаю. Але здароўе мяне ўжо мала затрымлівае. Мог бы ехаць, але не спяшаюся, хоць па доме сумую. Картка, як відаць з адрасу, мае на мэце аздобіць альбом Альбіна.

*Канстанты.*

## 4. АЛЬБІНУ СТЭПОВІЧУ,
*Казань*

*17 лютага 1914 г., Закапанэ*

Каханы Альбіне! Даўно ўжо вельмі пісаў да мяне, і я непакоюся аб табе. Напішы хоць паштоўку… Хэ! Забыўся ізноў, што пішам да сябе па-свойму, каб не распанець і не забыць аб маці Беларусі. Са мной — старое. Вярнуся мо на Вялікдзень зусім здаровым.

*Канстанты.*

## 5. АЛЬБІНУ СТЭПОВІЧУ
*ў Казань*

*24 сакавіка 1914 г.*

Не заехаў да Жураўні, хоць моцна гэтага хацеў. Сяджу цяпер у Далістове Гродз(енскай) губ., дзе забаўлюся на два тыдні. Пасля буду ў хаце айцоўскай. А ўрэшце махну да Вільні. Пішы дахаты. Здароўе, здаецца, у парадку. Да семінарыі вярнуся. Паздраўленні і сціскі шчырыя засылаю.

*Твой Кост.*

Прывітанне Велікоднае прымі!

## 6. АЛЬБІНУ СТЭПОВІЧУ
*ў Казань*

*13 мая 1914 г.*

Дарагі браце. Дзякую за шчыры і надта ж мне мілы ліст. Часць экзаменаў ужо зложана. Але свянчэння прыму, мусіць, увосені, бо яшчэ большая часць прадметаў ляжыць адложана. Што там з Стэфанам дзеецца, ён хворы? Можа б, ты да яго пад’ехаў, пацешыў, параіў. Бедны ён. Я пісаў да яго доўгі ліст, але, мусіць, загінуў. Паедзь да яго і памажы колькі змога ў яго нядолі!

*Твой Кост.*

## 7. АЛЬБІНУ СТЭПОВІЧУ
*ў Казань*

*7 жніўня 1914 г., Вільня*

Тыдні два ўжо сяджу ў Вільні, дзе хочацца зрабіць канчатак маёй доўгай і не зусім у парадку навукі. Покуль што справа зацягаецца. З хаты лісту не меў, бо няма каму пісаць, пэўне. Калі спраўлюся, трэ будзе паехаць на колькі дзён. Смутна неяк. Як жа вы там трымаецеся? Пішыце цяперака на семінарыю, бо я тут знаходжуся. Здарова чуюся і не трачу духу.

*Ваш Костка.*

## 8. МАТЭВУШУ СТЭПОВІЧУ
*ў Баранях*

*18 снежня 1919 г., Закапанэ*

Тыдні што тры мінулі ад часу майго тут прыезду. Новага нічагусенькі. Мароз сціснуў крэпкі. Снегу наваліла. Час ідзе даволі шыбка. Чакаю ад вас якой весткі. Прошлай нядзелі я выслаў ліст да вас. Тым часам пісаў да мяне толькі Клімовіч. Здаровы будзьце.

*Ваш Костка.*

## 9. ЯЗЭПУ ДРАЗДОВІЧУ

*1923 г., Засвір–Вільня*

Грамадзянін Драздовіч!

Я вельмі цікаўлюся Вашымі малюнкамі і рысункамі. Будзьце ласкавы зрабіць некалькі студый пяром ці як з прысланай разам з гэтым фатаграфіі аднаго бел[арускага] тыпу (не народнага). Буду Вам вельмі падзячны, калі ў партрэце-шкіце ўложыце і сваёй крыху індывідуальнай памысловасці ў стылі беларускім. Сем картак Вам высылаю дзеля рысунку. Прышліце чым хутчэй. Магчыма, што закажу ў Вас яшчэ што. Абраз «Пагоні»[1] я хацеў купіць, але па азначанай цане кнігар баяўся прадаць, бо танна. Гэта было месяц таму. Я на восень думаю аб выдавецтве вершаў. Буду Вас прасіць ілюстрацыі ў духу «Пагоні».

Адсылаючы работу, напішыце, як Вам жывецца. Я вельмі Вам спагадаю, бо Вы мне ідэёвы сваяк. Адрас такі: м-ка Засвір, кс. Стэповіч Канстанцін. Пішыце рэкамендаваным (polecony). Дасць Бог спаткацца. Я Вас у Вільні ледзь не захапіў. На жаль, Вы выехалі перад 1-ым.

У «Крыніцы» за 1921 г. № 28 ёсць мая навела пад загалоўкам «З кнігі высшых асягнень духовых». Еслі будзеце магчы, дайце колькі пробак ілюстрацыі. Наложнасць Вам вышлю поштаю.

Дай Божа Вам добрага!

Адданы Вам

*К. Стэповіч*

P. S. Фатаграфію адашліце, калі ласка.

## 10. ЯЗЭПУ ДРАЗДОВІЧУ

*7 красавіка 1923 г., Засвір*

Грамадзянін Драздовіч! Я Вам ад сэрца дзякую за прысланы ўспамін-гасцінец. Прыстаю на Вашы варункі і вельмі мне прыемна, што буду мець пры сабе абразцы творчасці ідэйнай. «Культ Капітала»[1], па-мойму, рэч «капітальная» ў сіле сваёй экспрэсіі. Еслі будзе калі ваша выстаўка, я б ахвотна ахарактарызаваў вашы абразы з погляду чыста індывідуальнага паводле настрояў, якія даюць мне яны. Мне вельмі жаль, чаму не зрабілі вы партрэціка з насланай фатаграфіі. Вы адказаліся, што не капііст, а ўсё ж такі я верыў, што Вам удасца.

Шкада, што аб гэтым Вы не ўспомнілі ў лісце, бо такім чынам кажаце, казаў бы, на Вас як капііста, ці лепей партрэтыста, лічыць нельга. А ўсё ж такі я хацеў бы мець пробу Вашага партрэтавання.

З Вашымі творамі літаратурнымі я рад быў бы вельмі пазнаёміцца. Дай Божа вам інтэнсіўнай творчасці, а можа быць, з часам і матэрыяльнае становішча дасць Вам магчымасць сказаць сваё адважнае слова Беларусі.

Прашу Вас, калі будзеце што яшчэ прысылаць мне, прысылайце на мой кошт («калічка почтова»), пад бандэроляй няпэўна. Калі будзеце ў Вільні, паведаміце мне ласкава. Я наогул (прызнаюся) цяжкі да карэспандэнцыі — і не тлумачце блага, калі не адпішу я зара.

Найлепшага Вам жадаю.

З пашанай

*К. Сваяк*

## 11. ДА НЕЎСТАНОЎЛЕНАЙ АСОБЫ

*24 студзеня 1926 г., Закапанэ*

Даражэнькі! Сумна, што не магу йшчэ не толькі вярнуцца, але нават Імшы св. адправіць… Пасылаю Вам колькі повідаў з гор. Прыгожа тут вельмі, але свой кут найдаражэйшы. Дзеля гэнай прычыны не мог выбраць Вам, аб чым пісалі, а пасланец не ўмеў…Не кляніся браток, а выдумай што ў сваёй нядолі, каб не дацца злыбядзе. Пісаць да "Крыніцы" я Вам даўно раіў.

Вырабіце сабе пагляд, каб рэлігія з навукай не была ў вайне. А тое, што пішыце Галілею, было крыху іначай….Рэлігія наогул азначае звязь чалавека з Абсалютам (religare = вязаць). Сыстэм рэлігійны наказуе гэту звязь у практыцы. Рэлігію нельга абапёрці толькі на розуме, волі, ці сумленні чалавека: яна сягае цэлай яго істоты. Няма што аб гэтым вясці дыскусыі: трэба сведама перажыць і выясніць … на тым баку. Шкада мне вас шчыра, марнуецесь не могучы даказаць, што і на вёсцы можна астацца інтэлігентным працаўніком. Цяжкія варункі. Нашто вы на Бога складаеце адпаведальнасць за зло і цярпенне? Няўжо Ён не мог бы астацца ў гэтым выпадку Бесправінным!? Пішыце!



# ДАДАТАК

## СУЧАСНІКІ ПРА СВАЯКА

*СУЛІМА*

### «COR ARDENS»

I

Не пішу я для забавы,
Ні для біхтру, ні для славы,
Ні на смех табе, бязверца, —
Пішу я, бо плача сэрца.

Сумна страшна думкі рвуцца,
Ў сіню даль, як рой, нясуцца.
Ў ціхі гай, дзе ўсенька чуе, —
На прыгон, дзе брат гаруе.

Злажыць песню ледзь умею,
Ад тых думкаў аж мадзею,
Сэрца мне агнём палае,
Аж загублена сканае.

Прачытай маю ты «Леру»,
Бо я сам сабе не веру,
Ці пісаць мне, ці стрымацца,
Каб на здзек чартом не дацца?

Вось як сам сябе характарызуе сумна-малаверны, баючыся «здзеку чартоў», паэт.

І трэба прызнаць, характарызуе вельмі ўдачна!

Можна сказаць наагул, што найлепшую ацэнку — у сваёй паэтыцкай свядомасці, у сваёй, так сказаць, душэўнай споведзі — у сваёй паэзіі — заўсёды дае сабе сам паэт.

Паэзія таксама, як рэлігія ці любоў, асвятляе жыццё навокал і ўнутры чалавека — да апошняй глыбіні — святлом абсалютнай праўды, перад якім не могуць схавацца ніводзін цёмны кут, ніводзін фальш, ніводнае самазванства.

Гэтая «паэтычная споведзь» перад самім сабой, можа, яшчэ больш поўна і праўдзіва, чым перад духаўніком ці перад жывым люстрам кахаючых дзявочых вочак, не толькі раскрывае, але і сцаляе душу і ўсю істоту паэта, даючы яму таксама быццам сапраўднае «адпушчэнне грахоў», «адкупленне» і «новае жыццё», чысцейшае і вышэйшае.

Вось дзеля чаго сапраўдныя паэты, у натуры якіх многа гэтай уласнай «адпускаючай грахі», сцаляючай душу *ласкі*, не баяцца ніколі адчыняць у паэтыцкай споведзі — сваю душу да апошніх глыбінь, прызнавацца сабе і паказаць свету найстрашнейшыя хібы і раны сваёй душы. Бо гэтым і толькі гэтым шляхам магчыма для іх «адкупленне» ад тых «чартоў», здзеку якіх гэтак баіцца наш паэт.

Але «адкупляе» паэта з яго грэхапакутнага суму не толькі асабістая драма яго паэтычна-творчай споведзі: кожны сапраўдны паэт носіць у сваёй душы ў той ці іншай меры і душу свайго народа, носіць яго «грахі» і болі, і дзеля таго сапраўды сцаляючай для паэта можа быць яго паэтычная споведзь толькі тады, калі яна ўсенародная.

Бо кожны, каму дадзена паэтычнае слова, жыве не толькі, а можа, і не гэтулькі за сябе і для сябе, як для народа: яго паэтычныя споведзі і «камуніі», у якіх расце і крэпне яго душа, і *другім памагаюць «збіраць» свае душы, разглядацца ў іх, узрашчваць, сцаляць і ўзмацоўваць іх*.

Бо без гэтай дапамогі паэта як душы людзей, так і Душу Народную, патроху і паціху, але не менш жудасна і пэўна, таўчэ і распыляе жыццёвая драбяза, забівае руйнуючы сілы сум, пазбаўляе надзеі і веры пануючы гвалт, уціск і здзек розных аспектаў тых «чартоў», якіх гэтак баіцца малаверны Сваяк.

І вось сапраўды паэт робіцца быццам *праўдзівым святарнікам-капланам* сярод людзей, праз душу і словы якога плыве ў іх душы — з гары ці з долу, а перадусім з нетраў самой усёажыўляючай, ўсё-сцаляючай Боскай Прыроды — нейкі быццам Святы Дух, — сапраўдная цудатворная ласка.

І недарма сучасны дослед псіхалогіі паэтыцкай творчасці *прыраўноўвае лірычную эмоцыю* да *рэлігійнай*, якая таксама, праз малітву, збірае, узмацоўвае і вызваляе душу.

Гэткім чынам мы бачым, што ў сапраўднай гэтак званай «вызваляючай» паэзіі, як наагул у кожным сапраўдным мастацтве, павінны быць заўсёды два гэтыя галоўныя моманты — так сказаць, момант

*«пакуты» і «адпушчэння»*, — у якіх адбіваецца *глыбока-рэлігійны характар паэтычнай творчасці*. Праходзячы праз асабістую драму тварца, гэты асноўны рух захоўвае ў паэтычным слове ўсю дынамічную моц уплыву на іншыя душы.

У кожным сапраўдным творы паэзіі заўсёды павінна быць *праўда жыццёвай рэальнасці* і адпавядаючая ёй сумная, часам жудасная, панявольваючая душу, прыніжаючая яе «пакутай», споведзь; але на гэтым сапраўдная паэзія не можа ніколі затрымацца, бо разам з тым з найглыбейшых крыніц натуры паэта зараз жа насустрач гэтаму суму рэальнасці, гэтаму *«чортаву здзеку»* наплывае ўжо *вызваляючая* душу, паднімаючая яе ўвысь *светлая* хваля нейкай вышэйшай рэальнасці, — як быццам светлае войска анёлаў з песняй спяшыць на ратунак паэту.

Гэтая цудатворная *сіла-ласка*, што сваім радасным рытмам як быццам на сапраўднай хвалі паднімае душу, прабуджаючы ў забітай і паняволенай зямной пакутай душы яе *ўласныя вольныя рытмы* — варунак яе радаснага ўзросту, — і ёсць тое, што *ў паэзіі, а можа, і наагул у мастацтве трэба назваць Музыкай*.

Не цяжка зразумець, што можа быць не толькі музыка тонаў, слоў, але і музыка ліній, формаў і фарбаў.

Як бачым, кожнае праўдзівае мастацтва мае, так сказаць, дынамічны характар. Толькі гэтым тлумачыцца *сіла яго ўплыву на душы.*

Цяпер ужо агульнапрызнана, што без гэтай «сілы», без гэтай *музыкі* — у гэтым раскрытым намі значэнні слова — не можа быць сапраўднай, так сказаць, *суцэльнай* паэзіі.

Той ці іншы верш можа быць вельмі лоўка зроблены, можа быць вельмі трафны, як абраз жыцця, як апісанне таго ці іншага псіхалагічнага з’явішча, можа быць нават шчыра «выцерпены», даючы дакладны — жудасна-балючы — абраз сапраўднага цярпення. Але без уласнага вызваляючага творчага рытму парадзіўшае гэны твор сілы, без яе індывідуальнай, радасна-трыумфуючай над абразамі жыцця душэўнай стыхіі, жывой душы паэта, без гэтай, каротка кажучы, астаўшайся ад яе творчага акту ў вершы Музыкі гэты верш не будзе суцэльнай паэзіяй. Бо ён перад усім *не будзе мець сілы*, і дзеля таго нічога *не зменіць* на свеце, не парушыць душаў, не падніме нікога ўвысь, не падойме і не зніме ні з кога ніякага цяжару.

Коратка кажучы, ён не зробіць у душэўным свеце ніякай, як кажуць фізікі, *работы*, бо, паўтараем, гэта можа рабіць толькі тая ці іншая *сіла*, той ці іншы аспект *энергіі*.

Гэткая «паэзія» будзе сапраўды быццам «споведзь без адпушчэння» і без «камуніі», пакута без адкуплення, — будзе толькі *страшыць і руйнаваць душу безвыходным сумам* — адчаем…

Сум, туга, жуда, якія плывуць у нашу жывую свядомасць звонку ці знутры нашае душы, *зусім рэальна звужаюць і руйнуюць* нашае «я», калі

яно не мае на гэтых «ворагаў» і «шкоднікаў» моцнай і трывалай апоры ў тэй ці іншай *«сістэме арганізаванага аптымізму»*, які павінен быць індывідуальна (маральна) і калектыўна (нацыянальна) абаснаваны…

Асабліва ў паэта гэты аптымізм павінен быць, як ясна з вышэйшага, *перадусім натуральна-першародным, рэлігійна-біялагічным*, мець жывую непарваную сувязь з жывымі творчымі крыніцамі Прыроды. Толькі тады ў яго паэзіі будзе тая цудатворная сіла, што мы назвалі Музыкай.

Толькі такі паэт не давядзе другіх, бо не дойдзе сам, — да адчаю, безнадзейнасці і бязвер’я.

Найярчэйшы прыклад гэткага «паэта без музыкі» дае нам вядомы расейскі пісьменнік Андрэеў, які ад страхаў жыцця дайшоў да апошніх рубяжоў адчаю, да «чорных правалаў» «Апошняга Нішто».

Найвышэйшым выражэннем гэтай усюды разлітай у Боскай Прыродзе Музыкі, гэтага як быццам Бога-Айца ў сусвеце, — у чалавечым свеце з’яўляецца Любоў, якая у Евангеллі нават проста названа Богам.

Дзеля таго зусім ясна, што Любоў, якой павінна быць пранікнута кожная сапраўдная паэзія, павінна якраз перадусім радзіцца ад гэнай Сусветнай Музыкі — вольна і радасна, у святарным натхненні, як Сын родзіцца ад Айца. Толькі тады *і ад гэтага Сына* ў паэзіі, як і ад Айца ў Прыродзе, будзе выходзіць сапраўдны жыва- і цудатворны Дух… Толькі тады гэтае «Слова» паэзіі будзе папраўдзе Духам і Любоўю…

І наадварот, калі гэтае Слова ў паэта адарвецца ад свайго Бога-Айца, страціць пачатна-біялагічную моц і рытм гэтай сусветнай Музыкі, дык адразу траціць і ўсю сваю сілу…

І не спасе тады і не дапаможа ніхто і нішто на свеце: споведзь «жраца паэзіі» адразу траціць усю сваю «благодать священства», якія б рэлігійныя словы і абразы ён ні паўтараў, — хаця б паэт быў нават сам сапраўдным капланам з прафесіі…

«Ці гэткі суровы прысуд ужо спаткаў нашага паэта?» — запытаецца чытач.

На гэта трэба шчыра адказаць: пакуль што — не! Але пагроза гэткага лёсу над ім вісіць зусім выразная…

Трэба перадусім сцвердзіць, што галоўнай рысай творчасці Сваяка з’яўляецца якраз *адсутнасць раўнавагі* паміж сумам «пакуты» і радасцю музыкальнага «адпушчэння».

У паэзіі Сваяка перадусім мала гэтай першатворнай — «анталагічнай» Музыкі…

Вось дзеля чаго ў яго «*сумна страшна* думкі рвуцца»…

Паэт мае ў сабе мала радасна-творчай моцы, мала адраджаючай, сцаляючай ад атручваючага суму сілы, і дзеля таго ён сам прызнаецца: «ад тых думкаў *аж мадзею*»…

Дзеля таго паэта зусім *рэальна забівае* гэты бяссільны, пасіўны сум.

Сэрца мне агнём палае,
аж *загублена сканае*! —

кажа ён сам у «Прадмове»…

Але, як пабачым далей, «загублена сканае» ў гэтым сумна-палаючым, цёмным агні нават *хрысціянска-рэлігійная сіла яго душы — яго вера*…

Спачатку паэт «сам сабе не верыць», але пасля з гэтага паэтыцкага саманедавер'я даходзіць амаль не да таго самага «бязвер'я», якое ў «Прадмове» асуджае ў другіх…

І ўсё гэта — толькі простыя вынікі таго, што ў паэтыцкіх імшах Сваяка *помала арганаў, спеву*, — мала Музыкі..

«Ці пісаць мне — ці стрымацца»? — малаверна пытаецца паэт.

На гэта мы павінны адказаць лішне скромнаму паэту станоўчым заклікам: Пісаць!

Бо пакуль яшчэ сэрца, у якім шчыра палае агонь сапраўднай, хаця і беднай Музыкай, Любві да свайго яшчэ вонках забітага, але неяк ужо пазбаўляючагася адвечнага суму і страху, народа, пакуль гэтае сэрца яшчэ не сканала, але жыве, яно, відаць, мае даволі гаручага матэрыялу, каб не толькі асвятляць *вышэйшым нябесным* святлом жыццё і душу нашага народа, але трохі і саграваць яго зямным агнём…

На гэтую надзею дае права тое, што *ўжо ёсць* у першай кніжцы паэта, тое, што гэтае cor ardens дало нам у сваёй «Ліры».

Да пабежнага агляду ўсяго багацця гэтай сумнай, беднай Музыкай «Ліры» Сваяка мы і вернемся наступным разам.

## II

З усяго таго, што сказана намі аб асноўнай рысе натуры паэта, зусім бясспрэчна выцякае яго *цераз меру павялічаная*, ці *ўзвышаная, духовасць*, — наагул, шкодная для паэзіі з чыста мастацкага боку.

Сапраўдны пафас паэзіі Сваяка — рэлігійны, але не ў нашым значэнні гэтага слова, — не ў пачуцці моцнай арганічнай *біялагічнай сувязі* з Прыродай і Сусветам, але якраз наадварот: у сталым пачуцці страху і пагрозы *разрыву* гэтай сувязі.

На помач проці гэтага разрыву ці да яго аблягчэння паэт заўсёды і кліча Бога.

Яго «Ліра» — сапраўдны малітвеннік да гэтага Бога, якога відзіць ён тым ярчэй і чуе тым мацней, чым сам сябе пачувае ад Яго далейшым.

Самапачуццё Сваяка — сапраўдна-*хрысціянскае*.

Гэта — тое самае Бога-, света-, народа-, самапачуццё, якое найляпей выражана ў знамянітай формуле: «веру, Божа, але… памажы майму нявер'ю»… Гэтае светапачуццё амаль не роўна адчувае, як сілу і ласку Божую, таксама і моц «здзеку чартоў».

Першы аддзел «Ліры» якраз і ахвяраваны *пачуццю Бога*, — гэтаму *галоўнаму пафасу паэта*.

Вельмі характэрны ў гэтым сэнсе верш «Ad Te levavi»:

Ўзнашу я вочы ў неба да Бога
І як служэбнік на Яго ўзіраю:
Ён абароніць мяне ад благога,
Бо міласэрдзя ад Яго чакаю.

О Божа, Божа, спашлі змілаванне
Над Тваім людам, што поўны нядолі,
Бо ўжо ж ён просіць даўно змёртвыхстання[1]
Каб выйсці з грэху і крыўды няволі.

Чужынец люд Твой аддаў на спакусу,
Каб з яго сэрца выгнаць цябе, Божа.
Хай кроў бязвінных, да грэху прымусы
Пабудзяць гнеў Твой на народ варожы.

Збудзі, о Божа, люд Твой паднявольны
На труд свабодны, на ласку спакою,
Узглянь на ягоны лёс цяжкі-мазольны,
На хлеб, мяшаны з горкаю слязою.

Устань, о Божа, — зорам сваёй моцы
Сакруш нячыстых працу рук паганых,
Абагаслаў свой бедны люд рабочы,
Як маці кволых дзетак мілаваных.

Вельмі характэрна ў гэтым вершы гэтае адыходзячае ў мінуўшчыну пачуццё ўласнага бяссілля нашага народа «паднявольнага», «кволага», быццам засуджанага на доўгі век на «горкія слёзы» бяссілля перад «варожым народам», якога ён сам быццам не мае сілаў «сакрушыць нячыстую працу рук паганых»…

У кожным разе трэба сказаць далікатна, што хараство гэтага верша так сказаць «дарэвалюцыйнае», бо пасля рэвалюцыі казаць народнаму песняру аб тым, што народ «даўно *просіць* змёртвыхстання» — неяк анахранічна…

Дзве «Песні на псалмы» — 130 і 62 — таксама вельмі характэрны для паэта — «служэбніка» Бога.

Паэт проста кажа нам, дзе ён *шукае* таго, чаго мала *чуе ў сябе* ўнутры, бо — гэтага Бога ў Прыродзе.

Ледзь толькі блісне на небе зарніца,
Дух мой, о Божа, на Цябе чакае,
Душа жадае, як дожджу травіца,
І цела з стогнам да Цябе ўздыхае.

Ў сухой зямельцы бязводнай і труднай,
Залітай жагай палуднага сонца,
Цябе шукаю ў дарозе блуднай,
Да Твайго ўлоння сумую бясконца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І бедну душу маю ажыўляе
Поўнасць пастораў гвезднага космасу,
*Цуднай мелодыі голас мой шукае*,
*Каб запяяці гімн Творчаму Лёсу*…

Як бачым, паэт вельмі добра чуе і ведае сілу і значэнне таго, што ён вельмі пекна і сапраўды не па-царкоўнаму, але *па-свойму* называе *«Творчым Лёсам»*, ад якога, як ад сапраўднага Бога-Творца свету, ідзе, пранікаючы ўсю прыроду «голас цуднай мелодыі»…

Але якраз трэба паэту гэтай мелодыі ўсюды ў «прасторах» *шукаць* тады, калі сам ён мае яе ў сабе замала…

У пекным, але таксама заражаным хворай пасіўнасцю вершы «Шчасце» паэт кажа аб тым, чаго каму *трэба даць* да шчасця. Не кажа толькі аб тым, што шчасце — толькі тады сапраўднае шчасце, калі яно не «даецца», але бярэцца і выкоўваецца кожным кавалём сабе ўласнымі сіламі.

Для ўсіх жа людцаў, дзе ёсць іх колькі,
Аднаго трэба на свеце толькі —
Без чаго свет наш — блудна дарога:
Усім для шчасця патрэба Бога.

Так канчае паэт.

Як можна было спадзявацца, тая рэлігійна-«*служэбная*» роля, якую гэты паэт — «служэбнік Бога» адводзіць паэзіі, частаператварае яго рэлігійна-паэтычнае натхненне ў чыста *маральны пафас* ксяндза-казнадзеі. Тады творы паэта робяцца прosту вершаваным казаннем з амбоны. Тыповым прыкладам такога сапраўднага, вельмі мудрага і дабітнага казання з'яўляецца верш «З кнігі мудрасці». Верш складаецца з раду маральных афарызмаў і парадаў… парафіянам!

Няможна адкідаць гэтага роду творчасці, калі ў гэтых парадах свяшчэнніка-маралісты ёсць сапраўды, як гэта мы павінны сцвердзіць у Сваяка, цэнны змест доследу, розуму і пэўнага ідэалізму. Няможна толькі залічыць гэтыя казанні да паэзіі…

Другі, падпарадкаваны першаму і, як мы бачылі, цесна, сапраўды *арганічна* звязаны з першым — рэлігійным пафасам паэзіі Сваяка, з'яўляецца *пафас Бацькаўшчыны*…

Як першаму ахвяраваны першы аддзел кніжкі, так другому — аддзел другі. Можа, правільней было б назваць іх першай і другой

струнамі яго Ліры, бо абедзве гэтыя струны гучаць не толькі кожная ў сваім аддзеле, як у сапраўднай ліры, — а ўва ўсім, што толькі яна ні зайграе.

Гэты II аддзел — найвялікшы ў кніжцы і змяшчае, можа, наймацнейшыя творы паэта. Няможна сказаць толькі, каб у гэтым аддзеле Сваяк быў так арыгінальным, як у першым, бо і сапраўды трудна, можа, пасля Купалы і Коласа, гэтых калосаў нашай паэзіі, якая наагул і перадусім распрацавала з класічнай паўнатой і глыбінёй *матыў паняволенае і імкнучаеся да вызвалення і адраджэння Бацькаўшчыны*, — цяжка пасля іх у галіне гэтага самага матыву сказаць нешта арыгінальнае. І сапраўды ў Сваяка ёсць шмат перапеваў гэтага распрацаванага ў беларускай паэзіі з усіх бакоў матыву.

Можа, гэта тлумачыцца тым, што гэтыя творы пісаліся даўно, а свет убачылі толькі цяпер, а можа — не столькі ўплывам магутных айцоў нашай паэзіі, колькі магутным націскам *не рэалізаванага* яшчэ ў нас — у гэтай Беларусі — адвечнага матыву нашай паэтычнай думкі.

Трэба адзначыць, што, нягледзячы на гэта, Сваяк унёс у апрацоўку «матыву Бацькаўшчыны» арыгінальнасць толькі ў тым сэнсе, што звязаў, як мы сказалі, арганічна гэты матыў з «матывам рэлігійным». Найбольш тыповым у гэтым сэнсе з'яўляецца верш другі II аддзела — «На гадавіны незалежнай Беларусі».

У гэтым вершы паэт паказвае, як ён адчувае драму Беларусі-Бацькаўшчыны *праз прызму Евангельскага абраза* — цярпенняў і смерці Хрыста. Але і тут — тыповая рыса натуры паэта! — перад намі — уся дэтальная паралель цярпенняў, здзекаў, укрыжавання і пахавання Хрыста і Беларусі. Няма толькі паралелі паміж імі ў уваскрасенні!.. — Ёсць адно сумная і малаверная малітва аб гэтым «змертвыхустанню»:

Змілуйся ж, Божа, ты над ёю,
Не дай у гробе век ляжаці,
Пазволь да жыцця ёй устаці:
У гэты час, на трэці дзень.

Пафас Бацькаўшчыны ў Сваяка, можа, арыгінальны яшчэ і тым, што нават у беларускай паэзіі, якая наагул адзначаецца *сумам бяссілля* і *малаверыя*, ён, можа, у гэтым малаверным суме пабіў усе рэкорды.

У вельмі характэрным у гэтым сэнсе вершы «Айчыны мілай» паэт кажа:

Айчыны мілай зор на сабе чую,
Куды ні пайду з *самлелай* душою;
Айчыны слёзнай праклёны лічу я:
Ратунку кліча — «Ратуйце з разбою»!
І над Айчынай, і над сабой плачу,
Што памагчы ёй — я *хворы, бяссільны*;

Што словы горкі надарма я трачу:
*З душ нашых вее холад замагільны.*
*Зор мой дарэмна шукае выбаўцы*:
Не віжу сільных між браці паганай, —
І не чакаю з рук Божага Даўцы
Ужо збаўлення з долі апляванай.
І толькі ў самым бяздонні няверы
Іскра надзеі ў попеле тлее;
Іскра надзеі, што рана без меры
Долі народнай душы разагрэе.
*Іскра бязвольна пажарышчам стане,*
*Аж твар схаваюць нябесныя зоры,*
*І дух народны адважна паўстане:*
*Раўняці будзе даліны і горы.*
Будаваць будзе на зломах Айчыну
Рукой магутнай з агнём Праметэя.
І сам як згіне, дасць тэстамэнт сыну,
Каб не змалела Айчыны ідэя!

Гэты вельмі цікавы і глыбокага зместу верш вельмі ярка паказвае, да чаго ўрэшце даходзяць тыя сумна-пасіўныя, нават падмацаваныя «рэлігійнай верай» настроі, пануючыя ў «біялагічна-малаверных» элементах нашай *Заходняй Беларусі*, якіх тыповым прадстаўніком з'яўляецца Сваяк. Страціўшы ўсякую веру «ў Выбаўцу», «хворыя і бяссільныя», яны, — як прарочыць Сваяк, — сапраўды — на дне свайго «бязвольнага суму», — «у самым бяздонні няверы», як пекна выражаецца Сваяк, — зусім выразна *бачаць ярка апісаны паэтам абраз*.

І вось — вельмі характэрна і важна, што нават у прасякнутым наскрозь маральна-рэлігійным пафасам светапачуцці Сваяка наспявае ўнутраная душэўная рэвалюцыя. І ён пачынае разумець, што спадзявацца «ратунку ад разбою» ці «збаўлення з долі апляванай» ад нейкага вонкавага «выбаўцы», а нават «з рук Божага Даўцы» — няма дастатачных падставаў.

«Каб не змалела Айчыны ідэя», за дзела яе адбудавання павінен устаць і — што б ні было — устане сам народ.

І вось першая сутычка ў душы паэта абодвух светапачуццяў, двух яго галоўных пафасаў: маральна-рэлігійнага і нацыянальнага, — Богапачуцця з народапачуццём — дала зусім выразную перамогу гэтаму другому.

Гэта ж першы і зусім бессумліўны знак таго, што ў рэлігійнай сістэме Сваяка зроблена ў «нябесным плане» нейкая важная, мо *прынцыповая абмылка*, якую цяпер прыходзіцца самаму жыццю ў постаці магутнай «ідэі Айчыны» — папраўляць у «плане зямным», — дый мо нават такімі «спосабамі», што — «аж твар схаваюць нябесныя зоры».

І вось трэба адзначыць, што, можа, сапраўдная арыгінальнасць Сваяка ляжыць не ў тым, што ён сіліцца *памірыць, згарманізаваць* ў сваёй паэзіі новы рэвалюцыйна-нацыянальны змест выклікананага народным жыццём «псіхічнага пафасу» — з старымі, прывычнымі, магутнымі ў яго душы формамі, — бо хто ж не рабіў гэтага праз увесь час «панска-ксяндзоўска-народніцкага перыяду» беларускай літаратуры! — але — якраз наадварот: яго сапраўдная арыгінальнасць і вельмі паказальная адзнака часу — у тым, што — у бессумліўнай паэтычнай чэснасці і шчырасці чалавечай душы песняра-патрыёта раскрыта для ўсіх у яго паэзіі *барацьба* абодвух светапоглядаў і светапачуццяў, — і ў гэтай барацьбе *кампраметуюцца старыя формы, старая маральна-бюракратычная сістэма*, а трыумфуе «Жыццё», — трыумфуе «Айчыны ідэя»!..

З вельмі павучальнага і цікавага з’явішча гэтай барацьбы выцякае мо найвялікшай важнасці *цэнтральная для нашых часоў праблема сапраўднага ўзгаднення і аб’яднання ў адзінай праўдзівай Рэлігіі ўсяго жывога і непераможнага зместу чалавечага і народнага жыцця*!..

І вось над гэтай праблемай б’ецца з вялікай шчырасцю і наш Сваяк, і ў гэтай *паэтыцкай шчырасці*, у гэтай яго бясстрашнасці перад праўдай — вялікая яго заслуга і вялікі павучальны змест яго паэзіі.

Гляньце ж з гэтага пункту гледжання на рад вершаў Сваяка ў гэтым II аддзеле: вы сапраўды заўважыце нейкі чарод, нейкі рытм і пульс барацьбы ці змагання гэтых двух «ворагаў», «антаганістаў» (супраціўнікаў) у яго душы. Адзін верш, адзін голас у ім дае перамогу — «Богу» і цэламу стройнаму традыцыйнаму светапогляду, у якім на першым месцы ў радзе «маральна-царкоўных» запаведзяў стаіць — пакора, цярплівасць, малітва, вера і надзея на вонкавага «выбаўцу» і «Даўцу», любоў да ворагаў — на Усходзе і на Захадзе… Другі голас, другі рад вершаў кажа зусім інакш — нешта зусім адваротнае…

І гэтыя вершы як быццам зусім правільна чарадуюцца ў гэтым II аддзеле кніжкі Сваяка.

Сапраўды — возьмем прыклад. У вершы «Божа, зжалься» нацыянальная Муза паэта вядзе дыялог з Богам, заклікаючы Яго: «зжаліцца» над беларусам, якога яна ж сама… падбурае «ўзяць свой лёс у свае рукі»! А што гэтае апошняе азначае ў Сваяка, мы ўжо ведаем. Гэты голас Музы Рэвалюцыі, якая моліцца ў душы паэта аб тым, каб Бог, так сказаць, *напярод даў яе народу адпушчэнне за ўсё, што народ будзе змушаны зрабіць у блізкай ужо прышласці*, — вельмі характэрны для «зрэвалюцыянізаванага» хрысціянства паэта.

Але яго Муза ўсё ж *яшчэ моліцца тут Богу*…

У наступным вершы — «Загляне сонца» настрой зусім іншы. У ім перадусім абвяшчаецца *вайна як Захаду, таксама і Усходу*, з якіх «груганы» і «крукі» аднолькава «шукалі дармовага жыру» на Беларусі, хацелі, «каб з душой мы прапалі». «Боскім» аб’яўляецца тут — зусім у духу «новага хрысціянства» — толькі «працы натхненне»!.. Выслаўляецца народны «саматуг», «бляску сонца», паўстанне со

сну да жыцця, «песні радасці». Асуджаецца як найвялікшы грэх гэты векавы сон народа, гэтая *цярплівасць у няволі*…

Аб «Богу» тут гаворыцца толькі, што… «*мо з Яго волі* (народная) кроў зрасіла (беларускую) зямліцу»…

Мы бачым у гэтым — як быццам сапраўды нейкі рытм жывога змагання ідэяў і пачуццяў у душы паэта. Перамагаюць то адны, то другія…

У вершы «Ой, на Русь ды Белу» — даецца страшны і жудасны абраз сучаснай Беларусі, — з наляцеўшымі на яе стаямі-хмарамі груганоў…

Зашумелі пушчы, застагналі нівы
Ад тэй гругановай-пякельнай спажывы…
А во — страпянуўся род той гругановы. —
Быў здалёку чутны гоман нейкі новы.
Дзівам здзівавалісь няпрошаны госці,
*Бо з зямлі паўсталі беларусаў косці…*
Ой вы летуценні, ой мае ж вы мары!..
Каб усталі косці, непатрэбны чары:
*Слязой палівайце вы родную ніву,*
Трудом церабіце вы бор гутарлівы,
Аж пачуйце голас з касцей айцоў вашых —
*Груганоў ён спудзіць маскоўскіх і ляшых…*
Дасць Бог калісь будзе люд народу братам,
А русняк маскоўцу да лехіткі сватам…

Ізноў — характэрна — устарэўшы сінтэз абодвух папярэдніх проціележных ці супярэчных галасоў, — «рэлігійнага тэзісу» і «рэвалюцыйнага антытэзісу». — Моцны, праўдзівы абраз пануючага зла — нейкага «панства, груганоў» на Беларусі — зусім бяссільны «рэцэпт» барацьбы з гэтым злом — «паліванне слязой роднай нівы»… Але трэба справядліва адзначыць і ў гэтым вершы ўжо сапраўды *сінтэтычны метад змагання*, які дае Сваяк. Гэты метад стаўся ўжо агульнапрызнаным і сапраўды ўжо трыумфуючым на ўсёй Беларусі *метадам перамогі і вызвалення*: гэта *«голас з касцей айцоў нашых»*… гэта Адраджэнне роднай Мінуўшчыны побач з барацьбой за рэальную нацыянальную Сучаснасць і летуценнем аб далёкай светлай Будучыні.

Таксама другая пара ці нават тройка вершаў, аналагічная першай, складаецца з твораў «О, край мой родны», «Гэй, будуйце» і «На крыллях». У першым Беларусь рысуецца ў вобразе памёршай з гора і з голаду дзяўчынкі… Беларусь — «краіна гора, без долі, без волі». Канаючы, дзяўчынка наказала паэту «не траціць надзеі дзе і ніколі» і *«на крыж сумна паказала»*. Значыць — цярпі і маліся, народзе Беларускі?! Гэтак кажа *адна душа* паэта — старая, «рэлігійная»… Так кажа «тэзіс». Але «антытэзіс» кажа зусім інакш, бо паслухайце ж самі:

«Гэй, будуйце»! — кажа гэты другі голас, —

Няма праўцы як схаваці —
Ўсё пайшло цяпер інакш:
Пан пакінуў гультаваці,
А між намі меней плакс…

Даўней толькі наракалі,
Толькі чухалі галоў —
Ныне плакаць перасталі, —
Усё вернуць стрымгалоў…

Аўтар далей рысуе абраз новага — працоўнага, актыўна-радаснага жыцця, лішне мо нават некрытычна аптымістычны ў сучасных варунках нашага заходнебеларускага быту:

Гэй, будуйце ж, мае людцы,
Жыццё новае наўкруг,
Нават сонкі хай прачнуцца —
*Хто не вораг — будзе друг!..*

Мы бачым, як бадзёрая струя жыцця дадае нават сапраўднага *музыкальнага рытму словам Сваяка*.

Гэтая перамога зла — метадам ператварэння яго дысцыплінаванай навукай, ажыўленай калектыўнай, усенароднай радасцю, *працай над сваім полем*, гэтае ператварэнне панскіх *«двароў у школы»*, аб якіх ужо сапраўды пяе ў гэтай песні вольнай працы Сваяк, увесь гэты пекны абраз перараблення «няворагаў да другаў» — дык ці ж магчыма ў нас у Заходняй Беларусі?!.

«Хто не вораг — будзе друг…»

А што ж рабіць *з ворагамі*? Аб гэтым паэт ужо казаў раней… У гэтым вершы гэтае «раўненне далін і гораў» ужо скончана, народ спакойна і вясёла «школы робіць з двароў»…

Як бачым, у гэтым вершы «сінтэз» аднесены… да Заходняй Беларусі!

Трэцяя тройка таксама пачынаецца «малітвай»: «Пашлі мне, Божа», пасля якой ідзе сапраўды шайтанская «песня да гарэлкі», у якой топіцца гэты праклятага і блудны «метад» барацьбы са злом, гэткі пашыраны на Беларусі.

Гэтая «чарачка» патрэбна беларусу дзеля таго, каб

Не глядзеці, як брат родны
        Душу прадае.
Пазабыўшы шлях свабодны
        І песні свае…
…Забыці родную
        Сваю старану…
Перад Богам каб упасці,

Яго умаліць —
Або вечна запрапасці,
Бо душа баліць…

Гэтай гарэлкай Сваяк заклікае лепей:

Прагавіту каб скаваці
Чужынца руку,
Зеллем розум счараваці
Яму — павуку!

Рэвалюцыйны гук тут чуецца нават у самым зменным рытме гэтай «чартоўскай песні» — у гэтым «гімне чарцы гарэлкі»…

II аддзел кніжкі канчаецца сапраўды суб'ектыўна-сінтэтычным вершам — «Чары Айчыны», у якім пясняр расказвае нам, як ён *вылечыўся ад хваробы і «маны бязверы» — «чарамі Айчыны», «лекам яе красы» — любоўю да роднае зямелькі.*

I ад гэтага часу, кажа ён, —

…А цяпер я ўжо здаровы
Жыву-прыпяваю;
Шчэбет птушак, шум дубровы
Гэты цуд спраўляе.

Гэй ты, родная старонка,
Гэй, краёчак мілы,
Хваліць буду цябе звонка
Да самай магілы!

Ты цярпенне душы гоіш
І знямогу цела,
Жыццё творыш, песні роіш;
Вучыш жыць умела!

Як бачым, «Айчыны ідэя» перамагла магільны холад душы паэта, вылечыла яго і фізічна, і духова ад яго перанятай ад айцоў хваробы — «блудна-пасіўнай» рэлігіі, збудзіўшы нават у яго творчай душы застыгшыя, замораныя ў ёй *жывыя рытмы*, — удыхнула ў Ліру паэта нават *неставаўшую ёй Музыку*…

З вельмі павучальнага і цікавага з'явішча гэтай барацьбы выцякае мо найвялікшай важнасці *цэнтральная для нашых часоў праблема сапраўднага ўзгаднення і аб'яднання ў адзінай праўдзівай Рэлігіі ўсяго жывога і непераможнага зместу чалавечага і народнага жыцця*!..

І вось над гэтай праблемай б'ецца з вялікай шчырасцю і наш Сваяк, і ў гэтай паэтыцкай шчырасці, у гэтай яго бясстрашнасці перад праўдай — вялікая яго заслуга і вялікі павучальны змест яго паэзіі.

## III

Трэці аддзел «Ліры» Сваяка ахвяраваны вельмі драматычнай барацьбе ў яго душы «Эраса Нябеснага» з Эрасам зямным.

Паэт — «служэбнік Бога» — з вялікім болем *адмаўляецца* ад зямнога кахання, ад «чараў дзяўчыны». Але гэтая адмова — з страху перад «карай Бога і людзей» — вельмі дорага абходзіцца паэту… І ўвесь чацвёрты аддзел — у цэлым радзе вельмі моцных вершаў — рысуе нам тое *сапраўдна-несмяротнае* жыццё, якое вядзе Сваяк *пасля гэтай адмовы ад жывое Любві да Зямлі — ў яе найпякнейшым тварэнні…*

Павольнае, жудаснае *ўміранне* — вось лёс, які сам выбраў сабе Сваяк, адмовіўшыся ад жывога Харастваа Зямлі.

Вельмі цікава, што — у сваёй вялікай шчырасці паэта — Сваяк не ўкрывае, што ў гэтым жудасным кананні яму *не памагае нават тое самае Неба, дзеля якога ён адрокся ад Зямлі…*

Якраз наадварот: гэтае Неба тады *і адвярнулася ад яго зусім, калі ён здрадзіў Зямлю…* — Душа яго змадзела дарэшты. — «Узлёт яе да Неба быццам хто скаваў»… «Мадзее і вера, і агонь і любоў»… «Малюся да Бога, хоць Ён тут бяссільны»… «Згубіў я здароўе і волю і мэту»… — Адно асталася: «спачыць у магіле»… Так скардзіцца бяссільны, малаверны, сам сябе пакрыўдзіўшы, Сваяк…

> Адзін быў заўсёды — было мне нявольна
> Пазнаці любові ціхога дзіцяці…

Так ён сам высвятляе сабе і людзям прычыну сваёй пагібелі.

Аддзел пяты — мешаніна розных твораў: арыгінальных і перакладаў. Гэты аддзел не дае аканчальнага сінтэзу, ані выхаду з душэўнай драмы Сваяка, чыста сярэднявечнай драмы — знамянітага некалі «спору Неба і Зямлі», — «спрэчкі душы з целам»…

Тут ёсць асобныя элементы сінтэзу і выхаду з блуднага і манлівага «Сярэднявечча» — праз рэвалюцыйны «Рэнесанс», у *Новую Гісторыю, у Новае Жыццё* — праз *Працу…* Ёсць асобны штрыхі светлага абраза Будучыні. Але далейшай яснай дарогі самога паэта ў кніжцы яго няма.

Паэзія Сваяка — вельмі характэрная праява нашага заходнебеларускага жыцця, пастаўленага паміж польска-каталіцкім «Сярэднявеччам» і магутнымі ўплывамі ўсходнерасейскага «Рэнесансу». Спроба даць нейкі сінтэз абодвух гэтых смяротна-варожых светапоглядаў — аказалася невыканальнай. Ці гэта — дзеля сутнасці праблемы, ці — дзеля слабасці сілаў Сваяка, мы аб гэтым тутака казаць не будзем.

У кожным разе трэба прызнаць вялікую шчырасць паэта ў драматычных перажываннях тэй барацьбы, якая адбываецца ў яго душы паміж гэтымі — Захадам і Усходам… Сонца!

*1924*

*Антон НАВІНА*[1]

# КАЗІМІР СВАЯК

Звычайны для беларускіх народных інтэлігентаў цярністы жыццёвы шлях закончыў Ён звычайнай жа для іх смерцю — ад сухотаў.

Так яно ў нас вядзецца заўсёды: дзіця, узгадаванае ў курнай мужыцкай хаце, ад першага дня жыцця свайго спазнаўшае, што такое голад і холад, аддаўшае ўсе сілы свайго кволага цела на працу *мыслі*, — не мела ўжо патрэбнае адпорнае сілы на тую страшную хваробу, якая штодня збірае багатае жніва спасярод працоўнае беднаты… І наш пясняр, уваходзячы ў самастойнае жыццё, увайшоў у яго ўжо заражаны хваробай, якая скасіла цэлы доўгі рад найлепшых працаўнікоў і барацьбітоў за адраджэнне і вызваленне Беларусі.

Кс. Стэповіч, яшчэ дзецюком быўшы, вельмі горача і балюча адчуваў сваёй незвычайна чуткай душой вялікую *драму працоўных*. Лішне добра прыгледзеўся ён з малых гадоў да ўсіх нягод і здзекаў, якія церпіць сялянская маса — тут, у Беларусі. Прыгледзеўся і да мук мястовага работніка, бачыў, як у велізарнай сталіцы царскае Расеі — Пецярбурзе — з мазаля работнікаў тварылася і расло ўсялякае багацце, як працу беднаты пажыралі дармаеды. І ўсё гэтае запісваў у сваім штодзённіку, і на ўсё гэтае шукаў рады-леку.

Узгадаваны ў каталіцкім духу, сам прадстаўнік каталіцкае царквы, кс. Стэповіч ува ўсім гэтым павінен быў бачыць *«Найвышэйшую Волю»*. Але тая рэлігія, у якой ён шукаў адказу на ўсе жыццёвыя пытанні, загадвала яму верыць, што гэтая «Найвышэйшая Воля» разам з тым з'яўляецца і *«Найвышэйшай Справядлівасцю»*. Тым часам жыццё яму на кожным кроку паказвала, што не справядлівасць, а *сіла дужэйшага* пануе над светам і дыктуе яму свае законы. Шчыры беларус, гарачы адраджэнец, — кс. Стэповіч бачыў, што народ беларускі пакутуе ў падвойнай няволі: і сацыяльнай, і нацыянальнай — духовай, а віны гэтага паняволенага народа, якая апраўдала бы «Найвышэйшую Справядлівасць», ніяк знайсці не мог. Дык падобна да таго, як некалі беларускі рэвалюцыянер-паўстанец Кастусь Каліноўскі, і наш Сваяк утраціў веру ў гэную «Найвышэйшую Справядлівасць», якая не хоча ці не можа скрышыць перунамі свайго гневу ўсю крыўду і ўсё злое на свеце…

Для каталіцкага ксяндза — гэта ж вялікая трагедыя. І тым больш вялікая, што ён нават не мог ні з кім з сваіх таварышаў дзяліцца сваімі думкамі аб гэтым, што наагул хацеў шчыра верыць у Моц і Справядлівасць Бога! Можа, гэта і пабуджала яго шукаць выхаду для сваіх думак у паэзіі, дзе — пад мянушкай Казіміра Сваяка — толькі і мог шчыра боль душы сваёй выказаць.

Праглядаючы томік яго вершаў *«Мая ліра»*, выданы Беларускім Выдавецкім Таварыствам у 1924 годзе ў Вільні, мы і бачым усюды

*крык роспачы* «душы збалелай, з мук ашалелай», бачым страшэнную духовую драму паэта-ксяндза, утраціўшага веру ў «Найвышэйшую Справядлівасць». Сваяк незвычайна балюча адчувае гора і няволю беларускага працоўнага народа, усёй душой любіць сваю Бацькаўшчыну-Беларусь, сумуе, што слабыя сілы яго не даюць яму магчымасці стануць у рады актыўных барацьбітоў за вызваленне яе, бо *«з рук божага Даўцы» ён ужо не чакае «збаўлення з долі апляванай»*, бо «збаўленне» гэтае вымагае — *барацьбы*!

І толькі ў самым бяздонні няверы
Іскра надзеі ў попеле тлее:
Іскра надзеі, што рана без меры
Долі народнай душы разагрэе.

Іскра надзеі пажарышчам стане,
Аж твар схаваюць нябесныя зоры,
І дух народны адважна паўстане;
Раўняці будзе даліны і горы!

Сваяк вачыма душы шукае «сільных між браці паганай» і верыць, што вось нарасце пакаленне, якое

Будаваць будзе на зломах Айчыну
Рукой магутнай з агнём Праметэя,
А сам, як згіне, дасць тэстамэнт сыну,
Каб не змалела Айчыны ідэя…

Як маглі змясціцца такія думкі і імкненні пад чорнай ксяндзоўскай сутанай?! Вось у гэтым і трагедыя Сваяка, якая пэўне ж не ў меншай меры, чым сухоты, нішчыла яго кволы арганізм. Душна і цесна было яму ў тых путах, якімі скаваў яго духоўны стан. А разарваць гэтыя путы не было ўжо сілы: ані фізічнай, бо цела ўсцяж слабела, ані духовай, бо патрэба верыць, вытвараная ў ім усенькім *узгадаваннем*, не дазваляла яму адкінуць тое, што фактычна ў ім замерла. Дык цяжкім сумам і адчаем вее ад усёй паэзіі Сваяка. І адзінай аддушынай, адзінай пацехай у ягоным жыцці, поўным трагізму, была тая новая вера, якая патроху пачала замяняць Сваяку старую веру ў Бога: гэта — *вера ў свой народ*. І ў сваім «Тэстамэнце» Сваяк адказуе гэту веру і прыяцелям сваім, а ворагам народу кажа:

А тым, што як вужак асліняць нас ядліва
То жартам панскім, то замовай агідлівай,
Скажу, што будзе час, калі, прытоптаны нагой,
Вы скажаце: «Вось, Беларусь пайшла, аднак, гарой!»

Творчасць Сваяка не абмежавалася адно гэтым зборнікам. Паэт наш пісаў усцяж, друкуючы свае новыя творы ў беларускіх часопісах.

Пакінуў ён і свой дняўнік, які мае вялікую цану дзеля пазнання гэтае вялікае, але надломанае неадпаведнымі варункамі жыцця і пераэжытай трагедыяй Душы. Трэба спадзявацца, што ўся літаратурная спадчына па ім будзе рупліва сабрана і аддадзена грамадзянству — у друкаванай форме.

Глыбокія думкі, шчырыя перажыванні, вылітыя ў вершах Сваяка, зусім акупяць іх тэхнічныя нястачы і шмат каго прымусяць глыбей і паважней унікнуць у жыццё, у яго законы і сілы, кіруючыя ім.

*1926*

*СВЕТАЗАР*

## К. СВАЯК ЯК ПАЭТ РЭЛІГІЙНЫ

*(Адказ п. А. Навіне)*

Цябе я прагну, Божа мой, навекі.

***К. Сваяк***

Калі ў леташнім годзе мы на шпальтах нашага часопіса змяшчалі крытычны нарыс аб зборніку вершаў с. п. К. Сваяка (ксяндза К. Стэповіча) пад назовам «Мая ліра», дык хоць і ведалі аб яго цяжкой хваробе, але ніколі ж не спадзяваліся гэтак хуткага канца!..

Вось жа цяпер, калі ўжо прагудзелі хаўтурныя званы і свежы дзірван залёг магілку песняра, надта ж добра было б, не здавольваючыся павярхоўнымі некралогамі, — зрабіць усебаковую і бесстаронную ацэнку ягонае літаратурнае дзейнасці, даць суцэльны малюнак сапраўднага духоўнага аблічча с. п. К. Сваяка, складаючы гэную працу, як трывалую надгробную кветку на яго перадчаснай магіле.

На жаль, пакуль што яшчэ няма магчымасці зрабіць гэткай ацэнкі, а гэта дзеля таго, што вялікшая частка ягоных твораў дагэтуль яшчэ не надрукавана і бадзяецца ў рукапісах, тыя ж, што друкаваліся, як: 1) Зборнік вершаў п. н. «Мая ліра», 2) «Янка Канцавы» — драма ў 5 акт. і 3) Кніжка да набажэнства п. н. «Голас душы» — былі ўжо абгавораны на шпальтах прэсы.

Дык сапраўды іншая прычына прымусіла нас узяцца ізноў за пяро, каб пісаць аб К. Сваяку. Справа ў тым, што вядомы беларускі публіцысты і крытык А. Навіна, забыўшыся на старое прыслоўе «De mortuis aut bene, aut nihil», не мог устрымацца, каб не злажыць і свае «чырвонае кветкі» на гробе песняра, змяшчаючы з гэнай мэтай у № 9 «Беларускае Справы» фельетон п. н. «Казімір Сваяк», у якім, з характэрным для сябе нагінаннем усяго разнаколернага і шматлікага ў сваіх праявах жыцця да дактрыны навучнага марксізму, — ён робіць з с. п. К. Сваяка нейкага бальшавіка-атэіста!!!

Вось жа мы і хацелі б тут выступіць у абароне нябожчыка.

Перш-наперш мы запытаемся А. Навіну, чаму гэта ён свой закід бязверра, ад якога пэўне зварушыліся косці нябожчыка-песняра, абапёрты амаль што не выключна на адным толькі вершыку п. н. «Айчыны мілай…» — робіць толькі цяпер, калі памёршы паэт не можа бараніцца, а маўчаў тады, калі была найлепшая аказія для гэтага, ласне ў момант выхаду «Ліры»?!

А цяпер прыгледзімся да самых закідаў А. Н., або лепш — вывадаў.

Вось жа сутнасць іх больш-менш зводзіцца да гэткае формулы: К. Сваяк як сын вёскі бачыць добра «драму працоўных», а такжа панаванне «сілы дужэйшага» на свеце і няволю сваёй Бацькаўшчыны і ў рэзультаце губіць веру ў Бога, які паводле хрысціянскае рэлігіі з'яўляецца Найвышэйшай Воляй і Справядлівасцяй, а чаго ён не мог пагадзіць з прыведзенымі вышэй сацыяльнымі дый нацыянальна-дзяржаўнымі фактарамі.

Галоўны націск п. Навіна кладзе на верш п. н. «Айчыны мілай…» (с. 24), на каторым апірае, як ужо гэта мы раз успаміналі, усе свае довады.

Вось жа ў гэным вершы паэт, знаходзячыся, відаць у той момант у стане духоўнае дэпрэсіі, здараючайся і здароваму чалавеку, а тым больш зразумелай у чалавека смяротна хворага, кажа між іншым, што:

Зор мой дарэмна шукае выбаўцы,
Не віджу сільных між браці паганай, —
І не чакаю з рук Божага Даўцы
Ужо збаўлення з долі апляванай.
І толькі ў самым бяздонні няверы
Іскра надзеі ў попеле тлее…

што

…Дух народны адважна паўстане:
Раўняці будзе даліны і горы…

каб пасля «рукой магутнай» «будаваць… на зломах Айчыну».

Вось жа ў вершы гэным, з'яўляючымся творам мімалётнага настрою, чаго доказам — выдатна рэлігійны змест усяго зборніка, — словы «ў самым бяздонні няверы» трэ разумець не як няверу ў Бога, а толькі як няверу ў помач Божую ў справе вызвалення Беларусі, што выразна вынікае са зместу папярэдніх строф верша: «І не чакаю з рук Божага Даўцы / Ужо збаўлення з долі апляванай»; збаўлення каго? — народа беларускага!

Трэба памятаць, што моманты сумніваў (між іншым і рэлігійных), спрацціваў супроць волі Божай і г. д. трапляюцца чалавеку. Песняры народаў паняволеных (напрыклад, польскага) надта ж часта адчувалі

нейкую горыч, уразу да Бога за тое, што Ён церпіць няволю іх айчыны і не памагае ў яе вызваленні, і выказвалі гэткі свой настрой у шмат якіх вершах, але ж нікому і ў голаў не прыходзіла рабіць з іх атэістаў!

Нат касцёл не лічыць гэткіх сумніваў грахоўнымі (за выняткам — трывалых) і толькі жадае, каб веруючы не паддаваўся гэным хвілінам духовае прастрацыі і песімізму.

Сам Міцкевіч, выдатны рэлігійны і каталіцкі пясняр, у момантце патрыятычнага адчаю кажа ў сваёй імправізацыі з III часткі «Дзядоў», што не ведае, ці Бог ёсць «Ojcem świata, czy też… Carem?», а гэткіх прыкладаў можна прывесці шмат.

Прыведзены верш кс. Сваяка тым больш не можа быць браны пад увагу пры доследах над ягоным светаглядам, што ў іншым вершы п. н. «Чаму мне маркотна» (с. 74) ён выказвае зразуменне адносна нейтральнага становішча Бога да ўсялякіх людскіх спраў (дык знача і да спраў нацыянальных) падчыркваючы тое, што Бог даў чалавеку вольную волю рабіць, што ён толькі хоча, пакідаючы, аднак, за Сабой права судзіць па смерці ягоныя ўчынкі.

Вось жа бачачы «прад зорам сваім… мукі Айчыны» паэт прабуе «маліціся сэрцам збалелым», але разумее бясцэльнасць гэнай малітвы, бо Бог «тут бяссільны».

«Бо волю ўсім даў… свабоду шануе»…

Праглядаючы зборнік вершаў «Мая ліра», зразу можна пераканацца, што яго галоўнымі матывамі з’яўляюцца пытанні рэлігійныя і нацыянальныя.

Дамінуючы ў зборніку тон рэлігійны дае магчымасць сцвердзіць, што ксёндз Сваяк з’яўляецца перадусім паэтам рэлігійным і ласне як гэтакі зойме пачэснае месца ў гісторыі беларускае літаратуры.

Гэта не мае значыць, што іншыя песняры беларускія былі нейкімі ж бязбожнікамі, — наадварот, яны бадай што ўсе былі людзьмі рэлігійнымі, але не прысвячалі тэмам рэлігійным гэтулькі месца, не ўнікалі гэтак глыбока ў істоту рэлігійнага настрою, як гэта робіць К. Сваяк. Бо толькі ж гляньма, што піша гэны «бязбожнік», паводле А. Навіны, у сваёй «Ліры»: ужо на старонцы 5-й знаходзім «Песню на псальм 130», якая канчыцца гэтак:

Ці безнадзейны, замучаны, збіты
Дух мой устане? Ці зваліцца слабы!
Ніколі, Божа, табой я не сыты:
Нават і ў пекле Цябе прызываў бы…

Далей маем «Песню на псальм 62» (с. 6), якая канчыцца словамі:

Радасць мне сэрца агнём запаляе,
Што не пазбыўся Тваёй я апекі:
Твой Дух прадвечны мяне атуляе,
Цябе я прагну, Божа мой, навекі.

Чарговы верш «Ад Тэ леваві» (с. 8) пачынаецца словамі:

Узнашу я вочы у неба да Бога
І як служэбнік на Яго узіраю:
Ён абароніць мяне ад благога,
Бо міласэрдзя ад яго чакаю.

Наступны верш «Шчасце» (с. 9) кончыцца гэтак:

Для ўсіх жа людцаў, гдзе ёсць іх колькі,
Аднаго трэба на свеце толькі —
Без чаго свет наш — блудна дарога:
Усім да шчасця патрэба Бога.

І гэтак далей, і гэтак далей на працягу ўсяго аддзела І, прысвечанага выключна тэмам рэлігійным і займаючага аж 20 старонак. Далейшыя аддзелы зборніка хоць і прысвечаны іншым тэмам, але гэтак жа пранікнуты элементам рэлігійным.

Кажучы аб няверы кс. Сваяка, А. Навіна сам сабе пярэчыць, бо калі ў адным месцы свайго фельетона ён безапеляцыйна цвярдзіць, што кс. Сваяк «утраціў веру», дык крыху далей прызнаецца, што гэны чалавек (які нота бэнэ — апрацаваў першую салідную беларускую кніжку да набажэнства «Голас душы» і перад смерцяй прыняў Св. Сакраменты) хоць «фактычна» (?!) не верыць, але «фармальна» (?)… верыць, бо бачыце — «узгадаванне» вытварыла ў ім «патрэбу верыць», а хвароба пазбавіла яго сіл, патрэбных для сарвання з сябе «пут» (!), наложаных на яго праз духоўны стан!

З гэнага заблутанага і мутнага разважання вынікае, што ксёндз Сваяк адначасна верыць і не верыць, што — зразумела — з'яўляецца абсурдам, тым больш яскравым, што аўтар перад тым цвярдзіў аб няверы кс. Сваяка як аб факце бессумніўным, пазітыўна існуючым.

А цяпер пару слоў аб духоўных «путах», «вялікай драме працоўных» і «барацьбе».

Што словы аб духоўных «путах» з'яўляюцца пустым гукам, дык аб гэтым не трэба нат шмат казаць: ніхто іх на яго не накладаў, сам ён мог заўсёды зрачыся духоўнага стану або пакінуць семінарыю, будучы клерыкам, але гэнага не рабіў, бо чуў прызыў да службы Божай і была яна яму лёгкай і радаснай, а калі і гняло яго што, дык гэта была — няволя Бацькаўшчыны, нядоля працоўных братоў, урэшце цяжкая, незлячымая хвароба, пагражаўшая перадчаснай смерцяй, жудасны подых якое чуваць ува многіх вершах зборніка.

Што кс. Сваяк як сын селяніна адчуваў «драму працоўных», сацыяльныя кантрасты і панаванне права дужэйшага на свеце, — не падлягае сумнівам, але ўсё гэта зусім не пярэчыць прынцыпам рэлігіі, якая згаджаецца на пэўны радыкалізм у справах грамадскіх (успамянем

тут толькі гэтак уплывовую ў сучаснай Аўстрыі партыю хрысціянскіх сацыялістаў).

Пры гэтым трэба падчыркнуць, што кс. Сваяк у сваім грамадскім радыкалізме быў усё ж такі даволі памяркоўным і разважным, што відаць з гэткіх слоў верша «Гэй, будуйце» (с. 35), дзе, кажучы аб будаванні новага жыцця, новага ладу, паэт, маючы, відаць, на думцы Савецкую Беларусь, вось як асцерагае тамашніх беларусаў, вернучых усё старое, хоць бы нат і добрае, «Стрымгалоў»:

Добра людцы! Абы смела,
Толькі помніце адно:
Хто будуе неумела,
З працы будзе мець драннё.
Разважай жа перш чым зробіш,
Адлічы — рахунак здай —
А чаго не утаропіш,
Разумнейшага спытай.

Гэтаксама згаджаецца касцёл у пэўных выпадках і на аружную барацьбу, так што і тутака не бачым перашкоды кс. Сваяку з боку рэлігіі, але ласне сам пясняр, які ў адносінах да палякаў і маскоўцаў мае цэльную гаму настрояў, ад прыхільных, сяброўска-згодніцкіх ажно да гнеўна-ненавіслівых, гэтаксама і ў пытанні «барацьбы» з «чужынцамі» не меў скрысталізаванага погляду, хістаючыся паміж рознымі духоўнымі імпульсамі і нахіламі.

Бо калі ў адным вершы ён спадзяецца што:

Іскра бязвольна пажарышчам стане,
Аж твар схаваюць нябесныя зоры,
І дух народны адважна паўстане:
Раўняці будзе даліны і горы…

*(«Айчыны мілай…»).*

дык у іншым вершы бачым такія строфы цяжкога сумніву:

Народзе мілы мой! Цяпер ужо не знаю,
Чым маеш ты каваць цяжкую сабе долю:
Дабром за зло плаціць (што ў сэрцы я хаваю)
Ці ворага душыць ў крыві — ў агні — ў вуголлі…

*(«На крыллях», с. 39).*

А ў чарговым вершы п. н. «Пашлі мне Божа» (с. 41) дык паэт ужо зусім выразна выступае супраць крывіпраліцця, кажучы:

Не дай жа, Божа, прыждаці часу,
Калі б народ мой не знаў папасу:
Другіх пачаў бы біць;
Бо вельмі пекна, што русняк бедны
Не глянуў крыва на гон суседны.
Крыві не смеў пусціць…

А ўрэшце малюе нам ужо зусім ідылічны абразок прышлых ўзаемаадносін паміж трыма братнімі, але дасюль нязгодна жывучымі славянскімі народамі, кажучы:

Дасць Бог, калісь будзе люд народу братам,
А русняк маскоўцу да лехіткі сватам!..

*(«Ой, на Русь ды Белу…», с. 30).*

Як бачым, сапраўднае духоўнае аблічча с. п. К. Сваяка (толькі з грубшага адрасаванае) выглядае «крыху» інакш, чымся мы гэта бачылі ў тэндэцыйным фельетоне А. Навіны!

Дык спі ж спакойна, наш бяздольны пясняр, і выбач ласкава «дасужым» крытыкам, якія не патрапілі ўшанаваць твайго магільнага супакою!..

***1926***

*АЛЬФІЧ*[1]

## ЗА КАЗ. СВАЯКОМ

*(Жменя асабістых успамінаў).*

…У галаве не месціцца, розум бунтуецца прызнаць за праўду факт, што ўжо сапраўды там, у далёкай Бацькаўшчыне — Беларусі перастала навекі біцца збалелае сэрца К. Сваяка… Аднак жа праўдай ёсць, што К. Сваяк ужо больш між намі жыццём дачасным не жыве. Але жыве, жыць і магутнець будзе духовае зерне, засеянае Сваяком у родную глебу беларускую.

Скромная да крайнасці натура нябожчыка Сваяка, а таксама ягоная сведамасць свае фізічнае кволасці былі прычынай таго, што праўдзіва надземскі абраз душы ягонай можна было бачыць толькі ў лічаныя часіны і да таго людзям найбліжэй да нябожчыка стаячым.

Усіх жа, з кім нябожчык Сваяк сустракаўся за кароткае жыццё сваё, пацягваў сваім пераканаўчым словам, сваёй няземскай дабратой, што глядзела з вачэй ягоных, з кожнай, яму ўласцівай рысы…

І за ўсё гэта як жа цвёрдую, часта брутальную меў нябожчык адплату за жыццё! Ці ж будзе зразумелы па смерці?!.

Пару думак гэтых хачу даць да публічнае маемасці беларускае чытацкае грамады, каб так ёй, пакольki гэта людской нясмеласці даступна, прыблізіць абраз шляхотнае душы нябожчыка і запазнаць з ім тых, каму не было даным і адзіны хоць бы раз з нябожчыкам за ягонага жыцця сустрэціся. Зрабіць гэта важуся на падставе асабістых толькі ўспамінаў, што захаваліся ў памяці маёй з часоў супольна або ў цесным кантакце з нябожчыкам Сваяком пражытых (1913–1923). За апошнія два гады змаганні і цярпенні Сваяка мне ведамы пераважна толькі пасрэдна. Шкадую гэтага, але… позна. Не верылася, што апошняя наша сустрэча 26.XII.1921 г. будзе ўжо на гэтым свеце *апошняй*, — сёння верыць гэтаму трэба: «Сваяка няма больш між намі», — вясцілі мне на спадзіў *аднагалосна* два лісты ад двух розных асоб з Беларусі.

* * *

Як ужо ведама, Сваяк, Рай светлы душы ягонай, нарадзіўся і вырас на вышыню свайго паслання *беларускага песняра-будзіцеля* ў ваколіцах Клюшчан, тых Клюшчан, з каторымі імя і цэлая творчасць Сваяка навекі злучаныя. Адчуваў гэты звязак няб. Сваяк сам, калі ў сваім «Тэстамэнце» казаў:

Клюшчанам шлю паклон. Там натуру
Беларуса я палюбіў…

*(«Мая ліра»).*

У гэтых жа Клюшчанах і мне было даным Сваяка пазнаць і пад ягоным светлым кіраўніцтвам паводле сіл і магчымасці працаваць. Як і дзясяткі маіх равеснікаў і асоб старэйшых, ваеннымі падзеямі прыкутых на Клюшчаны, усім духова прыдбаным у перыядзе ваеннага шалу і здзічэння абавязаны *выключна* няб. Сваяку. Методу, якой ён нас да працы заахвочваў і самой працай пасля кіраваў, можна азначыць адзіным словам: безгранічная любоў да ўсяго роднага, ідэальнага. Дзеля гэтае любові нябожчык быў гатоў аддаць усё; ён усё і аддаў, бо аддаў жыццё сваё.

Практычным, як гэта слова сёння ў «найшырэйшых» кругох разумеюць, няб. Сваяк не быў: увесь цэлы жыў для ідэалу, для мастацтва. Выязджаў калі, бывала, у Вільню, — варочаўся чысцюсенькі, як «слова божае»: ні граша за душой. Але затое прывозіў мех даўгоў і цэлыя пакі кніжак навуковых, папулярных і інш. самаасветных срэдстваў, якімі пасля дзяліў кожнага, хто паводле думкі нябожчыка патрапіў тую ці іншую рэч разумна выкарыстаць. Калі пасля нябожчыку такую «растрату» дамаўлялі, не знаходзіў на сваю абарону нічога іншага, як сваё тыпічнае: «*я не магу інакш*». Дзяліўся заўсёды чым меў. Але сам на свае лекі заўсёды мусіў прыпазычаць.

* * *

У кожным сустрэчаным хацеў бачыць свайго найлепшага прыяцеля, брата. Не трэба дадаваць, як часта і глыбока ашукваўся. Яшчэ цяжэй гэта знасіў, што забойча ўплывала на ягонае падарванае здароўе. Але пажаліцца нікому на свае крыўды звычаю не меў. Хіба быў да гэтага некім блізкім проста вызваны. Усю горыч пераносіў сам у сабе старанна замкнутай. Цярпець хацеў толькі сам. Другой задачай ягонай было сеяць радасць кругом. І першага, і другога быў дасканалым віртуозам. Аказіі хапала. І таму твар ягоны заўсёды быў поўны дабраты і ветласці, з'ядноўваючай яму людзей розных светаглядаў. Цярпець самому і цешыць бліжняга! — было дэвізам няб. Сваяка: рысы праўдзіва апостальскія.

* * *

Быстры розум няб. Сваяка гэта быў, што не даў ягонаму генію даравітаму заблудзіцца ў «воды міжнародныя», хоць кіраўніка асаблівага *на пагляд* і не меў. А доступ усюды няб. Сваяку, дзякуючы ягонаму грамадскаму такту і глыбокаму інтэлекту, быў заўсёды вольным больш… як насцеж. Але не зрабіў ніводнага кроку блуднага. Быў адным *з першых*, хто падняў стаптаны сімвал роднага слова беларускага. Слову гэтаму зверыў найінтымнейшыя свае думкі, пры гэтым слове горда вытрываў аж да апошняй гадзіны… вызвалення магутнага духу з путаў бяссільнага цела-матэрыі.

* * *

Быў перадваенны «мірны» час. Уся беларускасць у Клюшчанах маніфеставалася дзесяткам экзэмпляраў «Беларуса» ды «Н. Нівы». Палова з якіх аплачвалася «невядома» кім. Аб нечым большым гаварыць было нельга. Сваяк *не гаварыў*, але працаваў. А што праца была планава абдумана, відаць з рэзультатаў: чуць толькі адышлі маскоўскія войскі і вёска беларуская ў прыфрантавым вокрузе (Клюшчаны ляжалі 50–70 вёрст ад нямецка-расейскага фронту) атрымала мінімальную магчымасць свабоды. Клюшчаны з ваколіцай дасталі зараз *6 палаткавых беларускіх школ*. Не хапала вучыцельскага персаналу, школьнага прыладдзя, падручнікаў. Аб якіх-колечы фондах мовы быць не магло. З сялянскіх хат пазірала бяда, недастатак, голад і холад… І міма ўсё гэта праца ішла, аж міла, бо… усюды была рука, была воля, быў дух Сваяка. На ўсю бяду была наскора сарганізавана адумысловая акцыя самапомачы, на чале якой быў не хто іншы, як толькі Сваяк. Курсы вучыцельскія не толькі арганізаваў, але і сам, калі яму гэта толькі цяжкі абавязак душпастырскі пазваляў, на гэтых курсах вучыў. Усюды дайшоў, усяго асабіста дагледзеў. Сам у школах вучыў. Апошнім грошам беднай дзятве школьнай памагаў, даруючы ёй школьнае прыладдзе, сшыткі, падручнікі, а часта і… абутак ды вопратку (!). Рабіў жа гэта так, што

ніхто не ведаў, скуль дараванае дастае, каму мае быць удзячным. Не ведала дзятва. Але прыпадкам толькі даведаліся і тыя, каго няб. Сваяк прывык быў называць сваімі памочнікамі, «прыватнымі сакратарамі». Я, напр., спаўняючы некаторыя функцыі ў розных галінах працы, зачатай Сваяком, у час адсутнасці апошніх штораз з новымі сустракаўся загадкамі: хто гэта рабіў, хто гэта купіў, дараваў? Адказ адзін быў: Кс. Кастанты… Усяго дапільнаваў, аб усім стараўся, сам для сябе толькі хапіць не мог, і апошняе сталася нябожчыку крытычным.

* * *

Але не для самой толькі малой дзятвы жыў Сваяк і ёй апекаваўся. Ведаў, што ў моладзі сіла. Але таксама ведаў, што расцярушаная моладзь нічога не патрапіць. Арганізаваў. Пачаў з хору. Спярша дзіцячага, а пасля мяшанага. Сваяк гэта быў, што патрапіў звязаць харыстаў у адну цэласць, што пачаўшы ад асноў, цудаў (!) на свой час і становішча даказала. Гэта былі пачаткі. Харыстам стараўся прышчапіць дэвіз, якому сам астаўся да канца жыцця зямнога верным: «Людзям быць добрымі і Богу мілымі». Цвярдзіў неправідловасць дэвізу: «З Богам да народа», замяняючы яго на «З народам да Бога».

* * *

Сам Сваяк меў нахіл да спеваў і да ўсяго, з імі звязанага. Меў да гэтага добры слых і проста цудны лірычны голас, тэнар. Іграць добра не меў часу навучыцца ні на чым. Цяжка гэта нёс. Але пакрысе «быў дома» ўсюды. Штука дырыгавання яму чужой не была і таму, дзе толькі знайшоўся, плылі звонкія гукі «Гусей», «Чырвонай каліناнькі», «Салавейкі», «Зялёнага дубочка»… Пеючы апошнюю, любіў падкрэсліць, што гэта песня ягонай маці. У песні здаваўся вырастаць над усё зямное, смяротнае: жыў у сабе жыццём, якое разумеў тады толькі сам. Песня вырывала яго з абоймаў цяжучай хворай матэрыі-цела і ўзнасіла ў свет, яму толькі дасяжымы.

* * *

Перш, чымся з праектам выйшаў «на белы дзень», апрацоўваў яго сам. Пасля толькі выходзіў з ім у кружок сабе блізкіх. Гэтакім гуртком у Клюшчанах у той час быў «ХС».

Слоў пару аб ім. ХС — хаўрус сваякоў, арганізацыя культурна-асветная, канспіратыўная. Узнікла і працавала за часам нямецкай акупацыі. Першай задачай была самаадукацыя на асновах хрысціянскай этыкі. Складаўся ХС з асоб, вальнейшых ад штодзённых прац на хлеб, а галоўнае маючых хоць бы мінімальную падгатоўку да працы, якая была мэтай ХС. Кіраваўся ХС абіраным прэзідыумам. Сваяк сам у прэзідыум не ўваходзіў. Але душой быў з ім. Загады былі станоўчыя.

Мэтай ХС было цвічыць дух і цела. Першае дасягалася апрацоўваннем і чытаннем рэфератаў і корэфератаў на выбраныя тэмы, ладжаннем канцэртна-дэкламацыйных сходак, арганізаваннем прадстаўленняў, народных бібліятэк, апекай над школамі. Другі пункт выпаўняўся цвічэннямі па праграме скаўтаў Бадэн-Повэла.

І першае, і другое сцягнула на сябе зоркае вока кайзераўскіх жандараў клюшчанскіх, ад якіх нябожчык Сваяк меў нязлічаныя прыкрасці, аб каторых было даным ведаць і мне: але большую іх частку сцярпеў нябожчык Сваяк сам і аб іх ужо сягоння можа сведчыць толькі… Неба. Найбольш тады даўся ў знакі шэф патруля, нейкі згэрманізаваны мазур; называўся, калі памяць не мыляе, Мікалайчык. Гэты «маленькі чалавечак», трудна ведаць, ці з уласнага пачыну, ці меў «згары» загад вышпегаваць ХС за кожную цану… Часць яму ўдалася, але цэласць ніколі. Ведаў, што нешта, а ёсць. Але тым і кончылася, што «ведаў». Ведаў ён, жандар, аб ХС, але ведаў і ХС, хто за ім сочыць… Цэлая акцыя гэнага М-ка кончылася, дзякуючы заўсёднай духапоўнасці Сваяка, кампраметацыяй першага. Сваяк «накрыў» яго на «інспекцыі» ночнай, калі пракрадаўся каля плота ў цяні дрэў, каб падслухаць, як думаў, размову Сваяка з сваімі аднадумцамі… Зараз жа пасля гэтага прасіў М-к у Крэйсамта перавод, які яму і быў безадкладна даны. Выехалі што хутчэй, каб пры сустрэчы (жыў у суседстве) «не пячы ракоў»… Прыехаў іншы, «лепшы».

Гэта толькі адзін з прыкладаў дзеля ілюстрацыі варункаў, за якіх прыходзілася працаваць. Ворагі ж нашы цвярдзілі і дагэтуль заслеплены часта кажуць, што «немцы памагалі беларусам».

Пры такіх умовах працы кожны з сяброў ХС меў мусіў сваё прыбранае імя і зтуль *нябожчык* вынес сваё імя Сваяк, хоць імем гэтым, праўда, падпісваўся яшчэ шмат раней. Рэшта іменняў ужо ў памяці мне захавалася мала. Дзеля прыкладу вось пару іменняў прыводжу: *Роміч*, вельмі надзейны талент маляра-пейзажыста, перадчасна памёр таксама на сухоты (29.11.1924 г.), *Лаўровы*, надзейны талент сатырыка, на вялікі жаль, не выкарыстаны, бо сам Л., здаецца, свайго таленту дагэтуль не дацэньвае, *Астра, Орліч, Яхіміч*. Я сваім прыбраным іменнем падпісую гэтыя ўспаміны.

Меў ХС свой кліч, свой, сябром толькі ведамы знак, сваю, даволі прымітыўную пячатку «ХС», якой азначаны былі між іншым усе кнігі бібліятэкі і іншая маемасць хаўрусу.

Пры ўсім гэтым меў ХС усе задаткі стацца моцнай арганізацыяй, якой і быў пакуль сябры яго былі разам, пры месцы. Аб інтэнсіўнасці культурна-прасветнай чыннасці ХС хай сведчыць між іншым той факт, што першае беларускае прадстаўленне ў Зах. Беларусі, пасля прыходу немцаў адбылося не ў Вільні, а ў… Клюшчанах. Наладжана было ўласнымі сіламі ХС. Ігралі двойчы «Праклённае зелле»*) і раз

* Пераназваная пасля самім аўтарам — Сваяком на «Янку Канцавога» ад імя галоўнай ролі гэтае п’есы.

«Міхалку». Хор з 40 асоб пры гэтым выконваў беларускія народныя песні. Прысутныя госці з радоў тагачаснай нямецкай акупацыйнай улады і прадстаўнікі войска выказаліся аб выкананнях вельмі пахвальна.

Калі прыняць цяпер пад увагу, што большасць тады іграўшых акцёраў ніколі да таго часу тэатру не бачыла, а харысты, выконваючыя харавыя чатырохгалосныя творы, ніколі да таго часу аб нотах нават не снілі, не то што іх бачылі, можна сабе ўявіць, колькі тут было затрачана надлюдскай энергіі, сілы, каб усе праціўнасці перамагчы. ХС гэта тады даказаў, бо… з ім былі дух і воля Сваяка.

Але як заўсёды на гэтым свеце бывае, так і тут сталася. Не ўсім трапляла да пераканання праца ХС, былі і такія галасы, што называлі пачынанні ХС… «лішнімі». Доказ гэта, што праца тагачасная была ранняй кветкай у позную вясну. Замерзла. Але вясна бліжыцца і зацвіце краскамі новымі. Не дачакаўся дня гэтага тварэц і галоўная спружына ХС — Каз. Сваяк. Дачакаюцца вясны гэтай усе тыя, што захочуць узараць задзірванеўшае поле народнае і яму новую сяўбу зверыць. Ужо сучаснасць пераканала, як несправядліва быў тады нападаны ХС. Будучыня прынясе доказаў яшчэ больш. Блуд тагачасны папраўлены быць мусіць. Гэтага вымагае светлая памятка жыцця і працы Каз. Сваяка — Кс. Каст. Стэповіча.

Гэта пара штрыхоў толькі няўдалых і нахутка сабраных, якія пасвячаю памятцы Каз. Сваяка, як свайго вучыцеля і першага духоўнага кіраўніка.

Людзей тыпу Сваяка ў нашы дні трэба шукаць, як кажуць, «удзень з лямпай», і таму, мне здаецца, памятка нябожчыка заслугуе быць пазнанай і найшырэй спапулярызаванай. Мы, беларусы, маем, безумоўна, сваю традыцыю, свае, годныя наследавання, тыпы. Але што з таго, калі мы іх у большасці… не знаем. Тым больш старацца тады мусім, не даць у забыццё духовых веліканаў сучаснасці. Добра, дзеля гэтага, было б, каб нехта больш да гэтага надаючыся і бліжэй мо нябожчыка знаючы, падаў ягоную характарыстыку, асабліва як духоўніка-душпастара, як ідэолага грамадзяніна — краю. Капля да каплі і так бы вырас бяссмертны тып духовага веліканa, якім Сваяк безумоўна быў і з чаго б бралі пасілу працаўнікі маладыя, на сцэну жыццёвую толькі выступаючыя.

Спі ж тады, пясняр Ты нядолі беларускай, да слаўнага дня. Дух Твой і памяць на Цябе хай нам будуць апорай сярод бед штодзённых.

*Тваім жа астаткам цялесным, Земелька Родная, лёгкай будзь!*

***1926***

*Апанас КОЎЗАН*[1]

## СВАЯК-УНІЯНІСТ

Не змоўк, здаецца, яшчэ хаўтурны звон над свежараскапанай магілай — месцам дачаснага супачынку цялесных астаткаў нябожчыка Сваяка, — як ужо раскалыхаўся звон новы, магутнейшы, бо на цэлы свет галосячы ды клічучы на святочную трызну з прычыны першых угодкаў разлучэння магутнага духа Сваяковага з кволым ягоным целам. Ідзём жа на трызну ўсе, хто звон гэты чуе! Ідзём усе, «чыё сэрца хоць раз забілася ў такт з сэрцам»* Сваяковым! Ідзём усе, хто ідэал Вольнай Беларусі хоча пазнаць у так крыштальнай чыстаце, як яго ў думках і чынах сваіх вызнаваў Сваяк!

Ідзём усе, для каго Беларусь ёсць Родная Маці! Ідзём усе!

* * *

Славян абрад маніўся я прыняць,
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А мо сябры мае пайдуць калі за мной.

*«Тэстамэнт»*

У першыя ўгодкі смерці Сваяка будуць без сумлеву на розных мясцох і ў розны спосаб прыпамінацца паадзінокія рысы характару юбілянта. Я тут дазволю сабе далучыць пару слоў, без каторых абраз Сваякоў быў бы няпоўным.

Сваяк, будучы наскрозь пранікнутым Хрыстовым дэвізам «каб усе адно былі», не памінуў аніводнай спасобнасці, памагаючай здзяйсненню гэтага ідэалу. Сам будучы каталіцкім духоўнікам рымскага абраду (ксяндзом), Сваяк ніколі ані ў жыцці прыватным, ані ў выконванні сваіх службова-духоўніцкіх абавязкаў не то што не зрабіў ніводнага варожага выпаду ў старану праваслаўных беларускіх братоў, але, наадварот, шукаў толькі аказіі, каб некага з іх пазнаць, зразумець і самому ад іх быць зразумелым.

Як высока цаніў нябожчык Сваяк добрыя адносіны з праваслаўнымі беларусамі, сведчыць такі хоць бы дробны факт, як утрымліванне ў сябе на каталіцкай парафіі праваслаўнай службы. Меў за гэта нябожчык шмат прыкрасцяў ад усякага начальства. Але знасіў гэта з радасцю і ахвотаю, будучы свята перакананым, што векавая пропасць паміж веравучнымі абозамі на Беларусі засыпана быць можа толькі сапраўднай міласцю бліжняга ды з гэтае міласці выплываючымі чынамі.

Для працы над рэлігійным збліжэннем беларусаў меў Сваяк нахіл уроджаны. Паглыбляў яго адмысловымі студыямі. Дзейную пануку

* Словы самога Сваяка.

да плоднай працы ў гэтым кірунку нябожчык Сваяк чэрпаў з сваіх курацыйных паездак за граніцу (Галіччына), дзе завязаў сапраўды брацкія адносіны з украінцамі і скуль прывозіў у край апостальскае натхненне да працы над рэлігійным аб'яднаннем беларусаў. Гэта аб'яднанне Сваяк слушна ўважаў за аснову ўсяе цэлае працы для дабра Беларусі. Перадчаснаю смерцю Сваяка думка рэлігійнага аб'яднання Беларусі страціла найбольш, бо з радоў ейных прад годам выбыў у асобе Сваяка адзін з найбольш здэкларававаных і найздальнейшых ейных паклоннікаў і наслядоўцаў. Ідэал Сваяка — самому стацца каталіцкім духоўнікам усходняга абраду — не здзейсніўся толькі дзеля свядомасці нябожчыка сваёй цялеснай нядугі і кароткага жыцця. Над гэтым Сваяк доўга бедаваў за жыцця і гэта выліў у сваім ужо ўспомненым «Тэстамэнце».

* * *

Так! Год цэлы, як «Сваяка ўжо між намі няма». Думка ягоная пакутуе (!) у цэлым краі нашым: афіцыяльныя польскія прадстаўнікі каталіцтва ў нас не перасталі дагэтуль яшчэ ўважаць сябе за нешта павышанае, «Богам выбранае», а ў праваслаўных… кожны разважны спагад для думкі рэлігійнага паразумлення ўважаецца за… здраду (!). Сёння ў цэлым грамадскім жыцці нашага краю няма ніводнае важкае ўстановы, што б вагой сваёй публічна стала ў абароне «думкі, для каторай варта жыць». Але затое кожны першы пісака вострыць пяро сваё на «навінах», чэрнячых усё, што з думкай рэлігійнага паразумлення ў нас бывае так ці гэтак спалучана. Сумна, але праўдзіва!

Хай дзеецца сёння што хоча. Пэўнымі ёсць ужо сёння дзве рэчы: што 1) думка рэлігійнага аб'яднання беларусаў, каторай Сваяк так верна служыў, найчарнейшыя часы свайго існавання мае ўжо за сабой і што 2) за ўсе памылкі сучасная гісторыя загадае будучыні дорага заплаціць.

Сцеражы Божа, каб рахунак беларусаў быў завялікі!

* * *

Божа, дай, каб другія ўгодкі смерці Сваяковай святкаваць было можна пад знакам большага размаху ягонага ідэалу, чымся з гэтым ёсць сёння: додніца бывае найцямнейшай!

***1927***

*Язэп ГЕРМАНОВІЧ*

## МАЕ ПРЫЯЦЕЛІ
*(Успаміны)*

Думка, каб апісаць сваіх найбліжэйшых — прыяцеляў, даўно залегвае ў маёй душы. Тым больш гэты абавязак мушу адбыць, бо я меў шчасце цешыцца дружбай людзей вельмі мілых і якраз гарачых беларускіх святароў-патрыётаў, значыць, мушу сплаціць доўг і асабісты і грамадскі. […]

Кастусь быў сярэдняга росту, валасы блёнд-шатэн, вочы зелянкавыя, твар мужскі: энергічны хлапец, кідлівы, вельмі шустры ў гульнях, чуллівы, гаварлівы, але пануючы над сабою; умеў быць паважным, задумліваўся і любіў самоту. Меў нейкі магнэс таварыскі і прыяцельскі. Мы з ім толькі аднойчы пасварыліся, каб падружыцца на ўсё жыццё!

У навуцы асабліва быў здольны да языкоў: лаціну і французскі ўспрымаў значна скарэй ад мяне, але ў матэматыцы аказаўся слабейшы. Іграў на скрыпцы; а голас меў такі прыемны, далікатны першы тэнар, што здавалася выб’ецца на сапраўднага артысту! Няма, аднак, поўнага шчасця на зямлі! Такі сімпатычны юнак, які мог выбіцца і як спявак, і як пісьменнік-паэт, неспадзявана ўпаў у сухоты і пачаў чахнуць на жаль усіх сяброў і беларускага грамадства. І ніякія дактары-лекі не памаглі! Шэсць разоў ездзіў у Карпаты (Закапанае) лячыцца горным паветрам; але там знаходзіў толькі палёгку, а не здароўе. Праўда, знаходзіў там адборнае таварыства, інтэлігентаў і мастакоў, якія таксама шукалі мілага здароўя.

У 1912 г. перад летам мы з Кастусём былі пасвечаны ў субдыяканы ў Віленскай катэдры, а за пару тыдняў — на дыяканаў — у Каўнас.

І вось пасля дыяканату К. Стэповіч (як я ўжо казаў) упаў у сухоты. А прычынаў было некалькі: і тое, што заўзята вучыўся, і што памяшканні ў семінарыі траплялiся неадпаведныя (так зв. «цэлі»), бо муры былі старыя. Найгорш аднак, што ў семінарыі была ўведзеная клерыцкая форма: зімой насілі плашчы з палярынамі, якія трэ было здымаць у катэдры, і падчас набажэнства (нядзелямі) трэ было трываць у адных сутанах і комжах. Катэдра была неаграваная… Гэтая мода вялася здаўна — мода вельмі шкодная для здароўя.

Навука Стэповіча ў семінарыі трывала даўжэй: ужо будучы дыяканам першы раз ён паехаў у Закапанае, а святарскія свячэнні адцягнуліся на пару год. Мы з Кастусём дасюль былі ў сардэчнай дружбе, але з яго хваробай нам прыйшлося разбіць сяброўства, і кожны пакаціўся далей сваёй асобнай каляінай.

Толькі аж у 1917 г. нам удалося спатыкацца часцей: мы былі вікарыямі ў суседніх парафіях, я — ў Далістове Беластоцкага павета, а ён — у Карыціне Сакольскага павета.

Я там знайшоў Кастуся вельмі добра настроенага, і мы не маглі нацешыцца сабою! Стэповіч быў ужо ведамым паэтам і пісьменнікам: ён

стала пісаў у «Крыніцы» і пасля ў «Хрысціянскай думцы». Не помню, у якім часе была выданая ягоная кніжка «Зборнік паэзіі — Мая Ліра». А я тады яшчэ не пісаў нічога, нават не збіраўся пісаць!

Толькі ж нашае сонейка шчасця затуманілася надта скора: хвароба Кастуся вярнулася і яму зноў пагражала небяспека. Карыцін — месца, неадпаведнае для сухотніка, а праца ў парафіі вялікая. Трываў час вайны: мы аказаліся пад нямецкай акупацыяй. Пробашч Кастуся не быў надта кідлівым і растаропным чалавекам і не дбаў пра хворага вікарыя.

Помню нашае сумнае спатканне. Я быў таксама непрактычным і проста з гора апусціў рукі, не ведаючы, як ратаваць прыяцеля. Аж раптам мне засвяціла яснейшая думка! Я ўзяў вялікі ліст паперы, палінеіў і паставіў нумары асобаў да подпісу. Тады ў Карыцін з’ехалася нас некалькі святароў з суседства. Пад канец абеду я падаў ліст наўкол стала да падпіскі ахвяраў на падарожжа К. Стэповічу ў Закапанае.

Першы нумар заняў я сам, падпісаўшы 50 нямецкіх марак: гэта была максімальная сума, якую я мог выдаць. Адразу ліст трапіў у рукі пробашча з Сухаволі Ант. Гайлевіча. Я не спадзяваўся, што гэты дзівак дасць якую лепшую ахвяру — аж ён падпісаў 200 марак! Тут усе прысутныя і ахнулі: яны не мелі ахвоты рассыпацца ў ахвярнасці і я зусім не спадзяваўся значнай эфектыўнасці з нашай падпіскі. Але вось…

Мой пробашч, Ст. Гуневіч, падпісаў 100 марак, а другія хоць па 50, бо ўжо менш не выпадала. — Так мы зламжылі штосьці больш шасці сотак, і ўжо сума была на тыя часы дастатковай для гэтага туру лячэння ў Закапаным.

Пасля гэтага здарэння я зноў надоўга страціў кантакт з Кастусём. Канчалася вайна, ішла рэвалюцыя ў Расеі і Нямеччыне. Мяне лёс перакідваў з месца на месца. Толькі ў 1919 г. летам крыху паспакайнела. Я тады быў пробашчам у Ваўкавыскім павеце, ў Вялікай Лапеніцы і запрасіў К. Стэповіча да сябе на вакацыю. Зноў мы ўзрадаваліся адзін з другога. На бяду я быў вельмі заняты рамонтам касцёла і мог праводзіць толькі невялікія хвіліны з дарагім прыяцелям. Але гэта былі хвіліны цудоўныя!

Там я папрасіў Кастуся сказаць навуку падчас набажэнства *пабеларуску*! Дасюль — паводле звычаю і загаду духоўнай улады — навукі гаварыліся для беларусаў *па-польску*.

Стэповіч гаварыў у нашай роднай мове ад шчырага сэрца, і пасля ўжо я сам павінен быў далей гаварыць па-нашаму. Але… пасля другой навукі даведаўся аб такім «крымінале» дэкан Нікодым Тарасэвіч з Ваўкавыска і мне даў забарону гаварыць у касцёле *«да людзей палюдску».*

*Увага:* Тады дэканы мелі ўладу біскупа, бо трывала вайна і зносіны з Вільняй былі ўтрудняныя.

Я — малады і паслушны святар — ведама, паслухаў і ўся заслуга асталася пры маім адважным таварышу К. Стэповічу.

Тут толькі я пазнаў усю глыбіню гэтай сапраўды вялікай душы — яго мыслі, якія Стэповіч так рэльефна выказаў у сваёй біяграфіі — «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі». Гэта, праўда, толькі частковая казка аб сабе нашага дарагога патрыёта і пісьменніка Казіміра Сваяка — Канстантага Стэповіча.

Ужо больш мы з ім нідзе не спатыкаліся. Увесь час хваробы Кастуся апекаваўся ім наш вялікі Дзеяч і Правадыр, а. Адам Станкевіч, рэдактар «Крыніцы», а пасля — «Хрысціянскай думкі».

Апошні раз — расказваў мне а. Адам, як паехаў у Закапанае забраць паэта ў Вільню. Надзеі на выздараўленне ўжо не было, але хворы паэт яшчэ мроіў аб здароўі і рабіў планы далёкія і ружовыя. І вось Станкевіч паважыўся яму сказаць, што трэба ехаць у Вільню і даць спакой лячэнню ў Закапаным…

Так нягодная хвароба забіла такое маладое, такое надзейнае, дарагое жыццё! Якая шкода, што медыцына тады не ўмела парадзіць сухотам! А чалавек мучыўся і не мог выказаць у паўнаце сваёй душы — розуму, волі і сэрца. У спадку мы атрымалі толькі крышачку з тых скарбаў душы, якія здолеў выразіць пры збалелых лёгкіх, пры запаўшых грудзях і аслабленым сэрцы мой наймілейшы з усіх прыяцеляў.

Няхай Яму будзе памяткай маіх пару слоў, запісаных вершам, як свядоцтва майго жалю, майго спачуцця і шчырай любові!

Вечная Памяць! Няхай спачывае ў супакоі!

*1964*

*Бярнард СТЭПОВІЧ*

## З УСПАМІНАЎ ПРА КАЗІМІРА СВАЯКА

### I

Мой брат Кастусь нарадзіўся 19 лютага 1890 года ў вёсцы Барані* Клюшчанскай парафіі Свянцянскага павета (Віленшчына, цяпер Астравецкі р-н БССР). Пад канец мінулага стагоддзя бацька арандаваў недалёка ад роднай вёскі малы засценак Загінка і быў адначасна лоўчым у пана Свольkеня, уласніка двара Шайкуны каля Клюшчанаў. На абавязку лоўчага было сцерагчы лес ды наглядаць над ляснымі работамі.

Засценак Загінка і вёска Барані, у якой бацька меў паўвалокі зямлі (каля дзесяці гектараў), былі акружаны балотамі і вялікім лесам.

* Не Гаруны, як памылкова надрукавана ў дзённіку Казіміра Сваяка «Дзея маёй мыслі, сэрца і волі», выдадзенага ў Вільні ў 1932 годзе, а Барані.

Вядома, што ўсе навакольныя лясы, прыгожыя і рыбныя азёры былі ўласнасцю двара.

У вёсцы налічвалася 25 гаспадарак, пераважна па 5–6 гектараў, лічачы ўдобіцу разам з лугамі і балотамі. Багацейшымі гаспадарамі былі паўвалочнікі.

Глеба на вясковых палях была пясчаная, малаўраджайная. У кожным годзе большая частка гаспадароў мела хлеб са свайго поля толькі да Калядаў.

Частковым выйсцем з паўгалоднага існавання вёскі былі заработкі ў лесе і лоўля рыбы ў суседняй рэчцы і недалёкіх азёрах. На лоўлю рыбы з азёраў трэба было, аднак, мець спецыяльны дазвол ад двара.

У сапраўднасці лес і вада ў азёрах кармілі жыхароў нашай вёскі амаль круглы год. Улетку і ўвосень жанчыны і дзеці збіралі для сябе і на продаж ягады і грыбы. Праз увесь год можна было зарабіць на лясных работах, пры высечцы лесу і яго вывазе на чыгуначную станцыю ў Гелядні. Рыба таксама лавілася круглы год.

Тут успомнілася мне гутарка з былым уласнікам лесу за вёскаю. Ён вёў руйнавальную лясную гаспадарку: прадаваў і сек лес пень за пнём, а за вырučаныя грошы будаваў дамы ў Вільні або складаў іх на працэнты ў банку.

Было гэта спатканне ў цягніку, калі я, вучань Віленскай беларускай гімназіі, ехаў на канікулы ў родную вёску. На маё пытанне, чаму пан прадае ўвесь лес і будуе дамы ў Вільні, замест адбудаваць сабе палац у Шайкунах, спалены падчас Першай сусветнай вайны, пачуўся яго злосны адказ:

— Не такі я дурань, каб будаваць палацы, у якіх вы будзеце арганізоўваць беларускія школы.

Такі адказ пана быў для мяне зразумелы. Гэта быў злосны прытык да ранейшай працы Кастуся пры арганізацыі беларускіх школ у клюшчанскай парафіі ў часе Першай сусветнай вайны. І адначасна згаджалася з тым, што прадказваў Сваяк у словах: «Школы зробяцца з двароў…» («Мая ліра», верш «Гэй, будуйце»).

Вяртаючыся да малалетніх гадоў Кастуся, трэба сказаць, што не абмінулі яго ўсе беды сялянскага дзіцяці. Як усе вясковыя дзеці, мусіў пасвіць хатнюю жывёлу ў полі. Першым яго свайго роду настаўнікам быў пастыр Марцін, які ведаў вельмі многа казак, песняў, прыпевак. Маці, бабка, пастыр Марцін мелі вялікі ўплыў на фармаванне Костусевай душы, на збліжэнне яе са светам фантазіі.

Да гэтага трэба яшчэ звярнуць увагу, што вёску Барані акружала дзікая, таемная і прыгожая прырода, якая мела, безумоўна, свой уплыў на дзяцінства і маладыя гады будучага паэта.

Пачатковую школу канчае Кастусь у роднай вёсцы. Для далейшай вучобы бацькі пасылаюць яго ў гарадскую школу ў Свянцянах, якую ён канчае ў 1905 годзе.

Пра гэтыя часы так успамінае Сваяк у сваёй «Дзеі…»:

«Гразка было ехаць да павятовага места, дзе меў я зачаць свае навукі па скончанай людовай школцы. Конь ледзь цягнуў воз, у каторым сядзеў пахмурны бацька і я, маўчлівы, задуманы. “От, дарога цяжкая, — адазваўся ўрэшце бацька, — глядзі, каб не пайшлі намарна гэты труды і захады”. Я маўчаў. Баязлівы мой характар быў прычынай цяжкіх мысляў, поўных неспакою і прачуцця нявыясненага…

Эх ты, светазарная дарога навукі! Свеціш ты маладой душы, як ясны месяц сярод майскай ночкі. А ўвойдзеш у тваю краіну, адкрываюцца штораз новыя светы, новыя зоры, неразгаданыя, недаступныя! Вось-вось хваціш адзін праменьчык, нацешышся ім, раз’ясніш цемру быту, як з’яўляюцца другі, трэці… і сілы ападаюць, аж маркоціцца твая істота…»

Нашыя бацькі, кіруючы Кастуся ў гарадскую школу, а потым у духоўную семінарыю, бачылі ў ім будучага ксяндза. У нашых матэрыяльных умовах, калі ў бацькоў было васьмёра дзяцей, якіх трэба было выкарміць і, па магчымасці, даць якуюсь школьную асвету, было гэта даволі цяжка. Але жыццё сям’і ўкладалася так: як толькі каторы з сыноў дарастаў да самастойнай працы і пачынаў сёе-тое зарабляць, тады быў абавязаны памагчы стаць на ногі малодшым. Але не заўсёды гэта ўдавалася так, як хацела сям’я. А праца, часта ў празмерным напружанні і ў цяжкіх матэрыяльных умовах, вяла да хвароб. Гэткія ўмовы былі, між іншым, прычынай, што ў нашай сям’і звілі гняздо сухоты і хваробы сэрца. Так, у маладым адносна веку памерлі ад сухотаў два старэйшыя браты, а пазней наступныя два браты і сястра памерлі ад хваробы сэрца.

У Свянцянскай павятовай школе Кастусь не меў спрыяльных умоваў. Жыў на станцыі ў знаёмых мяшчанаў, а карміўся пераважна сухарамі з чорнага хлеба і малочнымі прадуктамі, якія што нейкісь час давозіў яму бацька з адлеглых на 30 кіламетраў Бараняў.

Школьныя канікулы Кастусь праводзіць кожны год у Баранях, памагаючы дома ў гаспадарскіх занятках. Адначасна штотыдзень бывае ў Шайкунах, дзе паглыбляе сваю знаёмасць французскай мовы. Таму на экзамене ў Пецярбургу атрымоўвае самую высокую ацэнку за веду чужых моваў.

Кастусь не быў вельмі захоплены заняткамі і калегамі ў гарадской школе. Аб моладзі, з каторай ён спатыкаўся, казаў, што была яна пераважна малацікавай і безыдэйнай.

Пасля сканчэння гарадской школы ў 1905 годзе, з якой запамятае суровага настаўніка, што «адмяраў злосна ўдары лінейкай без ніякай прычыны і… што ён быў п’яніца горкі і маскаль наравісты»… — будзе помніць добра, што 1905 год быў годам першай расейскай рэвалюцыі. Яна ўсведаміла пятнаццацігадовага Кастуся ў недарэчнасці палітычнага і грамадскага жыцця на Беларусі. Доказам Кастусёвай зацікаўленасці сацыялістычным рухам у гэты перыяд была знойдзеная мною ў сярэдзіне дваццатых гадоў даволі багатая прапагандовая літаратура,

якая перахоўвалася ў хатняй бібліятэцы. Больш крамольныя матэрыялы я адкрываў пазней схаванымі паміж бэлек у Баранях.

Пасля гарадскога вучылішча Кастусь рыхтуецца да экзаменаў, каб паступіць у духоўную семінарыю. Перад выездам у Вільню ўвосень 1906 года пачынае больш цікавіцца рэлігійнай літаратурай, чытае многа твораў каталіцкіх пісьменнікаў, даступных яму ў польскай і французскай мовах.

## II

У Вільні, рыхтуючыся ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, падружыўся, разам жыў і вучыўся з Язэпам Германовічам — пазнейшым ксяндзом і пісьменнікам, вядомым пад псеўданімам Вінцука Адважнага. Там жа ўпершыню спатыкаюцца яны з беларускім адраджэнскім рухам, які гуртаваўся каля рэдакцыі «Нашай нівы».

У летнія месяцы 1906 і 1907 гадоў Кастусь жыве ў родных Баранях, рыхтуючыся да экзаменаў і займаючыся пчалярствам. Тут трэба заўважыць, што наш бацька апрача добрай земляробскай, лясной і рыбалоўнай практыкі быў адначасна вядомым у ваколіцы пчаляром.

Пад уплывам «Нашай нівы» Кастусь, будучы ў роднай вёсцы, пачынае займацца «беларушчынай», цікавіцца народнай творчасцю, запісвае і збірае народныя песні, казкі, легенды, прыказкі, скарбніцай якіх была перадусім родная бабуля. Дажыла яна да глыбокай старасці, да больш чым сотні гадоў. Помню, што памерла ў часе Першай сусветнай вайны.

Пад канец жніўня і да 15 кастрычніка 1907 года спатыкаем Кастуся разам з Язэпам Германовічам у Пецярбургу, дзе яны здаюць з добрым вынікам экзамены, неабходныя для паступлення ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю.

Сваё ўражанне з Пецярбурга Кастусь запіша так у сваім дзённіку: «Першае ўражанне на Фантанцы — прыкрае-балючае. Выгрузка вугля. Людзі чорныя, брудныя… А тут палацы, помнікі… На крыві і касцях стаіць харошы горад… Экзамены пайшлі добра. За французскую — 5…»

З восені 1908 года Кастусь займаецца ў каталіцкай духоўнай семінарыі ў Вільні, якая знаходзілася пад кіраўніцтвам архібіскупа Э. Ропа, вядомага прыхільніка беларускай мовы ў касцёлах. Аднак большасць выкладчыкаў-прафесараў былі палякі, з гэтай прычыны панаваў у семінарыі польскі нацыянальны дух. Не зважаючы на гэта, у семінарыі вучыцца і канчае значная група ксяндзоў-беларусаў. Сярод іх блізкімі Кастусёвымі калегамі і прыяцелямі былі Язэп Германовіч, Адам Станкевіч, Андрэй Цікота, Вінцэнт Гадлеўскі, Віктар Шутовіч, Цыпрыян Лазоўскі, Міхал Бобрык і іншыя, вядомыя добра з працы на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння, асабліва ў галіне ўвядзення беларускай мовы ў касцёле.

Перад паступленнем у духоўную семінарыю Кастусь запісаў у сваім дзённіку: «І чаго мне жалець, кідаючы гэта сумнае жыццё? Дастаткаў свету? — Яны не запоўняць пустаты майго сэрца. Значэння ў людзей? — Яно ніколі не задаволіць мяне. А можа, пахвалаў людскіх? — Ах, нічога яны не варты: родзяць жуду і неспакой. Можа, сваякоў ці прыяцеляў сваіх? — Большая частка іх пайшла ўжо да Бога, да вечнасці і чакаюць мяне… У Бога, у аднаго Бога ёсць усякае дабро маё, вялікасць мая, хвала мая, шчасце маё, супакой сэрца майго…»

Гэтыя словы сведчаць аб рашучай і цвёрдай пастанове, згоднай з жаданнем бацькоў, — стаць ксяндзом. Пацвярджае гэта і ўсё яго жыццё, пасвечанае ў цэласці службе Богу і Бацькаўшчыне.

А ў семінарыі цягнецца пакутлівая праца, так што ў канцы трэцяга года навукі семінарская студыйная сістэма зламала Кастуся, і для ратавання свайго здароўя — пачыналіся сухоты — трэба было выехаць у горы, у спрыяльныя кліматычныя ўмовы. Гэтая хвароба была выяўлена ў 1912 годзе і згодна з радай лекараў зіму 1912 на 1913 год Кастусь праводзіць у Закапаным.

23 кастрычніка 1912 года піша Кастусь першы свой верш па-беларуску — «Да імяніны майго пробашча». На пачатку 1913 года перасылае ў рэдакцыю «Беларуса» свае творы. Верш «Прад Богам» друкуе «Беларус» у нумары 28-м з 1913 года. Адначасна з вершамі паяўляюцца ў гэтым часопісе рэлігійныя артыкулы Каз. Сваяка, а таксама публіцыстычныя артыкулы на грамадскія тэмы.

У траўні 1913 года Кастусь вяртаецца дамоў пасля паўгадовай курацыі ў Закапаным. У жніўні гэтага года чытаем у яго дзённіку вельмі характэрныя для таго гістарычнага перыяду запісы аб гарачай любові Кастуся да сваёй Бацькаўшчыны і беларускага народа: «Ад доўгага часу чую да цябе, Маці-Беларусь, асаблівую прывязанасць — і болей чым прывязанасць: надта гэта адчуццё глыбока зарылася ў сэрцы — пэўна, гэта міласць, каханне з сэрца. Люблю я цябе і сільна люблю. Аб'ехаў я ўжо нямала свету, шукаючы красы і праўды, а найбольш бачу тэй і другой у сваім родным краі, у сваёй мілай зямельцы. Стройныя горы і даліны ў Татрах, прыемны малюнкі ў зямлі кракаўскай, а ўсё ж цуднейшы наш бор вяльможны, пякнейшыя роўні і гаі нашы: страйнейшыя, бо гавораць проста да душы тваёй, а мова іх пранікае цябе цэлага, лечыць раны сэрца твайго. О, хараство тут неапісанае, бо роднае, простае — як душа русняка. Ты, браце беларусе, выдаешся мне лепшым ад другіх народаў. Ты пакрыўджаны і нешчаслівы, пакінены праз многа сваіх родных сыноў і дочкаў, адданы на здзек чужынцаў — і то здаўна — ты бедны, гаротны. І тут, пэўна, ляжыць прычына, чаму ты так блізкі сэрцу і душы маёй. Цябе не сказіў фальш, не ляжыць на тваіх плячах крыўда чужая: свая толькі ўрэзалася крывава на іх і хіліць цябе да зямлі. Праўда і шчырасць жыве яшчэ ў душы тваёй — недарма ж называюць цябе «простым», даючы спазнаць, што другія народы здаўна ўжо скрывіліся. Пазнай толькі добра, хто ты, гарніся да

прасветы, а станеш сільным: а гэта сіла дасць волю духу твайму, так цяжка загнанаму і пакрыўджанаму…

…Не хачу я пакінуць цябе, Маці-Беларусь, хоць хутка мус скажа ізноў развітацца з табой. Хачу служыць табе, хачу аддаць сябе для дабра душы тваёй. А яна — душа твая — чакае ахвяраў. Патрэбны ахвяры, калі мае прыйсці выбаўленне».

Пад датай 13 жніўня 1913 года знаходзім у Кастусёвым дзённіку наступны вельмі характэрны запіс пра тое, што пакліканы ён, каб стацца беларускім пісьменнікам: «Сягоння, слухаючы звон наш цудоўны касцельны, раблю пробу аддаць уражанне вершам. Па-польску пішуць усе. Беларусь — сірата: смяюцца з яе мовы. Я люблю бедных, апушчаных… Буду пісаць па-беларуску. Мова беларуская ёсць гладкай і згучнай: можа служыць і да паэзіі (але сам сябе я да паэтаў залічыць не важуся). Пастараюся выгладзіць стыль свой беларускі».

Згодна з гэтай пастановай у 1913 годзе пачынаюць паяўляцца ў беларускай прэсе першыя творы Казіміра Сваяка; пад гэтым псеўданімам друкавалася большая частка твораў Кастуся.

Увосень 1913 года яго здароўе пагаршаецца, і лекары радзяць яму выехаць у горы для далейшага лячэння. Такім чынам, зіму 1913 на 1914 год Кастусь праводзіць у Закапаным, адкуль у снежні 1913 года піша да брата Альбіна ў Казань: «Забраўся я на длужшы час ізноў сюды. Жыву цяпер ужо зусім у новым месцы ў доме здароўя каталіцкай маладзяжы. Маю тут за таварышаў лепшую тутэйшую моладзь, паміж каторымі ёсць студэнты. Плачу нядорага, так што буду магчы прабыць некалькі месяцаў» (паводле адкрыткі з Закапанага).

У паштоўках, пісаных увесну 1914 года з Закапанага да Альбіна ў Казань, выяўляецца радасць, што вяртаецца дамоў на Вялікдзень зусім здаровым.

Па дарозе да «бацькоўскай хаты» затрымаўся яшчэ ў калегі кс. Язэпа Германовіча, вікарыя ў Даліставе, у Беластоцкім павеце тагачаснай Гродзенскай губерні.

Вярнуўшыся дамоў, жыве на перамену або ў Вільні, дзе канчае духоўную семінарыю, або ў Баранях ці Клюшчанах. На ксяндза высвенціўся Кастусь вясной 1915 года ў Пецярбургу.

## III

Нейкі час, у першых месяцах свайго святарства, Кастусь быў вікарыем у парафіі Камаі Свянцянскага павета. Але больш за ўсё цягнулі яго родныя клюшчанскія ваколіцы.

З Клюшчанамі цесна звязана яго першая самастойная, шырокая рэлігійная і грамадская дзейнасць. Тут пачынае ён выпаўняць усе рэлігійныя абрады як малады яшчэ каталіцкі святар. Тут адпраўляе першыя набажэнствы, у якіх чуецца беларуская мова падчас казанняў. Тут арганізуе настаўніцкія курсы для закладзеных ім за нямецкай акупацыі ў Першую сусветную вайну беларускіх школ. Адначасна

творыць арганізацыю моладзі клюшчанскай парафіі, якая прыняла назву «Хаўрус Сваякоў».

Праца ў Клюшчанах была для Кастуся вельмі дарагой справай, да якой ён прыкладаў многа энергіі. З любоўю адзываецца аб гэтай парафіі ў вершы «Тэстамэнт»…

Працу на беларускай культурнай ніве пачынае Кастусь ад арганізацыі перадусім касцельнага хору, з якога хутка развіўся «Хаўрус Сваякоў». У хоры было да 40 асоб, якія аўтаматычна сталіся ўдзельнікамі «Хаўрусу Сваякоў». Сябрамі «Хаўрусу» былі між іншымі Адольф Клімовіч, будучы інжынер, аграном і вядомы беларускі дзеяч у міжваенным перыядзе (памёр у Вільні 24.XI.1970 г.), Ракіцкі — вельмі здольны малады, рана памёршы мастак, Віктар і Валянціна Смаленскія, а таксама некалькі іншых беларускіх настаўнікаў і моладзь з акалічных вёсак, прозвішчы якіх я не памятаю.

Хор апрача касцельных матываў спявае і беларускія народныя песні. «Хаўрус Сваякоў», побач рэгулярных спевак хору, ладзіць лекцыі, літаратурныя вечары з беларускімі дэкламацыямі. Святкуючы першыя ўгодкі існавання хору, чыталі рэферат на тэму «Аб беларускай песні» (яго напісаў Кастусь, а чытаў адзін з сяброў хору).

Разам з хорам у «Хаўрусе Сваякоў» узнікла сцэнічна-драматычная група, якая пастанавіла зладзіць беларускае прадстаўленне. Трэба было толькі выбраць сцэнічны твор. На сходзе драматычнай групы Кастусь абавязаўся падабраць адпаведную для нашага вясковага жыцця п’есу. Сеў адразу да работы і пасля некалькіх дзён прынёс свежа напісаны ім сцэнічны абразок у 5-ці дзеях пад назваю «Праклённае зелле».

У ваколіцах клюшчанскай парафіі было даволі распаўсюджана п’янства. Кастусь быў яго заядлым ворагам. Змагаючыся з гэтаю плягаю, Кастусь напісаў некалькі артыкулаў, публікаваных у часопісе «Беларус». У 1913 годзе выйшла друкам спецыяльная яго брашура «Алкаголь». Будучы ксяндзом, ён вельмі часта кляйміў у сваіх казаннях з амбоны гэты ненавісны звычай.

«Праклённае зелле» на трагічным прыкладзе паказвае, якім няшчасцем для нашай вёскі з’яўляецца гарэлка.

Прадстаўленне «Праклённага зелля» адбылося 12 чэрвеня 1916 года ў спецыяльна абсталяваным гумне аднаго з сяброў «Хаўрусу Сваякоў» Віктара Смаленскага. Народу было амаль поўнае гумно. Знаходзілася яно па суседстве з касцёлам, так што многа гледачоў пасля набажэнства прыйшло адразу на прадстаўленне.

Не вельмі многа памятаю здарэнняў з тых часоў, калі мне было толькі сем гадоў. Але гэтае прадстаўленне захавалася ў маёй памяці.

Памятаю яшчэ вельмі прыгожыя каляровыя праграмы прадстаўлення, намаляваныя іншымі сябрамі «Хаўрусу Сваякоў». Некалькі такіх праграм доўга перахоўвалася ў бібліятэцы Кастуся, але згінулі з усімі кнігамі падчас пажару ў Вільні, калі згарэла ўсё памяшканне старэйшага брата Янкі.

«Праклённае зелле», пад пазней зmененаю назваю «Янка Канцавы», у 1922 годзе атрымлівае прэмію на першым конкурсе драматычных твораў, абвешчаным Беларускім музычна-драматычным гуртком у Вільні. «Янка Канцавы» быў надрукаваны ў 1924 годзе, у нумарах 48–53 «Грамадскага голасу», а ў 1925 годзе выйшаў з друку асобнай брашураю.

У Клюшчанах разгарнулася таксама дзейнасць Кастуся на школьнай ніве. Падчас нямецкай акупацыі ў Першую сусветную вайну паўстала магчымасць арганізацыі беларускіх школ, але неставала настаўнікаў. І ўзімку 1915 года Кастусь арганізуе кароткія беларускія настаўніцкія курсы, так што ў 1916 годзе паўстала магчымасць залажыць у клюшчанскай парафіі сем беларускіх школ. Усімі бацькамі было згодна прынята, каб малодшыя дзеці вучыліся па-беларуску, а для старэйшых вучняў выкладалася дадаткова польская мова. Такі парадак існаваў на працягу 3–4 гадоў працы гэтых школ. Пасля прыходу польскай улады беларускія школы былі закрыты або пераменены на польскія.

Адна з гэтых сямі школ знаходзілася ў нашай роднай вёсцы, у Баранях. Займала яна адну палавіну бацькавай хаты. Я быў там адным з вучняў першага класа. На другі год існавання школы, калі павялічылася колькасць вучняў, перавялі яе ў большае памяшканне ў хаце недалёкага суседа, Вітаўта Буйкі.

Настаўніцай у нашай школе была Валя Смаленская. Яна прыязджала ў нашу школу з Клюшчанаў. Агульнае кіраўніцтва над усімі клюшчанскімі беларускімі школамі фактычна выконваў Кастусь, які часта наведваў школьныя заняткі.

Іншай галіной дзейнасці Кастуся было ўвядзенне беларускай мовы ў касцёле. Гэтая праблема заўсёды была звязана з думкамі Кастуся аб рэлігійнай уніі на Беларусі. Пра гэта ён часта казаў і пісаў. Успамінаецца аб гэтым у яго дзённіку ўжо на пачатку духоўнай працы: «Справа беларушчыны зачынае прымаць зусім праўдны характар. Там, дзе складаецца арганізацыя якая-кольвечы, дабывае права для сваёй мовы і звычаю. Як можна дадумацца, зложыцца звольна і касцельнае жыццё з правам для мовы роднай. «Гоман» віленскі ясна даводзіць патрэбу адбудовы уніі — «адвечнай веры бацькоў нашых…» Пад гэтым новым павевам і я ў сваім родным касцёле сказаў 21.XI.1915 г. добрую часць казання роднай гаворкай».

Няможна сказаць, што гэтая беларуская адраджэнская работа давалася Кастусю гладка і без перашкодаў. Ад часу да часу падымалі галовы заўзятыя ворагі беларускага руху. Былі яны, хоць і не вельмі шмат, і ў клюшчанскай парафіі. Аб гэтым так напіша Кастусь: «Паўсталі такжа проціў мяне і паны. Яны былі нездаволены з майго сяброўства з «простымі». Даказвалі яны народу, што беларушчына — справа шкодная для каталіцкага касцёла, што шырыць умілаванне гэтай «рускай» гаворкі не мае сэнсу, што касцёл тутэйшы быў заўсёды польскім і г. д. Адзін з іх перадаў вестку ў Вільню, што парафія Клюшчаны беларусіцца».

Кастусь вельмі высока цаніў сваю працу сярод моладзі ў «Хаўрусе Сваякоў» і ўсякую грамадскую працу ў вёсках клюшчанскай парафіі падчас цяжкіх гадоў Першай сусветнай вайны, асабліва падчас тыфознай заразы і агульнай галадоўкі. «Хаўрусу Сваякоў» у Клюшчанах ён 24.IX.1919 г. прысвяціў нават верш.

## IV

У канцы 1916 года Кастусь развітаецца з дарагімі яму Клюшчанамі. Духоўная ўлада прызначае яго вікарыем у Карыціне на Беласточчыне. Перад ад'ездам з Клюшчанаў запіша ў сваім дзённіку: «Бывай здарова, родная старонка! Глыбокая, моцная сувязь злучыла мяне з табой. Тут я найшоў сілу да жыцця, тут пазнаў ясныя хвіліны супакою; тут найшоў новыя намэты працы хаўруснай, тут спазнаў, як сумна жывецца гаротнаму селяніну ў цемры, грэху і блудзе забітасці».

Неахвотна пакідаў Кастусь Клюшчаны, як бы прадчуваў, што новая мясцовасць і яе атмасфера працы вельмі пашкодзяць яго здароўю. Дагэтуль яшчэ не знаў Беласточчыны. Не ведаў, што ў Карыціне большасць жыхароў парафіі гаворыць па-беларуску, а іх гутарка мала розніцца ад надвілейскай.

Цяжкія ўмовы працы ў новай парафіі, непрыхільныя адносіны да яго пробашча, паляка, прысяшаюць развіццё яго хваробы. Святарскіх заняткаў было тут вельмі многа, а здароўе — слабое. Мясцовы пробашч стараўся паменшыць сабе работы, перакідаючы як мага большую частку на плечы маладога вікарыя. Перадусім даручае Кастусю заняткі з касцельным хорам і з грамадой дэвотак. Усе гэтыя заняткі мелі выключна касцельны характар. Для культурнай беларускай працы не было спрыяльных умоў.

Але нягледзячы на гэта Кастуся не пакідае ахвота да беларускай культурнай дзейнасці. І вось на занятках з моладдзю ў хоры прапяяў некалькі беларускіх песняў, расказаў некалькі народных казак і прадэкламаваў пару цікавых беларускіх вершаў Францішка Багушэвіча і Янкі Купалы; даў прачытаць некалькі беларускіх кніжак. Кастусь адзначае гэта ў сваёй «Дзеі»: «Відзеў я на гэтых успробах, што "вочкі іх гарэлі". Але тут пачынаецца гэтае блуднае кола. Сёння мой пробашч пры абедзе знячэўку пытаў: "Хто гэта даў да чытання беларускую кніжыцу, што чытаюць у мястэчку сабраўшыся вечарам?" Адказаў я, што гэта мая работа. "Няхай ксёндз не заводзіць тутака ніякай навасці. Прашу не шырыць ані песняў, ані казкаў, ані дэкламацыяў беларускіх!" Я даў сваю згоду (!). Чаму?.. Пробашч пасля выясніў, што гэтага вымагае касцельная палітыка ў Вільні (!). Гэтага хоча касцельны ўрад. Ёсць бо небяспека, што ад умілавання роднай мовы пачне беларус дамагацца нават рэформы ў касцёле».

Ствараюцца ненармальныя адносіны на плябаніі: «блуднае кола яшчэ больш сцісняецца». Кастусь знаходзіць такое выйсце. Калі хто загаворыць аб «беларускасці», Кастусь пытае: «Ці ты лічыш сябе бела-

русам? Калі “так” — добра, будзем аб гэтым гаварыць, калі “не” — дай спакой, мне аб гэтым нявольна з табой талкаваць!».

Вясной 1917 года пачынаюць расходзіцца плёткі аб карыцінскай плябаніі, аб вікарыі, што пашырае «беларускасць». Спевакі расказваюць, што паводле слоў пробашча вікарый мала спавядае парафіянаў. Яго сакрэтна перасцерагаюць, каб забраў беларускія кніжкі, калі каму-небудзь пазычыў.

Ходзяць чуткі, што з ксяндза вікарыя вельмі незадаволена плябанія за пашырэнне думак аб Беларусі і аб адраджэнскім руху.

3 ліпеня 1917 года Кастусь запісвае ў сваім дзённіку: «Сцены тутака маюць вушы. Парафія ўжо гамоніць аб маім выездзе. А мо прадчуваюць?.. “Хору вучыць няможна”. Атрымаўшы такі прыказ, я закінуў работу над ім. Кожнае маё слова, кожны рух нават у касцёле нехта наглядае».

А тым часам справа выглядае вельмі сумна. Пачынаючы ад новага 1917 года Кастусь плюе крывёй. Да палавіны гэтага ж года здароўе ўсцяж пагаршаецца. Паводле слоў Кастуся, ён аддае гэтай парафіі «праўдзівую сваю кроў». Некалькі разоў з горла ідзе моцна кроў. У жніўні 1917 года ў дадатак дастае запаленне лёгкіх. У выніку праляжаў хворы аж да вясны 1918 года, калі пакідае Карыцін і выязджае лячыцца ў Закапанае.

Там быў спачатку ў санаторыі, а ў палавіне сакавіка таго ж года жыве на прыватнай кватэры ў «гураля на Быстрым». На працягу наступных месяцаў, да ліпеня 1919 года, працуе капеланам у Кліматычным Шпіталі.

У ліпені 1919 года, не вяртаючыся ўжо ў Карыцін, накіроўваецца Кастусь з Закапанага ў Клюшчаны. Але па дарозе пастанаўляе адведаць свайго калегу Язэпа Германовіча, які быў тады пробашчам у Лапеніцы пад Ваўкавыскам.

Кастусь, будучы безупынным змагаром за ўвядзенне беларускай мовы ў касцёле, выкарыстаў сваю прысутнасць у Лапеніцы, каб выступіць на амбоне з казаннямі ў беларускай мове.

27 ліпеня 1919 года Кастусь першы раз гаворыць у лапеніцкім касцёле беларускую навуку. Успамінаючы аб гэтым, звяртаў увагу, што выклікала яна вялікае зацікаўленне, не толькі сярод каталікоў, але і сярод праваслаўных жыхароў парафіі.

У наступную нядзелю, 3 жніўня, выступае ў касцёле з другім беларускім казаннем. Аб гэтым так запісвае ў сваім дзённіку: «Спачатку адзін голас (на хорах) нездаваленне. Ніхто ўжо не ўсміхаецца, толькі двух дзецюкоў крышку маніфестацыйна выходзяць з касцёла».

Аднак справа выглядала не так проста, як думалі нашы ксяндзы ў Лапеніцы. За пару дзён прыходзіць пісьмо ад дэкана, каторы рашуча забараняе пропаведзі ў касцёле на беларускай мове.

15 жніўня Кастусь запіша ў сваім дзённіку: «Зельная. Людзі спадзяваліся беларускага казання. Нездаваленне было лёгка адчуць…

Было сёння ў касцёле шмат і праваслаўных, каторыя спадзяваліся беларускай навукі».

Ворагі беларушчыны не забываюць прадаўжаць змагання з усякімі спробамі ўвядзення беларускіх казанняў у касцёле. 17 жніўня адбываецца ў дэкана з'езд ксяндзоў, на каторым быў прыняты пратэст супраць выкарыстання беларускай мовы ў касцёле. Пробашчу ў Лапеніцы, ксяндзу Я. Германовічу, аб'яўляецца байкот з боку ўсяго дэканату.

Тут трэба было б успомніць, што змаганне ксяндзоў-беларусаў за распаўсюджанне беларускай мовы ў касцёле цягнулася безупынку праз увесь міжваенны перыяд. Кастусь бачыў у гэтым дарогу да сінтэзу рэлігійнага і нацыянальнага адзінства беларускага народа. У 1921 годзе ён звяртаецца да ксяндзоў-беларусаў, падпісаўшы сам, як «ксёндз-беларус», — між іншым з такімі словамі:

«Кожны ксёндз-беларус павінен:

1. Пільна спасцерагаці-сачыць працэс народнага даспявання беларусаў, каб не адстаць ад агульнага культурнага развітку душы народнай.

2. Старацца ўвесці ў свае парафіі еслі не заўсёды, то перыядычна ў большыя святы, навуку па-беларуску, а таксама арганізаваць беларускі спеў рэлігійны на хоры.

3. Прычыняцца як мага да выдавецтва рэлігійнага, каб мець гатовы матэрыял у запатрабаванні на нашу творчасць.

4. Быць у жыцці народнікам і карыстацца мовай беларускай згодна з псіхікай нашага народа і паводле засады: "Не прымушай, але праканай…"»*

У Лапеніцы Кастусь думае разам з ксяндзом Германовічам заняцца арганізацыяй беларускага школьніцтва на вёсцы. З гэтай мэтай склікаюць сход сялян з вёсак Вялікая Лапеніца, Малая Лапеніца, Боркі, Мухалы, Дзямідавічы і Грыневічы. Сход пастанаўляе адкрыць дзве школы ў Малой Лапеніцы і адну ў Вялікай Лапеніцы. Згодна з пастановай сходу, навука ў гэтых школах павінна адбывацца на беларускай мове з польскай мовай як дадатковым прадметам. Так выглядала справа з пачаткам арганізацыі беларускіх школ у лапеніцкай парафіі. Як яна развівалася ў пазнейшым часе, ніякіх вестак у Кастусёвым дзённіку не знайшлося. Найбольш праўдападобна, што спаткаў іх такі самы лёс, як і клюшчанскіх школ, якія пасля прыходу польскай улады былі закрыты або пераменены на польскія.

Пад канец гасціны Кастуся ў Лапеніцы прыходзіць яшчэ пісьмо ад біскупа, выкліканае даносам дэкана, у якім забараняецца ўводзіць беларускія казанні, яны быццам прыносяць шкоду касцёлу.

Гасціна Кастуся ў Лапеніцы, у свайго вялікага прыяцеля ксяндза Язэпа Германовіча, была перапоўнена цікавымі і пазітыўнымі заняткамі, была адначасна некаторым супачынкам пасля няўдзячнай і цяжкай працы вікарыя ў Карыціне.

---

* «Крыніца». 1921. № 24.

Зімой 1919/20 года Кастусь прадаўжае лячыцца ў Закапаным, адкуль вяртаецца дамоў у маі. Для пастаяннай працы ў парафіі яшчэ не хапае яму сілы. Часова пасяліўся ў мястэчку Падброддзе, што ляжыць пры чыгуначнай лініі Вільня–Турманты. Шмат часу ў гэты перыяд аддае літаратурнай творчасці. Тут канчае пісаць навуковую гістарычную працу аб уніі на Беларусі.

Калі пачалася польска-савецкая вайна, Кастусь пераязджае з Падброддзя ў Клюшчаны, дзе падчас прыходу чырвоных войск заступае ўцёкшага пробашча. Тут жа атрымлівае яшчэ дадатковую функцыю таксама тымчасовага пробашча апушчанай парафіі ў Буйвідзах. У канцы 1920 года духоўныя ўлады прызначаюць яго сталым пробашчам у Засвіры, дзе ён будзе жыць аж да сваёй смерці ў 1926 годзе, выязджаючы часта на курацыю ў Закапанае.

## V

З засвірскай парафіяй звязана найбольш інтэнсіўная літаратурная і грамадская дзейнасць Кастуся ў апошнія гады ягонага жыцця. Дзеля гэтага варта звярнуць большую ўвагу на гэтую мясцовасць і на ўмовы, у якіх яму даводзілася працаваць.

Была гэта малая парафія, да якой належала пяць невялікіх вёсак (Засвір, Коркі, Унукі, Ключаткі і Дубнікі) на паўночны ўсход ад мястэчка Свір — даўнейшай сядзібы князёў Свірскіх. Адлегласць яго ад Засвіра, напрасткі цераз возера, лічыла ўсяго тры кіламетры, але, каб абмінуць кругом канец возера, трэба было зрабіць каля васьмі кіламетраў.

Жыхары парафіі — гэта пераважна беларусы, каталікі і жменька праваслаўных. Касцёл быў стары і знішчаны. Перад вайной была гэта праваслаўная царква, перароблена пасля паўстання 1863 года з кармеліцкай кляштарнай святыні. Пасля прыходу польскай улады па Першай сусветнай вайне праваслаўную царкву перарабілі на каталіцкі касцёл, і першым пробашчам быў там прызначаны Кастусь.

Забягаючы ўперад, можна ўспомніць, што, калі ў 1927 годзе ў Вільню прыехалі аднекуль манахі-кармеліты, віленская газета «Беларуская крыніца» напісала: «Віленскі арцыбіскуп аддаў пакляшторныя муры ў Засвіры, дзе праз некалькі гадоў быў пробашчам ксёндз Стэповіч. Кармеліты былі там да паўстання 1863 г., жылі ў Засвіры на правах абшарнікаў, на якіх сяляне адбывалі паншчыну. Манахі ж маліліся, паланізавалі і варылі піва (мелі бровар). Ці ж бы яны хацелі ўзнавіць свае традыцыі?..»*

Вядома, што апроч пастановы тагачаснага віленскага арцыбіскупа ўзнавіць даўнюю традыцыю манахам не ўдалося. Гістарычныя падзеі пайшлі зусім другой дарогай.

---

* «Беларуская Крыніца». 1927. № 30.

Калі пробашчам у Засвіры быў Кастусь, да касцёла належала ўдобная зямля, якую «напалавіну» абрабляў стары яшчэ царкоўны «палавічнік» прозвішчам Налівайка — праваслаўнай рэлігіі. Помню, што Кастусь яго вельмі шанаваў як чалавека высокай чэснасці і справядлівасці. Нічога я не чуў пра далейшы лёс гэтага чалавека, не ведаю, ці застаўся ён пры касцельнай зямлі пасля смерці Кастуся.

Добра яшчэ памятаю, што пры кляштары быў стары вялікі сад, у якім было многа фруктовых дрэваў. Навакол саду раслі старыя, некалькісотгадовыя дубы, утвараючы прыгожую палісаду ўздоўж сцежак-дарожак.

Размяшчэнне ўсёй касцельнай сядзібы было вельмі прыгожае. Да касцёла і кляштарных муроў з боку Свірскага возера падыходзіў сасновы лес, а з другога боку былі вясковыя хаты з гаспадарчымі будынкамі і гародамі. Засвірскі касцёл з прылеглымі да яго кляштарнымі мурамі знаходзіўся на невялікім узгорку, з якога рассцілаўся вельмі прыгожы краявід на недалёкае возера і навакольныя сялянскія сялібы.

У часах Першай сусветнай вайны Засвір знайшоўся ў франтавой паласе. У кляштарных мурах размяшчаўся нямецкі ваенны франтавы шпіталь. Памяць пра яго засталася вялікім ваенным магільнікам, крыжы якога знаходзіліся пад вокнамі кляштарных келляў, сярод якіх памяшчалася парафіяльная плябанія. Памёршыя ў шпіталі ці палеглыя на недалёкім фронце нямецкія салдаты спачывалі пад выраўненымі па-ваеннаму крыжамі з імем, прозвішчам, абазначэннем вайсковага чыну, даты нараджэння і смерці пахаванага.

Для Кастуся старыя, двухсотгадовыя, тоўстыя і вільготныя муры не былі карысным памяшканнем. Напэўна, гэтыя ўмовы мелі толькі прысспяшаць далейшае развіццё сухотаў, нягледзячы на тое, што кожны год па некалькі месяцаў праводзіў Кастусь у Закапаным.

Будучы ў гэтым часе вучнем Віленскай беларускай гімназіі, усе летнія і святочныя канікулы я праводзіў з Кастусём у Засвіры. Хоць з тых часоў мінула ўжо больш чым паўвека, я вельмі добра памятаю перажываныя тады здарэнні. Памятаю кожны кут у засвірскай плябаніі і ваколіцы. Памятаецца доўгі, цёмны калідор, з дзвярамі да кляштарных келляў. Ён пачынаўся ў касцельнай закрыстыі і цягнуўся да апошніх келляў. Да закрыстыі прылягалі ўваходныя сені, далей была кухня, пакой службы, сталовая, супольны пакой нашай маці і мой, а ў канцы калідора — два пакоі Кастуся і забудаваная многімі паліцамі багатая бібліятэка. Усе памяшканні былі ў сапраўднасці малымі кляштарнымі келлямі, за выключэннем сталовай, якая спаўняла тую самую ролю і ў даўнейшыя часы (кляштарны «рэфектар»).

Кляштарныя муры былі пабудаваныя ў форме падковы, абодва канцы якой упіраліся ў касцёл. Адно крыло гэтай падковы даходзіла да касцёла перад галоўным алтаром, а другое выходзіла да галоўных дзвярэй, у так званы бабінец. У сярэдзіне гэтай падковы, акружанай мурамі кляштара, знаходзіўся агарод. Плябанія займала паўднёвае крыло кляштарнай падковы. Паўночнае і ўсходняе крыллі гэтай пад-

ковы знаходзіліся пад адзінай супольнай страхой. Іх займаў прытулак для ваенных сірот.

Вось з адміністрацыяй гэтага прытулку была звязана «апека», якую адчуваў Кастусь з боку польскага ўрада. Аб крыху, здавалася б, несамавітай гісторыі пісаў Кастусь у сваім дзённіку 5 ліпеня 1921 года: «Сёння ўночы меў дзіўную рэвізію. Падчас, калі я быў з братам і клерыкам (яго прозвішча Казімір Кісель. Памёр 7 снежня 1941 г. — *Б. С.*) у садзе заняты гутаркай, залез якісь сышчык у кватэру, перабраў і растрос чуць не ўсе кніжкі, параздзіраў канверты, percатрос ложкі, і след па ім застыў. На гэта могуць адважыцца толькі заклятыя ворагі беларусаў».

Справа не была тады для нас ясная: хто і чаго шукаў у пакоях пробашча? Дзверы, я помню, амаль ніколі не замыкаліся на ключ. З часам справа высветлілася, калі я пазней пераглядаў гадавік польскага часопіса, які выходзіў у Вільні пад загалоўкам «Пшэглёнд Віленьскі». І вось у пятым нумары за 1926 год можна было прачытаць інфармацыю аб скандальнай працы свянцянскага самаўраду (староства), зладзейскай гаспадарцы ў засвірскім прытулку для дзяцей і адносінах да мясцовага пробашча, ксяндза Стэповіча. Вось арыгінальная цытата з названай вышэй газеты: «У дзіцячым прытулку ў Засвіры, якім кіруе нейкая Кусто, дзеецца, на шкоду для грамадскага дабра, замена гадаваных прытулкам свіней на іншыя рэчы меншай вартасці, бескантрольна збіраюцца ахвяры і падарункі натураю на прытулак, і гэта ў той час, калі дзеці фактычна галадаюць, персанал прытулку з той самай кіраўнічкай на чале наладжвае для сваёй пацехі шыкоўныя прыёмы, застаўляючы сталы прадуктамі, прызначанымі галодным дзецям. Трэба сказаць, што перыядам самых шумных забаў і п’янак быў час, калі ў прытулку са згоды і паводле загаду кіраўніка працавала як выхавацелька платная канфідэнтка палітычнай паліцыі нейкая п. Варша, заданнем якой было сачыць за пробашчам кс. Стэповічам; пасля яе звальнення гэтай агіднай работаю займалася кіраўнічка прытулку Кусто, дзякуючы чаму, відаць, пазбегла рэвізіі бухгалтэрыі і рахункаводства пры ліквідацыі таго ж прытулку ў пазнейшы час».

Цяпер справа выглядае цалкам яснай, што яўныя і няяўныя рэвізіі рабіліся ў Сваяка па загаду свянцянскага старасты. Не цяжка было даносіць дэфензіве аб усім, што рабілася ў плябаніі, калі тут жа, пад адной страхой, жылі шпіёны з пільнаванай асобай, на якую старанна збіраліся матэрыялы, каб можна было паставіць перад судовай адказнасцю за працу на беларускай ніве.

Хворы Кастусь часам не меў магчымасці сістэматычна лячыцца, бо знаходзіўся пад дамовым арыштам (у 1922 годзе), гэта абазначала, што без дазволу свянцянскага старасты не меў права выехаць з Засвіра. А дзеелася ўсё дзеля таго, каб трымаць хворага чалавека пад пастаянным тэрорам. Усё гэта стала зразумелым пазней, калі пасля некалькіх гадоў следства і збірання розных матэрыялаў справа была канчаткова

зліквідавана. Забраныя ў Кастуся рукапісныя літаратурныя творы, старонкі дзённіка, рэлігійныя і навуковыя матэрыялы былі вернуты пракурорам за пару дзён перад смерцю паэта.

А тым часам у выніку дзейнасці Кастуся пачынае хутка ў ваколіцы пашырацца беларуская нацыянальная свядомасць. Мала таго, што новы пробашч паслугоўваецца заўсёды беларускай мовай на плябаніі і ў гутарцы з парафіянамі, але ў гэтага ксяндза можна заўсёды дастаць беларускую кніжку і свежую беларускую газету.

А ворагі не спяць. Апрача суседскай «інвігіляцыі» швэндаюцца каля касцёла і плябаніі нейкія цёмныя тыпы. Распушчаюць сярод сялян у парафіі ўсякія плёткі і бязглуздыя выдумкі. Стараюцца падгаварыць людзей, каб паслаць да біскупа ў Вільні скаргу на маладога пробашча і прасіць, каб прыслаў новага духоўніка, бо цяперашні ксёндз гэта «кацап» і «бальшавік». Кастусь гаварыў, што было ўрадавае пісьмо, у якім яму забараняюцца казанні па-беларуску. Але Кастусь і далей паслугоўваўся беларускай мовай у засвірскім касцёле аж да сваёй смерці. Гэты парадак быў зацверджаны біскупам Юрыем Матулевічам.

Паліцыя ў Свіры пачынае спецыяльна цікавіцца Кастусёвымі гасцямі. Хто ў яго бывае апрача парафіянаў? Хто і адкуль прыязджае? Чаго і пашто? Такія і падобныя пытанні стаўляюць гаспадыні Кастуся.

## VI

Кастусь наогул быў вельмі таварыскім чалавекам. Любіў, калі да яго часта прыходзілі ўсякія госці з рознымі справамі. На плябаніі амаль штодня можна было спаткаць не толькі людзей з мясцовай, але нават з суседніх парафій, з Шэметава і са Свіра.

А з другога боку, ён сам часта адведваў сялян. Любіў зайсці да вядомага яму гаспадара, каб проста пагутарыць пра бягучыя справы, пра тое, што дзеецца на свеце, выслухаць уважна людскія турботы і даць патрэбную раду.

Запрашаў да сябе на плябанію і любіў, калі заязджалі да яго далейшыя госці. Асабліва цаніў ён тых, што былі свядомымі беларусамі і актыўна працавалі на беларускай ніве. Некаторыя з іх гасцілі ў Засвіры месяцамі. Такім быў, напрыклад, беларускі настаўнік на прозвішча Лемеш, які, здаецца, знаходзіўся ў цяжкай матэрыяльнай сітуацыі. Кастусь прывёз яго ў Засвір, вяртаючыся з аднаго выезду ў Вільню. На плябаніі казаў, што прывёз для мяне настаўніка. І праўда, той на летніх канікулах даваў мне лекцыі паводле гімназіяльнай праграмы. Калі я выехаў на заняткі ў гімназію, ён пасяліўся ў нейкай школе на Ашмяншчыне.

Нейкі час пражываў у плябаніі былы сябра «Хаўрусу Сваякоў» з Клюшчанаў, малады здольны мастак Ракіцкі. Кастусь даручыў яму намаляваць абраз святога Язафата для галоўнага алтара.

Язафат Кунцэвіч, які распаўсюджваў рэлігійную унію на Беларусі, быў архібіскупам уніяцкім і згінуў у Віцебску ў 1623 годзе. Між іншым, можна было б тутака ўспамянуць, што вядомы мастак І. Рэпін, аўтар вельмі многіх высакавартасных мастацкіх абразоў, намаляваў таксама абраз св. Язафата Кунцэвіча, названы «Казанне Язафата Кунцэвіча на Беларусі».

Кастусь, будучы вялікім энтузіястам уніі, лічыў сваім абавязкам ушанаваць памяць уніяцкага святога, прысвячаючы яго імені касцёл у сваёй парафіі. У сувязі з гэтым быў устаноўлены фэст у дзень гэтага святога, што абходзілі 16 лістапада.

Я не быў на фэсце, ані на ўрачыстасці пасвячэння новага абраза ў галоўным алтары, бо ў гэтым часе адбываліся гімназіяльныя заняткі, але маці расказвала мне, што ўсё адбывалася вельмі прыгожа, што было многа народу, былі ксяндзы з суседніх парафіяў, а ксёндз В. Гадлеўскі, пробашч з Жодзішак, меў у касцёле казанне па-беларуску.

А вось што пісаў аб гэтым «Праваслаўны беларус»: «16 лістапада м. г. у касцеле мястэчка Засвір на Свянцяншчыне па дамаганню католікаў-беларусаў ксяндзом было прамоўлена казанне роднай беларускай мовай. Трэба было бачыць, — піша карэспандэнт газеты, — з якой увагаю наш народ слухаў навуку на роднай мове. Вось, здаецца, кожнае слова так і хапалі. Усе былі дужа рады… Вось дзе добры прыклад для нашага праваслаўнага духавенства і праваслаўных беларусаў»*.

Быўшы ў Засвіры, Ракіцкі пакрыў малюнкамі панурыя сцены кляштарных памяшканняў. І так пасля прыезду на канікулы я ўбачыў намаляваныя вугалем на сценах сталовай мастацкія вобразы беларускіх тыпаў. Былі гэта павялічаныя копіі фатаграфіяў вядомага не толькі ў Вільні, але і ва ўсёй Польшчы фатографа-мастака Яна Булгака. На сценах у пакоях Кастуся паявіліся тыповыя беларускія краявіды. Вокны ў калідоры, з грубым зялёным шклом, прыпамінаючы часы, калі ў кляштары быў ваенны шпіталь, былі замаляваны каляровымі вітражамі на ўзор беларускіх народных арнаментаў. Аўтар усёй гэтай мастацкай творчасці заглядаў яшчэ некалькі разоў у Засвір. Не чуў я, калі і дзе памёр гэты блізкі прыяцель Кастуся і адзін з сяброў былога «Хаўрусу Сваякоў».

Другім даволі частым госцем у засвірскай плябаніі быў вядомы беларускі мастак і пісьменнік Язэп Драздовіч, аўтар повесцяў «Вар’ят без вар’яцтва» і «Вялікая шышка». З’яўляўся ён там неспадзявана і заўсёды радасна быў вітаны Кастусём. Хадзіў Драздовіч, як яго памятаю, у саматканай світцы і ў кароткім кажушку. У Засвіры вялі яны з Кастусём доўгія гутаркі, найчасцей на тэмы беларускага мастацтва, літаратуры, гісторыі і актуальных пытанняў беларускага адраджэнскага руху.

Між іншым, Драздовіч цікавіўся яшчэ археалагічнымі пытаннямі, звязанымі са свірскай ваколіцай. Вельмі прыцягвала яго свірская

* «Праваслаўны беларус». 1925. № 1.

гара, пасярод мястэчка, паблізу возера. Была яна даволі высокая і рабіла ўражанне штучна насыпанага вялікага кургана. З гэтай гары рассцілаўся шырокі і пекны краявід на ўсю ваколіцу, на прыгожае і доўгае возера.

Драздовіч спрабаваў нават рабіць па-аматарску раскопкі ў частцы гары. Але гэтая работа была не паводле яго магчымасцяў. Затое раскапаў курган-магілу паміж возерам і Засвірам. Паводле археолага У. Антановіча, курганы паходзілі з пазнейшага рымскага перыяду, гэта значыць з часоў паміж другім і чацвёртым стагоддзем нашай эры*. Знойдзеныя ў кургане прадметы Драздовіч перадаў Беларускаму музею імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

У Засвіры Драздовіч пакінуў Кастусю пару абразоў сімвалічнага зместу. Добра памятаю адзін з гэтых абразоў, які прадстаўляў на першым плане руіны вялікага ў агні старога замка, ад якога цягнуцца смугі дыму, утвараючы ў верхняй яго частцы постаці, якія ўглядаліся ў далёкі, асветлены крышталёвы палац. Абраз гэты, у выразных і размаляваных мастаком рамах, вісеў у пакоі насупроць Кастусёвага ложка.

У нумары 1 (2) «Студэнцкай думкі» з 1925 года ёсць артыкул Кастуся, падпісаны ініцыяламі «К. Св.». пад назваю «З нівы беларускага мастацтва». У гэтым артыкуле чуецца матыў, які проста выходзіць з вышэйапісанага абраза.

Спасярод іншых гасцей, што бывалі ў Засвіры, можна было б назваць частку мясцовай польскай інтэлігенцыі. Быў гэта ваколічны настаўніцкі персанал, а таксама некаторыя ўласнікі суседніх панскіх двароў. Тут можна ўспомніць між іншымі пана Людвіка Хамінскага з Альшэва, польскага «людовага» дзеяча, які даволі прыхільна адносіўся да беларускага адраджэнскага руху.

Частымі гасцямі ў Засвіры былі ўсе блізкія Кастусёвы сваякі. Перадусім бацькі і ўся радня. Маці жыла пастаянна на плябаніі. Была яна простай і вельмі набожнай кабетай. Чулася шчаслівай, жывучы пад адной страхой з касцёлам. Каб быць нават кожнага дня на набажэнстве, якое адпраўляў Кастусь, не трэба было і на двор выходзіць; даволі было прайсці дваццаць крокаў калідорам з яе пакоя-келлі да закрыстыі. Бацька часта прыязджаў з Бараняў, каб паслухаць навін у Кастуся. Прыязджалі з Вільні браты Кастуся Альбін і Янка, а таксама наймалодшы ў сям’і — Бэрнась.

Трэба тут успомніць хоць пару слоў пра Альбіна, каторы нарадзіўся 18.III.1892 года, а памёр 18.XII.1934 года і пахаваны ў адной магіле з Кастусём. Быў гэта кампазітар, публіцыст, палітычны дзеяч і пісьменнік. Пачынаў пісаць як карэспандэнт «Нашай нівы» пад псеўданімам Анупры Сярмяжны (глядзі, між іншым, «Наша ніва» № 3 і 4 з 1912 года). Скончыўшы музычную школу ў Вільні, ён быў напярэдадні Першай сусветнай вайны арганістам каталіцкага касцёла ў Казані над

* Antonowicz W. Czacy przedhistoriczne i wczcsnodzicjowe Ziemi Wileńskiej. Wilno i Ziemia Wileńska. T. I. Wilno, 1930.

Волгай. Адначасна вучыўся на юрыдычным факультэце Казанскага ўніверсітэта. Вярнуўшыся ў 1921 годзе з Казані, жыў пастаянна ў Вільні, дзе быў па чарзе настаўнікам спеваў і музыкі ў віленскіх школах (між іншым, у Віленскай беларускай гімназіі ў 1922–1924 гадах), публіцыстам і палітычным дзеячам (таксама паслом ад БХД у польскім сойме ў 1928–1930 гадах), а да сваёй смерці кіраваў хорам у касцёле св. Мікалая ў Вільні, дзе адбываліся набажэнствы для віленскіх беларусаў-католікаў. Нямала скампанаваў мелодый да вершаў Купалы, Коласа, Сваяка, Машары і інш. Невялікая частка музычнай творчасці Альбіна была выдадзена ў 1935 годзе Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры ў Вільні. Зборнік песняў Альбіна выйшаў пад назвай «За Бацькаўшчыну» — «Песні працы й змагання». Яшчэ за жыцця Альбіна была выдадзена вельмі папулярная песня «Дзе чутны мовы нашай гукі», да якой напісаў ён словы і музыку.

Альбін і Кастусь праз усё жыццё былі вялікімі прыяцелямі, заўсёды перапісваліся між сабою. На жаль, з гэтай карэспандэнцыі нічога вартаснага не засталося, апрача пары дзесяткаў паштовак. Загінуў таксама вельмі цікавы дзённік Альбіна, пісаны ім ад 1910 года да смерці.

Два разы ў год, на Вялікдзень і на Каляды, наша сям’я спатыкалася ў Засвіры або ў бацькаўскім доме ў Баранях (калі Кастуся не было часова ў Засвіры і знаходзіўся ён часова на лячэнні). На гэтых святочных сустрэчах бывалі браты і сёстры разам са сваімі сем’ямі. Быў брат Сцяпан з жонкай, старэйшая сястра Кацярына Ліпінская з мужам і малодшая Зузанна Сліская з мужам. Альбін і Янка былі тады халасцякамі. Так што часамі збіралася даволі шматлікая сямейная грамада, якая на працягу некалькіх дзён магла многа нагаварыцца аб усялякіх справах, пасправачацца і тут жа пагадзіцца.

## VII

Восенню 1922 года здароўе Кастуся ўсцяж пагаршаецца. І вось ізноў спатыкаем яго ў Закапаным. Дзень Задушны (2 лістапада, на другі дзень пасля Усіх Святых) у гэтым годзе абходзіць ён на магіле Івана Луцкевіча, складаючы паклон якому, запіша ў сваёй «Дзеі»: «Сумная адзінокая магілка ваякі ідэі беларускай: Яна Луцкевіча. Вечны супакой яму, Божа, дай».

У радасным настроі вяртаецца гэтага ж года на Каляды ў Засвір. Цешыцца з павароту на Бацькаўшчыну, бо Закапанае Кастусь уважаў заўсёды за чужыну. Але гэтая радасць доўга не трывае. Ад восені 1923 года да вясны 1924 года — ізноў Закапанае. Яму здаецца, што гэта вясна будзе для яго крытычнай. Гэтыя думкі знаходзяць сваё адбіццё ў вершы «Няўжо умру».

Зіма з 1924 на 1925 год — зноў Закапанае. Напрадвесні 1925 года вяртаецца ў Засвір. Часамі чуецца не найгорш, хоць дакучае яму хвароба горла. Дома жаліцца на боль у грудзях. Трэба было ізноў вярнуцца ў Закапанае.

З кожнага выезду туды Кастусь прысылаў дамоў, для бацькоў і братоў, частыя пісулькі. Нязначная частка іх захавалася да сённяшняга дня. Вось і цяпер у маіх руках апошняя паштоўка з Закапанага да Альбіна за 10 верасня 1925 года; між іншым, чытаем у ёй такія словы: «Нічога дагэтуль новага: крапчэю і адмагаюся. Зімнавата тут, а ў гарах ужо снег. Збірайце там фінансы ды шліце: усё магчымае зерне выпрадаць прыйдзецца».

Чуецца ў гэтых словах нота аптымізму адносна стану здароўя. Думаю, што пісаў так, каб дома радня не сумавала. А з другога боку чуецца цяжкае матэрыяльнае становішча, а таму трэба прадаваць збожжа, сабранае ў гэтым годзе, збіраць і высылаць яму «фінансы». Адначасна просіць Альбіна, каб ён выслаў яму «Расейска-крыўскі слоўнік» В. Ластоўскага. Гэта сведчыць пра тое, што нават у апошніх месяцах свайго жыцця не забывае аб працы над беларускай мовай і аб літаратурнай творчасці.

Зімой і на вясну 1926 года Кастусь прадчувае, што набліжаюцца апошнія хвіліны ягонага жыцця, і некалькі разоў піша да Альбіна, каб забралі яго з Закапанага. Таксама піша да ксяндза Адама Станкевіча, высылае яму тэлеграмы, просячы перавезці яго на бацькаўшчыну, бо ўжо ў вершы «Тэстамэнт» пісаў: «…Каб не было зярно чужое нада мной».

Гарачым жаданнем Кастуся было, каб пахавалі яго на клюшчанскім магільніку на выбраным праз яго месцы — «пад клёнам».

Яшчэ за месяц да сваёй смерці, у красавіку 1926 года, выказвае глыбокі, трагічны жаль па жыцці ў вершы «Аб маіх крытыках».

Ксёндз Адам Станкевіч, які паехаў па Кастуся ў Закапанае, чуў ад разрадаванага з яго прыезду паважна хворага калегі, што цяжка яму сярод чужынцаў, а там, у родных Клюшчанах, ён напэўна паправіцца, там ён выздаравее.

Але на выздараўленне Кастуся ўжо не было аніякай надзеі. Ведала аб гэтым уся сям'я. Не было магчымасці перавезці яго нават на клюшчанскія магілкі, дзе Кастусь выбраў сабе месца пахавання яшчэ за некалькі гадоў да сваёй смерці.

Паміраў Кастусь у Вільні ў літоўскай паліклініцы. Пры ягонай смерці быў кс. Адам Станкевіч, які так успамінае аб апошніх хвілінах Кастуся: «Часта траціў прытомнасць. У ясных праблісках свядомасці маячыў нешта аб Беларусі, аб сваім народзе, аб крыўдзе ягонай, прасіў урэшце апекавацца ягонымі творамі, ягонымі рукапісамі, якія ўдалося выдабыць з-пад арышту польскай пракуратуры, бо казаў: "Можа, і будзе з гэтай маёй усёй пісаніны якая карысць для народа"»*.

7 траўня 1926 года было перавезена цела Казіміра Сваяка з літоўскай паліклінікі ў касцёл св. Мікалая. Назаўтра ў шматлікай прысутнасці віленскага беларускага грамадзянства адбылося хаўтурнае набажэн-

---

* Станкевіч, А. З жыцця і дзейнасці Казіміра Сваяка (у дзесятыя ўгодкі яго смерці 1926–1936). Вільня, 1936. С. 29.

ства і пасля яго экспартацыя цела на могілкі Роса, падчас якой хор моладзі з Віленскай беларускай гімназіі пяяў беларускія рэлігійныя песні. Хаўтурную прамову ў касцёле сказаў ксёндз Адам Станкевіч, а хаўтурную працэсію на могілкі вёў кс. прэлат Абрантовіч, пазнейшы біскуп у Харбіне.

Над адкрытай магілай Сваяка, якая знаходзіцца ў суседстве з магілай літоўскага мастака і пісьменніка М. К. Чурлёніса, было многа прамоваў. Згодна з жаданнем памёршага, выказаным у тэстамэнце, над яго магілай прагучалі згодна ўсе тры мясцовыя мовы: па-беларуску гаварыў кс. В. Гадлеўскі, па-польску кс. Рэшаць і па-літоўску кс. Чыбірас. Ад імя беларускага грамадзянства прамаўлялі: ад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні настаўнік Віленскай беларускай гімназіі І. Савіцкі, ад Сялянскага Саюза — пасол В. Рагуля, ад Тымчасовай беларускай рады др. Паўлюкевіч, ад Студэнцкага саюза Гагалінскі і ад вучнёўскай моладзі — Ф. Грышкевіч.

На хаўтурах Казіміра Сваяка былі прысутнымі ад Беларускай сялянска-работніцкай грамады паслы Сымон Рак-Міхайлоўскі і Сабалеўскі. Таксама быў прысутны вядомы беларускі дзеяч Антон Луцкевіч і многія іншыя прадстаўнікі віленскага беларускага грамадзянства.

У беларускай прэсе таго часу з’явілася пасля хаўтураў многа артыкулаў аб жыцці і творчасці Казіміра Сваяка.

Паведамляючы пра смерць К. Сваяка, «Пшэглёнд Віленьскі» пісаў: «Толькі што на Росе, дзе ўжо знаходзіцца магіла беларускага паэта Ядвігіна Ш., паявіўся новы магільны курган. Недалёка ад месца, дзе спачываюць Сыракомля і Чурлёніс, пахаваны астанкі маладога беларускага паэта, св. п. кс. Канстанціна Стэповіча, вядомага ў роднай літаратуры пад псеўданімам Казімір Сваяк…

…Пастаянна змагаючыся з хваробаю, памерлы як мог, а даводзілася яму гэта цяжка, працаваў вясковым духоўным пастырам. Шчыра любячы беларусаў, як католікаў, так і праваслаўных, св. п. кс. Стэповіч, горача прагнучы паяднання касцёлаў на Беларусі, быў адважным абаронцам гэтай ідэі як у слове жывым, так і ў друкаваным…

…Пры тых мажлівасцях, якія паэт здабыў цяжкімі трудамі, не маючы адпаведнага акружэння, ды яшчэ заўсёды маючы прыдзіркі ад адміністрацыйных улад, прытым безупынна будучы хворым, Казімір Сваяк зрабіў амаль усё, што мог зрабіць»*.

У першыя ўгодкі смерці Казіміра Сваяка, 7 траўня 1927 года, было адпраўлена жалобнае набажэнства ў касцёле св. Мікалая. На другі дзень віленскія беларусы адведалі магілку паэта, над каторай пяялі рэлігійныя і нацыянальныя беларускія песні: «Божа, што калісь народы», «Божа, збаўца наш», «Не пагаснуць зоркі ў небе», «Дзе чутны мовы нашай гукі». Грамадзянін Каруза сказаў прамову над магілаю, адзначаючы заслугі Казіміра Сваяка перад беларускім народам.

* «Мая ліра». Вільня. 1926. С. 21.

Вечарам таго самага дня адбылася ўрачыстая акадэмія з лекцыяй Адама Станкевіча. Пасля лекцыі пяяў беларускі хор пад кіраўніцтвам грамадзяніна Пешкі, М. Васілёк дэкламаваў свой верш «Памяці паэта», Івашка верш Сваяка «Майму пану», а Шутавічанка верш Я. Быліны «На ўгодкі смерці Казіміра Сваяка».

Кожны год у гадавіну смерці паэта адбываліся ў Вільні, у Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры акадэміі з лекцыямі аб жыцці і творчасці паэта, а ў задушныя дні — адведзіны на яго магіле. Асабліва ўрачыста адбылася там сустрэча віленскіх беларусаў у дзесятыя ўгодкі смерці пры адкрыцці помніка, збудаванага на ахвяраванні беларускага грамадзянства. На мармуровай пліце напісана: «Св. п. Казімір Сваяк — Кс. Канстанты Стэповіч — паэт — 19.II.1890–6.V.1926». Унізе пліты віднеюцца словы Сваяковага «Гімна роднай зямлі».

…Ідзе вось ясная пара,
Праўду свеціць нам зара,
Айчына — Маці — Беларусь,
Гарой, Жыва!

«Беларуская крыніца» 31 ліпеня 1936 года ў карэспандэнцыі з Клюшчанаў «Памалу расцём і мацуемся» паведамляла, што для ўшанавання дзесятых угодкаў смерці Казіміра Сваяка адбылося там жалобнае набажэнства, а група «клюшчанцаў хадзіла пехатой у Вільню (85 кіламетраў) на адкрыццё памятніка над магілай паэта».

На адкрыцці помніка на магіле Казіміра Сваяка быў сярод віленскай студэнцкай моладзі Максім Танк, які ўспамінае пра гэта ў сваім дзённіку «Лісткі календара».

Паэт Міхась Машара надрукаваў у часопісе «Калоссе» (1936, кн. 2 (6)) верш «У дзесятыя ўгодкі смерці К. Сваяка»:

І хоць ты змоўк… І хоць ліра разбіта,
І хоць новыя страты баляць —
Над краінай, туманам спавітай,
Тваіх песняў акорды звіняць.

Я прыйшоў тут табе пакланіцца,
Рана змоўклы змагар і паэт,
Хай табе сон святляны прысніцца.
І ад роднай краіны прывет.

Вершы, прысвечаныя памяці К. Сваяка, сустракаюцца ў творчасці і іншых беларускіх паэтаў. Апрача Міхася Машары трэба тутака ўспомніць Міхася Васілька, Янку Быліну, Вінцука Адважнага, Франука Грышкевіча, Валянціна Таўлая і многіх іншых.

*1990*

# ВЕРШЫ ПРА КАЗІМІРА СВАЯКА

*Ст. СТАНКЕВІЧ*

## ПАМЯЦІ КАЗ. СВАЯКА

Ужо замоўкла твая ліра,
Яе між намі не чуваць,
Іграў нам лірнік вельмі шчыра,
Ды смерць прымусіла маўчаць.

Даволі доўга ты змагаўся,
З хваробай вёў вайну ўвесь час,
Ды сіл не стала, ўрэшце здаўся —
Між нас навекі ўжо загас.

І так без часу смерць скасіла, —
Жыцця палову чуць дажыў;
На ўзгорку вырасла магіла,
Дзе косці лірнік палажыў.

Залёг там веснавой парою
Паміж тутэйшых нашых дрэў,
Каб там у вечным супакою
Мог слухаць стройны птушак спеў.

А нас пакінуў назаўсёды,
І нам цябе ўжо не спаткаць…
Тут не сустрэў братэрства, згоды
І на той свет пайшоў шукаць.

Айчыну мілую пакінуў
І той народ, што так кахаў,
Сваіх няскончаных шмат чынаў…
Ўсяму спакой нарэшце даў.

А нам жа скарб пакінуў — ліру,
Але ці здолеем іграць?!.
Адно для нашага вось міру
З яе мы тон хоць будзем браць.

*Франук ГРЫШКЕВІЧ*

## НА МАГІЛУ К. СВАЯКА
*(у гадавіну смерці)*

Па адкрытых грудзях беларускай зямлі,
Дзе крывавіцца крыўды разора,
На касцістых плячах мы паэта няслі
І злажылі ў магілу учора.

Змоўк навек трубадур, ліра выпала з рук,
Струны з енкам парваліся з жалю,
Сэрца сціхла і хваля збунтованых мук
Разарвала жыццёвую хвалю.

Зачыніце ў замок ход на боскі Парнас,
Больш не вернецца ўжо там паэта;
У таемную даль адышоў ён ад нас
На пачатку крывавага лета.

*Янка БЫЛІНА*

## У ПЕРШЫЯ ЎГОДКІ СМЕРЦІ К. СВАЯКА
*Санет*

Гарэў агнём ты Праметэя,
Ад Бога ўзяў ты святы дар,
Глыбока скрыў ты ў сэрцы жар, —
Не згасіла яго жыцця завея;
І з ім гарэла ўсцяж надзея,
Што ён ахопіць ўвесь прастор,
Гарэцімець ясней ад зор,
Цямру ў Айчыне ён развее.

Ці чуеш? Вось віхор заенчыў,
На землю паў, аж бор укленчыў,
Пярун ўсё б’е з усіх старон
І ахапляе небасхілы:
Забіць зусім імкнецца ён
Жыццё ў Айчыне нашай мілай.

*Міхась МАШАРА*

## У 10-Я ЎГОДКІ СМЕРЦІ К. СВАЯКА
*(замест вянка на магілу)*

Я прыйшоў тут табе пакланіцца,
Рана змоўклы наш слаўны паэт,
Ад ваколіцаў роднай зямліцы
Прынашу табе ціхі прывет.

Многа дзён без цябе пражыта,
Многа пройдзена розных дарог,
Многа раз каласілася жыта
На табой апяваных палёх.

Многа гора, нядолі, зняверы
Перанёс наш працоўны народ,
І цяжкі, і туманны, і шэры
Нашых будняў жыццёвых паход.

Многа раз пакланяліся сонцу,
Таму «Ўзгорнаму сонцу» твайму,
І ішлі па стаптанай старонцы,
Праклінаючы долю сваю.

Ды жыве моцны дух у народзе,
З новай верай жыве маладняк,
І далей мы ідзем у паходзе
Без цябе ўжо, наш слаўны Сваяк.

Хоць ты змоўк… І хоць ліра разбіта,
І хоць новыя страты баляць, —
Над краінай, туманам спавітай,
Тваіх песняў акорды звіняць.

Я прыйшоў тут табе пакланіцца,
Рана змоўклы змагар і паэт, —
Хай табе сон святляны прысніцца
І ад роднай краіны прывет.

*Вінцук АДВАЖНЫ*

## НА МАГІЛУ СВАЯКА

*Задушкі на магільніку Роса ў Вільні 1936 г.*

Памёр Сваяк: ўсе летуценні
Забраў з сабой. Тут — толькі цені…
А над магілай дрэвы шумны,
А на магіле камень сумны,
А у магіле адзінока
Ляжыць наш Лірнік, спіць глыбока
І сніць там пра зямельку родну.

Сваяцкі дух, аднак, свабодны —
Хваробай цяжкай не зламаны
І ў путы смерці не скаваны,
Жыве, красуецца — ёй вечан —
Магільным каменем не згнечан.

А у ціхі васенні вечар,
Калі ледзь-ледзь калыша вецер
Лісткі пажоўклыя бярозы,
Калі з лістоў расінкі-слёзы,
Як светлячкі, як зоркі з неба,
Злятаюць ціха, — тады трэба
Прыйсці на Росы…

То не лісткі тады гамоняць —
То струны слаўнай «Ліры» звоняць,
Не салаўіны пералівы —
То Сваяковы песні-дзівы:
Тых псальмаў гутарка павабна
Звініць так мякка, так ядвабна.
А то арганам загалосіць,
Або, як скрыпка, ласкі просіць.

Або як звон — зямля трасецца. —
Вось сціх ён — толькі рэха льецца…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэй, падарожны, падзівіся, —
Стань тут, глыбока пакланіся!
Хоць цвёрды камень спарахнее,
Пагінуць дрэвы, цела стлее,
Хоць Росы будуць з зямлі зрыты,
А людзі слаўныя — забыты, —
Сваяк — мой Друг, ляжыць бяспечна,
Бо «Ліра» граці будзе вечна!



# КАМЕНТАР

Упершыню ў дадзеным томе найбольш поўна прадстаўлена шматгранная творчая спадчына паэта і святара Казіміра Сваяка (Кастуся Стэповіча). Раскіданая па заходнебеларускай перыёдыцы 1910–1920 гадоў, а зараз сабраная ў кнігу, яна дае ўяўленне пра нястомнага і глыбокага ў сваім бачанні рэчаіснасці, закаханага ў Беларусь і яе народ, творцу, азоранага высокім натхненнем, які разумеў сваё зямное служэнне, літаратурнае і пастырскае, як служэнне Богу. Бачачы народную нядолю, шукаў шлях да светлага адраджэння сваёй Бацькаўшчыны, перажываў пакуты і боль, высокія ўзлёты думкі і пачуцця, быў ахоплены «тайніцай духу», імкненнем спазнаць містычную сутнасць тварэння. І адначасна быў саўдзельнікам рэальнага жыцця, бачыў і разумеў жыццёвыя і быційныя клопаты простых беларусаў, якіх зблізку ведаў як сваіх парафіянаў. Палымяным палемістам паказаў сябе ў дыскусійных пытаннях грамадскага жыцця, змагаючыся вострым пяром публіцыста з перашкодамі адраджэнскаму руху. Сама яго творчасць была і застаецца таксама прадметам дыскусій. Усё гэта яскрава адбіта ў яго творах розных жанраў: паэзіі, прозе, драматургіі, публіцыстыцы, крытыцы, мемуарах, з якімі ласкавы чытач мае магчымасць цяпер пазнаёміцца.

Творы друкуюцца ў адпаведнасці з правіламі сучаснай арфаграфіі і пунктуацыі з захаваннем асаблівасцяў аўтарскай мовы.

## ПАЭЗІЯ

### МАЯ ЛІРА

Адзіны прыжыццёвы паэтычны зборнік Казіміра Сваяка «Мая ліра» быў выдадзены Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні ў 1924 годзе. Кнігу склалі выбраныя самім паэтам вершы, напісаныя ў 1916–1924 гадах, частка якіх друкавалася ў перыядычным друку. Вершы размешчаны ў пяці тэматычных раздзелах, пазначаных рымскімі лічбамі, кожны з якіх меў назву ў чарнавым плане кнігі, захаваным у рукапісах паэта: «Ч. 1. Богу. Ч. 2. Айчыне. Ч. 3. Маёй музе. Ч. 4. Настроі. Ч. 5. Аповесці». У дадзеным выданні цалкам захаваныя структура і змест прыжыццёвага зборніка «Мая ліра» (Вільня, 1924), паводле якога і друкуюцца яго вершы.

*Мест прадмовы (с. 37)*

[1] *Бліхтр* — знешні бляск, мішура (*польск.*).

### *Сонцу ўзгорнаму... (с. 37)*

Амаль адначасова верш быў надрукаваны ў зб. «Заходняя Беларусь», Вільня, 1924.

### *Ad Te levavi... (с. 40)*

Упершыню — газ. «Беларуская крыніца» (Аднаднёўка), 25 снеж. 1921 г.

[1] *Ad Te levavi…* — Да Цябе ўзнашу… (*лац.*) — пачатак псальма 25: Да Цябе, Госпадзе, ўзнімаю я душу маю…

### *Шчасце (с. 40)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 27 лют. 1921 г.

### *«Не памёр: нарадзіўся» (с. 41)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 11 ліп. 1920 г., пад крыптанімам Ко-ст, з пазнакай «Імпрэсія».

### *З кнігі высшых асягнень духовых (с. 44)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 18 верас. 1921 г., пад крыптанімам Ко-ст, з пазнакай «Імпрэсіі».

[1] *Нава* — унутраная бакавая частка касцельнага будынка.

### *З кнігі мудрасці (с. 45)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 25 верас. 1921 г. Датуецца паводле аўтографа 10.ІІІ.1921.

Аўтограф верша мае наступны працяг:

Як міла глядзеці у мудрага вочы,
Хоць ён яшчэ слова і не прамаўляе;
І добра чытаці — дар гэта прарочы —
У вочах гультая: там доля ліхая.
Хто сябе не зблізіжае да мудрага слова,
То мудрасць шукаці яго ўжо не стане,
У мудрага розум ўсё творыць нанова,
У дурня йдзе вечна спадзеі змаганне.

### *Гімн роднай зямлі (с. 46)*

Упершыню — Беларускі каляндар «Крыніца» на 1920 год. Вільня, 1919. Датуецца паводле аўтографа 10.ІХ.[1919].

### *Айчыны мілай... (с. 47)*

Амаль адначасова верш быў надрукаваны ў зб. «Заходняя Беларусь». Вільня, 1924.

### *Божа, зжалься... (с. 48)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 7 верас. 1919 г. Датуецца паводле аўтографа 29.XII.[1918].

### *Загляне сонца... (с. 49)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 5 кастр. 1919 г. і амаль адначасова ў выд.: Беларускі каляндар «Крыніца» на 1920 год. Вільня, 1919.

[1] *Загляне сонца і ў наша ваконца* — радок адсылае да назвы першага беларускага легальнага выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца», якое існавала ў Пецярбургу ў 1906–1914 гг.

### *Ой, на Русь ды Белу... (с. 50)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 14 верас. 1919 г. і амаль адначасова ў выд.: Беларускі каляндар «Крыніца» на 1920 год. Вільня, 1919, пад крыптанімам К. С.

### *О, край мой родны!.. (с. 51)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 7, 21 сак. 1920 г.

### *Гэй, будуйце! (с. 52)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 19 снеж. 1920 г.

[1] *Артай* — той, хто арэ зямлю, араты.

### *На крыллях... (с. 54)*

Захаваўся аўтограф верша К. Сваяка з назваю «Праклён» (без пазначэння даты), які з'яўляецца варыянтам 4–7 строфаў верша «На крыллях»:

Я тым праклён мой шчыры пасылаю,
Хто войнамі, крывёй жыве, нажывай,
І тым праклён, паклоны хто складае
Асільству і аблуднасці лянівай.
Як Праметэй я скраў бы тайну з неба, —
Чаму нядобраму цвіціць дарога,
Чаму цярпліваму нямашка хлеба,
Чаму на свеце больш і больш благога!
Народзе мой, цяпер заледзь я знаю,
Чым маеш ты каваць цяжкую долю:
Дабром за зло плаціць (што ў сэрцы маю)
Ці ворага душыць ў вагні, ў вуголлі.
Народзе мой: бярыся за работу,
Загон свой запусцелы заары.
Працуй — гаруй! Ня бойся слёз і поту:
Убачыш сам, як рухне свет стары.

### *Чарачку адну... (с. 56)*

Датуецца паводле аўтографа 5.V.1922.

### *Чары Айчыны (с. 57)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 26 чэрв. 1921 г. Датуецца паводле аўтографа 16.III.1921. Першапачатковая назва паводле аўтографа «Урокі і чары айчыны».

### *Маёй музе (с. 58)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 24 снеж. 1920 г.

### *Эрас і Псіхея (с. 59)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 18 лют. 1921 г.

[1] *Эрас* — у грэцкай міфалогіі бог кахання.

[2] *Псіхея* — у грэцкай міфалогіі ўвасабленне душы, дыхання.

### *Русалка (с. 60)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 25 лют. 1921 г.

### *Песня дзяўчаці (с. 61)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 30 кастр. 1921 г., пад псеўданімам Орліч-Сваяк. Датуецца паводле аўтографа 16.III.1921.

### *Песня (с. 62)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 2 лістап. 1919 г. і амаль адначасова ў выд.: Беларускі каляндар «Крыніца» на 1920 год. Вільня, 1919.

Верш выконваўся як песня. З пазначэннем «мелодыя народная беларуская» змешчаны ў спеўніку «За Бацькаўшчыну: Песні працы і змагання». Сабраў і апрацаваў Ал. Стэповіч. Вільня, 1935. Пад тэкстам унізе заўвага: «Мелодыя падабрана да гэтых слоў К. Сваяком».

### *Самсон і Даліла (с. 62)*

[1] *Самсон* — герой Старога Запавету (Кн. Суддзяў: 13–16), які быў надзелены надзвычайнай сілай, заключанай у яго валасах. У юнацтве ажаніўся з філістымлянкай (жыхаркай Зямлі Філістымскай, або Філістыі, якая знаходзілася на ўзбярэжжы Міжземнага мора). Паводле падання, быў назарэем — чалавекам, які даў абет чысціні, устрымання ад віна для прысвячэння сябе Богу. Знешняя прыкмета назарэя — доўгія валасы, якія забаранялася стрыгчы, бо менавіта ў іх была ягоная моц. Па анёльскім звеставанні, менавіта Самсону належала выратаваць народ іудзейскі ад прыгнёту філістымлянаў.

[2] *Даліла* (Даліда) — філістымлянка, якую палюбіў Самсон і якая, выведаўшы ў яго таямніцу ягонай незвычайнай сілы, выдала Самсона на пакаранне.

[3] *Самум* — пясчаны віхор, спякотны сухі вецер у пустынях (*араб.*).

### *Сэрца (с. 64)*

[1] *Наруга* — упартасць, наравістасць; тое, што робіцца насуперак (*старабел*.).

### *Спавіў мне сэрца жаль... (с. 66)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 9 лістап. 1923 г. і амаль адначасова быў надрукаваны ў зб.: «Заходняя Беларусь». Вільня, 1924.

### *Вецер шалее (с. 67)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 4 студз. 1924 г.

[1] *Нямравы* (польск. niemrawy) — вялы, някемлівы, недалужны.

### *На восень (с. 67)*

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1 лістап. 1920 г.

[1] *Задушкі* — Дзень Задушны, калі паводле каталіцкай традыцыі памінаюцца памерлыя. Святкуецца 1 лістапада.

[2] *Стрыбог* — ва ўсходнеславянскай міфалогіі бог ветру.

[3] *Род* — персанаж славянскай міфалогіі, які ўвасабляе адзінства роду.

[4] *Мокша* (Мокаш) — ва ўсходнеславянскай міфалогіі багіня, культ якой звязаны з кудзеляй, паводле падання, нельга пакідаць кудзелю, а то «Мокша апрадзе».

[5] *Дажбог* — ва ўсходнеславянскай міфалогіі бог сонца, культ якога звязаны з агнём.

[6] *Калі Пятро у небе гаспадарны*... — Маецца на ўвазе святы апостал Пётр, якому Хрыстос прызначыў ключы ад нябеснага Божага Валадарства.

[7] *Сварог* — ва ўсходнеславянскай міфалогіі бог нябёсаў, нябеснага агню, бацька Дажбога і Сварожыка.

[8] *Пярун* — ва ўсходнеславянскай міфалогіі бог грому (навальніцы).

[9] *Дзяды* — дахрысціянскі беларускі абрад памінання продкаў.

### *Душа мая (с. 70)*

[1] *Улуда, злуда* — зман, ілюзія (ад польск. łudzić — уводзіць у зман, стварацць ілюзію).

### *Хмары-хмаранькі (с. 74)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 14 верас. 1919 г., пад крыптанімам К. С. Захаваўся аўтограф з пазнакай: 30.XII.1918. Варыянт аўтографа:

Радок 16 — Твор мой векавы — не загіне ўвесь.

### *Ліюцца песні (с. 75)*

Упершыню — газ. «Новае жыццё», 27 крас. 1923 г.. Датуецца паводле аўтографа 16.III.1921.

### *Кавэрня (с. 77)*

Упершыню — газ. «Наша думка», 22 крас. 1921 г.

[1] *Горс* — грудзі, бюст (*польск.*).

[2] *Лыдкі* — лыткі (*польск.*).

### *Рады (з Эды) (с. 78)*

Упершыню — газ. «Новае жыццё», 24 сак. 1923 г., пад назвай «З кніг Эды».

[1] *Эда* (Эда Старшая, Эда Сэмунда, Песенная Эда) — зборнік старажытна-ісландскіх песень.

### *Брату-настаўніку (с. 79)*

Захаваўся аўтограф гэтага верша (без пазначэння даты), які першапачаткова меў назву «Вер!». Варыянт аўтографа:

Радок 10 — Закрасуе касцёл-школа.

### *Што занадта — нездарова (с. 79)*

[1] *Нямцэвіч* Юльян Урсын (1757–1841) — пісьменнік і грамадскі дзеяч канца XVIII — першай паловы XIX ст. Паходзіў са шляхецкага роду, нарадзіўся ў Беларусі ў маёнтку Скокі пад Брэстам. Удзельнік паўстання Т.Касцюшкі. Аказаў уплыў на літаратуру перыяду рамантызму, асабліва на А. Міцкевіча. Пісаў на польскай мове.

### *Мурашка і галубка (с. 84)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 9 кастр. 1921 г. Датуецца паводле аўтографа 1916 годам.

### *Бабе і чорт з дарогі ўступае (с. 84)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 20 чэрв. 1920 г.

### *Падарожны і яго вораг (с. 88)*

Упершыню — Калядны дадатак да «Крыніцы», 25 снеж. 1919 г. Датуецца паводле аўтографа 1916 годам.

### *Грэшная (с. 88)*

Упершыню — газ. «Крыніца», 1 студз. 1921 г.

## ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ

### *Песня вячорная (с. 92)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з пазнакай: з Антаневіча, 16.VIII.1913. Варыянт назвы: «Вячорная малітва».

### *Прад Богам (с. 92)*

Друкуецца паводле газ. «Беларус», 3 кастр. 1913 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца паводле аўтографа 20.VIII.1913.

*Восень (с. 93)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з пазнакай: 25.VIII.1913. Апошняя страфа ў адным з варыянтаў аўтографа закрэслена.

*Гімн да Бога (с. 93)*

Друкуецца паводле аўтографа з пазнакай: 17.IX.1913. Верш упершыню змешчаны ў складзеным Казімірам Сваяком малітоўніку для беларусаў-католікаў «Голас душы»: у раздзеле «Набожныя песні: Песні розныя» пад назвай «Заўсёды, мой Божа…» (другое выд., Вільня, 1934).

*Сумліваму (с. 94)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з пазнакай: 19.IX.1913.

*Удар, звон!.. (с. 94)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа без пазначэння даты.
[1] *Праствор* (ад польск. przestwór) — прастор.

*Да дзіцяці (с. 95)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з пазнакай: Гаруны — 5 — VII, на гэтым жа аркушы пад вершам маецца паўтор даты: 5.VII.1914.

*Брату (с. 95)*

Друкуецца паводле выд.: «Беларускі каляндар на 1933 год», Вільня: Выданне Я. Малецкага. Пад тэкстам заўвага аб тым, што верш дагэтуль нідзе не друкаваўся. Захаваўся аўтограф з пазначэннем даты: 11 — VII, крыху вышэй на гэтым жа аркушы — дата папярэдняга верша, на падставе якой датуецца 1914 годам (гл. каментар да верша «Да дзіцяці»). Варыянты аўтографа: Першапачатковая назва верша «Пагляд у неба (да брата)» закрэслена і заменена на «Брату».

*Да сястры маёй Разалькі (с. 96)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з пазнакай: 6.X. Датуецца 1914 годам.

*Сабе (с. 96)*

Друкуецца паводле час. «Хрысціянская думка», 1933, № 3, дзе апублікаваны ўпершыню з заўвагай рэдактара-выдаўца Адама Станкевіча: «Ніжэй паданыя Сваяковы вершы дагэтуль нігдзе ня былі друкаваны». Пад вершам дата: 24.III.1916.

*Трывожнаму (с. 96)*

Друкуецца паводле час. «Хрысціянская думка», 1933, № 3, без пазначэння даты.

### *Сумнаму (с. 97)*

Друкуецца паводле час. «Хрысціянская думка», 1933, № 3, без пазначэння даты.

### *Хрысце… (с. 97)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 24 жн. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца паводле аўтографа 24.XII.[1918]. Верш змешчаны таксама ў малітоўніку «Голас душы».

### *Любяць людзі (с. 98)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 9 верас. 1922 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца 1918 г. паводле аўтографа, які мае назву «Смейся з Шчэрбы…» і пазнаку: 30.XII.

### *На новы 1919 год (с. 98)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з пазнакай: 31.12.1918.

### *Памяці Ф. Багушэвіча (с. 99)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 31 жн. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Хаўрусу сваякоў у Клюшчанах (с. 100)*

Друкуецца паводле аўтографа з пазнакай: 24.IX.1919. Упершыню верш быў пасмяротна апублікаваны ў газ. «Сялянская ніва», 4 мая 1927 г., пад назвай «Гуртку беларускай моладзі ў Клюшчанах».

### *З Іаіля прарока (с. 100)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 19 кастр. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыптанімам Ко-ст. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Іаіля прарока кніга* — адна з прарочых кніг Старога Запавету. Аб жыцці самога прарока Іаіля дакладных звестак не захавалася. Магчыма, ён быў святаром. Памяць гэтага прарока ўшаноўваецца 19 кастрычніка.

[2] *Даліна Ёзафат* — Ёзафатава (Іасафатава) даліна, згадваецца толькі ў кнізе прарока Іаіля. Гэта вузкая даліна паміж Іерусалімам і Маслічнаю гарою. Лічылася, што менавіта гэтая даліна будзе месцам Страшнага Суда Божага над народамі.

[3] *Тыр і Сыдон* — старадаўнія Фінікійскія гарады, якія часта згадваюцца ў Святым Пісанні.

### *Тры разы (с. 101)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 19 кастр. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Я відзеў (с. 102)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 23 лістап. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання. Унізе пад вершам пазнака: З украінскага С.

[1] *Сарэнка* — памяншальнае слова ад сарна — горная каза з невялікімі рагамі.

### *Шляхам творчасці (с. 102)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 25 снеж. 1919 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Янка Быліна* — літаратурны псеўданім каталіцкага святара Янкі Семашкевіча (1883– 1955 ), паэта і драматурга, сябра і паплечніка Казіміра Сваяка, аднаго з пачынальнікаў беларускага нацыянальна-рэлігійнага адраджэння. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю. Аўтар зборніка вершаў «На прызбе» (1918, другое выд. 1924), камедыі «Выбары старшыні» (асоб. выд. 1938), шматлікіх рэлігійных вершаў і перакладаў.

[2] *Рэўка* — скарот псеўданіма Сымон Рэўка з-пад Барысава, якім Францішак Багушэвіч падпісаў свой другі зборнік «Смык беларускі» (1894).

### *Трох вучоных (с. 104)*

Друкуецца паводле выдання: Беларускі каляндар «Крыніца» на 1920 год. Вільня, 1919, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыптанімам К. С. Датуецца годам апублікавання.

### *Вялея сіраты (с. 106)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 25 снеж. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца 1919 годам на падставе аўтографа, дзе маецца таксама пазнака: «з Кандратовіча».

*Кандратовіч* Людвік — сапраўднае прозвішча вядомага беларускага пісьменніка XIX ст. Уладзіслава Сыракомлі (1823–1862).

### *З псальмаў Давіда (116 і 150) (с. 108)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 1 студз. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання. Верш таксама змешчаны ў малітоўніку «Голас душы».

### *З псальмаў Давіда (129) (с. 109)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 8 лют. 1920 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *М-ка Свір у 1920 г. (с. 109)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 9 студз. 1921 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Аўтограф верша мае назву «М-ка Свір у снежні 1920 г.»

і пазнаку ўнізе: Засвір, 18/XI.(1920). У «Крыніцы» ў 1921 г. была надрукавана толькі частка верша — чатыры першыя страфы пад крыптанімам К. С.

Далейшы працяг верша, паводле аўтографа:

Ў нядзельку люд набожны
Ў касцёл цягне трывожны,
Бо хто ж там без грашку.
Там хваліць ён Хрыстуса,
Каб згінула пакуса
На нашым, на вяку.

Патронку тож ўзывае,
Святую Польшч благае,
Каб кончыць як вайну.
«З жальбы народ марнее,
Ад голаду мадзее,
Няма пачынку, сну.

О свента Польшч, злітуйся,
Ты з намі не раўнуйся,
Вазьмі сыноў сваіх.
Даелі ж да жывога,
Хоць станься воля Бога,
А не духоў благіх.

А з возера русалкі,
Вы гожыя весталкі,
Маніце бадзякоў.
Усіх каб утапіці,
Пад іламі злажыці,
Каб стравай быць ракоў.

Хто край і люд наш губіць.
Хто праўданькі ня любіць,
Благому хто радня
Бадай ён так хадзіў бы
Туды-сюды блудзіў бы,
Ня бачыў сонца-дня».

Плывець малітва шчыра:
«Свабоды, шчасця, міра,
Дай Божа грэшным нам!..»
А тут бядота, гора,
Няскора, ах няскора
Прыдзе спакой людзям.

### *Гімн Дзевы Марыі (с. 110)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 9 студз. 1921 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *«Крыніцы» на 1921 г. (с. 111)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 9 студз. 1921 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *«Крыніца» («Беларуская крыніца»)* — штотыднёвая беларуская газета, орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Выдавалася ў 1917–1940 гг. спачатку ў Петраградзе, затым у Мінску, а з 1919 — у Вільні.

### *Дух і душа (с. 111)*

Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа з пазнакай: 16.III.1921. Захаваўся першы варыянт аўтографа з пазнакай: Ад Орліча, папраўка К. Св. Зімой 1916. Першапачатковая назва «Думка» закрэслена.

### *Песня аб св. Ясафаце (с. 112)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 25 сак. 1921 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Св. Ясафат (Іасафат) Кунцэвіч* (1580–1623) — уніяцкі царкоўны дзеяч, з 1618 г. — архіепіскап полацкі. Вызначаўся рэлігійнасцю і аскетызмам, заснаваў ордэн базыліянаў на Беларусі. Актыўна распаўсюджваў унію. Забіты падчас Віцебскага паўстання.

### *Nunc dimittis (с. 114)*

Друкуецца паводле час. «Хрысціянская думка», 1933, № 3, дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца на падставе аўтографа 7.I.1922, мае пазнаку ў дужках: «Гімн Сімяона».

[1] *Nunk dimittis* — цяпер адпускаеш.

*Сімяон* — біблейскі старац, які жыў у Іерусаліме. За сумненне ў тым, што, паводле прароцтва, Збаўца свету народзіцца ад Дзевы, яму было прадказана Духам Святым, што ён не памрэ, пакуль не ўбачыць Збаўцу. У саракавы дзень па нараджэнні Хрыста, калі Езуса прынеслі ў царкву Божая Маці і Юзаф, каб прадставіць Богу і скласці належную ахвяру, там аказаўся і Сімяон. Убачыўшы Дзіцятка, ён узяў Яго на рукі і, славячы Бога, сказаў: «*Цяпер адпускаеш* слугу Твайго, Валадару, па слову Твайму, з мірам» (Лк.: 2; 22–29).

### *На смерць калегі кс. З. Якуця (с. 115)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 15 лют. 1924 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Якуць* Зянон (1894–1924) — каталіцкі святар, удзельнік беларускага хрысціянскага руху пачатку XX ст. У сваёй парафіі Шаркоўшчына Дзісенскага дыяканату у 1920–1924 гг. прамаўляў казанні і праводзіў катэхізацыю дзяцей на беларускай мове.

### *Шуміць вецер (с. 116)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 26 ліп. 1924 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Песня (Чым ты, дзяўчынка, мяне асіліла...) (с. 117)*

Друкуецца паводле газ. «Сялянская ніва», 4 мая 1927 г., дзе апублікаваны ўпершыню разам з вершам «Гуртку бел моладзі ў Клюшчанах» з пазнакай: «Вершы дагэтуль нідзе не друкаваныя». Датуецца паводле аўтографа 1.VIII.1924.

### *Айчыны будаўнічым наёмным (с. 118)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 12 жн. 1924 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Ксяндзам-беларусам (с. 119)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 22 жн. 1924 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Майму пану (с. 120)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 18, 20 кастр. 1924 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца паводле аўтографа 12.IX.1924.

### *Гімн сварлівым дзеячам (с. 121)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 7 снеж. 1924 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца на падставе аўтографа 6.XI.1924.

### *Кветкі (с. 122)*

Друкуецца паводле газ. «Сялянская ніва», 3 студз. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца 8.XII.1924 на падставе аўтографа, які мае назву «Ты сама кветка».

### *Муза (с. 123)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 11 студз. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца паводле аўтографа 11.XII.1924.

### *«Крыніцы» на 1925 год (с. 124)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 4 студз. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца паводле аўтографа 13.XII.1924. Гл. каментар да верша «Крыніцы» на 1921 год».

### *Песня на Каляды (с. 125)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 24 снеж. 1924 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Стане нас доваль!.. (с. 126)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 1 сак. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Памяці Францішка Скарыны, слаўнага доктара з Полацка (с. 127)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 25 сак. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Дзве «культуры» (с. 128)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 7 чэрв. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца паводле аўтографа 16.IV.1925.

[1] *Усяслаў* — славуты полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч (Чарадзей), гады яго княжання 1044–1101.

### *Веснавы санет (с. 128)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 26 крас. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню з пазнакай: «Паводле Шэкспіра». Датуецца годам апублікавання.

### *На Купалле (с. 129)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 28 чэрв. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Русальная нядзеля (с. 130)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 5 ліп. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Русальная нядзеля* (Русальны тыдзень) — наступны пасля Сёмухі (Тройцы) тыдзень, багаты на рытуальныя дзеянні і песні. Звязаны з павер'ямі пра русалак (прыгожых дзяўчат з доўгімі валасамі, якія жылі ў рэках, азёрах, лесе, полі). У гэтым абрадзе абавязковы атрыбут — вянкі, якімі ўпрыгожвалі абраную русалку і ўсіх удзельнікаў дзеяння. Травам і кветкам, з якіх пляліся вянкі, надаваўся сакральны сэнс.

### *Званіца ў Жодзішках (с. 130)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 26 ліп. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання. Верш быў успрыняты тагачаснымі афіцыйнымі ўладамі як небяспечны і нумар газеты быў канфіскаваны.

[1] *Жодзішкі* — вёска ў Смаргонскім р-не Гродзенскай вобл.

### *Няўжо умру... (с. 132)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 20 верас. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца на падставе аўтографа 17.VIII.1925.

### *На радаўніцы (с. 132)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 6 мая 1927 г., дзе апублікаваны ўпершыню з пазнакай: «З пасмертнай спадчыны». Датуецца паводле аўтографа 19.VIII.1925.

[1] *Сварожыч* (Сварожыц) — ва ўсходнеславянскай міфалогіі бог зямнога агню, сын Сварога.

### *Сварога слугі (с. 134)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 4 кастр. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Веру нярозуму проці... (с. 135)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 25 кастр. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Credo, quia non est absurdum* — паўтор на лацінскай мове назвы верша.

### *На Дзяды (с. 137)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 1 лістап. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *На жалейцы (с. 139)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 8 лістап. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Як перастану... (с. 139)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 13 снеж. 1925 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *На Новы 1926 год (с. 141)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 5 студз. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца 1925–1926 гг.

### *Музе маёй (с. 142)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 24 студз. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Другна* — сяброўка.

### *Прыйдзі, Хрысце (с. 142)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 31 студз. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Знайсці сэнс радасці...(с. 143)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 22 кастр. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню пасмяротна. Датуецца годам апублікавання.

### *Байкатаваным ксяндзам-беларусам (с. 144)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 29 кастр. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню з пазнакай: «З пасмертнай спадчыны». Магчыма, верш быў напісаны ў 1919 г. (гл. «Дзея…» 17.VIII.1919).

### *Зубр у Беларусі (с. 144)*

Друкуецца паводле газ. «Сялянская ніва», 4 лістап. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню пасмяротна з пазнакай: «Змяшчаецца ў сувязі з Нясьвескім зьездам». Датуецца 1925–1926 гг.

### *Чарку дай, браце... (с. 145)*

Друкуецца паводле выд.: Сваяк К. Чарку дай, браце… (Апавяданне вершам). Вільня: Выдавецтва «Сялянскай нівы», 1926. Адначасова апублікаваны ў газ. «Сялянская ніва», 11, 18 лістап. 1926 г. Першапачатковая назва, паводле аўтографа, «Грэх студэнта (аповесць)».

[1] *«Але — пст!..»* — аўтарскі асацыятыўны гукапіс.

### *Цвіце краска і вяне (с. 152)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 24 снеж. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню з пазнакай: «З пасмертнай спадчыны». Датуецца годам апублікавання.

### *Казаў філосаф да паэты... (с. 155)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 1 студз. 1927 г., дзе апублікаваны ўпершыню пасмяротна. Датуецца 1926 г.

### *Запраўды кажу вам... (с. 155)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 14 студз. 1927 г., дзе апублікаваны ўпершыню пасмяротна. Датуецца 1926 г.

### *«Багаслаў, Божа, святую хвілінку...» (с. 155)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 6 мая 1927 г., дзе апублікаваны ўпершыню з пазнакай: «З пасмертнай спадчыны». Датуецца 1926 г.

### *Крапіва (с. 156)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 6 мая 1927 г., дзе апублікаваны ўпершыню з пазнакай: «З пасмертнай спадчыны». Датуецца 1926 г.

### *Ці то не дзіва (с. 156)*

Друкуецца паводле аўтографа без пазначэння даты. Датуецца 1925–1926 гг.

### *Забалелі ізноў... (с. 157)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 21 лют. 1926 г., дзе апублікаваны ўпершыню. Паўторна надрукаваны там жа, у № 21 за 30 чэрв. 1926 г., з пазнакамі: «з апошніх акордаў памёршага песняра» і «верш напісаны ў пачатку вясны 1926 г. пад уплывам часовага палепшання здароўя паэта». Датуецца годам апублікавання.

### *Аб маіх крытыках (с. 158)*

Друкуецца паводле газ. «Беларуская крыніца», 20 мая 1927 г., дзе апублікаваны ўпершыню пасмяротна. Датуецца на падставе аўтографа 4.IV.1926.

[1] *Суліма* — псеўданім Уладзіміра Самойлы (1878–1941?), вядомага публіцыста, крытыка, філосафа-эсэіста.

[2] *Светазар* — псеўданім Макара Краўцова (сапр. Косцевіч Макар; 1890–1939?), вядомага паэта, крытыка, публіцыста.

[3] *Затое «ех», — што толькі я твары̆ў…* — На нашу думку, «ех» азначае лацінскую літару «ікс», што падразумявае невядомае, новае, непазнанае.

## ПРОЗА

Раздзел склалі апавяданні і жарты, змешчаныя ў 1910–1920-х гг. на старонках віленскіх перыядычных выданняў, пераважна газет «Беларус» і «Крыніца», у сатырычным часопісе «Маланка».

## АПАВЯДАННІ

### *Ганулька (с. 161)*

Друкуецца паводле газ. «Biełarus», 16 студз. 1914 г., дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Мікодам (с. 162)*

Друкуецца паводле газ. «Biełarus», 13, 20 лют. 1914 г., дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

[1] *Сарадэля* (сырадэля) — аднагадовая кармавая расліна сямейства бабовых.

### *Як яны гаманілі (с. 167)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 14 верас. 1919 г., дзе апублікавана ўпершыню. Датуецца годам апублікавання.

### *Што Янка-ваяка казаў (с. 169)*

Друкуецца паводле газ. «Крыніца», 14 верас. 1919 г., дзе апублікавана ўпершыню пад крыптанімам Ко-ст. Датуецца годам апублікавання.

